ЖУЛЬ ВЕРН

# ТАЯМНІЧЫ ВОСТРАЎ

Пераклаў з рускага выдання
М. ПАСЛЯДОВІЧ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА
МЕНСК 1938

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ПАЦЯРПЕЎШЫЯ КРУШЭННЕ

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

*Ураган 1865 г.—Крыкі ў паветры.—Паветраны шар.—Парваная абалонка.—Наўкола вада.—Пяць пасажыраў.—Што адбывалася ў гандоле.—Зямля на гарызонце.—Развязка.*

— Мы падымаемся?
— Не, наадварот, апускаемся!
— Яшчэ горш, містэр Сміт, мы падаем!
— Кідайце баласт!
— Апошні мяшок высыпалі!
— А ці падняўся шар?
— Не!
— Мне здаецца, што я чую плеск хваль.
— Да мора не больш пяцісот футаў [1].
Уладны голас скамандаваў:
— Усё цяжкое—за борт!

Гэтыя словы прагучэлі над бязмежнай пустэльняй Ціхага акіяна каля чатырох гадзін папаўдні 23 сакавіка 1865 года.

Напэўна, усе яшчэ памятаюць страшэнны норд-ост [2], які раптоўна ўскруціўся ў гэтым годзе ў часе веснавога роўнадзёнства. Барометр тады ўпаў да семісот дзесяці міліметраў. Ураган несціхана бушаваў з 18 па 26 сакавіка. У Амерыцы, у Еўропе, у Азіі, паміж трыццаць пятым градусам паўночнай шыраты і саракавым паўднёвай, ён нарабіў безліч шкоды. Вырваныя з карэннем лясы, зруйнаваныя гарады, паводкі рэк, сотні выкінутых на бераг суднаў, спустошаныя палі, тысячы чалавечых афяр—такі вынік гэтага ўрагана.

---

[1] Адзін фут роўны 30,479 сантыметра.
[2] Норд-ост—паўночна-заходні вецер.

Але няшчасці апанавалі не толькі зямлю і мора: у паветры адбываліся не менш трагічныя падзеі. Падхоплены бурай, паветраны шар імчаўся ў воблаках з хуткасцю дзевяноста міль[1] за гадзіну. У яго гандоле было пяць пасажыраў.

Адкуль прыляцеў гэты аэрастат, які ператварыўся ў бездапаможную цацку раз'юшанай стыхіі?

Як відаць, ён вылецеў яшчэ перад тым, як пачаўся ўраган; але першыя яго прыметы з'явіліся яшчэ 18 сакавіка; значыць, шар, які імчаўся са шпаркасцю не менш двух тысяч міль за суткі павінен быў прыляцець з вельмі далёкіх краёў.

Паветраныя падарожнікі не ўяўлялі, якую адлегласць праляцеў шар ад таго часу, як падняўся.

Падхоплены бурай, шар імчаўся над зямлёю, круцячыся вакол сваёй асі, але паветраныя падарожнікі не адчувалі ні таго, што шар круціўся, ні шпаркасці палёту. Іх позіркі не маглі пранікнуць праз заслону туману, якая рассцілалася пад гандолай аэрастата. Воблакі былі такія густыя, што цяжка было адрозніць дзень ад ночы.

Ні прамень святла, ні шум населенай зямлі, ні рокат бурлівых акіянскіх хваль не маглі прарвацца да людзей, пакуль яны былі ў верхніх пластах атмасферы. Толькі ў момант спуску рэў акіяна папярэдзіў іх пра пагрозную небяспеку.

Вызвалены па камандзе: «Усё за борт!» ад цяжару снаражэння, прадуктаў, зброі, аэрастат зноў узляцеў угору, на вышыню ў чатыры з паловай тысячы футаў. Даведаўшыся, што пад імі бязмежнае мора, аэранаўты, не марудзячы, выкінулі з гандолы нават самыя неабходныя рэчы, каб шар стаў лягчэйшым.

Хваляваліся ўсю ноч і гэтае хваляванне магло-б давесці да смерці людзей менш мужных. Але вось зноў развіднела. Ураган нібы пачаў сціхаць. Воблакі падняліся ў верхнія пласты атмасферы. Ураган аслабеў і вецер зрабіўся, як кажуць маракі, «вельмі свежым», гэта значыць шпаркасць перамяшчэння паветраных патокаў зменшылася ўдвая. Да адзінаццаці гадзін ніжнія пласты атмасферы значна ачысціліся ад воблакаў.

Ураган, як відаць, выліў сваю сілу ў электрычных разрадах, як гэта часта бывае з тайфунамі ў Індыйскім акіяне.

Шар зноў пачаў спускацца, павольна, але няспынна. Ад уцечкі газу ён сціскаўся, і круглая яго абалонка рабілася авальнай.

---

[1] 90 міль — 166 кілометраў.

Пад поўдзень аэрастат быў ужо ўсяго толькі на вышыні двух тысяч футаў над узроўнем мора. Пасажыры выкінулі за борт усё, што яшчэ было ў гандоле, нават рэшткі харчоў і дробныя рэчы з сваіх кішэняў. Адзін з іх, ускарабкаўшыся на кальцо, да якога была прымацавана вяровачная сетка абалонкі, паспрабаваў мацней перавязаць выпускны клапан шара, каб зменшыць уцечку газу.

Але было відаць, што ўтрымаць шар у паветры не ўдасца, што газу нехапае.

Пасажыры былі асуджаны на гібель...

Сапраўды, пад іх нагамі была толькі вада. Бязмежнае мора, па якім каціліся вялізныя валы,—вось усё, што бачна было з гандолы паветранага шара, адкуль позірк ахапляў прастору на сорак міль па радыусу. Ні зямлі, ні карабля не відаць!

Неабходна было абавязкова прыпыніць спуск. Але, не гледзячы на ўсе старанні пасажыраў, шар усё апускаўся і адначасова імчаўся з вялізнай шпаркасцю з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад.

Якое жахлівае становішча! Пасажыры ўжо не кіравалі палётам аэрастата. Усе іх старанні былі дарэмнымі. Абалонка траціла ўсё больш і больш газу. і не было магчымасці прыпыніць падзенне шара.

У гадзіну папаўдні шар ляцеў усяго толькі на вышыні шасцісот футаў над акіянам.

Выкінуўшы з гандолы ўсе рэчы, якія ў ёй былі, паветраным падарожнікам удалося на некалькі гадзін адтэрмінаваць падзенне. Але цяпер катастрофа была няўхільнай, і, калі да надыходу цемры не з'явіцца зямля, людзі і шар бясследу знікнуць у хвалях...

Падарожнікі былі, відаць, людзі адважныя, якія не баяліся пазіраць смерці ў вочы. Ні адно слова наракання або страху не сарвалася з іх вуснаў. Яны былі гатовы змагацца да апошняй секунды і рабілі ўсё, што ад іх залежала, каб адтэрмінаваць падзенне.

Гандола была звычайным сплеценым з лазы кошам; апусціўшыся на ваду, яна нават хвіліны не магла пратрымацца на паверхні.

У дзве гадзіны папаўдні аэрастат плыў на вышыні толькі чатырохсот футаў над акіянам.

У гэты момант у гандоле пачуўся мужны голас, голас чалавека, які не ведае, што такое страх. Яму адказалі не менш рашучыя галасы.

— Ці ўсё выкінута?

— Не! Асталіся яшчэ грошы: дзесяць тысяч франкаў золатам.

Цяжкі мяшок паляцеў у ваду.

— Ці падняўся шар?

— Крыху. Але ён хутка зноў апусціцца.

— Што яшчэ можна выкінуць?

— Нічога!

— А гандола? Гандолу ў мора! Усім учапіцца за сетку!

І сапраўды, гэта быў адзіны і апошні спосаб зрабіць аэрастат лягчэйшым. Канаты, якімі прывязалі гандолу, былі перасечаны, і шар падскочыў на дзве тысячы футаў угору.

Пяць пасажыраў ускарабкаліся на кальцо і ўчапіліся за петлі сеткі.

Аэрастат, які плавае ў атмасферы, падобен на дакладныя вагі: вызвалены ад якога-небудзь значнага цяжару, ён падскаквае ўгору.

Гэтае цяпер і адбылося.

Але, пратрымаўшыся некалькі хвілін у верхніх пластах атмасферы, шар зноў пачаў апускацца. Газ выходзіў праз дзірку ў абалонцы, і нельга было спыніць яго ўцечку.

Паветраныя падарожнікі зрабілі ўсё, што толькі здолен зрабіць чалавек. Цяпер іх магла выратаваць толькі выпадковасць.

У чатыры гадзіны шар быў на вышыні пяцісот футаў ад вады.

Пачуўся гучны брэх—гэта брахаў сабака інжынера Сміта. Сабака вісеў побач са сваім гаспадаром у петлях сеткі.

— Топ штосьці ўбачыў!—усклікнуў Сміт.

І адразу следам за тым пачуўся вокліч:

— Зямля! Зямля!

Падагнаны вялікім ветрам, шар ад раніцы праляцеў у паўднёва-ўсходнім кірунку значную адлегласць, якая вымяралася сотнямі міль. На гарызонце сапраўды паказаўся контур гарыстай зямлі. Але да яе было яшчэ каля трыццаці міль, гэта значыць не менш гадзіны палёту, калі не зменіцца хуткасць і напрамак ветру.

Цэлая гадзіна!.. Ці пратрымаецца шар столькі часу?

Гэта было страшэннае пытанне. Паветраныя падарожнікі ўжо выразна бачылі на гарызонце сухазем'е. Яны не ведалі, мацярык гэта ці востраў, заселена гэта зямля ці не, гасцінная ці варожая. Але гэта і не турбавала іх—абы дабрацца да яе!

У чатыры гадзіны было ўжо відаць, што шар не можа больш трымацца ў паветры. Ён ляцеў над самай паверхняй

акіяна. Грабяні хваль ужо некалькі разоў лізанулі звешаныя вяроўкі сеткі, якія, набракшы вадою, яшчэ больш абцяжарвалі аэрастат. Шар ляцеў цяпер, схіліўшыся набок, як птушка з падстрэленым крылом.

Праз поўгадзіны да сухазем'я было каля мілі, але і шар, які зменшыўся ў аб'ёме і зморшчыўся, меў усяго мізерныя рэшткі газу толькі ў верхняй сваёй частцы. Людзі, якія віселі на яго сетцы, сталі непамерным цяжарам для аэрастата; неўзабаве напалову апынуўшыся ў вадзе, яны трапілі пад удары раз'юшаных валаў. Абалонка выпучылася, як парус, і спадарожны вецер, напоўніўшы яе, паімчаў шар наперад, як карабль.

Можа ён хоць такім спосабам наблізіцца да зямлі?

Але за два кабельтовы[1] ад берагу некалькі людзей адначасова закрычалі ад жаху. Шар, які, здавалася, ужо канчаткова згубіў пад'ёмную сілу, падагнаны ўдарамі хвалі, раптам скочыў угору. Нібы ўраз вызвалены ад значнага цяжару свайго грузу, ён рыўком падняўся на вышыню тысяча пяцьсот футаў і там трапіў у паветраны паток, які панёс яго амаль паралельна берагу. Праз дзве хвіліны ён апусціўся на зямлю.

Падарожнікі дапамаглі адзін аднаму вызваліцца ад вяровак сеткі. Вызвалены ад іх цяжару, шар быў падхоплены ветрам, і, як раненая птушка, сабраўшы апошнія сілы, рвануўся ўгору і знік у воблаках.

У гандоле было пяць пасажыраў і сабака, а шар выкінуў на бераг толькі чацвёра людзей.

Пасажыр, які знік, быў, відаць, змыты хваляй, і іменна гэта дапамагло шару яшчэ раз узняцца ў паветра.

Не паспелі чацвёра пацярпеўшых крушэнне стаць на цвёрдую зямлю, як усе яны ў адзін голас крыкнулі, думаючы пра таго, хто адсутнічае:

— Можа ён даплыве да зямлі? Выратуем яго! Выратуем яго!

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

*Эпізод з вайны за вызваленне.—Інжынер Сайрус Сміт.—Гедэон Спілет.—Негр-Наб.—Марак Пенкроф.—Юнак Герберт.—Неспадзяваная пагоня.—Спатканне ў 10 гадзін вечара.—Уцёкі ў часе буры.*

Людзі, якіх выкінула на гэтую зямлю ўраганам, не былі ні прафесійнымі аэранаўтамі, ні спартсменамі. Гэта былі ваеннапалонныя, якія адважыліся ўцякаць з палону пры

[1] *Кабельтоў*—морская мера даўжыні для невялікай адлегласці, роўная 200 метрам.

зусім выключных абставінах. Сто разоў яны рызыкавалі жыццём, сто разоў пашкоджаны паветраны шар пагражаў скінуць іх у бяздонне! Але лёс бярог іх для іншай долі.

Пакінуўшы 20 сакавіка Рычмонд, абложаны войскамі генерала Уліса Гранта, яны праз пяць дзён апынуліся за сем тысяч міль ад сталіцы штата Віргінія—галоўнай апоры сепаратыстаў[1] у часе кровепралітнай вайны за вызваленне неграў.

Вось, коратка, пры якіх цікаўных акалічнасцях гэтыя палоннікі наладзілі свае ўцёкі, якія скончыліся вышэйапісанай катастрофай.

У лютым 1865 года, у часе адной няўдалай спробы генерала Гранта захапіць Рычмонд, некалькі афіцэраў яго арміі трапілі ў палон да сепаратыстаў. У ліку іх быў і інжынер Сайрус Сміт.

Ураджэнец Масачузетса, Сайрус Сміт быў не толькі інжынерам, але і вядомым вучоным. Калі пачалася вайна, урад Злучаных штатаў даверыў яму кіраўніцтва чыгункамі, якія набылі вялікае стратэгічнае значэнне.

Тыповы ўраджэнец Паўночнаамерыканскіх штатаў, хударлявы, кастлявы, з невялікай сівізною ў валасах і коротка падстрыжаных вусах, год сарака пяці з выгляду, Сайрус Сміт быў адным з тых інжынераў, якія пачалі сваю кар'еру з работы молатам і кіркай, як некаторыя генералы, што пачыналі службу радавымі салдатамі. У аднолькавай ступені чалавек дзеянняў і мыслі, ён працаваў лёгка, настойліва і ўпарта, чаго не маглі зламаць ніякія няўдачы. Вельмі добра адукаваны, спрактыкаваны і вынаходлівы, ён меў тры якасці, сума якіх вызначае выдатнага чалавека: рухавасць розуму і цела, настойлівасць і моцную волю.

Адначасова з Сайрусам Смітам трапіў у палон да паўднёвых і другі выдатны чалавек. Гэта быў Гедэон Спілет, вядомы карэспандэнт «Н'ю-Йоркскага Герольда», прыкамандыраваны да Паўночнай арміі, каб асвятляць у газеце ўсе падзеі з фронта ваенных дзеянняў.

Гедэон Спілет належаў да той дзіўнай пароды англійскіх і амерыканскіх журналістаў, якія не адступаюць ні перад якімі цяжкасцямі, абы першымі атрымаць цікавыя навіны і перадаць іх сваёй газеце ў самы кароткі тэрмін.

Чалавек энергічны, дзейны, заўсёды да ўсяго падрыхтаваны, які пабачыў увесь свет, і парада якога незамяніма, салдат і мастак, рашучы ў дзеянні, чалавек, які не баіцца ні

---

[1] *Сепаратыстамі* ў часе грамадзянскай вайны паміж паўночнымі і паўднёвымі штатамі ЗША называлі паўднёвых прыхільнікаў аддзялення Паўднёвых штатаў.

працы, ні стомленасці, ні небяспекі, калі можна было праведаць што-небудзь важнае для яго самога, па-першае, і для газеты, па-другое, сапраўдны герой усяго новага, невядомага, нязведанага, немагчымага,—гэта быў адзін з тых адважных назіральнікаў, якія пішуць нарысы пад кулямі, складаюць хроніку пад ядрамі, для якіх небяспека—толькі забава.

Ён не быў пазбаўлены гумару. Гэта ён аднойчы, чакаючы вынікаў бою, і стараючыся ўсімі спосабамі захаваць за сабою чаргу каля акенца тэлеграфіста, на працягу двух гадзін перадаваў у сваю рэдакцыю па тэлеграфу тэкст першых раздзелаў бібліі. Гэта каштавала «Н'ю-Йоркскаму Герольду» дзве тысячы даляраў, але за тое газета першай атрымала важную навіну.

Гедэону Спілету было не больш сарака год. Гэта быў чалавек высокага росту. Рыжаватыя бакенбарды акружалі яго твар. У яго былі спакойныя зоркія вочы чалавека, які прызвычаіўся хутка ахапляць усё, што робіцца вакол яго. Дужы і так, ён быў яшчэ загартаваны ўсімі кліматамі свету, як стальны прут халоднай вадою.

Ужо на працягу дзесяці гадоў Гедэон Спілет працаваў карэспандэнтам «Н'ю-Йоркскага Герольда», аздабляючы яго старонкі сваімі артыкуламі і малюнкамі,—ён быў такі-ж майстра маляваць, як і пісаць. Ён быў узяты ў палон у той час, калі рабіў зарысоўкі для карэспандэнцыі пра бой. Апошнімі словамі ў яго запісной кніжцы былі: «Нейкі паўднёвец цэліцца ў мяне...» Але паўднёвец не папаў у яго, бо ў Гедэона Спілета было за звычай выходзіць з усякіх непрыемнасцей без адзінага пашкоджання.

Сайрус Сміт і Гедэон Спілет, якія ведалі адзін пра аднаго толькі па чутках, абодва былі дастаўлены ў Рычмонд. Пазнаёміўшыся выпадкова, яны спадабаліся адзін аднаму. Абодва яны былі апанаваны адной думкай, абодва імкнуліся да адной мэты: абавязкова ўцячы, далучыцца да арміі генерала Гранта і зноў змагацца ў яе радах за адзінства Штатаў!

Сміт і Спілет былі гатовы скарыстаць кожны выпадак для ўцёкаў, але, не зважаючы на тое, што ім дазволілі хадзіць вольна ўсюды ў горадзе, Рычмонд так добра ахоўваўся, што ўцячы з яго было зусім нельга.

У гэты час да Сайруса Сміта прабраўся яго слуга, бязмежна адданы яму чалавек. Гэты храбрэц быў неграм, які нарадзіўся ў маёнтку інжынера ад бацькі і маткі—нявольнікаў. Сайрус, прыхільнік вызвалення неграў не на словах, а на справе, даўно даў яму волю. Але і вольны, негр не захацеў пакінуць свайго гаспадара.

Гэта быў чалавек гадоў трыццаці, дужы, спрытны, разумны, лагодны і спакойны, часамі крыху наіўны, заўсёды з усмешкай, паслужлівы і добры. Яго звалі Навуханасарам, але ён аддаў перавагу перад гэтым біблейскім імем скарочанаму—Наб.

Даведаўшыся, што Сайрус Сміт трапіў у палон, Наб, доўга не думаючы, пакінуў Масачузетс, прабраўся да Рычмонда і, дваццаць разоў рызыкуючы жыццём, умудрыўся пранікнуць у абложаны горад.

Але калі Набу пашанцавала прабрацца ў Рычмонд, то гэта яшчэ не азначала, што адтуль лёгка было і выбрацца. Палонныя федэралісты[1] былі пад няспынным наглядам, і патрэбен быў які-небудзь выключны выпадак, каб паспрабаваць уцячы хоць з малой надзеяй на поспех. Але гэты выпадак не прыходзіў, і, здавалася, не было надзеі, што ён калі-небудзь надыйдзе.

У той час, калі ваеннапалонныя марылі пра ўцёкі з Рычмонда, каб зноў стаць у рады аблажнікаў, некаторыя абложаныя не менш нецярпліва імкнуліся пакінуць горад, каб далучыцца да войска ў сепаратыстаў. У ліку апошніх быў нехта Джонатан Форстэр, заядлы паўднёвец.

Армія паўночных, якая абкружыла Рычмонд, даўно перарвала сувязь паміж горадам і галоўнымі сіламі паўднёвых. Губернатару Рычмонда патрэбна было паведаміць камандуючага арміямі паўднёвых, генерала Лі, пра становішча ў горадзе, каб той хутчэй прыслаў падмацаванні. Джанатану Форстэру прышла ў галаву думка падняцца на паветраным шары і паветрам дабрацца да лагера сепаратыстаў. Губернатар ухваліў гэтую думку.

Для Джанатана Форстэра і пяці таварышоў, якія павінны былі ляцець з ім, пабудавалі аэрастат. Гандола шара была забяспечана зброяй і харчамі на выпадак, калі паветранае падарожжа зацягнецца.

Адлёт шара быў прызначан на 18 сакавіка, ноччу. Пры ўмераным паўночна-заходнім ветры аэранаўты павінны былі праз некалькі гадзін дабрацца да лагера генерала Лі.

Але паўночна-заходні вецер зранку 18 сакавіка ўзмацніўся і больш быў падобны на ўраган, чым на брыз. Неўзабаве разбушавалася такая бура, што ад'езд давялося адкласці: нельга было і думаць рызыкаваць аэрастатам і жыццём людзей пры такой раз'юшанасці стыхіі.

Напоўнены газам шар, прышвартаваны на галоўнай плошчы Рычмонда, гатовы быў ускруціцца ў паветра, як

---

[1] *Федэралісты*—прыхільнікі адзінства Злучаных штатаў (паўночныя).

толькі хоць крыху сціхне вецер. Але 18 і 19 сакавіка прайшлі без усякіх змен.

Нават давялося мацней прывязаць шар, бо парывы буры амаль валілі яго на зямлю.

Ноччу з 19 на 20 сакавіка ўраганны вецер стаў яшчэ больш лютым. Адлёт зноў давялося адкласці.

У гэты дзень інжынера Сайруса Сміта спыніў на вуліцы зусім незнаёмы яму чалавек. Гэта быў марак Пенкроф, загарэлы, каранасты год трыццаці пяці—сарака з выгляду, з жвавымі вачыма і хітраватым, але добрадушным выразам твара. Пенкроф таксама быў з Паўночнай Амерыкі. Ён аб'ездзіў усе моры і акіяны абодвух паўшар'яў, прайшоў праз агонь і ваду, і не было, здаецца, на свеце прыгоды, якая магла-б здзівіць або напалохаць яго.

У пачатку гэтага года Пенкроф прыехаў па справах у Рычмонд разам з пятнаццацігадовым юнаком Гербертам Броунам, сынам яго нябожчыка капітана. Пенкроф любіў Герберта, як роднага.

Не паспеўшы выехаць з горада да пачатку аблогі, Пенкроф сам апынуўся ў становішчы абложанага, што вельмі яго засмучала. Увесь гэты час яго праследавала адна думка: уцячы!

Ён чуў пра інжынера Сміта і не сумняваўся, што для гэтага дзейнага чалавека таксама быў цяжкім палон у Рычмондзе. Вось таму, ён, доўга не думаючы, спыніў яго на вуліцы такім пытаннем:

— Містэр Сміт, ці не надакучыў вам Рычмонд?

Інжынер уважліва паглядзеў на незнаёмага. Апошні дадаў больш ціхім голасам:

— Містэр Сміт, хочаце ўцячы адсюль?

— Калі?—жвава запытаў інжынер.

Гэтае пытанне сарвалася з яго губ мімаволі,—ён не паспеў нават разгледзець незнаёмага, але, зірнуўшы на адкрыты і сумленны твар марака, ён упэўніўся, што перад ім зусім прыстойны чалавек.

— Хто вы?—адрывіста запытаў ён.

Пенкроф назваў сябе.

— Якім-жа спосабам вы раіце мне ўцячы?—прадаўжаў роспыты інжынер.

— А для чаго тут гэты бяздзейнік—паветраны шар! Ён без толку гойдаецца, нібы чакае нас.

Мараку не давялося гаварыць далей пра сваю думку. Інжынер усё зразумеў. Ён схапіў Пенкрофа за руку і пацягнуў да сябе дадому. Там матрос расказаў пра свой план, па сутнасці, вельмі просты: рызыкаваць даводзілася толькі

жыццём. Ураган, праўда, бушаваў на ўсю сілу, але такі спрактыкаваны інжынер, як Сайрус Сміт, ужо, вядома, справіцца з аэрастатам. Калі-б ён, Пенкроф, умеў кіраваць шарам, ён, нядоўга думаючы, уцёк-бы—з Гербертам, вядома! Хіба не бачыў ён бур, ці што?

Сайрус Сміт, не перапыняючы, слухаў, што гаварыў матрос. Вочы яго блішчэлі. Доўгачаканы выпадак, нарэшце, настаў! Праект быў небяспечны, але яго можна было ажыццявіць. Ноччу, абмануўшы пільнасць варты, можна было прабрацца да шара, залезці ў гандолу і шпарка перасеч тросы, якімі яго прывязалі да зямлі. Зразумела, рызыкоўнасць была не малая, але, з другога боку, і выйгрыш быў вялікі! Каб не было ўрагану... Між іншым, каб не было ўрагану, то шар даўно паляцеў-бы, а з ім і адзіная магчымасць уцячы з Рычмонда.

— Я не адзін,—сказаў у канцы гутаркі Сайрус Сміт.

— Колькі чалавек вы хочаце ўзяць з сабою?—запытаў матрос.

— Двух: майго сябра Спілета і майго слугу Наба.

— Усяго—трох,—сказаў матрос,—а разам са мною і Гербертам—пяцёра. Але-ж шар разлічан на шасцёх...

— Вельмі добра. Мы паляцім!— закончыў Сміт.

Гэтае «мы» датычыла і журналіста. Але той не належаў да ліку баязлівых людзей, і, калі яму сказалі аб праекце Пенкрофа, ён без доўгіх разваг ухваліў яго. Гедэон Спілет толькі здзівіўся, што такая простая думка не прышла ў галаву яму самому. Што датычыць Наба, дык верны слуга заўсёды гатовы быў ісці следам за сваім гаспадаром.

— Да вечара!—сказаў Пенкроф.

— Да вечара! Мы спаткаемся на плошчы ў дзесяць гадзін,—вырашыў інжынер.—І будзем спадзявацца, што бура не сціхне да нашага ад'езду!

Пенкроф вярнуўся дадому, дзе яго чакаў Герберт Броун. Юнак ведаў пра намер марака і нецярпліва чакаў вынікаў перагавораў з інжынерам.

Такім чынам, выявілася, што ўсе пяць чалавек, якія рыхтаваліся рынуцца ў бой з ураганам, былі аднолькава адважнымі і рашучымі людзьмі.

Між тым ураган не сціхаў. Джанатан Форстэр і яго спадарожнікі нават не думалі пра тое, каб адправіцца ў дарогу ў кволай гандоле. Інжынер асцерагаўся толькі, каб вецер не прыбіў паветраны шар да зямлі і не парваў яго ў шматкі. На працягу многіх гадзін ён бадзяўся па плошчы, наглядаючы за аэрастатам. Пенкроф рабіў тое-ж самае, пазяхаючы на ўвесь рот, як чалавек, які не ведае, як змарнаваць

час. Ён таксама асцерагаўся, што бура пашкодзіць шар ударамі аб зямлю або, сарваўшы яго з прывязі, паімчыць яго ў воблакі.

Надышоў вечар. Цемра была беспрасветная. Густы туман ахутаў зямлю. Ішоў дождж, перамешаны са снегам. Бура нібы падала сігнал да перамір'я паміж аблажанымі і аблажнікамі: грукат гармат замяніўся грымотамі ўрагану. Вуліцы Рычмонда апусцелі. З прычыны жахлівага надвор'я ўлады палічылі нават магчымым зняць караул, які вартаваў паветраны шар.

Усё нібы спрыяла ўцёкам.

У дзевяць з паловай гадзін Сайрус Сміт і яго спадарожнікі з розных бакоў прабраліся на плошчу, ахутаную цемрай, бо парывы ветру тушылі газавыя ліхтары. Цяжка было разгледзець нават вялізны шар, прыціснуты да зямлі парывамі ветру. Шар быў прывязаны тоўстым тросам да кальца, прымацаванага да бруку.

Пяць палонных спаткаліся каля гандолы.

Не праказаўшы ні слова, Сайрус Сміт, Гедэон Спілет, Наб і Герберт занялі месцы ў гандоле. Пенкроф у гэты час, па загаду інжынера, адвязваў мяшкі з баластам. Праз некалькі хвілін, скончыўшы работу, марак далучыўся да таварышоў. Цяпер толькі трос трымаў шар на зямлі. Сайрусу Сміту аставалася толькі падаць сігнал да адлёту...

У гэты момант у гандолу ўскочыў сабака. Гэта быў Топ, сабака інжынера, які прыбег за сваім гаспадаром. Сайрус Сміт, апасаючыся, што Топ перацяжыць шар, ужо хацеў прагнаць сабаку.

— Ага! Няхай астаецца!—уступіўся за сабаку Пенкроф.—Лепш выкінем з гандолы яшчэ два мяшкі з пяском!

Ударам нажа ён перарэзаў трос, і шар ускруціўся па крывой лініі ў паветра.

Ураган бушаваў з нечуванай лютасцю. На працягу гэтай ночы нельга было і думаць пра спуск. Калі развіднела, зямля была ахутана густым покрывам воблакаў. Толькі праз пяць дзён аэранаўты ўбачылі пад сабою мора.

Чытачы ведаюць, што з пяці чалавек, якія пакінулі Рычмонд 20 сакавіка[1], чацвёра былі скінуты 24 сакавіка на пустэльны бераг, за сем тысяч міль ад сваёй радзімы.

Пяты, адсутны пасажыр, на дапамогу якому кінуліся ўсе астатнія, быў ніхто іншы, як інжынер Сайрус Сміт.

---

[1] 5 красавіка Рычмонд быў заняты генералам Грантам. *Заўвага аўтара*

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

*Пяць гадзін папаўдні.—Адсутны пасажыр.—Наб у роспачы.—Пошукі на поўначы.—Астравок.—Пакутная ноч.—Туман.—Наб кідаецца ў паток.—Від з зямлі.—Пераход праліва ў брод.*

Інжынера змыла хваля. Верны сабака добраахвотна рынуўся ў ваду, каб дапамагчы свайму гаспадару.

— Наперад!—крыкнуў журналіст.

І ўсе чацвёра пацярпеўшыя крушэнне, забыўшыся на зморанасць і голад, рынуліся на пошукі таварыша.

Небарака Наб плакаў ад думкі, што загінуў той, каго ён любіў больш за ўсё на свеце.

Мінула не больш двух хвілін з таго моманту, як Сайрус Сміт знік. Спадарожнікі яго маглі, значыць, спадзявацца ў час дапамагчы яму.

— Наперад, наперад!—крычаў Наб.

— Так, Наб, наперад!—падхапіў Гедэон Спілет.—Мы знойдзем яго.

— Жывым?

— Жывым!

— Ці ўмее ён плаваць?—запытаў Пенкроф.

— Так,—сказаў Наб.—Апрача таго, Топ з ім...

Матрос, прыслухаўшыся як раве акіян, паківаў галавою.

Інжынер упаў у ваду на адлегласці не больш поўмілі ад таго месца, дзе шар апусціўся на пясок. Калі яму пашчасціла дабрацца да зямлі, ён павінен быў выйсці на бераг дзенебудзь блізка.

Было каля шасці гадзін вечара. Туман, які асеў на зямлю, яшчэ больш згушчаў цемру. Пацярпеўшыя крушэнне накіраваліся да паўночнай аканечнасці гэтай невядомай зямлі, на якую іх закінуў лёс. Яны ішлі па пясчанай, парытай глебе, узнімаючы нейкіх невядомых птушак, рэзкі посвіст якіх нагадваў матросу чаек.

Час ад часу яны прыпыняліся і крычалі. Потым сціхалі, чакаючы, ці не пачуюць у адказ крыку з боку акіяна. Нават у тым выпадку, калі сам інжынер не здолее адказаць на воклічы, разважалі яны, дык Топ павінен забрахаць, пачуўшы галасы.

Толькі завываннем ветру і шумам прыбою адказвала ім цемра ночы. Тады маленькі атрад зноў рушыў у дарогу, уважліва аглядаючы кожную звіліну ўзбярэжжа.

Пасля дваццаці хвілін пошукаў чацвёра пацярпеўшых крушэнне раптоўна вышлі да акіяна. Яны былі на самым канцы мыса, які высунуўся ў мора.

— Трэба варочацца,—сказаў марак.

— Але-ж ён там,—запярэчыў Наб, паказваючы рукою на акіян, які каціў вялізныя валы.

— Давайце паклічам яго!

І ўсе ў адзін голас закрычалі. Адказу не было. Яны зноў закрычалі. Ніхто не адазваўся.

Падарожнікі пайшлі зноў уздоўж супроцьлеглага берагу мыса. Глеба тут была такая-ж пясчаная і скалістая, але Пенкроф звярнуў увагу на тое, што бераг падымаецца. Ён выказаў меркаванне, што ўздым вядзе да ўзвышэння, абрысы якога чарнелі наперадзе. У гэтай частцы ўзбярэжжа мора выглядала больш спакойным. Шум прыбою быў тут ледзь чутны. Відаць, гэта быў заліў, і востры мыс, які выступаў у акіян, ахоўваў яго бераг ад хваль, што бушавалі на прасторы.

Прайшоўшы дзве мілі, падарожнікі зноў вышлі на тое месца, дзе яны высадзіліся.

— Мы трапілі на востраў,—усклікнуў Пенкроф,—і абышлі яго наўкола!

Марак казаў праўду: паветраныя падарожнікі былі выкінуты нават не на востраў, а на астравок, даўжыня берагавой паласы якога была не больш двух міль пры адпаведнай мізэрнай шырыні.

Ці быў гэты скалісты, бясплодны астравок, сумны прытулак морскіх птушак, злучан з якім-небудзь больш значным архіпелагам? Цяпер немагчыма было адказаць на гэтае пытанне. Тым не менш востры зрок марака, які прызвычаіўся ўглядвацца ў начную цемру, згледзеў на захадзе невыразныя абрысы нейкай горыстай зямлі. Праверыць, ці не памыліўся Пенкроф, было немагчыма. Даводзілася да наступнага дня адкласці пошукі інжынера.

— Маўчанне Сайруса нічога не сцвярджае,—сказаў журналіст.—Ён, магчыма, ранены, аглушаны... непрытомны... Няма чаго паддавацца роспачы!

Марак прапанаваў раскласці дзе-небудзь на астраўку агонь, які будзе сігналам для інжынера. Але ні дрэў, ні сухога галля знайсці не ўдалося. Камені і пясок—вось усё, што было на астраўку.

Зусім зразумела туга Наба і яго таварышоў, якія паспелі блізка сыйсціся з Сайрусам Смітам.

Яны нічым не маглі дапамагчы яму. Трэба было чакаць раніцы.

Інжынер або выбраўся з вады сам і знайшоў сабе прытулак дзе-небудзь на ўзбярэжжы, або канчаткова загінуў.

Пачаліся пакутныя хвіліны. Холад быў нясцерпны. Няшчасныя вельмі пакутвалі ад яго, але не думалі пра гэта. Забыўшыся на стому, яны бадзяліся па бясплодным астраўку, няспынна варочаючыся да яго паўночнай аканечнасці, найбольш блізкай да месца катастрофы. Яны то крычалі, то, стаіўшы дух, услухоўваліся, ці не пачуюць у ад-

каз крыку. Шум мора патроху сціхаў, і на вокліч Наба нібы адказала рэха. Герберт звярнуў на гэта ўвагу Пенкрофа.

— Гэта сцвярджае, што дзесьці блізка ёсць яшчэ зямля,— сказаў ён.

Марак пацвердзіў, кіўнуўшы галавою. Ён не сумняваўся ў гэтым.

Тым часам неба паступова праяснела; пад поўнач заблішчэлі першыя зоркі. Калі-б інжынер быў разам з сваімі спадарожнікамі, ён, напэўна, заўважыў-бы, што сузор'і былі ўжо не такія, як у небе паўночнага паўшар'я, і што замест Вялікай Мядзведзіцы на небе палаў Паўднёвы крыж.

Каля пяці гадзін раніцы вярхі воблакаў паружавелі. Але разам з першымі праменнямі сонца на зямлю ўпаў туман: нават на дваццаць крокаў нічога не было відаць. Густыя клубы туману павольна паўзлі па востраву.

А палове сёмай раніцы туман пачаў разыходзіцца. Ён гусцеў угары, але радзеў унізе, і неўзабаве астравок стаў бачным увесь, нібы ён спускаўся з воблакаў. Потым паказалася і мора, бязмежнае на ўсходзе і заслоненае скалістым берагам на захадзе.

Гэты бераг быў аддзелены ад астраўка вузкім, не больш як на поўмілю, пралівам з вельмі шпаркай плыняй.

Адзін з пацярпеўшых крушэнне, не зважаючы на небяспеку, не праказаўшы ніводнага слова, рынуўся ў паток. Гэта быў Наб, які спяшаўся агледзець бераг новай зямлі.

Журналіст рыхтаваўся паследаваць за Набам.

— Пачакайце!—сказаў Пенкроф, падыходзячы да яго.— Вы хочаце пераплысці праліў?

— Так,—адказаў Гедэон Спілет.

— Паслухайце мяне, не спяшайцеся! Наб і адзін здолее дапамагчы свайму гаспадару. Плынь аднясе нас у акіян, калі мы паспрабуем пераплысці цераз праліў. Яна вельмі моцная. Але я не сумняваюся, што сіла яе зменшыцца ў часе адліву. Можа тады нам удасца нават перайсці ў брод на процілеглы бераг.

— Вы праўду кажаце,—адказаў журналіст,—мы не павінны разлучацца.

Наб гэтым часам змагаўся з імклівай плыняй. Ён пераплываў праліў наўскасяк. Яго чорныя плечы ўздымаліся з вады пры кожным узмаху рук. Яго адносіла ў адкрыты акіян, але ўсё-ж ён набліжаўся да берага. Наб патраціў больш поўгадзіны, каб праплысці поўмілі, што аддзяляла астравок ад зямлі, і за гэты час плынь аднесла яго на некалькі міль у бок ад адпраўнога пункта.

Наб вылез на бераг ля падножжа высокай гранітнай сцяны і на ўсю сілу атросся ад вады. Потым ён пабег да выступаючых у мора скалаў і знік за імі.

Спадарожнікі Наба з заміраючым сэрцам сачылі за яго адважнай спробай і, толькі тады, калі ён знік з вачэй, пачалі аглядаць кавалачак зямлі, які даў ім прытулак.

Яны паснедалі ракушкамі, якіх знайшлі ў пяску. Гэта было несамавітае снеданне, але лепшага ў іх не было...

Гедэон Спілет, Пенкроф і Герберт не зводзілі вачэй з зямлі, на якой, магчыма, ім належала пражыць доўгія гады.

Цяжка было меркаваць, была гэтая зямля востравам або часткай мацерыка. Але ўбачыўшы награмаджэнні скал геолаг не стаў-бы сумнявацца ў яе вулканічным паходжанні.

— Дык што, Пенкроф, ты можаш сказаць?—звярнуўся Герберт да марака.

— Што-ж,—адказаў той,—тут, як і ўсюды, ёсць свае добрыя і свае благія бакі. Пажывем—пабачым. А вось і адліў пачынаецца. Праз гадзіны тры паспрабуем перабрацца. Авось на тым беразе як-небудзь і адшукаем містэра Сміта.

Пенкроф не памыліўся ў сваіх меркаваннях. Праз тры гадзіны адліў агаліў большую частку пясчанага дна пралівa. Паміж астраўком і процілеглым берагам асталася толькі вузенькая палоска вады, якую няцяжка было пераплысці.

Каля дзесяці гадзін Гедэон Спілет і два яго таварышы распрануліся, спакавалі рэчы, паднялі іх на галаву і ўвайшлі ў ваду, глыбіня якой была не больш пяці футаў. Для Герберта брод быў занадта глыбокі і юнак паплыў. Усе трое лёгка дабраліся да процілеглага берагу. Там, хутка абсохшы на сонцы, яны зноў апрануліся.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЕРТЫ.

*Літадомы.—Вусце ракі.—„Камін".—Працяг пошукаў.—Запас паліва.—Чаканне адліву.—Груз дроў.—Зварот на бераг.*

Гедэон Спілет дамовіўся з мараком спаткацца ўвечары на гэтым самым месцы і, не трацячы ні хвіліны, ускарабкаўся на кручу і знік у тым-жа кірунку, у якім не так даўно знік Наб.

Герберт хацеў ісці за журналістам.

— Застанься, мой хлопчык,—сказаў яму матрос.—Нам трэба падумаць пра жыллё і паспрабаваць знайсці што-небудзь больш спажыўнае, як ракушкі. Нашым сябрам захочацца, вярнуўшыся, падмацавацца. У кожнага свой клопат.

— Што-ж, я гатовы, Пенкроф,—адказаў юнак.

— Вельмі добра. Зробім усё па парадку. Мы стаміліся, нам холадна, мы галодныя. Значыць, трэба знайсці прытулак, разлажыць агонь, адшукаць ежу. У лесе ёсць дровы, у гнёздах—яйкі. Трэба толькі знайсці жыллё.

— Добра,—сказаў Герберт,—пашукаем пячору ў гэтых скалах. Урэшце знойдзем-жа мы хоць якую расколіну, у якой можна будзе пераначаваць.

— У дарогу, мой хлопчык!

І яны рушылі ўздоўж падножжа вялізнай гранітнай сцяны па пяску, аголенаму пасля адліву.

Пенкроф заўважыў у гранітнай сцяне шчыліну, якая, як ён меркаваў, магла быць толькі вусцем ракі або ручая.

У гранітнай сцяне не было ніводнай выемкі, якая-б магла служыць прытулкам для людзей. Над ёю кружылася шмат морскіх птушак, у большасці розных прадстаўнікоў сямействаў чаек, з падоўжанай, загнутай на канцы дзюбай, крыклівых, якія зусім не баяліся чалавека. Як відаць, людзі ўпершыню патрывожылі іх. Гнёзды чаек знаходзіліся ў звілінах гранітнай сцяны. Адным стрэлам можна было-б забіць некалькі гэтых птушак.

Але для таго, каб стрэліць, патрэбна мець стрэльбу, а стрэльбы гэтай не было ні ў Пенкрофа, ні ў Герберта. Праўда, чаек не ядуць, і нават яйкі іх брыдкія на смак.

Неўзабаве Герберт заўважыў некалькі скал, якія былі аблеплены вадарослямі. Як відаць, мора ў часе прыліву залівала гэтыя скалы. Паміж слізкіх вадарасляў юнак знайшоў некалькі двухстворчатых ракушак.

Галодным людзям не варта было грэбаваць гэтай ежай. Герберт паклікаў Пенкрофа.

— Гэтыя ракушкі можна есці!—крыкнуў марак.—Яны заменяць нам яйкі!

— Не,—запярэчыў Герберт, уважліва разглядаючы прыліплых да скалы малюскаў,—гэта літадомы.

— Іх можна есці?

— Можна.

— Што-ж, будзем есці літадомаў!

Марак мог поўнасцю даверыцца Герберту. Юнак вельмі добра быў знаёмы з прыродазнаўствам. Ён меў надзвычай вялікую ахвоту да гэтай навукі.

Тут, на гэтым пустэльным востраве, веды яго павінны былі не аднойчы быць карыснымі.

Літадомы, прадаўгаватыя ракушкі, належаць да малюскаў-свідравальшчыкаў, якія свідруюць дзіркі ў самых цвёрдых вапнякавых скалах. Па форме яны адрозніваюцца ад звычайных ядомых ракушак тым, што краі іх ракавін закругляюцца на абодвух канцах.

Пенкроф і Герберт у волю наеліся літадомаў, якія ад сонечнай цяплыні прыадкрылі свае створкі. Па смаку яны нагадвалі ўстрыц, толькі вельмі наперчаных.

Заспакоіўшы голад, марак і юны натураліст асабліва старанна прадаўжалі пошукі вады,—вострая страва выклікала ў іх смагу.

Прайшоўшы крокаў дзвесце, яны ўбачылі тую шчыліну ў скалах, у якой, як меркаваў Пенкроф, павінна было быць вусце ракі. Сапраўды, паміж двух адвесных скал, якія, як відаць, раскалоліся ад вулканічнага штуршка, цякла поўнаводная рэчка. За поўмілі ўверх па плыні яна крута паварачвала і знікала ў гаі.

— Тут ёсць вада, там—дровы!—усклікнуў марак.— Бачыш, Герберт, нам толькі засталося знайсці дом!

Паспытаўшы ваду і пераканаўшыся, што яна прэсная, яны пачалі шукаць прытулку ў скалах, але без поспехаў: гранітная сцяна скрозь была аднолькава гладкай і непрыступнай. Але каля самага вусця рэчкі, вышэй лініі прыліву, яны знайшлі награмаджэнні вялізных каменняў, якія часта сустракаюцца на скалістых узбярэжжах. Здалёку здавалася, што нейкі велікан склаў з гэтых абломкаў аграмадны камін.

Пенкроф і Герберт забраліся ў пясчаныя калідоры гэтага хаасу; святла тут было досыць, але і ветру таксама, бо нішто не перашкаджала яму гаспадарыць у прамежках скал. Тым не менш Пенкроф вырашыў загарадзіць у некалькіх месцах калідор пяском і каменнымі абломкамі. План калідораў можа быць азначаны друкарскай літарай &, якая азначае et caetera (лацінскае—«і гэтак далей»). Адгарадзіўшы верхнюю пятлю літары ад заходняга ветру, можна было не дрэнна прыстроіцца ў «Каміне».

— Вось у нас і дом ёсць!—сказаў марак.—Хадзем цяпер па дровы!

Вышаўшы з «Каміна» (захаваем такую назву гэтага часовага прыстанішча), Герберт і Пенкроф рушылі ўверх ракі, уздоўж яе левага берагу. Шпаркі паток праімчаў паўз іх некалькі вывернутых бурай дрэў.

Праз чвэртку гадзіны падарожнікі дайшлі да павароту ракі. Далей яна цякла ў засені цудоўнага лесу. Не гледзячы на асеннюю пару [1], лес быў зялёны: дрэвы належалі да хвойных, пашыраных па ўсяму зямному шару—ад палярных абласцей да трапічных зон.

Юны натураліст пазнаў паміж іх дэадару—з сямейства

---

[1] Сакавік у паўднёвым паўшар'і адпавядае верасню ў паўночным паўшар'і. *Заўвага пер.*

хвойных дрэў, якія часта сустракаюцца ў Гімалаях і вядомы сваім прыемным пахам. Паміж гэтых прыгожых дрэўраслі сосны, увянчаныя пышнымі кронамі. У высокай траве, якою зарасла зямля, Пенкроф і Герберт бесперапынна наступалі на сухое галлё, якое трашчала пад іх нагамі, як фейерверк.

— Я не ведаю навуковай назвы гэтага галля,—сказаў марак Герберту,—але для мяне важна тое, што яно належыць да пароды д р э ў, адзіна важнай у сучасны момант для нас. Дык за справу!

Яны шпарка назбіралі ладную кучу дроў.

Але калі паліва было больш як трэба, то спосабаў для перавозкі не было. Сухое галлё павінна было шпарка згараць і двум чалавекам не пад сілу было перацягнуць адсюль у «Камін» патрэбны запас дроў.

— Каб у нас была каламажка!—засмучана сказаў марак.

— У нас ёсць рака!—адказаў Герберт.

— Сапраўды! Рака будзе для нас рухавай дарогай. Трэба толькі пачакаць адліву, а потым мы спусцім плыт па плыні.

Марак і юнак звязалі сухімі ліянамі некалькі паваленых бурай дрэў і пагрузілі на гэтае падабенства плыта столькі дроў, колькі не маглі-б перанесці і дваццаць чалавек. На працягу адной гадзіны работа была закончана, і прывязаны да берагу плыт гатовы быў адплысці.

Чакаючы адліву, Герберт і Пенкроф рашылі ўзабрацца на гранітную сцяну і з вяршыні яе агледзець наваколле.

Пад'ём цягнуўся нядоўга. Дабраўшыся да верхняй пляцоўкі, яны ўсхвалявана зірнулі на паўночную частку ўзбярэжжа, дзе адбылася катастрофа. Там знік Сайрус Сміт. Яны напружана ўглядаліся, адшукваючы які-небудзь абломак аэрастата, учапіўшыся за які чалавек мог-бы трымацца на паверхні вады. Але акіян быў зусім пустэльны.

— Я ўпэўнены,—усклікнуў Герберт,—што такі дужы і адважны чалавек, як Сайрус Сміт, не мог затануць! Напэўна, ён дабраўся да берагу! Праўда, Пенкроф?

Марак сумна паківаў галавою, але, каб не пазбавіць Герберта надзеі сказаў:

— Безумоўна, безумоўна!.. Інжынер такі малайчына, што ён выратуецца там, дзе напэўна загінуў-бы кожны іншы!

Яны пачалі ўважліва аглядаць узбярэжжа. На поўдні востры выступ мыса закрываў гарызонт, і нельга было ўгадаць, ці ёсць за ім зямля. На поўначы, як ахапляў позірк, закруглена цягнулася берагавая лінія. Бераг тут быў плоскі, нізкі, з шырокай пясчанай паласою, якая была аголена прыбоем. На захадзе перш за ўсё кінулася ў вочы снегавая шапка высокай гары, якая была за шэсць-сем міль ад узбя-

рэжжа. Ад падножжа гэтай гары да самага берагу мора ўся зямля зарасла густым лесам.

— Востраў гэта, ці не?—запытаў марак.

— Калі і востраў, дык у кожным разе досыць прасторны,—адказаў юнак.

— Які-б абшырны не быў востраў, ён усё-ж астанецца востравам.

Але вырашэнне гэтага важнага пытання трэба было адкласці да больш зручнага часу. Чым-бы ні была зямля, на якую лёс закінуў пацярпеўшых крушэнне,—востравам або мацерыком,—яна рабіла ўражанне багатай на прыгожыя мясціны і пладароднай.

— Гэта самае важнае,—сказаў Пенкроф.—У нашым становішчы за гэта трэба асабліва горача падзякаваць лёс!

Зірнуўшы яшчэ адзін раз на наваколле, Пенкроф і Герберт пайшлі зноў уздоўж паўднёвага схілу гранітнай сцяны. Скачучы з каменя на камень, Герберт нечакана ўзняў цэлую стаю птушак.

— Дзікія галубы!—усклікнуў ён.—Іх яйкі вельмі смачныя!

— І мы спячэм з іх цудоўную яешню,—падхапіў Пенкроф.

— У чым,—запытаў Герберт,—у тваім капелюшы?

— Сапраўды... Давядзецца спажываць печаныя яйкі, мой хлопчык.

Уважліва агледзеўшы ўсе шчыліны скалы, марак і хлапец знайшлі некалькі дзюжын яек. Паклаўшы іх у кішэні, яны пастрашылі сыйсці да ракі, бо ўжо набліжаўся час адліву.

Каля гадзіны папаўдні яны падышлі да свайго плыта. Пенкроф не хацеў спусціць яго ўніз па рацэ без кіравання, аднак не адважваўся і сам сесці на плыт. Але, вынаходлівы, як сапраўдны марак, ён шпарка звіў з сухіх ліян доўгую вяроўку і, прывязаўшы яе да кармы плыта, спіхнуў апошні на ваду. Ён трымаў плыт за вяроўку, у той час, калі Герберт доўгім шастом накіроўваў яго на сярэдзіну плыні.

Вялізная вязанка дроў павольна паплыла па рэчцы, і каля двух гадзін папаўдні Пенкроф і Герберт шчасліва даставілі яе ў вусце ракі, амаль да парогу «Каміна».

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ.

*Абсталяванне „Каміна“ — Як здабыць агонь. — Карабок запалак.— Зварот Спілета і Наба.—Адзіная запалка. Агонь.—Першая вячэра.— Першая ноч на зямлі.*

Першымі клопатамі Пенкрофа пасля разгрузкі плыта было ператварыць «Камін» у жылое памяшканне. Дзеля гэтага ён, скарыстаўшы пясок, абломкі скалы, галлё і мокрую

гліну, перагарадзіў калідор, у якім гуляў скразняк. «Камін» такім чынам быў падзелены на тры-чатыры пакоі, калі можна так назваць цёмныя катухі, якія не здаволілі-б і звярыну. Але там было суха, а ў цэнтральным пакоі можна было нават стаяць на ўвесь рост; чысты пясок усцілаў падлогу. Увогуле, спадзяючыся на лепшае можна было пажыць і тут.

— Цяпер нашы сябры могуць варочацца,—сказаў Пенкроф, скончыўшы работу.—Дом гатовы!

Аставалася толькі скласці ачаг і згатаваць ежу. Гэта было няцяжка. Ачаг з шырокіх плоскіх каменняў быў змайстраваны ў першым калідоры налева. Цеплыня, якая ішла ад ачага, павінна была награваць усе пакоі.

Запас дроў быў складзены ў другім пакоі, і марак паклаў на камяні ачага некалькі тоўстых сухіх галін.

— Ці ёсць у цябе запалкі?—запытаў Герберт у Пенкрофа.

— Вядома,—адказаў марак.—Без запалак нам было-б вельмі цяжка!

— Ну, мы маглі-б здабыць агонь, як дзікуны, пацёршы адзін казалак дрэва аб другі.

— Што-ж, мой хлопчык, паспрабуй! Пабачым, ці даб'ешся ты чаго-небудзь такім спосабам, калі не лічыць расцёртых да крыві рук...

— Але-ж гэты просты спосаб вельмі пашыраны на астравах Ціхага акіяна.

— Я нічога не кажу,—сказаў марак,—але я думаю, што дзікуны асабліва спрактыкаваны, ды і дрэва яны ўжываюць не кожнае. Я некалькі разоў без вынікаў стараўся здабыць агонь такім спосабам і цяпер лічу за лепшае карыстацца запалкамі! Да рэчы, дзе-ж яны?

Пенкроф пачаў шукаць у кішэнях карабок, з якім, як заядлы курэц, ён ніколі не расставаўся. Але ён не знайшоў яго. Яшчэ раз пашукаўшы ў кожнай кішэні, ён, вельмі здзіўлены, пераканаўся, што карабка не было.

— Вось прыкрасць якая!—сказаў ён, разгублена пазіраючы на Герберта.—Я згубіў карабок... Скажы, Герберт, можа ў цябе ёсць запалкі ці крэсіва?

— Няма, Пенкроф!

Пенкроф, спахмурнеўшы, маўчаў. Ён не стараўся захаваць свайго смутку. Герберт паспрабаваў уцешыць яго:

— Напэўна, у Наба, Сайруса Сміта або Гедэона Спілета ёсць запалкі.

— Сумняваюся,—адказаў марак, паківаўшы галавою.— Наб і містэр Сміт—не кураць, а Гедэон Спілет, напэўна,

выкінуў за борт гандолы запалкі, але захаваў сваю запісную кніжку.

Герберт змоўк. Страта запалак была, вядома, непрыемнасцю, але юнак быў упэўнены, што так ці іначай яны здабудуць агонь. Пенкроф, які быў больш спрактыкаваны, хоць і не прызвычаіўся губляцца ад няўдач, аднак, не падзяляў яго надзей. Але так ці іначай, а да звароту Наба і журналіста нічога другога не заставалася, як задаволіцца сырымі яйкамі і ракушкамі.

Каля шасці гадзін вечара, калі сонца ўжо схавалася за скаламі, Герберт убачыў Гедэона Спілета і Наба.

Яны варочаліся адны. У юнака балюча сціснулася сэрца. Прадчуванні не падвялі марака: Сайруса Сміта не ўдалося знайсці...

Журналіст падышоў і сеў на абломак скалы; зморany і галодны, ён не мог гаварыць.

Вочы Наба, пачырванелыя і апухлыя ад слёз, выразней за словы гаварылі, што ён страціў апошнюю надзею. Небарака хлопец і цяпер яшчэ плакаў.

Аддыхаўшыся, Гедэон Спілет расказаў пра дарэмныя пошукі Сайруса Сміта. Ён і Наб агледзелі ўзбярэжжа на працягу амаль васьмі міль, але не знайшлі ніякіх слядоў, ніводнай адзнакі прабывання чалавека на гэтай зямлі. Мора было такое-ж пустэльнае, як і бераг; як відаць, інжынер знайшоў сабе магілу за некалькі сот футаў ад берагу...

Герберт прапанаваў карэспандэнту і Набу па прыгаршчы ракушак. Наб, які не еў нічога ад ранку, усё-ж адмовіўся ад ежы. Гедэон Спілет прагна накінуўся на малюскаў і лёг на пяску каля падножжа скалы. Ён быў вельмі зморany, але спакойны.

Герберт падышоў да яго і сказаў:

— Мы знайшлі прытулак, дзе вы можаце адпачыць лепш, як тут. Находзіць ноч. Хадзем, вам патрэбен адпачынак. Заўтра мы падумаем пра тое, што рабіць далей.

Журналіст паслухмяна ўстаў і пайшоў следам за юнаком да «Каміна», але па дарозе яго спыніў Пенкроф і самым звычайным тонам запытаў:

— Ці няма ў вас запалак, містэр Спілет?

Карэспандэнт пашукаў у кішэнях, але нічога не знайшоў.

— Напэўна, я выкінуў іх,—сказаў ён.

Марак з тым-жа пытаннем звярнуўся да Наба і таксама атрымаў адмоўны адказ.

— Вось ліха!—роспачліва крыкнуў матрос.

Гедэон Спілет павярнуўся ў яго бок.

— Ніводнай запалкі?—запытаў ён.

— Ніводнай...

— Ах!—усклікнуў Наб.—Калі-б тут быў мой гаспадар, ён здолеў-бы распаліць агонь!

Пацярпеўшыя крушэнне засмучана зірнулі адзін на аднаго і змоўклі. Першым парушыў маўклівасць Герберт.

— Містэр Спілет,—сказаў ён карэспандэнту,—вы-ж курыце, у вас заўсёды былі запалкі! Можа, вы не вельмі ўважліва шукалі? Пашукайце яшчэ! Нам патрэбна ўсяго адна запалка!

Карэспандэнт зноў агледзеў усе кішэні штаноў, жылета, сурдута, паліта і нечакана, на вялікую радасць Пенкрофа, і сваё надзвычайнае здзіўленне, намацаў запалку, якая была пад падкладкай жылета. З-за таго, што гэтая запалка, як відаць, была адзіная, патрэбна было выцягнуць яе вельмі асцярожна, каб не папсаваць фосфарную галоўку.

— Дазвольце мне зрабіць гэта,—папрасіў юнак.

Асцярожна і спрытна ён выцягнуў мізэрную, але каштоўную саломінку, якая мела такое велізарнае значэнне для гэтых небаракаў. Запалка была цэлая!

— А д н а запалка!—усклікнуў Пенкроф.—Гэта тое самае, што цэлы склад запалак!

Ён узяў гэтае багацце з рук Герберта і накіраваўся да «Каміна». Таварышы пайшлі за ім. Гэтую запалку, такую танную ў цывілізаваных краінах, трэба было скарыстаць з найвялікшай беражлівасцю.

Марак спярша ўпэўніўся, што запалка сухая, потым сказаў:

— Патрэбен ліст паперы!

— Вось,—адказаў Гедэон Спілет, не без ваганняў вырываючы лісток з сваёй запісной кніжкі.

Пенкроф скруціў лісток у трубачку і ўсунуў яго ў кучу моху і сухога лісця, складзеную пад дровамі так, каб паветра свабодна пранікала да яе. Потым ён узяў шурпаты каменьчык, старанна выцер яго і, стрымліваючы біццё сэрца і дыханне, пацёр запалку аб яго паверхню [1]. Запалка не загарэлася: Пенкроф, апасаючыся сарваць галоўку, вельмі слаба пацёр яе.

— Не,—сказаў ён,—я не магу... У мяне рука дрыжыць! І ён перадаў запалку Герберту.

Бясспрэчна, яшчэ ніколі ў сваім жыцці юнак так не хваляваўся, як цяпер. Сэрца яго шалёна білася. Але тым не менш ён рашуча пацёр запалку аб камень. Пачуўся трэск, і ўспыхнула невялічкае полымя. Герберт апусціў запалку

---

[1] Трэба помніць, што ў той час былі так званыя „небяспечныя“ фосфарныя запалкі, якія загараліся ад трэння аб кожную шурпатую рэч. *Заўвага пер.*

галоўкай уніз, каб даць ёй разгарэцца і потым запаліў паперку. Праз некалькі хвілін вясёлы агонь палаў у «Каміне».

— Нарэшце!—сказаў Пенкроф.—Я ўвесь дрыжэў ад неспакою! Цяпер ужо няцяжка падтрымліваць агонь увесь час, трэба толькі заўсёды пакідаць гарачыя вуталлі пад попелам. Дроў у нас хапае, патрэбна толькі ўвага.

Як толькі агонь разгарэўся, Пенкроф пачаў гатаваць вячэру. Герберт прынёс дзве дзюжыны галубіных яек, але марaку, які ганарыўся тым, што ён ведае пацьдзесят два спосабы гатавання яек, давялося задаволіцца самым звычайным—спячы іх у гарачым попеле. За некалькі хвілін яйкі спякліся і пацярпеўшыя крушэнне распачалі сваю першую вячэру на новай зямлі.

Яйкі, якія мелі ўсе неабходныя для чалавечага ўжытку вяшчэствы, узмацнілі сілы сяброў. Калі-б не гібель іх старэйшага таварыша, Сайруса Сміта, найбольш вучонага і найбольш вынаходлівага з іх, яны лічылі-б сябе амаль шчаслівымі. Але-ж Сайруса не было, і нават цела яго нельга было пахаваць.

Пасля вячэры Герберт лёг спаць. Карэспандэнт «Н'ю-Йоркскага Герольда» пачаў запісваць у сваёй кніжцы ўсе падзеі за дзень, але, пераможаны стомай, таксама хутка заснуў; марак усю ноч не спаў каля агню, падкладаючы дровы. Адзін Наб не застаўся ў «Каміне»: небарака хлопец да раніцы бадзяўся па ўзбярэжжу, гукаючы свайго загінуўшага гаспадара.

Так прайшла ноч з 25 на 26 сакавік

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

*Вопіс маёмасці.—Трут.—Экскурсія ў лес.—Вечназялёныя дрэвы.—Сляды дзікай звярыны.—Якамара.—Глушцы.—Незвычайная лоўля вудай.*

Няцяжка пералічыць рэчы, якія засталіся ў пацярпеўшых крушэнне.

У іх не было нічога, апроч адзення, якое яны насілі. Выключэннем былі запісная кніжка і гадзіннік Гедэона Спілета, якія ён па няўважлівасці не выкінуў за борт. Але больш нічога—ні зброі, ні інструментаў, ні нават складнога нажа. Усё было выкінута ў акіян.

Выдуманыя героі Даніэля Дэфо і іншых аўтароў рабінзанад ніколі ні траплялі ў такое благое становішча. Абломкі іх уласных або прынесеных да берагу чужых суднаў забяспечвалі іх самым неабходным. Яны не заставаліся без зброі тварам у твар з дзікай прыродай. А тут людзі былі

пазбаўлены ўсяго. З нічога яны павінны былі стварыць усё!

О, каб быў з імі Сайрус Сміт! Яго вынаходлівы розум і вялікія веды дапамаглі-б ім. Магчыма, што не ўсе надзеі на выратаванне былі страчаны... Але, на вялікі жаль, не было чаго і марыць зноў убачыць Сайруса Сміта.

Пацярпеўшыя крушэнне маглі разлічваць толькі на саміх сябе.

Як ні важна было ведаць, куды закінуў іх лёс, але ўсе аднагалосна вырашылі адкласці экспедыцыю для высвятлення гэтага пытання на некалькі дзён, каб запасціся ядой, больш спажыўнай, чым яйкі і малюскі: у прадбачанні будучых нястач і працы перш за ўсё патрэбна было аднавіць сілы.

«Камін» быў досыць выгодным часовым прытулкам. Агонь гарэў, і няцяжка было захаваць палаючыя вугалі. Нарэшце, побач была рака з прэснай вадою. Таму вырашылі пражыць тут некалькі дзён, каб падрыхтаваць як след экспедыцыю ў глыб мацерыка або ўздоўж узбярэжжа.

Гэты праект больш за ўсё падабаўся Набу. Ён не верыў, не хацеў верыць, што Сайрус Сміт загінуў і таму не адважваўся пакінуць месца, каля якога адбылася катастрофа. Пакуль мора не аддасць інжынера, пакуль Наб сваімі вачыма не пабачыць, сваімі рукамі не дакранецца да трупа свайго гаспадара, ён не паверыць, што гэты выдатны чалавек мог так бессэнсоўна загінуць за якіх-небудзь сотню крокаў ад берагу!

Раніпняе снеданне ў гэты дзень, 26 сакавіка, складалася з галубіных яек і літадомаў. Герберт вельмі ў пару знайшоў у шчылінах скал соль, якая ўтварылася ад выпарэння марской вады.

Па скапчэнні снедання марак прапанаваў Спілету пайсці з ім і з Гербертам на паляванне. Але, падумаўшы, яны вырашылі, што каму-небудзь трэба застацца ў пячоры, каб падтрымліваць агонь і на выпадак, праўда, малаверагодны, што Набу, які прадаўжаў пошукі інжынера, спатрэбіцца дапамога. Таму карэспандэнт застаўся ў «Каміне».

— Хадзем, Герберт, — сказаў марак. — Мы знойдзем баявыя прыпасы ў дарозе, а стрэльбаў наломім сабе ў лесе.

Але перад тым, як пайсці, Герберт заўважыў, што не пашкодзіла-б на кожны выпадак зрабіць што-небудзь падобнае на трут.

— Але што?—запытаў Пенкроф.

— Абвугленая анучка часамі можа замяніць трут.

Марак згадзіўся з гэтай прапановай. Праўда, неабходнасць афяраваць насавую хустку не вельмі яго радавала,

але гэтая афяра была немінуча, і клятчатая насавая хустка Пенкрофа неўзабаве была ператворана ў трут. Гэты трут быў пакладзены ў сухое, зацішнае ад ветру і вільгаці месца ў шчыліне скалы.

Было каля дзевяці гадзін раніцы. Надворе зноў псавалася; вецер дзьмуў з паўднёвага ўсходу. Герберт і Пенкроф, адышоўшы ад «Каміна», прыпыніліся і яшчэ раз зірнулі на струменьчык дыму, які ўзнімаўся да вяршыні скалы. Потым яны пайшлі ўздоўж берагу ракі.

У лесе Пенкроф перш-на-перш адламаў два тоўстыя сукі і зрабіў з іх дубіны. Герберт завастрыў канцы іх аб абломак скалы. Вельмі-б дорага ён заплаціў цяпер за нож!

Асцерагаючыся заблудзіцца, марак рашыў не пакідаць з віду берагу ракі, якая звужалася ў гэтым месцы і цякла ў суцэльнай зялёнай засені. Не варта і казаць, што лес быў першабытным і нікім некранутым. Адзіныя сляды, якія заўважыў Пенкроф, былі слядамі нейкіх чацвераногіх; мяркуючы па адбітках, гэта была буйная жывёла, сустрэча з якою была-б не вельмі бяспечная. Адсутнасць чалавечых слядоў не засмуціла марака, а хутчэй узрадавала: знаёмства з жыхарамі гэтай ціхаакіянскай краіны было яшчэ менш жаданым, чым спатканне з драпежнымі звярамі

Амаль не размаўляючы таму, што дарога была цяжкая, Герберт і Пенкроф ішлі вельмі павольна і за гадзіну ледзь адолелі адну мілю. Пакуль што паляванне нельга было назваць удалым; мноства птушак пырхала паміж галін, але яны здаваліся вельмі палахлівымі, і наблізіцца да іх было зусім немагчыма. Паміж іншых пярнатых Герберт заўважыў у балацянай частцы лесу птушку з вострай і падоўжанай дзюбай, якая нагадвала з выгляду зімародка. Аднак, яна адрознівалася ад апошняга больш грубым з металічным бляскам пер'ем.

— Гэта, мусіць, якамара,—сказаў Герберт, стараючыся бліжэй падыйсці да птушкі.

— Я не супроць таго, каб пакаштаваць мяса якамары,— адказаў марак,—калі-б гэтая птушка ласкава дазволіла засмажыць сябе.

У гэты момант спрытна кінуты юным натуралістам камень ударыў птушку ля асновы крыла. Але ўдар быў не вельмі моцны, і якамара зараз-жа знікла з вачэй.

— Які я няспрытны!—з прыкрасцю ўсклікнуў Герберт.

— Не, мой хлопчык,—адказаў матрос,—удар быў трапны, не кожны мог-бы так ударыць. Не бядуй, мы зловім яе другім разам!

Яны рушылі далей. Што больш яны паглыбляліся ў лес, тым гусцейшы і велічны ён быў. Але ні на адным з дрэў не было ўжыўных пладоў. Пенкроф дарэмна шукаў якое-небудзь з каштоўных пальмавых дрэў, якія маюць такі шырокі ўжытак у хатнім побыце. Але гэты лес складаўся выключна з хвойных дрэў, у тым ліку з раней ужо заўважаных Гербертам дэадараў і пышных ёлак, вышынёю ў сто пяцьдзесят футаў.

Раптам уперадзе юнака ўзнялася стайка невялікіх птушак. Яны рассыпаліся ў галлі, губляючы наляту свае лёгкія пёрцы, якія, нібы пух, ападалі на зямлю. Герберт нахіліўся, падняў некалькі пер'яў і, разгледзеўшы іх, сказаў:

— Гэта куруку!

— Я хацеў-бы, каб гэта былі пеўні або цэсаркі,—адказаў Пенкроф.—Ці можна іх есці?

— Вядома. Яны вельмі смачныя. Калі я не памыляюся, яны падпускаюць паляўнічых зусім блізка да сябе. Іх можна забіць кійком.

Марак і хлапец падкраліся да дрэва, ніжняе галлё якога было ўсыпана птушкамі, якія лавілі машкару. Паляўнічыя, махаючы дубінамі, як косамі, адразу збівалі цэлыя рады дурных птушак, якія і не думалі ўцякаць. Толькі пасля таго, калі сотня птушак упала на зямлю, астатнія пачалі ратавацца.

— Вось гэта дзічына для такіх паляўнічых, як мы з табою, Герберт!—сказаў, смеючыся, Пенкроф.—Яе можна ўзяць голымі рукамі!

Марак, нанізаў куруку, як жаўранкаў, на гібкі дубец, і паляўнічыя зноў рушылі наперад.

Як вядома, яны павінны былі загатовіць як мага больш ежы. Таму не дзіва, што Пенкроф бурчэў кожны раз, калі якая-небудзь жывёліна або птушка, якіх ён не паспяваў нават разгледзець, знікалі ў высокай траве. Каб хоць Топ быў з імі! Але Топ знік адначасова са сваім гаспадаром і напэўна, таксама загінуў.

Каля трох гадзін папаўдні паляўнічыя ўбачылі на галлі некалькі пар глушцоў. Герберт пазнаў самцоў па іх пер'і.

Пенкроф узгарэўся ахвотай злавіць адну з гэтых вялікіх, як курыца, птушак, чыё мяса не горшае на смак за мяса рабца. Але гэта было нялёгка зрабіць, бо глушцы не падпускалі блізка да сябе.

Пасля некалькіх няўдалых спроб, якія толькі ўзгналі птушак, марак сказаў юнаку:

— Давядзецца, як відаць, лавіць іх вудай!..

— Як рыбу?—усклікнуў здзіўлены Герберт.

— Так, як рыбу,—спакойна адказаў марак.

Пенкроф знайшоў некалькі тонкіх ліян і прывязаў іх адну да адной. Выйшла нешта падобнае на вуду, даўжынёю ў пятнаццаць-дваццаць футаў кожная.

Замест кручкоў, на канцы ён прывязаў вялікія шыпы з вострымі загнутымі канцамі. Гэтыя шыпы ён сарваў з карлікавай акацыі. Прынадай былі буйныя, чырвоныя чарвякі, якія непадалёку поўзалі па зямлі.

Падрыхтаваўшы ўсё, Пенкроф разлажыў «кручкі» ў траве і потым схаваўся з Гербертам за тоўстым дрэвам, трымаючы ў руках другія канцы вудзільняў. Сказаць праўду, Герберт не вельмі верыў у поспех вынаходніцтва Пенкрофа.

Прыкладна праз поўгадзіны, як і прадбачыў марак, некалькі глушцоў наблізіліся да вудаў; яны падскаквалі, клявалі зямлю і, відаць, не падазравалі аб прысутнасці паляўнічых.

Герберт, цяпер ужо вельмі зацікаўлены тым, што адбывалася, затаіў дыханне. Што датычыць Пенкрофа, дык марак стаяў з шырока адкрытымі вачыма і ротам і выцягнутымі наперад губамі, нібы ён ужо каштаваў кавалак смажанага глушца.

Між тым птушкі скакалі каля прынады, не звяртаючы на яе ўвагі. Тады Пенкроф пачаў лёганька торгаць канцы вуд, каб чарвякі нагадвалі яшчэ жывых. Безумоўна, перажыванні марака ў гэтую хвіліну былі на многа вастрэйшыя чым у звычайнага рыбалова, у якога «не клюе».

Торганне вудачак прыцягнула ўвагу птушак, і яны пачалі кляваць чарвякоў. Тры пражэрныя глушцы праглынулі прынаду разам з кручком.

Вось гэта і патрэбна было Пенкрофу.

Рэзкім рухам рукі ён «падсёк» здабычу, і хлопанне крылляў паказала яму, што птушкі злоўлены.

— Ура!—крыкнуў марак, выскакваючы з засады і кідаючыся да птушак.

Герберт запляскаў далонямі. Ён упершыню ў жыцці бачыў, як ловяць птушак на вуду. Але Пенкроф скромна ўхіліўся ад віншаванняў, прызнаўшыся, што ён не ўпершыню робіць гэта ды і вынаходніцтва належыць не яму.

— Але ў нашым становішчы нам не адзін раз давядзецца займацца вынаходніцтвам,—сказаў ён.

Звязаўшы птушак за ногі, Пенкроф прапанаваў Герберту варочацца. Дзень канчаўся.

Паляванне было зусім удалым.

Яны варочаліся ўніз па рэчцы. Заблудзіцца было немагчыма, і да шэсці гадзін вечара, парадкам стаміўшыся ад хады, Пенкроф і Герберт падышлі да «Каміна».

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

*Наб яшчэ не вярнуўся.—Развагі журналіста.—Вячэра —Надвор'е зноў псуецца.—Страшэнная бура.—За восем міль ад прыстанішча.*

Гедэон Спілет, скрыжаваўшы рукі на грудзях, нерухома стаяў на беразе і глядзеў на акіян. На гарызонце расла і шпарка распаўзалася на ўсё неба вялікая чорная хмара. Вецер, які быў моцны і да гэтага, павялічваўся з надыходам ночы. Неба было змрочнае і абяцала буру.

Журналіст быў так паглыблены ў свае думкі, што і не заўважыў, як да яго падышлі Пенкроф і Герберт.

— Будзе бурная ноч, містэр Спілет,—сказаў марак.

Гедэон Спілет жвава павярнуўся і няўцямна адказаў.

— Як на вашу думку, на якой адлегласці ад берагу хваля змыла Сайруса Сміта?

Марак, які не чакаў гэтага пытання, прызадумаўся.

— Не больш як за два кабельтовы,—сказаў ён паразважаўшы з хвіліну.

— А што такое кабельтоў?—запытаў Гедэон Спілет

— Шэсцьсот футаў.

— Значыць, Сайрус Сміт знік за тысячу дзвесце футаў ад берагу?

— Прыблізна,—адказаў Пенкроф.

— І яго сабака таксама?

— Так.

— Мяне больш за ўсё здзіўляе,—сказаў карэспандэнт, — гібель сабакі і тое, што мора не выкінула ні яго трупа, ні трупа яго гаспадара.

— Пры такім бурным моры гэта нядзіўна,—адказаў марак.—Апрача таго, плынь магла аднесці трупы далёка ў бок ад гэтага берагу.

— Значыць, вы цвёрда пераканаены, што інжынер загінуў?

— На вялікі жаль, так.

— Вельмі паважаючы ваш марскі вопыт, Пенкроф,— сказаў журналіст,—я думаю, што ў знікненні Сміта і яго сабакі—жывыя яны або мёртвыя— ёсць штосьці нерастлумачальнае і неверагоднае.

— І я хацеў-бы так думаць, як вы, уздыхнуўшы, сказаў марак.—На няшчасце, я зусім не сумняваюся, што наш спадарожнік загінуў...

Гаворачы гэта. Пенкроф адышоў ад журналіста і вярнуўся ў «Каміны». Вясёлы агонь патрэскваў у ачагу. Герберт толькі што падкінуў у агонь бярэмя сухога галля, і ўзнятае полымя асвятляла самыя цёмныя куткі звілістага калідора.

Пенкроф заняўся прыгатаваннем ежы. Ён вырашыў згатаваць смачную вячэру, бо ўсім патрэбна было аднавіць сілы. Вязанка куруку была адкладзена на наступны дзень, і марак абшчыпаў двух глушцоў. Неўзабаве насаджаная на ражон дзічына смажылася над агнём.

Да сямі гадзін вечара Наб яшчэ не вярнуўся. Яго адсутнасць на працягу доўгага часу пачынала непакоіць Пенкрофа. Ён баяўся, ці не здарылася з небаракам хлопцам якое-небудзь няшчасце ў гэтай недаследаванай мясцовасці або, яшчэ горш, ці не скончыў ён самагубствам у роспачы. Але Герберт зусім іначай вытлумачыў адсутнасць Наба. На яго думку, Наб не варочаўся таму, што здарылася нешта такое, што прымусіла яго прадаўжаць пошукі. А кожная новая акалічнасць магла быць толькі карыснай для Сайруса Сміта! Калі Наб яшчэ не вярнуўся, значыць, у яго ўзнікла новая надзея. Можа, ён напаткаў сляды чалавека? Можа быць ён ішоў цяпер па гэтых слядах. Або—чаго толькі не бывае!—можа, ён ужо знайшоў свайго гаспадара?

Так разважаў Герберт. Спадарожнікі не перапынялі яго. Журналіст нават кіўнуў галавою ў адзнаку згоды. Але Пенкроф не сумняваўся, што Наб проста зайшоў далей, як учора, і таму спазняецца.

Герберт, які хваляваўся ад няясных прадчуванняў, некалькі разоў парываўся пайсці сустракаць Наба, але Пенкроф давёў яму, што гэта было-б дарэмна: у такую цемру нематчыма было знайсці сляды Наба і разумней будзе проста чакаць яго. Калі-ж Наб не вернецца ноччу, дык досвіткам ён, Пенкроф, першы пойдзе на пошукі.

Гедэон Спілет дадаў, што ім не варта разлучацца, і Герберту давялося адмовіцца ад свайго плана. Але дзве буйныя слязінкі скаціліся па яго шчаках.

Між тым надвор'е відавочна псавалася. Вялізны шквал раптоўна пранёсся над узбярэжжам. Акіян, не зважаючы на тое, што цяпер быў адліў, люта шумеў, разбіваючы свае валы аб узбярэжныя скалы. Воблакі пяску, перамешанага з вадзяным пылам, ляталі ў паветры.

Вецер дзьмуў так моцна, што дым ад агню не знаходзіў выхаду з вузкай дзіркі ў скале і запоўніў калідоры «Каміна».

Таму, як толькі глушцы падрумяніліся, Пенкроф паменшыў агонь, пакінуўшы толькі гарачыя вугаллі пад попелам.

Да васьмі гадзін вечара Наб усё яшчэ не вярнуўся. Усе рашылі, што непагода прымусіла яго схавацца дзе-небудзь і чакаць пакуль развіднее.

Дзічына была вельмі прыемнай на смак. Пенкроф і Герберт, у якіх доўгая экскурсія абудзіла вялікі апетыт, прагна накінуліся на яе.

Пасля вячэры ўсе ляглі спаць. Герберт заснуў адразу.

Бура разбушавалася не на жарты. Вецер зрабіўся такі моцны, як той ураган, што закінуў паветраны шар з Рычмонда ў гэты далёкі куток Ціхага акіяна. «Камін», які быў выхадам на ўсход, трапіў пад самыя моцныя ўдары урагану. На шчасце, награмаджэнне скал, якое дало прытулак пацярпеўшым крушэнне, было такое моцнае, што ім зусім не пагражала небяспека.

Не зважаючы на шаленства буры, грукат валаў і грымоты перуна, Герберт моцна спаў. Сон урэшце адолеў і Пенкрофа, якога мора прывучыла да ўсяго. Не спаў толькі адзін Гедэон Спілет. Ён наракаў на сябе за тое, што не пайшоў разам з Набам.

— Што здарылася з небаракам хлопцам? Чаму ён не вярнуўся?

Журналіст варочаўся з боку на бок на сваёй пясчанай пасцелі, не звяртаючы ўвагі на разбушаваную стыхію. Часамі ад стомы яго павекі зліпаліся, але адразу-ж якаянебудзь новая думка адганяла сон.

Каля двух гадзін ночы Пенкроф, які спаў моцна, адчуў, што нехта штурхае яго ў бок.

— Што здарылася?—крыкнуў Пенкроф, прабуджаючыся і шпарка авалодваючы сваімі думкамі, што ўласціва маракам.

Журналіст стаяў, нахіліўшыся да яго.

— Слухайце, Пенкроф, слухайце!—прашаптаў ён.

Марак настаражыўся, але нічога, апрача выцця буры, не пачуў.

— Гэта вецер,—сказаў ён.

— Не,—запярэчыў Гедэон Спілет.—Я пачуў...

— Што?

— Як брахаў сабака!

— Сабака?!

Пенкроф ускочыў на ногі.

— Так.

— Гэта немагчыма! Ды яшчэ калі так вые вецер.

— Вось... слухайце!—перапыніў яго карэспандэнт.

Сапраўды, калі на момант бура сціхла, Пенкроф пачуў як недзе далёка брэхаў сабака.

— Чуеце?—запытаў карэспандэнт, сціскаючы яго руку.

— Так... так...—адказаў Пенкроф.

— Гэта Топ! Топ!—крыкнуў, прачнуўшыся Герберт. Усе трое рынуліся да выхаду з «Каміна».

Выйсці было цяжка. Вецер, які дзьмуў у лоб, штурхаў іх назад. Толькі ўчапіўшыся за скалы, яны змаглі як-небудзь устаяць на нагах.

Цемра была непраглядная. Мора, неба, зямля былі аднолькава беспрасветна чорныя. На працягу некалькіх хвілін журналіст і двое яго таварышоў стаялі, аглушаныя бурай, заліваемыя дажджом, асепленыя пяском. Але раптам да іх зноў далящеў сабачы брэх.

Гэта мог брахаць толькі Топ. Невядома толькі, быў ён адзін ці іншоў з кім?

Мерак пацісну руку журналіста, просячы яго застацца на месцы,—словы не былі чутны,—і рынуўся ў пячору. Праз хвіліну ён вярнуўся, трымаючы ў руках палаючую галавешку. Падняўшы яе над галавою, ён пранізліва свіснуў. У адказ пачуўся ўжо больш блізкі брэх, і хутка ў пячору ўбег сабака. Герберт, Пенкроф і Спілет рушылі за ім.

Мерак падкінуў на агонь сухога галля, і языкі полымя асвятлілі калідор.

— Гэта Топ!—крыкнуў Герберт.

Гэта сапраўды быў Топ, цудоўны англа-нармандскі сабака, які атрымаў ад скрыжавання двух парод шпаркія ногі і дасканалы нюх—дзве вельмі важныя якасці для паляўнічага сабакі.

Гэта быў сабака Сайруса Сміта.

Але ён быў адзін—ні інжынер, ні Наб не ішлі за ім.

Незразумела, якім чынам інстынкт мог давесці сабаку да «Каміна», дзе ён ніколі не быў. Але яшчэ больш незразумелым было тое, што Топ, які вытрымаў барацьбу з непагодай, выглядаў не змораным.

Герберт прыцягнуў сабаку да сябе і гладзіў яго. Топ радасна пацёрся галавою аб рукі юнака.

— Калі знайшоўся сабака—значыць, знойдзецца і яго гаспадар!—сказаў журналіст.—У дарогу! Топ павядзе нас!

Пенкроф не пярэчыў. Ён разумеў, што з прыходам сабакі яго сумныя меркаванні страцілі аснову.

— У дарогу!—гукнуў і ён.

Ён старанна засыпаў попелам гарачыя вуголлі, каб захаваць агонь, забраў рэшткі вячэры і, свіснуўшы Топу, пайшоў да выхаду. За ім рушылі Герберт і журналіст.

Бура дасягнула найвялікшага напружання. Густыя хмары зусім не прапускалі святла. Выбіраць дарогу было немагчыма. Лепш за ўсё было давярыцца інстынкту Топа.

Так і зрабілі. Спілет і Герберт ішлі следам за сабакам, а марак—за імі.

Лютаваўшы з нечуванай сілай ураган ператвараў струмені ліўня ў вадзяны пыл. Аднак, адна акалічнасць спрыяла пацярпеўшым крушэнне: ураган дзьмуў з паўднёвага ўсходу, гэта значыць проста ў спіну ім, і не толькі не запыняў, а нават паскараў хаду. У дадатак надзея знайсці згубленага таварыша ўзмацняла сілы. Пацярпеўшыя крушэнне не сумняваліся ў тым, што Наб знайшоў свайго гаспадара і паслаў па іх надзейнага Топа. Толькі невядома, быў інжынер яшчэ жывы ці Наб выклікаў сваіх таварышоў толькі для таго, каб у апошні раз ушанаваць яго прах?

Да чатырох гадзін раніцы яны прайшлі каля пяці міль. Пенкроф, Спілет і Герберт прамоклі да ніткі і пакутвалі ад холаду, але ні адна скарга не сарвалася з іх губ. Яны былі гатовы ісці за Топам, куды-б разумная жывёла іх не павяла.

— Сайрус Сміт выратаваны, Топ? Хіба не праўда?— пытаўся Герберт.

І сабака брахаў у адказ.

Каля пяці гадзін раніцы пачало віднець. У шэсць настаў дзень. Воблакі вельмі шпарка імчаліся высока ў небе. Марак і яго спадарожнікі адышлі не менш як шэсць міль ад «Каміна». Яны ішлі цяпер уздоўж плоскага пясчанага берагу. З правага боку, паралельна берагу, цягнулася града скал, але цяпер, у час высокага прыліву, відаць былі толькі іх верхавіны.

Па левую руку ўзбярэжжа былі дзюны, якія зараслі чартапалохам. Бераг меў выгляд дзікай прасторнай пясчанай пляцоўкі.

Сям-там раслі адзінокія пакрыўленыя дрэвы. Моцны паўднёва-заходні вецер прыгінаў іх голле да зямлі.

Далёка ў глыбіні, на паўднёвым захадзе, відаць была ўскраіна лесу.

У гэтую хвіліну Топ пачаў вельмі непакоіцца. Ён то кідаўся наперад, то варочаўся назад, да марака, як-бы ўпрашваючы яго ісці хутчэй. Сабака пакінуў бераг і, кіруючыся сваім дасканалым нюхам, без ваганняў павярнуў за дзюну. Людзі пайшлі следам за ім.

Мясцовасць была зусім пустэльнай. Ні аднаго жывога стварэння не было відаць наўкола. За краем дзюн відаць быў ланцуг дзіўна раскінутых узгоркаў.

Гэта была маленькая пясчаная Швейцарыя, і, каб не было вострага сабачага чуцця, нельга было-б арыентавацца

ў ёй. Праз пяць хвілін хады па дзюнах журналіст і яго таварышы падышлі да грота ўнізе высокага ўзгорка. Тут Топ спыніўся і забрахаў. Пенкроф, Спілет і Герберт ўвайшлі ў грот.

Тут яны ўбачылі Наба, які на каленях схіліўся над целам, што ляжала на падсцілцы з травы. Гэта быў інжынер Сайрус Сміт.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

*Ці жывы Сайрус Сміт?—Расказ Наба.—Сляды ног.—Невырашальнае пытанне.—Першыя словы.—Параўнанне слядоў.—Зварот у „Камін".—Пенкроф апанаван жахам.*

Наб не варушыўся. Пенкроф толькі пра адно ў яго запытаў:

— Жывы?

Наб не адказаў. Гедэон Спілет і Герберт збялелі. Герберт скрыжаваў рукі на грудзях і нібы скамянеў.

Але было відаць, што апанаваны сваім горам Наб не заўважыў таварышоў і не чуў пытання марака.

Журналіст апусціўся на калені каля нерухомага цела і, расшпіліўшы вопратку на грудзях інжынера, прыклаў вуха да сэрца. Хвіліну—яна здалася ўсім цэлым векам—ён прыслухоўваўся, стараючыся пачуць слабае біенне сэрца.

Наб выпрастаўся. Ён пазіраў на таварышоў блукаючымі вачамі. Знясілены стомаю, разбіты роспаччу, ён быў непазнавальны. Ён лічыў свайго гаспадара нежывым.

Пасля доўгага і ўважлівага агляду Гедэон Спілет устаў з кален.

— Сайрус жывы,—сказаў ён.

Пенкроф у сваю чаргу апусціўся на калені. Яго вуха таксама падлавіла ледзь чутнае біццё сэрца і ледзь прыметнае дыханне.

Па просьбе журналіста Герберт пабег па ваду. За сто крокаў ад пячоры ён знайшоў у пясках празрысты ручаёк. Але пад рукою не знайшлося ніводнай ракавіны, у якую можна-б было набраць вады. Юнак намачыў у ручаі сваю носавую хустку і бегам вярнуўся ў грот.

На шчасце, гэты вільготны кавалак палатна зусім задаволіў Гедэона Спілета; ён хацеў толькі змачыць губы інжынера і сапраўды, некалькі кропель свежай вады зрабілі сваё дзеянне амаль умомант. Уздых вырваўся з грудзей Сайруса Сміта. Герберту нават здалося, што ён спрабуе штосьці сказаць.

— Мы выратуем яго!—сказаў журналіст.

Гэтыя словы вярнулі Набу надзею. Ён распрануў свайго гаспадара, каб паглядзець, ці няма ў яго ран на целе. Але самы ўважлівы агляд не выявіў ніводнай драпіны. Гэта было дзіўным: бо Сайруса Сміта пранесла праз буруны.

Але высвятленне гэтай загадкі будзе пасля. Калі Сайрус Сміт здолее гаварыць, ён раскажа пра ўсё, што здарылася з ім. А цяпер трэба было вярнуць яго да жыцця. Гедэон Спілет прапанаваў зрабіць яму расціранне. Пенкроф неадкладна зняў з сябе фуфайку і пачаў энергічна расціраць ёю цела інжынера. Сагрэты гэтым грубым масажам, Сайрус Сміт ледзь шавяльнуў рукою. Дыханне яго зрабілася больш роўным. Ён, як відаць, паміраў ад знясілення, і, каб не прыйшлі ў час яго таварышы, Сайрус Сміт загінуў-бы.

— Вы лічылі гаспадара мёртвым?—запытаў у Наба марак.

— Так,—адказаў Наб.—Калі-б Топ не знайшоў вас і вы не прыйшлі, я пахаваў-бы свайго гаспадара і сам-бы памёр каля яго магілы...

Наб расказаў, як ён знайшоў Сайруса Сміта. Напярэдадні, пакінуўшы досвіткам «Камін», ён пайшоў уздоўж берагу на поўнач, на тых месцах, дзе ўжо аднойчы праходзіў. Там,—Наб прызнаўся, што рабіў гэта без усякай надзеі,— ён яшчэ раз пачаў аглядаць пясок, скалы, шукаючы хоць-бы ледзь прыкметныя сляды, якія маглі-б навесці яго на правільны шлях. Асабліва ўважліва шукаў ён сляды на той частцы берагу, якая не залівацца вадою ў часе прыліваў: прылівы і адлівы сціраюць з пяску ўсякія сляды. Наб не спадзяваўся знайсці свайго гаспадара жывога. Ён шукаў труп, каб пахаваць яго ўласнымі рукамі.

Наб шукаў доўга, але без вынікаў. Непрыкметна было, каб чалавек наведваў калі-небудзь гэты пустэльны бераг. Сярод тысяч ракушак, якімі была ўсыпана зямля, не было ніводнай раздушэнай. Нідзе не было нават самых малых слядоў прабывання чалавека, ні свежых, ні старых.

Наб вырашыў прайсці яшчэ некалькі міль уздоўж берагу: плынь магла аднесці труп на вялікую адлегласць, але, калі тапелец знаходзіцца блізка ад нізкага берагу, рэдка бывае, каб хвалі не прыбілі яго раней ці пазней да зямлі.

Наб ведаў гэта і хацеў у апошні раз убачыць свайго гаспадара.

— Я прайшоў яшчэ дзве мілі, агледзеў усе рыфы, якія агаляліся пры адліве і не спадзяваўся ўжо што-небудзь знайсці, як раптам каля пяці гадзін вечара я ўбачыў на пяску адбіткі ног...

— Адбіткі ног?!—крыкнуў Пенкроф

— Так!

— І гэтыя сляды пачыналіся каля самых рыфаў?—запытаў журналіст.

— Не,—адказаў Наб.—Яны пачыналіся там, дзе канчаецца лінія прыліву. Сляды за гэтай лініяй, мусіць, сцерліся ў часе адліву.

— Гавары, Наб,—папрасіў Гедэон Спілет.

— Убачыўшы гэтыя сляды, я нібы звар'яцеў. Сляды былі зусім выразныя і накіроўваліся да дзюн. Чвэртку мілі я ішоў па гэтых слядах асцярожна, каб не затаптаць іх. Праз пяць хвілін я пачуў сабачы брэх. Гэта быў Топ. І Топ прывёў мяне сюды, да майго гаспадара!

Пад канец Наб расказаў пра сваё гора, калі ўбачыў гэтае нерухомае цела. Ён дарэмна шукаў у ім адзнак жыцця. Але ўсе яго старанні вярнуць інжынеру прытомнасць былі дарэмнымі. Адзінае, што заставалася,—гэта апошні раз ушанаваць таго, каго верны слуга любіў больш за ўсё на свеце!

Тады Наб успомніў пра сваіх таварышоў. І яны, напэўна, захочуць у апошні раз убачыць Сміта. Топ быў побач. Ці не можа ён даверыцца гэтай вернай жывёле? Наб некалькі разоў назваў імя Гедэона Спілета, таго з спадарожнікаў інжынера, якога Топ ведаў лепш як іншых. Потым ён наставіў яго мордай на поўдзень і махнуў рукою. Топ пабег у паказаным напрамку. Чытач ведае, як, кіруючыся нейкім незвычайным інстынктам, Топ, які ніколі не быў у «Каміне», знайшоў яго.

Таварышы Наба праслухалі гэты расказ вельмі ўважліва. Ім было зусім незразумела, як магло здарыцца, што Сайрус Сміт, пасля жорсткай барацьбы з хвалямі, якую ён павінен быў вытрымаць, плывучы праз буруны, не меў ніводнай драпіны. Не менш загадкавым было тое, як дабраўся інжынер да гэтага грота, закінутага сярод дзюн, амаль за мілю ад берагу.

— Значыць, гэта не ты, Наб, даставіў свайго гаспадара ў грот?—запытаў журналіст.

— Не, не я,—адказаў Наб.

— Ясна, што містэр Сміт дабраўся сюды сам,—заўважыў марак.

— Ясна то ясна, але зусім незразумела,—заўважыў Гедэон Спілет.

Гэтую таямніцу мог растлумачыць толькі сам інжынер. А для гэтага трэба было чакаць, каб ён загаварыў. На шчасце, жыццё хутка варочалася да яго. Расціранне дапамагло аднавіць рух крыві. Сайрус Сміт зноў паварушыў

рукою, потым галавою, і, нарэшце, некалькі няўцямных слоў сарвалася з яго губ.

Наб, нахіліўшыся да яго, пазваў яго; але інжынер, як відаць, не пачуў вокліча, і вочы яго паранейшаму былі заплюшчаны. Жыццё праяўлялася ў ім толькі рухамі, прытомнасць усё яшчэ не варочалася.

Пенкроф пашкадаваў, што ў яго не было ні агню, ні магчымасці распаліць яго. На няшчасце, ён не здагадаўся ўзяць з сабою трут, які лёгка было-б запаліць звычайным ударам аднаго каменьчыка аб другі. У кішэнях-жа інжынера, калі не лічыць гадзінніка, зусім нічога не было. Патрэбна было, выходзіць, перанесці Сайруса Сміта ў «Камін», і як мага хутчэй. Такая была агульная думка.

Між тым інжынер патроху ачуньваў. Вада, якою яму змачвалі губы, рабіла свой уплыў. Пенкрофу прышла ў галаву шчаслівая думка размяшаць у гэтай вадзе крышку соку ад смажанага глушца.

Герберт, збегаўшы на бераг мора, прынёс дзве ракавіны. Марак прыгатаваў сваю мікстуру і паднёс яе да рота інжынера. Той прагна ўсё выпіў. Пасля тэтага павекі яго расплюшчыліся.

Наб і журналіст нахіліліся да яго.

— Гаспадар! Гаспадар!—крыкнуў Наб.

Цяпер інжынер пачуў яго. Ён пазваў Наба і Спілета, потым Герберта і марака і ледзь прыкметна пацiснуў ім рукі.

Зноў ён праказаў некалькі слоў, як відаць, паўтараючы пытанне, якое не давала яму спакою нават у непрытомнасці. Гэтым разам яго словы зразумелі ўсе:

— Востраў ці мацярык?

— Ах!—не мог стрымаць вокліча Пенкроф.—Чорт вазьмі, для нас гэта зусім аднолькава, містэр Сміт! Абы вы былі жывыя! Востраў ці мацярык? Даведаемся пасля!

Інжынер злёгку кіўнуў галавою ў знак згоды і нібы заснуў.

Усе змоўклі, каб не трывожыць яго сну. Журналіст параіў пакуль што падрыхтаваць насілкі, каб перанесці інжынера ў «Камін». Наб, Пенкроф і Герберт вышлі з грота і накіраваліся да высокага ўзгорка, на якім расло некалькі чэзлых дрэў. Па дарозе марак няспынна паўтараў:

— Востраў ці мацярык! І думаць пра гэта, калі ледзь дыхае! Што за чалавек!

Узабраўшыся на вяршыню ўзгорка, Пенкроф і яго таварышы абламалі самыя тоўстыя галіны морскай сасны,

пасля зрабілі з гэтага галля насілкі; засланыя травою і ліс·цем, яны служылі досыць зручнай пасцеллю.

Гэта заняло каля сарака хвілін, і было ўжо дзесяць гадзін раніцы, калі марак, Герберт і Наб вярнуліся да інжынера, якога не пакідаў Гедэон Спілет.

Сайрус Сміт толькі што прачнуўся, ці больш правільна, апамятаўся ад забыцця, у якім знаходзіўся. Шчокі яго, зусім бледныя да гэтага часу, крыху паружавелі. Ён прыўзняўся, азірнуўся наўкола, нібы пытаючыся, дзе ён знаходзіцца.

— Ці можаце вы мяне выслухаць, Сайрус, не стамляючыся?—запытаў журналіст.

— Так,—адказаў інжынер.

— Мне здаецца,—перарваў іх гаворку марак,—што містэр Сміт з большай ахвотай выслухае вас, калі з'есць крыху гэтага жэле з глушца. Еш'це, містэр Сміт!—сказаў ён, падаючы інжынеру нешта падобнае да жэле, да якога ён дабавіў цяпер некалькі кавалачкаў глушца.

Рэшткі смажаніны былі падзелены паміж таварышамі, усе згаладаліся, і снеданне здалося для ўсіх вельмі слабым

— Нічога,—сказаў марак,—нас чакае ежа ў «Каміне». Не пашкодзіць вам, містэр Сміт, ведаць, што там, на поўдні, у нас ёсць дом з пакоямі, пасцелямі, ачагом, і ў кухні некалькі дзюжын птушак, якіх Герберт называе курукү. Насілкі для вас гатовы, і, як толькі вы крыху надужэеце, мы перанясем вас у наш прытулак.

— Дзякуй, дружа!—адказваў інжынер.—Яшчэ гадзіну—другую, і мы зможам адпраўляцца. Цяпер расказвайце, Спілет!

Журналіст пачаў расказваць інжынеру пра ўсе падзеі, якіх ён не ведаў: пра апошні ўзлёт шара, пра спуск на гэтую невядомую зямлю, якая здавалася пустэльнай, пра знаходку «Каміна», пра пошукі яго цела, пра адданасць Наба, пра подзвіг вернага Топа і т. д.

— Але,—слабым голасам запытаў Сайрус Сміт,—хіба не вы знайшлі мяне на беразе?

— Не,—адказаў журналіст.

— І не вы перанеслі мяне ў гэты грот?

— Не.

— На якой адлегласці ад рыфаў ён знаходзіцца?

— Прыблізна за поўмілі,—адказаў Пенкроф.—Мы і самі дзівіліся, што знайшлі вас у гэтым месцы.

— Сапраўды, як гэта дзіўна!—сказаў інжынер, патроху ажыўляючыся і ўсё больш цікавячыся падрабязнасцямі.

— Але,—прадаўжаў марак,—вы нам не расказалі, што здарылася з вамі пасля таго, калі вы былі змыты хваляй з паветранага шара.

Сайрус Сміт мала што памятаў. Хваля адарвала яго ад аэрастата. Спярша ён нырнуў на некалькі футаў у ваду. Калі ён выбраўся на паверхню акіяна, ён заўважыў побач сябе нейкае жывое стварэнне. Гэта быў Топ, які рынуўся яму на дапамогу. Зірнуўшы ўгару, ён не знайшоў у небе шара; вызваліўшыся ад яго цяжару і цяжару Топа, аэрастат паляцеў, як страла. Інжынер убачыў, што знаходзіцца сярод гнеўных хваль, за поўмілі ад берагу. Ён паспрабаваў змагацца з хвалямі і энергічна паплыў да берагу. Топ падтрымліваў яго, учапіўшыся зубамі ў яго вопратку. Але імклівая плынь падхапіла яго, паімчала на поўнач, і праз поўгадзіны супраціўлення, знясілеўшы, ён пачаў тануць, цягнучы за сабою і Топа. Таго, што адбылося потым, да той хвіліны, пакуль ён не ачуняў на руках сваіх сяброў, Сайрус Сміт не памятаў.

— Аднак,—сказаў Пенкроф,—бясспрэчна тое, што вас выкінула на гэты бераг і што ў вас было сілы дабрацца да гэтай пячоры. Гэта-ж Наб знайшоў сляды вашых ног!

— Так, відавочна...—у задуменні адказаў інжынер.— А вы не бачылі слядоў іншых людзей у гэтай мясцовасці?

— Ніводнага,—сказаў журналіст.—Але, калі нават дапусціць, што невядомы ратавальнік, які якраз у час апынуўся на тым месцы, выцягнуў вас з вады і перанёс сюды, дык чаму ён вас пакінуў?..

— Вы праўду кажаце, Спілет!—згадзіўся інжынер.— Скажы, Наб,—прадаўжаў ён, звяртаючыся да свайго слугі,—ці не ты... ці не найшло на цябе на хвіліну запамненне, у часе якога... не, гэта глупства!.. А ці захаваліся гэтыя сляды?

— Так, гаспадар,—адказаў Наб.—Пры ўваходзе ў грот, у зацішным ад ветру і дажджу месцы, відаць адбіткі ног на пяску. Астатнія сляды ўжо, напэўна, сцерліся ветрам і дажджом.

— Пенкроф,—сказаў Сайрус Сміт,—будзьце ласкавы, вазьміце мае камашы і паглядзіце, ці супадаюць яны са следам.

Марак выканаў просьбу інжынера. Разам з Набам, які паказваў дарогу, ён і Герберт пайшлі да месца, дзе захаваўся след.

Тым часам Сайрус Сміт гаварыў журналісту:

— Тут здарылася нешта, чаго нельга вытлумачыць.

— Сапраўды, нельга вытлумачыць,—згадзіўся Гедэон Спілет.

— Не будзем дамагацца вырашыць гэтую загадку зараз, дарагі Спілет. Мы пагаворым аб гэтым пасля!

Праз хвіліну ў грот вярнуліся марак, Герберт і Наб.

Не было ніякага сумнення—камаш інжынера дакладна супадаў са следам.

Значыць, сам Сайрус Сміт пакінуў гэтыя сляды!

— Усё зразумела,—сказаў інжынер,—у мяне былі галюцынацыі, якія я спрабаваў прыпісаць Набу. Відавочна, я ішоў, як лунатык, не ўсведамляючы, куды і чаго іду, і Топ, выцягнуўшы мяне з вады, кіруючыся інстынктам, прывёў мяне сюды... Топ! Ідзі сюды, сабачка! Ідзі да мяне!

Цудоўная жывёліна падбегла да гаспадара, гучным брахannем выказваючы сваю адданасць.

Усе згадзіліся, што іншага тлумачэння падзей нельга было прыдумаць і што толькі адзін Топ выратаваў Сайруса Сміта.

Пад поўдзень Пенкроф запытаў у інжынера, ці вытрымае ён пераноску. Замест адказу, Сайрус Сміт з напружаннем устаў на ногі. Але, зараз-жа ён вымушан быў абаперціся на руку марака, бо інакш ён паваліўся-б.

— Вось і добра,—сказаў Пенкроф.—Падаць насілкі пана інжынера.

Наб прынёс насілкі. Папярочнае галлё было заслана мохам і травою. Паклаўшы інжынера, пацярпеўшыя крушэнне вынеслі яго з грота.

Трэба было прайсці восем міль. З-за таго, што працэсія па неабходнасці пасоўвалася павольна і часта прыпынялася, каб насільшчыкі маглі адпачыць, шлях да «Каміна» заняў у іх не менш шасці гадзін.

Вецер бушаваў як і раней, але дождж спыніўся. Лежачы ў насілках, інжынер уважліва аглядаў мясцовасць. Ён не размаўляў, але глядзеў неадрыўна, і рэльеф мясцовасці з яе няроўнасцямі, лясамі і featuresнай раслінасцю аставаўся ў яго памяці. Але пасля двух гадзін дарогі зморанасць адолела, і ён заснуў.

А палове шостай маленькі атрад падышоў да «Каміна». Усе спыніліся. Насілкі паставілі на пясок. Сайрус Сміт моцна спаў і не прачнуўся.

Пенкроф, вельмі здзівіўшыся, заўважыў, што ўчарашняя бура змяніла выгляд мясцовасці. Адбыліся досыць значныя абвалы. Вялікія абломкі скал ляжалі на беразе, і густы дыван з морскіх траў і водарасляў укрываў узбярэжны пясок. Было відаць, што мора рынулася на бераг і дабралася да

самага падножжа гранітнай сцяны. Каля ўваходу ў «Камін» зямля была зрыта ярасным націскам хваль.

У Пенкрофа сціснулася ад нядобрага прадчування сэрца. Ён кінуўся ў калідор, але амаль адразу вярнуўся і, спыніўшыся на парозе, сумна зірнуў на сваіх спадарожнікаў.

Агонь патух. Замест попелу, у ачагу была толькі ціна. Перапаленая анучка, якая замяняла трут, знікла. Мора прабралася ў сярэдзіну «Каміна», у глыб калідораў, і ўсё перавярнула, усё знішчыла.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

*Сайрус з намі!—Вопыты Пенкрофа.—Востраў ці кантынент?—Праекты інжынера.—У Ціхім акіяне.—У нетрах лесу.—Паляванне на водасвінку.—Прыемны дым.*

Марак каратка расказаў Спілету, Герберту і Набу пра тое, што адбылося. Адсутнасць агню, якая магла мець вельмі сумныя вынікі,—так прынамсі думаў Пенкроф,—зрабіла неаднолькавае ўражанне на таварышоў марака.

Наб, бязмежна шчаслівы выратаваннем свайго гаспадара, не думаў, вярней не хацеў нават думаць аб тым, што сказаў Пенкроф.

Герберт, здавалася, да вядомай ступені падзяляў трывогу марака.

Што датычыць журналіста, дык ён проста сказаў:

— Запэўняю вас, Пенкроф, што гэта зусім не важна!

— Але я кажу вам: мы засталіся без агню!

— Нічога страшнага!

— І ў нас няма ніякай магчымасці распаліць яго!

— Дробязь!

— Але, містэр Спілет!..

— Годзе!.. Хіба Сайруса Сміта няма з намі?—запярэчыў журналіст.—Хіба наш інжынер памёр? Не турбуйцеся, ён знойдзе спосаб распаліць агонь!

— Чым?

— Нічым!

Што мог адказаць Пенкроф на гэта? Ён змаўчаў, таму што ў глыбіні душы падзяляў веру сваіх таварышоў у інжынера.

Для іх Сайрус Сміт быў сховішчам усіх чалавечых ведаў і розуму. Лепш было апынуцца са Смітам на бязлюдным востраве, чым без яго ў буйным прамысловым горадзе Штатаў.

З ім не будзе ні ў чым недастач. З ім нельга было падаваца роспачы. Калі-б спадарожнікам Сайруса сказалі, што

вывяржэнне вулкана зараз знішчыць гэтую зямлю, што мора расступіцца і праглыне яе, яны спакойна адказалі-б: «Сайрус тут, пагаварыце з ім!»

Але скарыстаць яго вынаходлівасць у гэты момант не было магчымасці. Інжынер, стомлены пераноскай, зноў моцна заснуў, а будзіць яго Спілет не дазваляў.

Несамавітая вячэра чакала падарожнікаў: усё мяса глушцоў было з'едзена, а запасы куруку таксама кудысьці зніклі. Даводзілася запасціся цярплівасцю і чакаць.

Сайруса Сміта перанеслі ў памяшканне ўнутры «Каміна» і там паклалі на пасцель з сухіх вадарасляў і моху.

Надышла ноч. Вецер пачаў дзьмуць з паўночнага ўсходу, і тэмпература паветра адразу значна панізілася. А з прычыны таго, што мора размыла перагародкі, якія зрабіў Пенкроф, у «Каміне» гуляў жорсткі скразняк. Інжынер напэўна прастудзіўся-б, калі-б яго спадарожнікі не знялі з сябе хто куртку, хто фуфайку і не ўкрылі яго.

Уся вячэра складалася з тых-жа літадомаў, мноства якіх знайшлі Герберт і Наб на беразе акіяна. Да малюскаў юнак далучыў некаторую колькасць ужыўных вадарасляў—саргасаў,—якія ён сабраў на скалах.

Гэтыя вадарослі ў высушаным выглядзе прадстаўлялі жэлацінавую масу, досыць багатую спажыўнымі рэчывамі і смачную.

Трэба сказаць, што гэтыя вадарослі на азіяцкіх берагах Ціхага акіяна складаюць вельмі важную частку харчовага рацыёна тубыльцаў.

— Усё-такі,—сказаў марак,—ці не час містэру Сміту дапамагчы нам!

Холад тым часам стаў нясцерпны, і не было ніякай магчымасці берагчыся ад яго. Марак пачаў выдумляць розныя спосабы распаліць агонь. Ён знайшоў крыху сухога моху і, б'ючы адным каменем аб другі, спрабаваў іскраю запаліць яго. Але мох не хацеў запальвацца.

Хоць і не верачы ў свой поспех, Пенкроф паспрабаваў усё-ж здабыць агонь тым спосабам, якім здабываюць яго дзікуны: тручы адзін аб адзін два сухія кавалкі дрэва. Калі-б энергія, якую ён і Наб патрацілі на трэнне, была-б ператворана ў цеплавую, яе хапіла-б на тое, каб згатаваць ваду ў катлах трансатлантычнага парахода. Але і гэты вопыт не ўдаўся: кавалачкі дрэва толькі награваліся, ды і то ў значна меншай ступені, чым самі апаратары.

Пасля гадзіны работы Пенкроф абліваўся потам. Ён нецярпліва кінуў кавалкі дрэва.

— Хутчэй зімою будзе горача, чым я паверу, што дзікуны здабываюць гэтым спосабам агонь,—сказаў ён.—Лягчэй, здаецца, запаліць мае рукі, тручы іх адна аб адну!

Але марак казаў няпраўду, адмаўляючы гэты спосаб. Бясспрэчна, дзікуны ўмеюць здабываць агонь шпарка тручы два кавалачкі сухога дрэва. Але перш за ўсё не кожнае дрэва прыгодна для гэтай аперацыі, а па-другое, для яе патрэбна спрактыкаванасць, якой у Пенкрофа не было.

Благі настрой Пенкрофа цягнуўся нядоўга. Кінутыя ім два кавалкі дрэва неўзабаве падняў Герберт. Ён заядла цёр іх адзін аб адзін.

Здаравенны марак зарагатаў, убачыўшы, што слабы хлапчук спрабуе зрабіць тое, што не ўдалося яму.

— Тры, Герберт, тры!—узахвочваў ён яго.

— Я і тру!—смеючыся, адказаў Герберт.—Але ў мяне толькі адно жаданне: сагрэцца. Хутка мне будзе таксама горача, як і табе, Пенкроф.

Так і здарылася. На гэтую ноч давялося кінуць спробу здабыць агонь. Гедэон Спілет дваццаць разоў паўтарыў, што Сайрусу Сміту гэта няцяжка будзе зрабіць, а пакуль што ён улёгся на пяску ў адным з калідораў. Герберт, Пенкроф і Наб зрабілі тое самае. Топ лёг каля ног свайго гаспадара.

На другі дзень, 28 сакавіка, прачнуўшыся, інжынер убачыў сваіх спадарожнікаў каля сябе; яны чакалі, калі ён абудзіцца. Як і напярэдадні першымі яго словамі было:

— Востраў ці кантынент?

Як відаць, гэта была яго неадчэпная ідэя.

— Мы гэтага не ведаем, містэр Сміт,—адказаў марак.— Даведаемся тады, калі вы зможаце весці нас па гэтай зямлі.

— Здаецца, што я ўжо здолею зрабіць гэта,—сказаў інжынер.

Ён устаў на ногі без асаблівых намаганняў.

— Вось і добра!—крыкнуў марак.

— Я паміраю ад голаду! Дайце мне пад'есці, і ў мяне не застанецца ніякіх слядоў слабасці. У вас-жа ёсць агонь, хіба не праўда?

— На жаль, у нас няма, або, праўдзівей, больш няма агню...—крыху памаўчаўшы, прызнаўся марак.

Ён падрабязна расказаў інжынеру пра ўсе падзеі, якія адбыліся да ўчарашняга дня і рассмяшыў таго расказам пра адзіную запалку і спробы здабыць агонь спосабам дзікуноў.

— Пабачым,—сказаў інжынер,—і калі тут не знойдзецца якой-небудзь замены трута....

— Тады што?—перарваў марак.

— Тады мы зробім запалкі!

— Сапраўдныя?
— Самыя сапраўдныя!
— Бачыце, як гэта проста!—сказаў журналіст, хлопаючы марака па плячы.
Марак не быў упэўнены, але і не стаў спрачацца.
Усе выйшлі з «Каміна».
Надвор'е было вельмі добрае. Яркае сонца свяціла ў бязвоблачным небе.
Інжынер сеў на камень. Герберт прапанаваў яму крыху малюскаў і вадаросляў.
— Гэта ўсё, што ў нас ёсць, містэр Сміт,—сказаў ён.
— Дзякуй, галубок,—адказаў інжынер.—Гэтага досыць на сёнешнюю раніцу.
І ён з апетытам з'еў несамавітае снеданне, запіваючы яго вадою з ракавіны.
Паснедаўшы, ён запытаў:
— Значыць, сябры мае, вы да гэтага часу не паспелі даведацца, куды закінуў нас лёс—на востраў ці на мацярык?
— Не паспелі, містэр Сміт,—адказаў юнак.
— Даведаемся пра гэта заўтра. А да таго часу няма чаго рабіць.
— Не, ёсць,—адказаў марак.
— Што іменна?
— Здабыць агонь!
У марака, як відаць, таксама была свая неадчэпная ідэя.
— Здабудзем, Пенкроф!—адказаў інжынер.—Так, учора ў часе пераноскі, мне здалося, што я на захадзе бачыў высокую гару. Ці праўда гэта?
— Праўда,—адказаў Гедэон Спілет.—Гара сапраўды высокая.
— Вельмі добра,—сказаў інжынер,—заўтра мы ўзбярэмся на яе вяршыню. А да таго часу, паўтараю, рабіць няма чаго.
— Не, трэба здабыць агонь,—паўтарыў упарты марак.
— Будзе ў вас агонь, Пенкроф! Крыху цярплівасці,—адказаў журналіст.
Марак зірнуў на яго з такім выглядам, які выразней за словы пераказваў яго думку: «Калі-б ад вас залежала здабыванне агню, мы-б доўгі час не елі смажанага». Але ён змаўчаў.
Сайрус Сміт некалькі хвілін разважаў.
Потым, звяртаючыся да ўсіх сваіх спадарожнікаў, праказаў:
— Сябры мае! Якое ні дрэннае наша становішча, але яно вельмі нескладанае. Або мы на мацерыку,—тады больш або

менш лёгка мы дабярэмся да заселеных месцаў,—альбо мы на востраве. У апошнім выпадку будуць дзве магчымасці: калі астраў заселены—мы выбярэмся з бяды пры дапамозе мясцовых жыхароў; калі ён бязлюдны—нам давядзецца разлічваць толькі на саміх сябе!

— Зразумела,—пацвердзіў Пенкроф.

— Як вы думаеце, Сайрус,—запытаў журналіст,—куды нас закінуў ураган?

— Дакладна не магу вам адказаць, але шмат што гаворыць за тое, што мы ў Ціхім акіяне. Калі мы выляцелі з Рычмонда, вецер дзьмуў з паўночнага ўсходу; яго сіла сведчыць пра нязменнасць яго напрамку. А калі напрамак ветру з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад быў нязменны, дык мы павінны былі праляцець Штаты: Паўночную Каралiну, Паўднёвую Каралiну, Георгію, Мексіканскі заліў, Мексіку і нейкую частку Ціхага акіяна. Мне здаецца, што мы праляцелі ад шасці да сямі тысяч міль. Выходзіць, што шар прынёс нас або на Маркізскія астравы, або на Паўмоту, або, калі хуткасць ветру была большай, як мяркую я, на Новую Зеландыю. У гэтым апошнім выпадку нам лёгка будзе вярнуцца на радзіму: з англічанамі ці маарыйцамі мы хутка згаворымся. Але калі, наадварот, востраў належыць да Мікранезійскага архіпелага, нам давядзецца ўстрайвацца тут так, нібы мы ніколі не зможам вярнуцца на радзіму.

— Ніколі?!—крыкнуў журналіст.—Вы сказалі—ніколі?

— Лепш дапусціць самае горшае,—адказаў інжынер,—і пакінуць у запасе толькі прыемныя нечаканасці.

— Вельмі добра сказана,—ухваліў марак.—Калі гэта востраў, дык можна спадзявацца, што ён знаходзіцца на шляху караблёў.

— Пра гэта ўсё мы даведаемся, калі ўзбярэмся на гару,—сказаў інжынер.—Гэта першая і самая галоўная справа.

— Але ці здолееце вы ўжо заўтра перамагчы цяжкасці гэтага ўзыходжання?—запытаў у інжынера Герберт.

— Спадзяюся,—адказаў інжынер.—Але для гэтага, мой хлопчык, патрэбна, каб ты і Пенкроф давялі, што вы ўдалыя паляўнічыя.

— Калі вы ўжо загаварылі пра яду, містэр Сміт,—адказаў марак,—то дазвольце мне сказаць вам, што калі-б я быў гаксама ўпэўнены ў тым, што вярнуўшыся знайду, на чым смажыць, як у тым, што прынясу дзічыны, каб засмажыць...

— Прыносьце, Пенкроф, прыносьце!—перарваў яго інжынер.

Было вырашана, што Сайрус Сміт і Гедэон Спілет прабудуць дзень у «Каміне» і азнаёмяцца з узбярэжжам і гра-

нітнай сцяною, а Наб, Герберт і Пенкроф тым часам пойдуць у лес і пастараюцца забіць першую жывёліну або птушку, якія трапяцца ім на вочы.

Гэтым разам паляўнічыя, замест таго, каб ісці ўверх па плыні ракі, паглыбіліся проста ў лес.

Топ бег за імі, скачучы і дурэючы ў густой траве.

Гэта быў той самы хваёвы лес, пераважна сасновы. У некаторых месцах, дзе сосны раслі не так густа, асобныя дрэвы былі надзвычай тоўстыя. Гэта наводзіла на думку, што невядомая зямля знаходзілася пад больш высокім градусам шыраты, чым меркаваў інжынер. Некалькі прагалін у лесе былі завалены бураломам; тут былі невычарпальныя склады дроў.

За прагалінамі лес зноў сыходзіўся і рабіўся амаль непраходным.

Паляўнічыя хадзілі ўжо больш як гадзіну, але не спаткалі яшчэ нічога, што-б нагадвала дзічыну.

— Глядзіце, Пенкроф,—уедліва заўважыў Наб.—Калі так будзе і далей, дык для таго, каб прыгатаваць абяцаную вамі смажаніну, не спатрэбіцца вялікага агню.

— Цярплівасць, Наб,—адказаў марак.—Апасаюся, што не дзічыны будзе нястача, калі мы вернемся....

— Значыць, вы не верыце містэру Сміту?

— Веру!

— Але ўсё-ж вы не верыце, што ён здабудзе агонь?

— Я паверу ў гэтае, калі агонь запалае ў ачагу.

— Ён запалае, калі гаспадар сказаў гэта!

— Пабачым.

Сонца яшчэ не дасягнула зеніту. Паляўнічыя няспынна прабіраліся ў глыб лесу. Па дарозе Герберт знайшоў дрэва з ужыўнымі пладамі. Гэта было міндальнае дрэва зусім з даспелымі пладамі.

Герберт паказаў на дрэва сваім спадарожнікам і тыя з ахвотаю пакаштавалі міндаля.

— Ну што-ж,—сказаў Пенкроф.—Вадаросці—замест хлеба, сырыя малюскі—замест дзічыны і міндаль на трэцяе—вось самы лепшы абед для людзей, у якіх няма ў кішэні ніводнай запалкі!

— Не трэба наракаць,—сказаў Герберт

— Я і не наракаю, мой хлопчык,—адказаў Пенкроф.—Я толькі думаю, што да такога абеда не пашкодзіла-б дабавіць мяса.

— Топ штосьці ўбачыў!—раптам крыкнуў Наб і пабег у гушчар, дзе нечакана знік Топ.

Разам з брэхам сабакі чулася нейкае дзіўнае хруканне.

Марак і Герберт пабеглі за Набам. Калі сабака сапраўды напаткаў дзічыну, дык, раней, чым абмяркоўваць спосабы яе прыгатавання, патрэбна было яе злавіць.

У гушчары яны ўбачылі Топа і нейкую жывёліну, якую ён схапіў за вуха.

Чацвераногае было падобна да кабана. Прадаўгаватае тулава яго было каля двух з паловаю футаў у даўжыню; жорсткая, але не густая, як шчацінне, шэрсць яго мела цёмнакарычневы, амаль чорны колер, але на жываце менш цямнейшы. Кіпцюры яго лап, якімі жывёліна зараз з усіх сіл упіралася ў зямлю, здавалася былі злучаны перапонкамі. Герберт пазнаў у гэтай жывёліне водасвінку—аднаго з буйнейшых прадстаўнікоў атрада грызуноў.

Водасвінка, відаць, упершыню за ўсё сваё жыццё ўбачыўшы людзей, кінула супраціўляцца Топу і толькі недарэчна пакручвала вялікімі вачамі.

Але як толькі Наб падняў дубінку, каб аглушыць водасвінку, яна раптоўна рванулася і, пакінуўшы ў зубах Топа кавалак вуха, моцна равучы рынулася наперад і знікла ў лесе, збіўшы з ног Герберта.

— Ах, нягодніца!—усклікнуў Пенкроф.

Усе тры паляўнічыя паімчаліся следам за Топам. Яны ўжо амаль дагналі жывёліну, але яна рынулася ў невялікае балота, у засені вялізных векавых сосен.

Наб, Герберт і Пенкроф спыніліся на беразе балота. Топ скочыў у ваду, але водасвінка зашылася ў глыбіню і сталілася там.

— Пачакаем,—сказаў юнак.—Яна хутка вернецца на паверхню, каб дыхнуць.

— А ці не патоне водасвінка?

— Не, яна вельмі добра плавае,—адказаў Герберт.

Паляўнічыя абкружылі з усіх бакоў балота, каб загарадзіць адступленне водасвінцы. Топ усё яшчэ плаваў па вадзе.

Герберт не памыліўся: праз некалькі хвілін жывёліна высунула галаву з вады. Топ шпарка падплыў і ўчапіўся ў здабычу зубамі. Праз хвіліну выцягнутая на бераг водасвінка была забіта Набам.

Пенкроф ускінуў яе на плечы і падаў знак варочацца.

Дзякуючы нюху Топа яны лёгка знайшлі старую дарогу.

Праз поўгадзіны яны дайшлі да павароту ракі. Як і першы раз, Пенкроф шпарка змайстраваў плыт з дрывамі, хоць, з-за таго, што не было агню, работа гэтая здавалася

яму бескарыснай. Спусціўшы плыт на ваду, марак і яго спадарожнікі вярнуліся ў «Камін».

За пяцьдзесят крокаў ад прыстанішча Пенкроф спыніўся, крыкнуў гучна «ура» і, паказаўшы рукою ў кірунку скал, усклікнуў:

— Герберт, Наб, зірніце!

З скал у неба ўзнімаўся слуп дыму.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

*Вынаходніцтва інжынера.—Пытанне, якое турбавала Сайруса Сміта.—Узыход на гару.—Лес.—Вулканічная глеба.—Муфлоны.—Першы ярус.—Начлег.—На вяршыні гары.*

Праз некалькі секунд тры паляўнічыя ўжо стаялі каля агню, які весела патрэскваў. Сайрус Сміт і журналіст таксама былі тут. Не выпускаючы водасвінку з рук, Пенкроф збянтэжана пазіраў то на аднаго, то на другога.

— Ну, што скажаце, дружа?—весела запытаў яго журналіст.—Агонь то ёсць, сапраўдны агонь, на якім можна згатаваць цудоўную смажаніну для нашага піру!

— Але хто распаліў яго?—запытаў Пенкроф.

— Сонца!

Гедэон Спілет сказаў чыстую праўду. Сонца запаліла агонь, якім так захапіўся Пенкроф.

Марак не верыў сваім вачам. Ён быў так ашаламлены, што не стаў нават распытваць у інжынера.

— Значыць, у вас было запальвальнае шкло?—запытаў Герберт.

— Шкла ў мяне не было. Але я змайстраваў яго, дзіця маё,—адказаў Сміт, паказваючы прыбор, зроблены з двух звычайных шкельцаў ад гадзіннікаў; адно было знята з яго гадзінніка, а другое—з гадзінніка Спілета. Шкельцы былі зляплены па краях глінай і запоўнены вадой. Вышла сапраўднае запальвальнае шкло. Сканцэнтраваўшы сонечныя праменні на сухім імху, яно амаль умомант запаліла яго.

Марак моўчкі глядзеў на прыбор, потым перавёў позірк на інжынера. Але позірк яго гаварыў красамоўней, чым словы!

Нарэшце, да яго вярнулася здольнасць гаварыць, і ён усклікнуў:

— Запішыце гэта, містэр Спілет, запішыце ў сваю кніжку!

— Ужо запісаў,—адказаў журналіст.

Пры дапамозе Наба марак зрабіў ражон, выпатрашыў водасвінку і пачаў смажыць яе, як звычайнае малочнае парасё, над вясёлым агнём.

«Камін» зноў набыў утульны выгляд, не толькі таму, што агонь награваў яго, але і таму, што каменныя перагародкі былі аднаўлены. Як відаць, Сайрус Сміт і журналіст не патрацілі дзень марна.

Сайрус Сміт амаль зусім адужаў. Ён нават паспрабаваў свае сілы, падняўшыся на пласкагор'е. Адсюль ён на вока вызначыў вышыню гары, на якую меўся ўзабрацца,—прыкладна тры тысячы пяцьсот футаў над узроўнем мора. Перад назіральнікам, які стаяў на вяршыні гэтай гары, павінен быў разгарнуцца гарызонт радыусам самае меншае на пяцьдзесят міль.

Такім чынам можна было спадзявацца, што пытанне, якое турбавала Сайруса Сміта—востраў ці кантынент гэтая зямля—будзе ўраз вырашана.

Вячэра была цудоўная. Смажаніна з водасвінкі аказалася вельмі смачнай. Вадарослі саргасы і міндаль дапоўнілі меню.

У часе вячэры інжынер амаль не размаўляў: ён у думках выпрацоўваў план работы на заўтрашні дзень. Пенкроф раз ці два спрабаваў загаварыць пра тое, што ім трэба рабіць, але інжынер толькі паківаў галавою. Відавочна, ён ва ўсім паважаў парадак і сістэму.

— Заўтра,—паўтараў ён,—мы даведаемся, куды мы трапілі, і ў залежнасці ад гэтага выпрацуем план дзеянняў.

Пасля вячэры, падкінуўшы некалькі галін у агонь, жыхары «Каміна», не выключаючы і адданага Топа, паляглі на пяску і неўзабаве моцна заснулі.

Ноч прайшла спакойна, і наступнай раніцой, 29 сакавіка, усе прачнуліся свежымі пасля адпачынку і былі гатовы да экспедыцыі, якая павінна была вырашыць іх лёс.

Перад тым як рушыць у паход Пенкроф прыгатаваў трут з сваёй носавай хусткі, бо шкелцы зноў былі ўстаўлены ў гадзіннікі інжынера і журналіста, а крамянёў было досыць на гэтай вулканічнай глебе.

Узяўшы з сабою рэшткі смажаніны з водасвінкі, а палове восьмай гадзіны раніцы ўзброеныя дубінамі даследвальнікі пакінулі «Камін».

Яны выбралі, як параіў Пенкроф, карацейшую дарогу да гары—нацянькі праз лес.

Каля дзевяці гадзін Сайрус Сміт і яго спадарожнікі выйшлі на заходні ўскраек лесу.

Дарога, раней балоцістая, потым сухая і пясчаная, неўзаметку ўздымалася, па меры таго як адыходзілі ад берагу акіяна ў глыб краіны. У кустах мільганулі і зараз-жа зніклі нейкія палахлівыя жывёліны. Топ кінуўся даганяць іх, але інжынер паклікаў яго: цяпер было не да палявання.

Інжынер не любіў ухіляцца ад вызначанай мэты. Можна было смела сказаць, што ў гэтую хвіліну яго не цікавіў ні рэльеф мясцовасці, ні яе насельнікі; яго цікавіла толькі гара, і толькі да яе ён імкнуўся.

У дзевяць гадзін падарожнікі спыніліся, каб адпачыць. Гара паўстала перад імі, бачная ад падножжа да вяршыні. Яна складалася з двух ярусаў—першага вышынёю ў дзве тысячы пяцьсот футаў, і другога, падобнага на конус, яруса, які ўзвышаўся над першым.

Размешчаныя ўступамі грабяні адгор'яў служылі прыроднай дарогай да гэтага конуса.

Сайрус Сміт і яго спадарожнікі пачалі падымацца на першы ўступ. Звілісты грэбень яго, паступова павышаючыся, вёў да першага яруса гары.

Няроўнасці глебы сведчылі пра яе вулканічнае паходжанне. Усюды былі параскіданы кавалкі пемзы, абсідыяна. То тут, то там сустракаліся асобныя групы дрэў, якія за некалькі сот футаў ніжэй утваралі густыя лясы, амаль непранікальныя для сонечных праменняў.

Герберт звярнуў увагу на свежыя сляды, як відаць, нейкай буйнай жывёлы, магчыма нават драпежнікаў.

— Гэтыя звяры, мусіць, не вельмі ахвотна пусцяць нас у свае ўладанні,—заўважыў Пенкроф.

— Што-ж,—сказаў журналіст, які паляваў на тыграў ў Індыі і на ільвоў у Афрыцы,—мы здолеем адбіцца ад іх. А пакуль што—будзем пільнымі!

Тым часам экспедыцыя падымалася патроху ў гару. Звілістая дарога падаўжалася яшчэ з-за таго, што трэба было абмінаць некаторыя перашкоды. У поўдзень зрабілі прывал, каб паснедаць у сасновым гаі, паблізу ручая, які збягаў каскадамі ў даліну; экспедыцыя прайшла толькі палавіну дарогі да першага яруса і, як відаць, раней вечару не магла да яго дабрацца.

У гадзіну папаўдні прадаўжалі ўзыходжанне. Давялося адхіліцца крыху на паўднёвы захад ад простай лініі і прадзірацца праз густыя зараснікі.

Вышаўшы з зараснікаў, альпіністы, падсаджваючы адзін аднаго на плечы, адолелі стромкі спад футаў на сто ў вышыню і дабраліся да пляцоўкі, дзе раслі рэдкія дрэвы. Адсюль ім трэба было ісці на ўсход па зігзагападобнаму шляху, які рабіў менш прыкметным стромкасць дарогі. Трэба было ступаць надзвычай асцярожна.

Наб і Герберт ішлі наперадзе атрада, Пенкроф у хвасце, Сайрус Сміт і Спілет—пасярэдзіне. Сляды буйнай жывёлы

сустракаліся вельмі часта. Некалькі разоў мільгалі воддаль нейкія чацвёраногія. Пенкроф раптам усклікнуў:

— Зірніце,—бараны!

Атрад спыніўся за пяцьдзесят крокаў ад поўдзюжыны буйных жывёлін з густой шаукавістай воўнай рыжага колеру і з вялікімі сплюшчанымі па канцах рагамі, якія былі загнуты назад.

Гэта былі не звычайныя бараны, а іх рознавіднасць, якая сустракаецца ў горных мясцовасцях умеранага пояса. Герберт назваў іх муфлонамі.

— А ці можна з іх зрабіць жыго [1] і адбіўныя катлеты?

— Вядома.

— У такім разе для мяне гэта бараны!—абвясціў Пенкроф.

Стоячы нерухома паміж абломкаў базальта, жывёліны здзіўлена назіралі на даследчыкаў, нібы ўпершыню за ўсё сваё жыццё ўбачылі двухногіх. Потым раптоўна ўстрывожыліся і ўмомант зніклі, скачучы з каменя на камень.

— Да пабачэння неўзабаве!—крыкнуў ім услед Пенкроф з такім камічным вымаўленнем, што ўсе зарагаталі.

Узыходжанне працягвалася. Часта на спадах сустракаліся сляды лавы, застыглыя серныя патокі і звычайныя адклады крышталічнай серы, якія залягалі сярод вяшчэстваў, што выкідвае вулкан перад пачаткам вывяржэння лавы: пуцаланавай зямлі з перапаленымі, няправільнай формы крышталамі і белага попелу, які складаўся з безлічы драбнюткіх крышталаў палявога шпата.

На меры набліжэння да першага яруса ўзыходзіць рабілася ўсё больш цяжка.

Каля чатырох гадзін папаўдні экспедыцыя мінула зону распаўсюджвання дрэваў. Толькі сям-там стаялі асобныя сосны, згорбленыя ад барацьбы з вятрамі, якія бушуюць на гэтай вышыні. На шчасце для інжынера і яго спадарожнікаў, надвор'е было бязветранае: калі-б узняўся вецер, узыходзіць было-б яшчэ больш цяжка.

Не больш як пяцьсот футаў напянькі аддзялялі даследчыкаў ад пляцоўкі першага яруса, дзе яны хацелі спыніцца на нач. Але гэтыя пяцьсот футаў выраслі ў дзве мілі, бо дарога ўвесь час пакручвалася зігзагамі.

Ноч ужо настала, калі змораныя падарожнікі дабраліся да пляцоўкі. Паміж скал, якіх было багата раскідана на ёй, лёгка было знайсці выгоднае месца для начлегу. Праўда,

---

[1] *Жыго*—ежа, прыгатаваная з задняй нагі барана.

вакол было мала паліва, але усё-ж удалася сабраць патрэбны запас моху і буралому.

Пенкроф выбіў іскру з крэменя на трут, і Наб шпарка раздзьмухаў яркае полымя ў зацішку скалы. Агонь быў распалены толькі для таго, каб абагрэць спадарожнікаў. Вячэра складалася з смажанай водасвінкі і некалькіх міндаліп. А палове сёмай вечара даследчыкі скончылі вячэраць.

Сайрус Сміт рашыў зараз-жа высветліць, ці можна будзе знайсці абходную дарогу да вяршыні, калі занадта стромкі спад перашкодзіць узабрацца на конус.

Пакуль Пенкроф, Гедэон Спілет і Наб рыхтавалі начлег, інжынер з Гербертам пайшлі на разведку.

Была цудоўная ціхая ноч. Сайрус Сміт і Герберт хвілін дваццаць моўчкі ішлі побач; раптоўна перад імі паўстала сцяна, якая ўздымалася ўгару пад вуглом 70°. Ні абмінуць гэтую перашкоду, ні адолець яе не было магчымасці.

Сайрус Сміт ужо вырашыў вярнуцца назад, як раптам заўважыў шчыліну ў скале, праз якую, як відаць, вылівалася ў час вывяржэння лава. Не вагаючыся ні хвіліны, ён і Герберт увайшлі ў гэтую шчыліну. Да вяршыні конуса заставалася каля тысячы футаў. Інжынер вырашыў прадаўжаць узыходжанне, пакуль гэта будзе магчыма. Аднача сова ён пераканаўся, што вулкан даўно патух.

Не зважаючы на непраніклую цемру, Сайрус Сміт і Герберт павольна, але няўхільна падымаліся ўсё вышэй і вышэй. Інжынер ужо спадзяваўся, што ім удасца бесперашкодна дабрацца да самай вяршыні.

На небе гарэлі цудоўныя сузор'і. У зеніце палала Скарпіёнава Сэрца, побач яго бета[1] з сузор'я Кентаўра, якую лічаць самай бліжэйшай да зямлі зоркай. Каля паўднёвага полюса велічна паблісквау Паўднёвы крыж.

У восем гадзін вечара Сайрус Сміт і Герберт нечакана для саміх сябе дабраліся да самага вышэйшага пункта конуса. Пры цьмяным святле маладзіка Сайрус Сміт агледзеў гарызонт.

— Гэта востраў,—сказаў ён.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

*На вяршыні гары.—Нутро кратэра.—Наўкола мора.—Выгляд узбярэжжа з вышыні птушынага палёту.—Водная сістэма.—Ці заселены востраў? Усім частках вострава даюцца назвы.—Востраў Лінкольна.*

Праз поўгадзіны Герберт і Сайрус Сміт вярнуліся ў лагер. Інжынер коратка сказаў сваім спадарожнікам, што яны

[1] У астраномаў прынята абазначаць зоркі ў сузор'ях літарамі грэчаскага алфавіта (альфа, бэта, гама, дэльта і т. д.)

знаходзяцца на востраве. Потым «астравіцяне» прымасціліся хто як мог у сваёй базальтавай пячоры, якая знаходзілася на вышыні ў дзве тысячы пяцьсот футаў над узроўнем мора, і моцна заснулі.

Наступнай раніцай, 30 сакавіка, інжынер прапанаваў сваім спадарожнікам зноў узабрацца на вяршыню патухлага вулкана, каб пры дзённым святле агледзець востраў.

— Можа,—сказаў ён,—нам давядзецца прабыць тут усё жыццё... Востраў-жа можа знаходзіцца далёка ад заселенай зямлі і ў баку ад шляхоў караблёў, якія падтрымліваюць зносіны з паўднёвымі архіпелагамі...

Гэтым разам інжынера суправаджалі ўсе ўдзельнікі экспедыцыі. Усе яны хацелі добра разгледзець востраў.

Каля сямі гадзін раніцы яны пакінулі месца начлегу. Ніхто з іх не быў засмучаны невясёлым цяперашнім становішчам. Кожны быў поўны ўпэўненасці ў будучыню. Але трэба зазначыць, што гэтая ўпэўненасць мела розныя крыніцы для Сайруса Сміта і ўсіх астатніх яго таварышоў.

Інжынер адважна глядзеў у заўтрае, таму што адчуваў у сабе сілу вырваць ад гэтай дзікай прыроды ўсё неабходнае для сябе самога і сваіх таварышоў.

А яго спадарожнікі не баяліся будучыні якраз таму, што інжынер быў з імі. Адсюль і розныя адценні ў ўпэўненасці. Пенкроф, напрыклад, з таго часу, калі інжынер распаліў агонь, не трывожыўся-б за свой лёс, нават апынуўшыся на голай скале, абы толькі Сайрус Сміт быў побач яго.

— Выбраліся-ж мы з Рычмонда без дазволу начальства,—казаў ён.—Было-б чорт ведае як недарэчна, калі-б мы не змаглі ў адзін прыгожы дзень выбрацца з месца, дзе нас ніхто, напэўна, не будзе затрымліваць!

Сайрус Сміт вёў свой атрад па разведанаму яшчэ напярэдадні шляху. Надвор'е было цудоўнае. Сонца надымалася ў бязвоблачным небе, заліваючы яркім святлом усходні спад гары.

Падарожнікі падышлі да кратэра вулкана—аграмаднай варонкі, якая ўходзіла на тысячу футаў у глыб гары. Дно варонкі было пакрыта застыглай лавай. Такія-ж застыглыя патокі пакручваліся як змеі і ўздоўж схілаў гары, спускаючыся ў даліну паўночнай часткі вострава. На ўнутраных сценах кратэра, нахіл якіх не перавышаў 35—40°, відаць былі сляды даўніх вывяржэнняў, калі лава яшчэ не прабіла сабе праходу і проста пералівалася цераз краі варонкі.

Агляд вулкана ўдзень пацвердзіў меркаванне інжынера, што ён належыць да ліку тых, якія не дзейнічаюць.

Каля васьмі гадзін раніцы Сайрус Сміт і яго спадарожнікі дабраліся да вяршыні конуса.

— Мора! Вакол мора!—усклікнулі яны ўсе разам.

Сапраўды, як згледзець вокам, вакол была вада, адна вада.

У другі раз узбіраючыся на вяршыню тары, Сайрус Сміт спадзяваўся знайсці на гарызонце якую-небудзь зямлю, якую з-за цемры нельга было ўбачыць напярэдадні ўвечары.

Але як згледзець вокам, гэта значыць на пяцьдзесят міль па радыусу, не было ні зямлі, ні паруса. Востраў быў цэнтрам вялізнай і зусім пустэльнай вадзяной прасторы.

Падарожнікі зірнулі на востраў, які, нібы рэльефная карта, разлёгся ўнізе.

Гедэон Спілет запытаў у інжынера.

— Якую плошчу займае гэты кавалак зямлі?

У параўнанні з бязмежным акіянам востраў выглядаў мізэрным.

Сайрус Сміт у думках вызначыў даўжыню берагавой лініі вострава, зрабіў папраўку на вышыню свайго назіральнага пункта і пасля нядоўгага маўчання сказаў:

— Мне здаецца, сябры мае, што без вялікай памылкі можна вызначыць даўжыню берагавой лініі ў сто міль.

— А плошча?

— Яе цяжка вызначыць таму, што берагі вельмі зрэзаныя.

Калі Сайрус Сміт не памыліўся ў разліках, дык востраў па сваёй велічыні быў роўны з астравамі Мальта і Зантэ ў Міжземным моры. Абрысы яго здзіўлялі сваёй дзівоснасцю.

Калі Гедэон Спілет па просьбе інжынера зарысаваў контур вострава ў сваю запісную кніжку, усе пацвердзілі, што востраў падобны на нейкую фантастычную жывёліну, на дагістарычнага птэразаўра [1], які заснуў на хвалях Ціхага акіяна.

Усходняя частка ўзбярэжжа, на якую даследавальнікі былі выкінуты крушэннем, урэзвалася ў мора шырокім поўкругам. Невялікі заліў у гэтай частцы берагу быў загароджаны з паўднёвага ўсходу адным вострым мысам, а з паўночнага ўсходу—двума мысамі, якія былі падобны на разяўленую пашчу акулы.

На паўночным захадзе берагавая лінія нагадвала сваімі абрысамі прыплюснуты чэрап драпежнай жывёліны. Тут знаходзіўся вулкан, на вяршыні якога стаялі даследавальнікі

[1] *Птэразаўры*—група вымерлых паўзуноў, якія былі падобны з выгляду і па будове шкілета на птушак.

Адсюль берагавая лінія цягнулася на поўдзень амаль правільным увагнутым поўкругам, які перарываўся на заходнім баку вузкай бухтай. За бухтай бераг выцягваўся звужанай палоскай, аканечнасць якой нагадвала алігатараў хвост. Уся гэтая частка сухазем'я была сапраўдным поўвостравам, які амаль на дзесяць міль уразаўся ў мора. З паўднёвага захаду на паўночны ўсход абрысы берагавой лініі паўвострава таксама нагадвалі поўкруг, які ўтвараў яшчэ адзін заліў, паўночна-ўсходняя аканечнасць якога прымыкала да мыса, адкуль пачалося апісанне вострава.

У самым вузкім месцы, гэта значыць паміж «Камінам» і бухтай на заходнім беразе, шырыня вострава не перавышала дзесяці міль. Самая большая даўжыня яго—ад крайняга паўночна-ўсходняга пункта да аканечнасці поўвострава на паўднёвым усходзе—была трыццаць міль.

Агульны выгляд паверхні вострава быў такі: уся паўднёвая частка яго—ад берагу акіяна да гары—была ўкрыта густым лесам; затое ўся паўночная частка была бясплоднай—адно каменне і пяскі. Паміж вулканам і ўсходнім берагам вострава Сайрус Сміт і яго спадарожнікі ўбачылі возера, якое было акружана бардзюрам з зялёных дрэў.

Першае ўражанне, калі пазіраць з гары, было такое, нібы возера знаходзіцца на адным узроўні з акіянам. Але інжынер растлумачыў сваім спадарожнікам, што яно самае меншае футаў на трыста ўзнята над узроўнем мора, бо пласкагор'е, што служыла для яго басейнам, было працягам гранітнай сцяны ўсходняга ўзбярэжжа.

— Значыць, гэтае возера з прэснай вадою?—запытаў Пенкроф.

— Безумоўна. Яно напаўняецца ручаямі, якія сцякаюць з гары,—адказаў інжынер.

— Вось рэчка, якая ўліваецца ў яго!—усклікнуў Герберт, паказваючы пальцам на ручаёк на заходнім спадзе вулкана.

— Правільна,—сказаў Сайрус Сміт.—Трэба меркаваць, што недзе ёсць і сцёк, па якім выліваецца ў мора лішак вады з возера. Мы гэта праверым, калі будзем варочацца.

Гэты ручаёк, возера і ўжо вядомая жыхарам вострава рака—вось і ўся водная сістэма вострава.

Так, прынамсі, здавалася інжынеру. Аднак, ён лічыў, што пад непраніклай засенню дрэў, якая ўкрывала дзве трэція часткі плошчы вострава, ёсць і іншыя рэкі, якія цякуць у акіян. Гэта было нават больш чым пэўна, мяркуючы па багатай расліннасці, якая прадстаўляла лепшыя ўзоры флоры ўмеранага клімата.

У паўночнай частцы вострава не было ніякіх адзнак цякучай вады. Можна было толькі меркаваць, што ў шчылінах і правалах глебы на паўночным усходзе ёсць балоты. Агульны выгляд гэтай часткі вострава—суш, пяскі, каменні—служыў рэзкім кантрастам багаццю і пышнасці большай, паўднёвай часткі вострава. Вулкан знаходзіўся бліжэй да паўночна-заходняй часткі вострава і нібы аддзяляў мяжу двух зон—расліннай і бясплоднай.

Сайрус Сміт і яго спадарожнікі прабылі больш як гадзіну на вяршыні вулкана. Востраў разлёгся пад імі, як рэльефная карта, афарбаваная ў розныя колеры: зялёны—для лесу, жоўты—для пяскоў, сіні—для вады.

Трэба было вырашыць адно самае важнае пытанне: ці заселены востраў?

Гэтае пытанне першым узняў журналіст. Толькі што зроблены ўважлівы агляд вострава, здавалася даваў права адказаць на яго адмоўна. Нідзе не было відаць ніякіх слядоў чалавечай дзейнасці. Ні групы дамоў, ні асобных будынкаў, ні рыбацкай хацінкі на ўзбярэжжы. Ні адзін дымок не падымаўся ў паветра. Праўда, назіральнікаў, якія стаялі на вяршыні гары, аддзяляла добрых трыццаць міль ад крайняга пункта вострава—хваста паўвострава на паўднёвым захадзе, а на такой адлегласці нават зоркія вочы Пенкрофа не змаглі-б убачыць будынкаў. Праўда і тое, што позіркі назіральнікаў не маглі прыўзняць зялёнага покрыва вецця, якое захоўвала добрых тры чвэрткі вострава, каб пабачыць, ці не затоена пад ім паселішча людзей.

Звычайна на такіх вузкіх палосках зямлі астравіцяне селяцца бліжэй да берагу мора; але-ж якраз узбярэжжа і выглядала абсалютна пустэльным. Таму, пакуль больш падрабязны агляд не давядзе адваротнага, трэба было лічыць востраў незаселеным.

Важна было яшчэ дазнацца, ці наведваюць яго—няхай хоць наездамі—тубыльцы з суседніх астравоў. Але і на гэтае пытанне няцяжка было адказаць. На пяцьдзесят міль па радыусу нідзе не было і адзнак другой зямлі. Такую адлегласць лёгка праплываюць і маленькія малайскія і вялікія палінезійскія пірогі. Значыць, вырашэнне пытання цалкам залежала ад блізкасці вострава да якога-небудзь архіпелагу.

Ці зможа Сайрус Сміт без інструменту вызначыць, дзе знаходзіцца востраў—яго шырату і даўгату? Гэта наводзіла на сумненні. Таму патрэбна было, каб унікнуць небяспекі, прыняць меры на выпадак раптоўнай высадкі на востраў дзікіх тубыльцаў.

Даследаванне вострава было скончана. Сайрус Сміт і яго спадарожнікі вызначылі яго даўжыню, нанеслі на карту яго контуры, вылічылі даўжыню берагавой лініі, азнаёміліся з яго горнай і воднай сістэмай. Месца знаходжання, памеры і абрысы лясоў, рэк, раўнін і пласкагор'яў былі нанесены на карту. Аставалася спусціцца з гары і заняцца высвятленнем прыродных багаццяў вострава—раслін, жывёлы і выкапняў.

Але раней чым падаць сігнал для спуску, Сайрус Сміт звярнуўся да сваіх таварышоў з невялікай прамовай.

— Сябры мае!—пачаў ён.—Лёс закінуў нас на гэты самотны шматок зямлі. Нам давядзецца тут жыць, магчыма нават доўгі час. Урэшце, магчыма, што неспадзявана нам у дапамогу прыдзе які-небудзь карабль... Я кажу «неспадзявана» таму, што востраў гэты вельмі нязначны: тут няма нават выгоднага прыстанішча для караблёў. У дадатак, востраў знаходзіцца занадта далёка на поўдні для караблёў, якія робяць рэйсы да архіпелагаў Ціхага акіяна, і занадта далёка на поўначы для караблёў, якія накіроўваюцца ў Аўстралію, агінаючы мыс Горн. Не хачу нічога таіць ад вас...

— І вельмі добра робіце,—перапыніў яго журналіст.— Вы маеце справу з мужчынамі! Мы верым вам, але і вы можаце даверыцца нам! Хіба не праўда, сябры?

— Я буду заўсёды слухацца вас, містэр Сміт,—сказаў Герберт, паціскаючы руку інжынера.

— За вамі, гаспадар, я пайду хоць у агонь і ваду!— усклікнуў Наб.

— Не буду я Пенкроф,—сказаў марак,—калі хоць раз стану наракаць на цяжкасці работы! Калі вы захочаце, містэр Сміт, мы ператворым гэты востраў у куток Амерыкі. Мы пабудуем тут гарады, чыгункі, праведзем тэлеграф!.. Але ў мяне ёсць адна просьба...

— Якая?

— Я хацеў-бы, каб мы не лічылі сябе як пацярпеўшых крушэнне. Мы—каланісты, якія прыехалі сюды, каб каланізаваць гэты востраў!

Сайрус Сміт усміхнуўся.

Прапанова марака была прынята аднагалосна.

— А цяпер—у дарогу! Дадому, у «Каміні»!—усклікнуў Пенкроф.

— Яшчэ хвілінку, сябры мае,—спыніў яго інжынер.— Мне здаецца, што трэба як-небудзь даць назву гэтаму востраву, яго залівам, гарам, рэкам, лясам, якія знаходзяцца перад нашымі вачамі.

— Вельмі добра,—сказаў журналіст.—Ад гэтага лягчэй будзе ў далейшым даваць заданні і выконваць іх.

— Сапраўды,—згадзіўся марак,—вельмі добра мець магчымасць неяк называць месцы, дзе ты быў ці куды ты ідзеш. Няхай гэта будзе хоць, для блізіру, што мы жывем у нейкім путным месцы....

— Прапаную назваць месца, дзе мы пасяліліся, «Камінам»,—сказаў Герберт.

— Правільна!—сказаў Пенкроф.—Ці згодны вы на гэта, містэр Сміт?

— Вядома, Пенкроф!

— Давайце прыдумваць назвы для другіх месцаў!—весела сказаў марак.—Мне Герберт аднойчы чытаў кніжку пра Рабінзона. Назавем часткі вострава «бухта Лёсу», «мыс Кашалотаў», «заліў Абманутай надзеі»...

— Лепш даць імя містэра Сміта, містэра Спілета, Наба... —запярэчыў Герберт.

— Маё імя!—усклікнуў Наб, паказаўшы цудоўныя белыя зубы.

— А чаму не?—адказаў Пенкроф.—Чым дрэнная назва—«порт Наба»? Вельмі добра гучыць! Або—«мыс Гедэона»!..

— Я аддаў-бы перавагу імёнам, якія нагадваюць радзіму,—сказаў Гедэон Спілет.

— Я згодзен з вамі,—умяшаўся інжынер.—Лепш за ўсё, сябры мае, назваць вялікі заліў на ўсходзе «бухтай Саюза». суседні заліў, той, што далей на поўдзень,—«бухтай Вашынгтона», гару, на якой мы зараз знаходзімся,—«гарою Франкліна», возера ўнізе,—«возерам Гранта». Гэтыя імёны заўсёды будуць напамінаць нам Амерыку[1]. А для рэк, лясоў, мысаў выберам назвы, якія-б адпавядалі іх выгляду. Ад гэтага іх лягчэй будзе запомніць. Востраў такі незвычайны па форме, што нам няцяжка будзе знайсці характэрныя назвы для большасці яго частак. Што-ж датычыць невядомых для нас вадаёмаў, недаследаваных лясоў і ўзгоркаў, мы будзем падбіраць для іх назвы па меры нашага знаёмства з імі.

Прапанова інжынера была спаткана аднадушным ухваленнем. Востраў знаходзіўся пад нагамі даследчыкаў, як разгорнутая карта, і аставалася толькі даць назвы ўсім гэтым выступам і выемкам, гарам і далінам.

Гедэон Спілет зараз-жа запісваў на карце ўсе прынятыя назвы. Перш за ўсё былі запісаны прапанаваныя інжынерам назвы бухт Вашынгтона і Саюза і гары Франкліна.

[1] *Георг Вашынгтон*—першы прэзідэнт ЗША; *Веніямін Франклін*—вядомы фізік і амерыканскі палітычны дзеяч; *Уліс Грант*—камандуючы войскамі паўночных у часе вайны паміж Паўночнымі і Паўднёвымі штатамі.

— Я прапаную назваць паўвостраў, які выцягнуўся на паўднёвы захад, «Змяіным паўвостравам», а яго загнуты хвост—«мысам Рэптылій». Ён і сапраўды падобны на хвост паўзуна,—сказаў Герберт.

— Прынята!—сказаў інжынер.

— Цяпер назавем гэты заліў на паўночным усходзе, які на дзіва нагадвае сківіцы акулы «залівам Акулы»,—прадаўжаў Герберт.

— Вельмі добрая назва!—усклікнуў Пенкроф.—А каб малюнак быў больш поўным два мысы, якія яго ўтвараюць, назавем «мысамі Сківіцы».

— Але-ж там два мысы,—запярэчыў журналіст.

— Ну дык што?—адказаў Пенкроф,—адзін будзе «Паўночнай сківіцай», другі—«Паўднёвай сківіцай».

— Запісана,—сказаў Гедэон Спілет.

— Застаецца яшчэ даць назву паўднёва-ўсходняму мысу,—заўважыў Пенкроф.

— «Мыс Кіпцюра»!—усклікнуў Наб, які таксама хацеў прыняць удзел у наданні назваў уладанням каланістаў.

Наб прыдумаў вельмі трапную назву: мыс сапраўды меў выгляд кіпцюра той аграмаднай жывёліны, якую нагадваў цалкам увесь востраў.

Узрушанае ўяўленне каланістаў неадкладна ахрысціла раку, якая цякла каля «Каміна»—«ракою Падзякі», астравок, на які іх выкінуў аэрастат,—«астраўком Выратавання», пласкагор'е якое ўзнімалася над Камінам,—пласкагор'ем «Далёкага віду».

Урэшце, непраходнаму лесу, які пакрываў Змяіны паўвостраў, далі назву «Лесу Далёкага захада». Гэтым была скончана праца па наданні назваў важнейшым часткам вострава. Пасля, як будуць рабіцца новыя адкрыцці, пералік назваў павінен быў папаўняцца.

Краіны свету інжынер вызначыў пакуль што прыблізна—па вышыні і знаходжанню сонца. У наступны дзень ён вырашыў запісаць час узыходу і захаду сонца, каб адзначыўшы, што сонца знаходзіцца якраз на сярэдзіне гэтага прамежку часу, дакладна вызначыць краіны свету.

Усе падрыхтаваліся ўжо, каб рушыць з гары, як раптам Пенкроф крыкнуў:

— Але-ж і разявы мы!

— Чаму гэта?—запытаў Гедэон Спілет, які ўжо схаваў у кішэню запісную кніжку і збіраўся ўставаць.

— А востраў! Мы-ж зусім забыліся даць яму назву!

Герберт прапанаваў назваць востраў імем інжынера; усе

яго таварышы ўхвалілі гэтую думку. Але Сайрус Сміт проста сказаў:

— Лепш назавем востраў імем вялікага грамадзяніна, які зараз змагаецца за адзінства амерыканскай рэспублікі. Назавем яго імем Лінкольна! [1]

У адказ на прапанову інжынера тройчы грымнула «ура».

У гэты вечар, перад тым як легчы спаць, каланісты ўспаміналі пра сваю далёкую радзіму. Яны гаварылі пра жахлівую вайну, якая заліла крывёю ўсю краіну, пра тое што законная справа—Поўначы—возьме верх, што рабаўладальніцкі Поўдзень не зможа доўга супраціўляцца такім правадырам, як Грант і Лінкольн.

Гэтая гутарка адбывалася 30 сакавіка. Каланісты, вядома, не падазравалі, што праз шаснаццаць дзён у Вашынгтоне будзе зроблена жахлівае злачынства і Аўраам Лінкольн загіне ад кулі фанатыка.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

*Праверка гадзіннікаў.—Пенкроф задаволены.—Падазроны дым.—Плынь Чырвонага ручая.—Флора вострава.—Фауна.—Горныя фазаны. Праследаванне кенгуру.—Возера Гранта.—Зварот у Камін.*

Абышоўшы кратэр па вузкім выступе грэбня, каланісты спусціліся да першага яруса гары і спыніліся на тым месцы, дзе ўчора начавалі.

Пенкроф прапанаваў паснедаць. Гедэон Спілет і Сайрус Сміт адначасова дасталі гадзіннікі з кішэні. Вось тут і ўзнікла думка праверыць гадзіннікі. Гадзіннік Гедэона Спілета не быў пашкоджаны вадою; гэта быў выдатны хранометр, і журналіст кожны вечар вельмі акуратна заводзіў яго. Гадзіннік інжынера, вядома, стаяў за той час, што ён прабыў сярод дзюн.

Сайрус Сміт завёў яго і, вызначыўшы па вышыні сонца, што павінна быць часу каля дзевяці гадзін раніцы, пераставіў стрэлкі.

Гедэон Спілет хацеў зрабіць гэта самае, але інжынер стрымаў яго.

— Не рабіце гэтага, мой любы! Хіба-ж не праўда, што ваш гадзіннік наведзены па рычмондскаму часу?

— Так, Сайрус.

---

[1] *Аўраам Лінкольн*—паўночна-амерыканскі палітычны дзеяч, які быў прэзідэнтам рэспублікі ў часе вайны Паўночных штатаў з Паўднёвымі. *Заўвага пер.*

— А Рычмонд знаходзіцца прыблізна на мерыдыяне Вашынгтона?

— Вядома!

— У такім разе не перастаўляйце стрэлак! Акуратна заводзьце гадзіннік, але не дакранайцеся да стрэлак. Гэта нам спатрэбіцца.

«Навошта гэта?»—падумаў марак, але не адважыўся запытацца ў голас.

Каланісты паснедалі з такім апетытам, што рэшткі дзічыны і міндаля былі ўсе знішчаны. Але Пенкроф быў спакойны, ведаючы, што можна будзе папоўніць запасы яды па дарозе.

Сайрус Сміт прапанаваў сваім спадарожнікам вярнуцца ў Комін іншай дарогай. Ён хацеў зблізку агледзець возера Гранта, якое было так прыгожа аздоблена зяленінай.

Каланісты пачалі спускацца па схілу гары, па якім сцякаў ручаёк, які жывіў возера. Гаворачы пра востраў, яны ўжо называлі яго часткі толькі што прыдуманымі ўласнымі імёнамі. Герберт — па сваёй маладосці, Пенкроф—з прычыны ўласцівай для яго ўзрушальнасці—увесь час практыкаваліся ў гэтым.

— Хіба не праўда, Герберт,—гаварыў марак,—цяпер-то ўжо нельга заблудзіцца: куды-б мы не ішлі—цераз возера Гранта або праз лясы Далёкага ўсхода—мы абавязкова выйдзем да пласкагор'я Далёкага віду, а тым самым і да бухты Саюза.

Каланісты дамовіліся не вельмі адыходзіцца адзін ад аднаго. Безумоўна, на востраве былі і небяспечныя драпежнікі, таму перасцярога не пашкодзіць. Пенкроф, Герберт і Наб амаль увесь час ішлі наперадзе, у суправаджэнні Топа, які аглядаў кожны сустрэчны куст. Гедэон Спілет і інжынер ішлі побач.

Сайрус Сміт на працягу ўсёй дарогі маўчаў; ён часта адыходзіў убок, каб падняць то кавалачак мінерала, то галінку расліны. Усё гэта ён моўчкі клаў у кішэню.

— Дзеля якога чорта ён збірае ўсю гэтую дрэнь?—шаптаў Пенкроф.—Колькі я не гляджу, я не бачу нічога такога, з-за чаго было-б варта нагінацца...

Каля дзесяці гадзін раніцы маленькі атрад спусціўся да першых адгор'яў гары Франкліна. Вакол раслі толькі рэдкія кусты і дрэвы. Атрад узышоў цяпер на прасторную палянку, якая была не менш мілі ўпоперак і цягнулася да краю лесу. Глеба пад нагамі была жоўта-карычневага колеру, нерапаленая. Аднак, следу лавы, які часта сустракаецца ў паўночнай частцы вострава, тут не было відаць.

Сайрус Сміт ужо спадзяваўся без затрымкі дайсці да ручая, які, як ён меркаваў, павінен быў быць пад дрэвамі, на краю палянкі, калі раптам убачыў, што Герберт, які ішоў наперадзе, спешна варочаецца, а Наб і Пенкроф стаіліся за скаламі.

— Што здарылася, дружок!—запытаў інжынер у юнака.

— Мы заўважылі дымок,—адказаў той,—за сто крокаў адсюль, паміж скал.

— Значыць, тут ёсць людзі!—усклікнуў журналіст.

— Не трэба паказвацца ім на вочы,—сказаў Сайрус Сміт,—пакуль мы не даведаемся, хто яны. Я хутчэй баюся, чым хачу, спаткання з тубыльцамі. Дзе Топ?

— Топ наперадзе.

— І ён не брэша? Дзіўна! Трэба яго паклікаць.

Інжынер і журналіст далучыліся да сваіх спадарожнікаў і схаваліся за скаламі. Асцярожна выглянуўшы, яны адразу заўважылі слупок яркажоўтага дыму, які непадалёк узнімаўся ў неба.

Топ, пачуўшы лёгкі посвіст гаспадара, зараз-жа прыбег. Падаўшы сваім таварышам знак не кратацца з месца, інжынер нячутна знік паміж скал.

Каланісты з трывогай чакалі вынікаў яго разведкі, як раптам да іх даляцеў гучны голас інжынера, які клікаў іх. Яны зараз-жа далучыліся да яго. Рэзкі і непрыемны пах серы патыхнуў ім у нос. Па гэтаму паху інжынер здагадаўся пра крыніцу заўважанага дыму.

— Гэты агонь, больш правільна, гэты дым,—весела сказаў ён,—народжаны самою прыродай. Тут недзе ёсць серная крыніца, у якой мы, калі будзе патрэба, вельмі добра зможам лячыць ларынгіты [1].

— Вельмі шкада,—усклікнуў Пенкроф,—што я не прастудзіўся!

Падышоўшы да таго месца, з якога выходзіў дым, яны ўбачылі крыніцу, што струменіла з скалы. Вада яе патыхала характэрным пахам серавадарода.

Апусціўшы руку ў ваду, інжынер адзначыў яе густату і масляністасць. Вада была крыху саладкаватай на смак. Тэмпература яе была прыкладна 95° па Фарэнгейту (35° па Цэльсію).

Герберт запытаўся, якім спосабам інжынер вызначыў тэмпературу.

— Гэта вельмі проста, дружок. Апусціўшы руку ў ваду, я не адчуў ні гарачыні, ні холаду. Выходзіць, што вада

[1] *Ларынгіт*—успаленне горла.

нагрэта да тэмпературы цела чалавека, гэта значыць да 35—36° па Цэльсію.

Не маючы патрэбы ў лекавых уласцівасцях сернай вады, каланісты рушылі да ўжо блізкага ўзлесся.

Як і меркаваў Сайрус Сміт, пад першымі дрэвамі лесу яны напаткалі ручаёк, які струменіў сваю празрыстую ваду паміж стромкіх берагоў, чырвоная афарбоўка якіх сведчыла пра насычэнне глебы вокісам жалеза.

Колер глебы быў прычынай таго, што каланісты назвалі ручаёк «Чырвоным». Вада ў ручайку была прэсная. Значыць, вада возера, у якое ён цёк, павінна быць прыгоднай для піцця. Такім чынам, каб пашчасціла знайсці тут пячору, крышку больш прыгодную для жылля, чым Камін, каля возера можна было-б пасяліцца.

Раслiннасць, якую тут бачылі каланісты, належала да відаў, пашыраных ва ўмеранай зоне Аўстраліі і Тасманіі. Хвойных дрэў, якія багата раслі ў агледжанай імі частцы вострава, тут не было. Дрэвы яшчэ не страцілі свайго лісця, хоць у паўднёвым паўшар'і красавік—асенні месяц і адпавядае кастрычніку ў паўночным. Гэта былі пераважна казуарыны. Купка аўстралійскіх кедраў узвышалася сярод палянкі, пакрытай высокай травою. Але какосавых пальмаў, якіх многа расце на іншых астравах Ціхага акіяна, тут не было. Як відаць, шырата вострава была ніжэй зоны распаўсюджання пальм.

— Вельмі шкада, што тут няма пальмы, гэтага карыснага дрэва з такімі смачнымі арэхамі!—сказаў Герберт.

У рэдкім галлі казуарынаў мітусіліся сотні птушак, шпаркі палёт якіх перашкаджаў юнаму натуралісту, Герберту, распазнаць іх пароду. Усё гэта птушынае насельніцтва верашчэла, пасвіствала, каркала, поўнячы паветра аглушальным шумам.

Раптоўна з недалёкага гушчару пачуўся асабліва бязладны і рэзкі хор галасоў. Каланісты пачулі спевы птушак, рыканне звяроў і нейкае мармытанне, якое нібы нагадвала гаворку тубыльцаў. Наб і Герберт, забыўшыся пра асцярожнасць, рынуліся ў гушчар на гукі галасоў. На шчасце, там былі не тубыльцы і не драпежнікі, а толькі з поўдзюжыны птушак-перасмешнікаў. Некалькімі спрытнымі ўдарамі палак каланісты спынілі канцэрт і адначасова здабылі для сябе смачную смажаніну на абед.

У гушчары Герберт заўважыў на дзіва прыгожых галубоў, крыллі якіх паблісквалі як бронза. У некаторых былі ярка афарбаваныя чубкі; у другіх—зялёныя плюмажы. Аднак, спробы Герберта злавіць хоць адну з гэтых птушак

не мелі поспеху. Калі-б у каланістаў была стрэльба, адзін стрэл шротам забіў-бы дзесяткі птушак. Але, замест стрэльбы, яны вымушаны былі карыстацца каменнямі і палкамі, а скарыстанне гэтай першабытнай зброі патрабуе вялікага спрыту і доўгай практыкі.

Каланісты асабліва востра адчулі недахопы свайго ўзбраення, калі ўбачылі наперадзе стада чацвераногіх, якія пасоўваліся вялізнымі скачкамі. Вялікія жывёліны падскаквалі так высока і так лёгка, што здавалася, былі акрылены.

Стада прамільгнула перад вачамі каланістаў і ўмомант знікла з позірку.

— Гэта кенгуру!—усклікнуў Герберт.

— А іх можна есці?—запытаў Пенкроф.

— Філе кенгуру, засмажанае на ражне,—адказаў Гедэон Спілет,—на дзіва смачнае...

Не паспеў журналіст скончыць гаварыць, як Пенкроф, а следам за ім Наб і Герберт рынуліся наўздагон кенгуру. Дарэмна Сайрус Сміт гукаў іх вярнуцца. Заядлыя паляўнічыя пагналіся за гэтымі жывёламі, якія падскаквалі эластычна, як мячык. Праз пяць хвілін бегу праследавальнікі знясілелі, а стада знікла у зарасніку. Сабаку пашанцавала не больш, чым людзям.

— Містэр Сміт,—сказаў, вярнуўшыся, Пенкроф,—вы бачыце, як патрэбны нам стрэльбы! Ці можаце вы зрабіць іх?

— Пабачым...—адказаў інжынер.—Але спярша мы зробім лукі і стрэлы. Я не сумняваюся, што хутка вы будзеце імі валодаць, як сапраўдныя аўстралійцы.

— Лукі, стрэлы!—з пагардлівай усмешкай запярэчыў Пенкроф.—Гэта дзіцячыя цацкі!

— Не будзьце пераборлівым, дружа мой,—сказаў журналіст.—Лукі са стрэламі на працягу тысячагоддзяў залівалі свет крывёю. Порах вынайшлі нядаўна, а вайна, на няшчасце, такая-ж старая, як род чалавечы.

— Вы зноў праўду кажаце, містэр Спілет,—прызнаўся марак.—Я заўсёды спярша намялю глупства, а потым каюся... Не злуйцеся на мяне!

Герберт палкі даследчык прыроды, перавёў гутарку на кенгуру:

— Стада, якое мы спаткалі, не вельмі лёгка ўзяць голымі рукамі. Гэта гіганцкае кенгуру з густой шэрай шэрсцю. Наколькі я памятаю ёсць яшчэ чорныя і чырвоныя кенгуру, горныя кенгуру і, урэшце, кенгуру-пацукі. Усяго ёсць не менш дзюжыны рознавіднасцей кенгуру.

— Герберт,—важна сказаў марак,—для мяне існуе толькі адна рознавіднасць—«кенгуру на ражне»! І якраз яе то ў нас не будзе сёння вечарам!

Каланісты не маглі стрымацца ад смеху, пачуўшы ад Пенкрофа такую класіфікацыю. Але стары марак і не думаў жартаваць. Ён вельмі быў засмучан тым, што ўвесь абед будзе складацца з адных горных фазанаў. Але лёс быў літасцівы да яго.

Топ, які вельмі добра разумеў, што яго абед пад пагрозай, шнырыў усюды з энергіяй, якую падганяў голад. Вельмі магчыма, што калі-б трапілася яму ў зубы якая-небудзь дзічына, ён і не падумаў-бы падзяліцца ёю з паляўнічымі. Але Наб не зводзіў з яго вачэй.

Каля трох гадзін папоўдні Топ знік у кустах. Неўзабаве яго глухое вурчэнне дало знак каланістам, што ён напаткаў нейкую дзічыну. Наб рынуўся следам за ім і знайшоў яго, калі ён пажыраў нейкую жывёліну. Калі-б Наб спазніўся на якіх дзесяць секунд, немагчыма-б было пазнаць, што злавіў Топ,—так шпарка знікала здабыча ў страўніку сабакі. Але, Топу пашчасціла нарвацца на цэлы вывадак грызуноў, і два з іх, якіх ён задушыў, ляжалі каля яго на зямлі.

Наб урачыста вярнуўся да сваіх таварышоў, трымаючы ў кожнай руцэ па грызуну, якія былі памерам з ладнага зайца. Гэта былі агуці, крыху большыя памерам, чым іх трапічная радня. Іх жорсткая, густая шэрсць паблісквала на сонцы.

— Ура!—крыкнуў Пенкроф.—Няхай жыве смажаніна! Цяпер можна ісці дахаты!

Каланісты рушылі зноў у дарогу. Яны ішлі ўніз за плыняй Чырвонага ручая, які струменіў сваю празрыстую ваду ў густой засені казуарынаў, банксій і аграмадных камедных дрэў. Патроху рэчышча ручая пачало расшырацца. Сайрус Сміт вырашыў, што гэта паказвае на блізкасць вусця. Сапраўды, як толькі скончыўся лес, адразу-ж стала бачным возера Гранта.

Даследчыкі вышлі на заходні бераг возера. Мясцовасць была надзвычай прыгожай. Люстраная роўнядзь вады займала плошчу ў дзвесце гектараў; бераг возера, міль на сем даўжынёю, быў скрозь пакрыты густою расліннасцю.

На ўсходзе праз маляўніча прыўзнятую зялёную заслону на гарызонце паблісквап акіян. На поўначы возера ўразалася ў зямлю поўкругам, у той час калі паўднёвы бераг яго быў завостраны. Мноства вадзяных птушак гнездавалася на берагах возера

Зімародкі парамі важна і нерухома сядзелі на скалах, утаропіўшы вочы ў ваду. Угледзеўшы рыбу, якая праплывала наўз іх, яны ўмомант выцягвалі шыю, нахіляліся наперад так, што іх дзюба ставілася амаль вертыкальна, і рантам каменнем падалі ў ваду, каб зараз-жа ўзняцца на паверхню з рыбай у дзюбе.

Вада ў возеры была празрыстая і прэсная. Мяркуючы па канцэнтрычных кругах, якія месцамі з'яўляліся на яго паверхні, возера было багатым на рыбу.

— Возера надзвычай маляўнічае!—сказаў Гедэон Спілет.—Вельмі прыемна было-б тут пасяліцца!

— Мы і паселімся тут,—адказаў Сайрус Сміт.

Стараючыся вярнуцца ў Камін найкарацейшай дарогай, каланісты накіраваліся на паўднёвы бераг возера, ледзь прадзіраючыся праз густыя зараснікі. Каля двух міль яны ішлі да пласкагор'я Далёкага віду. Адсюль простая дарога ішла да выгіну ракі Падзякі, ад якой да Каміна было не больш поўмілі.. Але інжынер хацеў даведацца, праз які вадасцёк знікае з возера лішняя вада, якую прыносіць Чырвоны ручай; таму маленькі атрад рушыў уздоўж лесу, у кірунку на поўнач. Можна было дапусціць, што гэты вадасцёк прабіў сабе дарогу ў граніту.

Возера, мяркуючы па ўсім, было проста звычайнай гіганцкай катлавінай, якая паволі напоўнілася вадой з Чырвонага ручая. Значыць, лішак вады, якую дастаўляў ручай, павінен быў дзе-небудзь і як-небудзь выліваецца ў мора.

Інжынеру патрэбна было знайсці гэтае месца, каб паглядзець, ці не можа быць скарыстана сіла вадападу. Аднак, прашоўшы больш як мілю, даследчыкі не знайшлі ніякага вадасцёку.

Было ўжо часу пачатак пятай гадзіны папаўдні. Голад прымусіў каланістаў спыніць разведку. Спусціўшыся да левага берагу ракі Падзякі, яны вярнуліся ў Камін.

Кавалкі смажанай агуці, якія хутка прыгатавалі Наб і Пенкроф, усе палічылі вельмі смачнай ежай. Пасля абеда, калі каланісты сабраліся класціся спаць, Сайрус Сміт паклікаў іх і, дастаўшы з кішэні сабраныя ім па дарозе абломкі парод, проста сказаў:

— Сябры мае, гэта—жалезная руда, гэта—пірыт [1], гэта—гліна, гэта—вапна, гэта—каменны вугаль. Усё гэта нам дае прырода. Нам застаецца скарыстаць яе дары.

---

[1] *Пірыт*—серны калчадан.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

*Нажы.—Прыгатаўленне лукаў і стрэл.—Цагельны завод.—Печ для апальвання гліны.—Кухонная пасуда.—Палынь.— Паўднёвы крыж.— Важнае астранамічнае назіранне*

— З чаго-ж мы пачнем, містэр Сміт?—звярнуўся ў наступную раніцу марак да інжынера.

— З самага пачатку,—адказаў Сайрус Сміт.

І сапраўды каланісты павінны былі пачынаць усё з самага пачатку. У іх не было ніводнага інструмента, нават самага простага, а патрэбна было для іх абсалютна ўсё. Гэта ўсё патрэбна было зрабіць у самы кароткі тэрмін. Праўда, яны мелі вопыт, сабраны чалавецтвам, і ім нічога не патрэбна было вынаходзіць, але затое ствараць патрэбна было безліч рэчаў. Патрэбныя для каланістаў жалеза і сталь знаходзіліся ў рудзе, кухонная пасуда—у сырой гліне, бялізна і вопратка—у валакністых раслінах. Але каланісты былі мужчынамі ў лепшым сэнсе гэтага слова. Сайрус Сміт нідзе не знайшоў-бы для сябе лепшых, больш адданых і больш старанных памочнікаў.

«Пачаткам», пра які казаў Сайрус Сміт, павінна была быць пабудова печы для апальвання гліны.

— Навошта нам гэтая печ?—запытаў Пенкроф.

— Каб зрабіць гліняную пасуду,—адказаў Сайрус Сміт.

— А з чаго мы пабудуем печ?

— З цэглы.

— А цэглу?

— З гліны. У дарогу, сябры! Каб дарэмна не цягаць цяжараў, мы пабудуем майстэрню на месцы, дзе ёсць гліна. Наб даставіць нам харчы, а агню для прыгатавання будзе больш чым патрэбна.

— Вядома,— сказаў журналіст.—Але вось пытанне: што, калі нам не будзе чаго варыць? Зброі-ж у нас няма ніякай?..

— Ах, калі-б хоць нож быў у нас...—уздыхнуў Пенкроф.

— Што было-б тады?—запытаў Сайрус Сміт.

— Я хутка зрабіў-бы лук і стрэлы, і прадуктаў у нас было-б аж залішняе.

— Так, нож... вострае лязо...—у голас выказваў свае думкі інжынер.

У гэтую хвіліну позірк яго спыніўся на Топе, які шнырыў узад і ўперад па беразе.

— Топ, сюды!—крыкнуў ён.

Сабака падбегла хутка. Інжынер зняў з яго нашыйнік і, пераламаўшы яго напал, сказаў:

— Вось вам два нажы, Пенкроф!

У адказ марак двойчы крыкнуў «ура». Нашыйнік Топа быў зроблен з тонкай пласцінкі вельмі добрай сталі. Каб зрабіць з гэтай пласцінкі нож даволі было толькі добра завастрыць яе. Бруськоў на беразе было вельмі многа. Праз дзве гадзіны каланісты мелі ўжо два надзвычайныя жалязкі на моцных драўляных ручках.

Гэтыя першыя прылады былі спатканы сапраўднай авацыяй. Гэта была вялікая і—гэта самае галоўнае—своечасовая перамога.

Сайрус Сміт падаў сігнал рушыць у дарогу. Ён меў намер вярнуцца да заходняга берагу возера Гранта, дзе ўчора знайшоў гліну.

Падняўшыся ўверх па рацэ Падзякі да пласкагор'я Далёкага віду каланісты мінулі яго і прайшоўшы пяць міль, надышлі да палянкі, якая знаходзілася крокаў за дзвесце ад возера Гранта.

Па дарозе Герберт убачыў дрэва, з галін якога паўднёва-амерыканскія індзейцы робяць лукі. Каланісты зрэзалі некалькі доўгіх роўных галін і абстругалі іх так, каб сярэдзіна была таўсцейшай, а канцы танчэйшымі. Трэба было толькі знайсці цеціву. Неўзабаве знайшлася і расліна з сямейства прасвірачных, валокны якой такія-ж моцныя, як і жылы.

Пенкроф шпарка змайстраваў вельмі добрыя лукі, для якіх неставала цяпер толькі стрэл. Самыя стрэлы можна было зрабіць з роўных галін без сучкоў. Але неставала наканечнікаў, якія павінны быць цвёрдымі, як жалеза. Урэшце, гэта не вельмі турбавала Пенкрофа: зрабіўшы сваю частку работы, ён быў упэўнены ў тым, што выпадак і Сайрус Сміт зробяць астатняе.

Каланісты надышлі да пакладаў гліны. Яна была прыгоднай для вырабу цэглы. Аперацыю трэба было прарабіць не вельмі складаную: разбавіць гліну пяском, вылепіць цэглу і апаліць яе на агні.

Звычайна цэгла вырабляецца ў спецыяльных формах, але інжынер павінен быў задаволіцца ручной лепкай.

Увесь гэты дзень і частку наступнага патрацілі на гэта. Гліну мачылі, мясілі нагамі і рукамі, а потым рэзалі на роўныя кавалкі.

Адзін спрактыкаваны рабочы можа на працягу дванаццаці гадзін рабочага дня зрабіць ручным спосабам да дзесяці тысяч цэглін.

Пяць цагельнікаў з вострава Лінкольна, працуючы няспынна, за двое сутак вылепілі ледзь пяць тысяч цэглін.

Сырыя цэгліны былі пакладзены радамі для прасушкі; толькі высушыўшы цэглу, дні праз тры-чатыры, можна было пачынаць яе апальваць.

Карыстаючыся вольным днём, Сайрус Сміт вырашыў 2 красавіка вызначыць месцазнаходжанне вострава.

Напярэдадні ён дакладна прымеціў заход сонца за гарызонт і, зрабіўшы папраўку на рэфракцыю праменняў [1], запісаў яго.

Раніцой 2 красавіка ён таксама дакладна адзначыў час узыходу сонца. Выявілася, што паміж заходам і ўзыходам прайшло 11 гадзін 36 хвілін. Выходзіць, што роўна ў 6 гадзін 12 хвілін пасля ўзыходу сонца пройдзе праз мерыдыян, і месца, якое яно будзе займаць на небе,— гэта поўнач [2]. Роўна ў 6 гадзін 12 хвілін пасля ўзыходу сонца Сайрус Сміт знайшоў напрамак поўначы і, адзначыўшы два дрэвы, якія знаходзіліся на адной прамой з мерыдыянам, атрымаў такім чынам для далейшых назіранняў сталую мерыдыяльную лінію.

Чакаючы моманту, калі можна будзе пачынаць апальваць цэглу, каланісты загатовілі апалу. Яны зрэзалі ўсё ніжняе галлё бліжэйшых дрэў і сабралі ўсё ламачча. Разам з гэтым яны хадзілі і на паляванне.

Каланісты мелі ўжо да гэтага часу каля дзюжыны стрэл з вострымі наканечнікамі. За апошнія яны павінны былі дзякаваць Топа. Верны сабака задушыў аднойчы лазаючага дзікаабраза. Мяса яго непрыгоднае для ўжывання, але калючкі, якімі ўтыкана яго скура, былі каштоўнейшай знаходкай для каланістаў. Калючкі неадкладна прымацавалі да аднаго канца стрэл, а да процілеглых канцоў, для пэўнасці прыцэлу, Пенкроф прымайстраваў пер'е какаду.

Журналіст і Герберт неўзабаве зрабіліся самымі спрытнымі лучнікамі. Дзякуючы гэтаму кладоўня Каміна заўсёды была перапоўнена запасамі рознай дзічыны, забітай галоўным чынам у лесе на левым беразе ракі Падзякі. Гэты лес, на ўспамін пра першае няўдалае паляванне на якамару, каланісты назвалі «лесам Якамары».

Дзічыну звычайна елі свежую, і толькі шынкі водасвінак загатаўляліся надоўга. Іх вэндзілі ў дыму сырых дроў. Ежа была смачная і сытная, але ўсё-ж каланістам абрыдла смажаніна. Яны марылі пра суп.

---

[1] *Рэфракцыя праменняў*—пераламленне святла ў зямной атмасферы, якое змяняе бачнае становішча свяціл, узнімаючы іх над гарызонтам.

[2] У паўночным паўшар'і гэта быў-бы поўдзень. *Заўвага пер.*

Але гэтая мара магла ажыццявіцца толькі тады, калі ў іх карыстанні будуць гаршкі. А для таго, каб змайстраваць гаршкі, трэба было раней зрабіць печ.

У часе экскурсіі каланісты некалькі разоў сустракалі сляды нейкіх буйных жывёлін.

Сайрус Сміт загадаў усім захоўваць найвялікшую асцярожнасць, бо лічыў, што гэта сляды драпежнікаў. І сапраўды, аднойчы Гедэон Спілет і Герберт убачылі жывёліну, якая з выгляду нагадвала ягуара. Драпежнік на шчасце, не крануў іх, іначай справа магла-б скончыцца дрэнна.

Пенкроф і Гедэон Спілет далі адзін аднаму клятву, што як толькі ў іх будзе сур'ёзная зброя, гэта значыць адна з тых стрэльб, якіх так дамагаўся Пенкроф, абвясціць драпежнікам вайну не на жыццё, а на смерць і ачысціць ад іх востраў.

Каланісты не трацілі марна часу на абсталяванне Каміна, бо Сайрус Сміт вырашыў знайсці лепшае або ў крайнім выпадку пабудаваць новае жыллё. Яны задаволіліся тым, што зрабілі мяккія падсцілкі з свежага моху; на гэтых прымітыўных пасцелях змораныя працай людзі вельмі добра спалі.

6 красавіка, досвіткам, інжынер і яго спадарожнікі сабраліся на паляне, дзе сохла цэгла. Вядома, што апальванне павінна было рабіцца не ў печах, а на адкрытым паветры. Цагліны, складзеныя ў кучу, утварылі нешта падобнае на печ, якая сама сябе апальвала.

Лам'ё, старанна звязанае, было абкладзена некалькімі радамі падсохлых цаглін, якія ўтварылі высокі куб. У гэтым кубе былі пакінуты аддушыны для паветра. Работа гэтая прадаўжалася ўвесь дзень, і толькі калі сцямнела Пенкроф распаліў агонь.

Усю ноч каланісты не кладіся спаць, падтрымліваючы вялікі агонь у кубе. Апальванне прадаўжалася сорак восем гадзін і вельмі ўдалося. Пакуль дымлівая маса цэглы астывала, Наб і Пенкроф, па загаду Сайруса Сміта, паспелі нанасіць цэлую кучу абломкаў вапняковага шпата, якіх было шмат раскідана на паўночным беразе возера. З абпаленага на агні шпата атрымалі чыстую нягашаную вапну: гэтую вапну змяшалі з пяском, каб зменшыць асяданне масы, і атрымалася вельмі добрая вапенная рашчына.

9 красавіка ў інжынера Сміта была патрэбная колькасць вапеннай рашчыны і цэглы для выканання яго планаў.

Не трацячы ні хвіліны часу, каланісты пачалі складаць печ для апальвання гліпянай пасуды і праз пяць дзён гато-

вую печ ужо запоўнілі каменным вугалем, які інжынер знайшоў на паверхні каля вусця Чырвонага ручая.

Неўзабаве печ весела задымілася. Паляпка ператварылася ў фабрыку, і схільны захапляцца Пенкроф, здавалася, шчыра верыў, што яго печ зможа выпускаць любыя вырабы сучаснай прамысловасці. А пакуль што каланісты задавальняліся тым, што зрабілі некалькі гаршкоў, грубых, але прыгодных, каб варыць ежу. Матэрыялам была тая-ж гліна, у якую Сайрус Сміт загадаў дабавіць крыху ванны і кварца. Гэтая сумесь, якую завуць ганчарнай глінай, была скарыстана для вырабу талерак, кубкаў, збанкоў і т. д.

Гэтыя нязграбныя прадметы, аднак, вельмі добра выконвалі сваю службу, нават не горш за тых, што зроблены з самага каштоўнага кааліна.

Пенкроф, даведаўшыся, што гэтую гліну называюць яшчэ «люлечнай», зрабіў для сябе некалькі нязграбных люлек. Але, ён лічыў іх вельмі ўдалымі. На жаль, табаку не было, і гэта вельмі непакоіла марака.

— Але табак будзе, таксама як і ўсё іншае!—паўтараў ён у парыве бязмежнага давер'я да інжынера.

Ганчарныя работы зацягнуліся да 15 красавіка, хоць каланісты не трацілі часу дарэмна.

Зрабіўшыся ганчарамі, яны толькі гэтай работай і займаліся. Каб Сайрус Сміт загадаў ім выконваць кавальскую работу, яны ўсе-б зрабіліся такімі-ж добрасумленнымі кавалямі.

Вечарам 15 красавіка яны вярнуліся ў Камін і перанеслі туды ўсе свае вырабы. Печ загасілі да новай патрэбы. Зварот быў адзначан удалай знаходкай губчатага бархацістага грыбка, які мог замяніць трут. Апрацаваная належным спосабам, гэта значыць праварапая ў азотнай кіслаце, гэтая расліна запальваецца ад першай іскры.

Сабраўшы некалькі пучкоў, інжынер падаў іх мараку і сказаў:

— Вазьміце, Пенкроф, гэтая расліна спатрэбіцца для вас.

Пенкроф уважліва агледзеў пакрытую доўгім шаўкавістым пухам расліну.

— Што гэта такое, містэр Сміт?—запытаў ён.—Няўжо табак?

— Не,—усміхнуўся Сайрус Сміт,—для вучоных гэта - кітайскі чорнабыльнік. А для нас з вамі гэта—трут.

Сапраўды, з чорнабыльніка атрымаўся вельмі добры трут, калі інжынер высушыў яго і змяшаў з азотнакіслым каліем—інакш кажучы, селітрай, якой ставала ў многіх месцах вострава.

У гэты вечар каланісты, якія сабраліся ў цэнтральным пакоі Каміна, упершыню павячэралі па-сапраўднаму. Наб згатаваў суп з агуці, венгліну з нагі водасвінікі з гарнірам з вараных карэнняў расліны, якую Герберт называў caladium macrorhizum". Гэтая расліна, што расце як трава ва ўмераным поясе, пад тропікамі расце як дрэва. Карэнні былі вельмі спажыўнымі і сваім смакам нагадвалі прадукт, які прадаецца ў англійскіх гастранамічных магазінах пад назвай «партландскае саго». У пэўнай ступені гэтыя карэнні маглі замяніць хлеб, адсутнасць якога востра адчувалі каланісты вострава Лінкольна.

Пасля вячэры Сайрус Сміт і яго таварышы пайшлі на бераг падыхаць перад сном свежым паветрам. Было каля васьмі гадзін. Ноч абяцала быць надзвычайнай. Месяц яшчэ не ўзыходзіў, але гарызонт ужо срабрыўся тымі кволымі і беднымі тонамі, якія можна-б было назваць месяцовай зарою. У зеніце струменілі яркім святлом цудоўныя прыпалярныя сузор'і і паміж іх Паўднёвы крыж, якім інжынер любаваўся некалькі дзён таму назад з гары Франкліна.

Сайрус Сміт на працягу некалькіх хвілін не зводзіў вачэй з гэтага сузор'я, якое складалася з двух зорак першай велічыні ў аснове і ўверсе, зоркі другой велічыні злева і зоркі трэцяй велічыні справа.

Раптоўна ён звярнуўся да Герберта:

— Скажы, дружок, сёння, здаецца, пятнаццатага красавіка?

— Так містэр Сміт,—адказаў юнак.

— У такім разе заўтра адзін з тых чатырох дзён у годзе, калі сярэдні час супадае з сонечным. Інакш кажучы, дзіця маё, заўтра сонца пройдзе праз мерыдыян роўна ў поўдні. Калі надвор'е будзе добрае, я думаю, што мне ўдасца з патрэбнай дакладнасцю вызначыць даўгату вострава.

— Без інструментаў? Без секстанта?—здзівіўся Герберт.

— Так,—адказаў інжынер.—А зараз, карыстаючыся тым, што неба без хмар, паспрабуем сёння-ж вызначыць шырату вострава па вышыні нахілу Паўднёвага крыжа над гарызонтам. Вы разумееце, сябры мае, што, раней чым насур'ёз асталявацца тут жыць, мала яшчэ пераканацца, што гэта зямля—востраў, трэба як мага дакладней даведацца на якой адлегласці знаходзіцца гэты востраў ад Амерыкі, Аўстраліі і ад галоўных ціхаакіянскіх архіпелагаў.

— Сапраўды,—згадзіўся журналіст.—Можа, больш мэтазгодна пабудаваць не дом, а карабль—бо вельмі магчыма, што мы знаходзімся ўсяго за якую-небудзь сотню міль ад заселенай зямлі.

— Вось таму я і хачу вызначыць сёння шырату, а заўтра, у поўдзень, даўгату вострава Лінкольна.

Калі-б у інжынера быў секстант—апарат, які дапамагае з вялікай дакладнасцю вымяраць вуглавыя адлегласці паміж прадметамі,—гэтае вылічэнне не было-б цяжкім; ноччу па вышыні Паўднёвага крыжа над гарызонтам, у дзень па праходжанню сонца цераз зеніт інжынер даведаўся-б пра каардынаты вострава[1]. Але галоўная цяжкасць і была ў тым, што прыбора не было і яго патрэбна было чымсьці замяніць.

Сайрус Сміт вярнуўся ў Камін. Пры агні ачага ён выстругаў дзве плоскія лінейкі і злучыў іх канцамі так, што яны маглі збліжацца і рассоўвацца як цыркуль. Замест цвіка, лінейкі былі змацаваны шыпам акацыі, які знайшлі ў лам'і.

З гэтым «астранамічным прыборам» у руках інжынер вярнуўся на бераг. Але з-за таго, што вышыню нахілу зоркі неабходна вымяраць пры рэзка акрэсленай лініі гарызонта, Сайрус вырашыў зрабіць назіранне з пласкагор'я Далёкага віду і потым вылічаючы рэзультат, улічыць яго вышыню над узроўнем мора.

Гэтую вышыню ён думаў вымераць пры дапамозе вельмі простага спосабу, які вядомы з пачатковага курса геаметрыі.

Усе каланісты пайшлі за інжынерам на пласкагор'е Далёкага віду. Там ён выбраў месца на краі гранітнай сцяны, адкуль быў відаць гарызонт—ад мыса Кіпцюра да самага паўднёвага пункта вострава—мыса Рэптыліі.

На поўдні лінія гарызонта, асветленая знізу праменнямі яшчэ не ўзышоўшага месяца, рэзка вылучалася на цёмным фоне мора і таму магла быць «узята» прыборам Сайруса Сміта вельмі дакладна.

У гэты час сузор'е Паўднёвага крыжа было відаць назіральніку ў перакуленым выглядзе, і яго альфа, бліжэйшая да полюса, знаходзілася ў аснове сузор'я.

Паўднёвы крыж знаходзіцца ад паўднёвага полюса крыху далей, чым Палярная зорка ад паўночнага. Альфа сузор'я аддалена ад яго амаль на 27°. Сайрус Сміт ведаў гэта і павінен быў зрабіць адпаведную папраўку ў часе вылічэнняў. Для таго, каб спрасціць назіранне, ён рабіў яго ў момант праходжання зоркі праз ніжні мерыдыян.

Сайрус Сміт накіраваў адну ножку свайго драўлянага цыркуля на гарызонт, а другую на альфу Паўднёвага крыжа. Вугал паміж лінейкамі даваў вышыню нахілу зоркі над

---

[1] *Каардынаты* вострава—велічыні, якія паказваюць яго месцазнаходжанне на зямным шары, гэта значыць шырата і даўгата.

гарызонтам. Для таго, каб выпадкова не скрануць лінеек, інжынер замацаваў іх папярочнай планкай, якую прыбіў шыпамі акацый.

Цяпер трэба было толькі вымераць атрыманы вугал і ўлічыць вышыню назіральнага пункта над узроўнем мора. Атрыманая ад такога вылічэння велічыня кута пакажа вышыню альфы Паўднёвага крыжа, гэта значыць, полюса над гарызонтам і гэтым самым вызначыць шырату мясцовасці, бо шырата гэтай мясцовасці ёсць не што іншае, як вышыня полюса свету над яе гарызонтам.

Вылічэнні былі адкладзены на наступную раніцу, і ў дзевяць гадзін вечара ўсе каланісты ўжо моцна спалі.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

*Вышыня гранітнай сцяны.—Практычнае прымяненне тэарэмы аб падабенстве трыкутнікаў.—Экскурсія на поўнач. Устрычная мель.—Планы на будучыню.—Праходжанне сонца праз мерыдыяны.—Шырата і даўгата вострава Лінкольна.*

Раніцу наступнага дня, 16 красавіка, каланісты, устаўшы досвіткам, скарысталі для мыцця бялізны і чысткі адзення. Інжынер абяцаў зрабіць мыла, як толькі знойдзе патрэбную сыравіну—соду або паташ, тлушч або расліннае масла. Вырашэнне важнейшага пытання пра вопратку было адкладзена да больш спрыяльнага часу. На шчасце, вопратка каланістаў была досыць моцная і магла праносіцца яшчэ месяцаў шэсць. Аднак, усе планы на будучыню залежалі ад месцазнаходжання вострава і таго, як далёка ён ад заселеных зямель. Гэтае пытанне павінна было вырашыцца не пазней як у поўдзень, калі будзе спрыяць надвор'е.

Сонца паднялося на бязвоблачным небе. Былі ўсе прыметы на пагодні дзень, адзін з тых ясных восеньскіх дзён, якімі прырода нібы развітваецца з летам.

Перш за ўсё інжынер павінен быў дапоўніць учарашнія назіранні, вызначыўшы вышыню гранітнай сцяны над узроўнем мора.

— Вам, напэўна, будзе патрэбен такі-ж, як і ўчора, інструмент для вымярэння вуглоў?—запытаў інжынера Герберт.

— Не, мой хлопча. Мы зробім гэта інакш, але таксама дакладна.

Дапытлівы Герберт пайшоў за інжынерам на бераг акіяна, у той час калі Пенкроф, Наб і Гедэон Спілет прадаўжалі займацца сваёй справай.

Сайрус Сміт дастаў тонкую роўную жэрдку і змераў яе даўжыню на свой рост, які ён ведаў з дакладнасцю да

аднаго міліметра. Жэрдка была роўнай дванаццаці футам. Герберт зрабіў, як яму паказаў інжынер, адвес, г. зн. прасцей кажучы, прывязаў камень да канца доўгай ліяны.

За дваццаць крокаў ад паласы прыбою і прыблізна за пяцьсот крокаў ад адвеснай гранітнай сцяны Сайрус Сміт уваткнуў жардзіну на два футы ў пясок і пры дапамозе гэтага прымітыўнага адвеса ўмацаваў яе строга перпендыкулярна да лініі гарызонта.

Потым ён лёг на пясок і адпоўз назад на такую адлегласць, каб адначасова бачыць самы канец шаста і грэбень гранітнай сцяны.

Знойдзеную такім чынам кропку ён адзначыў на пяску каменем.

Падняўшыся потым з пяску, ён сказаў Герберту:

— Ты памятаеш геаметрыю?

— Крыху памятаю, містэр Сміт,—скромна адказаў Герберт.

— Ці памятаеш ты ўласцівасці двух падобных трыкутнікаў?

— Так. Іх адпаведныя бакі прапарцыянальныя.

— Дык вось, дзіця маё, я толькі што пабудаваў два падобныя трыкутнікі. Абодва яны прамавугольныя. Меншы мае катэтамі адлегласць ад каменьчыка да жэрдкі і вышыню жэрдкі; за гіпатэнузу яму служыць прамень майго зроку. Для большага катэтамі служыць адлегласць ад гранітнай сцяны да таго-ж каменьчыка і вышыня гранітнай сцяны, якую мы адшукваем. За гіпатэнузу-ж, як і для меншага, служыць прамень майго зроку, гэта значыць працяг першай гіпатэнузы.

— Ах, містэр Сміт, я зразумеў!—усклікнуў Герберт.— Як адлегласць ад каменьчыка да жэрдкі прапарцыянальна адлегласці ад каменьчыка да сцяны, так вышыня жэрдкі прапарцыянальна вышыні сцяны! Правільна?

— Правільна, Герберт,—адказаў інжынер.—Таму, дакладна вымераўшы першыя дзве адлегласці і ведаючы вышыню жэрдкі, мы можам вылічыць па трайному правілу вышыню гранітнай сцяны таксама дакладна, нібы мы яе вымералі натуральна.

Абодва гарызантальныя катэты былі вымераны тою-ж жэрдкаю, якая ўзвышалася над пяском роўна на дзесяць футаў.

Першы катэт—ад каменьчыка да месца, дзе стаяла жэрдка,—быў роўны пятнаццаці футам. Другі—адлегласць ад каменьчыка да сцяны—быў роўны пяцістам футам.

Зрабіўшы вымярэнні, інжынер і юнак вярнуліся ў Каміп.

Там Сайрус Сміт вострай ракушкай нарысаваў на пяску наступную прапорцыю:

$$\frac{15}{500}=\frac{10}{x};$$

$$x=\frac{500\cdot 10}{15}=333{,}3,$$

гэта значыць гранітная сцяна была вышынёю трыста трыццаць тры футы з адной трэцяй.

Потым Сайрус Сміт узяў зроблены ім напярэдадні вымяральнік вуглоў, лінейкі якога, замацаваныя папяровачнай планкай, утваралі кут нахілу альфы Паўднёвага крыжа над гарызонтам. Гэты вугал інжынер старанна вымераў пры дапамозе круга, падзеленага на трыста шэсцьдзесят роўных частак. Гэты вугал быў роўны 10°. Значыць, агульная вуглавая адлегласць між полюсам і гарызонтам, улічыўшы 27°, якія аддзялялі альфу Паўднёвага крыжа ад полюса, і з папраўкай на вышыню назіральнага пункта над узроўнем мора, была роўна прыкладна 37°. Сайрус Сміт абвясціў, што востраў Лінкольна знаходзіцца на 37° паўднёвай шыраты, або, улічваючы папраўку ў 5° на недасканаласць яго «астранамічных прыбораў», паміж 35 і 40° паўднёвай шыраты.

Цяпер трэба было вылічыць даўгату вострава. Гэтае вылічэнне інжынер меркаваў зрабіць у дванаццаць гадзін таго-ж дня, гэта значыць у тую хвіліну, калі сонца праходзіць праз мерыдыян.

Каланісты вырашылі зрабіць у гэты дзень прагулку, або больш правільна, даследаваць частку вострава, якая знаходзілася паміж паўночным берагам возера і залівам Акулы, а калі будзе час, дайсці да аканечнасці мыса Паўночнай сківіцы. Снедаць меркавалі на дзюнах, і вярнуцца дамоў вырашылі позна ўвечары.

А палове дзевятай раніцы маленькі атрад ужо ішоў па беразе праліва.

На процілеглым беразе праліва, на астраўку, па пяску поўзалі нейкія буйныя жывёліны, напэўна цюлені. Цюленяў не ўжываюць у ежу, бо мяса іх брыдкае на смак, але Сайрус чамусьці ўважліва разглядаў іх і, нічога не растлумачваючы, сказаў сваім спадарожнікам, што неўзабаве ім давядзецца наведаць гэты астравок.

Узбярэжжа праліва было ўсыпана безліччу ракушак, шмат якія захапілі-б натуралістаў. Але і каланісты знайшлі тут нешта вельмі карыснае для сябе. Наб нечакана знайшоў вялікую ўстрычную мель, аголеную адлівам.

— Наб малайчына!—усклікнуў Пенкроф, разглядаючы мель.

— Сапраўды, гэта шчаслівая знаходка,—сказаў Гедэон Спілет.—Калі праўда, што кожная ўстрыца штогод дае ад пяцідзесяці да шасцідзесяці тысяч яек, дык у нас тут будзе невычарпальны запас устрыц.

— Я чуў, што ўстрыцы неспажыўныя,—сказаў Герберт.

— Гэта—праўда,—згадзіўся Сайрус Сміт.—У ўстрыцах вельмі мала азоцістых рэчаў, і чалавек, які ўжываў-бы адны ўстрыцы, павінен быў-бы штодзень з'ядаць іх пятнаццаць-шаснаццаць дзюжын.

— Што-ж,—умяшаўся ў размову Пенкроф,—гэта не бяда. Мы маглі-б штодзень есці па сотні дзюжын кожны і ўсё-ж не зменшылі-б запасаў. Ці не ўзяць нам некалькі ўстрыц на снеданне?

І, не чакаючы адказу на сваю прапанову—ён быў зусім упэўнены, што пярэчанняў не будзе,—марак пры дапамозе Наба сабраў значную колькасць гэтых малюскаў. Іх паклалі ў сетку, сплеценую Набам з сцяблоў гібіска, у якой ужо былі сякія-такія запасы яды на снеданне. Потым каланісты зноў рушылі паміж дзюн і адкрытым морам.

Час ад часу Сайрус Сміт пазіраў на гадзіннік; ён баяўся спазніцца з падрыхтоўкай назірання праходжання сонца праз мерыдыян, якое павінна было адбыцца якраз апоўдні.

Уся гэтая частка вострава, да мыса Паўднёвай сківіцы, была зусім бясплодная. Пясок, ракушкі і кавалкі ак'мянелай лавы—вось і ўсё, што было відаць. Толькі чайкі, альбатросы і дзікія качкі наведвалі гэты нудны бераг; на апошніх Пенкроф пазіраў прагна, нават спрабаваў збіць іх стралою, але няўдала—качкі ўвесь час лятал і ў паветры, не садзіліся, а страляць у лёт марак яшчэ не навучыўся.

— Бачыце, містэр Сміт,—не прамінуў сказаць Пенкроф,—да таго часу, пакуль у нас не будзе адной-двух стрэльбаў, мы не зможам па-людску паляваць.

— Вы праўду кажаце, Пенкроф,—адказаў яму журналіст.—Урэшце ўсё залежыць ад самога вас. Дастаньце жалеза для рулі, сталь для курка, селітру, вугаль і серу для пораха, ртуць і азотную кіслату для пісталета і нарэшце, свінец для куль—і Сайрус Сміт зробіць вам цудоўныя стрэльбы!

— О, не,—адказаў інжынер,—усе гэтыя матэрыялы, напэўна, ёсць на востраве, але-ж агнястрэльная зброя—рэч тонкая, і каб яе зрабіць патрэбны вельмі складаныя пры-

лады. Урэшце, пабачым, магчыма, пазней і ўдасца што-небудзь зрабіць.

— Навошта толькі мы выкінулі за борт гандолы ўсю зброю і ўсе інструменты, нават складны ножык!—тужліва ўсклікнуў марак.

— Ты забываешся, Пенкроф,—адказаў яму Герберт,—што, каб мы не выкінулі ўсяго гэтага за борт, шар выкінуў-бы нас саміх у мора.

— Ты праўду кажаш, мой хлопчык,—сказаў марак,—я забыўся на гэта.—І, па асацыяцыі ўспомніўшы пра паветраны шар, ён дадаў:—Уяўляю, як здзівіліся Джанатан Форстэр і яго спадарожнікі, калі раніцою знайшлі пустую плошчу і пераканаліся, што шар паляцеў!

— Мяне асабіста менш за ўсё непакоіць, што яны маглі падумаць,—заўважыў журналіст.

— Аднак усё-ж гэтая ідэя прышла ў галаву мне,—не без гонару сказаў марак.

— Сапраўды геніяльная ідэя, Пенкроф,—засмяяўся журналіст,—гэта-ж ёй мы абавязаны за сваё пражыванне тут.

— Я лічу за лепшае быць тут, чым у лапах у паўднёвых!—усклікнуў марак.—Асабліва з таго часу, як містэр Сміт з намі...

— Ды і я таксама,—прымірэнча сказаў Гедэон Спілет.—Чаго нам, уласна кажучы, нехапае? Нічога!

— Або праўдзівей—усяго!—марак зарагатаў так, што аж задрыжэлі яго шырокія плечы.—Але я ўпэўнены, што раней ці пазней—але мы знойдзем спосаб выбрацца адсюль.

— Магчыма, нават раней, як вы мяркуеце, сябры мае,—сказаў інжынер.—Магчыма, што востраў Лінкольна знаходзіцца недалёка ад якога-небудзь заселенага архіпелага ці ад мацерыка. Праз гадзіну мы гэта будзем ведаць. У нас няма карты, але я добра памятаю контуры паўднёвай часткі Ціхага акіяна. Шырата вострава, якую я вызначыў учора, паказвае, што востраў Лінкольна знаходзіцца на адной паралелі з Новай Зеландыяй на захадзе і з Чылі на ўсходзе. Але адлегласць паміж гэтымі землямі дасягае амаль шасці тысяч міль. Трэба ведаць, дзе іменна між гэтых земляў знаходзіцца наш востраў. Адказ на гэтае пытанне, я спадзяюся, досыць дакладна дасць нам вызначэнне яго даўгаты.

— Скажыце, містэр Сміт, хіба не праўда, што бліжэй за ўсё да нас па шыраце знаходзіцца архіпелаг Паумоту?—запытаў Герберт.

— Так,—адказаў інжынер,—але нас усё-ж аддзяляе ад яго не менш як тысяча дзвесце міль.

— А там?—паказваючы на поўдзень, запытаў Наб, які вельмі ўважліва прыслухоўваўся да размовы.

— Там нічога няма,—адказаў Пенкроф

— Так, сапраўды,—пацвердзіў інжынер.

— Скажыце, Сайрус,—запытаў Гедэон Спілет,—а што, калі востраў Лінкольна знаходзіцца ўсяго за дзвесце—трыста міль ад Новай Зеландыі або Чылі?

— Што-ж, у такім разе, замест таго каб будаваць дом, мы пабудуем карабль, і капітан Пенкроф будзе камандаваць ім!

— Што-ж, містэр Сміт,—усклікнуў марак,—я з вялікай ахвотай буду капітанам, як толькі вы пабудуеце пасудзіну, здольную трымацца на вадзе!

— Пабудуем, калі будзе патрэбна,—адказаў інжынер.

Пакуль гэтыя адважныя людзі гутарылі, надышоў час, калі інжынеру трэба было ўжо рыхтавацца да назіранняў. Якім чынам ён вызначыць без прыбораў дакладны момант праходжання сонца праз мерыдыян?—Герберт не мог зразумець гэтага.

Каланісты былі ў гэты час за шэсць міль ад Каміна, у той частцы вострава, дзе яны знайшлі інжынера, які выратаваўся цудам. Яны прыпыніліся і, з той прычыны, што было ўжо часу палова дванаццатай гадзіны, пачалі рыхтаваць снеданне. Герберт узяў кубак, які прадбачліва не забыў узяць Наб, і накіраваўся да недалёкага ручая па прэсную ваду.

Тым часам Сайрус Сміт падрыхтаваў усё для астранамічных назіранняў. Ён выбраў на беразе пясчаную пляцоўку, якую ідэальна гладка выраўняў адліў. Для інжынера было абыякава, ці дакладна гарызантальная пляцоўка, якую ён абраў, або яна мае нахіл, таксама як не мела значэння, ці стаіць перпендыкулярна ўваткнуты ім у пясок шост даўжынёю ў шэсць футаў. Больш таго, інжынер сам нахіліў яго ў процілеглы ад сонца бок, гэта значыць на поўдзень; не трэба забываць, што каланісты вострава Лінкольна назіралі дзённы рух прамяністага свяціла ў паўночнай частцы неба з той прычыны, што сам востраў знаходзіўся ў паўднёвым паўшар'і.

Герберт раптам здагадаўся, якім спосабам інжынер думае вызначыць момант праходжання сонца праз кропку зеніта, гэта значыць мерыдыяна вострава, або інакш прасцей—сонечны поўдзень гэтага месца: ён скарыстае для гэтага цень шаста, які падае на пясок!

Сапраўды, той момант, калі цень шаста стане самы кароткі, і будзе лічыцца за поўдзень. Тэхніка назірання

была ў тым, каб, пільна сочачы за ценем, заўважыць момант, калі, пасля скарачэння, цень зноў пачне падаўжацца.

Нахіліўшы шэст у процілеглы ад сонца бок, Сайрус Сміт рабіў цень, які адкідаў шост, больш доўгім і гэтым самым больш прыметнымі змены ў яго даўжыні. Сапраўды, чым даўжэйшая стрэлка гадзінніка, то лягчэй прасачыць за яе рухам па цыферблату. У доследзе інжынера Сміта цень шаста і быў такой стрэлкай на цыферблаце. Калі, на яго думку, надышоў час, Сміт стаў на калені на пясок і калочкамі адзначаў пастутова змяншэнне даўжыні ценю шаста на пяску. Яго спадарожнікі, нахіліўшыся да яго, з вялікай цікаўнасцю сачылі за яго работай.

Гедэон Спілет, трымаючы хранометр стараўся не прапусціць моманту, калі цень шаста пачне падаўжацца. З той прычыны, што Сайрус Сміт выбраў для гэтага назірання дзень 16 красавіка, калі сонечны або сапраўдны час супадае з сярэднім, хранометр журналіста павінен быў дакладна паказаць, якая гадзіна ў Вашынгтоне, калі на востраве Лінкольна поўдзень, а гэта значна спрашчала ўсе вылічэнні.

Пакуль сонца павольна ўзнімалася да зеніта, цень шаста ўвесь час змяншаўся. Калі Сайрусу Сміту здалося, што цень зноў пачынае павялічвацца, ён запытаў:

— Якая гадзіна?

— Пяць гадзін і адна хвіліна,—зараз-жа адказаў журналіст.

Вызначэнне было закончана. Трэба было толькі зрабіць вылічэнні. Нішто не магло быць больш простым. Паміж мерыдыянамі вострава Лінкольна і Вашынгтонам была розніца поўным лікам у пяць гадзін. Як вядома, сонца ў сваім бачным сутачным руху вакол зямлі праходзіць адзін градус за чатыры хвіліны, гэта значыць пятнаццаць градусаў за гадзіну. Пятнаццаць градусаў, памножаныя на пяць гадзін, давалі семдзесят пяць градусаў. Адсюль зразумела, што калі Вашынгтон знаходзіцца на 77° 3' 11" або поўным лікам за семдзесят сем градусаў ад Грынвічскага мерыдыяна, дык востраў Лінкольна знаходзіцца на захад ад Грынвіча на семдзесят сем плюс семдзесят пяць градусаў, гэта значыць на 152° заходняй даўгаты.

Сказаўшы пра гэты рэзультат каланістам, Сайрус Сміт на выпадак магчымых памылак у часе назіранняў, таксама, як ён зрабіў пры вызначэнні шыраты, заявіў, што больш правільна будзе лічыць, што востраў Лінкольна знаходзіцца

паміж трыццаць пятай і саракавой паралелямі і паміж сто пяцідзесятым і сто пяцьдзесят пятым мерыдыянамі на захад ад Грынвіча.

Магчымая недакладнасць у вылічэннях у пераводзе на мілі, лічачы па шэсцьдзесят міль у адным градусе, давала каля трохсот міль па шыраце і даўгаце. Але гэтая недакладнасць не магла зрабіць уплыву на рашэнне каланістаў: востраў Лінкольна знаходзіўся так далёка ад бліжэйшай заселенай зямлі, што трэба было пакінуць усякую думку дабрацца да яе на кволым і маленькім судне.

Сапраўды, геаграфічныя каардынаты вострава паказвалі, што ён знаходзіцца за тысяча восемсот міль ад Новай Зеландыі, за тысячу дзвесце—ад архіпелага Паумота і за чатыры тысячы пяцьсот міль—ад амерыканскага ўзбярэжжа. Але колькі Сайрус Сміт не думаў, ён не мог успомніць ніводнага вострава на карце гэтай часткі Ціхага акіяна.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

*Зімоўка вырашана канчаткова.—Пытанне пра метал.—Даследаванне вострава Выратавання.—Паляванне на цюленяў.—Ехідна злоўлена.—Каталонскі спосаб.—Жалеза.—Сталь.*

На другі дзень, 17 красавіка, першыя словы, з якімі звярнуўся марак да журналіста, былі:

— Кім мы будзем сёння, містэр Спілет?

— Кім загадае быць Сайрус,—адказаў журналіст.

У гэты дзень былым цагельнікам і ганчарам давялося зрабіцца металургамі.

Напярэдадні пасля снедання каланісты прадоўжылі сваё даследаванне да аканечнасці мыса Сківіцы, якая знаходзілася за сем міль ад Каміна. Там канчаліся дзюны, і глеба набывала выразна акрэслены вулканічны характар. Тут ужо не было суцэльных гранітных сцен, як на пласкагор'і Далёкага віду; вузкі заліў, сціснуты двума мысамі, быў абкружаны ланцугом абыяк раскіданых скал, якія складаліся з выкінутых вулканам парод.

Дайшоўшы да гэтага пункта, каланісты павярнулі назад і толькі калі сцямнела дацягнуліся да Каміна. Не гледзячы на стому, яны не ляглі спаць, пакуль канчаткова не вырашылі пытання, аставацца ім на востраве Лінкольна або паспрабаваць пакінуць яго.

Нават бліжэйшая да вострава зямля—архіпелага Паумоту—знаходзілася ад яго на вялізнай адлегласці ў тысячу дзвесце міль. Пенкроф рашуча заявіў, што звычайная шлюпка,

асабліва напярэдадні бурнага зімняга надвор'я, не можа адолець такую адлегласць. Але і пабудова звычайнай шлюпкі, нават калі-б меўся патрэбны інструмент, была-б нялёгкай справай. Каланістам давялося-б пачаць з вырабу самага звычайнага інструменту—малаткоў, піл, тапароў, свярдзёлкаў, гэблікаў, на што патрэбна нямала часу. Таму каланісты вырашылі зазімаваць на востраве, адшукаўшы больш камфартабельнае, чым Камін, жыллё.

Перш за ўсё патрэбна было скарыстаць жалезную руду, паклады якой інжынер знайшоў у паўночна-заходняй частцы вострава, і ператварыць яе ў жалеза і сталь.

Металы рэдка знаходзяцца ў нетрах зямлі ў чыстым выглядзе. Часцей за ўсё яны сустракаюцца ў злучэннях з кіслародам або серай. Два ўзоры руды, якія знайшоў інжынер, якраз і былі: адзін—вокісам жалеза, другі—серным калчаданам, гэта значыць сerністай соллю жалеза. Інжынер вырашыў атрымаць жалеза з яго вокісу шляхам аднаўлення гэтага вокісу вугаллем—пры плаўцы сумесі руды з вугалем. Ёсць два спосабы плаўкі: адзін—просты і хуткі, так званы «каталонскі спосаб», які мае тую перавагу, што руда непасрэдна ператвараецца ў жалеза; другі спосаб, значна больш складаны—доменная плаўка,—калі з руды вырабляюць раней чыгун, а ўжо з чыгуна жалеза шляхам вылучэння з яго вуглерода, які знаходзіцца ў чыгуне ў нязначнай колькасці—ад трох з паловай да чатырох процантаў.

Сайрусу Сміту патрэбен быў не чыгун, а жалеза. Таму ён рашыў скарыстаць першы спосаб. Руда, якую знайшоў інжынер, была вельмі багатая на жалеза. Гэта была бурая, цяжкая руда, якая складаецца з вокісу жалеза з прымешкай крэмнезёма. Руды гэтага гатунку ў Еўропе скарыстоўваюць для вырабу высокагатунковага жалеза, якім славяцца Швецыя і Нарвегія.

Недалёка ад адкладаў жалезнай руды знаходзіліся ўжо вядомыя каланістам адклады каменнага вугалю, блізкасць руды і вугалю была вельмі зручнай.

— Значыць, мы будзем металургамі, містэр Сміт?— запытаў Пенкроф.

— Так, мой дружа, але раней, калі вы нічога не маеце супроць, мы наладзім паляванне на цюленяў на астраўку Вратавання.

— Паляваць на цюленяў?—марак здзіўлена зірнуў на журналіста.—Хіба для вырабу жалеза патрэбны цюлені?

— Відавочна так, калі Сайрус гэта кажа,—адказаў той.

Але інжынер ужо вышаў з Каміна, і Пенкроф вымушан быў пайсці на паляванне на цюленяў, так і не атрымаўшы

тлумачэнняў. Каланісты сабраліся на беразе праліва, каля броду.

Сотня пінгвінаў бесклапотна наглядала за набліжэннем людзей. Каланісты, узброеныя дубінамі, лёгка маглі забіць іх многа, але не захацелі рабіць гэтае бескарыснае пабоішча, каб не спалохаць цюленяў, якія ляжалі на пяску за некалькі кабельтавых.

Каланісты надзвычай асцярожна пасоўваліся да паўночнай аканечнасці астраўка, абыходзячы выкапаныя ў пяску ямкі, у якіх былі гнёзды вадзяных птушак.

У паласе прыбою перад імі відаць былі нейкія чорныя кропкі, якія плавалі на паверхні і здалёку нагадвалі рухомыя рыбы.

Паляўнічыя хацелі пачакаць, каб цюлені выбраліся на бераг. У вадзе гэтая жывёла надзвычай рухавая дзякуючы моцным ластам, кароткай і густой шэрсці і падобнаму да верацяна тулаву. Але на беразе яна непаваротлівая і павольная, бо яе кароткія перапончатыя лапы дазваляюць ёй толькі поўзаць.

Ведаючы звычаі цюленяў, Пенкроф параіў каланістам пачакаць, пакуль яны не выберуцца на пясок,—ад сонечнага святла яны шпарка засынаюць моцным сном. Тады трэба будзе толькі адрэзаць ім дарогу да вады і пачаць паляванне. Паслухаўшыся гэтай парады, паляўнічыя сталіся за дзюнамі і моўчкі чакалі.

Мінула з гадзіну часу, пакуль цюлені вылезлі на пясок. Пенкроф і Герберт падкраліся да іх уздоўж берагу, адразаючы адступленне да вады, у той час калі Сайрус Сміт, Гедэон Спілет і Наб паўзлі па пяску, набліжаючыся да будучага поля ваенных дзеянняў.

Раптам марак моцна крыкнуў. Інжынер і два яго таварышы, ужо не таячыся, рынуліся да цюленяў. Двое ластаногіх, якіх заспелі знянацку, упалі пад ударамі дубін, але астатнім пашчасціла дабрацца да вады і выратавацца.

— Маю гонар далажыць, што заказаныя вамі цюлені дастаўлены,—жартаўліва сказаў інжынеру Пенкроф.

— Вельмі добра,—адказаў Сайрус Сміт.—Мы зробім з іх кавальскія мяхі.

Інжынеру патрэбна было пабудаваць прыладу для нагнятання паветра ў печ у часе выплаўкі руды, і ён вырашыў зрабіць яе з скуры цюленяў.

Забітыя ластаногія былі сярэдняй велічыні: даўжыня іх ад галавы, якая з выгляду нагадвала сабачую, да канца хваста была шэсць футаў.

Каб не цягаць на сябе лішняга цяжару, Наб і Пенкроф пачалі здзіраць скуры з забітых жывёлін на месцы. Тым

часам Сайрус Сміт, журналіст і Герберт заняліся даследаваннем астраўка.

Наб і Пенкроф паспяхова справіліся з сваёй работай, і праз тры гадзіны Сайрус Сміт меў ужо дзве цюленнія скуры, прыгодныя для вырабу мяхоў.

Пачакаўшы адліву каланісты зноў перайшлі праліў уброд і вярнуліся ў Камін.

Зрабіць мяхі было нялёгка. Патрэбна было нацягнуць скуру на прыгатаваную драўляную раму і прышыць яе раслліннымі валокнамі так, каб мяхі не прапускалі паветра. Апошняе патрабаванне было самым цяжкім.

Два нажы, зробленыя з нашыйніка Топа, былі адзіным «інструментам», які меў інжынер. Не гледзячы на гэта, пры дапамозе ўсіх каланістаў, пад кіраўніцтвам інжынера, за тры дні гаспадарка калоніі ўзбагацілася сапраўднай машынай для нагнятання паветра ў печ для плаўкі руды.

Зранку 20 красавіка калонія ўвайшла ў «металургічную эру» свайго жыцця, як пісаў у запісной кніжцы журналіст. Як вядома, інжынер вырашыў рабіць плаўку на месцы адкладаў руды і вугалю, гэта значыць за шэсць міль ад Каміна, каля падножжа паўночна-ўсходняга схілу гары Франкліна. Не было чаго і думаць штодзень варочацца на-нач у Камін. Таму каланісты вырашылі пабудаваць на месцы плаўкі шалаш з галля і жыць там увесь час, пакуль не скончаць гэтую важную справу, якая вымагала няспыннага нагляду—ноччу і ўдзень.

Вырашыўшы рабіць так, яны рушылі раніцою ў дарогу. Наб і Пенкроф цягнулі на пляценцы з дубцоў кавальскі мех і невялікі запас ежы, які можна было папаўняць па меры патрэбы на месцы.

Яны ішлі праз густыя нетры лесу Якамары, перасякаючы іх па дыяганалі, з паўднёвага ўсходу на паўночны захад.

Каланісты павінны былі разам з гэтым пракладаць сабе дарогу. Пасля гэтую дарогу яны скарыстоўвалі для прамых зносін паміж пласкагор'ем Далёкага віду і гарою Франкліна.

Ужо вядомыя ім пароды дрэў былі прадстаўлены ў гэтым лесе выдатнымі экземплярамі. Але Герберт заўважыў і некалькі новых дрэў, у прыватнасці, драцэну, якую Пенкроф, жартуючы, неадкладна ахрысціў «самазадаволеным пярэем». Сапраўды, не гледзячы на аграмадны рост, драцэна належыць да таго-ж сямейства лілейных, што цыбуля, парэй і спаржа. Вараныя карэнні драцэны вельмі прыемныя на смак; калі-ж іх паставіць перакіснуць, з іх можна атры-

маць вельмі добры напітак. Каланісты назапасілі гэтых каранёў.

Дарога праз лес была вельмі доўгая. Хада заняла ўвесь дзень. Але каланісты не шкадавалі пра страчаны час, бо мелі магчымасць паглядзець на фауну і флору вострава. Топ, які цікавіўся пераважна фаунай, лятаў па траве і забіраўся ў кусты, узнімаючы безліч рознай дзічыны.

У пяць гадзін папаўдні Сайрус Сміт вырашыў зрабіць прывал. Каланісты цяпер былі каля падножжа амаль адвеснага ўсходняга спаду гары Франкліна. За трыста—чатырыста крокаў ад іх прыпынку цёк Чырвоны ручэй.

Лагер быў пастаўлен неадкладна. Менш як праз гадзіну на ўзлессі вырас шалаш з галля, абвітага ліянамі і абмазанага глінай. Геалагічныя пошукі былі адкладзены на наступны дзень. Наб падрыхтаваў вячэру. Яркі агонь запалаў ля ўваходу ў шалаш, і ў восем гадзін вечара ўсе паснулі здаровым сном.

У наступную раніцу, 21 красавіка, Сайрус Сміт і Герберт рушылі на пошукі жалезнай руды. Ён знайшоў адклады яе амаль на самай паверхні зямлі ля вытокаў Чырвонага ручая. Лёгкаплаўкасць пароды, якая ўтрымлівала руду, дазваляла здабыць з яе жалеза тым адзіным спосабам, які быў даступны для каланістаў,—аднаўленнем.

Інжынер вырашыў плавіць руду не каталонскім спосабам, а па яго спрошчанаму варыянту, якім карыстаюцца сяляне ў глухіх кутках Корсікі.

Сапраўды, каталонскі спосаб патрабуе будаўніцтва спецыяльных печаў і тыгляў, у якія руда і вугаль насыпаюцца ўперамежку пластамі і плавяцца пры вялікай тэмпературы. Але Сайрус Сміт вырашыў не будаваць спецыяльную печ, а проста скласці ў правільны куб пласты руды і вугалю ўперамежку і ў сярэдзіну куба нагнятаць з мяхоў моцны струмень паветра.

Каменны вугаль, таксама як і руда, ляжаў на паверхні зямлі, і здабыць яго было зусім няцяжка.

Каланісты папярэдне разбілі руду на дробныя кавалкі і аддзялілі ад іх пабочныя прымешкі. Потым руда і вугаль былі складзены ўперамежку пластамі—пласт руды на пласту вугалю.

Цяпер, пасля таго калі вугаль будзе запалены і ў куб пачнуць нагнятаць мяхамі паветра, у ім павінны адбыцца наступныя хімічныя працэсы: пад уплывам вялікага прыцёку кіслароду паветра вугаль, згараючы, ператворыцца ў вуглекіслату; а вуглекіслата, уздзейнічаючы на руду вокісу жалеза, адбярэ ад яе частку кіслароду і такім чынам вылучыць з яе жалеза.

Інжынер загадаў прымайстраваць каля куба мяхі з трубою на канцы, зробленай з агнетрывалай гліны.

Мяхі прыводзіліся ў рух самым простым механізмам, які складаўся з рамы, цераз якую была перакінута вяроўка з раслінных валокан, і проціважа з каменняў.

Мяхі нагняталі ў куб моцны струмень паветра, які павялічваў тэмпературу плаўкі і паскараў хімічны працэс, які адбываўся з рудою [1].

Работа была нялёгкая. Але ўрэшце плаўка ўдалася, і ў выніку была атрымана вялікая жалезная балванка з губчатай паверхняй. Цяпер, каб аддзяліць жалеза ад расплаўленай пароды, трэба было каваць балванку. Молата ў нашых металургаў, вядома, не было. Але яны былі ў такім становішчы, у якім, напэўна, знаходзіўся першы ў свеце металург, і зрабілі таксама, як і ён: першую балванку яны зрабілі молатам і ёю пачалі каваць наступныя, скарыстоўваючы для накавальні абломак гранітнай скалы. Атрыманы метал быў грубы з выгляду, але тым не менш гэта было сапраўднае жалеза, зусім прыгоднае для скарыстання.

Пасля доўгай і цяжкай працы 25 красавіка каланісты ўжо мелі значную колькасць жалезных палос, з якіх выкавалі шмат неабходных для іх інструментаў і прылад: ламы, абцугі, кіркі, рыдлёўкі, цыскі і т. д. Пенкроф і Наб у голас наведамілі, што ніколі раней не бачылі лепшых.

Але каланісты не маглі задаволіцца толькі гэтымі інструментамі. А для вырабаў іншых жалеза не было прыгодна—патрэбна была сталь.

Сталь—гэта злучэнне жалеза з вуглеродам. Вырабляюць яе або з чыгуна, вылучаючы з яго лішні вуглерод, або з жалеза, дадаючы да яго патрэбную колькасць вуглерода.

Першы спосаб дае натуральную, пудлінговую сталь, другі—цэментыраваную.

Інжынер, маючы чыстае жалеза, вырашыў рабіць сталь другім спосабам. Ён дамогся гэтага, расплавіўшы жалеза з расцёртым у парашок вугалем у спецыяльным агнетрывалым тыглі.

Пенкроф і Наб пачалі каваць атрыманую сталь як наказваў інжынер. Перш за ўсё яны зрабілі тапары. Раскаліўшы іх дачырвана, яны ўраз апусцілі іх у халодную ваду. Дзякуючы гэтаму тапары былі добра загартаваны.

---

[1] Пры апісанні працэсаў выплаўкі жалеза, а таксама ў падачы раду іншых хімічных і металургічных працэсаў, якія ўспамінаюцца ў кнізе далей (здабыванне сернай кіслаты, пракатка дроту і т. д.) аўтар допускае рад недакладнасцей і памылак. *Заўвага пер.*

Потым былі зроблены іншыя інструменты, нязграбныя з выгляду, але прыгодныя для скарыстання: фуганкі, тапорыкі, стальныя поласы, з якіх можна было зрабіць пілы, нажніцы, наканечнікі для лік, малаткі, цвікі і т. д.

Нарэшце, 5 мая скончыўся першы металургічны перыяд. Каланісты вярнуліся ў Камін, гатовыя, калі гэта будзе патрэбна, ператварыцца з кавалёў у рабочых другой якой спецыяльнасці

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

*Зноў узнята пытанне пра жыллё.—Фантазія Пенкрофа.—Даследаванне паўночнага берагу возера.—Паўночная аканечнасць пласкагор'я. Змеі.—Хваляванне Топа.—Барацьба пад вадою.—Ламанцін.*

Неба хмурылася ўжо некалькі дзён запар. Трэба было надумаць пра жыллё на зіму. Аднак, было яшчэ не холадна.

Калі-б на востраў Лінкольна трапіў стоградусны тэрмометр Цэльсія, то слупок ртуці трымаўся-б, напэўна, у сярэднім на ўзроўні дзесяці—дванаццаці градусаў вышэй нуля.

Гэта высокая сярэдняя тэмпература не здзіўляла каланістаў, бо кліматычныя ўмовы вострава Лінкольна, які знаходзіўся паміж трыццаць пятым і саракавым градусамі шыраты, павінны былі адпавядаць кліматычным умовам Грэцыі або Сіцыліі. Але, таксама як у Грэцыі і Сіцыліі, на востраве Лінкольна ў сярэдзіне зімы тэмпература магла рэзка панізіцца—маглі быць нават снег і мароз.

Да гэтага трэба было падрыхтавацца: дажджлівы сезон павінен быў пачацца з дня на дзень, і на гэтым востраве, закінутым сярод неабсяжных прастораў Ціхага акіяна буры і непагода павінны быць такімі-ж лютымі, як і ў адкрытым акіяне.

Таму пытанне пра пошукі больш выгоднага жылля, як Камін, вымагала неадкладнага вырашэння.

Вядома, Пенкрофу не хацелася расставацца з іх цяперашнім прытулкам, які ён сам знайшоў і абсталяваў, але і ён разумеў, што Камін ненадзейны і невыгодны для жылля. Ужо аднойчы акіян быў уварваўся ў яго, а рызыкаваць гэтым у другі раз было-б неразумна.

— Апрача таго,—дадаў Сайрус Сміт, які паставіў гэтае пытанне на абмеркаванне сваіх таварышоў,—нам неабходна прыняць меры перасцярогі.

— Супроць каго?—перапыніў яго журналіст.—Востраў-жа незаселены!

— Магчыма, хоць мы і не агледзелі яго ўсяго. Але, нават калі ён зусім незаселены, дык гэта не значыць, што на ім няма дзікіх звяроў. Вось іх я і асцерагаюся. Лепш загадзя прыняць неабходныя меры перасцярогі, чым быць вымушанымі па чарзе вартаваць кожную ноч каля агню. Нарэшце, сябры мае, патрэбна-ж усё прадбачыць — мы знаходзімся ў той частцы Ціхага акіяна, якую часта наведваюць малайскія піраты.

— Як гэта!—усклікнуў Герберт.—На такой адлегласці ад зямлі?

— Так, так, мой хлопчык! Малайцы—адважныя маракі, а малайскія піраты больш небяспечныя, чым дзікія звяры. Нам патрэбна засцерагчыся ад іх.

— Вельмі добра,—сказаў Пенкроф,—мы ўзброімся супроць двухногіх і чацвераногіх драпежнікаў. Але як вы лічыце, містэр Сміт, ці не лепш раней даследаваць увесь востраў, а потым ужо вырашаць такую справу?

— Гэта правільна,—падтрымаў марака журналіст.— Магчыма, што на заходнім беразе вострава нам пашчасціць знайсці якую-небудзь пячору.

— Згодзен з вамі, сябры мае,—адказаў інжынер.—Але майце на ўвазе, што нам патрэбна жыллё, якое знаходзіцца блізка ад прэснай вады. З вяршыні гары Франкліна мы не ўбачылі на захадзе ніводнага ручайка, а тут мы жывем паміж двух вадаёмаў з прэснай вадою: паміж ракою Падзякі і возерам Гранта. Гэта значныя перавагі, якімі не варта грэбаваць. Апрача таго, усходні бераг вострава больш абаронены ад пасату, які дзьме ў паўднёвым паўшар'і з паўночнага ўсходу.

— У такім разе, містэр Сміт, чаму-б нам не пабудаваць сабе дом на беразе возера Гранта?—запытаў марак.—У нас цяпер няма нястачы ні ў цэгле, ні ў інструментах. Чорт пабяры, няўжо-ж мы будзем горшыя будаўнікі, як цагельнікі, ганчары і кавалі?

— Я не сумняваюся ў вашых здольнасцях, але, раней чым прыняць рашэнне, трэба добра пашукаць. Жыллё, збудаванае самай прыродай, з'эканоміць нам шмат працы і будзе, напэўна, больш бяспечным, чым дом, які мы пабудуем.

— Добра, Сайрус, не пярэчу,—сказаў журналіст.—Але-ж мы агледзелі ўсю гранітную сцяну на гэтым беразе і не знайшлі ў ёй ні адной шчыліны, а не то што пячоры.

— Ніводнай,—пацвердзіў Пенкроф.—Вось каб нам пашчасціла прасвідраваць гэтую сцяну і зрабіць у ёй сабе

ускарабкаліся наверх сцяны. Інжынер, журналіст і марак узняліся следам за імі і апынуліся на гары на некалькі хвілін пазней.

За дзвесце крокаў ад краю сцяны праз лісце была відаць плёнка вады, якая паблісквала пад сонечнымі праменнямі.

Мясцовасць была на дзіва прыгожай. Дрэвы з пажоўклым лісцем надавалі журботнае адценне гэтаму ідылічнаму пейзажу. Некалькі вялізных дрэў, якія паваліліся ад старасці, выдзяляліся цёмнай афарбоўкай сваёй кары на фоне зялёнага дывана, які ўсцілаў глебу.

Замест таго, каб ісці нацянькі да паўночнага берагу возера, каланісты рушылі паўз лес да левага берагу вусця Чырвонага ручая, хоць гэта і падаўжала шлях на паўтары мілі.

Дарога была няцяжкая: дрэвы раслі адно ад другога за некалькі футаў, пакідаючы шырокі праход. Раслінасць тут была не такая багатая, як паміж—Чырвоным ручаём і ракой Падзякі. Адчувалася, што тут праходзіць мяжа пладароднай зоны.

Сайрус Сміт і яго таварышы ішлі па гэтай невядомай яшчэ для іх частцы вострава вельмі асцярожна. Іх адзінай зброяй былі лукі і кіі з вострымі жалезнымі наканечнікамі. На шчасце, яны не сустрэлі ні аднаго драпежніка; гэтыя звяры былі, відаць, толькі ў густых лясах паўднёвай часткі вострава; але за тое каланісты былі непрыемна здзіўлены, убачыўшы, як Топ раптоўна зрабіў стойку перад вялізнай змяёй, даўжынёю ў чатырнаццаць—пятнаццаць футаў.

Наб дубінай забіў змяю, якая была не ядавітай; яна належала да віду так званых алмазных змей, якіх аўстралійскія жыхары нават ядуць. Але гэтае не выключала магчымасці сустрэчы з ядавітымі змеямі, укус якіх выклікае смерць.

Топ, які апамятаўся ад здзіўлення і страху, стаў ганяцца за гадзінамі так заядла, што пачалі непакоіцца, каб з ім чаго не здарылася. Таму Сайрус Сміт часта клікаў яго назад.

Неўзабаве падарожнікі падышлі да вусця Чырвонай ракі, у тым месцы, дзе яна ўпадае ў возера. На процілеглым беразе возера знаходзілася палянка, дзе каланісты ўжо былі раней, спускаючыся з гары Франкліна.

Сайрус Сміт адзначыў, што рака багата давала вады возеру. Значыць, прырода павінна была дзе-небудзь зрабіць сцёк для вады, бо іначай возера выйшла-б з берагоў.

Каланісты вырашылі неадкладна знайсці гэты сцёк, каб высветліць, ці нельга скарыстаць механічную сілу вадаспаду.

Яны пачалі абыходзіць берагі возера, якое, як відаць, было вельмі багатае на рыбу.

Пенкроф наабяцаў, што ў першую-ж вольную хвіліну зробіць некалькі вудаў лавіць рыбу.

Шлях маленькага атрада праходзіў вако: паўночна-ўсходняга, вострага вугла возера. Здавалася, што якраз тут знаходзіцца сцёк, тым больш, што вяршыня вугла амаль шчыльна падыходзіла да краю адвеснай сцяны пласкагор'я. Але разгледзеўшы зблізку, каланісты выявілі, што і тут ніякага сцёку няма і што бераг возера, пасля крутога павароту, цягнецца амаль паралельна з акіянскім узбярэжжам.

На гэтым беразе возера расліннасць была не вельмі багатая, але раскіданыя асобна сям-там кусты дрэў надавалі пейзажу маляўнічасць і прывабнасць.

Возера Гранта было ўсё відаць адсюль. Яго люстраная паверхня была спакойнай і непарушнай.

Топ, які шнырыў у кустах, узгнаў шмат рознастайных птушак. Герберт удала збіў стралою адну з іх. Птушка ўпала ў забалочаную траву. Топ рынуўся на яе і прынёс ў зубах выдатны экземпляр лысухі, велічынёю з курапатку.

Гэтая вадзяная птушка з ярка-чорным пер'ем, аздобленым белай палоскай, кароткай дзюбай і перапончатымі лапамі ўяўляла несамавітую дзічыну, бо мяса яе вельмі нясмачнае, і паляўнічыя ахвотна аддалі яе Топу.

Каланісты дасягнулі ўсходняга берагу возера. Неузабаве павінны былі пачацца ўжо знаёмыя ім месцы. Інжынер быў вельмі здзіўлены, не знаходзячы нідзе сцёку азёрнай вады. Ён сказаў пра сваё здзіўленне мараку і журналісту.

У гэтую хвіліну Топ, які бег накуль што зусім спакойна, раптам пачаў выяўляць адзнакі ўзрушанасці.

Разумная жывёліна бегала ўзад і ўперад па беразе, раптоўна спынялася і падняўшы лапу, пазірала на ваду, нібы робячы стойку над нейкай нябачнай звярынаю. Сабака заядла пачынаў брахаць, нібы награжаючы гэтаму нябачнаму ворагу, і гэтак-жа раптоўна сціхаў.

Спачатку ні Сайрус, ні астатнія каланісты не звярталі ўвагі на Топа. Але, калі сабака завурчэў, інжынер занепакоіўся.

— Што робіцца ў вадзе?—запытаў Пенкроф.

Сабака падбег да гаспадара, потым зноў рынуўся да берагу, як відаць, не на жарт нечым усхваляваны. Потым неспадзявана ён рынуўся ў ваду.

— Назад, Топ!—крыкнуў інжынер.

— Што робіцца ў вадзе?—запытаў Пенкроф, угледваючыся ў паверхню возера.

— Мусіць, Топ учуў нейкую жывёліну,—сказаў Герберт.

— Можа там кракадзіл?—выказаў сваё меркаванне Гедэон Спілет.

— Не думаю,—запярэчыў інжынер.—Кракадзілы не вядуцца пад такімі нізкімі шыротамі.

Між тым Топ, слухаючыся гаспадара, вярнуўся на бераг, але ён не мог спакойна стаяць. Ён скакаў у высокай траве, нібы праводзіў уздоўж берагу нейкую невядомую жывёліну, якая плыла пад самай паверхняй вады. У паводзінах сабакі было штосьці дзіўнае.

Інжынер аж гарэў ад цікаўнасці, але ніяк не мог вытлумачыць загадкавыя паводзіны Топа.

— Трэба ўсё-ж давесці да канца нашу разведку,—сказаў Сайрус Сміт сваім спадарожнікам.

Праз поўгадзіны каланісты дайшлі да паўднёва-ўсходняга кутка возера і зноў апынуліся на пласкагор'і Далёкага віду. Хоць яны абышлі ўвесь бераг возера, інжынер не даведаўся, дзе і як сцякае лішак азёрнай вады.

— І тым не менш гэты сцёк ёсць!—паўтараў ён.—Калі яго няма звонку, дык гэта толькі азначае, што ён знаходзіцца дзесьці ўнутры гранітнага масіва.

— Але чаму вы надаеце такое вялікае значэнне гэтаму сцёку, Сайрус?—запытаў журналіст.

— Цяпер, пераканаўшыся, што знешняга сцёку няма, я надаю гэтаму асаблівае значэнне: калі сцёк праходзіць унутры гранітнага масіва, значыць, там ёсць нейкая яма. Магчыма, што адвёўшы ваду ў іншае месца, мы зможам скарыстаць гэтую пячору для жылля.

— Але можа быць, што сцёк знаходзіцца на самым дне возера!—сказаў Герберт.

— Зусім магчыма,—адказаў інжынер,—што так яно і ёсць. Для нас гэта будзе вельмі непрыемна, бо тады нам самім давядзецца будаваць дом, калі прырода ўжо не захацела нам дапамагчы.

Каланісты ўжо збіраліся вярнуцца ў Камін, калі Топ раптам зноў захваляваўся. Ён шалёна забрахаў і, раней чым Сайрус Сміт паспеў стрымаць яго, зноў рынуўся ў ваду.

Усе падбеглі да берагу. Сабака паспеў ужо адплысці ад яго крокаў на дваццаць.

Інжынер толькі ўжо збіраўся загадаць яму неадкладна вярнуцца, як раптам з вады, відаць не глыбокай у гэтым месцы, высунулася вялізная галава нейкай жывёліны.

Герберт умомант пазнаў гэтую жывёліну з канічнай галавою, з вялізнымі вачамі і тоўстым кароткім шчацінем вусоў.

— Гэта ламантын![1]—усклікнуў ён.

Вялізная жывёліна напала на сабаку, і, раней чым Гедэан Спілет і Герберт надумаліся стрэліць у звярыну з лука, схоплены ламантынам Топ ужо знік пад вадою.

Наб, узброіўшыся акаванай жалезам палкай, хацеў кінуцца ў ваду, каб атакаваць ламантына ў яго роднай стыхіі, але інжынер забараніў яму рабіць гэта.

— Ні з месца, Наб!—крыкнуў ён прабраму негру.

Той неахвотна паслухаўся.

Між тым пад вадою адбывалася нейкая барацьба, якую нельга вытлумачыць, бо Топ, вядома, не мог супраціўляцца ў такіх абставінах.

Барацьба гэтая магла мець толькі адзін канец—гібель Топа. Гэтае было відаць па тым, як бурліла вада. Але раптам з круга пены паказаўся Топ.

Выкінуты з вады нейкай невядомай сілай, ён праляцеў у паветры з добры дзесятак футаў, зноў упаў на ўсхваляваную ваду і бесперашкодна даплыў да берагу; пры аглядзе выявілася, што на целе сабакі няма ніякіх слядоў пашкоджання.

Сайрус Сміт пераглянуўся з таварышамі, нічога не разумеючы з таго, што робіцца. Але гэта было яшчэ не ўсё; здавалася барацьба пад вадою прадаўжаецца. Як відаць, ламантын, на якога зрабіла напад нейкая вялізная жывёліна, цяпер змагаўся за ўласнае жыццё.

Гэтая барацьба цягнулася нядоўга. Раптам вада афарбавалася крывёю, і труп ламантына ўсплыў наверх сярод чырвонай плямы. Неўзабаве яго прыгнала да берагу. Каланісты падбеглі да яго. Гэта была вялізная жывёліна, даўжынёю футаў у пятнаццаць і вагою больш як тысяча фунтаў.

На шыі яго была глыбокая рана, зробленая нібы вострым нажом.

Якая жывёліна магла зрабіць яму гэтую страшэнную рану?

Адказу на гэта не было.

Задуманыя і збянтэжаныя тым, што адбылося, каланісты вярнуліся ў Камін.

[1] *Ламантыны*—траваядныя жывёліны, якія належаць да атрада сірэн. Яны жывуць у морах каля берагоў, а таксама ў рэках. Два віды ламантынаў уласцівы для берагоў і рэк Бразіліі і берагоў Антыльскіх астравоў, адзін від жыве на берагах Заходняй Афрыкі. У той частцы Ціхага акіяна, дзе Жуль Верн змясціў свой „таямнічы“ востраў, ламантыны не сустракаюцца. Зрабіць напад на сабаку і зацягнуць яго пад ваду ламантын не можа. Увесь эпізод з ламантынам з'яўляецца фантазіяй аўтара. *Заўвага перакладчыка.*

усім, але толькі не патрэбна прыцягваць увагі нашых таварышоў да гэтых падзей. Захаваем нашы сумненні ў саміх сябе і будзем, нібы нічога не было, рабіць сваю справу!

Вядома, што інжынер яшчэ не знайшоў месца сцёку азёрнай вады. Але з той прычыны, што нідзе не было адзнак разліваў возера цераз берагі, такі сцёк павінен быў дзесьці быць.

Уважліва ўглядаючыся ў ваду, Сайрус Сміт з раптоўным здзіўленнем заўважыў досыць моцную плынь на паверхні возера.

Ён пачаў кідаць у ваду галлё і ўбачыў, што плынь ідзе ў напрамку паўднёвага кутка возера. Ідучы следам за плынню, ён дайшоў да крайняга паўднёвага пункта берагу.

Там плынь як быццам раптоўна знікала ў нейкай шчыліне на дне.

Сайрус Сміт схіліўся вухам да паверхні вады і выразна пачуў шум падводнага вадападу.

— Спілет,—сказаў ён, устаючы з пяску,—я знайшоў сцёк. Воды возера выцякаюць праз нейкую шчыліну ў гранітным масіве. Трэба толькі знайсці гэтую шчыліну і скарыстаць яе для нашых патрэб. І я знайду яе!

Інжынер зрэзаў доўгі дубец, ацерабіў яго ад лісця і, усадзіўшы ў ваду, знайшоў шырокую дзірку ўсяго на глыбіні аднаго фута пад вадой. Гэтая шчыліна і была пачаткам сцёку, якога так доўга і марна шукалі каланісты.

Сіла плыні ў гэтым месцы была такая моцная, што дубец умомант вырвала з рук інжынера і зацягнула ўглыб.

— Бачыце,—сказаў інжынер Гедэону Спілету,—цяпер нельга сумнявацца—шчыліна сцёку толькі тут; я яе выцягну наповерх.

— Як?—запытаў журналіст.

— Знізіўшы ўзровень вады возера на тры футы.

— А як вы знізіце ўзровень?

— Зраблю для вады другі, больш шырокі сцёк, чым гэты.

— Дзе, Сайрус?

— Там, дзе бераг возера больш блізка знаходзіцца ад сцяны.

— Але-ж гэта гранітная сцяна!

— Я ўзарву граніт, і вада, прарваўшыся ў новае рэчышча, абавязкова знізіцца і адкрые гэтую шчыліну.

— І ўтворыць вадапад, сілу якога мы скарыстаем,—дадаў журналіст.

Інжынер павярнуў назад, папрасіўшы Гедэона Спілета ісці за ім. Упэўненасць гэтага апошняга генія інжынера была такая вялікая, што ён зусім не сумняваўся, што гэты

праект будзе здзейснены. А між тым сцяна была маналітная і вялізная, і было незразумела, як мог інжынер марыць аб тым, каб узарваць яе, не маючы ніякіх выбуховых рэчыстваў. Здавалася, што задуманая работа перавышала яго сілы і магчымасці.

Калі Сайрус Сміт і Гедэон Спілет вярнуліся ў Камін, Герберт і Пенкроф былі заняты разгрузкай дроў з прыгнатага імі плыта.

— Дрывасекі скончылі сваю работу, містэр Сміт,—жартаўліва дакажыў марак,—і калі вам будуць патрэбны каменшчыкі...

— Не, мне не патрэбны будуць каменшчыкі,—адказаў інжынер.—Мне патрэбны хімікі.

— Так,—падхапіў журналіст,—мы збіраемся ўзарваць востраў.

— Узарваць востраў?!—крыкнуў Пенкроф.

— У крайнім выпадку яго частку,—растлумачыў Гедэон Спілет.

— Паслухайце, сябры мае,—перапыніў іх інжынер.— Я раскажу вам пра свае прапановы...

На думку інжынера, у гранітнай тоўшчы, якая служыла асновай пласкагор'я Далёкага віду, знаходзілася больш або менш значная пустата, пячора, якую ён і хацеў даследаваць. Каб ажыццявіць гэты праект, перш за ўсё, патрэбна было адвесці ваду ад шчыліны гэтай пячоры, гэта значыць, даць вадзе другі, больш шырокі сцёк, знізіць яе ўзровень па ўсім возеры.

Сайрус Сміт лічыў магчымым ажыццяўленне свайго праекта, скарыстаўшы матэрыялы, якія былі на востраве.

Не варта гаварыць, што прапанова інжынера была сустрэта з вялікім захапленнем усімі каланістамі, а найбольш Пенкрофам. Марака захапляла ў гэтым грандыёзнасць замыслу. Хіба жартачкі—узарваць гранітны масіў і ўтварыць новы вадапад!

Ён заявіў, што таксама ахвотна зробіцца хімікам, як быў-бы каменшчыкам або шаўцом, калі-б гэтага патрабаваў Сайрус Сміт.

Перш-наперш Наб і Пенкроф атрымалі заданне выцягнуць глушч з ламантына і выразаць мяса. Нават не запытаўшы, для чаго гэта, яны адразу-ж пайшлі на работу,—такое вялікае было іх давер'е да інжынера.

— Я гатовы зрабіцца кім хочаш, кім хочаш,—шапнуў Пенкроф Набу,—нават выкладчыкам танцаў і прыстойных манер, калі гэта будзе патрэбна містэру Сміту.

Праз некалькі хвілін у дарогу выправіліся і астатнія каланісты. Цягнучы за сабою кош з дубцоў, яны пайшлі

уверх па рэчцы ў напрамку тых адкладаў каменнага вугалю, каля якіх інжынер знайшоў серны калчадан.

Увесь дзень пераносілі калчадан да Каміна. Пад вечар там ужо была гурба пароды вагою ў некалькі тон.

На другі дзень, 8 мая, інжынер пачаў работу. У знойдзеным ім серным калчадане да сернстага жалеза дамешваліся вуглерод, крэмнезём і алюміній. Каланісты павінны былі аддзяліць ад іншых элементаў серністае жалеза і атрымаць з яго серную кіслату.

Каланістам серная кіслата спатрэбіцца і ў далейшым— для дублення скуры, вырабу свечак і г. д., але ў гэтую хвіліну яна была патрэбнай інжынеру для іншай мэты.

Сайрус Сміт выбраў пляцоўку недалёка ад Каміна і загадаў добра разраўняць на ёй зямлю. Каланісты разлажылі на пляцоўцы лам'ё і дровы, а зверху на іх накідалі вялікія глыбы калчадана. Прамежкі паміж глыб яны засыпалі дробна растоўчаным калчаданам.

Пасля гэтага падпалілі дровы. Агонь ахапіў і пароду, якая гарэла дзякуючы прысутнасці ў ёй вуглерода і серы. Калі агонь прарываўся наверх, яго засыпалі новымі пластамі калчадана і шчыльна ўтрамбоўвалі зямлёю, пакідаючы толькі некалькі аддушын, як гэта робіцца пры выпальванні з дроў вугалля.

Пасля гэтага асталося пачакаць дзесяць—дванаццаць дзён, каб даць час сернiстаму жалезу ператварыцца ў жалезны купарос, а алюмінію—у сернакіслы алюміній; гэтыя дзве солі растварымы ў вадзе, у той час, калі астатнія рэчы, з якіх складаецца руда,—попел каменнага вугалю, дрэўны попел і крэмнезём—нерастварымы [1].

У той час, калі адбываўся гэты хімічны працэс, Сайрус Сміт распачаў другую работу.

Наб і Пенкроф сабралі тлушч ламантына ў вялікія гліняныя збаны. З гэтага тлушчу патрэбна было здабыць гліцэрын шляхам абмылення, г. зн. апрацоўкі яго вапнай або содай. Гэтыя рэчы, абмыляючы тлушч, здабываюць з яго гліцэрын, які і патрэбен быў інжынеру.

Вапны ў інжынера хапала, але тлушч, апрацаваны вапнаю, дае кальцыніраванае мыла, якое не растае ў вадзе і, значыць, непрыгодна для ўжывання. Між тым апрацоўка тлушча содай дае мыла, якое раствараецца ў вадзе і прыгодна для тэхнічных і гаспадарчых патрэб.

Таму інжынер вырашыў пастарацца здабыць соду. Ці было гэта цяжкой задачай? Не, бо на гэтым узбярэжжы можна было сабраць колькі патрэбна вадарасляў. Каля-

[1] Склад сернага калчадана і спосаб атрымання з яго сернай кіслаты з'яўляюцца ў значнай ступені выдумкай аўтара. *Заўвага рэд.*

ністы сабралі іх, высушылі, а потым, падпалілі іх у спецыяльна выкапаных ямах. Гарэнне вадаросляў падтрымлівалі некалькі дзён, каб падняць тэмпературу да точкі плаўлення попелу. У выніку на дне ям утварыліся шчытныя масы шэраватага вешчаства, якое здаўна вядома пад назвай «натуральнай соды».

Здабытай такім спосабам содай інжынер апрацаваў тлушч ламантына і атрымаў, з аднаго боку, растварымае мыла, з з другога—нейтральнае вешчаство, гліцэрын.

Але гэта было яшчэ не ўсё.

Сайрусу Сміту для ажыццяўлення яго планаў патрэбна было яшчэ адно вешчаство—азотнакіслы калій, або як яго інакш называюць, селітра.

Селітру можна здабыць, апрацоўваючы азотнай кіслатой вуглекіслы калій, які ёсць у раслінным попеле. Але якраз азотнай кіслаты ў інжынера і не было, і іменна яе ён і хацеў здабыць. Тут быў зачараваны круг, з якога не было выхаду. На шчасце, сама прырода дапамагла інжынеру, падарыўшы яго гатовай селітрай. Герберт знайшоў адклады селітры каля паўночнага падножжа гары Франкліна.

Гэтыя разнастайныя работы занялі восем дзён і скончыліся такім чынам раней, чым серністае жалеза ператварылася ў жалезны купарос.

На працягу наступных дзён каланісты паспелі зрабіць агнятрывалыя тыглі і пабудаваць цагляную печ асобай канструкцыі, якая прызначалася для перагонкі жалезнага купароса. Усе гэтыя работы былі скончаны да 18 мая, амаль адначасова са сканчэннем хімічнага працэсу ў рудзе.

Гедэон Спілет, Наб, Пенкроф і Герберт пад кіраўніцтвам Сміта сталі вялікімі майстрамі. Урэшце, у гэтым не было дзіва: нястача—лепшы ў свеце настаўнік.

Пасля таго як серны калчадан быў увесь расплаўлены, атрыманыя вяшчэствы, гэта значыць жалезны купарос, сернакіслы алюміній, крэмнезём, попел, былі ўсыпаны ў напоўнены вадою басейн. Сумесь размяшалі кіямі, далі каб яна адстаялася і потым злілі атрыманую празрыстую вадкасць з асадка. У вадкасці ў растворы былі сернакіслы алюміній і жалезны купарос, а астатнія вяшчэствы, якія не раставюць у вадзе, засталіся ў цвёрдым выглядзе на дне басейна.

Налітую ў тыглі вадкасць пачалі выпарваць на невялікім агні; неўзабаве на дно тыгляў пачаліападаць крышталы жалезнага купароса. Невыпараную рэштку вадкасці, якая ўтрымлівала так званы маточны расол сернакіслага алюмінія, вылілі, і Сайрус Сміт атрымаў дастатковую колькасць крышталаў жалезнага купароса, з якіх цяпер патрэбна было здабыць серную кіслату.

Прыборы для здабывання сернай кіслаты на заводах— складаная і дарагая справа. Трэба будаваць вялікія будынкі, са спецыяльным абсталяваннем, платынавыя апараты, свінцовыя камеры, якіх не раз'ядае кіслата, і т. д.

Вядома, інжынер не мог пабудаваць нічога такога, што-б хоць здалёку нагадвала заводскую сернакіслотную ўстаноўку. Але ён ведаў, што ў Багеміі, ды і ў некаторых іншых месцах, серную кіслату вырабляюць іншымі спосабамі, прычым, не зважаючы на нескладанасць апаратуры, атрымліваюць прадукт больш моцнай канцэнтрацыі, як на заводах. Такая кіслата вядома пад назвай нордгаузенскай.

Па гэтаму спосабу накаляюць крышталі жалезнага купаросу, які прадстаўляе з сябе сернакіслую соль жалеза, у закрытай пасудзе. Пры гэтым утвараюцца вокіс жалеза і пара сернай кіслаты, якія пасля ахалоджвання кандэнсуюцца ў вадкую серную кіслату.

Для гэтай аперацыі і былі зроблены агнятрывалыя тыглі і цагляная печ.

Працэс вельмі ўдаўся, і 20 мая, на дванаццаты дзень ад пачатку работы, інжынер меў дастатковую колькасць рэактыва, які ён у далейшым павінен быў скарыстоўваць пры самых рознастайных выпадках.

Навошта яму была патрэбна серная кіслата? Выключна для таго, каб здабыць азотную кіслату. Зрабіць гэта цяпер было вельмі проста, бо селітра, апрацаваная сернай кіслатою пры перагонцы, дае азотную кіслату.

Але навошта была патрэбна азотная кіслата? Гэтага яшчэ не ведалі каланісты, бо інжынер забыўся расказаць ім пра дэталі свайго плана.

Тым часам работа ўжо заканчвалася, і апошняя аперацыя дала, урэшце, інжынеру прадукт, дзеля якога было праароблена столькі маніпуляцый.

Выпарыўшы папярэдне гліцэрын у адкрытай пасудзе, інжынер дабавіў да яго азотнай кіслаты. У пасудзе ўраз утварылася нейкая жаўтаватая масляністая вадкасць.

Гэтую апошнюю аперацыю Сайрус Сміт прарабіў адзін, далёка ад Каміна, бо ад самай малой неасцярожнасці мог здарыцца выбух. Вярнуўшыся да сваіх сяброў з кубкам вадкасці, ён проста сказаў ім:

— Гэта нітрагліцэрын.

Сапраўды, гэта была тая самая выбуховая матэрыя, у дзесяць разоў мацнейшая за порах , якая ўжо нарабіла столькі бяды з-за неасцярожнага абыходжання з ёю.

Адпак, як толькі хімікі знайшлі спосаб, насычаючы нітрагліцэрынам звычайныя рэчывы, напрыклад цукар, ператвараць яго ў дынаміт, небяспечную вадкасць стала

можна ўжываць без непасрэднай пагрозы жыццю рабочых. Але дынаміт яшчэ не быў вынайдзены ў той час, калі каланісты трапілі на востраў Лінкольна.

— І гэтая вадкасць узарве вялізную скалу?—запытаў Пенкроф, недаверліва пазіраючы на кубак.

— Так, мой дружа,—адказаў інжынер,—і выбух нітрагліцэрына будзе яшчэ больш моцным ад таго, што гэты граніт вельмі цвёрды і акажа вялікае супраціўленне.

— А калі мы ўбачым гэта, містэр Сміт?

— Заўтра-ж, як толькі мы прасвідруем дзірку для закладкі выбуховага вешчаства,—адказаў інжынер.

На другі дзень, 21 мая, каланісты ўсталі досвіткам і накіраваліся да возера Гранта. Яны выбралі на ўсходнім беразе возера куток, які знаходзіўся ўсяго за пяцьдзесят футаў ад берагу мора. Узровень азёрнай вады ў гэтым месцы быў вышэй за схіл пласкагор'я, і вада была аддзелена ад знешняга толькі гранітнай сцяною, якая падпірала бераг. Было відавочна, што, калі ўзарваць гэтую сцяну, вада рынецца ў прабоіну і паток з вышыні будзе падаць на бераг. Ад гэтага агульны ўзровень вады ў возеры знізіцца і шчыліна былога сцёку павінна будзе адкрыцца, гэта значыць здбудзецца тое, чаго, уласна кажучы, і дамагаўся інжынер.

Значыць, задача была ў тым, каб прабіць праход у сцяне. Па загаду інжынера, Пенкроф, узброіўшыся кіркай, спрытнымі і моцнымі ўдарамі пачаў выбіваць дзірку ў граніце. Дзірка, якую яму трэба было прабіць, пачыналася на гарызантальнай грані сцяны і павінна была наўскасяк прайсці праз граніт, каб скончыцца ніжэй узроўню вады ў возеры. Пры гэтым выбух нітрагліцэрына, разарваўшы гранітную тоўшчу, адкрые для азёрнай вады шырокі сцёк.

Работа была цяжкая, бо інжынер, стараючыся рабіць напэўна, вырашыў зарадзіць дзірку вялізнай колькасцю нітрагліцэрына—не менш дзесяці літраў. Але Пенкроф і Наб, які замяняў марака, калі той стамляўся, працавалі з такім запалам, што да чатырох гадзін папаўдні работа была скончана.

Патрэбна было яшчэ вырашыць пытанне, якім спосабам узарваць міну. Звычайна нітрагліцэрын узрываюць капсулем з грымучага пораху, дэтанацыя якога пры ўзрыве прымушае ўзарвацца і нітрагліцэрын (для таго каб гэтае вешчаство ўзарвалася, патрэбен удар, бо інакш калі яе запаліць, яна згарае, не ўзрываючыся).

Вядома, Сайрус Сміт мог-бы зрабіць запал. Не маючы грымучага пораху, ён мог-бы пры дапамозе азотнай кіслаты зрабіць які-небудзь сурагат яго, спрасаваць яго і, падпаліўшы запал доўгім шнурам, узарваць нітрагліцэрын.

Але Сайрус Сміт ведаў, што нітрагліцэрын можа ўзрывацца ад дэтанацыі. Гэтую яго ўласцівасць ён і вырашыў выкарыстаць.

Сапраўды, удар молата на некалькіх кроплях нітрагліцэрына, які расшпрысканы на камені, дастатковы для таго, каб выклікаць выбух. Але гэта рызыкоўная аперацыя: чалавек, які робіць такі ўдар, у дзевяноста дзевяці выпадках з сотні быў-бы сам першай афярай выбуху.

Таму Сайрус Сміт прыдумаў такі спосаб, каб узарваць нітрагліцэрын: да выступа над мінай ён падвязаў на вяроўцы з раслінных валокан кавалак жалеза вагою ў некалькі фунтаў. Другая, доўгая вяроўка, загадзя змочаная ў серы, была прывязана адным канцом да першай, а другі канец яе працягнулі па зямлі за некалькі дзесяткаў футаў. Разлік інжынера быў вельмі просты: калі запаліць другую вяроўку, яна, павольна згараючы, перадасць агонь першай, тая разарвецца, і кавалак жалеза ўсім сваім цяжарам ударыць у нітрагліцэрын.

Гэты план быў выкананы. Інжынер, удаліўшы сваіх спадарожнікаў на бяспечную адлегласць, напоўніў даверху нітрагліцэрынам прабітую Пенкрофам дзірку ў граніце і засшырскаў некалькі кропель яго на камені проста над кавалкам жалеза. Потым ён падпаліў другі, вольны канец вяроўкі і шпарка адбегся. Вяроўка павінна была гарэць дваццаць пяць хвілін. І сапраўды, роўна праз дваццаць пяць хвілін грымнуў выбух.

Здавалася, што ўвесь востраў задрыжэў да самай сваёй асновы. Воблака каменняў узляцела ў неба, нібы выкінутае вулканам. Паветра скаланулася так моцна, што скалы Каміна захісталіся. Каланісты, не гледзячы на тое, што яны знаходзіліся за дзве мілі ад міны, паваліліся на зямлю. Устаўшы на ногі, яны пабеглі да месца выбуху.

Гучнае «ура» тройчы вырвалася з іх грудзей: у гранітнай сцяне была шырокая шчыліна! Імклівы паток вады вырываўся з яе, і пенячыся, бурліў на край пласкагор'я і адтуль каскадам падаў уніз з вышыні трохсот футаў!

## РАЗДЗЕЛ ВОСЕМНАЦЦАТЫ

*Пенкроф больш ні ў чым не сумняваецца.—Стары сцёк возера.—Спуск у падзямелле.—Шлях праз граніт.—Топ знікае.—Цэнтральная пячора.—Калодзеж.—Таямніца.—Удары кіркі.—Зварот.*

План Сайруса Сміта быў здзейснены ўдала. Аднак, інжынер, як і заўсёды, зусім не выказаў свайго задавалення. Затое Герберт ледзь не танцаваў, а Наб падскакваў ад узрушэння, як дзіця. Пенкроф ківаў галавою і няспынна паўтараў:

— Але-ж і малайчына наш інжынер, малайчына ён!

Нітрагліцэрын зрабіў сваю справу. Прабоіна, якая ўтварылася ў сцяне, прапускала самае меншае ў тры разы больш вады, чым стары сцёк. Значыць, праз некаторы час узровень вады ў возеры немінуча павінен будзе значна знізіцца.

Каланісты пайшлі ў Камін па кійкі з жалезнымі наканечнікамі, па трут, вогніва і вяроўкі. Нагружаныя ўсім гэтым, яны вярнуліся на бераг возера. Топ бег за імі.

Па дарозе марак сказаў інжынеру:

— Ці ведаеце вы, містэр Сміт, што пры дапамозе вашай выдатнай вадкасці можна-б было разбурыць ушчэнт увесь востраў!

— Зразумела,—адказаў інжынер.—І не толькі гэты востраў, але і цэлы кантынент і нават усю зямлю. Усё залежыць ад колькасці выбуховага вешчаства.

— А ці нельга скарыстаць гэты нітрагліцэрын, каб зараджаць агнястрэльную зброю?

— Нельга, Пенкроф. Гэта было-б вельмі небяспечна. Але мы можам зрабіць порах з бавоўны і нават сапраўдны порах, бо ў нас ёсць азотная кіслата, селітра, сера і вугаль. З-за гэтага не было-б затрымкі. Бяда ў тым, што ў нас няма зброі...

— О, містэр Сміт!—усклікнуў марак.—Калі-б вы толькі захацелі!

Пенкроф, як відаць, канчаткова выкрэсліў слова «немагчыма» з слоўніка вострава Лінкольна.

Узбраўшыся на пласкагор'е, каланісты накіраваліся да той часткі возера, дзе знаходзіўся стары сцёк. Праход у яго павінен быў ужо відаць з-пад вады, а з той прычыны, што вада з возера выцякала праз іншы праход, то каланісты маглі, відавочна, прабрацца ў сярэдзіну гэтага вадасцёку.

Праз некалькі хвілін каланісты дайшлі да гэтага месца і адразу-ж убачылі, што іх разлік быў правільны.

Сапраўды, у гранітнай сцяне азёрнага басейна чарнелася шчыліна. Вузкі карніз, аголены ад апаўшай вады, дазваляў лабрацца да яе, не замачыўшы ног. Шырыня шчыліны дасягала дваццаці футаў, але затое, у вышыню яна не перавышала і двух футаў. Гэта нагадвала дзірку каналізацыйнага сцёку пад тратуарам вялікага горада.

Шчыліна была занадта вузкая для чалавека, але Наб і Пенкроф, узброіўшыся кіркамі, менш як за гадзіну прабілі досыць шырокі праход.

Інжынер заглянуў у сярэдзіну шчыліны і ўбачыў, што нахіл сцёку, у кожным разе хоць у пачатку, не перавышае трыццаці пяці градусаў. Значыць, спуск быў даступны для

даследавання, і, калі вугал нахілу далей не павялічыцца, няцяжка будзе спусціцца па ім да самага мора. А калі—і гэтага можна было чакаць—дзе-небудзь у граніце ёсць пячора, не няцяжка будзе прыстасаваць пад жыллё.

— Містэр Сміт,—запытаў марак, які палаў ад нецярплівасці,—чаму-ж вы не ідзеце наперад? Бачыце, Топ ужо забраўся ў шчыліну.

— Не спяшайцеся, мой дружа,—сказаў інжынер,—раней трэба зрабіць факелы. Наб, ідзі зрэж некалькі смалістых галін.

Наб і Герберт пабеглі на бераг возера, дзе раслі сосны і іншыя хвойныя дрэвы, і неўзабаве вярнуліся з бярэмем вецця. Звязаўшы іх у пучкі, каланісты выкрасалі агонь і запалілі вецце. Урэшце, маленькі атрад ўвайшоў у цёмны тунель, па якім яшчэ так нядаўна цяклі лішкі азёрнай вады.

Нечакана тунель неўзабаве стаў шырэць і праз некалькі дзесяткаў крокаў каланісты ўжо маглі ісці, не згінаючы нават галавы. Гранітная падлога, па якой ад незапомных часоў цякла вада, была слізкая і каланісты вымушаны былі насоўвацца асцярожна, каб не паваліцца. Таму яны прывязаліся адзін да аднаго, як гэта робяць альпіністы, узыходзячы на гару. На шчасце, уступы ў граніце, якія былі падобны на сапраўдныя сцупенькі, рабілі спуск бяспечным і лёгкім. Кроплі вады, якія былі на сценах і скляпенні тунеля, паблісквалі як алмазы, ад святла факелаў.

Інжынер, углядаючыся ў граніт, не мог заўважыць у ім ніякіх праслоек, ніводнай шчылінкі. Гэта была зусім кампактная маса, якая складалася з шчытна спаяных адна з другой частак.

Тунель быў тут, як відаць, з першых часоў існавання вострава. Плутон, бог зямлі, а не Нептун, бог мора, прасвідраваў яго сваімі рукамі, і можна было пабачыць на сценах сляды гэтай вулканічнай работы, якія нават не магла нашчэнт сцерці цякучая вада.

Каланісты спускаліся вельмі павольна. Яны не маглі не адчуваць некаторага хвалявання, адважыўшыся прабрацца ў нутро гэтага масіва, дзе, як відаць, ніколі не ступала нага чалавека. Яны не гаварылі пра гэтае ўголас, але кожны сам сабе думаў, што які-небудзь спрут або іншае аграмаднае галаваногае магло жыць тут у ніжніх пячорах, якія злучаліся з морам. Трэба было ісці надзвычай асцярожна.

Але-ж, Топ ішоў наперадзе маленькага атрада, і можна было спадзявацца на чуццё сабакі, які, безумоўна, занепакоіцца, калі стрэне якую небяспеку.

Прайшоўшы яшчэ сотню крокаў па звілістаму спуску, Сайрус Сміт, які ішоў наперадзе, спыніўся. Тое-ж зрабілі і

яго таварышы. Месца, дзе яны знаходзіліся, было нібы выбіта ў скале і ўтварыла пячору сярэдняга памеру. Кроплі вады падалі з яе скляпення. Але гэта не азначала, што яны прасочваюцца праз гранітны масіў. Гэта былі сляды, пакінутыя патокам, які так доўга бурліў у гэтай пячоры.

Паветра крыху патыхала вільгаццю, але было чыстае і прыгоднае для дыхання.

— Што скажаце, шаноўны Сайрус?—звярнуўся Гедэон Спілет да інжынера.—Вось вам прытулак, захаваны ад усіх у нетрах зямлі, спакойны, адасоблены, але... непрыгодны для жылля!

— Чаму гэта? — запытаў Пенкроф.

— Таму што пячора занадта малая і не мае натуральнага асвятлення.

— А хіба мы не можам павялічыць яе, пашырыць, прабіць праход для святла і паветра?—запярэчыў Пенкроф, які ні ў чым цяпер не сумняваўся.

— Будзем аглядаць далей,—прапанаваў Сайрус Сміт.— Пройдзем больш у глыб, магчыма, што прырода пазбавіць нас ад лішняй работы.

— Мы-ж апусціліся толькі на адну трэцюю частку вышыні возера над узроўнем мора,—дадаў Герберт.

— Правільна!—пацвердзіў інжынер.—Мы прайшлі ад уваходу не больш ста футаў. Няма нічога немагчымага ў тым, што яшчэ за сотню футаў ніжэй...

— Дзе падзеўся Топ?—перапыніў Наб свайго гаспадара.

Сабакі не было ў пячоры.

— Топ, напэўна, пабег наперад,—выказаў сваю думку марак.

— Хадзем за ім,—скамандаваў Сайрус Сміт.

Зноў пачалі спускацца.

Інжынер уважліва сачыў за ўсімі звілінамі дарогі; не зважаючы на шматлікія павароты, ён выразна ўяўляў у кожную хвіліну агульны напрамак тунеля і яго размяшчэнне ў адносінах да мора.

Каланісты спусціліся яшчэ на пяцьдзесят футаў; аддалены шум, які чуўся з глыбіні гранітнага масіва, раптам прыцягнуў іх увагу. Яны прыпыніліся і прыслухаліся. Каменны тунель, як слыхавая труба, зусім выразна даносіў гэты шум да вушэй каланістаў.

— Гэта брэша Топ!—крыкнуў Герберт.

— Так,—адказаў Пенкроф.—На каго гэта так шалёна брэша наш добры сабака?

— Гэта робіцца ўсё больш і больш цікавым!—прашаптаў Гедэон Спілет інжынеру.

Той сцвярджальна кіўнуў галавою.

Каланісты рушылі ў дапамогу сабаку. Брэх Топа чуўся ўсё больш выразна. У ім адчувалася шаленства. З кім гэта Топ распачаў бойку? Каланісты не думалі цяпер пра небяспеку—яны непакоіліся ад цікаўнасці.

Яны ўжо не сыходзілі павольна па слізкаму калідору, а амаль што беглі па ім, забыўшыся на ўсялякую асцярогу.

Яшчэ пяцьдзесят футаў—і яны апынуліся побач з Топам. Тут тунель пераходзіў у прыгожую прасторную пячору. Топ лятаў то туды, то сюды, заядла брэшучы.

Пенкроф і Наб, раздуўшы свае факелы, узнялі іх высока над галавою, каб асвятліць цёмныя куткі пячоры. Сайрус Сміт, Гедэон Спілет і Герберт трымалі напагатове палкі, каб спаткаць невядомую небяспеку.

Але вялізная пячора была пустая.

Каланісты абышлі ўсе яе куткі; у пячоры не было нікога, ніводнага жывога стварэння. Але Топ не пераставаў брахаць. Ні ласкі, ні пагрозы не маглі прымусіць яго замоўкнуць.

— Тут дзесьці павінен быць сцёк, па якім азёрная вада трапляла ў акіян,—сказаў інжынер.

— Правільна,—адказаў Пенкроф,—трэба ісці асцярожна, каб не праваліцца ў прорву.

— Топ, наперад!—крыкнуў Сайрус Сміт.

Сабака, падагнаны вокрыкам гаспадара, падбег да процілеглага краю пячоры і тут забрахаў яшчэ больш заядла.

Усе пабеглі за ім. Факелы асвятлілі дзірку сапраўднага калодзежа, нібы прасвідраванага ў гранітнай тоўшчы. Як відаць, вада, якая яшчэ нядаўна напаўняла пячору, сцякала праз гэты калодзеж у акіян. Але гэта ўжо не быў тунель, крыху нахілены і зусім даступны для даследавання,—гэта быў бяздонны калодзеж, які адвесна ўрэзаўся ў зямлю

Каланісты нахілілі факелы над прорвай калодзежа. Але ў яго цёмнай глыбіні нічога не ўдалося разгледзець.

Сайрус Сміт кінуў у яму запаленую ветку. Смольнае дрэва яшчэ ярчэй разгарэлася ад шпаркасці палёту, але ў калодзежы паранейшаму нічога не ўдалося разгледзець. Полымя патухла з лёгкім трэскам—ветка, як відаць, дасягнула вады, гэта значыць, узроўню акіяна.

Інжынер па працягласці падзення веткі вылічыў глыбіню калодзежа,—у ім павінна быць не менш дзевяноста футаў. Значыць, пячора знаходзілася на вышыні дзевяноста футаў над узроўнем мора.

— Вось наш дом,—сказаў Сайрус Сміт.

— Не забывайцеся, што нядаўна ён быў заняты нейкім стварэннем,—праказаў Гедэон Спілет.

— Але гэтае стварэнне, хто-б яно ні было, уцякло праз калодзеж, даючы нам месца,—сказаў інжынер.

— Аднак,—заўважыў марак,—я дорага-б даў, каб быць на месцы Топа чвэртку гадзіны таму назад. Не брахаў-жа ён без дай прычыны!

Сайрус Сміт зірнуў на сабаку. Калі-б хто-небудзь з яго таварышоў падышоў у гэтую хвіліну бліжэй да яго, ён пачуў-бы, як інжынер прашаптаў:

— Ды я і сам думаю, што Топ бачыў нешта такое, пра што мы і не падазраем.

Значыць, мары каланістаў у значнай ступені збыліся. Выпадак, якому дапамагла геніяльная прадбачлівасць інжынера, саслужыў ім вялікую службу. У іх карыстанні была цяпер пячора, такая вялікая, што яны нават пры святле факела не маглі ўявіць пра яе памеры. Аднак, ужо цяпер было відаць, што яе можна было падзяліць цаглянымі перагародкамі на некалькі пакояў. Калі гэта і не быў сапраўдны «дом», у поўным сэнсе слова, дык у кожным разе гэта было здавальняючае і прасторнае жыллё. Вада пайшла адсюль назаўсёды, і месца было вольным.

Трэба было толькі вырашыць два пытанні: першае—пра асвятленне пячоры, якая знаходзілася ўнутры гранітнага масіва, і другое—пра способы зносін са знешнім светам.

Не было чаго і думаць прабіць вокны ў столі,—над ёю была гранітная тоўшча ў некалькі дзесяткаў; калі не соцень футаў. Але магчыма, што ў бакавых сценках, ад мора, удасца прабіць дзірку? Сайрус Сміт, які ў часе спуску сачыў за кірункам дарогі, лічыў, што гэтая сценка не павінна быць вельмі тоўстай.

Калі-б удалося вырашыць такім чынам пытанне пра асвятленне, дык гэтым самым вырашалася і другая цяжкасць, бо там, дзе можна прасекчы акно, там можна прасекчы і дзверы і злучыць іх з зямлёй вераўчанай лесніцай.

Інжынер сказаў пра свае думкі астатнім каланістам.

— Загадаеце пачаць, містэр Сміт?—сказаў марак.— Кірка пры мне, і я здолею прабіць ёю хоць якую сцяну. Дзе трэба прабіваць?

— Тут!

Інжынер паказаў мараку на значнае паглыбленне ў сцяне, якое на шмат змяншала яе таўшчыню.

Пенкроф заядла напаў на граніт. На працягу паўгадзіны пры святле факелаў відаць былі толькі асколкі граніта, якія разляталіся ў бакі ад кожнага ўдару кіркі. Марака змяніў Наб, а потым Гедэон Спілет.

Работа прадаўжалася ўжо больш двух гадзін, і каланісты пачалі непакоіцца, што таўшчыня сцяны ў гэтым

месцы перавышае даўжыню кіркі, калі раптоўна чарговы ўдар Гедэона Спілета прабіў у сцяне дзірку, праз якую кірка выпала на двор.

— Ура! Ура!—крыкнуў Пенкроф.

Таўшчыня сцяны не перавышала трох футаў.

Сайрус Сміт зірнуў у прабітую дзірку, якая ўзвышалася на восемдзесят футаў над зямлёю. Перад ім разлёгся бераг, астравок Выратавання і далей — безмежны акіян.

У прабітую досыць шырокую шчыліну ў пячору шугануў паток дзённага святла, якое эфектна асвятліла яе.

Пячора была як-бы з двух частак: левая мела не больш трыццаці футаў у вышыню і шырыню пры даўжыні ў сто з лішкам футаў. Затое правая частка была грандыёзная. Скляпенне яе ўзнімалася на восемдзесят футаў у вышыню. У беспарадку расстаўленыя ў некалькіх месцах гранітныя слупы падтрымлівалі гэтае скляпенне, як калоны ў храме. І гэта было тварэннем адной толькі прыроды! Яна сама, без удзелу чалавека, пабудавала гэтую феерычную Альгамбру[1] ў тоўшчы гранітнага масіва!

Каланісты былі ашаломлены і захоплены. Тое, што здавалася для ўсіх вузкай пячорай, на самай справе аказалася незвычайнай прыгожасці палацам. Поўныя захаплення воклічы вырваліся з усіх грудзей. «Ура» шугала як гром і рэха, паўтараючыся безліч разоў, замірала дзесьці далёка пад цёмным скляпеннем.

— Сябры мае!—усклікнуў Сайрус Сміт.—Мы ярка асвятлім гэтую пячору, пабудуем сабе пакоі, кладоўкі, склады, майстэрні, кухню, і ў нас яшчэ будзе ў запасе вялізная зала, дзе можна збудаваць хоць музей.

— Як мы назавем пячору?—запытаў Герберт.

— Гранітным палацам!—прапанаваў Сайрус Сміт.

Каланісты спаткалі яго словы новымі воклічамі «ура».

Факелы ўжо амаль зусім дагарэлі. З той прычыны, што варочацца трэба было зноў праз тунель, каланісты вырашылі адкласці на другі дзень работу па абсталяванню свайго новага жылля.

Перад тым як пайсці, Сайрус Сміт яшчэ раз падышоў да калодзежа. Ён прыслухаўся, схіліўшыся да яго цёмнай ямы.

Ніякі шум не далятаў адтуль, не было чутно нават плеску вады. Інжынер кінуў у калодзеж яшчэ адну палаючую ветку. Сцены калодзежа зноў асвятліліся на момант,

---

[1] *Альгамбра*—палац каліфаў у Грэнадзе (Іспанія), які славіцца за сваю прыгожасць і раскошу.

але, гэтак-жа, як і ў першы раз, нічога падазронага ў ім не было. Калі нават якое-небудзь морскае страшыдла і было захоплена знянацку спадам вады, дык яно, напэўна, паспела ўжо выбрацца на прастору праз гэты калодзеж.

Між тым інжынер усё яшчэ моўчкі і нерухома стаяў на месцы, уважліва прыслухоўваючыся.

Марак падышоў да яго і, крануўшы яго за руку, гукнуў:

— Містэр Сміт!

— Што, дружа мой?—не адразу адказаў інжынер, нібы думкі яго былі вельмі далёка.

— Хутка патухнуць факелы.

— У дарогу,—сказаў інжынер.

Маленькі атрад развітаўся з пячорай і пачаў узыходжанне па схілу цёмнага тунеля. Топ ішоў за людзьмі, час ад часу абарачваючыся і неяк дзіўна брэшучы.

Дарога назад была досыць цяжкай. Каланісты перадыхнулі некалькі хвілін у верхняй пячоры, якая была нібы пляцоўкай для адпачынку на сярэдзіне гэтай гранітнай лесніцы. Потым яны зноў пачалі падымацца.

Неўзабаве ў твар ім дыхнуў свежы ветрык. Кроплі вады ўжо не паблісквалі на сценах тунеля—яны выпарыліся. Дымнае полымя факелаў цмянела. Факел Наба затрашчаў і патух. Трэба было ісці хутчэй, каб не астацца ў поўнай цемры.

Каланісты так і зрабілі, і каля чатырох гадзін, у тую самую хвіліну, калі патух апошні факел, яны падышлі да адтуліны сцёку.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

*План Сайруса Сміта.—Фасад Гранітнага палаца.—Вераўчаная лесніца.—Мары Пенкрофа.—Пахучыя травы.—Гадавальнік трусоў.—Вадаправод.—Выгляд з акон Гранітнага палаца.*

На другі дзень, 22 мая, былі распачаты работы па прыстасаванню пячоры пад жыллё. Каланісты хацелі як мага хутчэй перамяніць свой ненадзейны прытулак у Каміне на прасторнае, сухое, захаванае ад дажджу і марскіх вод жыллё ў гранітнай тоўшчы. Але, яны не думалі пакінуць Камін зусім—інжынер меркаваў скарыстаць гэтае памяшканне пад майстэрню для рознай работы.

Інжынер спярша паклапаціўся даведацца, куды выходзіць знадворны «фасад» будучага Гранітнага палаца. Ён пайшоў берагам, уздоўж гранітнай сцяны, шукаючы кірку, якая ўчора выпала праз дзірку.

З той прычыны, што кірка павінна была ўпасці адвесна, досыць было толькі яе знайсці, каб заўважыць месца, дзе прабіта дзірка.

Інжынер лёгка знайшоў кірку ў пяску і, у думках пацягнуўшы перпендыкуляр да таго месца, дзе яна ўпала, убачыў дзірку ў гранітнай сцяне на вышыні прыблізна васьмідзесяці футаў.

Некалькі галубоў ужо кружылася каля гэтай дзіркі.

На думку інжынера, левую частку пячоры трэба было надзяліць на пяць пакояў з прыхожай, якія будуць асвятляцца пяцю вокнамі і дзвярмі, прабітымі ў граніце. Пенкроф ухваліў праект прабіць вокны, але не разумеў навошта яшчэ трэба рабіць дзверы, калі можна было, як па лесніцы хадзіць у Гранітны палац праз стары сцёк.

— Вось у тым-та і справа, мой дружа!—мякка адказаў яму інжынер.—Калі па гэтай лесніцы будзе лёгка хадзіць нам, дык гэтак-жа лёгка можна будзе гэта рабіць і другому. Я лічу, што лепш будзе зусім закрыць дзірку старога сцёку і, больш таго, захаваць яго ад чужога вока, магчыма нават падняўшы для гэтага зноў узровень вады ў возеры!

— А як-жа мы будзем уваходзіць?—запытаў марак.

— Па знадворнай лесніцы,—адказаў Сайрус Сміт.—На вераўчанай лесніцы, якую можна падымаць у кожную хвіліну і без якой не будзе доступу ў наша жыллё.

— Але навошта такія перасцярогі?—запытаў Пенкроф.—Да гэтага часу мы не бачылі яшчэ ніводнага небяспечнага звера. Што датычыць тубыльцаў, дык мы пераканаліся, што востраў незаселены.

— Вы ў гэтым пераканаы, Пенкроф?—запытаў інжынер, уважліва пазіраючы на марака.

— Поўнай упэўненасці, вядома, не можа быць, пакуль мы не даследуем увесь востраў,—адказаў той,—але...

— Так,—перапыніў яго інжынер,—мы агледзелі толькі невялічкую частку вострава. Але калі нават дапусціць, што тут не жывуць тубыльцы і мы пазбаўлены ўнутраных ворагаў, дык ніхто не можа быць упэўнены, што заўтра на востраў не высадзяцца піраты, якія прыедуць адкуль-небудзь здалёку. Гэтыя месцы Ціхага акіяна—небяспечныя месцы. Нам трэба ўзброіцца супроць розных выпадковасцей!

Довады Сайруса Сміта былі такія пераканаўчыя, што Пенкроф, не сказаўшы супроць ніводнага слова, падрыхтаваўся выконваць яго загады.

Па фасаду Гранітнага палаца каланісты хацелі прабіць пяць акон і дзверы. Гэтыя праходы ў граніце павінны былі абслугоўваць уласна кажучы толькі «кватэру». Для асвят-

лення вялікай пячоры патрэбна было прабіць яшчэ шырокую дзірку ў сцяне і некалькі вузкіх шчылін. Фасадам палац быў на ўсход, так што першыя праменні ўзыходзячага сонца павінны былі вітаць каланістаў раніцою. Для засцярогі ад ветру і дажджу інжынер загадаў зрабіць шчытныя акяніцы, да таго часу, пакуль не будзе выраблена шкло.

Такім чынам, першай задачай было прабіць дзіркі ў сцяне фасада. Калі-б гэта рабілі кіркай, дык-бы гэта зацягнулася надоўга. Але, як вядома, Сайрус Сміт быў вынаходлівым і дасціпным чалавекам. Ён скарыстаў для гэтага рэшткі нітрагліцэрына. Умела лакалізаваўшы выбуховую сілу гэтага вешчаства ён дамогся таго, што граніт узарваўся толькі ў тых месцах, якія былі намечаны ім.

Кірка і матыга дакончылі пачатую нітрагліцэрынам работу, і праз некалькі дзён Гранітны палац быў ярка асветлены праменнямі дзённага святла, якое пранікала аж да самых далёкіх яго куткоў.

Па плану Сайруса Сміта ў кватэры павінна было быць пяць пакояў, з вокнамі на акіян. Першым управа быў пярэдні пакой са знадворнымі дзвярмі, да якіх была прывязана вераўчаная лесніца. Побач з ёю—кухня, на трыццаць футаў шырыні; далей—сталовая, шырынёю на сорак футаў; затым спальня—такой-жа шырыні і, нарэшце, пабудаваны, як настаяў Пенкроф, «таварыскі куток», які межаваўся з вялікай залай.

Гэтыя пакоі, — праўдзівей кажучы — гэтая анфілада пакояў, якія ўтваралі кватэру каланістаў,—займалі толькі невялікую частку пячоры і аддзяляліся шырокім калідорам ад кладовых для інструментаў, матэрыялаў і харчоў.

Усе запасы як раслінных, так і мясных прадуктаў, сабраныя каланістамі, павінны былі захоўвацца ў добрым сухім месцы. А месца было столькі, што апасацца перапаўнення склада запасамі нельга было.

Апрача таго, каланісты маглі скарыстаць маленькую пячору, якая знаходзілася ў поўдарозе ад сцёку да Гранітнага палаца. Гэта была своеасаблівая гара палаца.

Пасля таго калі гэты план быў ухвалены, трэба было яго толькі выканаць. Горнарабочыя зноў ператварыліся ў цагельнікаў, а потым у насільшчыкаў. Неўзабаве ўся патрэбная для будаўніцтва цэгла была складзена ля падножжа Гранітнага палаца.

Да гэтага часу Сайрус Сміт і яго таварышы праходзілі ў пячору рэчышчам старога сцёку. Яны вымушаны былі для гэтага ўзбірацца на пласкагор'е Далёкага віду, далёка абыходзячы ўздоўж ракі Падзякі, потым спускацца амаль на

дзвесце футаў па старым сцёку і тым-жа шляхам варочацца. Усё гэта патрабавала нямала часу і адбірала шмат сілы. Сайрус Сміт вырашыў у першую чаргу зрабіць моцную вераўчаную лесніцу.

Гэтая лесніца была зроблена вельмі старанна. Сплеценая з сцяблоў чароту яна была такая-ж моцная, як тоўсты стальны трос. Перакладзіны былі зроблены з лёгкага і моцнага чырвонага кедра. Майстар Пенкроф асабіста зрабіў усю работу, нікому не давяраючы нават часткі яе.

Адначасова было звіта яшчэ некалькі такіх самых вяровак. Каля дзвярэй Гранітнага палаца быў пабудаваны прымітыўны, але моцны кран, і пры дапамозе яго каланісты лёгка падымалі цяжары ад падножжа сцяны на вышыню новага жылля.

Пасля гэтага каланісты распачалі работу па абсталяванню пячоры. У іх было некалькі тысяч цаглін і патрэбны запас вапны. Спярша яны зрабілі з цэглы ўнутраныя перагародкі, і на працягу кароткага часу памяшканне было падзелена на пакоі, склады і кладовыя.

Работай кіраваў інжынер, які і сам у кожную вольную хвіліну браўся за малаток або рыдлёўку. Не было рамяства, якога-б Сайрус Сміт не ведаў. У кожнай справе ён быў за прыклад для сваіх таварышоў.

Каланісты працавалі ахвотна і весела. Пенкроф, робячы што-небудзь па цяслярству, віючы вяроўкі або цягаючы цэглу, умеў заражаць сваім вясёлым настроем таварышоў на працы. Вера яго ў інжынера была бязмежная, і нішто не магло пахіснуць яе. Ён лічыў, што Сайрус здольны ўзяцца за кожную справу і ў кожнай справе будзе мець поспех. Пытанне пра адзенне і абутак, пра асвятленне кватэры ў зімовыя вечары, пра ператварэнне дзікіх раслін вострава ў культурныя—усе гэтыя важнейшыя пытанні здаваліся яму надзвычай проста вырашальнымі: варта толькі Сайрусу Сміту захацець, і ўсё неўзабаве будзе ўладжана. Пенкроф быў перакананы, што ўсё будзе зроблена ў час і добра. Ён быў упэўнены, што ўсе рэкі вострава зробяцца суднаходнымі і будуць перавозіць багацці, здабываемыя з нетраў зямлі. Ён ужо бачыў руднікі і кар'еры, дзе працавалі самыя складаныя машыны, ён ужо быццам чуў шум нагружаных чыгуначных цягнікоў,—так, цягнікоў!—якія імчаліся па востраве Лінкольна!..

Інжынер не пярэчыў Пенкрофу. Ён не запыняў мар гэтага слаўнага чалавека. Разумеючы, што ўсе каланісты заражаюцца яго верай, ён толькі ўсміхаўся, слухаючы балбатню марака, і нікому не казаў пра трывогу, якая была ў яго галаве ад думак пра будучыню.

Сапраўды, закінутыя ў гэты куток Ціхага акіяна, які знаходзіўся далёка ад звычайных морскіх шляхоў, каланісты не маглі спадзявацца на дапамогу з боку. Востраў Лінкольна быў на такой вялікай адлегласці ад бліжэйшай заселенай зямлі, што няварта было і думаць дабрацца на яе на слабым і ненадзейным судне сваёй работы. Значыць, уся будучыня каланістаў залежала ад іх саміх, і ўсе надзеі былі толькі на свае ўласныя сілы.

— Мы,— любіў паўтараць марак,— на сто галоў вышэй за ўсіх старых Рабінзонаў, якія лічылі за цуд кожную дробязь, якую яны рабілі самі.

Каланісты сапраўды шмат што ведалі, а людзі, якія ведаюць, маюць поспех там, дзе іншыя гаруюць і нарэшце гінуць.

Герберт паказаў сябе ў часе гэтых работ. Здольны, ахвочы да працы, ён пераймаў усё на ляту, і работа ў яго кіпела. Сайрус Сміт усё больш і больш прывязваўся да юнака. А Герберт паважаў інжынера і горача любіў яго. Пенкроф вельмі добра бачыў рост узаемнай сімпатыі гэтых двух чалавек, але не крыўдзіўся гэтым.

Наб аставаўся Набам. Як заўсёды, ён быў увасабленнем скромнасці, некарыслівасці, адвагі, старання і адданасці. Ён верыў у свайго гаспадара гэтак-жа слепа, як і Пенкроф, але не выяўляў так шумна сваёй веры. Калі марак бурна выказваў сваё захапленне, Наб усім сваім выглядам як-бы гаварыў: «Ёсць чаму дзівіцца! Бо інакш і быць не магло!» Пенкроф і ён добра пасябравалі. Неўзабаве яны пачалі гаварыць адзін з адным на «ты».

Што датычыць Гедэона Спілета, ён выконваў сваю частку агульнай работы і нельга было налічыць яго няспрытным. Гэта вельмі здзіўляла марака, бо ён не спадзяваўся, што яму давядзецца калі-небудзь спаткацца з журналістам, які не толькі ўсё *разумее*, але і ўсё *ўмее*.

Лесніца была канчаткова ўстаноўлена 28 мая. У ёй было каля ста перакладзін на васьмідзесяціфутавай даўжыні.

Уздым на такую вышыню быў-бы не вельмі лёгкі, каб прыблізна за сорак футаў над зямлёю, у гранітнай сцяне не было выступа. Сайрус Сміт загадаў разраўняць і паглыбіць гэты выступ, зрабіць з яго нешта падобнае на міжлесвічную пляцоўку. Да гэтай пляцоўкі нагл уха прымацавалі першую частку лесніцы, а да канца другой, якая вольна апускалася ўніз, прывязалі доўгую вяроўку, так што лесніцу можна было ўсцягваць наверх, перарываючы такім чынам зносіны Гранітнага палаца з зямлёю. Дзякуючы пляцоўцы ўздым у Гранітны палац зрабіўся значна лягчэй-

ным. Урэшце, Сайрус Сміт абяцаў праз некаторы час пабудаваць гідраўлічную пад'ёмную машыну.

Каланісты хутка прызвычаіліся карыстацца лесніцай. Усе яны былі людзьмі спрытнымі і рухавымі. Пенкроф, як былы марак, які прызвычаіўся лазіць па вантах, даў ім некалькі ўрокаў. Значна цяжэй было навучыць гэтаму майстэрству Топа. Небарака не прызвычаіўся да такіх практыкаванняў. Але Пенкроф быў вельмі добрым настаўнікам, і неўзабаве Топ ужо так-жа лёгка ўзбіраўся па лесніцы, як гэтае робяць яго родзічы ў цырку. Не варта і казаць, што марак ганарыўся ад поспехаў свайго вучня. Тым не менш вельмі часта Пенкроф падымаўся ў Гранітны палац з Топам на плячах, на вялікае задаваленне разумнага сабакі.

Не гледзячы на тое, што работа па абсталяванню жылля праводзілася паскораным тэмпам, бо халодная пара набліжалася, каланісты не забыліся паклапаціцца і пра загатоўку прадуктаў. Герберт і журналіст, якія зрабіліся сапраўднымі настаўнічыкамі ядга, кожны дзень па некалькі гадзін запар былі на паляванні.

З-за таго, што не было маста або лодкі, яны не маглі перабрацца цераз раку Падзякі. Таму вялізныя лясы Далёкага захаду да пэўнага часу заставаліся недаследаванымі — экскурсія туды была адкладзена да першых веснавых дзён,—і паляўнічыя хадзілі толькі ў лес Якамары. Але і ў гэтым лесе было безліч дзічыны, і драўляныя пікі і стрэлы каланістаў давалі ім здабычы не менш, чым самыя ўдасканаленыя стрэльбы.

Аднойчы Герберт знайшоў у паўночна-заходняй частцы лесу палянку, укрытую высокай, густой і крыху вільготнай травою, якая напаўняла ў паветры прыемным пахам. Тут раслі тым'ян, багародская трава, васількі, а таксама чабер і іншыя пахучыя травы.

Журналіст заўважыў, што было-б дзіўна, калі-б непадалёк ад такога сталавання для трусоў не было саміх трусоў, і разам з Гербертам уважліва агледзеў палянку.

На ёй расло шмат карысных раслін, і натураліст знайшоў-бы тут нямала ўзораў для папаўнення сваіх калекцый. Герберт сабраў крыху лекавых раслін—васількоў, рамашкі, мелісы, буквіцы і т. д., з якіх вырабляюць лякарствы, якія паніжаюць жар, гояць раны, спыняюць кровецячэнне, лякарствы супроцьгнілясныя і супроць рэўматызма. Калі паляўнічыя вярнуліся, і Пенкроф запытаў у юнака, навошта яму гэтая трава, той адказаў:

— Каб лячыцца, калі хто-небудзь з нас захварэе.

— А для чаго нам хварэць?—сур'ёзна праказаў марак.— На востраве-ж няма дактароў!

На гэтае нельга было адказаць, але тым не менш юнак захаваў сабраныя ім расліны, бо на гэта была згода ўсіх астатніх жыхароў Гранітнага палаца.

Апрача лекавых траў, юны натураліст знайшоў значную колькасць лісця расліны, якая вядома ў Паўночнай Амерыцы пад назвай чая Освего; калі зварыць гэтыя лісты, атрымліваецца вельмі смачны напітак.

У канцы палянкі паляўнічыя нечакана наткнуліся на прыродны гадавальнік трусоў. Зямля тут была скрозь зрыта на ямы.

— Гэта норы!—усклікнуў Герберт.

— Так, я бачу,—сказаў журналіст.

— Але ці ёсць што ў іх?

— А гэта невядома!

Але гэтае пытанне было, аднак, само сабою вырашана. Як толькі паляўнічыя падышлі да нор, з іх сотнямі выскачылі маленькія жывёліны, якія былі падобны да трусоў. Яны рассыпаліся ў розныя бакі так шпарка, што нават Топу не ўдалося дагнаць ніводнай з іх. Але журналіст цвёрда вырашыў не кратацца з месца, пакуль ён не зловіць самае меншае поўдзюжыны гэтых грызуноў. Ён хацеў, прыручыўшы некалькі пар трусоў, утварыць свой трусятнік.

Паставіўшы сілкі над нарой, лёгка можна было злавіць грызуноў жывымі. Але ў гэтую хвіліну ў паляўнічых не было пад рукамі ні сілкоў, ні матэрыялаў, з якіх яго можна было-б зрабіць. Яны вырашылі таму ўзброіцца цярплівасцю і даследаваць палкай усе норкі, адну за адной. Праз гадзіну такіх пошукаў чацвёра грызуноў былі злоўлены ў сваіх норах. Гэта былі так званыя амерыканскія трусы, вельмі падобныя на сваіх еўрапейскіх родзічаў.

Увечары мяса гэтых трусоў было падана на вячэру. Страва была надзвычай смачная.

31 мая перагародкі ў Гранітным палацы былі зроблены. Заставалася толькі зрабіць мэблю, але гэта адклалі на доўгія зімовыя вечары. У кухні быў зроблен ачаг. Самай большай цяжкасцю для новаспечаных пячнікоў было зрабіць комін. Сайрус Сміт вырашыў, што працей за ўсё будзе зрабіць яго з гліны. З-за таго, што не варта было і думаць прабіць комін у скале, каланісты абмежаваліся тым, што прабілі над акном яшчэ адну дзірку, у якую і выставілі накаса зроблены ў пакоі комін. Гэтае прыстасаванне пагражала ў дні моцных лобавых вятроў запаўняць кухню дымам, але, па-першае, такія вятры не маглі быць часта, а, па-другое, старшага повара, Наба, гэтая перспектыва мала турбавала.

Калі першая частка работы па абсталяванню Гранітнага палаца была закончана, інжынер вырашыў замураваць дзірку старога сцёку, якая выходзіла на возера, каб ніхто не мог увайсці ў палац з гэтага боку. Каланісты надкацілі да дзіркі абломкі скал і змацавалі іх цэментам. Сайрус Сміт адклаў на некаторы час ажыццяўленне свайго праекта — зноў падняць узровень вады ў возеры — і абмежаваўся тым, што прыкрыў дзірку травою, галлём і маладымі дрэўцамі, спадзяючыся, што вясною яны прыймуцца на новым месцы і зусім укрыюць дзірку ад чужых вачэй.

Разам з тым ён скарыстаў стары сцёк, каб забяспечыць Гранітны палац свежай прэснай вадою з возера. Маленькая канаўка, прабітая пад вадою возера, жывіла струмень, які даваў каланістам дваццаць пяць — трыццаць галонаў[1] піццёвай вады ў суткі.

Такім чынам Гранітны палац быў забяспечаны свежай крынічнай вадою.

Нарэшце, усё абсталяванне жылля было закончана. І у час, бо зіма пачыналася ўжо! Інжынер пакуль што не зрабіў яшчэ аконнага шкла, таму дзіркі акон былі шчытна застаўлены акяніцамі.

Гедэон Спілет па-майстэрску замаскаваў прабоіны ў граніце паўзучымі раслінамі, насадзіўшы іх у шчыліны скал, так што вокны былі схаваны за свежай і прыгожай зялёнай заслонай.

Каланісты былі вельмі задаволены сваім новым, прасторным, надзейным і здаровым жыллём. Перад вокнамі іх кватэры разгортвалася бязмежная прастора акіяна, паміж двума мысамі Сківіцы на поўначы і мысам Кіпцюра на поўдні. Каля падножжа іх дому насцілалася цудоўная бухта Саюза.

Так, гэтыя мужныя людзі мелі падставы быць задаволенымі ад працы сваіх рук!

Пенкроф вельмі ганарыўся сваім новым жыллём, або, як ён называў яго, «кватэрай на пятым паверсе, з надстрэшшам».

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

*Дажджлівая пара.— Пытанне пра вопратку.— Паляванне на цюленяў. Выраб свечак.— Унутранае абсталяванне Гранітнага палаца.— Два масткі.— Зварот з Устрычнай мелі.— Што Герберт знайшоў у кішэні.*

Зіма настала разам з чэрвенем месяцам, які адпавядае снежню ў паўночным паўшар'і. Першымі адзнакамі яе былі няспынныя ліўні і вятры. Жыхары Гранітнага палаца маглі

[1] *Галон*—прыблізна роўны $4\frac{1}{2}$ літрам.

нянер добра пераканацца ў перавагах памяшкання, якое не баіцца непагоды. Камін быў зусім непрыгодным прытулкам, у якім нельга было захаваць сябе ад халадоў, нават не кажучы пра тое, што высокія зімнія прылівы пагражалі яго затапіць. Прадбачачы гэта, Сайрус Сміт ужыў захады, каб захаваць зробленыя ў Каміне кузню і печы.

У чэрвені выконвалі розную хатнюю работу, якая, аднак, зусім не перашкаджала паляванню, таму кладовыя Гранітнага палаца былі ўвесь час напоўнены запасамі. Пенкроф меркаваў у першую-ж вольную хвіліну зрабіць пасткі, ад якіх ён чакаў цудаў. У перапынках паміж работай ён змайстраваў некалькі вераўчаных сілкоў, і не было таго дня, каб трусіны гадавальнік не даваў яму даніны адным або некалькімі грызунамі.

Наб увесь свой час аддаваў на саленне або вэнджанне мяса, выпрабляючы такім чынам надзвычайныя кансервы.

Вельмі сур'ёзна абгаварылі пытанне пра адзенне. У каланістаў не было іншай вопраткі, апрача той, якая асталася на іх у часе крушэння паветранага шара. Гэта вопратка была цёплая і моцная, таксама як і бялізна, і каланісты вельмі стараліся трымаць яе ў чыстаце. Але раней, ці пазней, а патрэбна будзе яе змяніць. Апрача таго, гэтая вопратка не магла ахаваць іх ад холаду, калі зіма на востраве будзе суровай.

Гэтаму не магла дапамагчы нават вынаходлівасць Сайруса Сміта. У першую чаргу ён павінен быў забяспечыць каланістаў жыллём, утульнасцю, ежаю і не мог вырашыць праблемы адзення да надыходу халадоў. Трэба было як-небудзь вытрымаць марозы, не вельмі наракаючы на лёс. А калі надыйдзе вясна, то можна будзе наладзіць паляванне на муфлонаў—горных баранаў, якія вяліся на гары Франкліна,—і, здабыўшы воўну, інжынер ужо здолее знайсці спосаб зрабіць з яе цёплую вопратку. Якім спосабам? Ён пра гэта падумае пасля, калі надыйдзе час.

— Што-ж,—сказаў Пенкроф,—зіму як-небудзь перабудзем, грэючы сабе пяткі ля каміну. Апалу ў нас хапае, і няма ніякага сэнсу эканоміць яго.

— Дарэчы,—сказаў Гедэон Спілет,—востраў Лінкольна знаходзіцца пад невысокім градусам шыраты, таму няма прычын баяцца празмерна суровай зімы. Хіба не вы, Сайрус, казалі, што наша трыццаць пятая паралель адпавядае прыкладна месцазнаходжанню Іспаніі і Італіі ў другім паўшар'і?

— Так, але не варта забывацца на тое, што і ў Іспаніі бываюць вельмі халодныя зімы. Снегу і лёду там колькі

хочане, і, магчыма, такія-ж выпрабаванні чакаюць нас і на востраве Лінкольна. Аднак, гэта ўсё-ж востраў, і таму я спадзяюся, што зіма тут будзе больш умераная.

— Чаму, містэр Сміт?—запытаў Герберт.

— Таму, мой хлопчык, што мора можна палічыць за вялізны рэзервуар, які збірае летняе цяпло. З надыходам зімы яно паступова вярнае гэтае цяпло, і дзякуючы гэтаму ў прыморскіх землях тэмпература менш хістаецца за год—летам там не так горача, а зімою не так холадна.

— Пажывем—пабачым!—сказаў Пенкроф.—Не палохайце мяне сёння халадамі, якіх яшчэ можа і не быць. Бясспрэчна толькі адно, што дні робяцца кароткімі, а ночы даўжэйшымі. На маю думку, самы час паклапаціцца пра асвятленне!

— Нічога не можа быць прасцейшага,—адказаў Сайрус Сміт.

— Так, думаць проста,—смеючыся сказаў марак.

— Не, зрабіць проста!

— Калі-ж мы возьмемся за справу?

— Заўтра-ж мы наладзім паляванне на цюленяў.

— Каб зрабіць свяцільні?

— Фі, вядома, не! Мы наробім свечак!

Сапраўды, інжынер думаў пра выраб свечак. І ў гэтым не было нічога цяжкага: каланісты мелі вапну і серную кіслату, а цюлені маглі даць колькі патрэбна тлушчу.

Гэтая гутарка была 4 чэрвеня. Наступнай раніцай 5 чэрвеня каланісты накіраваліся на астравок. Надвор'е было нядобрае. Чакаючы адліву, каб перайсці праліў бродам, каланісты дамовіліся, як толькі гэта будзе магчыма, пабудаваць лодку. Тады-б лёгка можна было перабірацца на астравок, і была-б магчыма паездка ўверх па рацэ Падзякі, адкладзеная да першых веснавых дзён.

На пяску ляжала шмат цюленяў, і каланісты лёгка забілі з поўдзюжыны. Наб і Пенкроф асвежвалі іх, і каланісты занеслі ў Гранітны палац каля трохсот фунтаў тлушчу, які увесь быў прызначаны для вырабу свечак. Апрача таго, яны прынеслі скуры забітых цюленяў, з якіх можна было зрабіць моцны абутак.

Свечкі рабілі вельмі проста, і хоць яны былі нязграбныя з выгляду, але службу сваю выконвалі добра. Калі-б у Сайруса Сміта была толькі адна серная кіслата, ён павінен-бы быў спярша нагрэць цюленяў тлушч разам з сернай кіслатою і, прафільтраваўшы атрыманы гліцэрын, аддзяліць кіпячэннем з утвораных новых злучэнняў алеін, маргарын

і стэарын. Але таму, што ў яго была вапна, ён абраў больш хуткі і просты спосаб. Ён апрацаваў тлушч вапнаю і атрыманае вапеннае (кальцыніраванае) мыла апрацаваў сернай кіслатой, якая звязала кальцый і вызваліла тлустыя кіслоты—алеінавую, маргарынавую і стэарынавую. З гэтых кіслот першую—вадкую—інжынер удаліў прасаваннем, што-ж датычыць двух другіх, дык яны патрэбны былі для вырабу свечак. Гэтая работа заняла не больш дваццаці чатырох гадзін.

Свечкі былі сфармаваны рукамі, але ад фабрычных яны адрозніваліся толькі тым, што не былі адбелены і адпаліраваны. Апрача таго, кнот іх, зроблены з раслінных валакон, згараючы, пакідаў нагар, чаго не бывае з фабрычным кнотам, прапітаным борнай кіслатой, які без астатку згарае разам з тлушчам. Але інжынер зрабіў пару добрых шчыпцаў для ўдалення нагару і жыхары Гранітнага палаца не мелі падстаў наракаць на недастатковасць асвятлення у часе доўгіх зімовых вечароў.

На працягу чэрвеня ў каланістаў было нямала работы па ўнутранаму абсталяванню іх новага жылля. Давялося ўдасканаліць некалькі старых інструментаў і зрабіць шмат новых. У ліку іншых інструментаў каланісты зрабілі пару нажніц. Імі яны, урэшце, падстрыглі валасы і бароды.

Нялёгка было зрабіць ручную пілу, але старанна папрацаваўшы каланісты дамагліся свайго і атрымалі пілу, якая магла рэзаць дрэва ўпоперак валокан. З дапамогай гэтай пілы яны змайстравалі сталы, крэслы, шафы і рамы на ложкі. Кухня была абсталявана паліцамі, на якіх Наб акуратна пастаўляў кухонную пасуду. Кухня набыла цяпер вельмі прыстойны выгляд, і Наб нахаджаў у ёй так, нібы гэта была хімічная лабараторыя.

Але неўзабаве сталярам зноў давялося зрабіцца цеслярамі. Новы сцёк, утвораны ўзрывам гранітнай сцяны, перагарадзіў блізкую дарогу ў паўночную частку вострава, і каланісты, каб не пераходзіць праз ваду, вымушаны былі даваць вялізнага круга, абыходзячы Чырвоны ручай. Прасцей, вядома, было пабудаваць на пласкагор'і Далёкага віду і на беразе акіяна масцікі на дваццаць—дваццаць пяць футаў у даўжыню, тым больш, што для гэтага патрэбна толькі было паваліць папярок патоку некалькі ствалоў дрэў, абцерабіўшы раней галлё.

Калі масткі былі зроблены, Наб і Пенкроф накіраваліся на ўстрычную мель. Яны цягнулі за сабою груба зробленую каламажку, якая замяніла надзвычай нязручную для пераноскі цяжараў старую плеценую карзіну, і прывезлі назад некалькі тысяч устрыц.

Устрыцы хутка акліматызаваліся на ўзбярэжжы, каля вусця ракі Падзякі, паміж скал, якія ўтваралі натуральныя садкі. Гэтыя малюскі былі каштоўным дадаткам да харчавання, і каланісты амаль штодня ласаваліся імі.

Як бачым, востраў Лінкольна задавальняў амаль усе патрэбы каланістаў, хоць яны паспелі азнаёміцца толькі з нязначнаю часткаю яго. Можна было меркаваць, што больш поўнае даследаванне вострава, асабліва далёкіх куткоў лясістай часткі яго, якая цягнулася паміж ракою Падзякі і мысам Рэптыліі, дасць каланістам новыя каштоўныя прадукты.

Толькі аднаго нехапала жыхарам вострава. Азоцістыя прадукты, гэта значыць мяса, былі ў іх у збытку, таксама як і зяляніна. Перакісшыя карэнні драцэны давалі ім кіславаты напітак, які на смак крыху нагадваў піва. Яны здабылі нават цукар, але не з буракоў ці цукровага трыснёгу, а звычайна збіраючы сок клёна, дрэва, якое расце ва ўмеранай зоне і якога багата было на востраве. Яны пілі смачны чай Освего з лісця, якога назбіраў Герберт. Урэшце ў іх было ўволю солі, адзінага з мінералаў, які людзі ўжываюць у ежу, але хлеба ў іх не было.

Магчыма, што ў лясах паўднёвай, недаследаванай часткі вострава можна было знайсці якія-небудзь расліны, што замяняюць хлеб,—хлебнае дрэва або саго,— але да гэтага часу каланісты не знайшлі іх і абыходзіліся без хлеба.

Адночы—у гэты дзень ліў праліўны дождж—каланісты сядзелі ўсе ў вялікай зале Гранітнага палаца.

Герберт раптам крыкнуў:

— Зірніце, містэр Сміт, хлебнае зерне!

І юнак паказаў сваім таварышам зярнятка, адзінае зярнятка, якое правалілася праз дзірку ў кішэні ў падкладку яго курткі. Герберт у Рычмондзе любіў сам карміць галубоў, і зерне гэтае выпадкова засталося ў яго кішэні.

— Хлебнае зерне?—жвава запытаў Сміт.

— Так, містэр Сміт, але адно адзінае...

— Вось дык знаходка, Герберт!—усміхаючыся, сказаў марак.—Што мы можам зрабіць з аднаго зярняці?

— Мы спячэм хлеб!—адказаў Сайрус Сміт.

— Хлеб, пячэнне, торты, піражныя,—падхапіў Пенкроф.—Апасаюся толькі, каб мы не растаўсцелі ад мучной яды!

Герберт, які не надаваў ніякага значэння сваёй знаходцы, ужо хацеў выкінуць зерне, але Сайрус Сміт узяў яго, агледзеў і, пераканаўшыся, што яно добра захавалася, зірнуў на марака.

— Пенкроф,—сказаў ён спакойна,—ці ведаеце вы, колькі каласоў можа быць з аднаго зерня?

— Я думаю, што адзін колас,—адказаў здзіўлены такім запытаннем марак.

— Дзесяць, Пенкроф! А ці ведаеце вы, колькі зярнят можа даць адзін колас?

— Не, не ведаю.

— У сярэднім па восемдзесят. Выходзіць, што пасадзіўшы адно зерне, мы ад першага-ж ураджаю збярэм восемсот зярнят, якія ў другі ўраджай дадуць шэсцьсот сорак тысяч зярнят, у трэці—пяцьсот дванаццаць мільёнаў, а ў чацвёрты—больш чатырохсот мільярдаў зярнят, калі вядома, ні адно зерне не загіне. Вось!

Таварышы слухалі Сайруса Сміта, не перапыняючы. Яны былі ашаломлены названымі ім лічбамі. Але гэтыя лічбы былі правільныя.

— Вось яно як, сябры мае,—прадаўжаў інжынер,—такая прагрэсія ўраджайнасці глебы. А што значыць гэтая прагрэсія хлебнага зерня ў параўнанні з прагрэсіяй макавага, якое дае трыццаць дзве тысячы зерняў ад першага-ж ураджаю, або табачнага, якое дае трыста шэсцьдзесят тысяч? Калі-б не тысячы прычын, якія часта шкодзяць гэтым раслінам, дык за некалькі год увесь зямны шар быў-бы запоўнены імі. А цяпер, Пенкроф, адказвайце, ці ведаеце вы, колькі чацвярыкоў хлеба будзе з чатырохсот мільярдаў зерняў?

— Не,—адказаў марак,—але затое я добра ведаю, што я асёл...

— Дык ведайце-ж, Пенкроф, што калі лічыць па сто трыццаць тысяч зерняў на чацвярык, дык гэта складзе больш трох мільёнаў чацвярыкоў.

— Трох мільёнаў!—крыкнуў Пенкроф.

— Так, трох мільёнаў.

— За чатыры гады?

— За чатыры гады,—пацвердзіў Сайрус Сміт,—магчыма нават, што і за два, калі пад гэтай шыротою можна збіраць па два ўраджаі ў год.

На гэтую заяву Пенкроф адказаў гучным «ура».

— Адсюль вынікае, Герберт,—скончыў інжынер,—што ты зрабіў выключна каштоўную для нас знаходку. Памятайце, сябры, што ў тым становішчы, у якім мы апынуліся, усё, літаральна ўсё можа саслужыць нам службу. Вельмі прашу вас—ніколі не забывайцеся на гэта.

— Абяцаю вам, містэр Сміт, што мы не забудземся,—адказаў за ўсіх Пенкроф.—І калі я знайду калі-небудзь зерне

табаку, якое дае трыста шэсцьдзесят тысяч зерняў, запэўняю вас, я не выкіну яго на вецер! А цяпер ведаеце, што мы павінны зрабіць?

— Пасадзіць гэтае зерне,—адказаў Герберт.

— Правільна,—сказаў Гедэон Спілет,—і берагчы яго як сваё вока, бо ў гэтым зерні ўсе нашы надзеі на будучыя ўраджаі.

— Калі толькі яно ўзыйдзе,—дадаў марак.

— Яно ўзыйдзе,—упэўнена сказаў інжынер.

Гэта было 20 чэрвеня—самы час для сяўбы адзінага і вельмі каштоўнага зярняці. Спярша думалі пасадзіць яго ў гліняны гаршчок, але падумаўшы добра, вырашылі даверыцца прыродзе і пасадзіць яго проста ў зямлю. У той-жа дзень «сяўба» была скончана і не варта казаць, што ўсе меры перасцярогі былі ўжыты, каб яна мела добрыя вынікі.

Надвор'е крыху праяснела, і каланісты скарысталі гэта, каб узабрацца на «дах» Гранітнага палаца. Там, на пласкагор'і, яны выбралі месца, атуленае з усіх бакоў ад ветру, на якім сонца прыпякала апаўдні на ўсю сілу сваіх праменняў. Яны ачысцілі ад палявых шкоднікаў і чарвякоў пляцоўку, ускапалі яе, насыпалі роўны пласт вапеннага ўгнаення і крыху звільгочанай зямлі і пасадзілі туды дарагое зерня. Пасля абгарадзілі гэтае месца палісаднікам.

Здавалася, што каланісты кладуць першую цагліну пабудовы. Пенкроф успомніў дзень, калі ён спрабаваў і не адважваўся запаліць адзіную на востраве запалку. Але сёння справа была яшчэ больш важная. Сапраўды, тым ці іншым спосабам, на дзень раней ці пазней, але каланісты заўсёды здабылі-б для сябе агонь. Іншая справа гэтае зерне—нішто не вярне яго ім, калі на няшчасце яно загіне.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

*Халады.—Даследаванне балота паўднёва-ўсходняй часткі вострава.—Шакалавыя лісы.—Будучыня Ціхага акіяна.—Работа каралаў.—Паляванне.—Балота Казаркі.*

З таго часу не было і дня, каб Пенкроф не наведаў абгароджаны кавалачак зямлі, які ён сур'ёзна называў сваім «хлебным полем». Бяда палявым шкоднікам, якія адважыліся наблізіцца да гэтага запаведнага месца! Пенкроф быў бязлітасны.

У канцы чэрвеня, пасля доўгіх няспынных дажджоў, пачаліся халады, і 29 чэрвеня тэрмометр Цэльсія, калі-б ён быў на востраве, паказваў-бы не менш 6° ніжэй нуля.

Крыгі сабраліся ля вусця ракі Падзякі, і неўзабаве замерзла ўся рака. Яшчэ раней замерзла возера.

Каланістам давялося некалькі разоў папаўняць свой запас паліва. Пенкроф, перад тым як замерзла рака, сплавіў па ёй уніз некалькі вялізных плытоў з лам'ём. Да дроў каланісты дабавілі некалькі каламажак каменнага вугалю, па які трэба было хадзіць да самага падножжа гары Франкліна.

Цеплыня, якая выдзялялася ад згарання каменнага вугалю, асабліва была да душы каланістам, калі 4 ліпеня тэмпература ўпала да 13° ніжэй нуля. Яны зрабілі другую печ у сталовай і праводзілі там за работай увесь дзень.

Толькі цяпер, у час жорсткіх марозаў, Сайрус Сміт зразумеў, якая шчаслівая думка прыйшла яму ў галаву, калі ён вырашыў правесці струменьчык вады з возера ў Гранітны палац. Пачынаючыся пад лёдам, струмень вады, не замярзаючы, даходзіў да рэзервуара каля кухні і, напоўніўшы яго, пераліваўся ў калодзеж.

Сонечныя і пагодныя марозныя дні, якія неўзабаве насталі, дазволілі каланістам зрабіць экскурсію на балоты паўднёва-ўсходняй часткі вострава, паміж ракой Падзякі і мысам Кіпцюра. Туды і назад трэба было прайсці не менш шаснаццаці—семнаццаці міль; значыць, экспедыцыя павінна была заняць цэлы дзень і то пры ўмове, калі шпарка ісці. З той прычыны, што меркавалася наведаць недаследаваную частку вострава, было вырашана, што ў экспедыцыі будуць удзельнічаць усе каланісты.

У шэсць гадзін раніцы 5 ліпеня, як толькі занялося на дзень, Сайрус Сміт, Гедэон Спілет, Наб, Пенкроф і Герберт, узброеныя лукамі, стрэламі, пікамі з жалезнымі наканечнікамі і сілкамі, узяўшы патрэбны запас яды, рушылі з Гранітнага палаца. Топ бег наперадзе. Самай кароткай была дарога цераз замёрзлую раку Падзякі.

— Лёд не можа замяніць сапраўднага маста,—сказаў інжынер.

І пабудова «сапраўднага» маста была запісана ў план чарговых работ.

Упершыню каланісты ступалі па правым беразе ракі Падзякі і ўваходзілі ў яго цудоўныя лясы, якія былі цяпер ўкрыты пеляною снегу.

Не прайшлі яны і поўмілі, як з густых зараснікаў стралою выскачыла цэлая сям'я чацвераногіх, узнятая, як відаць, браханнем Топа.

— О, дык гэта-ж лісы!—усклікнуў Герберт, гледзячы ўслед уцякаўшым звярам.

Гэта сапраўды былі лісы, але вельмі вялікія, каля метра ў даўжыню. Яны неяк асабліва брахалі; гэты брэх так здзівіў Топа, што ён здзіўлена спыніўся і гэтым даў магчымасць шпаркай жывёле ўцячы.

Сабака, які не ведаў прыродазнаўства, меў падставу здзіўляцца. Але па гэтым брэху можна было пазнаць пароду звяроў, якія ўцяклі. Гэтыя лісы з рыжаватай шэрсцю і чорнымі хвастамі, якія звісалі амаль да зямлі, безумоўна, належалі да віду шакалавых лісоў. Герберт вельмі шкадаваў, што Топу не ўдалося злавіць ніводнага з гэтых прадстаўнікоў сямейства сабак.

— А ці можна іх есці?—запытаў Пенкроф, якога і флора і фауна вострава цікавілі толькі з гэтага боку.

— Не,—адказаў Герберт.—Ведаеш, Пенкроф, заалогі і да гэтага часу не вырашылі пытання, ці можна лічыць лісоў чыстымі прадстаўнікамі сабачай пароды.

Сайрус Сміт не мог стрымацца ад усмешкі, пачуўшы адказ Герберта. Для марака-ж лісоў ужо быццам і не было, калі толькі ён даведаўся, што яны належаць да «пароды» няўжыўных. Але між іншым ён зазначыў, што, як толькі ў Гранітным палацы будзе ўласны куратнік, дык неабходна будзе паклапаціцца пра тое, каб гэтыя чацвераногія грабежнікі не рабілі яму візітаў. Ніхто супроць такіх меркаванняў марака не сказаў нічога.

Было ўжо каля васьмі гадзін раніцы. Неба было такое празрыстае і сіняе, якое яно бывае толькі ў марозныя дні. Але ўгрэтыя хадзьбою каланісты не адчувалі холаду.

На шчасце, ветру не было, а калі няма ветру, мароз не такі адчувальны. Вялізнае, але халоднае сонца толькі што вышла з глыбіні акіяна і павольна падымалася ў небе.

Паверхня акіяна была сіняй і спакойнай, як вада якога-небудзь міжземнаморскага заліва ў ясны летні дзень. Мыс Кінцюра, сагнуты і востры, нібы ятаган, выразна відаць быў за чатыры мілі на паўднёвым усходзе. Злева быў відаць куток бухты Саюза, нічым не ўкрыты ад акіяна. Безумоўна, гэта быў не вельмі зручны прытулак для караблёў, якіх гоніць бура.

Непарушны спакой паверхні вады, яе аднолькавы па ўсёй бухце колер, адсутнасць рыфаў і скал—усё паказвала на тое, што тут была бяздонная глыбіня, што акіян каціў свае хвалі над прорваю.

У далечыні відаць былі верхавіны лесу Далёкага захада. Можна было падумаць, што знаходзішся на сумным беразе прыпалярнага астраўка, абложанага леднікамі.

Каланісты прыпыніліся ў гэтым месцы і з'елі па некалькі скібак халоднага мяса.

І снедаючы каланісты не спынялі агляду мясцовасці. Гэтая частка вострава Лінкольна рэзка адрознівалася сваёй неўрадлівасцю ад пладароднай заходняй часткі. Журналіст

заўважыў з гэтай прычыны, што калі-б выпадак выкінуў іх на паўночнае ўзбярэжжа, яны-б спярша блага падумалі пра востраў, які даў ім прытулак.

— Думаю, што мы і не дабраліся-б тут да берагу,— сказаў інжынер.—Мора тут, як відаць, вельмі глыбокае. і ў ім няма нават скал, на якіх можна-б было адпачыць. Насупроць Гранітнага палаца ёсць астравок, мелі, скалы, якія даюць хоць невялікую надзею на выратаванне. А тут нічога—бяздонная прорва...

— Дзіўна,—дадаў Гедэон Спілет,—спаткаць на такім маленькім востраве такую рознастайнасць прыродных умоў. Гэта было-б зусім зразумела на вялікім мацерыку. Чэснае слова, можна падумаць, што багатая на расліннасць заходняя частка востраыа абмываецца цёплымі водамі Мексіканскага заліва, а гэтыя паўночныя і паўночна-ўсходнія берагі—водамі халоднага палярнага мора.

— Вы праўду кажаце, Спілет,—сказаў Сайрус Сміт.— І мне прыходзіла ў галаву такая-ж думка. Гэты востраў і па форме і па прыродных умовах зусім незвычайны. Ён у мініятуры ўяўляе ўсе характэрныя рысы сапраўднага мацерыка. Мяне-б не здзівіла, калі-б выявілася, што ён некалі быў часткай мацерыка.

— Як? Мацярык пасярод Ціхага акіяна?—усклікнуў Пенкроф.

— А чаму не так?—адказаў інжынер.—Аўстралія, Новая Зеландыя, увесь той комплекс, які англічане завуць Аўстралазіяй, разам з ціхаакіянскімі архіпелагамі вельмі лёгка мог быць у мінулым шостай часткай свету, такой-жа вялікай, як Еўропа, Азія, Афрыка і абедзве Амерыкі. Я поўнасцю дапускаю, што ўсе астравы, якія знаходзяцца пасярод гэтага вялізнага акіяна, ёсць не што іншае, як вяршыні гор мацерыка, што апусціўся пад ваду ў дагістарычныя часы.

— Як Атлантыда?—запытаў Герберт.

— Так, дзіця маё... калі толькі яна існавала калі-небудзь.

— І востраў Лінкольн быў часткай гэтага мацерыка?— запытаў Пенкроф.

— Гэта зусім магчыма,—адказаў інжынер.—І, бадай, гэта адзінае разумнае тлумачэнне неаднолькавых прыродных умоў у розных частках вострава...

— І багацця рознастайнай жывёлы, якая жыве на ім і да гэтага часу,—дадаў Герберт.

— Так, мой хлопчык. Ты падказаў мне новы довад у абарону майго меркавання. Мы пераканаліся, што на востраве жыве шмат жывёлы, ды ў дадатак самых рознастайных парод. Гэта не выпадковасць; на маю думку, гэта з'яўляецца доказам таго, што востраў Лінкольна некалі быў

часткай мацерыка, які паступова апусціўся на дно Ціхага акіяна.

— Значыць, як вы мяркуеце,—праказаў Пенкроф, відаць не перакананы словамі інжынера,—і гэтая рэштка мацерыка ў адзін прыгожы дзень таксама апусціцца пад ваду, і паміж Амерыкай і Азіяй не будзе ніякай зямлі?

— Не, будзе,—адказаў інжынер.—За гэты час узнікнуць новыя мацерыкі, над пабудовай якіх працуюць зараз мільярды мільярдаў драбнюткіх жывёл.

— Што гэта за будаўнікі?—здзіўлена запытаў Пенкроф.

— Гэта каралы. Гэта яны нястомнай працай узнялі на паверхню вады рад астравоў, безліч атолаў і рыфаў Ціхага акіяна. Каб ураўнаважыць на вазе адно арэхавае зерне, патрэбны тысячы гэтых драбнюткіх стварэнняў. Каралы, паглынаючы з морскай вады соль і раствораныя ў ёй іншыя цвёрдыя вяшчэствы, утвараюць вапнякі, з якіх вырастаюць вялізныя падводныя скалы, якія па моцнасці і трываласці не слабей за граніт. У даўно мінулыя, першыя перыяды існавання нашай планеты прырода стварыла зямлю пры дапамозе вулканічных працэсаў. Цяпер, як відаць, падземны агонь, як фактар землеўтварэння аслабеў, і прырода даручае гэтую работу мікраскапічным стварэнням на дне марэй і акіянаў. Я ведаю, мінуць вякі, мільярды пакаленняў каралаў зменяць мільярды іншых пакаленняў каралаў, і з вод Ціхага акіяна ўзнікне новы мацярык, які заселяць і цывілізуюць нашы далёкія патомкі...

— Ох, да таго часу яшчэ шмат вады сцячэ!—сказаў Пенкроф.

— Прыродзе няма куды спяшацца,—адказаў інжынер.

— Але навошта ствараць новыя кантыненты?—запытаў Герберт.—Мне здаецца, што плошча сучасных мацерыкоў больш чым дастаткова для рассялення чалавецтва. А прырода не будзе рабіць ніякай бескарыснай работы!

— Гэта правільна,—адказаў інжынер,—але з пункту гледжання інтарэсаў будучых пакаленняў стварэнне новых мацерыкоў, асабліва ў трапічных зонах, дзе галоўным чынам і растуць каралавыя астравы, нельга лічыць бескарысным. Прынамсі такая мая думка...

— Мы слухаем вас, містэр Сміт,—сказаў Герберт,—раскажыце нам пра вашу тэорыю.

— Вось што я думаю. Вучоныя, урэшце многія з іх, дапускаюць, што раней ці пазней жыццё расліннага і жывёльнага свету нашай планеты загіне з-за холаду. Рознагалоссі паміж вучоных выклікаюць толькі прычыны гэтага пахаладання зямлі. Некаторыя лічаць, што холад настане праз

мільёны гадоў ад згасання сонца; іншыя лічаць, што за доўгі час да таго патухне падземны агонь, які, на іх думку, вельмі ўплывае на клімат зямлі. Я асабіста схільны да гэтай апошняй гіпотэзы, параўноўваючы будучыню зямлі з сучасным месяца, зоркі, якая патухла і ахаладзела і на якой не можа быць жыцця, не гледзячы на тое, што сонца як і раней аддае яго паверхні сваю цеплыню. Выходзіць, што калі месяц ахаладзеў, дык гэта ў выніку таго, што ў яго ўнутры зусім патух агонь, які жывіў яго, як і ўсе іншыя свяцілы. Адным словам, якая-б ні была прычына ахаладжэння, але раней ці пазней наша планета замерзне, прычым замерзне не адразу, а паступова. Што тады адбудзецца? Адбудзецца тое, што краіны, размешчаныя ва ўмераным поясе, стануць так-жа малапрыгоднымі для жыцця, як сучасныя палярныя землі. Таму чалавецтва, ды і ўвесь жывёльны свет, рушыць да шыротаў, дзе будзе больш сонечнай цеплыні. Пачнецца вялікае перасяленне народаў. Еўропа, Сярэдняя Азія, Паўночная Амерыка па-трохі зробяцца бязлюднымі таксама, як Аўстралія і Паўднёвая Амерыка. Расліны рушаць за жывёльным светам. Флора адступіць да экватара адначасова з фаунай. Цэнтральная Амерыка і Афрыка будуць найбольш заселенымі часткамі свету. Лапландцы і самаеды знойдуць звыклыя для сябе кліматычныя ўмовы на берагах Міжземнага мора, у сучаснай Італіі. Наўрад ці змогуць тады экватарыяльныя землі ўмясціць і пракарміць усё чалавецтва. Магчыма, што прадбачлівая прырода, ужо цяпер улічваючы будучае вялікае перасяленне людзей, жывёл і раслін да экватара, даручыла каралам неадкладна ўзяцца за пабудову асновы новага мацерыка. Я часта думаў пра гэтыя справы, сябры мае, і пераканаўся, што калі-небудзь знадворны выгляд нашай планеты зусім зменіцца: падымуцца з морскага дна новыя кантыненты, і адціснутая імі вада заллье старыя. У будучыя стагоддзі новыя Калумбы накіруюцца адкрываць астравы Чымбарасо, Гімалаі, Манблан[1], рэшткі Амерыкі, Азіі, Еўропы, якіх яшчэ не паглынула вада. Потым, праз дзесяткі тысячагоддзяў, і гэтыя новыя мацерыкі ў сваю чаргу зробяцца непрыгоднымі для жыцця. Зямля астыне, як астывае цела, пакінутае жыццём, і розныя праявы жыцця калі не назаўсёды, дык у кожным разе часова знікнуць з нашай планеты.

— Усё гэта вельмі цікава,—сказаў Пенкроф, які ўважк-

---

[1] *Чымбарасо*—найвышэйшая вяршыня ў Андах Экўадора (Паўднёвая Амерыка); *Гімалаі*—высокія горы ў Азіі; *Манблан*—самая высокая вяршыня ў Еўропе. ***Заўвага аўтара.***

ліва слухаў інжынера,—але скажыце, містэр Сміт, можа і наш востраў збудаваны караламі?

— Не,—адказаў інжынер,—востраў Лінкольна безумоўна вулканічнага паходжання.

— Значыць ён зїкне калі-небудзь?

— Гэта зусім магчыма.

— Спадзяюся, што да таго часу нас ужо не будзе тут.

— Не трывожцеся, Пенкроф, нас то напэўна ўжо не будзе тут. У нас няма ніякай ахвоты прабыць тут усё жыццё, і раней ці пазней мы выбярэмся адсюль

— А пакуль што,—дадаў Гедэон Спілет,—будзем парадкавацца тут так, нібы мы мяркуем пражыць бясконца. Нядобра рабіць справу напалову!

Гэтымі словамі закончылася гутарка. Снеданне было з'едзена.

Каланісты зноў рушылі ў дарогу і неўзабаве дайшлі да забалочанай мясцовасці.

Балота займала плошчу амаль на дваццаць квадратных міль і цягнулася аж да самага краю паўднёва-ўсходняй аканечнасці вострава. Зямля тут была ілістая, глеістая, укрытая ў некаторых месцах гнілым лісцем і голлем. Усюды пабліскваві ад сонца ўкрытыя лёдам лужы. Вада тут не магла сабрацца ні ад паводак, ні ад дажджоў. Можна было дапусціць толькі, што балота жывіцца вадою з-пад глебы, што і было ў сапраўднасці. Можна было нават асцерагацца, што ў спякотны час года гэтае балота атручвае паветра міязмамі балотнай ліхаманкі.

Над балотнай травою лятала безліч птушак. Прафесіянальны паляўнічы ледзь спраўляўся-б спускаць курок: тут былі дзікія качкі, казаркі, цэлыя стаі даверлівых бекасаў, якія смела падпускалі да сябе. Яны ляталі такімі шчыльнымі стаямі, што адным набоем шроту можна-б было забіць некалькі дзюжын птушак.

Але каланісты маглі страляць толькі з лукаў. Вынікі былі не такія бліскучыя, але бясшумныя стрэлы мелі тую перавагу, што не палохалі птушак.

Паляўнічыя задаволіліся гэтым разам дзюжынай качак, ведаючы, што ў кожную хвіліну яны змогуць тут папоўніць свае запасы харчоў.

Надаўшы гэтай мясцовасці назву «Балота казаркі», Сайрус Сміт і яго спадарожнікі ў пяць гадзін вечара павярнулі дадому.

У восем гадзін яны перайшлі па лёдзе раку Падзякі і падышлі да Гранітнага палаца.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДРУГІ

*Пасткі.—Лісы.—Паўночна-заходні вецер. — Мяцеліца. — Халады.—Рафініраванне цукру.—Таямнічы калодзеж.—Планы разведак.- -Шраціна.*

Вялікія халады трымаліся да 15 жніўня. Аднак тэмпература ні разу не апускалася ніжэй —15°. У ціхую пагоду гэты холад быў нястрашны. Але варта было ўсхадзіцца нават лёгкаму ветрыку—і дрэнна апранутыя людзі пачыналі пакутваць ад марозу.

Пенкроф шкадаваў, што замест цюленяў і шакалавых лісоў, скуры якіх былі не асабліва добрымі, на востраве Лінкольна не сустрэлася некалькіх мядзведзяў.

— Мядзведзі,—казаў ён,—звычайна нядрэнна апрануты. Я нічога-б не хацеў лепшага, як пазычыць у іх на зіму іх цёплую шубу.

— Але,—усміхнуўся ў адказ Наб,—магчыма, што мядзведзі не згадзіліся-б пазычыць табе сваю шубу?

— Мы прымусілі-б іх, Наб, мы прымусілі-б іх!—аўтарытэтна праказаў Пенкроф.

Але гэтых небяспечных драпежнікаў не было на востраве, або іх яшчэ не сустракалі каланісты.

На кожны выпадак Гедэон Спілет, Пенкроф і Герберт наставілі пасткі на пласкагор'і Далёкага віду і на ўзлессі. Як казаў Пенкроф, якая-б жывёліна ні трапілася ў іх—драпежнік, ці грызун—кожная спатрэбіцца ў гаспадарцы Гранітнага палаца.

Пасткі былі зроблены вельмі проста: для іх выкапалі ямы і накрылі зверху голлем і травою; на дно гэтых ям клалі якую-небудзь прынаду, пах якой павінен быў прывабіць звярыну. Вось і ўсё. Трэба зазначыць, што месцы выбіраліся не выпадкова, а толькі там, дзе часта можна было бачыць сляды звярыны.

Штодня аглядалі каланісты гэтыя ямы. У першыя-ж дні яны знайшлі ў іх трох лісоў.

— Чорт вазьмі,—крыкнуў Пенкроф, выцягваючы з ямы трэцяга звярка, які панура шчэрыў зубы,—няўжо ў гэтых месцах вядуцца толькі адны лісы? Каб-жа яны хоць на што былі прыгодны!

— Вы памыляецеся, Пенкроф,—сказаў яму журналіст,—лісы не такія ўжо бескарысныя.

— А навошта яны прыгодны?

— Каб быць прынадай для іншых звяроў!

Журналіст казаў праўду, і трупы лісоў пакінулі ў ямах для прынады.

Марак нарабіў таксама і шмат сілкоў, і яны давалі больш здабычы, чым пасткі. Не было таго дня, каб у сілок не папаўся хоць адзін трус. Харчы былі досыць аднастайныя, але Наб умеў гатаваць трусоў пад рознымі соусамі, і каланісты не наракалі на яду.

Між тым на працягу другога тыдня жніўня месяца пасткі парадавалі каланістаў больш буйнымі і больш карыснымі жывёлінамі, чым лісы. Гэта былі кабаны, якіх каланісты ўжо бачылі ў лесе на поўнач ад возера Гранта.

Пенкроф не стаў распытваць, ці можна есці гэтую жывёлу,—на гэтае пытанне яму адказала яе падабенства са звычайнымі еўрапейскімі і амерыканскімі свіннямі.

— Але-ж гэта не сапраўдныя свінні, Пенкроф,—папярэдзіў марака Герберт.

— Герберт,—папрасіў той, нахіляючыся над ямай і выцягваючы кабана за кароткі адростак, які быў яму замест хваста.—Герберт, калі гэта нават і не свіння, дык не кажы мне гэта...

— Чаму?

— Таму, што я засумую!

— Няўжо ты так любіш свіней, Пенкроф?

— Я вельмі люблю свініну,—адказаў марак,—асабліва свіныя ногі... Каб у свіней было не чатыры, а восем ног, я любіў-бы іх удвая больш!

Злоўленая жывёла належала да падсямейства пекары—амерыканскіх свіней, больш правільна—да віду таясу, якіх можна пазнаць па зрослых пястных костках на задніх нагах жывёлы. Пекарыпадобныя, і ў тым ліку таясу, звычайна вядуцца стадамі, і можна было дапусціць, што іх ёсць шмат у лясістых мясцовасцях вострава. Гэтая жывёла была ўжыўнай ад галавы да ног, і Пенкроф нічога іншага ад яе і не патрабаваў.

У сярэдніх лічбах жніўня надвор'е раптоўна змянілася пад уплывам паўночна-заходняга ветру. Тэмпература паднялася на некалькі градусаў, і пара, якая знаходзілася ў атмасферы, выпала ў выглядзе снегу. Увесь востраў укрыўся белым покрывам і зрабіўся зусім непазнавальным. Снег багата ішоў на працягу некалькіх дзён, і пласт яго дасягнуў таўшчыні ў два футы.

Вецер мацнеў, і неўзабаве з вышыні Гранітнага палаца можна было чуць роў хваль, якія разбіваліся аб скалы. Месцамі буйны вецер узнімаў цэлыя слупы снегу, якія круціліся вакол сваёй асі, і нібы вадзяныя смерчы пераносіліся з месца на месца. Ураган, які імчаўся з паўночнага захаду, закранаў востраў Лінкольн толькі сваім краем, ды і месца-

знаходжанне Гранітнага палаца, які выходзіў вокнамі на ўсход, засцерагала яго жыхароў ад лобавых атак буры. Але ні Сайрус Сміт, ні яго таварышы, вядома, не адважваліся высунуць нават кончык носа з дому ў гэты страшны буран, які мала чым адрозніваўся ад самых моцных палярных бур.

Пяць дзён—з 20 па 25 жніўня—каланісты безвыходна прасядзелі ў Гранітным палацы, слухаючы, як шалее вецер у лесе Якамары, дзе шмат дрэў было вырвана з карэннем і паваленa на зямлю. Але гэта зусім не засмучала Пенкрофа.

— Вецер працуе на нас,—казаў ён:—чым больш дрэў ён паваліць, тым менш давядзецца нам ссякаць.

Урэшце, каланісты ўсёроўна не маглі перашкодзіць буянству ветру.

Можна ўявіць, якімі шчаслівымі адчувалі сябе каланісты за гранітнымі сценамі свайго непарушна-моцнага прытулку. Тут яны былі ў поўнай бяспецы, іх тут не даставаў вецер. Драўляны або нават каменны дом на пласкагор'і Далёкага віду наўрад ці ўстаяў-бы супроць такога лютага ўрагану.

Таксама быў-бы непрыгодным для жылля і Камін; ужо нават па адным шуму акіяна, які з грукатам налятаў на першае прыстанішча каланістаў на востраве можна было ўявіць, якім-бы незавідным быў іх лёс, калі-б не шчаслівая знаходка Гранітнага палаца.

Каланісты не бяздзейнічалі ў гэтыя дні вымушанага сядзення дома. У кладовых палаца было шмат дошак і за гэты час мэбля кватэры папоўнілася дастатковай колькасцю сталоў і крэслаў. Моц іх, мяркуючы па колькасці ўжытых матэрыялаў, была вышэй за самыя суровыя патрабаванні. Праўда, гэты, «запас моцнасці» ўтварыўся за кошт вагі мэблі, якую нялёгка было зрушыць з месца, але ні Наба, ні Пенкрофа, якія ганарыліся работай сваіх рук гэта зусім не засмучала, і яны не памянялі-б свае вырабы нават на мэблю Буля [1].

Потым сталяры ператварыліся ў кашаплётаў, і ня-дрэнных кашаплётаў. Яшчэ да пачатку перыяду дажджоў Герберт і Пенкроф, знайшоўшы на беразе возера Гранта зараснікі лазы, загатовілі вялікую колькасць лазовых дубцоў. Цяпер гэтыя дубцы былі скарыстаны.

Першыя спробы былі няўдалыя, але настойлівасць і кемлівасць каланістаў перамаглі ўсе цяжкасці, і інвентар калоніі хутка папоўніўся вялікім запасам кашоў розных памераў.

---

[1] *Буль*—вядомы майстар-мэбельшчык канца XVII і пачатку XVIII века.

У апошні тыдзень жніўня надвор'е яшчэ раз змянілася. Мароз узмацніўся, але бура сціхла. Каланісты вышлі з палаца. Снег ляжаў усюды двухфутавым покрывам, але верхні пласт яго быў шчыльны, зацвярдзеў, і па ім можна было лёгка хадзіць.

Сайрус Сміт з таварышамі ўзабраліся на пласкагор'е Далёкага віду. Якая перамена! Лясы, якія яшчэ нядаўна песцілі позірк яркай зялёнінай, былі пахаваны цяпер пад аднакаляровай белай пеляною. Усё было белае—ад вяршыні гары Франкліна да ўзбярэжнай паласы, усё—лясы, палі, азёры, рэкі, землі...

Рака Падзякі цякла пад ледзяным скляпеннем, якое з трэскам ламалася ад кожнага адліву і прыліву. Каланісты не маглі вызначыць памеру пашкоджанняў, якія нарабіў ураган у лесе, для гэтага трэба было пачакаць, каб растаў снег.

Гедэон Спілет, Пенкроф і Герберт не прамінулі агледзець пасткі.

Каланісты ледзь адшукалі іх пад тоўстым пластом снегу. Яны былі нават вымушаны асцерагацца, каб самім не трапіць у свае-ж пасткі,—гэта было-б вельмі крыўдна. Але пасткі былі пустыя, не зважаючы на тое, што ўвесь снег вакол іх быў спаласаван выразнымі слядамі кіпцюроў.

Герберт зараз-жа заявіў, што гэта сляды нейкай жывёлы з пароды кошак. Гэта пацвярджала меркаванні інжынера, што на востраве ёсць небяспечныя драпежнікі. Відаць, яны хаваліся ў лясах Далёкага захада і, толькі згаладаўшы, адважыліся забрацца на пласкагор'е Далёкага віду.

— Якія-ж гэта кошкі?—запытаў Пенкроф.

— Тыгры!—адказаў Герберт.

— А я думаў, што гэтыя звяры сустракаюцца толькі ў цёплых краінах!—здзівіўся Пенкроф.

— У Амерыцы,—сказаў Герберт,—яны вядуцца на прасторы ад Мексікі да пампасаў Буэнос-Айрэса. А з той прычыны, што востраў Лінкольна знаходзіцца прыкладна пад адной шыратой з правінцыямі Ла-Плата, то няма нічога дзіўнага, што тут ёсць тыгры.

— Добра, будзем пільнымі!—заявіў Пенкроф.

Неўзабаве пацяплела, і снег пачаў раставаць. Дажджы паскорылі таянне, і хутка зямля зусім агалілася. Не зважаючы на дрэннае надвор'е, каланісты аднавілі запасы міндаля, каранёў, драцэны, каранеплодаў, кляновага соку, трусоў, агуці і кенгуру. Для гэтага ім давялося некалькі разоў схадзіць у лес, дзе ўраган пакінуў вялікія сляды: шмат дрэў было навалена на зямлю і вывернута з карэннем.

Наб і Пенкроф прабраліся нават да пакладаў каменнага вугалю і прывезлі яго некалькі каламажак. Па дарозе яны убачылі, што труба ганчарнай печы парадкам была пашкоджана ўраганам і ўкарацілася самае меншае на пяць-шэсць футаў.

Адначасова з папаўненнем запасаў вугалю, быў папоўнены і запас дроў: баючыся, што вернуцца халады, каланісты сплавілі некалькі плытоў галля ўніз па рэчцы Падзякі, якая зрабілася суднаходнай.

Наведаўшы Камін, каланісты толькі ўзрадваліся, што так своечасова перабраліся ў іншае месца. Мора пакінула тут сляды свайго буянства. Велізарныя валы, перакаціўшыся цераз астравок Выратавання, услалі калідоры Каміна тоўстым пластом вадарасляў.

У той час калі Наб, Герберт і Пенкроф хадзілі на палянанне або запасалі паліва, Гедэон Спілет і Сайрус Сміт пачалі парадкаваць у Каміне. Ачысціўшы калідоры ад пяску і вадарасляў, яны ўбачылі, што кузня і печы амаль непашкоджаны пад пластом пяску, які засыпаў іх пры першым-жа націску вады.

Хутка каланісты пераканаліся, што зрабілі разумна, назапасіўшы паліва. У паўночным паўшар'і ў лютым часта бываюць жорсткія марозы. Тое-ж самае магло быць на востраве Лінкольна ў жніўні, бо ў паўднёвым паўшар'і месяц гэты адпавядае лютаму.

Сапраўды, тэмпература нечакана рэзка ўпала, вецер пераскочыў цераз некалькі румбаў на паўднёвы ўсход, і зноў выпаў снег.

Мароз быў яшчэ больш адчувальны, бо ўвесь час дзьмуў халодны вецер

Каланісты зноў былі вымушаны сядзець у Гранітным палацы, забарыкадыраваўшы ўсе вокны і дзверы, пакінуўшы толькі шчыліны для прыцёку свежага паветра. Натуральна, што скарыстанне свечак вельмі павялічылася. Каб іх хапіла да надыходу добрага надвор'я, каланісты часта сядзелі толькі пры агні ад печы.

Некалькі разоў сёй-той з каланістаў спрабаваў спусціцца да берагу акіяна па абледзянелых пераўкладзінах лесніцы, але заўсёды холад прымушаў адмовіцца ад гэтай спробы, і смяльчак паспешна варочаўся да агача абагрэць замёрзлыя пальцы.

Для таго каб хоць чым-небудзь запоўніць нудны доўгі час, Сайрус Сміт прапанаваў зрабіць рафініраванне кляновага соку, які яны дагэтуль ужывалі ў звычайным выглядзе

замест цукру, карыстаючыся яго ўласцівасцямі гусцець ад доўгага стаяння на адкрытым паветры.

Слова «рафініраванне» не павінна выклікаць у чытача ўяўлення аб складаным абсталяванні цукраварных заводаў. Для таго каб цукровы сіроп выкрысталізаваўся, трэба прарабіць з ім вельмі лёгкую і нескладаную аперацыю: выпарыць сіроп на слабым агні.

Як толькі падымалася пена і сіроп пачынаў гусцець, Наб пачынаў размешваць яго палкай, каб выпарэнне паскорылася і варыва не прыгарэла.

Пасля некалькіх гадзін гатавання—аперацыі, якая была да спадобы ў гэтыя халодныя дні ўсім каланістам,—сіроп згусцеў. Тады яго вылілі ў гліняныя формы, якія раней пракалілі на агні ў печы, і пачакалі, пакуль ён астыў. На другі дзень з форм вынялі цукар, крыху цемнаваты, але празрысты і добры на смак.

Халады былі да паловы верасня. Для жыхароў Гранітнага палаца іх добраахвотнае зняволенне пачынала здавацца вельмі стомным. Амаль штодня яны рабілі вылазкі, праўда, на вельмі кароткі час. Астатні час працавалі над абсталяваннем сваёй кватэры. У часе работы гутарылі.

Сайрус Сміт расказваў сваім таварышам аб практычным скарыстанні розных навук. У каланістаў не было кніг, але інжынер сам быў кнігай, якая заўсёды раскрывалася на патрэбнай старонцы; міналі дні, і каланісты па-ранейшаму бадзёра пазіралі ў будучыню.

Але, надыходзіў час, калі зняволенне каланістаў павінна было скончыцца. Усе нецярпліва чакалі калі не добрага надвор'я, то хоць-бы канца марозаў. Калі-б толькі яны былі цяплей апрануты! Якія-б экскурсіі яны рабілі! Але Сайрус Сміт нікому не дазваляў рызыкаваць здароўем.

«Нам патрэбны ўсе рабочыя рукі», казаў ён, і каланісты без пярэчанняў слухаліся.

Апрача Пенкрофа самым нецярплівым з нявольнікаў быў Топ. Аддany сабака сумаваў у Гранітным палацы і, перабягаючы з пакоя ў пакой, усім сваім выглядам паказваў на сваё нездаваленне зняволеннем.

Сайрус Сміт часта заўважаў, што набліжаючыся да шчыліны глыбокага, які дасягаў акіяна, калодзежа, накрытага драўляным насцілам, Топ глуха бурчэў.

Часам ён нават драпаў гэты насціл, нібы спрабаваў падняць яго. У часе гэтага ён неяк трывожна і злосна брахаў.

Інжынер, сочачы за ім, упарта стараўся зразумець, чаму так хвалявалася разумная жывёла. Калодзеж дасягаў да

мора—гэта было бясспрэчна. Але ці не было у ім якіх-небудзь праходаў у іншыя пячоры? Ці не заходзіла ў гэтыя пячоры часамі якое-небудзь морскае страшыдла? Інжынер не ведаў што і надумаць, але не мог перамагчы трывогі. Прызвычаіўшыся даводзіць да канца ўсякую думку ў галіне навукі, ён не даваў сабе гэтага адхілення ў галіну загадкавага, амаль немагчымага. Але ўсё-ж у яго не было адказу на пытанне, чым вытлумачыць загадкавыя паводзіны Топа—разумнейшага з сабак, які ніколі не траціў часу на бяссэнсную брахню на месяц.

Бо не здарма-ж сабака па гадзінах напружваў слых і нюх, упарта штосьці вынюхваючы ў прорве, калі там нічога не было такога, што павінна было яго ўстрывожыць!..

Паводзіны Топа зацікавілі інжынера з такой сілай, што ён нават сароміўся прызнацца ў гэтым самому сабе. У кожным разе ён лічыў непатрэбным турбаваць астатніх каланістаў сваімі няўцямнымі прадчуваннямі і толькі Гедэону Спілету расказаў пра свае думкі, якія былі выкліканы незразумелымі паводзінамі Топа.

Нарэшце маразы аслабелі. Пачаліся дажджы, дажджы разам з снегам, шквалы, град.

Але гэтая непагода трымалася нядоўга. Лёд растаў, снег сышоў, берагі, лес, рэкі зрабіліся зноў праходнымі.

Прыход вясны ўзрушыў жыхароў Гранітнага палаца, і хутка яны пачалі аставацца ў ім толькі на час яды і сну.

У канцы верасня каланісты часта хадзілі на паляванне. Пенкроф не даваў спакою Сайрусу Сміту, патрабуючы, каб ён зрабіў нарэшце, абяцаныя стрэльбы. Ведаючы, што без спецыяльных інструментаў і калібраў нельга зрабіць хоць крыху прыгодную агнястрэльную зброю, інжынер увесь час маўчаў, а калі Пенкроф вельмі націскаў на яго—прасіў пачакаць яшчэ крыху або, казаў, што Герберт і Гедэон Спілет сталі добрымі стральцамі з лука. Сапраўды, ад іх стрэлаў не маглі выратавацца цяпер ні агуці, ні кенгуру, ні водасвінкі, ні галубы, ні дзікія качкі, ні іншыя пярнатыя, чацвераногія стварэнні, якія поўзаюць, лятаюць ці бегаюць.

Але ўпарты марак не слухаў яго довадаў і казаў інжынеру, што будзе чапіцца да яго да таго часу, пакуль ён не выканае яго просьбы. Гедэон Спілет, між іншым, падтрымліваў Пенкрофа.

Але ў гэты час Сайруса Сміта цікавіла не столькі пытанне пра зброю, колькі клопаты пра адзенне. Вопратка каланістаў вытрымала гэтую зіму, але не магла захавацца да

будучай. Вельмі патрэбна было здабыць або скуры пушных звяроў, або воўну. Самае разумнае было завесці стада муфлонаў, бо іх ставала на востраве, і стрыгчы іх, калі патрэбна.

Загон для хатніх жывёл, птушнік—інакш кажучы некаторае падабенства на ферму,—вось што патрэбна было каланістам стварыць на працягу вясны і лета ў якім-небудзь кутку вострава.

Для гэтага неабходна было як мага хутчэй агледзець недаследаваныя да гэтага часу часткі вострава: густыя лясы на правым беразе ракі Падзякі—ад яе вусця да Зімняга паўвострава—і ўсё заходняе ўзбярэжжа.

Але гэтую экспедыцыю можна было зрабіць толькі пасля ўстойлівага паляпшэння надвор'я, гэта значыць трэба было адкласці яе сама менш на месяц.

Каланісты нецярпліва чакалі гэтага часу, тым больш што адна нечаканая падзея яшчэ больш узмацніла іх імкненне хутчэй добра азнаёміцца са сваімі ўладаннямі.

Справа была 24 кастрычніка. У гэты дзень Пенкроф пайшоў агледзець пасткі, дзе ён заўсёды пакідаў прынаду. У адной пастцы ён знайшоў тры жывёліны, якія павінны былі ўзрадаваць Наба: гэта былі самка пекары і двое яе парасят.

Пенкроф, вельмі ўзрадаваны, узваліў здабычу на свае плечы і рушыў у Гранітны палац, спяшаючыся пахваліцца перад таварышамі.

— Ура, містэр Сміт!—крыкнуў ён.—Сёння ў нас багаты абед! І вы, містэр Спілет, паласуеце!

— Я з ахвотаю паласуюся,—адказаў журналіст.—Толькі чым?

— Малочным парасём,—адказаў марак.

— Усяго толькі?—скрывіў губы Спілет.—А я ўжо думаў, што вы хочаце пачаставаць нас курапаткай з труфелямі.

— Як гэта!—абурыўся марак.—Вы грэбуеце малочным парасём?

— Не грэбую,—без усякага энтузіязма адказаў той,—і пры ўмове, што...

— Добра, добра, пане пісьменнік,—перарваў яго марак, які не любіў скептычных адносін да сваіх поспехаў.—Рана вы заганарыліся! Нябось, месяцаў сем таму назад, калі мы толькі трапілі на востраў, вы не былі такім пераборлівым.

— А вось у тым і справа,—спакойна адказаў журналіст,—што чалавек ніколі не здавальняецца тым, што мае...

— Спадзяюся, што Наб праявіць сёння свае здольнасці. Зірніце, гэтым двум пекарам не больш як па тры месяцы.

Яны мяккія як масла. Хадзі сюды, Наб! Я сам буду гатаваць смажаніну.

І разам з Набам марак накіраваўся гаспадарыць на кухню.

Каланісты не перашкаджалі яму камандаваць. Наб і ён згатавалі сапраўды багаты абед: смажаніна з пекары, кенгуравы суп, венджаная шынка, міндаль на дэсерт, піва з драцэны і чай Освего. Але найбольшай аздобай піру, бясспрэчна былі смажаныя маладыя пекары.

У пяць гадзін папаўдні ўсё ўжо было падрыхтавана на абед у сталовай Гранітнага палаца.

Суп з кенгуру ўсе палічылі вельмі смачным.

Пасля супа падалі пекары.

Пенкроф сам захацеў разрэзаць іх і накідаў велізарныя порцыі на талеркі сваіх сяброў.

Малочныя парасяты сапраўды былі надзвычай смачнымі, і Пенкроф еў ні на кога не пазіраючы, але раптам ён моцна закрычаў і вылаяўся.

— Што здарылася?—запытаў Сайрус Сміт.

— Здарылася... тое... што я зламаў зуб,—адказаў марак.

— Вось як! Значыць, у вашых парасятах ёсць каменьчыкі?—пажартаваў Гедэон Спілет.

— Відавочна,—сказаў Пенкроф, дастаючы з рота цвёрдую рэч, аб якую ён зламаў зуб.

Гэта быў не камень. Гэта была шраціна.

КАНЕЦ ПЕРШАЙ ЧАСТКІ.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ПАКІНУТЫ

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

*Пра шраціну.—Пабудова пірогі.—Палясанне.—На вяршыні Каўры.—Чалавечых слядоў няма.—Рыбная лоўля.—Перавернутая чарапаха.—Чарапаха знікла.—Тлумачэнне Сайруса Сміта.*

Мінула роўна сем месяцаў—дзень у дзень—ад таго моманту, калі каланісты былі выкінуты на востраў Лінкольна.

Самыя ўважлівыя пошукі за ўвесь гэты час не далі ніякіх падстаў думаць, што востраў заселены.

Ні адзін слуп дыму не выяўляў агню, раскладзенага рукою чалавека. Ніякіх слядоў чалавечай працы, нічога таго, што сведчыла-б пра тое, што тут—цяпер або калі-небудзь раней—жыў чалавек.

Востраў здаваўся незаселеным не толькі цяпер, але быў такім і ва ўсе часы...

І вось усё гэтае лагічнае меркаванне разваліліся, ператворана на пыл адною адзінай шрацінаю, якую знайшлі ў целе ціхага звярка!

Бо гэтая шраціна была выкінута агнястрэльнай зброяй і ніхто іншы, апрача чалавека, не мог валодаць гэтай зброяй! Калі Пенкроф паклаў шраціну на стол, усе каланісты надзвычай здзіўлена зірнулі на яе.

Усе вынікі гэтага здарэння вельмі вялікія, не зважаючы на нязначнасць прычыны, адразу ўсталі перад імі. Здаецца, што калі-б з'явілася ў сталовай Гранітнага палаца здань,— яны здзівіліся-б не больш.

Сайрус Сміт узяў шраціну, паднёс яе бліжэй да вачэй, абмацаў, пакачаў на далоні, яшчэ раз паднёс да вачэй і потым сказаў:

— Ці можаце вы, Пенкроф, цвёрда запэўніць, што пекары, які паранены гэтай шрацінаю, не больш трох месяцаў ад нараджэння?

— Так, містэр Сміт. Калі я знайшоў яго ў яме, ён ссаў сваю матку.

— Вельмі добра,—сказаў інжынер,—гэта неабвержна даводзіць, што не больш як тры месяцы таму назад на востраве Лінкольна стрэлілі са стрэльбы!

— І шраціна ад гэтага стрэлу параніла, але не на смерць, малочнае парасё,—дадаў Гедэон Спілет.

— Правільна,—згадзіўся інжынер.—Якія-ж вывады мы павінны зрабіць з гэтага факта? Вядома якія: або на востраве жылі яшчэ да нашага прыбыцця сюды, або на ім з'явіліся людзі не раней як тры месяцы таму назад. Невядома толькі, добраахвотна яны пасяліліся на востраве або таксама, як і мы, зрабіліся вымушанымі яго жыхарамі, з прычыны крушэння? На гэтае пытанне мы не можам зараз атрымаць адказу. Таксама мы пакуль што не ведаем, еўрапейцы гэта або малайцы, ворагі ці сябры, знаходзяцца яны і цяпер на востраве ці пакінулі ўжо яго. Але ўсе гэтыя пытанні так непасрэдна цікавяць нас, што мы не маем права пакінуць іх нявысветленымі.

— Не, сто разоў не! Тысячу разоў не!—крыкнуў марак, устаючы з-за стала.—На востраве Лінкольна не можа быць іншых людзей, апрача нас! Востраў малы, і, калі-б ён быў заселены, мы-б ужо тысячу разоў наткнуліся на яго жыхароў.

— Сапраўды, было-б дзіўна, каб гэта было не так,—дадаў Герберт.

— Але было-б у тысячу разоў больш дзіўна,—заўважыў журналіст,—калі-б гэтае парасё нарадзілася са шрацінаю ў целе!

— А можа быць,—сур'ёзна сказаў Наб,—у Пенкрофа ў зубе...

— Яшчэ што выдумай, Наб!—усклікнуў марак.—Значыць, я, не заўважаючы, цягаў у роце на працягу сямі месяцаў шраціну? Так, ці што? Але дзе-ж, чорт вазьмі, яна магла схавацца?—запытаў ён шырака разяўляючы рот, каб усе ўбачылі цудоўныя трыццаць два зубы.—Глядзі, Наб, глядзі ўважліва! І калі ты знойдзеш у мяне хоць адно дупло, я дазваляю табе вырваць цэлую дзюжыну зубоў!

— Гіпотэзу Наба давядзецца адхіліць,—сказаў Сайрус Сміт, мімаволі ўсміхаючыся, не зважаючы на сур'ёзнасць моманту.—Безумоўна, што не раней як тры месяцы таму назад, тут грымнуў стрэл. Але я перакананы, што людзі, якія высадзіліся на гэты бераг, з'явіліся зусім нядаўна або прабылі на востраве вельмі нядоўга. Бо інакш, калі мы аглядалі востраў з вяршыні гары Франкліна мы-б убачылі насель-

нікаў вострава або яны заўважылі-б нас. Значыць, найбольш пэўна тое, што на востраў некалькі часу таму назад трапілі пацярпеўшыя крушэнне. Гэтае меркаванне трэба як мага хутчэй праверыць.

— Я лічу, што тут патрэбна вялікая асцярожнасць,— заўважыў журналіст.

— Згодзен з вамі, — сказаў інжынер. — На няшчасце можна апасацца, што на востраў трапілі малайскія піраты.

— Як вы думаеце, містэр Сміт, ці не лепш было-б, перш чым рушыць на пошукі, пабудаваць пірогу?—запытаў Пенкроф.—Тады-б мы змаглі падняцца ўверх па плыні ракі і аб'ехаць вакол усё ўзбярэжжа.

— Мне падабаецца ваша думка, Пенкроф,—сказаў Сайрус Сміт.—Але мы не можам столькі чакаць: пірогу трэба рабіць не менш месяца.

— Столькі неабходна, каб пабудаваць сапраўдную шлюпку. Але нам зараз такая не патрэбна. Я абязуюся за пяць дзён пабудаваць пірогу дастаткова моцную, каб плаваць па рэчцы Падзякі.

— За пяць дзён пабудаваць лодку?—усклікнуў недаверліва Наб.

— Так, Наб, толькі індзейскую лодку.

— Драўляную?—усё яшчэ сумняваючыся, пытаўся Наб.

— Драўляную,—пацвердзіў Пенкроф.—Больш правільна, з кары. Я запэўняю, містэр Сміт, што за пяць дзён лодка будзе гатова.

— Пяць дзён я згодзен пачакаць,—сказаў інжынер.

— Але ў гэтыя дні нам давядзецца быць пільнымі,— заўважыў Герберт.

— Безумоўна!—згадзіўся Сайрус Сміт.—Сябры мае, вельмі прашу вас ад сёнешняга дня хадзіць на паляванне толькі ў бліжэйшых ваколіцах Гранітнага палаца.

Абед закончыўся менш весела, чым спадзяваўся Пенкроф. Востраў, як відаць, быў заселены і другімі людзьмі, апрача нашых каланістаў. Пасля таго, калі была знойдзена шраціна, сумнявацца ў гэтым было немагчыма.

Навіна гэтая не магла не выклікаць жвавага неспакою ў каланістаў.

Перад тым як заснуць Сайрус Сміт доўга гаварыў пра гэта з Гедэонам Спілетам. Яны пыталіся ў самых сябе, ці не мае сувязь гэтая шраціна з амаль нерастлумачальным выратаваннем інжынера і іншымі дзіўнымі выпадковасцямі, якія здзіўлялі іх ужо некалькі разоў. Абгаварыўшы усе довады «за» і «супроць» гэтага меркавання, Сайрус Сміт закончыў наступнымі словамі:

— Хочаце ведаць маю думку пра ўсё гэта, паважаны Спілет?

— Вядома, Сайрус!

— Калі ласка! Я пераконаны, што, як-бы ўважліва мы не аглядалі востраў, мы нічога не знойдзем.

На другі дзень раніцою Пенкроф узяўся за работу. Ён меркаваў будаваць не кілевую лодку, а самую простую пласкадонку, выгодную для плавання па мелкай вадзе.

Кавалкі кары, сшытыя адзін з адным, павінны былі скласці каркас лодкі, гэтакай лёгкай, што яе няцяжка можна будзе пераносіць на руках у тых месцах, дзе плаваць будзе немагчыма.

Пенкроф меркаваў змацаваць швы ў кары драўлянымі цвікамі і быў упэўнены, што лёгкая пірога не будзе працякаць.

Перш за ўсё патрэбна было адшукаць дрэвы з пругкай і моцнай карою. На шчасце, апошні ўраган паваліў некалькі ёлак-дуглас, кара якіх была зусім прыгодна для пабудовы лодкі. Трэба было толькі ададраць гэтую кару. З-за недасканаласці прылад, якія мелі каланісты, гэта было нялёгкай справай, але ўрэшце яны давялі яе да канца. Работу гэтую зрабіў Пенкроф пры дапамозе інжынера.

Тым часам і Гедэон Спілет з Гербертам не бяздзейнічалі. Яны зрабіліся настаўшчыкамі прадуктаў для ўсёй калоніі.

Гедэон Спілет няспынна захапляўся спрытам, які набыў юнак у скарыстанні лука і пікі. Герберт не аднойчы паказваў вялікую мужнасць, якая спалучалася ў яго з вялікай спакойнасцю.

Паляўнічыя, слухаючыся Сайруса Сміта, не аддаляліся больш як на дзве мілі ад Гранітнага палаца. Але ўжо бліжэйшыя да ўскрайку лесу участкі давалі дастатковую здабычу: агуці, водасвінак, кенгуру, пекары і г. д. Праўда, пасткі з надыходам цёплага надвор'я амаль увесь час стаялі пустыя, але затое сілкі на трусовай палянцы штодня рэгулярна давалі сваю даніну і адной гэтай даніны хапіла-б на пракармленне ўсёй калоніі.

Часта ў часе палявання Герберт гутарыў з Гедэонам Спілетам пра гэтую злашчасную шрацінку, якая парушыла іх спакой.

Аднойчы—гэта было 26 кастрычніка—юнак сказаў журналісту:

— Ці не здзіўляе вас, містэр Спілет, што пацярпеўшыя крушэнне да гэтага часу не з'яўляліся ў аколіцах Гранітнага палаца?

— Гэта-б было дзіўна, каб яны ўсё яшчэ былі тут. Але гэта мяне зусім не здзіўляе, калі яны ўжо пакінулі востраў.

— Значыць, вы думаеце, што яны паехалі ўжо адсюль?

— Я лічу гэта больш чым верагодным, мой хлопчык. Бачыш, каб яны аставаліся тут да гэтага часу, безумоўна чым-небудзь яны выкрылі-б сваю прысутнасць!

— Але калі яны змаглі паехаць з вострава, значыць, гэта не былі пацярпеўшыя крушэнне?

— Не, Герберт. Магчыма, што яны, так сказаць, часова пацярпелі крушэнне—вецер мог закінуць іх на бераг, не зламаўшы іх судна, і, як толькі вецер сціх, яны пакінулі востраў.

— А ці заўважылі вы, што містэр Сміт не так хоча, як баіцца, з'яўлення на востраве іншых жыхароў?

— Сапраўды,—згадзіўся журналіст.—Ён лічыць, што людзі гэтыя—малайскія піраты. А з імі лепш за ўсё менш сутыкацца.

— Магчыма, містэр Спілет, што мы напаткаем дзе-небудзь сляды іх высадкі на бераг і тады пра што-небудзь даведаемся?

— Можа быць, мой хлопчык. Пакінуты лагер, згаслы агонь могуць нам шмат што сказаць. Мы будзем шукаць гэтыя сляды ў часе чарговай разведкі.

Гутарка гэтая адбывалася ў частцы лесу, якая межавалася з ракою Падзякі і вызначалася выключнай прыгожасцю дрэў. Разам з іншымі там раслі, узняўшыся амаль на дзвесце футаў над паверхняй зямлі, хвойныя дрэвы; новазеландскія тубыльцы называюць іх «каўры».

— Ведаеце, містэр Спілет,—сказаў Герберт,—я ўзлезу на вяршыню каўры, адтуль можна будзе агледзець досыць вялікую плошчу.

— Добрая думка,—ухваліў журналіст.—Але ці зможаш ты ўзабрацца на вяршыню гэтага гіганта?

— Паспрабую,—сказаў Герберт.

Спрытны і рухавы юнак ускарабкаўся на першыя галіны па гладкім ствале і адтуль ужо лёгка ўзлез на самую вяршыню дрэва, якое як мачта ўзвышалася над вялізным зялёным абрусам лесу.

З гэтага назіральнага пункту відаць была ўся паўднёвая частка вострава, ад мыса Кіпцюра на паўднёвым усходзе да мыса Рэптылії на паўднёвым захадзе. На паўночным захадзе ўзвышалася гара Франкліна, якая засланяла добрую трэцюю частку гарызонта. Але затое ўся недаследаваная частка вострава, якая магла быць прытулкам для невядомых жыхароў вострава, разгарнулася перад Гербертам, як на далоні.

Хлопчык вельмі напружана прыглядаўся да яе.

Акіян быў зусім пустэльны. Бераг яго быў часткова ўкрыты дрэвамі. Магчыма, што які-небудзь карабль, асабліва калі ён страціў мачты, і аставаўся незаўважаным для назіральніка, але з другога боку, і слядоў прысутнасці карабля не было ніякіх.

У лясах Далёкага захада таксама нічога не было відаць. Лясы гэтыя ўяўлялі суцэльны гушчар, без адзінай палянкі, без адзінага прасвету.

Ніякіх прымет прабывання людзей на востраве не было відаць і у паветры: неба было празрыстае, і самы слабы дымок быў-бы відаць на ім выразна.

На момант Герберту здалося, што ён бачыць лёгкі дымок, які ўзнімаецца на захадзе. Але больш уважлівае назіранне паказала яму, што ён памыляецца. Не, не, там не было ніякага дыму!

Герберт спусціўся з дрэва, і паляўнічыя вярнуліся ў Гранітны палац.

Сайрус Сміт, выслухаўшы расказ юнака, задуменна паківаў галавою. Было відавочна, што патрэбна добра даследаваць востраў, каб вырашыць гэтую загадку.

Праз два дні 28 кастрычніка, адбылася яшчэ адна загадкавая падзея.

Бадзяючыся па беразе, мілі за дзве ад Гранітнага палаца, Герберт і Наб наткнуліся на нейкай шчаслівай выпадковасці на вялікую чарапаху, панцыр якой пераліваўся прыгожым зялёным колерам.

Герберт заўважыў гэту чарапаху, калі яна паўзла па каменнях, прабіраючыся да мора.

— Ка мне, Наб, жвава!—крыкнуў ён.

Наб падбег.

— Цудоўная чарапаха, але як нам яе злавіць?

— Гэта вельмі лёгка, Наб,—адказаў Герберт.—Мы перавернем чарапаху на спіну каб яна не магла ўцячы.

Чарапаха, адчуваючы небяспеку, схавалася пад панцыр. Не відаць было ўжо ні яе галавы, ні лап. Чарапаха была нерухомая, як камень.

Герберт і Наб, падсунуўшы палкі пад пуза чарапахі агульнымі сіламі не без цяжкасці перавярнулі яе на спіну.

Чарапаха гэтая, футы на тры ў даўжыню, павінна была важыць самае меншае чатырыста фунтаў.

— Цудоўна,—крыкнуў Наб.—Вось дык узрадуецца наш Пенкроф!

Сапраўды, Пенкроф мог быць вельмі рад, бо мяса гэтых чарапах з'яўляецца добрым ласункам.

— Што-ж нам рабіць з нашай здабычай?—запытаў Наб.—Не можам-жа мы данесці яе да Гранітнага палаца?

— Пакінем яе тут, яна нікуды не ўцячэ. Мы вернемся з каламажкай, каб забраць яе.

— Вырашана,—згадзіўся Наб.

Усё-ж Герберт, каб быць пэўным, абклаў чарапаху каменнем, не зважаючы на пратэсты Наба, які лічыў гэтую перасцярогу непатрэбнай.

Потым паляўнічыя рушылі ў Гранітны палац па аголеным адлівам беразе мора. Жадаючы зрабіць сюрпрыз Пенкрофу, Герберт ні слова не сказаў пра знойдзены ім выдатны ўзор паўзуна.

Праз дзве гадзіны Герберт і Наб, узяўшы з сабою каламажку, ужо набліжаліся да месца, дзе яны пакінулі чарапаху. «Выдатны ўзор паўзуноў» знік без следу.

Наб і Герберт здзіўлена зірнулі адзін на аднаго. Потым яны агледзеліся наўкола. Можа, гэта не тое месца, дзе яны пакінулі чарапаху? Але каменне, якімі Герберт абклаў чарапаху, ляжала тут-жа. Памылкі не магло быць.

— Вось як!—сказаў Наб.—Значыць, чарапахі ўсё-ж умеюць пераварачвацца?

— Відавочна,—адказаў Герберт, расчараванa пазіраючы на раскіданыя наўкола каменні.

— Пенкроф будзе вельмі засмучаны!

— Нават Сайрус Сміт і той не мог-бы вытлумачыць гэтае таямнічае знікненне,—сказаў Герберт.

— А мы нічога яму не раскажам,—прапанаваў Наб, які наогул не быў супроць таго, каб захаваць гэта няўдалае здарэнне.

— Не, Наб, патрэбна ўсё расказаць,—адказаў Герберт.

І абодва павярнулі назад, цягнучы за сабою каламажку, якая была цяпер толькі непатрэбным цяжарам.

Інжынер і марак рабілі сваю работу. Герберт расказаў ім пра загадкавае здарэнне з чарапахай.

— Эх, вы, няўцямныя!—крыкнуў прыкра марак.—Вы дазволілі ўцячы самае меншае пяцідзесяці найлепшым супам!

— Але мы, Пенкроф, не вінаваты, што чарапаха ўцякла, я табе кажу, што мы перавярнулі яе,—апраўдваўся Наб.

— Значыць, вы дрэнна яе перавярнулі!—запярэчыў упарты марак.

— Мы не толькі перавярнулі яе!—крыкнуў Герберт і расказаў, як ён абклаў чарапаху каменнямі.

— Тады гэта нейкі цуд,—прабурчэў Пенкроф.

— Я быў упэўнены, містэр Сміт,—сказаў Герберт,—што

калі чарапаху пакласці на спіну, яна не здолее сама перавярнуцца на жывот, асабліва калі гэта вялікая чарапаха.

— Гэта зусім правільна, дружок,—адказаў Сайрус Сміт.

— Але як-жа гэта здарылася?

— На якой адлегласці ад мора вы пакінулі гэту чарапаху?—запытаў інжынер, мяркуючы пра гэты дзіўны выпадак.

— Самае меншае за пятнаццаць футаў.

— Гэта было ў часе прыліву?

— Так, містэр Сайрус.

— Тады ўсё зразумела,—сказаў інжынер.—Тое, чаго чарапаха не здолела зрабіць на сухазем'і, яна лёгка зрабіла ў вадзе. Калі прыліў пачаў залівацъ яе, яна перавярнулася і зусім спакойна паплыла ў мора.

— Ах, якія-ж мы разявакі!—крыкнуў Наб.

— Пра гэта я ўжо меў гонар вам далажыць,—насмешліва падхапіў марак.

Сайрус Сміт даў зусім верагоднае тлумачэнне гэтай падзеі. Але ці быў ён сам упэўнены ў правільнасці сваіх тлумачэнняў? Бадай ці так.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

*Першае выпрабаванне пірогі.—Знаходка.—Буксір.—Мыс Знаходкі.—Што было ў скрыні: снасць, пасуда, зброя, інструменты, адзенне, кнігі.—Чаго не ставала Пенкрофу.*

29 кастрычніка лодка з кары, нарэшце, была гатова. Пенкроф стрымаў сваё слова і за пяць дзён змайстраваў нешта падобнае да пірогі, каркас якой быў зроблены з гнуткіх прутоў.

Адна перакладзіна ззаду, другая пасярэдзіне, каб умацаваць барты, трэцяя спераду, уключыны для двух вёслаў, нарэшце, кармовае вясло замест руля—такая вось была гэтая лодка на дванаццаць футаў у даўжыню і вагою не больш двухсот фунтаў.

Спусціць гэта «судна» на ваду было надзвычай проста. Лёгкую пірогу прынеслі на бераг перад самым Гранітным палацам, і першая-ж хваля прыліву падхапіла яе. У гэты момант Пенкроф ускочыў у пірогу і, кіруючы адным кармовым вяслом, пачаў выпрабоўваць судно. Ён пераканаўся, што лодка вельмі добра трымалася на вадзе, была рухавай і добра слухалася руля.

— Ура!—закрычаў марак, які ніколі не прамінаў моманту пахваліцца сваім поспехам.—На гэтай лодцы можна аб'ехаць вакол...

— Усяго свету?—запытаў Гедэон Спілет.

— Не, вакол вострава! Накладзем каменне замест баласта, зробім мачту наперадзе, парус, і мы можам рушыць куды хочаце! Містэр Сміт, і вы, містэр Спілет, і ты, Герберт, і ты, Наб, хіба-ж вы не хочаце выпрабаваць наша новае судна? Чорт вазьмі, трэба-ж даведацца, ці зможа яно вытрымаць усіх нас?

Сапраўды, гэта не шкодзіла высветліць. Пенкроф адным узмахам вясла накіраваў пірогу да берагу, спрытна лавіруючы ў вузкім праходзе між скалаў. Было вырашана выпрабаваць у гэты дзень пірогу, прайшоўшы ўздоўж берагу да таго месца, дзе канчаюцца паўднёвыя скалы.

У той момант, калі ўжо адплывалі, Наб раптам крыкнуў:

— Але твая лодка не супроць таго, каб выпіць, Пенкроф!

— Не бяда, Наб,—адказаў марак.—Патрэбна-ж дрэву разбухнуць. Двух дзён для гэтага хопіць, і на трэці дзень у нашай пірозе будзе столькі-ж вады, колькі яе бывае ў страўніку заядлага п'яніцы. Садзіцеся хутчэй!

Усе занялі свае месцы, і Пенкроф адпіхнуў лодку ад берагу.

Надвор'е было добрае. Пірога стралою імчалася па спакойнай, як у возеры, морскай вадзе.

Наб і Герберт граблі кожны адным вяслом. Пенкроф кіраваў.

Марак перасек канал і накіраваў пірогу да паўднёвай аканечнасці астраўка. З поўдня дзьмуў лёгкі брыз. Але ні ў канале, ні ў адкрытым моры зусім не было зыбі.

Каланісты адплылі за поўмілі ад берагу, каб палюбавацца ўсёй прыгожасцю гары Франкліна.

Пенкроф накіраваў пірогу да вусця ракі. Пірога рушыла ўздоўж закругленага мыса, што засланяў балотную раўніну, якую каланісты назвалі балотам Казаркі. Гэтае месца знаходзілася прыблізна за тры мілі ад ракі Падзякі. Каланісты вырашылі дабрацца да аканечнасці мыса, каб акінуць позіркам узбярэжжа.

Пірога ішла па ўсіх звілінах берагу на адлегласці двух кабельтавых ад яго, агінаючы рыфы, якіх ужо схаваў пад вадою прыліў. Гранітная сцяна, паступова зніжаючыся, цягнулася ад вусця да крутога выгіну ракі. Замест манаялітнай гладкай сцяны, якая ўтварала аснаванне пласкагор'я Далёкага віду, гэта было хаатычнае награмаджэнне скал, панурых, суровых і абыяк раскіданых. Здавалася, што ўсе яны былі высыпаны ў гэтым месцы з аднаго вялізнага возу. Ніякай расліннасці не было на вострым грэбяні гэтай сцяны, які

цягнуўся на дзве мілі ўздоўж узлесся. Калі пазіраць зверху, дык гэтае награмаджэнне голых каменняў нагадвала-б руку велікана, высунутую з зялёнага рукава адзення.

Пад націскам пары вёслаў, пірога лёгка плыла ўздоўж берагу. Гедэон Спілет, трымаючы запісную кніжку ў адной руцэ, а аловак—у другой, шырокімі штрыхамі зарысоўваў абрысы берагу. Наб, Пенкроф і Герберт размаўлялі, аглядаючы гэтую яшчэ недаследаваную частку сваіх уладанняў.

Па меры таго як пірога рушыла на поўдзень, абодва мысы Скіўіцы нібы ссоўваліся з месца і яшчэ шчыльней загароджвалі ўваход у бухту Саюза.

Сайрус Сміт маўчаў праз усю дарогу, напружана ўглядаючыся ў бераг.

Праз тры чвэрткі гадзіны пірога дабралася да аканечнасці мыса. Пенкроф ужо збіраўся абыходзіць яго, як раптам Герберт ускочыў на ногі і, паказваючы на нейкую чорную кропку на пяску, запытаў:

— Што-б гэта магло быць?

Усе позіркі накіраваліся туды, куды ён паказваў.

— Сапраўды,—сказаў журналіст,—там штосьці ляжыць. Быццам нейкі абломак, напоўзасыпаны пяском.

— Не,—усклікнуў Пенкроф,—гэта не абломак! Я выразна бачу бочкі! Можа яны поўныя!

— Да берагу, Пенкроф!—скамандаваў Сайрус Сміт.

Пасля некалькіх узмахаў вёслаў пірога прыпынілася ў маленькай бухце, і пасажыры выскачылі на зямлю.

Пенкроф не памыліўся. На пяску ляжалі дзве бочкі, моцна прывязаныя да прадаўгаватай вялікай скрыні.

— Значыць, недзе каля вострава адбылося крушэнне карабля?—запытаў Герберт.

— Відаць, так,—сказаў Гедэон Спілет.

— Але што ў гэтай скрыні?—крыкнуў Пенкроф у зусім зразумелай нецярплівасці.—Ах, чорт пабяры, яна забітая, няма чым яе адкрыць!.. Але калі стукнуць каменем...

Гаворачы гэта, марак падняў з пяску важкі камень і хацеў разбіць ім скрыню, але інжынер спыніў яго.

— Пенкроф, ці не можаце вы хоць на момант сцішыць сваю нецярплівасць?

— Але-ж, містэр Сміт, думайце, што, можа, у гэтай скрыні захавана ўсё тое, чаго нам нехапае!

— Згодзен, згодзен, Пенкроф,—адказаў інжынер,—але і вы паслухайцеся мяне: не ламіце скрыні, яна можа нам спатрэбіцца! Перавязем яе ў Гранітны палац—там лёгка можна будзе адкрыць яе, не ламаючы. Скрыня вельмі

добра прыстасавана для плавання і калі яна дапльыла сюды то зможа пратрымацца на вадзе і да вусця ракі.

— Вы і цяпер праўду кажаце, містэр Сміт, а я і цяпер знаваты,—прызнаўся марак.—Але каб вы ведалі, як часам цяжка бывае стрымацца!

Інжынер даў разумную параду. Пірога, сапраўды, не змагла-б змясціць усіх рэчаў, якія знаходзіліся ў скрыні, і прасцей было адразу забуксіраваць яе бліжэй да Гранітнага палаца, чым перавозіць некалькі разоў рэчы.

Але адкуль узялася гэтая скрыня? Гэта было важнае пытанне.

Сайрус Сміт і яго таварышы абышлі ўсё ўзбярэжжа на працягу некалькі сот крокаў, уважліва аглядаючы пясок, але нідзе не было відаць іншых слядоў крушэння.

Герберт і Наб узабраліся на скалу, і адтуль, з вышыні, агледзелі таксама і мора. Але ўсюды было пуста —ні паруса, ні корпуса разбітага бурай судна не было відаць.

І тым не менш крушэнне адбылося—гэта было бясспрэчна. Магчыма нават, што гісторыя з шрацінаю была неяк звязана з гэтым крушэннем. Можа быць, што прышлыя прысталі да якога-небудзь іншага пункту ўзбярэжжа? Можа, яны і да гэтага часу знаходзяцца там?

У кожным разе каланісты былі ўпэўнены цяпер, што пацярпеўшыя крушэнне не былі малайскімі піратамі —выкінутая хвалямі скрыня магла быць толькі еўрапейскага або амерыканскага паходжання.

Усе вараціліся да гэтай скрыні, якая была на пяць футаў у даўжыню і тры ў шырыню. Яна была збіта з дубовых, добра прыпушчаных дошак і поверх абцягнута тоўстай скурай, прыбітай меднымі цвікамі. Дзве вялікія бочкі, герметычна закрытыя, але, мяркуючы па гуку, пустыя, былі прывязаны да скрыні вузламі, па якіх Пенкроф адразу пазнаў «морскія вузлы». Усё гэта разам добра захавалася, што можна было вытлумачыць, напэўна, тым, што плынь выкінула скрыню на пясок, не зачапіўшы яе за скалы.

Пасля ўважлівага агляду каланісты пераканаліся, што скрыня нядоўга прабыла ў вадзе і нядаўна была выкінута на бераг. Вада нібы не магла пранікнуць у сярэдзіну; значыць, усё, што мелася ў скрыні павінна было-б захавацца.

Як відаць, скрыня была скінута за борт экіпажам судна, якое цярпела крушэнне, з тым разлікам, што так або інача: дабраўшыся да берагу, яны знойдуць скрыню там. Для гэтага каманда судна і прывязала да яе пустыя бочкі.

— Забуксіруем скрыню ў Гранітны палац,—сказаў інжынер,—і ўжо там адкрыем яе і перапішам усё, што ў ёй

ёсць. Калі мы знойдзем на востраве каго-небудзь, хто выратаваўся ў часе крушэння, мы аддадзім сваю знаходку гаспадарам. Калі-ж мы нікога не знойдзем...

— Дык пакінем яе для сябе!—узрушана ўсклікнуў Пенкроф.—Ах, каб толькі вы ведалі, як мне хочацца даведацца, што там ёсць!

Першыя хвалі прыліву пачалі ўжо лізаць пясок каля скрыні. Каланісты адвязалі вяроўкі, якімі былі звязачы бочкі, і прымацавалі яе да кармы пірогі. Потым Пенкроф і Наб раскапалі вёсламі пясок, у якім загрузла скрыня, і неўзабаве пірога, цягнучы за сабою скрыню, пачала абыходзіць мыс, якому зараз-жа надалі назву «мыса Знаходкі».

Груз быў цяжкі, і бочкі ледзь падтрымлівалі яго на паверхні, таму марак увесь час непакоіўся, каб буксір не абарваўся і скрыня не патанула. На шчасце, яго трывога была дарэмнай, і праз паўтары гадзіны пасля адплыцця—патрэбна было столькі часу, каб прайсці мізэрную адлегласць у тры мілі,—пірога прычаліла да падножжа Гранітнага палаца.

Пірога і скрыня былі выцягнуты на пясок, і адліў, які неўзабаве пачаўся, пакінуў іх на сухім месцы.

Наб збегаў «дадому» па інструменты, і каланісты падрыхтаваліся адкрыць скрыню.

Пенкроф не захоўваў свайго вялікага ўзрушання.

Марак пачаў з таго, што адвязаў абедзве бочкі, яны добра захаваліся і, вядома, у далейшым маглі спатрэбіцца ў гаспадарцы. Потым ён узламаў замок абцугамі і падняў верх.

Пад ім аказалася другая абалонка,—цынкавая, якая, як відаць, у выпадку чаго павінна была захаваць рэчы ў скрыні ад вады.

— Ай,—гукнуў Пенкроф.—Няўжо ў скрыні кансервы?

— Спадзяюся, што не,—адказаў яму журналіст.

— О, калі-б там быў...—прашаптаў марак.

— Што іменна?—запытаў Наб, які пачуў словы марака.

— Нічога!..

Цынкавая абалонка была ўстаўлена на ўсю даўжыню скрыні і адагнута да краёў. Потым з скрыні па чарзе дасталі шмат самых match розн настайных рэчаў і расклалі іх на пяску. Калі даставалі кожную новую рэч Пенкроф кожны раз узрушальна крычаў «ура», Герберт пляскаў далонямі, а Наб скакаў, як дзікун.

У скрыні былі кнігі, убачыўшы якія Герберт, як не звар'яцеў ад радасці, і кухонная пасуда, якую Наб быў гатовы асыпаць пацалункамі.

Але і астатнія каланісты былі не менш шчаслівыя, бо ў скрыні знаходзіліся інструменты, адзенне, кнігі, зброя, і інш. Вось падрабязны спіс рэчаў скрынкі, якую занатаваў у запісной кніжцы Гедэон Спілет:

«Інструмент: тры нажы з рознымі жалязкамі, два тапары для дрывасекаў; два цяслярскія тапары; тры гэблікі; тры цёслы; шэсць долатаў; два напільнікі; тры малаткі; тры малыя свярдзёлкі; два вялікія свярдзёлкі; дзесяць мяшкоў цвікоў і шурупаў; тры пілы розных памераў; два карабкі іголак.

Зброя: дзве крамнёвыя стрэльбы; дзве пістаноўкі; два карабіны цэнтральнага бою; пяць нажоў; чатыры абардажныя шаблі; два бачонкі з порахам, кожны па дваццаць пяць фунтаў вагою; дванаццаць карабкоў з пістонамі; два мяшкі шроту; скрынка патронаў для карабіна.

Прылады: адзін секстант; адзін бінокль; адна падзорная труба; адзін компас; кішанёвы компас; адзін тэрмометр Фарэнгейта; адзін барометр анероід; адна каробка, у якой былі камера фотаапарата, аб'ектыў, пласцінкі, хімікаты і іншыя прылады для фатаграфавання.

Адзенне: дзве дзюжыны рубашак з нейкай асаблівай тканіны, якая з выгляду нагадвала ваўняную, але безумоўна расліннага паходжання; тры дзюжыны панчох таго-ж вырабу.

Пасуда: адзін жалезны кацялок; шэсць каструль медных, палуджаных; тры жалезныя скавароды, дзесяць прыбораў сталовых, алюмініевых; два чайнікі алюмініевыя; адна пераносная пячурка; шэсць сталовых нажоў.

Кнігі: адзін атлас геаграфічны; адзін слоўнік розных палінезійскіх дыялектаў; шэсць тамоў прыродазнаўчай энцыклапедыі, тры стопы чыстай паперы; два агульныя сшыткі з чыстымі старонкамі».

— Трэба прызнацца,—сказаў журналіст, закончыўшы складанне вопісу,—што гаспадар скрыні быў практычным чалавекам. Ён ні на што не забыўся: інструменты, прылады, зброя, адзенне, кнігі, пасуда! Можна падумаць, што ён, прадбачачы крушэнне, загадзя да яго падрыхтаваўся!

— Сапраўды, ні што не забыта...—задумённа прашаптаў Сайрус Сміт.

— Безумоўна, што судна, якое скінула гэтую скрыню, не было малайскім пірацкім караблём,—дадаў Герберт.

— Калі толькі,—сказаў Пенкроф,—гаспадар скрыні не трапіў у палон да гэтых піратаў...

— Гэта бязглуздае меркаванне,—запярэчыў журналіст.—Больш пэўна, што нейкае амерыканскае або еўрапей-

скае судна было пашкоджана бураю ў гэтых месцах, і яго пасажыры, каб забяспечыць сябе хоць самым неабходным на выпадак крушэння, склалі ўсё гэта ў скрыню і скінулі яе ў ваду.

— Ці згодны вы з гэтым, містэр Сміт?—запытаў Герберт.

— Так, дзіця маё,—адказаў інжынер.—Гэта зусім верагодна. Трэба думаць, што незадоўга да крушэння або ў часе яго пасажыры сабралі ў скрыню патрэбныя на першы час рэчы, каб потым знайсці іх на беразе.

— У тым ліку і фотаапарат?—насмешліва перабіў яго Пенкроф.

— Я і сам не магу ўцяміць навошта ім быў гэты апарат,—адказаў інжынер.—Вядома лепш-бы было, каб замест яго ў скрыню паклалі больш адзення або зброі.

— Хіба хоць на адной з гэтай масы рэчаў—вопратцы, прыладах, зброі, кнігах—няма ніякіх марак або кляйма, па якіх можна-б было даведацца пра іх паходжанне?—запытаў Гедэон Спілет.

Гэта была разумная думка. Каланісты ўважліва агледзелі кожную рэч, асабліва кнігі і прылады. Але ні зброя, ні інструменты, насуперак звычайнага, не мелі фабрычнай маркі. Але ўсе яны мелі добры выгляд і нібы імі яшчэ не карысталіся. Тое-ж самае загадкавае было і з пасудаю і прыладамі—усё было новае. Гэта сведчыла, што выбар іх для ўпакоўкі ў скрыню не быў выпадковым, а што яны выбіраліся метадычна і прадумана. Пра тое-ж сведчыла і цынкавая абалонка для перасцярогі ад вады: запаяць яе спехам было немагчыма.

Прыродазнаўчая энцыклапедыя і слоўнік палінезійскіх дыялектаў былі на англійскай мове, але ні год выдання, ні імя выдаўцы нідзе не былі адзначаны. Што-ж датычыць атласа, то гэта было багатае выданне, якое складалася з карт усіх частак свету, вычарчаных у меркатарскай праекцыі[1], з французскай наменклатурай назваў, але гаксама як і астатнія кнігі, без года выдання і прозвішча выдаўцы.

Такім чынам на ўсіх гэтых шматлікіх рэчах не было ні адной адзнакі месца іх вырабу, нічога такога, што-б магло хоць навесці на думку пра нацыянальнасць судна, якое нядаўна было ў гэтых месцах. Але якое-б сабе ні было паходжанне скрыні, яна ашчаслівіла каланістаў вострава Лін-

---

[1] *Меркатарская праекцыя* – спосаб ізабражэння зямнога шара на плоскасці, прапанаваны Герардам Меркатарам. Гэта праекцыя прынята галоўным чынам для морскіх карт.

кольна. Да гэтага часу яны сяк-так здавальнялі самыя неадкладныя патрэбы. Цяпер-жа яны набылі спосабы здабываць не толькі самае неабходнае, але ўсё, чаго яны толькі маглі захацець.

Трэба адзначыць, што адзін з каланістаў быў не зусім здаволены. Гэта быў Пенкроф. Здавалася, што ў скрыні нехапае нечага такога, што яму было вельмі патрэбна. Па меры таго як апаражнялася скрыня, яго воклічы «ура» рабіліся ўсё менш узрушальнымі.

Калі вопіс быў скончаны, Наб пачуў, як Пенкроф прамармытаў.

— Усё гэта добра, але для мяне нічога не знайшлося ў гэтай скрыні...

— А на што ты спадзяваўся, дружа?—запытаў Наб у марака.

— Поўфунта табаку,—сур'ёзна адказаў Пенкроф.— Тады-б шчасце маё было бязмежным...

Усе зарагаталі ад гэтых слоў марака.

Знаходка скрыні яшчэ больш вымагала неадкладнае і поўнае даследаванне вострава.

Каланісты вырашылі, што на другі дзень досвіткам яны рушаць у дарогу ўверх па плыні ракі Падзякі, у кірунку да заходняга берагу вострава. Калі пацярпеўшыя крушэнне знаходзіліся ў гэтай частцы ўзбярэжжа, яны павінны цярпець ад нястач, таму трэба было як мага хутчэй дапамагчы ім.

Да вечара ўсе здабытыя са скрыні рэчы былі перанесены ў Гранітны палац і акуратна пакладзены ў кладовых у вялікай зале.

Павячэраўшы каланісты рана паляглі спаць, каб досвіткам выйсці з дому.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

*Ад'езд.—Прыліў.—Рознастайныя расліны.— Якамара.—Выгляд лесу.— Гіганцкія эўкаліпты.—Чаму іх называюць „ліхаманкавымі" дрэвамі.— Зграі малпаў.—Вадапад.—Лагер.*

30 кастрычніка, перад тым як пачало світаць, былі закончаны ўсе падрыхтаванні да экспедыцыі, якая зрабілася неадкладнай у сувязі з падзеямі апошніх дзён. Сапраўды абставіны склаліся так, што каланісты лічылі сябе не пацярпеўшымі крушэнне, якім патрэбна дапамога, а старымі жыхарамі вострава, якія павінны дапамагаць людзям, якія трапілі ў бяду.

Яны вырашылі падняцца ўверх па плыні ракі Падзякі да таго месца, дакуль можна будзе плысці на лодцы, і толькі тады ісці пешкам. Такім чынам большая частка дарогі будзе пройдзена лёгка, і «багаж» экспедыцыі—зброя і запасы яды—будзе дастаўлены далёка на захад без асаблівай цяжкасці.

Каланістам давялося падумаць не толькі пра той багаж, які ім быў патрэбен для ажыццяўлення экспедыцыі, але і пра той, які магчыма, давядзецца цягнуць назад у Гранітны палац. Бо калі на ўзбярэжжы сапраўды адбылося крушэнне,—а ўсё паказвала на правільнасць гэтага меркавання,—дык на беразе павінны былі быць раскіданы шматлікія абломкі, карысныя і неабходныя для іх гаспадаркі.

Прадбачачы гэта, вядома, патрэбна-б было лепш узяць з сабою каламажку, чым кволую пірогу. Але пірога сама павінна была везці падарожнікаў, у той час калі нязграбную і цяжкую каламажку яны цягнулі-б самі.

Пенкроф з гэтай прычыны пашкадаваў, што ў скрыні не было пары дужых н'ю-джэрсейскіх коней, якія вельмі-б спатрэбіліся каланістам.

Запас яды, які пагрузіў Наб у пірогу, складаўся з вяндліны, некалькіх галонаў піва і кавалка рафінаванага цукру. Гэтага запасу павінна было хапіць на тры дні. Урэшце, у выпадку патрэбы яго можна было папоўніць у дарозе, а Наб не забыўся ўзяць з сабою пераносную пячурку.

Каланісты ўзялі з сабою два вялікія тапары, для таго каб працярэбліваць сабе дарогу ў гушчары лесу, бінокль і кішанёвы компас. Са зброі былі ўзяты дзве крамнёвыя стрэльбы, больш карысныя на востраве, чым пістонныя, бо крэмень у іх заўсёды можна было замяніць, у той час калі запас пістонаў быў вельмі абмежаваны. Апрача таго, яны захапілі з сабою адзін карабін і некалькі куль.

Давялося таксама ўзяць крыху пораху з запасу, які складаўся ўсяго з пяцідзесяці фунтаў. Але інжынер збіраўся зрабіць асобае выбуховае вешчаства, якое магло замяніць порах.

Апрача агнястрэльнай зброі былі ўзяты пяць нажоў у скураных ножнах.

Цяпер каланісты маглі лічыць сябе добра ўзброенымі і, зайшоўшы ў глыб гушчару маглі не баяцца дрэннага канца экспедыцыі.

Не варта і казаць, што Герберт, Наб і Пенкроф былі ў надзвычайным настроі; аднак, Сайрус патрабаваў, каб яны

далі абяцанне, што яны не зробяць без пільнай патрэбы ніводнага стрэлу.

У шэсць гадзін раніцы пірога была спушчана на ваду. Усе паселі ў яе, у тым ліку, вядома, і Топ, і пірога рушыла да вусця ракі Падзякі.

Прыліў пачаўся толькі поўгадзіны таму назад. Такім чынам наперадзе было яшчэ некалькі гадзін уздыму вады, якія патрэбна было скарыстаць, бо ў часе адліву грабсці супроць плыні ракі было-б цяжка. Поўны месяц—час асабліва моцных прыліваў, таму каланістам амаль што і не давялося грабсці вёсламі: прыліўная вада шпарка імчала лодку.

За некалькі хвілін лодка даехала да крутога выгіну ракі Падзякі, гэта значыць якраз да таго месца, дзе сем месяцаў таму назад Пенкроф змайстраваў першы плыт. За паваротам рака, шырэючы, цякла на паўднёвы захад у засені вечна зялёных хвойных дрэў.

Выгляд берагоў ракі быў надзвычайны. Сайрус Сміт і яго спадарожнікі няспынна захапляліся ад дзівосных эфектаў, якія стварае прырода.

Па меры пасоўвання ўверх па плыні выгляд раслінпасці змяняўся. На правым беразе ракі раслі рады надзвычайных вязаў, якіх так паважаюць будаўнікі за іх уласцівасць вытрымліваць руйнуючае дзеянне вады. За імі раслі належачыя да таго-ж сямейства дрэвы—каркасы, з арэхаў якіх здабываюць вельмі добрае масла. Яшчэ далей Герберт знайшоў некалькі дрэў, пругкія галіны якіх, вымачаныя ў вадзе, скарыстоўваюцца на моцныя канаты.

Часамі пірога прыпынялася і прыставала да берагу, Герберт, Гедэон Спілет, Пенкроф са стрэльбамі ў руках, з Топам, які бег наперад, вылазілі на бераг і аглядалі зараснікі. Не кажучы пра дзічыну, тут можна было напаткаць розныя карысныя расліны, якімі не варта грэбаваць.

Маладому натуралісту ўдалося знайсці дзікі шпінат і шматлікіх прадстаўнікоў сямейства крыжацветных, у прыватнасці дзікую капусту, якую можна «цывілізаваць» перасадкамі. Затым ён знайшоў крэс, рэдзьку, рэпу і, нарэшце, невысокую, у адзін метр, расліну з маленькімі разгалінаванымі сцябламі, укрытымі лёгкім пушком, з амаль карычневым насеннем.

— Ці ведаеш ты, што гэта за расліна?—запытаў Герберт марака.

— Табак?—усклікнуў Пенкроф, які бачыў любімую ім расліну толькі ў пачках з фабрычнай этыкеткай.

— Не, Пенкроф, гэта не табак, а гарчыца,—сказаў юнак.

— Гарчыца...—расчаравана ўздыхнуў марак.—Памятай, мой хлопчык, калі ты дзе-небудзь напаткаеш табак, не грэбуй ім!

— Знойдзецца калі-небудзь і табак,—суцешыў яго журналіст.

— Праўда?—гукнуў Пенкроф.—Ну, у той дзень я не здолею адказаць вам на пытанне, чаго не стае нашаму востраву!

Знойдзеныя рознастайныя расліны былі асцярожна выкапаны з зямлі і перанесены ў пірогу, дзе сядзеў Сайрус Сміт, паглыблены ў свае думкі

Журналіст, Герберт і марак некалькі разоў вылазілі то на правы, то на левы бераг ракі.

Паглядаючы на кішанёвы компас, інжынер зазначыў, што, пачынаючы ад выгіну каля вусця, рака Падзякі на працягу трох міль цякла проста з паўночнага ўсхода на паўднёвы захад. Ён не сумняваўся, што вышэй рака паверне на паўночны захад, да гары Франкліна, якая яе жывіла.

У часе чарговай высадкі на бераг Гедэону Спілету пашчасціла злавіць пару жывых птушак. Гэта былі пярнатыя з падоўжанай дзюбай і шыяй, кароткімі крыламі [illegible]-дочных адзнак хваста. Герберт пазнаў, што гэта цінам або скрытахвостыя.

Каланісты вырашылі, што гэтая пара будзе першымі жыхарамі ў птушніку калоніі.

Да гэтага часу стрэльбы маўчалі. Першы стрэл у лесе Далёкага захада быў выкліканы з'яўленнем прыгожай птушкі, якая была падобна да зімародка.

— Пазнаю яе!—усклікнуў Пенкроф і механічна апусціў курок.

— Што вы пазналі?—запытаў журналіст.

— Птушку, якая ўцякла ад нас у часе першай нашай экскурсіі!.. Яе імем мы назвалі лес...

— Гэта якамара!—крыкнуў Герберт.

Сапраўды, гэта была якамара, або жакамара, прыгожая птушка з жорсткім пер'ем, якое пераліваласся металічным бляскам. Некалькі шрацін скінулі яе на зямлю.

Топ занёс яе ў пірогу.

Каля дзесяці гадзін раніцы падарожнікі дабраліся да другога павароту ракі Падзякі, прыблізна праз пяць міль ад першай. Тут у засені густых дрэў яны спыніліся на поўгадзіны, каб паснедаць.

У гэтым месцы рака шырынёю ў шэсцьдзесят—семдзесят футаў і глыбінёю на пяць-шэсць футаў.

інжынер знайшоў некалькі прытокаў, але ні па адным з іх нельга было плысці на лодцы.

Лес быў навакол, наколькі бачыла вока. Нідзе—ні ў засені гушчару, ні на беразе ракі—не было ніякіх прымет прысутнасці чалавека. Даследчыкі не знайшлі ніводнага падазронага следу. Было відавочна, што тапор дрывасека не сек ніводнага з гэтых векавых дрэў, што нож паляўнічага ніколі не разразаў гэтых ліян, якія сплялі сцвалы суседніх дрэў, не пакідаючы праходу, што ніколі нага чалавека не ступала па гэтай густой траве. Калі пасажырам загінуўшага карабля і пашчасціла дабрацца да берагу, дык ясна, што шукаць іх трэба дзе-небудзь на ўзбярэжжы, а не тут, у гушчары першабытнага лесу.

Таму інжынер падганяў сваіх спадарожнікаў, каб хутчэй дайсці да заходняга берагу вострава, які быў, як ён разлічваў, за пяць міль адсюль. Каланісты зноў селі ў пірогу і паплылі, хоць цяпер рака адхілялася ад узбярэжжа ў бок гары Франкліна. Тым не менш было вырашана рухацца па яе плыні да таго часу, пакуль пад дном пірогі будзе хоць поўфута вады. Гэта эканоміла сілы і час удзельнікаў экспедыцыі, бо ў лесе давялося-б прасякаць дарогу на кожным кроку.

Неўзабаве прыліў перастаў несці лодку—ці то ўжо настаў час адліву, ці то на такой адлегласці ад акіяна, ён траціў сваю сілу. Так ці іначай, але каланістам давялося ўзяцца за вёслы. Наб і Герберт селі на лаўку і пачалі грабсці. Пенкроф узброіўся кармовым вяслом, і плаванне прадаўжалася.

Здавалася, што на захадзе лес радзеў. Дрэвы ўжо раслі не так густа. З'явіліся нават асобныя групы іх, аддзеленыя прасветамі. Але іменна з прычыны збытку паветра і святла яны разрасталіся яшчэ больш пышна, яшчэ больш велічна.

Якая цудоўная расліннасць! Батанік, толькі зірнуўшы на яе, мог-бы дакладна сказаць, пад якою шыратою знаходзіцца востраў Лінкольна.

— Эўкаліпты!—усклікнуў раптам Герберт.

Сапраўды, тут раслі гэтыя выдатныя дрэвы, прадстаўнікі субтрапічнай флоры, родзічы аўстралійскіх і новазеландскіх эўкаліптаў[1], якія знаходзіліся пад тою-ж шыратою, што і востраў Лінкольна. Некаторыя з гэтых дрэў узнімаліся ў вышыню на дзвесце футаў. Яны былі па дваццаць футаў у абхваце, і кара іх, бугрыстая ад нацёкаў пахучага клею, была

[1] Пад тою шыратою, дзе змешчан востраў Лінкольна, эўкаліпты не могуць расці: тут у Жуль Верна памылка. *Заўвага рэд.*

таўшчынёю на пяць пальцаў. Цяжка было нават уявіць больш велічнае і дзіўнае відовішча, чым гэтыя дрэвы з перпендыкулярным да зямлі лісцем, якое не засланяла сонечных праменняў.

Зямля вакол эўкаліптаў зарасла густою свежай травою, у якой скакалі цэлыя статі птушак з бліскучымі, як алмазы, крыллямі.

— Вось дык дрэвы!—усклікнуў Наб.—Ці прыгодны яны для чаго?

— Яшчэ што!—з пагардай адказаў Пенкроф.—Гэтыя веліканы-дрэвы, як і веліканы-людзі, прыгодны толькі для таго, каб іх за плату паказвалі на кірмашы.

— Памыляецеся, Пенкроф,—запярэчыў Гедэон Спілет:—гэтае дрэва ў апошні час скарыстоўваецца ўсё больш у сталярнай справе.

— А я скажу,—дадаў малады натураліст,—гэтыя эўкаліпты належаць да сямейства, якое налічвае шмат карысных парод: гваздзічнае дрэва, якое дае надзвычай добрае гваздзічнае масла; гранатавае дрэва, якое дае смачныя гранаты; eugenia cauliflora, з пладоў якога здабываюць нядрэннае віно; мірт Ugni, які мае ў сабе смачны алкагольны напітак; мірт caryophyllus, кара якога замяняе карыцу; звычайны мірт, ягады якога могуць замяніць перац; eugenia pimenta, з якога здабываюць ямайскі перац; eucalyptus robustra, які дае нешта падобнае да манных круп; eucalyptus Qunei, сок якога, перабрадзіўшы, дае напітак, падобны на піва... Але хіба можна пералічыць усё, што здабываецца з дрэў гэтага сямейства, якое налічвае сорак шэсць родаў і тысячу трыста відаў!

Каланісты ўважліва слухалі лекцыю па батаніцы, якую з захапленнем прачытаў юны натураліст.

Сайрус Сміт усміхнуўся, а Пенкроф пазіраў на свайго выхаванца з невымоўнай гордасцю.

— Аднак, Герберт,—сказаў ён, падумаўшы некаторы час,—я ўпэўнены, што ўсе гэтыя карысныя дрэвы не такія веліканы, як гэтыя!

— Ты праўду кажаш, Пенкроф,—згадзіўся юнак.

— Значыць я казаў праўду, што веліканы ні навошта не прыгодны.

— Вы зноў памыляецеся, Пенкроф,—сказаў інжынер.—Якраз гэтыя веліканы, пад якімі мы зараз знаходзімся, карысны для чалавецтва.

— Чым?

— Тым, што аздараўляюць мясцовасць, у якой яны рас-

туць. А ці ведаеце вы, як іх называюць у Аўстраліі і Новай Зеландыі?

— Не.

— «Ліхаманкавымі» дрэвамі.

— Таму што яны выклікаюць ліхаманку?

— Не, таму што яны абараняюць ад ліхаманкі.

— Вельмі добра. Я запішу гэтую назву,—сказаў журналіст.

— Запішыце, Спілет. Давелзена, што прысутнасць эўкаліптавых гаёў значна сцішае хваравіты ўплыў мікробаў ліхаманкі. Гэта натуральнае лякарства было выпрабавана ў некаторых мясцовасцях Паўднёвай Еўропы і Паўночнай Афрыкі, дзе асабліва лютавалі ліхаманкі, і з цягам часу пераканаліся, што здароўе насельніцтва палепшылася— перамежныя ліхаманкі ў зоне пасадкі эўкаліптаў зусім зніклі. Гэты факт даведзен навукай і цяпер зусім бяспрэчны. Для нас, міжвольных жыхароў вострава Лінкольна, вялікае шчасце, што эўкаліпты растуць тут.

— Вось дык востраў! Які цудоўны востраў!—усклікнуў Пенкроф.

— Я вам казаў, што яму не стае толькі...

— Супакойцеся, Пенкроф,—засмяяўся інжынер,—знойдзем і табак! Аднак, давайце грабсці далей. Трэба падняцца ўверх па рэчцы так далёка, як толькі можна.

Пірога зноў рушыла ў дарогу. На працягу бліжэйшых двух міль эўкаліпты раслі няспыннымі радамі, узвышаючыся над усімі іншымі дрэвамі. Як было згледзець воку, з абодвух бакоў ракі Падзякі—усюды раслі гэтыя дзівосныя дрэвы-велікаы. Звілістая рака працерабіла сабе дарогу сярод высокіх, густа зарослых зелянінаю берагоў. У многіх месцах рэчышча яе было засмечана плывучымі вадарослямі і нават вострымі скаламі.

Плаванне рабілася цяжкім. Кінулі грабсці, і Пенкроф, стоячы на карме, падпіхаў лодку шастом. Было відаць, што рака мялье і што недалёка тое месца, дзе з-за мелкай вады давядзецца вылезці з пірогі і ісці пяшком.

Сонца ўжо схілялася да гарызонта. Дрэвы адкідалі на зямлю нязмерна даўгія цені.

Сайрус Сміт, бачачы, што ў гэты дзень не ўдасца дабрацца да заходняга берагу вострава, вырашыў зрабіць прыпынак на ноч у тым месцы, дзе мелкая вада прымусіць пакінуць пірогу. Да заходняга берага засталося яшчэ пятнаццаць міль, і гэтая адлегласць была занадта вялікай, каб наспрабаваць адолець яе ноччу, тым больш што дарога ішла праз недаследаваны лес.

Пірогу падпіхвалі шастом і яна плыла паміж зялёных берагоў. Вострыя вочы Пенкрофа заўважылі ў лесе зграю малпаў, якія бегалі па дрэвах. Разы два ці тры разы некаторыя жывёліны падбягалі да самага берагу і пучылі вочы на човен спакойна, без страху, і гэта сцвярджала, што яны ўпершыню бачаць чалавека і не навучыліся яшчэ баяцца яго. Было зусім няцяжка забіць некалькі гэтых чацверарукіх, але Сайрус Сміт рашуча запярэчыў супроць такога бессэнсоўнага знішчэння жывёл, якое, да рэчы, магло быць небяспечным для каланістаў: малпы былі моцнымі і спрытнымі—лепш, калі іх не чапаць.

Каля чатырох гадзін плыць стала яшчэ больш цяжка: вадаросці і камяні запрудзілі ўсё рэчышча ракі. Берагі ўздымаліся ўсё вышэй і вышэй, і вось ужо рака ўрэзалася ў першыя адгор'і гары Франкліна. Як відаць, пачатак яе быў блізка, бо яна жывілася вадою, якая сцякала з паўднёвага схілу.

— Не пазней як праз чвэртку гадзіны давядзецца спыніцца, містэр Сміт,—паведаміў Пенкроф.

— Што-ж, Пенкроф, спынімся і зробім прыпынак на ноч,—адказаў інжынер.

— На якой адлегласці ад Гранітнага палаца мы знаходзімся?

— Калі ўлічыць усе звіліны дарогі, дык прыкладна за сем міль. Заўтра раніцою мы пакінем пірогу, гадзіны за дзве пройдзем дарогу да заходняга берагу і будзем мець часу амаль цэлы дзень для даследавання берагавой паласы.

Неўзабаве пірога зашуршэла аб дно, укрытае галькай. Шырыня ракі ў гэтым месцы была не больш дваццаці футаў. Густая зеляніна засланяла святло, і тут панаваў змрок. Аднекуль даносіўся шум вадапада. Як відаць, недалёка былі парогі. Сапраўды, за першым паваротам каланісты ўбачылі вадапад.

Пірога ўздрыганулася, наткнуўшыся на перашкоду, і спынілася. Пенкроф сіхнуў яе з мелі, накіраваў да правага берагу і прышвартаваў судзенца да ствала дрэва.

Было ўжо каля пяці гадзін. Месца было на дзіва прыгожым. Апошнія прамені заходзячага сонца, прабіваючыся праз густое лісце, упрыгожвалі ўсімі колерамі радугі пырскі вадзянога пылу ад маленькага вадапада: рака ператварылася тут у ручаёк з празрыстай і чыстай вадою.

Каланісты шпарка расклалі агонь і згатавалі вячэру. На ноч прызначылі зменную варту на выпадак, калі ў лесе з'явяцца драпежнікі. Але ноч прайшла спакойна, і на другі дзень, 31 кастрычніка, у пяць гадзін раніцы ўсе ўжо былі на нагах, каб ісці далей у дарогу.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

*Шлях на захад.—Зграі чацверарукіх.—Новы ручай.—Лес замест берагу.—Мыс Рэптыліі.—Герберт зайздросціць Гедэону Спілету.—Бамбукавы гай.*

Сайрус Сміт меркаваў, што да заходняга берагу аставалася не больш двух гадзін хадзьбы. Але нельга было дакладна вызначыць час, бо магло здарыцца, што трэба будзе расчышчаць дарогу сярод густых зараснікаў дрэў і кустоў, пераплеценых ўчэпістымі ліянамі. Гэта, вядома, надоўга-б затрымала экспедыцыю.

Каланісты, моцна прывязаўшы пірогу да дрэва, рушылі ў дарогу. Пенкроф і Наб неслі двухдзённы запас яды на ўвесь атрад. Пра паляванне нельга было і думаць: інжынер параіў сваім спадарожнікам ні ў якім разе не страляць, каб раней часу не выдаць сваю прысутнасць жыхарам заходняга берагу.

Першыя ўдары тапара дасталіся кустам у гушчары мастыкавых дрэў. Сайрус Сміт, трымаючы компас у руцэ, паказваў напрамак. Каланісты павольна пасоўваліся наперад па працярэбленай імі-ж дарозе. Глеба вакол была зусім сухая, але па сакавітасці і густаце расліннасці няцяжка было здагадацца, што альбо пад глебаю ёсць падземныя вадаёмы, або дзесьці блізка цячэ якая-небудзь рэчка ці ручай.

На працягу першых гадзін дарогі зноў спаткаліся зграі малпаў. Яны з цікаўнасцю разглядалі людзей, нібы ўпершыню бачылі іх.

Гедэон Спілет жартам запытаў у сваіх спадарожнікаў, ці не глядзяць гэтыя чацверарукія на іх, як на нейкіх малпавых вырадкаў.

Кажучы праўду, пешаходы мелі сапраўды несамавіты выгляд у гэтым гушчары зараснікаў, дзе паваленыя дрэвы, кусты, паўзучыя расліны перагараджвалі ім дарогу на кожным кроку, у той час калі спрытныя і дужыя жывёліны, не ведаючы ніякіх перашкод, з маланкавай шпаркасцю пералятаалі з галінкі на галінку.

Малпаў было шмат, але, на шчасце, яны не выявілі ніякай варожасці да людзей.

А палове дзесятай раніцы каланістам нечакана перагарадзіла дарогу невядомая рака з шпаркай плыняй глыбокай і празрыстай вады. Дно ракі, шырынёю на трыццаць—сорак футаў, было закідана каменнямі і парогамі, праз якія вада прарывалася з сярдзітым грукатам. Рака была зусім несуднаходнай.

— Вось дык штуковіна!—усклікнуў Наб.—Давядзецца варочацца!

— Не,—адказаў Герберт,—гэта, урэшце, толькі ручаёк. Цераз яго можна перабрацца ўплаў.

— Навошта гэта?—запярэчыў Сайрус Сміт.—Ясна, што ручаёк упадае ў мора. Пойдзем уніз па плыні, уздоўж гэтага берагу, і мы абавязкова выйдзем да мора. Наперад, сябры!

— Чакайце,—спыніў усіх журналіст.—А як-жа зрабіць з назвай ручаю? Не трэба дапускаць прабелаў у нашай геаграфіі.

— Правільна,—сказаў Пенкроф.

— Герберт, дай якую-небудзь назву гэтаму ручаю,—папрасіў інжынер.

— Прапаную раней агледзець яго да вусця,—адказаў юнак.

— Згодзен,—сказаў Сайрус Сміт.—Дык у дарогу!

— Яшчэ хвілінку,—папрасіў Пенкроф.

— Што здарылася?—запытаў журналіст.

— Паляванне забаронена, але, спадзяюся, што гэтая забарона не пашыраецца на рыбную лоўлю?

— У нас няма часу,—запярэчыў інжынер.

— О, патрэбна не больш пяці хвілін,—дамагаўся свайго марак.—Толькі пяць хвілін, і ў нас будзе багатае снеданне!

Кажучы гэта, марак лёг на бераг, усадзіў рукі ў ваду і за дзве—тры хвіліны выцягнуў некалькі дзюжын добрых ракаў.

— Вось гэта здорава!—крыкнуў Наб і пачаў рабіць тое самае, што і яго сябра.

— Казаў я вам, што на гэтым востраве ёсць усё... апрача табаку,—уздыхаючы, сказаў марак.

Налавіўшы поўны мяшок ракаў, каланісты рушылі далей. Ісці ўздоўж берагу ракі было непараўнальна лягчэй, як праз зараснікі, і падарожнікі пасоўваліся больш шпарка.

Як і раней нішто не выяўляла прысутнасці чалавека. Час ад часу каланісты спатыкалі сляды буйнай жывёлы, якая прыходзіла да рэчкі піць ваду, але было зусім відазочна, што не тут быў паранены маленькі некары шрацінаю, якая выкрышыла Пенкрофу зуб.

Назіраючы за шпаркай плыняй ручая, Сайрус Сміт прышоў да вываду, што каланісты знаходзяцца ад заходняга берагу мора значна далей, як гэта ім здавалася.

Сапраўды, настаў час прыліву, і калі-б вусце ручая было блізка, дык-бы плынь не была такой шпаркай: рака запаволіла-б свой бег, сутыкаючыся з сустрэчнай прыліў-

най вадою. Але вада ручая, як і раней, шпарка імчалася па натуральнаму нахілу рэчышча.

Інжынер быў вельмі здзіўлены такой акалічнасцю і часта паглядаў на компас, каб упэўніцца, што звілістая рака не вядзе экспедыцыю зноў у лясы Далёкага захада.

Між тым ручай паступова шырэў, і плынь яго рабілася не такою бурлівай. Лес на абодвух берагах паранейшаму рос густы і непраніклы, але нічога падазронага ў ім не было, бо Топ не брахаў.

А палове адзінаццатай, на вялікае здзіўленне Сайруса Сміта, Герберт, які ішоў наперадзе, спыніўся і крыкнуў:

— Акіян!

Выбегшы на край лесу, каланісты сапраўды ўбачылі перад сабою заходні бераг вострава. Але якая вялікая розніца паміж гэтым берагам і тым, на які іх раней закінула крушэнне! Ні гранітнай сцяны, ні ўзбярэжных рыфаў, ні нават пясчанага пляжа—лес, адзін лес! Гэта не быў звычайны бераг акіяна з шырокім пясчаным пляжам або хаатычным награмаджэннем скал. Тут было прыгажэйшае ўзлессе, дзераслі велічныя дрэвы. Бераг узнімаўся амаль адвесна, вышэй самага высокага прыліву, і на ўрадлівай глебе, якая ляжала на гранітнай аснове, багаты лес рос таксама густа, як і ў самым цэнтры сухазем'я.

Каланісты падышлі да маленькай бухтачкі, якая ледзьве змясціла-б дзве-тры рыбацкія баркі. Гэтая бухта была вусцем ручая. Але—дзіўная асаблівасць—ручай уліваўся ў мора не па нахіленай плоскасці свайго рэчышча, як гэта бывае звычайна, а падаў амаль з вышыні сарака футаў. Гэтым і тлумачылася тое, што шпаркасць плыні не сціхвалася прылівам. Сапраўды, нават самыя высокія прылівы не даставалі да вусця ручая, і патрэбны былі мільёны год, раней чым ручай вырые ў сваім гранітным рэчышчы адхонны спуск да мора. Усе згадзіліся, каб назваць ручай «ручаём Вадападу».

Край лесу цягнуўся на поўнач над самым берагам акіяна прыблізна дзве мілі. Далей дрэвы радзелі, і праз іх прасветы можна было ўбачыць рад маляўнічых узгоркаў, якія цягнуліся амаль роўна з поўдня на поўнач. Уся паўднёвая частка ўзбярэжжа, да самага мыса Рэптыліі, зарасла цудоўным густым лесам. Відавочна, што шукаць пацярпеўшых крушэнне трэба было іменна ў гэтым напрамку, бо паўночная, бясплодная частка вострава нікому не магла забяспечыць прытулку.

Паветра было чыстае і празрыстае, і з вяршыні скалы, на якой Наб і Пенкроф падрыхтавалі снеданне, відаць

было ўсё ўзбярэжжа. Гарызонт быў зусім пустэльны. Такое-ж пустэльнае было і ўсё ўзбярэжжа—нідзе не было відаць нават самага малога абломка крушэння, ужо не кажучы пра карабль.

Каб супакоіць сваё сумленне інжынер вырашыў агледзець кожную звіліну берагу аж да аканечнасці Змяінага поўвострава.

Каланісты шпарка паснедалі, і а палове дванаццатай Сайрус Сміт падаў сігнал ісці далей. Калі-б узбярэжжа было пясчанае, каланісты маглі-б адолець гэтую дарогу, не спяшаючыся, за чатыры гадзіны. Але тут, дзе на кожным кроку ім даводзілася перамагаць перашкоды, кружыць і абмінаць, працярэбліваць дарогу праз кусты, секчы спляценні ліян, шлях гэты вымагаў прынамсі ўдвая больш часу.

Не гледзячы на ўсе стаpанні, да гэтага часу каланісты не знайшлі ніякіх прымет нядаўняга крушэння карабля. Але-ж, як правільна заўважыў Гедэон Спілет, адліў мог аднесці ў мора ўсе абломкі крушэння, не пакінуўшы і следу ад карабля, выкінутага бурай на гэтую частку ўзбярэжжа.

Развагі журналіста былі зусім слушнымі, тым больш, што здарэнне з шрацінаю неабвержна паказвала, што не раней як тры месяцы таму назад на востраве грымнуў стрэл.

У пяць гадзін папаўдні каланісты знаходзіліся яшчэ за дзве мілі ад аканечнасці Змяінага поўвострава. Было відавочна, што яны не маглі паспець дайсці да гэтага пункту і завідна вярнуцца да свайго часовага лагера каля вусця ракі Вадападу. Значыць, ім давядзецца заначаваць на самым мысе Рэптылііі. На шчасце, яды было дастаткова.

Каля сямі гадзін вечара, знемагаючы ад стомы, каланісты дабраліся да мыса Рэптылііі. Тут канчаўся ўзбярэжны лес і бераг набываў выгляд пясчанага пляжа, які перамяжоўваўся са скаламі. Было зусім магчыма, што дзенебудзь у западзіне зрэзанай берагавой лініі прытуліўся пацярпеўшы крушэнне карабль; але было ўжо завельмі цёмна, каб зараз-жа зрабіць разведку. Яе адклалі да раніцы.

Герберт і Пенкроф пайшлі шукаць месца, дзе-б яны маглі пераначаваць. Там, дзе канчаліся апошнія дрэвы нарадзелага лесу Далёкага захада, юнак раптам убачыў густы бамбукавы зараснік.

— Вельмі добра!—усклікнуў ён.—Вось дзе каштоўная знаходка!

— Каштоўная?—здзіўлена запытаў Пенкроф.

— Вядома,—адказаў Герберт.—Ты, мусіць, ведаеш, Пенкроф, што з ствала бамбука, парэзанага на палоскі, плятуць кашы; што гэты-ж ствол, размолаты на парашок і вымачаны ў вадзе, з'яўляецца сыравінай для вырабу самых лепшых гатункаў паперы, так званай кітайскай паперы; што ствалы бамбука, у залежнасці ад іх дыяметра, могуць быць кійкамі, люлькамі, водаправоднымі трубамі; што вялікія бамбукі—вельмі добры будаўнічы матэрыял, лёгкі, трывалы, і чамусьці не баіцца нападу машкары... Не, не варта расказваць табе пра ўсё гэта, бо ты да гэтага ставішся абыякава. Але...

— Але?..—запытаў Пенкроф.

— Але затое я табе скажу, што ў Індыі гэты бамбук ядуць замест спаржы!

— Спаржа на трыццаць футаў у вышыню?—усклікнуў марак.—І яна смачная?

— На дзіва, — сказаў Герберт. — Але-ж ядуць не трыццаціфутовыя дрэвы, а маладыя парасткі бамбука.

— Вельмі добра, мой хлопчык, вельмі добра!—ухваліў Пенкроф.

— Дадам яшчэ, што мякаць маладых парасткаў, аблітая воцатам, лічыцца вялікім ласункам...

— Зусім добра, Герберт.

— ... і што, нарэшце, бамбукаў сок вельмі прыемны на смак напітак.

— І гэта ўсё?—запытаў марак.

— Усё.

— А курыць яго нельга?

— На вялікі жаль, нельга, небарака Пенкроф.

Герберту і мараку нядоўга давялося шукаць зручнае для начлегу месца. Узбярэжныя скалы былі падточаны моцным штодзённым прыбоем і выветраны рэзкімі і паўднёва-заходнімі вятрамі—у іх было шмат пячор, у якіх можна было схавацца нанач ад непагоды. Але ў тую хвіліну, калі разведчыкі сабраліся зайсці ў адну з пячор, адтуль пачуўся грозны рык.

— Назад!—крыкнуў Пенкроф.—У нас стрэльбы зараджаны толькі дробным шротам, а звярыну, якая здольна гэтак раўці, шрот пашкодзіць не больш, чым крупінкі солі.

Кажучы гэта, марак адцягнуў Герберта назад пад прыкрыццё скалы—і ў час, бо зараз-жа следам за гэтым з пячоры паказалася вялікая жывёліна.

Гэта быў ягуар, такі-ж вялікі, як і яго азіяцкія родзічы, гэта значыць футаў на пяць у даўжыню ад ілба да

пачатку хваста. Яго рыжая шкура была ў чорных, правільнымі радамі, плямах, а бруха было бруднабелага колеру.

Герберт адразу пазнаў гэтага лютага драпежніка—суперніка тыграў.

Ягуар ступіў наперад. Зірнуўшы на натапыраную шэрсць і налітыя крывёю, бліскучыя вочы, можна было меркаваць, што ён ужо не аднойчы сутыкаўся з людзьмі.

У гэты момант з-за скал паказаўся Гедэон Спілет. Герберт, думаючы, што журналіст не заўважыў ягуара, хацеў пабегчы яму насустрач, каб папярэдзіць пра небяспеку. Але той падаў юнаку знак не варушыцца, а сам спакойна набліжаўся. Спілету не аднойчы здаралася страляць тыграў. Падышоўшы на дзесяць крокаў да жывёлы, ён прыставіў карабін да пляча і спыніўся. Ні адзін мускул не здрыгануўся на яго твары. Ягуар скурчыўся ў камяк і ў наступны момант скочыў у бок паляўнічага. Але ў гэтую самую хвіліну журналіст спусціў курок, і ягуар, атрымаўшы між вачэй кулю, упаў нежывым.

Герберт і Пенкроф падбеглі да яго. Наб і Сайрус Сміт, якія знаходзіліся воддаль, таксама рынуліся на гук стрэлу і знямелі ад здзіўлення, убачыўшы вялікую жывёлу, якая выпрасталася на зямлі.

— Ах, містэр Спілет!—усклікнуў Герберт.—Калі-б вы ведалі, як я захапляюся вамі і як я вам зайздрошчу!

— Ты і сам мог-бы не горш зрабіць,—адказаў журналіст.

— Я?.. Так спакойна?!.

— А ты думай у часе гэтага, што ягуар—гэта заяц, і ты заб'еш яго, зусім не хвалюючыся.

— Вось бачыш, Герберт,—падхапіў Пенкроф,—што можа быць прасцей за гэта!

— А цяпер, сябры мае,—сказаў Гедэон Спілет,—з той прычыны, што ягуар вызваліў пячору, мы зусім спакойна і з поўным камфортам можам размясціцца ў ёй на нач.

— А калі там жылі і другія ягуры?—запытаў Пенкроф.

— На кожны выпадак раскладзем агонь пры ўваходзе ў пячору,—адказаў журналіст.—Тады мы будзем упэўнены, што ніводзін драпежнік не адважыцца пераступіць яе парогу.

— Што-ж, калі ласка, заходзьце ў ягуараву гасцініцу,—сказаў марак і першым увайшоў у пячору, цягнучы за сабою труп ягуара.

Заняўшы пячору, каланісты спярша нацягалі ў яе зане[illegible] галля.

Наб гэтым часам здзіраў скуру са звера.

Сайрус Сміт, сам заўважыўшы бамбукавы гай, зрэзаў некалькі ствалоў і паклаў іх у скіданую кучу дроў.

Потым усе ўселіся на пяску пячоры, які быў закіданы касцьмі, і, на выпадак раптоўнага нападу зарадзіўшы кулямі стрэльбы, пачалі вячэраць.

Перад тым як легчы спаць яны распалілі пры ўваходзе ў пячору агонь. У той-жа момант загрымелі выбухі. Гэта палаючы бамбук узрываўся з шумам гарматнай страляніны. Ужо адзін гэты шум павінен быў стрымліваць драпежнікаў на далёкай адлегласці ад пячоры.

Вынаходніцтва гэтага шумавога эфекта належала не Сайрусу Сміту. Татары яшчэ ў старадаўнія часы скарыстоўвалі гэты спосаб, каб адганяць небяспечных драпежнікаў Цэнтральнай Азіі.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

*Прапанова вярнуцца назад уздоўж паўднёвага берагу.—Абрысы берагу.—Пошукі слядоў мяркуемага крушэння.—Рэшткі паветранага шара.—Знаходка натуральнага порту.—На беразе ракі Падзякі ў поўнач.—Пірога, якая плыве плынню.*

Сайрус Сміт і яго таварышы спалі спакойна, як дзеці, у пячоры, якую ласкáва аддаў ім ягуар.

Як толькі ўзышло сонца каланісты былі ўжо на беразе, на самым краі мыса і зноў пільна паглядалі на шырокі гарызонт, які шырока разгортваўся перад імі. Інжынер зноў упэўніўся, што ні простым вокам, ні ў падзорную трубу нідзе не бачна ні паруса, ні асновы разбітага бурай судна.

Такім-жа пустэльным здавалася і ўзбярэжжа, прынамсі тая частка яго, якую можна было агледзець. Тым не менш патрэбна было зблізку агледзець паўднёвы бераг вострава: можа там у якой-небудзь звіліне берагу знаходзяцца людзі.

Калі зрабіць гэту разведку? Ці не скарыстаць для яе гэты дзень, 2 лістапада?

Гэта не ўваходзіла ў першапачатковыя планы каланістаў. Пакідаючы пірогу на прывязі ля вытокаў ракі Падзякі, яны меркавалі вярнуцца па яе і спусціцца да Гранітнага палаца ўніз па плыні. План быў складзен з разлікам на тое, што сляды крушэння хутчэй за ўсё будуць выкрыты іменна на заходнім беразе вострава. Але пасля таго, калі даведаліся, што на гэтым узбярэжжы няма нічога падазронага, патрэбна было зрабіць разведку і на паўднёвым беразе.

Гедэон Спілет першы прапанаваў прадоўжыць разведку, каб да канца высветліць справу. Ён запытаў у Сайруса Сміта, на якой адлегласці ад мыса Рэптыліі знаходзіцца мыс Кіпцюра.

— Прыблізна за трыццаць міль, калі трымацца ў дарозе паваротаў берагу,—адказаў інжынер.

— Трыццаць міль!—усклікнуў Гедэон Спілет.—Гэта цэлы дзень хадзьбы! І ўсё-ж мне здаецца, што нам патрэбна вярнуцца ў Гранітны палац уздоўж паўднёвага берагу.

— Але-ж ад мыса Кіпцюра да Гранітнага палаца яшчэ добрых дзесяць міль,—запярэчыў Герберт.

— Добра, будзем лічыць сорак міль,—згадзіўся журналіст. —І ўсё-ж неабходна пайсці якраз гэтай дарогай! Мы стаміліся, але затое агледзім гэта ўзбярэжжа; апрача таго, не будзе больш патрэбы зноў рабіць такое доўгае падарожжа!

— Гэта правільна. Але што рабіць з пірогай?—запытаў Пенкроф.

— А пірога прастаяла суткі без аховы ля вытокаў ракі Падзякі,—адказаў Гедэон Спілет,—прастаіць і яшчэ двое сутак. У нас яшчэ не было падстаў наракаць на тое, што на востраве поўна злодзеяў.

— А ўсё-такі,—запярэчыў марак,—калі я ўспамінаю здарэнне з чарапахай, я пачынаю сумнявацца.

— Чарапаха, чарапаха... Хіба вы не ведаеце, што яе перавярнуў прыліў?

— Хто яго ведае?..—прашаптаў інжынер.

— Але...—пачаў Наб.

Наб. штосьці хацеў сказаць. Ён адкрыў рот, каб гаварыць, але маўчаў.

— Што ты хацеў сказаць, Наб?—запытаў яго інжынер.

— Калі мы будзем варочацца паўднёвым берагам, то за мысам Кіпцюра нам перагародзіць дарогу...

— Рака Падзякі,—падхапіў Герберт,—і ў нас не будзе ні маста, ні лодкі, каб перабрацца на другі бераг.

— Гэта дробязь,—сказаў марак.—Ссячэм некалькі дрэў і перабярэмся цераз раку.

— А ўсё-ж,—сказаў Гедэон Спілет,—калі мы захочам падтрымліваць сувязь з лясамі Далёкага захада, нам давядзецца пабудаваць мост цераз раку.

— Мост?—усклікнуў Пенкроф.—Але-ж містэр Сміт—інжынер. Ён для нас пабудуе мост, калі мы яго папросім... Што-ж датычыць сёнешняй пераправы цераз раку, дык я за яе бяру адказнасць на сябе і запэўняю, што ні адна

нітка на вас не змокне. У нас яшчэ ёсць запас яды на цэлы дзень. Прапаную рушыць у дарогу!

Прапанова журналіста, якую так энергічна падтрымаў марак, была аднагалосна прынята: кожнаму хацелася як найхутчэй вырашыць сумненні адносна крушэння. Але трэба было неадкладна рушыць у дарогу, бо пераход у сорак міль быў цяжкім пераходам, і не было чаго думаць дабрацца да Гранітнага палаца да надыходу ночы.

У шэсць гадзін раніцы маленькі атрад ужо ішоў уздоўж паўднёвага берагу. Прадбачачы непрыемныя сустрэчы з двуногай і чацвераногай жывёлай стрэльбы былі заражаны кулямі, і Топу, які ішоў наперадзе, было загадана «шукаць» ускрай лесу.

Ад аканечнасці мыса, якая ўтварала завітак хваста Змяінага паўвострава, на працягу пяці міль дарога ішла па кругу. Гэты ўчастак каланісты прайшлі шпарка, прычым, не зважаючы на самыя старанныя пошукі, не ўдалося знайсці ніякіх адзнак крушэння, ні слядоў лагера, ні попелу ад агню, ні чалавечых слядоў.

З таго месца, дзе выгін берагу ўтварыў бухту Вашынгтона, каланісты ўбачылі ўсю паўднёвую частку вострава. Мыс Кіпцюра відаць быў за дваццаць пяць міль на поўдні, напоўзахаваны ранішнім туманам, і з прычыны нейкага дзіўнага міража выглядаў нібы павісьшы у паветры паміж небам і акіянам. Ад таго месца, дзе знаходзіліся каланісты і да цэнтра вялікай бухты бераг расцягнуўся шырокім пляжам з шчытна зляжалай і гладкай пясчанай паверхняй. Далей узбярэжжа было вельмі зрэзана: высунутыя ў мора вострыя і нізкія косы змяняліся панурымі чорнымі скаламі. Гэты хаас канчаўся толькі ля самага мыса Кіпцюра.

Такія былі абрысы берагу. Каланісты, якія спыніліся на некалькі хвілін, каб адпачыць, з цікаўнасцю разглядалі гэту невядомую для іх частку вострава.

— Судна, выкінутае на такі бераг,—сказаў Пенкроф,—абавязкова загінула-б. Гэта вельмі небяспечнае месца: пясчаныя яры ля берагоў і рыфы воддаль...

— Але ўсё-ж ад крушэння засталіся-б хоць якія-небудзь сляды,—заўважыў журналіст.

— Кавалкі абшыўкі маглі затрымацца на скалах, але не на мелях,—адказаў марак.

— Чаму гэта?

— Ды таму, што гэтыя мелі больш небяспечныя, чым скалы. Яны ўсмоктваюць усё, што на іх трапляе. Дастаткова некалькі дзён, каб яны без следу праглынулі цалкам увесь корпус шматтоннага карабля

— Значыць, Пенкроф, вы думаеце, што не было-б нічога дзіўнага, каб гэтыя пяскі не накінулі ніякіх слядоў пацярпеўшага крушэння карабля?

— Нічога дзіўнага. Аднак, і ў гэтым выпадку вецер павінен быў-бы занесці далёка на бераг, куды нават не дасягаюць хвалі, лёгкія часткі такелажа. Яны і былі-б слядамі крушэння.

— Што-ж, давайце будзем прадаўжаць пошукі,—сказаў інжынер.

У гадзіну папаўдні каланісты знаходзіліся ўжо ў цэнтры бухты Вашынгтона. Ад раніцы яны прайшлі каля дваццаці міль. Тут быў зроблены прыпынак на снеданне.

Ад гэтага месца бераг пакручваўся, перарэзаючыся западзінамі і награмаджэннямі скал, якія спаўзалі ў ваду. У гэтую хвіліну скалы былі ўкрыты высокай вадою прыліву, але ў часе адліву яны агаляліся. Акіянскія хвалі, разбіваючыся аб іх верхавіны, якія выступалі з вады, узбягалі на бераг пеністымі хвалямі. Да мыса Кіпцюра ўзбярэжная лінія цягнулася вузенькай палоскай, сціснутай між скал і ўскраінай лесу. Ісці было ўсё цяжэй з прычыны шматлікіх абвалаў, якія перагараджалі дарогу.

Пасля поўгадзіны адпачынку маленькі атрад зноў рушыў у дарогу, аглядаючы кожную западзіну берагу і кожны ўзбярэжны рыф тады, калі яны чым-небудзь звярочвалі на сябе ўвагу. Але каланісты заўсёды расчароўваліся пераканаўшыся ў тым, што, мяркуемы абломак карабля быў звычайным каменем або вадарослямі. Разам з гэтым яны пераканаліся, што на гэтым беразе багата ўжыўных ракушак. Але гэтыя рэзервы яды маглі быць скарыстаны толькі пасля таго, калі будзе пабудаваны мост цераз раку Падзякі.

Такім чынам спадзяванні каланістаў не апраўдаліся і тут: на паўднёвым беразе таксама, як і на заходнім, не было ніякіх слядоў крушэння.

Каля трох гадзін папаўдні Сайрус Сміт і яго спадарожнікі падышлі да маленькай, закрытай бухты, якая нагадвала прыродны порт, зусім нябачны з боку мора.

Вузкі праліў, які злучаў бухту з адкрытым морам, пакручваўся між скал.

У глыбіні бухты землетрасенне прабіла шчыліну ў скалах, і праз гэтую шчыліну ўзнімалася дарога на пласкагор'е. Гэтая бухта, якая знаходзілася міль за дзесяць ад мыса Кіпцюра, напэўнекі была не больш як за чатыры мілі ад пласкагор'я Далёкага віду.

Гедэон Спілет прапанаваў зрабіць тут прыпынак. Прапанова журналіста была ўсімі ўхвалена, бо ўсе згаладалі ад хадзьбы і, не зважаючы на тое, што час абеда не настаў,

з ахвотаю надмацаваліся-б. Вырашана было замест абеда з'есці рэшткі харчоў і затым ужо да самага Гранітнага палаца не рабіць прыпынкаў.

Праз некалькі хвілін, насеўшы ў засені дрэў, каланісты прагна накінуліся на яду, якую Наб выцягнуў з рукзака.

Пляцоўка ўзвышалася на пяцьдзесят—шэсцьдзесят футаў над узроўнем мора, так што з яе была відаць нават далёкая бухта Саюза. Але ні астравок Выратавання, ні Гранітны палац, укрытыя заслонаю густых дрэў, не былі відаць. Не варта і казаць, што каланісты перш за ўсё агледзелі ўвесь гарызонт у падзорную трубу. Але гарызонт быў зусім чысты. Таксама не было ніякіх слядоў крушэння і на недаследаванай яшчэ частцы берагу ад гэтай пляцоўкі і да мыса Кіпцюра.

— Відаць, што мы нічога і не знойдзем,—сказаў Гедэон Спілет.—Трэба з гэтым пагадзіцца. Суцяшэннем для нас астанецца ўсведамленне, што ніхто не будзе аспрэчваць у нас права на ўладанне востравам Лінкольна.

— Ну, а шраціна?—запытаў Герберт.—Яна, спадзяюся, не прыснілася нам усім.

— Не, чорт пабяры!—усклікнуў Пенкроф, успамінаючы пра зламаны зуб.

— Якія-ж загадаеце зрабіць вывады:—дамагаўся журналіст.

— А вось якія,—прыпыніў спрэчкі інжынер:—тры месяцы таму назад сваёй ахвотаю або мімаволі, але да вострава прыстаў карабль...

— Як гэта, Сайрус, няўжо вы дапускаеце, што карабль занесла пяском і пры гэтым не асталося ніякага следу? - гукнуў журналіст.

— Не, шаноўны Спілет, я пра гэта не думаю. Але калі не выклікае сумнення акалічнасць, што нейкі чалавек быў на востраве тры месяцы таму назад, дык не менш бясспрэчна і тое, што цяпер яго больш няма на востраве.

— Значыцца,—умяшаўся Герберт,—калі я правільна зразумеў вас, вы лічыце, што карабль адплыў?

— Вядома.

— І мы страцілі выпадак вярнуцца на радзіму?—запытаў Наб.

— Так, думаю, што назаўсёды.

— Ну, калі гэта назаўсёды, дык хадзем у Гранітны палац,—прапанаваў Пенкроф, які ўжо засумаваў па дому.

Але не паспеў ён устаць з зямлі, як пачуўся брэх Топа, і сабака выбег з лесу, трымаючы ў зубах забруджаны гразёю абрывак тканіны.

Наб выхапіў у сабакі гэты абрывак.

Топ усё яшчэ брахаў і, то кідаючыся ў лес, то варочаючыся назад нібы прасіў сваіх гаспадароў ісці за ім.

— О, здаецца, што Топ знайшоў разгадку гісторыі з маёй шрацінаю!—усклікнуў Пенкроф.

— Там той, хто пацярпеў крушэнне!—гукнуў Герберт.

— Можа, ён ранены,—дадаў Наб.

— Або памёр,—адказаў журналіст.

Каланісты рынуліся следам за сабакам у лес. На кожны выпадак яны ўзвялі куркі ў сваіх стрэльбах.

Ім давялося зайсці даволі далёка ў гушчар, але, на вялікі свой жаль, яны нідзе не знайшлі слядоў. Кусты і ліяны былі непашкоджаны і, каб ісці за Топам, патрэбна было працярэбліваць сабе дарогу тапаром. Цяжка было і падумаць што тут калі-небудзь праходзіў чалавек.

Але Топ бег наперад упэўнена і смела, не збіваючыся з дарогі. Відаць было, што ён добра ведаў, куды і на што вядзе за сабою людзей.

Прабегшы хвілін сем-восем, Топ раптам спыніўся. Каланісты вышлі следам, за ім на палянку, акружаную высокімі дрэвамі Але, колькі яны не ўглядаліся, ні ў траве, ні пад дрэвамі нічога незвычайнага не было.

— Што гэта з Топам?—запытаў Сайрус Сміт.

Сабака гучна брахаў, падскакваючы каля падножжа вялізнай сасны.

Раптам Пенкроф зарагатаў.

— Вось дык штуковіна!—усклікнуў ён.—Гэта я разумею!

— Што, што?..—запытаў інжынер.

— Мы шукалі слядоў крушэння на моры і на сухазем'і...

— Ну дык што-ж?

— А яны ў паветры!

І марак паказаў сваім таварышам на вялікі кусок белай тканіны, які вісеў на вяршаліне сасны.

— Але-ж гэта не карабль!—усклікнуў, не падумаўшы, журналіст.

— Прашу прабачэння,—насмешліва запярэчыў марак.

— Як? Гэта...

— Гэта брэнныя рэшткі нашага паветранага карабля!

Пенкроф не памыліўся. Сапраўды, на сасне вісела абалонка паветранага шара.

Гукнуўшы моцнае «ура», марак дадаў:

— Колькі цудоўнай тканіны! Падумайце, якое мноства тут рубашак і насавых хустак! Скажыце, містэр Спілет, дзе яшчэ на свеце вы знойдзеце востраў, на якім рубашкі растуць на дрэвах?

Для каланістаў было шчасцем, што аэрастат, ускруціўшыся апошнім разам у паветры, упаў зноў на востраў. Яны

маглі або захаваць абалонку ў такім выглядзе, у якім яна была зараз, каб паспрабаваць пакінуць востраў паветраным шляхам, або скарыстаць гэтыя сотні квадратных футаў найлепшай тканіны для розных гаспадарчых патрэб, папярэдне абмыўшы лак, якім яна была афарбавана. Зусім зразумела, што захапленне Пенкрофа падзялялі і ўсе астатнія каланісты.

Абалонку патрэбна было зняць з дрэва, за якое яна зачапілася, каб захаваць яе ў больш надзейнае месца. Гэта была нялёгкая работа. Наб, Герберт і Пенкроф, узабраўшыся на сасну, павінны былі праявіць вялікую спрытнасць, каб вызваліць вялізны аэрастат.

Работа заняла больш двух гадзін часу, і ў выніку яе каланісты атрымалі не толькі самую абалонку з вентылём, пружынамі і меднымі ўпрыгожаннямі, але таксама і сетку, гэта значыць вялікую колькасць вяровак і канатаў, кальцо і якар.

Абалонка добра захавалася і была пашкоджана толькі ў адным месцы.

Гэта было багаццем, якое літаральна звалілася з неба.

— Праўда, містэр Сміт,—сказаў марак,—калі мы і адважымся калі-небудзь пакінуць востраў, дык мы зробім гэта не на шары? З гэтымі махінамі ніколі нічога нельга ведаць загадзя: гэтыя паветраныя караблі ідуць не туды, куды хочаш. Гэта мы добра ведаем! Паверце мне, значна лепш пабудаваць добрае судзенца, гэтак тон на дваццаць, і вы дазволіце мне выразаць з гэтай абалонкі бізань і фок. Рэштку-ж мы скарыстаем на вопратку.

— Пабачым, Пенкроф, пабачым,—адказаў інжынер.

— А пакуль што трэба знайсці, дзе-б схаваць усё гэтае дабро,—сказаў Наб.

Сапраўды, не варта было і думаць цягнуць у Гранітны палац такі цяжкі груз тканіны і канатаў. А пакуль каланісты змогуць прыцягнуць каламажку для яго перавозкі, патрэбна было як-небудзь захаваць гэтае багацце ад капрызаў першага-ж урагану.

З вялікімі цяжкасцямі каланістам удалося даставіць знаходку да берагу і захаваць яе ў пячоры, куды не маглі пранікнуць ні вецер, ні дождж, ні хвалі.

— Нам патрэбна была шафа,—сказаў Пенкроф,—шафа знайшлася. Але з той прычыны, што яе нельга замкнуць ключом, то давядзецца захаваць уваход у пячору—не ад двуногіх, а ад чацвераногіх злодзеяў.

Да шасці гадзін папаўдні ўсё было ўпарадкавана, і можна было рушыць далей. Маленькая бухтачка была названа «портам Шара». Па дарозе да мыса Кіпцюра Пенкроф

гутарыў з інжынерам пра розныя работы, якія трэба было выканаць у бліжэйшы час. Перш за ўсё неабходна было пабудаваць мост цераз раку Падзякі, каб лягчэй было хадзіць на паўднёвы бераг вострава. Пасля гэтага можна-б было нагрузіць абалонку шара на каламажку, бо пірога не вытрымала-б такога цяжару. Затым патрэбна было пабудаваць палубную шлюпку, якую Пенкроф аснасціць, як катэр і, на якой можна будзе зрабіць падарожжа вакол вострава, і гэтак далей, і гэтак далей...

Ноч ужо настала, калі каланісты падышлі да мыса Знаходкі, да таго месца, дзе яны знайшлі выкінутую на пясок скрыню. Гэты ўчастак быў ужо даследаван імі і не меў ніякіх слядоў крушэння. Значыць, не аставалася нічога іншага, як згадзіцца з вывадам Сайруса Сміта аб тым, што карабль пакінуў ужо востраў.

Ад мыса Знаходкі да Гранітнага палаца было не больш чатырох міль. Каланісты шпарка прайшлі гэтую адлегласць і пад поўнач падышлі да першага павароту ракі Падзякі.

Шырыня ракі ў гэтым месцы была каля васмідзесяці футаў. Не варта было і думаць перабрацца цераз яе ўплаў. Але, як вядома, Пенкроф абавязаўся пераправіць каланістаў на другі бераг.

Усе былі надзвычай змораны доўгім пераходам і цяганінай з паветраным шарам. Усе нецярпліва хацелі хутчэй дабрацца да Гранітнага палаца, каб павячэраць і легчы спаць. Калі-б мост цераз раку быў пабудаваны, праз чвэртку гадзіны падарожнікі былі-б ужо дома.

Але маста яшчэ не было. А ноч была непранікла цёмнай.

Пенкроф рыхтаваўся выканаць абяцанне, якое ён даў каланістам. Для гэтага ён вырашыў ссекчы два дрэвы, з якіх меў намер зрабіць нешта падобнае на плыт.

Сайрус Сміт і Гедэон Спілет, чакаючы, пакуль марак спатрэбіцца іх дапамога, селі на беразе ракі. Герберт, каб не заснуць, гуляў па беразе.

Раптам юнак падбег да інжынера, і, паказваючы на раку, усклікнуў:

— Глядзіце, што гэта там плыве па плыні?

Пенкроф спыніў сваю работу і, прыгледзеўшыся да рухавага цёмнага прадмету на паверхні вады, сказаў:

— Гэта лодка!

Прыгледзеўшыся, усе сапраўды вельмі здзівіўшыся, убачылі нейкую лодку, якая плыла па плыні.

— Гэй, на лодцы!—крыкнуў марак па прафесіяльнаму звычаю, не падумаўшы пра тое, што можа, лепш-бы было не выяўляць сваю прысутнасць.

Адказу не было. Лодка прадаўжала плысці па плыні Яна была ўжо ўсяго за дзесятак крокаў ад каланістаў, калі марак крыкнуў:

— Ды гэта-ж наша пірога! Яна сарвалася з прывязі і плыве па плыні, трэба проста сказаць—вельмі своечасова!

— Наша пірога?..—прашаптаў інжынер.

Пенкроф казаў праўду. Гэта сапраўды была пірога каланістаў, якая сарвалася з прывязі. Лёгенька пагойдваючыся, яна спускалася ўніз па плыні ракі Падзякі. Патрэбна было зараз-жа пераняць яе, бо яна магла сплысці ў мора. Наб і Пенкроф пачалі лавіць лодку доўгімі галінамі, якія спехам абсеклі з дрэў.

Хутка мараку пашчасціла зачапіць за пірогу і падцягнуць яе да берагу. Інжынер першы ўскочыў у яе, схапіў вяроўку для прывязі і, агледзеўшы яе, пераканаўся, што яна разарвалася ад трэння аб скалу.

— Ведаеце,— ціха сказаў ён журналісту,—гэтае спалучэнне акалічнасцей інакш як...

— Дзіўным,—падхапіў той,—не назавеш!

Але дзіўнае ці не—спалучэнне акалічнасцей было шчаслівым для каланістаў. Герберт, Пенкроф, Наб і журналіст таксама паселі ў пірогу. Трое першых не сумняваліся ў тым, што прычальны канат перацёрся сам. Але і яны не маглі не здзівіцца з таго, што пірога падплыла да берага якраз у той момант, калі каланісты там знаходзіліся. Калі-б прыплыла яна на чвэртку гадзіны раней, ніхто-б яе не пераняў, і яна назаўсёды загінула-б у моры.

Узмахнуўшы некалькі разоў вёсламі, каланісты пераплылі раку і прычалілі да берагу каля самага падножжа Гранітнага палаца. Выцягнуўшы лодку на пясок, яны пайшлі да лесніцы.

Але раптам Топ злосна забрахаў, а Наб, які вобмацкам шукаў у цемры першыя ступенькі вераўчанай лесніцы, крыкнуў.

Лесніцы не было.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

*Пенкроф гукае.—Ноч, якую прабылі ў Каміне.—Страла Герберта.—Прапанова Сайруса Сміта.—Нечаканае рашэнне.—Што адбылося ў Гранітным палацы.—Як каланісты знайшлі слугу.*

Сайрус Сміт моўчкі спыніўся. Яго спадарожнікі абмацалі ўсю сцяну, думаючы, што вецер аднёс убок лесніцу, якая неяк адарвалася ад прывязі. Але лесніца не знаходзілася. А праверыць ці не закінуў яе моцны парыў ветру на верхнюю пляцоўку, было нельга ў гэтай непраніклай цемры.

— Калі гэта жарт,—сурова праказаў Пенкроф,—дык ён няўдалы і нясвоечасовы. Вярнуцца дадому і не знайсці лесніцы, каб падняцца ў свае пакоі!.. Такі жарт не можа спадабацца змораным людзям.

Наб завохкаў і застагнаў.

— Але-ж не было ветру!—заўважыў Герберт.

— Мне пачынае здавацца, што на востраве Лінкольна робіцца нешта дзіўнае!—усклікнуў Пенкроф.

— Што-ж тут дзіўнага, Пенкроф?—запярэчыў журналіст.—Гэта вельмі проста. Хтосьці забраўся ў дом у час нашай адсутнасці, выгодна абсталяваўся ў ім і ўсцягнуў лесніцу.

— Але хто-ж гэта?—у абурэнні запытаў марак.

— Той самы паляўнічы, які раніў шраціною пекары,—адказаў Гедэон Спілет.—Ён лагічна павінен існаваць, бо інакш гэтую апошнюю прыгоду нельга-б было вытлумачыць.

— Калі там хтосьці хаваецца,—узлавана сказаў Пенкроф,—дык я гукну яго. Спадзяюся, што ён адкажа мне

І грымотным голасам марак раўнуў такое «гэй», што задрыжэлі скалы. Каланісты прыслухаліся. Ім пачулася нейкая прыглушаная валтузня ў Гранітным палацы. Але ніхто не адказаў на вокліч Пенкрофа.

Той зноў закрычаў:

— Гэй, хто там?

Зноў ніякага адказу.

У гэтым здарэнні было штосьці такое, што здзівіла-б нават самых флегматычных людзей. Каланісты-ж былі людзьмі, якіх вельмі кранала ўсё, што адбывалася. У іх становішчы кожная самая нязначная падзея магла прывесці да сур'ёзных вынікаў, і ўжо, вядома, за ўсе сем месяцаў іх прабыцця на востраве з імі не здаралася нічога такога, што-б можна было параўнаць з гэтым здарэннем.

Прыгнечаныя раптоўнасцю і дзіўнасцю таго, што рабілася, каланісты, забыўшыся на зморанасць нерухома стаялі ля падножжа Гранітнага палаца. Яны не ведалі, што падумаць, што рабіць, губляючыся ў здагадках і меркаваннях, з якіх кожная была больш недарэчнай за другую.

Наб хныкаў, засмучаны немагчымасцю вярнуцца ў сваю кухню, і якраз у такую хвіліну, калі ўсе запасы яды скончыліся і іх нельга было папоўніць.

— Сябры мае,—сказаў Сайрус Сміт,—нам застаецца толькі адно: пачакаць відна і тады ўжо дзейнічаць у залежнасці ад абставін. Прапаную гэты час правесці ў Каміне. Там мы будзем ахаваны ад непагоды, і калі не зможам павячэраць, дык хоць выспімся ўволю.

— Хто-ж усё-такі гэты нахабнік, які забраўся ў наш дом?—праказаў Пенкроф.

Ён зусім не мог пагадзіцца з думкай пра немагчымасць неадкладна вырашыць гэту задачу.

Але кім-бы ні быў гэты «нахабнік», самае разумнае, што можна было зрабіць,—гэта паслухацца парады інжынера і ісці ў Камін спаць. На кожны выпадак Топу загадалі астацца пад вокнамі Гранітнага палаца. А калі Топ атрымліваў загад, ён выконваў яго дакладна.

Храбры сабака астаўся каля падножжа сцяны, у той час, калі яго гаспадары рушылі ў напрамку берагу.

Сцвярджаць, што каланісты, вельмі змарыўшыся, моцна спалі ў гэтую ноч на пяску Каміна, было-б грубым парушэннем праўды. Для гэтага яны былі занадта ўсхваляваны загадкавым здарэннем.

Гранітны палац быў не толькі іх домам, але і складам усіх багаццяў. У ім хаваліся ўсе запасы ядзы, зброя, прылады, інструменты, баявыя прыпасы і т. д. і інш. Каб усё гэта загінула, ім давялося-б з самага пачатку ладзіць сваю гаспадарку. Гэта было-б вялікім няшчасцем!

Вельмі непакоячыся, каланісты штохвіліны выходзілі з Каміна, каб зірнуць, ці вартуе Топ. Адзін Сайрус Сміт трымаўся спакойна і цярпліва чакаў раніцы, не зважаючы на тое, што яго дапытлівы розум ніяк не мог пагадзіцца з тым, што ён сам і яго спадарожнікі знаходзіліся ў залежнасці ад нейкіх таямнічых уплываў, якіх інжынер нават не мог назваць.

Гедэон Спілет быў зусім згодзен з інжынерам, і яны некалькі разоў напоўголас пачыналі гутарку пра загадкавыя падзеі, вытлумачыць якія яны не маглі, не гледзячы на ўвесь свой розум і жыццёвы вопыт.

Адно было бясспрэчна: востраў захоўваў нейкую таямніцу, пранікнуць у якую каланісты ў гэты час не маглі.

Герберт не ведаў, што і думаць пра ўсё гэта, але не адважваўся распытваць у інжынера.

Што датычыць Наба, дык ён сказаў сам сабе, што ўсе гэтыя падзеі павінны больш турбаваць не яго, а яго гаспадара, і, калі-б ён не баяўся пакрыўдзіць абыякавасцю таварышоў, слаўны хлопец праспаў-бы ўсю ноч таксама спакойна, як ён звычайна спаў у Гранітным палацы.

Больш за ўсіх хваляваўся Пенкроф. Ён сапраўды аж шалеў.

— З нас нехта насміхаецца!—злаваўся ён.—Я цярпець не магу, каб хто з мяне насміхаўся! Слова гонару, гэтаму блазну лепш-бы было не трапляцца мне пад руку!

Як толькі паказаліся першыя прамені зары, каланісты, зарадзіўшы стрэльбы падняліся на пласкагор'е Далёкага віду. Каля пяці гадзін раніцы сонца асвятліла зачыненыя аканіцы і ўкрытыя зялёнінай вокны Гранітнага палаца.

Гучны крык вырваўся ў каланістаў: дзверы, якія яны ўчора зачынілі перад адыходам, былі насцеж адчынены.

Нехта заняў Гранітны палац. Сумненняў не магло быць.

Верхняя частка вераўчанай лесніцы, працягнутая ад дзвярэй да пляцоўкі, была на сваім месцы. Але другая палова лесніцы была паднята ўгару, да дзвярэй. Як відаць, няпрошаныя госці не хацелі, каб іх турбавалі. Даведацца, хто яны і колькі іх, было пакуль немагчыма: ніхто не паказваўся ў дзвярах.

Пенкроф зноў крыкнуў.

Адказу не было.

— Ах, нягоднікі!—гукнуў марак.—Яны спяць так спакойна, нібы ў сваіх ложках. Ах, піраты, бандыты, разбойнікі!

Ніхто не адказваў на яго крыкі. Каланісты гатовы былі не паверыць, ці сапраўды заняты Гранітны палац, але становішча лесніцы неабвержна сцвярджала гэта; больш таго, можна было напэўна сказаць, што няпрошаныя госці і цяпер знаходзяцца ўнутры палаца. Як дабрацца да іх?..

Герберту прыйшла ў галаву думка прывязаць за канец стралы вяровачку і выстраліць гэтай стралою з лука, цэлячыся ў апошнія ступенькі лесніцы, якія звісалі з парога дзвярэй. Калі страла пройдзе між двух папярочын, можна будзе, пацягнуўшы за вяровачку, спусціць лесніцу на зямлю і аднавіць зносіны з Гранітным палацам.

Іншага выйсця не было, а гэтае, калі не ад першага, дык ад дзесятага стрэлу, але павінна мець вынік. На шчасце, запасы стрэл і лукаў захоўваліся ў адным з калідораў Каміна; там былі і доўгія вяроўкі з лёгкіх сцяблоў гібіска.

Пенкроф прывязаў вяроўку да хваста стралы і падаў Герберту. Юнак пацягнуў цяціву лука і з найвялікшай стараннасцю прыцэліўся ў звіслае звяно лесніцы.

Сайрус Сміт, Гедэон Спілет, Наб і Пенкроф адышліся на некалькі крокаў, каб наглядаць за тым, як будуць рэагаваць на гэта захопнікі Гранітнага палаца. Журналіст прыставіў да пляча карабін і прыцэліўся ў адчыненыя дзверы кватэры.

Страла свіснула, цягнучы за сабою вяроўку, і праляцела паміж першай і другой папярочынай.

Першы-ж стрэл папаў у цэль.

Герберт у тую-ж секунду пацягнуў другі канец вяроўкі. Але з дзвярэй высунулася рука, і, наляту пераняўшы лесніцу, уцягнула яе ў сярэдзіну памяшкання.

— Ах, нягоднік!—зароў марак.—Ну пачакай, я цябе накармлю свінцовымі арэшкамі!

— Але хто гэта?—запытаў Наб.

— Як? Ты не бачыў?

— Не.

— Ды гэта-ж мартышка, гарыла, аранг-утан, шымпанзе, макака! Малпы—вось хто захапіў Гранітны палац у часе нашай адсутнасці!

У гэтую хвіліну, нібы для таго, каб пацвердзіць правільнасць заявы марака, некалькі чацверарукіх, расчыніўшы акяніцы, паказаліся ў вокнах Гранітнага палаца. Яны павіталі сапраўдных гаспадароў памяшкання тысяччу крыўлянямі і грымас.

— Я не сумняваўся, што гэта жарт!—усклікнуў Пенкроф.—Але зараз адзін з гэтых жартаўнікоў заплаціць за ўсіх астатніх.

Кажучы гэта, марак прыставіў стрэльбу да пляча і стрэліў. Усе малпы ўмомант пахаваліся ў сярэдзіне будынка, апрача аднае параненай на смерць, якая паляцела на зямлю.

Гэта была вялікая жывёліна, якая безумоўна належала да сямейства чалавекападобных.

Герберт з першага-ж позірку пазнаў у ёй аранг-утана.

— Якая выдатная звярына!—усклікнуў Наб.

— Можа яна і выдатная,—пахмура адказаў Пенкроф,— але я ўсё-такі не ведаю, як мы трапім зноў у Гранітны палац!

— Герберт выдатны стралок,—сказаў журналіст,—і стрэл у яго дастаткова. Няхай ён зноў паспрабуе.

— Нічога не выйдзе,—запярэчыў Пенкроф,—гэтыя морды хітрыя! Яны не выпусцяць лесніцы... Калі я падумаю, чаго яны там натварылі ў нашых кладовых, у мяне ў вачах цямнеецца...

— Цярплівасць, Пенкроф!—параіў журналіст.—Малпам не ўдасца доўга дурыць нас...

— Я паверу гэтаму, калі апошняя з іх спусціцца ўніз. Ага, да рэчы, містэр Спілет, колькі дзюжын гэтых жартаўнікоў забралася да нас, як вы мяркуеце?

Немагчыма было адказаць на гэтае пытанне, бо малпы больш не паказваліся ў вокнах. Герберту зноў пашчасціла зачапіць стралою лесніцу, але, калі яе пачалі цягнуць уніз, яна не падавалася, і вяроўка перарвалася.

Становішча каланістаў было сапраўды цяжкае. Пенкроф шалеў. У гэтым здарэнні быў свой смешны бок, але каланістам было не да смеху. Яны не сумняваліся цяпер, што раней ці пазней здолеюць вярнуцца ў Гранітны палац, але калі і як—гэтага яны і самі не ведалі.

На працягу наступных двух гадзін становішча не змянілася. Малпы не паказваліся ў вокнах. Толькі разы тры ці чатыры чорныя рукі высоўваліся з шчылін акон, але, спатканыя стралянінай, зараз-жа знікалі.

— Давайце схаваемся,—прапанаваў інжынер.—Малпы падумаюць, што мы пайшлі, і зноў пакажуцца ў вокнах. Тады Спілет і Герберт лёгка пераб'юць іх.

Прапанова інжынера была прынята, і, у той час, калі Герберт і журналіст, найлепшыя стралкі калоніі, схаваліся за скаламі, Наб, Сайрус Сміт і Пенкроф пайшлі ў лес на паляванне: час снедання надышоў, а ў каланістаў не было ніякіх запасаў харчу.

Праз поўгадзіны паляўнічыя вярнуліся з некалькімі галубамі. Наб сасмажыў дзічыну на агні. Малпы ўсё яшчэ не паказваліся.

Гедэон Спілет і Герберт, паставіўшы на варце Топа, таксама пайшлі снедаць, а потым зноў вярнуліся ў засаду.

Прайшло яшчэ дзве гадзіны, але нішто не змянілася. Чацверарукія не выказвалі ніякіх адзнак жыцця. Можна было падумаць, што яны пакінулі палац. Але гэта было малаверагодна. Хутчэй за ўсё, напалоханыя грукатам стрэлаў і гібеллю аднаго з сваіх, яны ціха сядзелі ў глыбіні пакояў або ў кладовых. Калі каланісты думалі пра рэчы, якія там ляжалі, іх цярплівасць пачынала хутка праходзіць і замянілася зусім апраўданай злосцю і шаленствам.

— Не, гэта занадта недарэчна!—сказаў журналіст.— А галоўнае тое, што такое становішча можа цягнуцца бясконца доўга!

— Чорт пабяры, трэба-ж што-небудзь прыдумаць, каб выгнаць гэтых малпаў!—усклікнуў Пенкроф.—Мы-б справіліся з імі, нават калі-б іх там было дваццаць штук... Але для гэтага патрэбна, каб яны прынялі бой... ці няма якога-небудзь спосабу дабрацца да іх?

— Ёсць адзін,—адказаў інжынер, якому, як відаць, прышла ў галаву нейкая думка.

— Адзін спосаб?—запытаў Пенкроф.—Што-ж, напэўна, ён добры, калі няма іншых. А які ваш спосаб?

— Спусціцца ў Гранітны палац па старым сцёку возера,— адказаў інжынер.

— Тысяча чарцей!—усклікнуў марак.—І як гэта я не падумаў пра гэта?

Сапраўды, іншага спосабу выгнаць малп з палаца ў каланістаў не было. Шчыліна сцёку, як вядома, была замуравана змацаванымі цэментам каменнямі; але можна было разабраць гэту сцяну. На шчасце, Сайрус Сміт яшчэ не ажыццявіў свайго праекта—схаваць гэтую шчыліну, зноў падняўшы ўзровень вады ў возеры. Тады-б гэта работа заняла значна больш часу.

Пад поўдзень, узяўшы рыдлёўкі і кіркі з Каміна, каланісты прайшлі зноў пад вокнамі Гранітнага палаца, каб узабрацца на пласкагор'е Далёкага віду. Топа яны пакінулі вартаваць каля падножжа сцяны. Але не прайшлі яны і пяцьдзесят крокаў, як пачуўся злосны брэх сабакі.

Каланісты спыніліся.

— Бяжым!—крыкнуў Пенкроф.

І ўсе на ўвесь дух паімчаліся назад.

Падбегшы да палаца, яны ўбачылі, што становішча змянілася.

Малпы, нечым напалоханыя, уцякалі. Дзве-тры з іх скакалі з акна на акно са спрытнасцю акрабатаў. Яны не спрабавалі нават спусціць лесніцу, забыўшы, як відаць, ад страху, пра гэты просты спосаб уцёкаў. Каланісты прыцэліліся і стрэлілі. Ні адзін зарад не прапаў дарма. Дзве-тры малпы, раненыя ці забітыя, паваліліся ў сярэдзіну пакояў. Астатнія зваліліся з вышыні і разбіліся аб зямлю.

Праз некалькі хвілін у Гранітным палацы нібы ўсё вымерла.

— Ура!—гукнуў Пенкроф.—Ура! Ура!

— Ці не рана крычаць «ура»?—сказаў яму Гедэон Спілет.

— Чаму рана? Усе-ж ворагі забітыя,—адказаў марак.

— Магчыма. Але гэта не дапаможа нам вярнуцца дадому.

— Што-ж, пойдзем да старога сцёку. Прыдзецца, хоць лепей было-б...—пачаў інжынер.

Але яму не давялося скончыць сказу: лесніца раптам саслізнула з парога дзвярэй і, выпрастаўшыся, упала на зямлю.

— Ах, чорт вазьмі!—усклікнуў марак.—Гэта дык здорава!

І ён дапытліва зірнуў на Сайруса Сміта.

— Залішне здорава!—прамармытаў той і першы рынуўся да лесніцы.

— Сцеражыцеся, містэр Сміт,—папярэдзіў яго Пенкроф.—Там, магчыма, яшчэ асталіся малпы!

— Пабачым!—крыкнуў, бягучы інжынер.

Усе каланісты рушылі за ім. Праз хвіліну яны дабраліся верху. Пакоі былі пустыя. Кладовыя асталіся некранутыя.

— А лесніца як?—дзівіўся Пенкроф.—Хто-ж скінуў яе нам?

У гэтую хвіліну пачуўся крык, і вялікая малпа, што схавалася ў цёмным калідоры, убегла ў пакой; за малпаю гнаўся Наб.

— Ах, разбойнікі!—крыкнуў Пенкроф і, узмахнуўшы тапаром, хацеў рассячы чэрап аранг-утану, але інжынер стрымаў яго руку.

— Пашкадуйце яе, Пенкроф,—сказаў ён.

— Пашкадаваць гэтую морду?

— Так, гэта яна скінула нам лесніцу!

Інжынер сказаў гэта такім дзіўным тонам, што цяжка было зразумець, жартуе ён ці кажа насур'ёз.

Каланісты ўсе разам навaліліся на малпу, і пасля працяглай барацьбы паваліі яе на падлогу і звязалі.

— Ух!—з палёгкаю ўздыхнуў Пенкроф.—А што мы цяпер будзем рабіць з ёю?

— Мы зробім з яе слугу,—адказаў Герберт.

Хлапец не жартаваў, кажучы гэта. Ён ведаў, што гэтую разумную жывёлу лёгка выдрэсіраваць.

Каланісты разглядалі свайго палоннага: гэта быў прадстаўнік таго віду чалавекападобных малпаў, тварны вугал якога толькі крыху вастрэйшы за тварны вугал аўстралійцаў або гатэнтотаў[1].

Аранг-утаны адрозніваюцца ад сваіх родзічаў—лютых бабуінаў, лёгкадумных макак, брудных сагуінаў—сваім амаль што чалавечым розумам. Прыручаныя аранг-утаны ўслугоўваюць у часе яды, прыбіраюць пакоі, чысцяць вопратку, камашы, прывучаюцца карыстацца нажом, відэльцам, лыжкай, і нават піць віно таксама, як... самы паслухмяны слуга. Вядома, што ў славутага французскага даследчыка прыроды Бюфона была такая малпа, якая доўгі час аддана ўслугоўвала яму.

Аранг-утан, якога злавілі каланісты, быў вялізным самцом вышынёю ў шэсць футаў, прапарцыянальна складзеным, з шырачэзнымі грудзьмі і невялікай галавой; тварны вугал яго дасягаў шасцідзесяці пяці градусаў, чэрап быў закруглены, шэрсць была мяккая і бліскучая. Адным словам,

[1] *Тварны вугал*—вугал, які складаецца ад двух скрыжаваных ліній: першы - ад сярэдзіны паміж брывей да прамежку паміж пярэднімі разцамі і другі—ад гэтага прамежку да знадворнай шчыліны вушэй. У часы Жуль Верна лічылі, што чым ніжэйшы ўзровень развіцця расы, тым больш востры яе вугал на твары. Сучасная навука адкідае гэтую тэорию.

гэта быў выдатны ўзор чалавекападобнай малпы. Яго вочы, крыху меншыя, як у чалавека, свяціліся розумам. Белыя зубы наблісквалі над густымі вусамі, а на падбароддзі вілася кучаравая бародка.

— Вось дык прыгажун!—сказаў Пенкроф.—Каб ведаць яго мову, можна-б было шпарка згаварыцца з ім.

— Скажыце, містэр Сміт, вы не на жарты мяркуеце ўзяць гэтую зверыну дзеля паслуг?—запытаў Наб.

— Так, Наб, і ён будзе вельмі добрым слугою,—адказаў інжынер.—Ён малады, таму няцяжка будзе яго выхаваць. Нам не давядзецца вырываць у яго клыкі і біць яго, як гэта робяць, навучаючы старых аранг-утанаў. Калі мы будзем добра абыходзіцца з ім, ён хутка прывяжацца да нас.

Пенкроф, які, відаць, ужо забыўся пра свае крывавыя планы расправы з «жартаўнікамі», падышоў да малпы.

— Ну што, дружа,—сказаў ён,—як ты сябе адчуваеш?

Аранг штосьці прабурчэў.

— Хочаш уступіць у лік сяброў нашай калоніі? Так, ці што?

Малпа зноў штосьці буркнула.

— І пенсіі вялікай не папросіш?

Адказ малпы гэтым разам быў яўна сцвярджаючым.

— Яго гаворка зніжаецца ў якасці ад манатоннасці,— заўважыў інжынер.

— Нічога, містэр Сміт, лепшыя слугі—гэта тыя, хто менш гаворыць. І потым, ён не патрабуе пенсіі! Але ты не бядуй,—звярнуўся марак да малпы,—калі мы будзем задаволены табою, атрымаеш адразу за ўвесь час!

Такім чынам калонія папоўнілася яшчэ адным членам. Па прапанове Пенкрофа, аранг-утана назвалі «Юпітэрам», а скарочана—«Юпам».

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

*Планы чарговых работ.—Мост цераз раку.—Пад'ёмны мост.—Ураджай пшаніцы.—Ручаёк.—Мосцікі,—Птушнік.—Галубятня.—Два анагры.—Запражка.—Паездка ў порт Шара.*

Такім чынам каланісты пасяліліся зноў у сваім жыллі. Вельмі ўдалым было тое, што жах ахапіў зграю малпаў у тую хвіліну, калі каланісты надумаліся разбурыць загародку ранейшага вадасцёку. Няўжо жывёла ўчула, што на не збіраюцца зрабіць напад з другога боку? Гэта было адзінае, але малаверагоднае тлумачэнне нечаканай панікі сярод малпаў.

Да захаду сонца каланісты паспелі перанесці ў лес і закапаць трупы малпаў і навесці парадак у Гранітным палацы

Малпы, на шчасце, толькі параскідалі рэчы, нічога не папсаваўшы. Наб распаліў агонь і прыгатаваў сытны абед, які ўсім вельмі спадабаўся.

Не забыліся пры гэтым і на Юпа — ён атрымаў сваю порцыю міндаля і карэнняў. Пенкроф развязаў яму рукі, але вырашыў не развязваць ног да таго часу, пакуль аранг-утан не прызвычаіцца да новай абстаноўкі.

Перад тым як легчы спаць Сайрус Сміт і яго таварышы абмеркавалі планы неадкладных работ. Першай і самай неабходнай была пабудова маста цераз раку Падзякі; гэты мост павінен быў злучыць Гранітны палац карацейшай дарогай з паўднёвай часткай вострава. Затым патрэбна было пабудаваць загон - караль - для муфлонаў і іншай шэрстаноснай жывёлы, якую каланісты меркавалі злавіць жывою. Неабходна было як след наклапаціцца пра адзенне: цераз мост можна перавезці ў Гранітны палац абалонку шара, з якой можна пашыць бялізну, насельнікі караля дадуць воўну для зімняй вопраткі.

Сайрус Сміт хацеў пабудаваць караль ля вытокаў Чырвонага ручая, бо там была для жывёлы паша з найлепшай, сакавітай травою. Дарога паміж Чырвоным ручаём і Гранітным палацам часткова ўжо была працярэблена, і перавозка грузаў адтуль была-б вельмі нескладанай справай, асабліва калі-б пашчасціла злавіць якую-небудзь запражную жывёлу: тады-б замест нязграбнай тачкі каланісты зрабілі-б вялікія калёсы.

Але калі не было ніякіх невыгод у тым, каб караль знаходзіўся воддаль Гранітнага палаца, дык птушнік павінен быў быць пад бокам. Таму будаваць яго вырашылі на беразе возера, непадалёк ад старога вадасцёку.

На другі дзень, 3 лістапада, серыя новых работ пачалася. Усе рабочыя рукі былі прыцягнуты да адказнага будаўніцтва—маста.

Узваліўшы на плечы пілы, тапары, калуны, малаткі, нагаяўленыя цесляры спусціліся да падножжа Гранітнага палаца.

Там Пенкроф раптам спыніўся і сказаў:

— А што, калі містэр Юп зноў надумаецца падняць угару лесніцу, якую ён учора так ласкава скінуў нам?

— Прывяжам яе ніжні канец,—адказаў інжынер.

Так і зрабілі: у пясок убілі два калы і да іх моцна прывязалі лесніцу.

Затым каланісты падняліся ўздоўж левага берагу да павароту ракі Падзякі. Агледзеўшы берагі, інжынер вырашыў, што гэта месца зусім падыходзіць для пабудовы маста Сапраўды, адсюль да порта Шара, адкрытага два дні таму

назад, было не больш трох з паловаю міль. Тут няцяжка было пабудаваць праездную дарогу і такім чынам надзвычай спрасціць зносіны Гранітнага палаца з паўднёвай часткай вострава.

Сайрус Сміт сказаў таварышам пра свой план, вельмі просты і адначасова вельмі дасціпны.

Інжынер задумаў няйначай, як штучна акружыць пласкагор'е Далёкага віду вадою, каб засцерагчыся ад няпрошаных чацвераногіх і чацверарукіх наведвальнікаў.

Разам з гэтым не толькі сам Гранітны палац, але і Камін, будучы птушнік, і верхняя частка пласкагор'я Далёкага віду, дзе меркавалі зрабіць поле для засеву збожжа, былі-б агароджаны ад нападу жывёлы.

Праект інжынера было вельмі лёгка ажыццявіць—пласкагор'е—і так было з трох бакоў абкружана вадою: з паўночнага ўсходу—возерам Гранта, з поўначы—новым вадасцёкам, з усходу—да вусця ракі Падзякі—морам і, нарэшце, з поўдня—часткова самою ракою Падзякі, ад яе вусця да павароту, цераз які каланісты хацелі цяпер пабудаваць мост.

Аставалася такім чынам неахаванай толькі заходняя частка пласкагор'я, паміж паваротам ракі і паўднёвай аканечнасцю возера, даўжынёю не больш адной мілі. Тут лёгка можна было выкапаць шырокую і глыбокую канаву і напоўніць яе азёрнай вадою, лішак якой будзе сцякаць адразу ў раку Падзякі. Вядома, узровень вады ў возеры ад гэтага зноў крыху панізіцца, але, вылічыўшы дэбіт[1] вады Чырвонага ручая інжынер палічыў яго дастатковым для ажыццяўлення гэтага праекта.

— Такім чынам,—закончыў сваю прамову інжынер,—усё пласкагор'е ператворыцца ў сапраўдны астравок, які будзе злучаны з астатнімі нашымі ўладаннямі мастом, які мы цяпер будуем, двума масткамі, якія мы пабудавалі ўжо ўверсе і ўнізе вадасцёку, і, нарэшце, яшчэ двума мастамі, якія нам давядзецца пабудаваць цераз канаву.

Усе гэтыя масты і масткі мы зробім пад'ёмнымі і такім чынам зусім абаронім сябе ад усякіх нечаканасцей.

Каб больш зразумелым стаў план для таварышоў, Сайрус Сміт начарціў яго на пяску. Усе ўхвалілі гэты план, і Пенкроф, падняўшы свой малаток, крыкнуў: «Ура!»

— Значыць, пачнем з вялікага маста!—сказаў інжынер.

Выбраўшы патрэбныя дрэвы, каланісты павалілі іх,

---

[1] *Дэбіт*—колькасць вады або іншай вадкасці, якая выцякае з якой-небудзь крыніцы за пэўны час.



16. Таямнічы востраў.

абцерабілі галлё і нарэзалі на бярвенне. Мост, нерухомы ў той частцы, якая прытыкалася да правага берагу ракі, з боку левага берагу павінен быў быць пад'ёмным. Пад'ём і спуск гэтай часткі павінны былі рабіцца пры дапамозе процівагі, як на шлюзах.

У гэтым месцы рака была ў шырыню прыблізна восемдзесят футаў. Каланісты капром забілі ў раку сваі для падтрымкі нерухомай часткі маста. Па разліках інжынера, мост мог вытрымаць значную нагрузку. Работа гэтая была вельмі цяжкая і зацяжная. На шчасце ў каланістаў не было недахопу ні ў інструментах для апрацоўкі дрэва, ні ў жалезе і цвіках для мацавання, ні ў вынаходлівасці кіраўніка, ні ў добрай волі рабочых, якія напрактыкаваліся на рознай фізічнай рабоце за гэтых сем месяцаў. Трэба зазначыць, што Гедэон Спілет працаваў не толькі не горш за астатніх, але не без поспеху спаборнічаў па ўмельству і спрыту з Пенкрофам, прымушаючы марака прызнацца, што «нічога такога ён не спадзяваўся ад звычайнага газетчыка».

Пабудова маста заняла цэлыя тры тыдні. Каланісты снедалі і абедалі тут-жа на пабудове і варочаліся ў Гранітны палац толькі начаваць. Надвор'е праз увесь час было добрае. За гэты час Юп паступова асвойваўся з новай абстаноўкай і прызвычаіўся да сваіх гаспадароў, хоць усё яшчэ пазіраў на іх з вялікай цікаўнасцю. Пенкроф не даў яму яшчэ поўнай волі, адкладаючы гэта да таго часу, пакуль Гранітны палац не будзе абкружан непераходным ровам.

20 лістапада мост быў закончаны. Яго рухомую частку, ураўнаважаную процівагою, можна было падымаць і апускаць вельмі лёгка. Пры паднятай рухомай частцы паміж нерухомай часткай і берагам аставаўся прасвет на дваццаць футаў у шырыню, якога ставала для таго, каб спыніць набег няпрошанай жывёлы.

Цяпер трэба было пракапаць канаву.

— Канава зробіць наш птушнік недасягальным для лісоў і іншых драпежнікаў,—сказаў Пенкроф.

— Ужо не кажучы пра тое, што тады можна будзе перасадзіць на пляцоўку над палацам розныя карысныя расліны,—дадаў Наб.

— І апрацаваць другое поле пад пшаніцу,—з урачыстым выглядам закончыў марак.

Сапраўды, першы «засеў» пшаніцы, які складаўся з аднаго зярняці, дзякуючы догляду Пенкрофа, ураднай вельмі добра. «Жніва» дало дзесяць каласоў, як і прадказаў ін-

жынер, а ў кожным коласе было па васьмідзесяці зерняў. Такім чынам за шэсць месяцаў—гэта забяспечвала два ўраджаі за год—каланісты атрымалі восемсот зерняў.

Семсот пяцьдзесят зерняў—пяцьдзесят каланісты на кожны выпадак пакінулі ў запасе—патрэбна было пасеяць на новым месцы так-жа старанна, як і першае, адзінае зерня.

Апрацаваўшы «поле», каланісты абгарадзілі яго высокім парканам з завостранымі колікамі, каб закрыць доступ жывёле. Каб адганяць птушак, Пенкроф зрабіў некалькі пудзілаў, якія сведчылі пра яго багатую фантазію. Пасля гэтага кожнае з сямісот пяцідзесяці зерняў было пасаджана ў асобую ямку і пакінута на клопаты прыроды.

21 лістапада Сайрус Сміт праклаў трасу канавы, якая злучала кальцо вады вакол Гранітнага палаца. Пласт зямлі, які ляжаў на граніце, быў у таўшчыню не больш двух-трох футаў. Таму давялося зноў скарыстаць нітрагліцэрын, і на працягу пятнаццаці дзён у граніце была вырыта канава шырынёю на пятнаццаць і глыбінею на шэсць футаў.

Зноў нітрагліцэрын падарваў гранітную перамычку паміж возерам і канаваю, і новы ручай, які каланісты назвалі «Гліцэрынавым», пацёк у раку Падзякі. Як і прадбачыў інжынер, узровень возера зноў панізіўся, але вельмі нязначна.

Да паловы снежня закончыліся ўсе работы па ператварэнню Гранітнага палаца ў востраў. Атрымаўся няправільны пяцівугольнік, які быў у перыметры каля чатырох міль; акружаны кальцом вады, ён зрабіўся зусім недаступным для ўсякага нападу звонку.

Не гледзячы на спякоту, каланісты вырашылі не спыняць работы і неўзабаве пачалі будаваць птушнік.

Не варта і казаць, што пасля таго як пласкагор'е было ператворана ў астравок, містэр Юп атрымаў свабоду. Ён не расставаўся са сваімі гаспадарамі і не выказваў ніякай ахвоты да ўцёкаў.

Юп не ведаў такіх, якія маглі-б зраўняцца з ім у майстэрстве лазіць па лесвіцы Гранітнага палаца.

Каланісты ўжо даручалі яму сякую-такую работу: пераносіць дровы, каменне, якое даставілі з дна Гліцэрынавага ручая, і т. д.

— Юп яшчэ не зрабіўся сапраўдным каменшчыкам, але «малпачка» з яго атрымалася ўдалая, —весела сказаў аднойчы Герберт, намякаючы на мянушку «малпы», якую каменшчыкі даюць сваім пасобнікам. І трэба заўважыць, што мянушка сапраўды была трапнай і заслужанай!

Птушнік быў спланаваны на паўднёва-ўсходнім беразе возера на ўчастку плошчаю на дзвесце квадратных ярдаў [1]. Абгарадзіўшы яго парканам, каланісты пабудавалі навесы і шалашы для будучых насельнікаў.

Першымі з іх былі пара тынаму, якая неўзабаве дала шматлікае патомства. Хутка да тынаму далучыліся поўдзюжыны дзікіх качак, сталых жыхароў берагоў возера. Гэтыя качкі належалі да так званай кітайскай рознавіднасці, хвост якой разгортваўся як веер, і па бляску і фарбах быў не менш прыгожы як хвост залацістых фазанаў. Праз некаторы час Герберту пашчасціла злавіць жывою і прыручыць пару курападобных з кароткім, загнутым уніз хвастом, з прыгожым сінявата-чорным пер'ем, якое ўсё было ў маленькіх круглых яйкападобных плямах. Гэта былі хахлатыя цэсаркі.

Пеліканы, зімародкі, вадзяныя куркі самі добраахвотна з'явіліся ў птушнік, і ўсё гэтае невялікае насельніцтва, пасля некалькіх сварак і боек, пачало мірна жыць і пладзіцца так шпарка, што каланісты ўжо зусім не турбаваліся пра здабыванне сабе яды.

Адзін куток птушніка быў адведзены пад галубятню. Неўзабаве ў галубятню з'явіліся першыя жыхары. Галубы прызвычаіліся варочацца на нач у сваё новае жыллё і праявілі больш схільнасці да прыручэння, чым іх родзічы—вяхіры, якія, трэба сказаць, рэдка плодзяцца ў няволі.

Настаў, нарэшце, час падумаць і пра скарыстанне абалонкі аэрастата для пашыўкі бялізны; каланісты канчаткова адмовіліся ад думкі пакінуць востраў на паветраным шары і ляцець па волі ветру над бязмежным акіянам: гэта маглі зрабіць толькі людзі, якія пазбаўлены самага неабходнага.

Вырашана было перавезці абалонку шара ў Гранітны палац, і Сайрус Сміт пачаў перарабляць цяжкую каламажку: яе трэба было зрабіць лягчэйшай і больш рухавай.

Але пытанне пра цягавую сілу паранейшаму было не вырашана: каланісты ўсё яшчэ не знайшлі на востраве жывёлы, якая-б магла замяніць у запражцы каня або асла.

— Нам больш і не патрэбна, як адна такая жывёліна,—казаў часамі Пенкроф.—Раней ці пазней містэр Сміт пабудуе паравую каламажку або сапраўдны паравоз, бо нам зусім нельга абыйсціся без чыгункі ад Гранітнага палаца да порта Шара, з веткаю да гары Франкліна.

---

[1] *Ярд*—91,44 сантыметра.

І сумленны марак шчыра верыў у тое, што гаварыў. Вось да чаго можа дайсці нястрымная фантазія!

Выпадак, які, відаць, наогул патураў мараку, падышоў неўзабаве. 23 снежня, удзень, каланісты, якія працавалі ў Каміне, раптам пачулі крык Наба і гучны брэх Топа. Мяркуючы, што здарылася нейкае няшчасце, яны спешна рынуліся да палаца.

Што-ж выявілася?

На пласкагор'е цераз апушчаны па недагляду масток зайшлі дзве буйныя жывёліны, падобныя і на коней і на аслоў. Гэта былі самец і самка, стройныя, буланай масці, з белымі нагамі, хвастом і з чорнымі палосамі на галаве, шыі і спіне.

Жывёла спакойна пасвілася на лужку, паглядаючы жвавымі, небаязлівымі вачыма на людзей, у якіх яны яшчэ не ўгадалі будучых гаспадароў.

— Ды гэта-ж анагры!—усклікнуў Герберт.

— Хіба гэта не аслы?—забедаваў Пенкроф.

— Не, Пенкроф. Бачыш, у іх кароткія вушы, ды і форма цела зусім іншая.

— А ўрэшце, гэта няважна! Гэта жывыя рухавікі, як сказаў-бы містэр Сміт, і таму іх трэба злавіць!

Марак, крадкам, каб не спалохаць жывёлу, прабраўся да мастка цераз Гліцэрынавы ручай і падняў яго. Такім чынам анагры апынуліся ў палоне.

Каланісты вырашылі прыручаць іх патроху і даць ім магчымасць на працягу некалькіх дзён беспераашкодна бадзяцца па пласкагор'і, дзе расла густая і сакавітая трава, а тым часам пабудаваць канюшню каля птушніка.

Першыя дні каланісты стараліся не падыходзіць да анаграў, каб не спалохаць іх. Анагры, відаць, смуткавалі па прасторы лясоў і палёў і цэлыя гадзіны стаялі на беразе Гліцэрынавага ручая, пазіраючы на недасяжныя цяпер для іх, аддзеленыя глыбокай канавай лясы.

Тым часам каланісты прыгатавалі збрую, перарабілі калёсы і працерабілі прасеку ў лесе, злучыўшы порт Шара простай дарогай з Гранітным палацам.

Цяпер трэба было толькі запрэгчы анаграў. Гэтым заняўся Пенкроф, які паспеў прывучыць іх есці з сваіх рук. Жывёла дазволіла ўзнуздаць сябе, але, калі яе запрэглі начала брыкацца і яе ледзь супакоілі. Але яна нарэшце аказалася нядоўга і пасля некалькіх практыкаванняў пачалі цягаць калёсы.

У адзін пагодні дзень усе каланісты паселі ў калёсы і рушылі да порта Шара. Можна ўявіць, як трэслася каланістаў

на гэтай ледзь намечанай дарозе! Тым не менш калёсы беспераашкодна даехалі да вызначанага месца, і ў іх наклалі абалонку і сетку шара.

У восем гадзін вечара воз ужо вярнуўся назад і, пераехаўшы зноў цераз мост, спыніўся каля падножжа Гранітнага палаца. Анаграў распрэглі і завялі ў канюшню, а Пенкроф перад тым як заснуць з такою асалодаю пазяхнуў, што рэха доўга не заціхала над скляпеннем Гранітнага палаца.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

*Бялізна.—Абутак з цюленевай скуры.—Выраб піраксіліна.—Сяўба.—Поспехі містэра Юпа.—Кароль.—Аблава на муфлонаў.—Новыя расліны і птушкі.*

Увесь першы тыдзень студзеня шылі бялізну. Іголкі, знойдзеныя ў скрыні, замільгалі ў неспрактыкаваных, але моцных пальцах і калі бялізна каланістаў была нязграбна скроена, дык за тое моцна сшыта.

Нітак было больш як патрэбна, бо Сайрус Сміт прапанаваў скарыстаць тыя, якімі была сшыта абалонка аэрастата. Герберт і Спілет з рэдкай цярплівасцю выцягвалі ніткі з доўгіх палацён абалонкі. Пенкроф быў вымушан адмовіцца ад гэтай работы, якая нервавала яго. Але, калі пачалі шыць, дык ніхто не мог зраўняцца з ім: усім вядома, што маракі заўсёды мелі схільнасць да кравецкага майстэрства.

Так было пашыта некалькі дзюжын рубашак і панчох, і каланісты з вялікім здавальненнем надзелі свежую бялізну іляглі спаць на пасцілкі, якіяператварылі ложкі Гранітнага палаца ў зусім прэзентабельныя пасцелі.

Адначасова быў пашыты абутак з цюленевай скуры; час быў змяніць зношаныя боты каланістаў.

У пачатку 1866 года выдалася вялікая спякота. Але паляванне праходзіла поўным ходам. Агуці, пекары, кенгуру, рознастайнай крылатай і чацвераногай дзічыны было поўна у лесе. Герберт і Гедэон Спілет зрабіліся такімі ўдалымі стральцамі, што ні адна куля не мінала ў іх цэлі.

Каб папоўніць запасы куль, якія шпарка разыходзіліся, Сайрус Сміт зрабіў шрот з жалеза—на востраве не было ніякіх прымет свінца. Але з той прычыны, што жалезныя шрацінкі былі лягчэйшыя за свінцовыя, іх давялося зрабіць больш буйнымі і, значыць, зараджаць стрэльбы меншай колькасцю іх. Але меткія паляўнічыя шпарка прылаўчыліся да гэтай невыгоды.

Пытанне пра порах таксама было на чарзе. Запасы знойдзенага пораху былі невялікія. Інжынер мог-бы зрабіць сапраўдны порах, бо ён меў селітру, серу і вугаль, але для вырабу пораха добрай якасці патрэбна добрае абсталяванне; таму Сайрус Сміт палічыў за лепшае рабіць піраксілін, карыстаючыся тым, што клятчаткі—асноўнай састаўной часткі гэтага злучэння—на востраве было ўволю.

Такую клятчатку амаль што ў чыстым выглядзе здабываюць з валакон ільну і канапель, з паперы, ануч, мякаці бузіны і т. д. Якраз бузіны гэтай на востраве былі цэлыя зараснікі ля вусця Чырвонага ручая, і каланісты скарыстоўвалі ягады гэтай расліны замест кофе.

Трэба было толькі сабраць мякаць бузіны, гэта значыць клятчатку і апрацаваць яе дымнай азотнай кіслатою. Атрымаць гэтае другое вешчаства было няцяжка, і Сайрус Сміт, маючы селітру і серную кіслату, ужо аднойчы здабыў яго.

Інжынер канчаткова вырашыў замяніць порах піраксілінам. Ён пагаджаўся з недахопамі гэтага выбуховага вешчаства—што яно лёгка ўзгараецца і ўмомант утварае газы, якія пагражаюць разарваць рулю стрэльбы,—дзеля яго вартасці. Бо піраксілін не псуецца ад вільгаці, не забруджвае рулі стрэльбы, і яго выбуховая сіла ў чатыры разы большая, чым сіла пораха.

Каб зрабіць піраксілін патрэбна было толькі апусціць клятчатку на чвэртку гадзіны ў дымную азотную кіслату, потым прамыць яе ў крынічнай вадзе і высушыць. Як бачым, гэта было вельмі проста. Такім чынам паляўнічыя атрымалі дастатковую колькасць выбуховага вешчаства, праўда, абыходзіцца з якім трэба было асцярожна, але яно затое давала добрыя вынікі.

Пакуль інжынер рыхтаваў сурагат пораха, астатнія каланісты апрацавалі паўтара гектара зямлі на пласкагор'і, не забыўшыся пакінуць дастатковую прастору пад пашу для анаграў. Зрабіўшы некалькі экскурсій у лясы Якамары і Далёкага захада, яны прынеслі дзікі шпінат, крэс, рэдзьку, якія пры правільным доглядзе павінны былі добра расці на новай глебе і аздабляць штодзённую яду каланістаў, якія паранейшаму харчаваліся амаль выключна мясам.

Тым часам Юп, які праявіў незвычайныя здольнасці, быў узвялічаны ў тытул слугі. Яму пашылі куртку, кароткія палатняныя штаны і фартух, кішэні якога страшэнна ўзрадавалі аранга. Ён заўсёды трымаў рукі ў кішэнях і нікому не дазваляў да іх дакрануцца.

Разумны аранг-утан быў надзвычай добра выдрэсіраван Набам; здавалася ён вельмі добра разумеў словы свайго

настаўніка. Юп шчыра прывязаўся да Наба, а той адказваў яму ўзаемнасцю. Калі Юп не быў заняты пераноскаю дроў або іншымі хатнімі справамі, ён увесь час праводзіў на кухні, пераймаючы кожны рух Наба. Настаўнік надзвычай цярпліва навучаў вучня, а той з свайго боку на дзіва шпарка запамінаў урокі настаўніка.

Можна сабе ўявіць захапленне каланістаў, калі ў адзін выдатны дзень Юп з сарветкай у руцэ пачаў услугоўваць ім ля стала. Спрытны і ўважлівы аранг-утан выдатна справіўся з абавязкамі афіцыянта: ён мяняў талеркі, прыносіў яду, наліваў напіткі ў кубкі. І ўсё гэта ён выконваў з спакойным і сур'ёзным выглядам, які смяшыў каланістаў і невымоўна задаволіў Пенкрофа.

За сталом толькі чулася:

— Юп, талерку супу!

— Юп, яшчэ порцыю агуці!

— Юп, вады!

— Малайчына, Юп! Юп разумны!

І Юп, не губляючыся, выконваў усе загады, сачыў за ўсім і ківаў галавою, калі Пенкроф паўтараў свой улюбёны жарт:

— Нічога не зробіш, Юп, давядзецца падвоіць вам пенсію!

Не варта і казаць, што аранг-утан асвоіўся з жыццём у Гранітным палацы. Каланісты часта бралі яго з сабою ў лес, але ён ніколі не выказваў ніякай ахвоты ўцячы ад іх. Трэба было толькі бачыць, як ён маршыраваў з пакладзенай на плячо палкай, якую яму выразаў Пенкроф!

Калі трэба было сарваць плод з вершаліны дрэва, дык, толькі міргні Юпу, і ён ужо карабкаўся па ствалу. Калі кола каламажкі загрузала ў каляіне, Юп адным штуршком пляча вызваляў яго.

— Вось дык асілак!—гукаў тады Пенкроф.—Калі-б ён быў хоць на палову такім злым, які ён слухмяны і добры, цяжка было-б з ім саўладаць!

У канцы студзеня каланісты пачалі будаваць кароль ля падножжа гары Франкліна. Кожную раніцу Сайрус Сміт, Герберт і Пенкроф запрагалі ў калёсы анаграў і ехалі за пяць міль да вытокаў Чырвонага ручая па новапабудаванай «дарозе караля».

Там, каля падножжа паўднёвага схілу гары, пад будаўніцтва быў выбран вялікі ўчастак стэпу, які зарос па краях дрэвамі і абвадняўся маленькім ручайком-прытокам Чырвонага ручая. Трава тут была густая і сакавітая.

Каланісты хацелі абгарадзіць гэты стэп плотам, такім высокім, каб цераз яго не маглі пераскочыць самыя лёгкія жывёліны; загон быў разлічан на сотню штук рагатай жывёлы і прыплод.

Пасля таго, калі інжынер вызначыў тычкамі межы будаўніцтва, каланісты пачалі секчы дрэвы. Частка ўжо была ссечана, калі пракладалі дарогу да караля, і іх трэба было толькі працягнуць на месца будаўніцтва. З ссечаных дрэў высеклі сто калоў, і гэтыя калы Пенкроф убіў у зямлю.

У пярэдняй частцы агарожы былі ўстаноўлены шырокія на дзве палавіны вароты, збітыя з тоўстых дошчак, змацаваных папярочнымі брусамі.

Пабудова караля заняла каля трох тыдняў; апрача агарожы, былі пабудаваны з дошак прасторныя хлявы, у якіх жвачная жывёла магла схавацца ад непагоды. І агарожу і хлявы давялося рабіць вельмі моцнымі, бо муфлоны— дужая жывёла і трэба было сцерагчыся іх злосці ў часе лоўлі. Канцы калоў, завостраныя і абсмаленыя ў агні, таксама былі змацаваны папярочнымі. Расстаўленыя на пэўнай адлегласці падпоры значна ўмацоўвалі пабудову.

Закончыўшы будаўніцтва, каланісты вырашылі зрабіць вялікую аблаву каля падножжа гары Франкліна, на пашы, якую часта наведвае жвачная жывёла. 7 лютага, у ясны летні дзень, яны распачалі гэтую аблаву.

Герберт і Гедэон Спілет, верхам на анаграх, якія да таго часу былі добра выдрэсіраваны, выконвалі абавязкі заганятых. Паляўнічыя стараліся абкружыць стада з усіх бакоў і пагнаць яго, наступова звужваючы круг, да адкрытых насцеж варот караля.

Наб, Сайрус Сміт, Пенкроф і Юп размясціліся ў розных месцах у лесе, у той час калі Герберт і Гедэон Спілет скакалі на анаграх, палохаючы муфлонаў. Топ усяляк дапамагаў ім у гэтай справе.

Можна сабе ўявіць, як стаміліся за гэты дзень паляўнічыя! Колькі ім давялося бегаць то туды, то сюды! З сотні абкружаных імі муфлонаў амаль дзве трэція часткі прарваліся праз кальцо аблавы. Але ў выніку каля трыццаці муфлонаў і дзесяці дзікіх коз былі падагнаны да караля. Яны рынуліся ў расчыненыя вароты агарожы, думаючы, што знайшлі дарогу ўцячы, але гэтага толькі і дамагаліся каланісты: вароты былі зачынены, і жывёла была ў палоне.

Вынік аблавы агулам задаволіў каланістаў. Большасць злоўленых муфлонаў аказаліся самкамі, якія мелі неўзабаве даць прыплод. Значыць, недалёка той час, калі кала-

ністы павінны былі атрымаць дастатковую колькасць воўны і скуры.

У гэты вечар каланісты вярнуліся ў Гранітны палац зусім знясіленыя. Аднак у наступную раніцу яны зноў накіраваліся ў караль праведаць сваіх палонных. Тыя ж відаць, прабавалі ноччу абярнуць агарожу, але, не зрабіўшы нічога, супакоіліся.

У лютым не адбылося ніякіх значных падзей. Бягучыя работы выконваліся адна за адною. Каланісты ў перапынках паміж работаю палянавалі дарогі да парта Шара і да караля і началі пракладаць трэцюю дарогу—да заходняга берагу вострава. Але густыя лясы Змяінага паўвострава паранейшаму заставаліся недаследаванымі. У іх было поўна драпежнікаў, якіх Гедэон Спілет цвёрда вырашыў знішчыць.

Перад надыходам восені каланісты патрацілі шмат часу на перасаджаныя на пласкагор'е Далёкага віду дзікія расліны. Не было таго дня, каб Герберт не прыносіў з экскурсіі якую-небудзь новую расліну. То ён знаходзіў дзікую цыкору, з насення якой пад прэсам атрымліваецца вельмі добрае масла, то звычайнае шчаўе, якое вядома за свае проціцынготныя ўласцівасці.

Гарод пасяленцаў, які ўтрымліваўся ў вялікім парадку, штодня паліваўся, быў ахаваны ад нападу птушак, ужо зелянеў акуратнымі квадрацікамі латука, шчаўя, рэпы, чырвонай бульбы і іншых гародніх раслін. Глеба пласкагор'я была надзвычай ўрадлівая, і каланісты спадзяваліся на вельмі добры ўраджай.

Напіткаў ім таксама ставала, за выключэннем віна. Апрача чаю Освего і сіропу з каранёў драцэны, Сайрус Сміт згатаваў выдатнае піва.

Гаспадарка каланістаў квітнела дзякуючы іх любові да работы, ведам і энергіі.

У спякотныя летнія вечары, скончыўшы працу, каланісты любілі адпачываць на грэбяні пласкагор'я Далёкага віду, пад навесам з паўзучых раслін, якія спецыяльна дзеля гэтага пасадзіў Наб. Яны гутарылі, дзяліліся адзін з адным ведамі, складалі планы на будучыню. Добрадушная весялосць марака заўсёды ажыўляла размовы гэтых людзей.

Вось ужо адзінаццаць месяцаў, як яны жылі на гэтым востраве, адарваныя ад усяго свету. У дзень, калі шар скінуў іх на востраў яны былі нішчаснымі людзьмі, якія не ведалі, ці змогуць яны вырваць у варожай прыроды хоць мінімум сродкаў, неабходных для падтрымання жыцця. Сёння-ж, дзякуючы ведам іх кіраўніка, дзякуючы іх розуму

і любові да працы, яны ператварыліся ў сапраўдных каланістаў і здолелі прымусіць служыць сабе расліны, жывёлу і самыя нетры вострава Лінкольна.

Яны часта размаўлялі пра гэта, без гаркоты пазіраючы ў мінулае і з надзеяй і ўпэўненасцю—у будучыню.

Сайрус Сміт больш ахвотна слухаў сваіх таварышоў, чым гаварыў сам. Часта ён усміхаўся ад якой-небудзь выхадкі Пенкрофа або ад жарту Герберта, але заўсёды і ўсюды ён разважаў пра невытлумачальныя здарэнні, пра неразгаданую да гэтага часу таямніцу вострава.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

*Надвор'е псуецца.—Гідраўлічны пад'ёмнік.—Аконнае шкло і шкляная пасуда.—Частае наведванне караля.—Рост пагалоўя.—Пытанне журналіста.—Дакладнае месцазнаходжанне вострава.—Прапанова Пенкрофа.*

У першы тыдзень сакавіка надвор'е сапсавалася. Поўня прыпала на пачатак месяца, і спёка была нястрымная. Адчувалася, што паветра насычана электрычнасцю і што павінен настаць больш або менш працяглы навальнічны перыяд.

Сапраўды, 2 сакавіка з нечуванай сілай загрукацеў гром. Вецер дзьмуў з усходу, і град забарабаніў у вокны Гранітнага палаца. Давялося шчыльна забіць вокны і дзверы, бо ўсё памяшканне палаца было-б заліта вадою.

Пенкроф, убачыўшы, што паасобныя градзінкі з галубінае яйка велічынёю, спалохаўся, што папсуецца засеў, які быў пад сур'ёзнай пагрозай. У тую-ж хвіліну ён рынуўся на пласкагор'е. Пшаніца ўжо бралася ў каласы. Марак укрыў «поле» палотнамі з абалонкі аэрастата і гэтым выратаваў ураджай, але затое град збіў марака так, што на ім не асталося жывога месца.

Непагода цягнулася восем сутак, і ўвесь час няспынна грымеў гром. У перапынках паміж двума навальніцамі да Гранітнага палаца даходзіла водгулле грому здалёку. Затым навальніца бушавала з новай сілай. У небе няспынна змяіліся маланкі. Некалькі дрэў, у тым ліку вялізная сасна на беразе возера, былі паваленыя маланкай. Два-тры разы маланка біла ў пясок, і ў гэтых месцах аставалася падобная на шкло маса расплаўленага пяску. Гэта падало інжынеру думку зрабіць шкло для засцярогі Гранітнага палаца ад дажджу, снегу і ветра.

Каланісты скарысталі дні непагоды для работы ўнутры Гранітнага палаца, мэбляванне якога з дня на дзень паляпшалася.

Інжынер сканструяваў просты такарны варштат, на якім каланісты тачылі ўсякія кухонныя прылады і туалетныя рэчы, у прыватнасці гузікі, у якіх яны адчувалі вострую патрэбу.

Для зброі, якая трымалася ў вялікім доглядзе, былі пабудаваны спецыяльныя козлы. Пакоі былі застаўлены этажэркамі, шафамі. Увесь час, пакуль было дрэннае надвор'е, у залах Гранітнага палаца не змаўкаў грукат малаткоў, скрыгатанне піл, скрып такарнага варштата, які адзываўся на водгулле грому.

Юп таксама не быў забыты. Для яго пабудавалі спецыяльны пакой каля галоўнага склада; тут для аранга была на спагатовае мяккая пасцель.

— Гэты малайчына Юп ніколі нінавошта не наракае, ніколі благога слова не скажа!—казаў часамі Пенкроф.— Які выдатны слуга!

Не варта і казаць, што Юп быў навучаны цяпер усім тонкасцям службы. Ён чысціў вопратку, пакручваў ражон, падмятаў пакоі, услугоўваў у часе яды, складаў і пераносіў дровы. Але што больш за ўсё падабалася Пенкрофу аж да замілавання—гэта тое, што Юп ніколі не ішоў спаць, не наведаўшы Пенкрофа ў спальні.

Здароўе членаў калоніі—двуногіх, двурукіх, чацверарукіх і чацвераногіх—было найлепшае. Жыццё на свежым паветры ў гэтым здаровым, умераным клімаце, фізічная праца і багатая яда загартавалі каланістаў.

Герберт вырас за год на два дзюймы. Ён прыкметна ўзмужаў, абяцаючы хутка ператварыцца ў рослага і прыгожага мужчыну. Ён карыстаўся кожнай вольнай ад фізічнай работы хвілінай, каб папоўніць свае веды, чытаючы і перачытваючы кнігі, знойдзеныя ў скрыні.

Пасля практычных урокаў, якія давала яму штодня само жыццё, ён атрымліваў урокі па матэматыцы, фізіцы і хіміі ў Сайруса Сміта і замежных моў—у Гедэона Спілета. Інжынер і журналіст з вялікай ахвотай навучалі здольнага юнака.

Патаемнай думкай інжынера было перадаць Герберту ўсе свае веды. Юнак прагна набіраўся ведаў.

«Калі я памру, ён заменіць мяне»,—думаў інжынер.

9 сакавіка бура сціхла, але неба заставалася ўкрытым хмарамі да канца гэтага апошняга летняга месяца.

У сакавіку самка анагра дала прыплод. У каралі шмат муфлонаў таксама далі прыплод, і ўжо шмат ягнят блеяла ў хляву, на вялікую радасць Герберта і Наба, у якіх былі свае любімцы сярод нованароджаных.

Каланісты паспрабавалі таксама прыручыць пекары. Вопыт удаўся. Каля птушніка быў пабудаваны хлеў, у якім неўзабаве заварушылася шмат маленькіх пекары, якія тлусцелі не за дні, а за гадзіны дзякуючы клопатам Наба.

Юп, якому даручылі дастаўляць у хлеў кухонныя адкіды, памыі і інш., старанным чынам выконваў свае абавязкі. І калі ён часамі драў сваіх маленькіх выхаванцаў за смешна вытырклыя хвосцікі, дык гэта была не злосць, а дзіцячая дурота: хвосцікі забаўлялі яго, як цацкі.

У адзін з сакавіцкіх дзён Пенкроф напамянуў Сайрусу Сміту пра абяцанне, якое той яшчэ не выканаў з прычыны недахопу часу.

— Я думаю, містэр Сміт, што зараз ужо можна пачаць будаўніцтва таго прыстасавання для пад'ёму ў Гранітны палац, якое заменіць лесніцы,—сказаў ён інжынеру.

— Вы кажаце пра пад'ёмную машыну?—запытаў інжынер.

— Называйце гэта, як вы хочаце,—адказаў Пенкроф.— Справа не ў назве, а ў тым, каб не стамляцца падымаючыся дадому.

— Гэта вельмі лёгка, Пенкроф. Але ці патрэбна гэта?

— Вядома містэр Сміт. Мы маем усё неабходнае для жыцця, ужо можна падумаць і пра выгоды. Такая машына неабходна для ўздыму цяжараў. Бо не так проста ўзбірацца па вераўчанай лесніцы з цяжкім грузам.

— Добра, Пенкроф, пастараюся задаволіць вашу просьбу

— Але-ж у вас няма машыны для таго, каб прыводзіць у рух пад'ёмнік...

— Зробім.

— Паравую?

— Не, гідраўлічную.

Сапраўды, інжынер мог скарыстаць сілу вады для работы пад'ёмніка. Для гэтага патрэбна было навялічыць сутачны прыцёк вады ў Гранітны палац з возера Гранта. Дзірка старога вадасцёку была расшырана, і ў Гранітны палац пацёк магутны струмень вады, якая круціла лопасці ўстаноўленага інжынерам цыліндрычнага вала: вераўчаны прывод ад гэтага вала круціў, у сваю чаргу, кола, устаноўленае над дзвярыма знадворку Гранітнага палаца, а да кола на моцным канаце быў падвешаны кош пад'ёмніка. Уключэнне і выключэнне гідраўлічнага «матора» рабілася пры дапамозе доўгай вяроўкі, якая звісала да самай зямлі.

17 сакавіка пад'ёмная машына ўпершыню пачала працаваць. Можна сабе ўявіць, з якім задавальненнем спаткалі

каланісты гэтае новае прыстасаванне, якое пазбаўляла іх ад працы па пад'ёму цяжараў. Асабліва задаволены быў Топ, які так і не навучыўся спрытна, як Юп, лазіць па вераўчанай лесніцы.

Затым Сайрус Сміт паспрабаваў зрабіць шкло. Яму давялося дзеля гэтай мэты перабудаваць былую ганчарную печ. Гэта было не лёгкай справай, але ўрэшце ён дамогся поспехаў, і Герберт і Гедэон Спілет, яго сталыя памочнікі, на працягу многіх дзён не пакідалі майстэрні па вырабу шкла.

Для вырабу шкла патрэбны былі пясок, мел і вуглекіслы або серністы натр. Пяску было ўволю на ўзбярэжжы, таксама, як і мелу; марскія вадаросці ўтрымлівалі соду, і, урэшце, з сернага калчадана можна было атрымаць серную кіслату. Калі-ж узяць пад увагу, што багацце каменнага вугалю дазваляла ўвесь час падтрымліваць у печы патрэбную высокую тэмпературу, дык ясна, што ў інжынера было пад рукою ўсё неабходнае для вырабу шкла.

Цяжэй за ўсё было зрабіць жалезную трубку даўжынёю на пяць—шэсць футаў, якою бяруць расплаўленую масу. Але інжынеру ўдалося сагнуць у трубку тонкі жалезны ліст, і інструмент быў гатовы.

28 сакавіка печ распалілі. Сто частак вагі пяску былі змешаны з трыццацю пяццю часткамі мелу, сарака—сярністага натра і двума часткамі растоўчанага на парашок каменнага вугалю. Сумесь гэтую ўсыпалі ў тыглі з агнятрывалай гліны. Калі ад высокай тэмпературы сумесь расплавілася, Сайрус Сміт зачарпнуў трубкай некаторую колькасць масы і пачаў круціць трубку на загадзя падрыхтаванай жалезнай доніцы, каб надаць масе форму, зручную для выдувания. Потым ён падаў трубку Герберту і прапанаваў дзьмуць у свабодны канец яе.

— Дзьмуць так, нібы пускаеш мыльны пухір?—запытаў юнак.

— Іменна так,—смяючыся, пацвердзіў інжынер.

І Герберт, надзьмуўшы шчокі, так моцна пачаў дзьмуць у трубку, увесь час круцячы яе між далоняў, што шкляная маса пачала раздувацца, як пухір. Дабавіўшы, па загаду інжынера, да гэтага пухіра яшчэ некаторую колькасць расплаўленай масы, юнак зноў пачаў дзьмуць у трубку. Так ён рабіў да таго часу, пакуль не выдзьмуў шара дыяметрам на адзін фут. Тады інжынер узяў трубку з рук юнака і, не гойдваючы яе, як маятнік, прымусіў шар выцягнуцца ў даўжыню і набыць цыліндрычную форму.

Выдуванне дало такім чынам пусты ўнутры шкляны цыліндр, закрыты з канцоў двума круглымі крышкамі. Га-

тыя крышкі адрэзалі ад цыліндра вострай жалезнай палоскай, змочанай у халоднай вадзе. Тою-ж палоскай разрэзалі цыліндр у даўжыню і пасля новага сагравання, ад якога шкло зноў набыло вязкасць, раскаталі яго на дошцы драўляным катком. Так было выраблена першае шкло. Для таго, каб атрымаць пяцьдзесят лістоў шкла, давялося пяцьдзесят разоў паўтарыць гэтую аперацыю.

Неўзабаве вокны Гранітнага палаца былі ўпрыгожаны, магчыма што, нязграбнымі, але досыць празрыстымі шыбамі.

Выраб шкляной пасуды—шклянак і бутэлек—было пустаковай справай у параўнанні з выраблам аконнага шкла. Урэшце, каланісты і не гналіся за прыгожасцю і задавальняліся тою формаю, якая выдувалася на канцы трубкі.

У часе адной з экскурсій, якую зрабілі ў лес Далёкага захада Сайрус Сміт і Герберт, юнак знайшоў дрэва, якое павінна было значна дапоўніць у ядзе каланістаў. Дрэва было ўкрыта падобнай да лускі карою, на якой расло лісце з паралельнымі тонкімі жылкамі.

— Што гэта за дрэва?—запытаў інжынер.—Яно нагадвае пальму.

— Гэта сагавая пальма, cycas revoluta, яўнакветная расліна,—адказаў юнак.—Я бачыў яго малюнак у нашай энцыклапедыі.

— Але я не бачу на ім пладоў.

— Яны і не патрэбны нам, містэр Сайрус,—адказаў Герберт,—у самым ствале ёсць нешта падобнае на муку, змолатую самой прыродай.

— Значыць, гэта хлебнае дрэва?

— Так.

— Дзіця маё,—сказаў інжынер,—ты зрабіў вельмі важнае адкрыццё, калі ты толькі не памыліўся!

Але Герберт не памыліўся. Рассекшы ствол дрэва, юны натураліст знайшоў унутры яго мучністую белую мякаць, пранізаную валокнамі і падзеленую на часткі валакністымі-ж перагародкамі. Гэтая крухмалістая маса была насычана гаркаватым, з непрыемным пахам, сокам, які лёгка можна было выціснуць. Мучністая кашка сагавай пальмы была вельмі добрым спажыўным прадуктам.

Пенкроф, які з дня на дзень усё больш захапляўся сваім востравам, запытаў па дарозе ў інжынера:

— Містэр Сміт, як вы думаеце, ці ёсць на свеце астравы для пацярпеўшых крушэнне?

— Што вы хочаце сказаць, Пенкроф?

— Я пытаюся, ці ёсць астравы, спецыяльна прыстасаваныя для пацярпеўшых крушэнне, дзе ўсё зроблена для таго, каб няшчасныя пацярпеўшыя адчувалі сябе, як дома?

— Магчыма, што ёсць,—усміхаючыся, адказаў інжынер.

— Не «магчыма», а безумоўна ёсць!—усклікнуў Пенкроф.—І таксама безумоўна, што Лінкольн—якраз такі востраў! [1]

Каланісты вярнуліся ў Гранітны палац з вялікім запасам сцяблоў хлебнага дрэва. Інжынер пабудаваў прэс для выцісканпя соку з крухмалістай кашкі, і неўзабаве ў кладовай Гранітнага палаца меліся значныя запасы мукі, якую Наб майстэрскіператвараў у пірагі і пудзінгі.

Самка анагра і козы, якія знаходзіліся ў каралі, у гэты час пачалі даваць шмат малака. З гэтай прычыны каланісты часта ездзілі ў караль на калёсах або, больш правільна, на

---

[1] Сапраўды, востраў Лінкольна нібы спецыяльна прыстасаваны для пацярпеўшых крушэнне. На ім незвычайна багата розпай жывёлы і раслін; на ім ёсць калчэдан, сера, селітра і шмат іншага.

Жадаючы стварыць востраў „спецыяльна прыстасаваны" для Рабінзонаў, Жуль Верн далёка адхіліўся ад навуковай праўды. Ён засяліў свой востраў жывёлаю, якая ніколі не жыла, ды і не магла жыць у гэтай частцы Ціхага акіяна. Такі, напрыклад, адзін з герояў кнігі—арангутан Юп. Арангі жывуць толькі на астравах Суматры і Борнео; больш іх нідзе няма. Ніякія малпы наогул не могуць жыць у гэтай частцы Ціхага акіяна, ды яшчэ на востраве вулканічнага паходжання.

Не жывуць у Амерыцы (бліжэйшы ад вострава мацярык) уласцівыя толькі некаторым часткам Азіі аднакапытныя жывёлы—анагры. Кенгуру ёсць толькі ў аўстралійскай вобласці. Не магла жыць на „таямнічым востраве" і такая жывёла, як ягуар, дзікі баран, пекары, агуці, вадасвінка шакалавая лісіца: уся гэтая жывёла ў большай або меншай ступені шырока распаўсюджана ў Паўднёвай Амерыцы, але адсутнічае на вулканічных астравах, бо ў яе няма сродкаў і спосабаў перабрацца з мацерыка на востраў.

Не маглі жыць на востраве Лінкольна і такія птушкі, як куруку, якамара, цецярукі, глушцы. Не маглі расці на ім бамбукі, эўкаліпты, сагавая пальма.

Усе гэтыя расліны і жывёла паселены на „таямнічым востраве" Лінкольна Жуль Вернам галоўным чынам для таго, каб зрабіць гэты востраў найбольш выгодным для пацярпеўшых крушэнне.

„Таямнічы востраў" таемны не толькі таму, што ў яго ёсць свая „таямніца", якая выкрываецца ў канцы кнігі. Яго жывёла і расліны—стракатая сумесь жывёл і раслін ледзь не ўсяго свету—таксама даюць яму права на гэтую назву: гэта свайго роду заапарк і батанічны сад, якія патаемным спосабам апынуліся на невялікім незаселеным астраўку ў Ціхім акіяне.

Усё гэта патрэбна мець на ўвазе, чытаючы гэтую адну з захапляючых кніг Жуль Верна, і трэба памятаць, што арангі (Юп) ніколі не мелі хваста: на ўсіх малюнках, зробленых мастаком Ф. Фера, які ілюстраваў арыгінальнае выданне Жуля Верна, аранг Юп намаляваны з вельмі доўгім хвастом. Такі аранг таямнічы не менш, чым сам востраў і таксама як не было вострава Лінкольна, так ніколі не было на зямлі хвастатага аранга, які жыў на гэтым востраве. *Заўвага рэд.*

лёгкай двухколцы, зробленай замест ранейшай нязграбнай махіны. Калі чарга ехаць прыпадала Пенкрофу, ён заўсёды браў з сабою Юпа і даручаў яму кіраваць анаграмі. Малпа, шчоўкаючы ў паветры пугай, вельмі добра спраўлялася і з гэтай справай.

Усё квітнела на востраве Лінкольна, дзе каланісты жылі ўжо больш года. Гэта было частай тэмай вячэрніх гутарак каланістаў на верандзе пласкагор'я за чашкай кофе з ягад бузіны, якое падаваў Юп.

У гэты вечар 1 красавіка, каланісты выпадкова загаварылі пра адзінотнае месцазнаходжанне вострава Лінкольна ў Ціхім акіяне.

— Да рэчы, Сайрус, ці не рабілі вы новых вылічэнняў даўгаты і шыраты нашага вострава ад таго часу, як атрымалі секстант?—запытаў Гедэон Спілет.

— Не,—адказаў інжынер.

— Я раіў-бы зрабіць. Бо ранейшыя вашы вылічэнні былі зроблены пры дапамозе вельмі недасканалых прылад.

— Навошта гэта?—запярэчыў Пенкроф.—Па-мойму, востраў знаходзіцца і так у добрым месцы.

— Бясспрэчна, Пенкроф. Але-ж ніколі не лішне ведаць дакладна, дзе знаходзішся, а з той прычыны, што пры дапамозе секстанта гэта вельмі лёгка ўстанавіць...

— Вы кажыце праўду,—сказаў інжынер.—Гэта даўно патрэбна было зрабіць, хоць я зусім упэўнены ў тым, што першае вызначэнне каардынат не вельмі далёкае ад сапраўднага.

— Але, можа, мы ўсё-ж значна бліжэй да заселенай зямлі, чым думалі?—не здаваўся журналіст.

— Даведаемся пра гэта заўтра,—сказаў інжынер.

— А я мяркую, што востраў і зараз стаіць на тым месцы, куды яго паставіў містэр Сміт,—умяшаўся марак,—калі толькі ён сам не скрануўся з месца.

— Пабачым!—засмяяўся інжынер.

На другі дзень ён узброіўся секстантам і зрабіў новыя вылічэнні каардынат вострава. У першы раз ён атрымаў наступныя прыблізныя даныя пра месцазнаходжанне вострава:

заходняя даўгата—ад 150° да 155°,
паўднёвая шырата—ад 30° да 35°.

Дакладнае другое вылічэнне дало:

заходняя даўгата—150° 30°,
паўднёвая шырата—34° 57°.

Такім чынам, не гледзячы на грубасць сваіх першых «прыбораў» Сайрус Сміт у сваіх вылічэннях памыліўся менш чым на 5°.

— А цяпер,—сказаў Гедэон Спілет,—паглядзім на карце, якія суседзі ў нашага вострава!

Герберт прынёс атлас і разгарнуў яго ў тым месцы, дзе была карта Ціхага акіяна. Інжынер з цыркулем у руках сабраўся ўжо нанесці востраў на карту, як раптам цыркуль задрыжэў у яго руцэ і ён усклікнуў:

— Дык-жа ў гэтай часцы Ціхага акіяна ёсць яшчэ адзін востраў!

— Востраў?—перапытаў Пенкроф.

— Відавочна, гэта і ёсць наш востраў?—сказаў Гедэон Спілет.

— Не,—адказаў Сайрус Сміт.—Гэты востраў знаходзіцца над ста пяцюдзесяццю трыма градусамі даўгаты і трыццацю сямю градусамі і адзінаццацю мінутамі шыраты, гэта значыць на два з паловай градусы на захад і на два градусы на поўдзень ад нашага вострава.

— А як завецца гэты востраў?—запытаўся Герберт.

— Востраў Табор.

— Вялікі востраў?

— Не, малюсенькі кавалачак зямлі пасярод воднай пустыні. Магчыма, што на яго ніколі не ступала нага чалавека.

— Што-ж, у такім разе мы першыя ступім на яго,—сказаў Пенкроф.

— Мы?

— Так, містэр Сміт. Мы набудуем вялікую шлюпку, і я вазьмуся кіраваць ёю. На якой адлегласці ад вострава Табор мы знаходзімся?

— Прыкладна за сто пяцьдзесят міль,—адказаў Сайрус Сміт.

— Толькі за сто пяцьдзесят міль?—Гэта пусцякі! Пры добрым ветры гэтую адлегласць можна адолець за двое сутак!

— Але навошта гэта нам?—запытаў журналіст.

— Ці мала што можа здарыцца... Трэба паглядзець сваімі вачамі.

І каланісты вырашылі будаваць судна, каб у кастрычніку, у пачатку новай вясны, спусціць яго на ваду.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

*Набудова карабля.—Другі збор ураджаю.—Новая расліна, больш прыемная, чым карысная.—Кіт.—Гарпун.—Разбор тушы.—Скарыстанне кітавага вуса.—Канец мая.—Пенкрофу няма чаго больш жадаць.*

Калі Пенкрофу прыходзіў у галаву які-небудзь праект, дык ён не супакойваўся, пакуль яго не выконваў. Цяпер яму захацелася наведаць востраў Табор, і, з той прычыны,

што для гэтага трэба было пабудаваць судна, ён прыставаў да Сайруса Сміта да таго часу, пакуль той не склаў эскізнага праекта гэтага судна.

Вось ён у агульных рысах: даўжыня кіля—трыццаць пяць футаў, шырыня судна—дзевяць футаў. Гэтая прапорцыя, калі яму ўдасца надаць падводнай частцы адпаведную форму, забяспечвала шпаркі ход спраектаванаму судну. Асадка яго не павінна была перавышаць шасці футаў. Палубу меркавалі наслаць праз усю даўжыню судна—ад носа да кармы—і злучыць двума люкамі з раздзеленым перагародкай на дзве каюты трумам. Судна павінна было быць аснашчана, як шлюп.

Перш за ўсё патрэбна было вырашыць, якое дрэва скарыстаць для пабудовы судна: вязы ці ёлкі. І адных і другіх на востраве было шмат. Пенкроф і інжынер абралі ёлку: гэта дрэва, якое так-жа добра, як і вяз, захоўваецца ў вадзе, лягчэй апрацоўваць.

З той прычыны, што шлюп мог быць спушчан на ваду не раней вясны, гэта значыць праз шэсць месяцаў, вырашана было, што будаваць шлюп будуць толькі Сайрус Сміт і Пенкроф. Герберт і Гедэон Спілет будуць здабываць дзічыну на яду, а Наб і яго надзейны памочнік Юп паранейшаму будуць упраўляцца па гаспадарцы калоніі.

Выбраўшы дрэвы, інжынер і марак ссеклі іх, ацерабілі ад галля і распілавалі на дошкі са спрытам прафесіянальных пільшчыкаў. Праз восем дзён у выемцы паміж гранітнай сцяною і Камінам ужо была пабудавана верф, і на стапелях не вырысоўваўся грубы контур будучага судна.

Сайрус Сміт будаваў судна не ўсляпую. Суднабудаўніцтва, як і большасць іншых тэхнічных праблем, было крыху вядомае для яго, і ён папярэдне вычарціў на паперы ўсе дэталі будучага судна. Пенкроф вельмі дапамог яму ў гэтай справе парадамі, бо ён некалькі год працаваў на Бруклінскай верфі і вельмі добра ведаў практыку будаўніцтва караблёў.

Можна сабе ўявіць, з якім запалам Пенкроф выконваў сваю работу! Каб не пярэчанні інжынера, ён не пакідаў-бы верфі і ноччу. Толькі аднойчы ён адарваўся ад будаўніцтва: калі трэба было збіраць другі ўраджай пшаніцы,—15 красавіка. Гэты другі ўраджай быў такі-ж удалы, як і першы, і даў тую колькасць зерняў, на якую загадзя разлічвалі.

— Пяць чацвярыкоў, містэр Сміт,—сказаў Пенкроф, падлічыўшы сваё багацце.

— Лічачы па сто трыццаць тысяч зерняў у чацвярыку, гэта складзе шэсцьсот пяцьдзесят тысяч зерняў,—сказаў ін-

жынер.— Мы пасеем зноў увесь гэты ўраджай, за выключэннем «страхавога» фонда і наступны збор дасць нам ужо чатыры тысячы чацвярыкоў.

— І ў нас будзе хлеб?

— Так, у нас будзе хлеб.

— Але давядзецца пабудаваць млын.

— Пабудуем і млын.

У трэці раз пасеялі на сапраўдным вялікім полі, але зямля была апрацавана таксама старанна, як і ў мінулыя разы, на маленькіх участках.

Закончыўшы сяўбу, Пенкроф вярнуўся да сваёй любімай работы.

Герберт і Гедэон Спілет тым часам хадзілі штодня на паляванне. Часта яны забіраліся далёка ў гушчар недаследаванага лесу Далёкага захада.

У гушчары лесу вялікія дрэвы ціснуліся адзін да аднаго так блізка, нібы для іх нехапала месца. Даследаваць гэтыя нетры было ў значнай меры цяжка, і журналіст ніколі не адважваўся заходзіць далёка ў лес, не маючы пры сабе компаса.

У часе адной з такіх экскурсій была зроблена важная знаходка, слава ад якой цалкам належала Гедэону Спілету. Гэта было 30 красавіка.

Двое паляўнічых зашлі ў лес Далёкага захада. Журналіст, які ішоў крокаў за пяцьдзесят уперадзе, вышаў на палянку, зарослую параўнаўча рэдкімі дрэвамі. Гедэон Спілет адразу звярнуў увагу на дзіўныя кусты з роўным сцяблом і мноствам галінак, на якіх было шмат кветак. Журналіст сарваў адну галінку і, павярнуўшыся да юнака, запытаў:

— Што гэта за расліна, Герберт?

— А дзе вы знайшлі яе, містэр Спілет?

— Тут, на палянцы. Там шмат такіх самых кустоў.

— Ведаеце, містэр Спілет, сваёю знаходкай вы заслужылі вечную ўдзячнасць Пенкрофа.

— Значыць, гэта табак?

— Так. Можа, не першага гатунку, але сапраўдны табак.

— Як я рад за Пенкрофа! Спадзяюся, што ён не скурыць усяго, а надзеліць і нас невялікай часткай!

— У мяне ёсць прапанова, містэр Спілет: давайце не будзем нічога казаць Пенкрофу. Прыгатуем табак з лісцяў і калі-небудзь паднясем яму напханую люльку!

— Згодзен. У той дзень нашаму мараку не астанецца нічога больш жадаць у гэтым свеце!

Паляўнічыя назбіралі шмат каштоўных лісцяў і цішком

прanеслі іх у Гранітны палац, асцерагаючыся так, нібы Пенкроф быў даглядчыкам тамажні, а яны—кантрабандыстамі.

Сайрусу Сміту і Набу расказалі пра таямніцу, але марак зусім нічога не западозрыў на працягу ўсіх двух месяцаў, якія натрабаваліся на сушку, ферментацыю і рэзку лісцяў. Увесь гэты час ён неадрыўна займаўся сваёй любімай справай. Толькі аднойчы, 1 мая, ён кінуў будаваць судна, каб разам з сябрамі-каланістамі прыняць удзел у незвычайным паляванні.

Ужо два—тры дні з вострава была відаць нейкая жывёла, якая плавала ў моры і ў якой нават здалёк можна было пазнаць кіта, у дадатак вельмі буйнага.

— Як добра было-б аўладаць ім!—усклікнуў марак.— Ах, каб у нас было хоць якое судзенца і гарпун, то я, не думаючы, пайшоў-бы на кіта! Дабыча вартая таго, каб патраціць на яе час!

— А мне хацелася-б паглядзець, як вы ўпраўляецеся з гарпуном, Пенкроф,—сказаў Гедэон Спілет.—Гэта, мусіць, цікаўна.

— Цікаўна-то цікаўна, але не зусім бяспечна. Але з-за таго што мы пазбаўлены магчымасці наладзіць на кіта паляванне, дык і не будзем рабіць яго.

— Мяне здзіўляе, што кіт апынуўся пад такім адносна высокім градусам шыраты,—сказаў журналіст.

— Што-ж тут дзіўнага, містэр Спілет?—запярэчыў Герберт.—Мы знаходзімся якраз у той частцы Ціхага акіяна, якую англійскія і амерыканскія маракі завуць «Кітавым полем». Кіты часцей за ўсё сустракаюцца ў паўднёвым паўшар'і, якраз паміж Паўднёвай Амерыкай і Новай Зеландыяй.

— Герберт кажа праўду,—пацвердзіў Пенкроф.—Мяне надварот, здзіўляе, што мы не бачылі іх да гэтага часу. Урэшце, усё гэта не так важна, калі мы не можам наладзіць на іх паляванне.

І марак, уздыхнуўшы, вярнуўся да сваёй работы. Кожны марак—рыбалоў, і калі задавальненне ад рыбнай лоўлі проста прапарцыянальна колькасці ўлову, дык можна сабе ўявіць як пакутуе кіталоў, убачыўшы кіта.

Між тым кіт, як відаць, і не збіраўся пакінуць воды вострава Лінкольна.

Гедэон Спілет і Герберт, калі яны не хадзілі на паляванне, і Наб у вольныя ад кухонных спраў хвіліны бачылі, як ён шпарка рассякаў спакойную ваду бухты Саюза ад мыса Кіпцюра да мыса Сківіцы. Кіт, грабучы хваставым плаўнікам, рухаўся ў вадзе з хуткасцю, якая часамі дасягала дванаццаці міль у гадзіну. Часам ён так блізка падплываў да

вострава Выратавання, што яго можна было разгледзець усяго—ад галавы да канца хваста. Гэты чорны кіт быў прадстаўніком амаль нашчэнт знішчанага падсямейства сапраўдных кітоў.

Відаць было, як ён выкідвае з ноздраў на вялізную вышыню фантан пары... ці вады, бо, як гэта не дзіўна, натуралісты да гэтага часу не вырашылі пытання—вадзяныя гэта пырскі або выдыхаемае цёплае паветра, якое ўмомант ператвараецца ад марозу ў пару.

Прысутнасць вялізнага млекакормячага вельмі цікавіла каланістаў, асабліва Пенкрофа, які зусім страціў спакой і не мог праз гэта працаваць. Дайшло нават да таго, што марак пачаў нават сплючы бачыць кіта і сумаваў па ім, як дзіця па цаццы.

Раніцою 3 мая каланістаў абудзіў крык Наба. Той убачыў з акна, што кіт ляжыць на мелі мыса Знаходкі, не больш як за тры мілі ад Гранітнага палаца. Відавочна, ён трапіў на мель у часе прыліву, а цяпер, у часе адліву, не мог выбрацца ў адкрытае мора. Так ці інакш, але патрэбна было паспяшыць, каб адрэзаць яму дарогу да адступлення.

Узброіўшыся пікамі з жалезнымі наканечнікамі і кіркамі, каланісты пабеглі да мыса Знаходкі і менш, як за дваццаць хвілін апынуліся каля вялізнай жывёлы.

— Якое страшыдла!—усклікнуў Наб.

Сапраўды, гэты кіт быў гіганцкіх памераў—не менш васьмідзесяці футаў у даўжыню, і важыць ён павінен быў самае меншае паўтары сотні тысяч фунтаў.

Млекакормячае ляжала нерухома, не прабуючы скарыстаць прыліў, які пачаўся, каб выбрацца ў адкрытае мора. Каланісты зразумелі прычыну гэтай нерухомасці, калі абышлі вакол гіганцкую тушу,—кіт быў мёртвы, і гарпун тырчаў у яго баку.

— Значыць, недзе блізка нядаўна былі кітабоі,—сказаў Гедэон Спілет.

— Чаму вы думаеце?—запытаў марак.

— А гарпун?

— Гарпун нічога не даводзіць, містэр Спілет,—адказаў Пенкроф. Бывае, што ранены гарпуном кіт плыве тысячы міль. Можа, гэтага кіта паранілі дзе-небудзь у Паўночным Ледавітым акіяне.

— Аднак...—пачаў Гедэон Спілет, нездаволены тлумачэннем марака.

— Гэта зусім магчыма,—перарваў яго Сайрус Сміт.— Але давайце раней агледзім гарпун, магчыма, што на ім выгравіравана назва кітабойнага судна.

Пенкроф вырваў гарпун з бока кіта і прачытаў наступны надпіс:

„МАРЫЯ СТЭЛА“
*Він'ярд*[1]

— «Він'ярд!—усклікнуў ён.—Ды гэта-ж мая радзіма! Я і «Марыю-Стэлу» ведаю. Выдатнае кітабойнае судна. Ах, сябры мае, падумайце толькі— судна з Він'ярда.

Ад таго, што нельга было спадзявацца, што «Марыя Стэла» з'явіцца па загарпуненага ёю кіта, каланісты вырашылі неадкладна разбіраць тушу, пакуль яна не пачала гніць. Галкі ўжо кружыліся над ёю, і іх даводзілася адганяць ружэйнымі стрэламі.

Кіт аказаўся самкай, і вымя яго было напоўнена малаком, якое, па думцы даследчыка прыроды Дыфенбаха, зусім замяняе каровіна малако і не адрозніваецца ад яго ні па смаку, ні па колеру, ні па саставу.

Пенкроф, які некалі служыў на кітабойным судне, кіраваў разборам тушы—досыць непрыемным заняткам, які цягнуўся тры дні. Ніхто не ўхіляўся ад гэтай работы, нават Гедэон Спілет, так што марак урэшце прызнаў яго «зусім здавальняючым кітабойцам».

Кітавы тлушч, парэзаны на кавалкі па тысячы фунтаў кожны, будзе растоплены ў гліняным пасудзе тут-жа на месцы: каланісты не хацелі атручваць паветра ў ваколіцах Гранітнага палаца. Адзін язык даў каля шасці тысяч фунтаў, а ніжняя губа—чатыры тысячы.

Апрача тлушчу, які на доўгі час забяспечыў каланістаў стэарынам і гліцэрынам, астаўся яшчэ кітавы вус, які павінен быў быць як-небудзь скарыстаны ў гаспадарцы, хоць на востраве Лінкольна ні парасоны, ні тым больш гарсеты не мелі ходу. У верхняй сківіцы кіта было восемсот рагавых пласцінак, завостраных на канцах, якія мелі выгляд зубцоў вялізнага грэбеня. Гэтыя зубцы па шасці футаў у даўжыню кожны, якія стаялі густымі радамі, служаць кіту для таго, каб затрымліваць тысячы дробных рыбак і малюскаў, якімі ён жывіцца...

Закончыўшы разбіраць тушу, каланісты ўзяліся за перарваную работу, пакінуўшы кіта марскім птушкам, якія хутка абчысцілі яго да касцей.

Але перад тым як вярнуцца на верф, інжынер заняўся нейкай аперацыяй, якая зацікавіла ўсіх каланістаў. Узяўшы дзюжыну пласцінак кітавага вуса, ён разрэзаў кожную на шэсць частак і завастрыў іх з абодвух канцоў.

---

[1] *Він'ярд*—порт у штаце Н'ю-Йорка.

— Што вы робіце, містэр Сміт?—запытаў у інжынера Герберт.

— Гэта спатрэбіцца нам, каб забіваць ваўкоў, лісоў і нават ягуараў, толькі не цяпер, а зімою, калі ў нас будзе лёд.

— Не разумею...—пачаў Герберт.

— Хутка зразумееш, мой хлопчык,—перарваў яго інжынер.—Зімою я скручу ў спіраль гэтыя палоскі і буду іх паліваць вадою да таго часу, пакуль яны зусім не абледзянеюць. Тады я пакрыю ледзяную кацёлачку пластом тлушчу і раскідаю па зямлі ў тых месцах, дзе вядзецца дзікая жывёла. Што зробіцца, калі галодная жывёла праглыне гэту прынаду? Цеплыня яго страўніка растопіць лёд, і спіралька з кітавага вуса, выпрастаўшыся, праткне сценкі страўніка.

— Вось гэта хітра!—усклікнуў Пенкроф.

— Гэта не маё вынаходніцтва, а паляўнічых—алеутаў. Але нам гэтая прынада зэканоміць порах і кулі. Значыць, пачакаем да зімы!

Між тым пабудова судна пасоўвалася наперад. Можна ўжо было бачыць яго абрысы і сказаць, што яно будзе мець выдатныя мараходныя якасці.

Пенкроф працаваў да немагчымасці шмат. Патрэбна было мець яго жалезнае здароўе, каб не паддацца стоме. Таварышы цішком рыхтавалі яму ўзнагароду за ўсю яго працу, і дзень 31 мая стаў адным з самых шчаслівых дзён у жыцці марака.

У гэты дзень пасля абеда Пенкроф як звычайна збіраўся вярнуцца на верф, калі раптам нейчая рука апусцілася на яго плячо. Гэта быў Гедэон Спілет.

Журналіст сказаў:

— Куды гэта вы спяшаецеся, дружа мой? Хіба можна ўжо ўставаць з-за стала? Вы забываецеся пра дэсерт, Пенкроф!

— Дзякую, містэр Спілет, мне не хочацца салодкага.

— Ну, дык выпіце хоць кубак кофе!..

— Таксама не хочацца. Дзякую!

— Тады, можа, люльку пакурыце?

Пенкроф ускочыў з-за стала; яго дабрадушны твар пабляднеў ад хвалявання, калі ён убачыў, што журналіст падносіць яму люльку, напханую табакам, а Герберт—распалены вугалёк.

Марак хацеў штосьці сказаць, але не мог вымавіць ні слова. Схапіўшы люльку, ён паднёс яе да губ і, распаліўшы табак, зацягнуўся разоў пяць-шэсць. Густое воблака дыму ахутала яго з усіх бакоў, і з гэтага воблака даляцеў прачулены голас, які паўтараў:

— Табак! Сапраўдны табак!..

— Так, Пенкроф, сапраўдны і добры табак,—сказаў Сайрус Сміт.

— Цяпер на нашым востраве няма ні ў чым недахопу.

І Пенкроф курыў, курыў, курыў...

— Хто знайшоў табак?—запытаў ён.—Ты, Герберт?

— Не, Пенкроф, гэта містэр Спілет.

— Містэр Спілет!—усклікнуў марак і, кінуўшыся да журналіста, прыціснуў яго да грудзей так моцна, што той доўга не мог аддыхацца.

— Ух,—сказаў ён, цяжка дыхаючы.—Вы абавязаны гэтым, Пенкроф, не толькі мне, але і Герберту, які вызначыў расліну, Сайрусу Сміту, які прыгатаваў табак, і Набу, які захаваў сакрэт.

— Сябры мае, я ніколі не забуду гэтага!—прачулена сказаў марак.—Да самай смерці буду памятаць!..

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

*Зіма.—Млын.—Нечаканая ідэя Пенкрофа.—Кітовы вус.—Паліва ў будучыні.—Топ і Юп.—Буры.—Разбурэнні на птушатніку.—Экскурсія да балота.—Сайрус Сміт астаецца адзін.—Агляд калодзежа.*

Зіма пачалася ў чэрвені месяцы, які ў гэтых месцах адпавядае снежню паўночнага паўшар'я, і галоўным клопатам каланістаў было прыгатаванне зімовага адзення. Яны абстрыглі муфлонаў караля і атрымалі найлепшай якасці воўну. Аставалася цяпер зрабіць з яе тканіну.

Сайрус Сміт, не маючы магчымасці будаваць складаныя тэкстыльныя машыны для часання, трапання і кардазання воўны, вырашыў абмежавацца вырабам так званага фетра, які атрымліваецца ад счаплення валокан у часе валення воўны звычайным драўляным вальком. Праўда, фетр жорсткі на вобмацак і нягібкі, але за тое ён лепш за іншую ваўняную тканіну захоўвае цяплыню. Да рэчы, у муфлонаў была кароткая воўна, гэта значыць якраз такая, якая патрэбна для вырабу фетра.

Пры дапамозе ўсіх астатніх каланістаў, у тым ліку і Пенкрофа, які зноў адарваўся ад пабудовы судна, інжынер пачаў падрыхтоўку воўны для валення. Перш за ўсё патрэбна было абястлусціць яе. Для гэтага воўну вымачвалі на працягу сутак у чанах з нагрэтай да сямідзесяці градусаў вадою. Потым яе добра вымылі ў вадзе з прымешкам соды. Пасля прасушкі сыравіна для валення была гатова. Аставалася пабудаваць сукнавальню.

Гэта была самая простая машына, якая дакладна капіра-

вала продка цяперашніх паравых і электрычных сукнавальных машын. Яна складалася з драўлянай рамы, карытаў, у якія накідалі воўну, таўкачоў і вала з двума кулачкамі. Вал, які прыводзіўся ў рух вадою, надымаў кулачкамі то адзін, то другі таўкач і апускаў іх у карыты з воўнай. Ад цяжару таўкачоў воўна валялася, пераблытвалася і вымалася з карыт у выглядзе войлака, аднолькава прыгоднага для вырабу коўдраў і верхняга адзення. Цяпер каланісты ва ўсеўзбраенні гатовы былі спаткаць самую халодную зіму.

Халады пачаліся ў дваццатых чыслах чэрвеня. Пенкрофу, на вялікае яго засмучэнне, давялося спыніць будаўніцтва судна. Будаўніцтва, між іншым, пасунулася так далёка наперад, што не было ніякіх сумненняў у тым, што вясною шлюп будзе спушчан на ваду.

Мараку вельмі хацелася наведаць востраў Табор. Сайрус Сміт не ўхваляў гэты намер, бо не варта было і думаць знайсці дапамогу на гэтым незаселеным і бясплодным скалістым астраўку, а падарожжа на сто пяцьдзесят міль было вялікай рызыкай для маленькага судзенца.

— Дзіўна тое, Пенкроф,—спрабаваў ён адгаварыць марака,—што вы заўсёды кажаце пра сваё нежаданне расстацца з востравам Лінкольна і першы-ж хочаце пакінуць яго!

— Толькі на некалькі дзён, містэр Сміт,—запярэчыў марак.—І толькі для таго, каб азнаёміцца з востравам Табор.

— Але-ж ён меншы і больш бясплодны як наш востраў.

— Я і не сумняваюся ў гэтым.

— Дык навошта-ж рызыкаваць сабою?

— Каб даведацца, што там робіцца!

— Але там нічога не можа рабіцца!

— Хто яго ведае!

— А калі вас заспее ў дарозе бура?

— Улетку гэтага не можа быць. Але ўсё-ж, з-за таго што ўсё трэба прадбачыць, я паеду толькі з Гербертам.

— Пенкроф,—сказаў інжынер,—кладучы яму руку на плячо,—няўжо вы думаеце, што мы супакоімся калі-небудзь, як здарыцца няшчасце з вамі або з гэтым хлопчыкам, які праз волю лёсу стаў нашым сынам?

— Абяцаю вам, містэр Сміт,—з непахіснай упэўненасцю заявіў марак,—што мы не зробім вам гэтага гора. Урэшце, зараз пра гэта яшчэ рана гаварыць, а калі мы спусцім на ваду нашага прыгажуна—шлюп—вы пераканаецеся ў яго выдатных якасцях, дык і не надумаеце адгаварваць мяне. Скажу вам па сакрэту, што мой шлюп будзе лепшым у свеце суднам!

— Вы маглі-б-сказаць н а ш шлюп,—засмяяўшыся, сказаў інжынер.

Такія гутаркі часта былі між мараком і інжынерам, але кожны аставаўся пры сваёй думцы.

Першы снег выпаў у канцы чэрвеня. Хоць у каралі былі загадзя падрыхтаваны запасы на ўсю зіму і не было патрэбы часта наведваць яго, каланісты дамовіліся, што будуць наведваць караль не менш аднаго разу у тыдзень.

Зноў былі пастаўлены пасткі, і ўпершыню была выпрабавана прынада Сайруса Сміта. Кітавы вус, скручаны спіралькай і схаваны пад пластамі лёду і тлушчу, быў параскіданы на ўзлессі, у тым месцы, дзе звычайна праходзяць на вадапой звяры.

На вялікае задавальненне інжынера, гэтая алеуцкая прынада дзейнічала надзвычай добра. На яе трапіла з дзюжына лісоў, некалькі дзікіх кабаноў і нават адзін ягуар. Усе яны былі знойдзены мёртвымі ад прабітага страўніка.

З надыходам зімы аднавіліся работы ўнутры Гранітнага палаца: папраўка адзення, розныя дробныя работы і, нарэшце, пашыўка парусоў усё з той-жа невычарпальнай абалонкі паветранага шара.

У ліпені пачаліся жорсткія маразы. Але ад таго, што каланісты не шкадавалі ні дроў, ні вугалю, у Гранітным палацы было цёпла. Сайрус Сміт зрабіў другі камін у вялікай зале, і цяпер каланісты звычайна збіраліся тут па вечарах. Яны размаўлялі, працуючы, або чыталі ў голас, калі рабіць не было чаго, і час праходзіў неўзаметку.

Каланісты сапраўды адчувалі сябе вельмі добра, распіваючы ўвечары бузінавае кофе ў ярка асветленай, добра ацепленай зале, калі на дварэ выла і раўла бура.

Сайрус Сміт, які ведаў амаль усё па тэхніцы і эканоміцы, звычайна дзяліўся па вечарах сваімі ведамі з таварышамі. Аднойчы, пасля чарговай яго лекцыі на тэму аб індустрыяльным развіцці свету, Гедэон Спілет запытаўся ў яго:

— Скажыце, паважаны Сайрус, ці не можа ў адзін які дзень тэхнічны прагрэс свету спыніцца?

— Але чаму?

— Ад таго, што не стане каменнага вугалю, гэтага самага каштоўнага з выкапнёвых багаццяў прыроды?

— Так, сапраўды, вугаль надзвычай вялікая каштоўнасць,—згадзіўся інжынер.

— І вы згодны са мною,—сказаў Гедэон Спілет, —што калі-небудзь настане дзень, калі ўсе запасы яго будуць вычарпаны?

— О, пакуль што гэтыя запасы яшчэ вельмі вялікія, і з нетраў зямлі здабываецца штогод толькі самая нязначная іх частка.

— Але-ж вы самі казалі, што разам з ростам індустрыялізацыі ўжыванне вугалю ўзрасце ў геаметрычнай прагрэсіі.

— І гэта праўда; але, з другога боку, калі нават будуць вычарпаны залежы вугалю, якія зараз распрацоўваюцца, хоць пры ўжыванні новых машын і паглыбленні шахт іх яшчэ на доўгі час хопіць, застануцца амерыканскія і аўстралійскія залежы, якія на доўгі час забяспечаць патрэбы прамысловасці.

— На колькі?—запытаў журналіст.

— Год на дзвесце пяцьдзесят—трыста

— З нас гэтага хопіць,—сказаў Пенкроф,—але нашым небаракам праўнукам будзе блага!

— Яны знойдуць якую-небудзь замену вугалю,—прамовіў Герберт.

— Трэба спадзявацца,—сказаў Гедэон Спілет.—Бо, калі не будзе вугалю, спыняцца машыны, спыняцца паязды, параходы, фабрыкі, заводы—усё тое, што рухае прагрэс.

— Але што заменіць вугаль?—запытаў Пенкроф.—Як вы лічыце, містэр Сміт?

— Вада, мой дружа,—адказаў інжынер.

— Як гэта?—усклікнуў марак.—Вада будзе грэць топкі параходаў і лакаматываў? Вада будзе награваць ваду?

— Так, але вада, разложаная на свае састаўныя часткі,—адказаў інжынер.—Ваду, хутчэй за ўсё, будуць разлагаць электрычнасцю, якая да таго часу будзе цалкам вывучана і падпарадкавана чалавеку. Так, сябры мае, я ўпэўнены, што ў недалёкім часе вада заменіць паліва, і вадарод і кісларод, якія яе ўтвараюць, будуць невычарпальнай і магутнай крыніцай цеплыні і святла. Настане дзень, калі трумы параходаў і тэндэры паравозаў замест вугалю будуць загружаны балонамі з гэтымі двума газамі, сціснутымі да мінімальнага аб'ёму, і топкі будуць награвацца іх вялізнай цёплатворнай здольнасцю. Такім чынам, баяцца за наша патомства не варта. Пакуль зямля будзе заселена, яна не будзе адчуваць недахопу ні ў святле, ні ў цеплыні, ні ў харчах, ні ў вопратцы.

— Хацеў-бы дажыць да гэтых дзён, калі вада заменіць вугаль!—сказаў марак.

— Ты занадта рана нарадзіўся, Пенкроф,—праказаў Наб, які да гэтага часу не раскрываў рота.

Але не словы Наба перарвалі гутарку. Раптам Топ забрахаў з тымі-ж інтанацыямі, якія і раней звярталі на сябе

ўвагу і непакоілі інжынера. Прадаўжаючы брахаць, сабака падбег да калодзежа, адтуліна якога знаходзілася ў канцы ўнутранага калідора.

— Чаго гэта Топ брэша?—запытаў Пенкроф.

— І Юп чагосьці завурчэў!

Сапраўды, аранг-утан далучыўся да сабакі, і абодва яны выказвалі відавочныя прыметы неспакою.

— Відавочна, нейкая морская жывёліна схавалася ўнізе калодзежа. Бо ён вядзе проста да акіяна,—паспрабаваў журналіст вытлумачыць трывогу жывёлы.

— Іншага тлумачэння не прыдумаеш,—сказаў марак. — Сціхні, Топ! Юп, пайшоў у свой пакой!

Сабака і малпа сціхлі. Юп пакорліва пайшоў у свой закамурак. Топ заставаўся ў зале і час ад часу трывожна вурчэў.

Каланісты неўзабаве забыліся пра гэтае здарэнне, але інжынер увесь вечар праседзеў хмурны і маўклівы.

У канцы ліпеня ўвесь час пазменна ішлі то дождж, то снег. Гэта зіма была больш цёплая, чым мінулая, і ніжэй 13° ртутны слупік у тэрмометры не апускаўся. Але калі халады былі не такія рэзкія, як у мінулую зіму, дык за тое буры былі больш частыя, а вецер дзьмуў амаль нясціхана. Мора некалькі разоў залівала Камін.

Каланісты, пазіраючы з акон Гранітнага палаца на вялікія хвалі, якія бяссільна разбіваліся ля падножжа іх жылля, адчувалі сябе бясконца шчаслівымі. Відовішча было сапраўды велічнае і цікавае для людзей, якім не пагражала небяспека. Хвалі, пенячыся, узляталі на вялізную вышыню і кідаліся ўсім сваім страшэнным цяжарам на бераг, дакачваючыся да гранітнага масіва, які быў падмуркам жылля каланістаў. Вадзяныя пырскі ўзляталі на сотню футаў угару.

У часе такіх бур было небяспечна хадзіць па востраву, бо вецер часта валіў дрэвы. Не зважаючы на гэта каланісты акуратна раз у тыдзень наведвалі караль. На шчасце, участак, дзе яго пабудавалі, быў атулены ад шаленства ўрагану паўднёва-ўсходнімі адгор'ямі гары Франкліна. Таму ні агарожа, ні будынкі, ні дрэвы караля не былі пашкоджаны.

За тое птушнік, які знаходзіўся на пласкагор'і Далёкага віду і таму адкрыты для ўсіх вятроў, быў добра патрапаны бурай: страха галубятні два разы была сарвана і агарожа была абернута. Усё гэта трэба было перарабляць нанава і будаваць больш моцна—востраў Лінкольна, як выявілася, знаходзіўся ў цэнтры самай дрэннай часткі Ціхага акіяна, дзе ствараюцца цыклоны, якія сцябалі яго, як пуга сцябае ваў-

чок. Толькі тут ваўчок быў нерухомы, а пуга круцілася вакол сваёй асі.

У пачатку жніўня бура крыху сціхла. Але разам з зацішшам насталі і халады, і слупік тэрмометра ўпаў да 22 ніжэй нуля.

З жніўня адбылася даўно задуманая і ўсё адкладваемая экскурсія да балота Казаркі.

Паляўнічых цягнула туды багацце птушак, якія там вяліся: дзікія качкі, цыранкі, ныркі і т. д. Таму даўно ўжо вырашана было ў першы-ж пагодні дзень рушыць туды на паляванне.

У экскурсіі прынялі ўдзел не толькі Гедэон Спілет і Герберт, але таксама Пенкроф і Наб. Сайрус Сміт адмовіўся далучыцца да таварышоў, з прычыны нібы быў заняты.

Паляўнічыя рушылі да балота на дарозе ў порт Шара, паабяцаўшы да вечара вярнуцца дадому. Топ і Юп беглі за імі. Як толькі яны перайшлі масток цераз раку Падзякі, інжынер падняў яго і вярнуўся ў Гранітны палац, каб ажыццявіць план, дзеля якога ён астаўся адзін дома.

План гэты быў у наступным: агледзець вельмі ўважліва, ад верхуданізу, калодзеж, які злучаўся з морам.

Чаму гэта Топ так часта круціўся каля яго? Чаму ён так дзіўна брахаў, падбягаючы да калодзежа? Чаму Юп заўсёд і хваляваўся разам з Топам? Можа ў гэтым калодзежы ёсць адгалінаванне, якое злучае яго з нейкай часткай сухазем'я?

Усе гэтыя пытанні Сайрус Сміт хацеў высветліць, але такім чынам, каб ніхто з яго таварышоў пра гэта не ведаў. Таму ён адкладаў агляд калодзежа да таго дня, калі яму прыпадзе аднаму астацца дома.

Інжынер вырашыў спусціцца ў калодзеж па старой вераўчанай лесніцы, якая ляжала без справы ад таго часу, калі была пабудавана пад'ёмная машына. Ён падцягнуў лесніцу да выходнай шчыліны калодзежа, дыяметр якой дасягаў шасці футаў, моцна прывязаў яе і спусціў у глыбіню. Потым, запаліўшы ліхтар і ўзброіўшыся рэвальверам і нажом, пачаў спускацца па ступеньках.

У сценах калодзежа нідзе не было відаць ніякіх шчылін. Але ў некаторых месцах ад няроўнага граніта ўтварыліся выступы, чапляючыся за якія дужае і спрытнае стварэнне магло без цяжкасці падняцца да выходнай дзіркі калодзежа. Гэтая думка прыйшла ў галаву інжынеру, але, колькі ён ні шукаў сцверджання яе, ніякіх слядоў на выступах ён не мог знайсці.

Сайрус Сміт спускаўся ўсё ніжэй, асвятляючы ліхтаром кожны міліметр сцяны, але нічога падазронага не знайшоў.

Дасягнуўшы апошніх ступенек лесніцы, ён адчуў блізкасць акіяна, паверхня якога была зусім спакойная. Нідзе ў сценах калодзежа не было ніводнай дзіркі, праз якую магло-б прабрацца жывое стварэнне. Інжынер пастукаў па сцяне рукаяткай нажа. Граніт абазваўся глуха, што сведчыла пра кампактнасць яго масіва.

Каб дабрацца да выхаду з калодзежа, патрэбна было раней прайсці праз яго надводную частку, заўсёды напоўненую вадою з акіяна. Гэта было даступна толькі якой-небудзь морскай жывёліне. Высветліць, дзе іменна канчаўся калодзеж, у якім месцы ўзбярэжжа ён злучаўся з адкрытым акіянам, інжынер не мог.

Сайрус Сміт, скончыўшы агляд, узабраўся на лесніцы,— зноў накрыў шчыліну калодзежа і, вельмі задуманы, вярнуўся ў вялікую залу Гранітнага палаца. «Я нічога не выявіў,—сказаў ён сам сабе, але усё-ж тут нешта ёсць!»

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

*Снаражэнне судна.—Напад шакалавых лісоў.—Юп ранены.—Юпа лечаць.—Юп папраўляецца.—Сканчэнне пабудовы судна.—Урачыстасць Пенкрофа.—„Шчаслівы“.—Першае выпрабаванне судна.—Нечаканае пісьмо.*

Вечарам паляўнічыя вярнуліся дадому ўсе нагружаныя дзічынаю. Яны настралялі яе столькі, колькі могуць панесці чацвера людзей. Нават Топ нёс вязанкі ныркоў, замест нашэйніка, а Юп быў апярэзаны бекасамі.

— Вось, містэр Сміт,—усклікнуў з захапленнем Наб,— гэта называецца схадзіць на паляванне! Зірніце, колькі з гэтага выйдзе вяндліны і паштэтаў! Але мне аднаму з гэтым не справіцца. Ці не дапаможаш ты мне, Пенкроф?

— Не, Наб, мне патрэбна заняцца аснашчэннем судна. Пастарайся абыйсціся без мяне,—сказаў марак.

— А вы, Герберт?

— Заўтра мая чарга ехаць у караль,—адказаў юнак.

— Тады, можа вы, містэр Спілет?

— Я з ахвотаю, Наб,—даў згоду журналіст.—Толькі папярэджваю цябе, што я пра твае кулінарныя сакрэты надрукую ў газеце.

— Гэта як вы захочаце, містэр Спілет, я нічога супроць гэтага не маю.

На другі дзень Гедэон Спілет, узвышаны ў чын памочніка кухара, астаўся на кухні. Інжынер яшчэ напярэдадні расказаў яму пра свае даследаванне, і журналіст цалкам згадзіўся

з ім, што хоць нічога падазронага і не ўдалося знайсці, але тут захавана нейкая таямніца.

Халады трымаліся ўвесь тыдзень, і каланісты выходзілі з дому толькі для таго, каб наведаць птушнік.

Увесь Гранітны палац быў насычаны апетытнымі пахамі страў, згатаваных Набам і журналістам. Але, не ўсё здабытае на паляванні было ператворана ў кансервы і паштэты. Карыстаючыся тым, што ў гэтыя халодныя дні дзічына зусім не псавалася, каланісты на працягу некалькіх дзён елі яе ў свежым выглядзе і зрабілі вывад, што на свеце няма смачнейшай яды, чым смажаніна з балотнай дзічыны.

На працягу ўсяго тыдня Пенкроф пры дапамозе Герберта сшываў парусы для шлюпа. Марак працаваў з такім захапленнем, што парусы неўзабаве былі зроблены. Вяроўкі для снасцей былі вельмі добрай якасці, бо каланісты захавалі сетку ад абалонкі паветранага шара. Матэрыялу ставала, і марак зрабіў з яго лік-тросы, гардэль, ванты і шкоты. Сайрус Сміт вытачыў, як паказаў Пенкроф для яго блокі на сваім такарскім варштаце. Такім чынам усё снаражэнне судна было падрыхтавана яшчэ да таго часу, калі закончылася будаўніцтва корпуса.

Пенкроф сшыў нават сцяг, афарбаваўшы яго палотнішча ў нацыянальныя колеры з дапамогаю розных раслін, якія паказаў яму Герберт. Толькі да трыццаці сямі зорак, якія прадстаўляюць на амерыканскім сцягу трыццаць сем штатаў рэспублікі, марак дабавіў трыццаць восьмую зорку— зорку «штата Лінкольна», бо ён лічыў востраў неадрыўнай часткай сваёй радзімы.

Чакаючы, пакуль сцяг не ўзнімецца над шлюпам. каланісты ўзнялі яго над уваходам у Гранітны палац.

Між тым зіма канчалася. Здавалася ўжо, што гэтая другая зіма на востраве пройдзе без ніякіх непрыемных здарэнняў, калі раптоўна ў ноч з 11 на 12 жніўня пласкагор'е Далёкага віду апынулася пад пагрозай поўнага спусташэння.

Пасля стомнага працоўнага дня каланісты моцна спалі. Раптам каля чатырох гадзін раніцы іх абудзіў страшэнны брэх Топа. Сабака брахаў цяпер не каля калодзежа, а каля дзвярэй. Ён драпаў іх кіпцюрамі, нібы хочучы сарваць іх. Юп таксама коратка вурчэў.

— Што з табою, Топ?—запытаў Наб, які прачнуўся першым.

Сабака забрахаў яшчэ мацней.

— Што з ім сталася?—запытаў Сайрус Сміт.

Усе каланісты, як былі, неапранутыя, рынуліся да акон. Перад іх вачамі разгортвалася пялёнка снегу, які ледзь бя-

леўся ў непраніклай чорнай начы. Нічога нельга было ўбачыць, але за тое яны выразна пачулі брэх, які даходзіў знізу. Ясна было, што на бераг каля падножжа палаца забраліся нейкія жывёлы, разгледзець якіх не было магчымасці.

— Хто там?—запытаў Пенкроф.

— Ваўкі, ягуары або малпы,—адказаў Наб.

— А наш птушнік!—усклікнуў Герберт.—А наш гарод!

— Як яны прабраліся сюды?—дзівіўся Пенкроф.

— Яны, напэўна, прайшлі па мастах,—сказаў інжынер.—Хтосьці з нас забыўся падняць іх.

— Сапраўды,—прызнаўся журналіст.—Здаецца, я не падняў мастка на беразе...

— Вось за гэта дзякуй, містэр Спілет!—усклікнуў марак.

— Што зроблена, таго не вернеш!—спыніў Пенкрофа Сайрус Сміт.—Лепш падумаем, як цяпер зрабіць.

Такія былі пытанні і адказы, якімі шпарка абмяняліся каланісты. Ясна было, што звяры—якія, гэта было пакуль што невядома—перабраліся па мастках цераз вадасцёк і цяпер пагражалі самому пласкагор'ю Далёкага віду. Патрэбна было папярэдзіць іх напад і даць ім бой на подступах да пласкагор'я.

— Але што гэта за звяры?—яшчэ раз запытаў Пенкроф, прыслухоўваючыся да брэху, які даходзіўся сюды невыразна.

Герберт раптам уздрыгануўся: ён успомніў, што аднойчы ўжо чуў гэты брэх—у часе першага наведвання вытокаў Чырвонага ручая.

— Гэта шакалавыя лісы!—усклікнуў ён.

— Наперад!—гукнуў марак.

І ўсе каланісты, спехам апрануўшыся і ўзброіўшыся карабінамі і рэвальверамі, кінуліся ў карзіну пад'ёмніка і шпарка спусціліся на бераг.

Шакалавыя лісы, калі іх шмат і калі яны ўзлаваны ад голаду, вельмі небяспечная жывёла. Але, каланісты, не чакаючы, рынуліся ў самы гушчар зграі.

Рэвальверныя стрэлы, якія прарэзалі цемру ночы кароткімі ўспышкамі святла, прымусілі падацца назад першыя рады наступаўшых.

Для каланістаў важней за ўсё было не дапускаць лісоў на пласкагор'е Далёкага віду: там былі гароды, птушнік і засевы; напад згаладалых лісоў пагражаў усяму гэтаму спусташэннем і гібеллю. З той прычыны, што дарога на пласкагор'е была толькі адна—вузкая палоска ўздоўж левага берагу ракі Падзякі, дык якраз тут і патрэбна было паставіць жывую заслону.

Усе вельмі добра разумелі гэта, і, па загаду Сайруса Сміта, каланісты шарэнгай выстраіліся поперак дарогі. Топ, які ашчэрыў вострыя клыкі, Юп, які размахваў, як шпіцай,— падораный яму Пенкрофам дубінай, пасталі наперадзе каланістаў.

Ноч была вельмі цёмная. Толькі ад успышак стрэлаў, з якіх кожны павінен быў трапіць у цэль, каланісты бачылі сваіх ворагаў. Лісоў было не менш сотні, і вочы іх паблісквалі ў цемры, як гарачыя вугалькі.

— Нельга прапускаць іх!—гукнуў Пенкроф.

— Не прапусцім!—адказаў інжынер.

Заднія рады лісоў націскалі на пярэднія, і каланісты вымушаны былі няспынна пускаць у ход то рэвальверы, то сякеры.

Шмат трупаў шакалавых лісоў ужо валялася на зямлі, але колькасць нападаўшых не змяншалася. Каланістам нават здавалася, што зграя ўвесь час павялічваецца.

Хутка бітва пачалася ўрукапашную. Усе каланісты атрымалі па некалькі ран, на шчасце, пусцяковых. Герберт стрэлам зблізку пазбавіў Наба ад ліса, які ўскочыў яму на спіну. Топ звар'яцеў ад ярасці і, ледзь паспеўшы задушыць аднаго праціўніка, ужо кідаўся да наступнага. Юп, узброены дубінай, біў ёю без адпачынку. Яго нельга было адцягнуць назад. Уладаючы, як відаць, здольнасцю бачыць у цемры, ён увесь час кідаўся ў самую гушчу бою і толькі адрывістым, рэзкім свістам выдаваў сваю вялікую ўзрушанасць. У запале ад бою ён забраўся далёка ў рады ворагаў, і адзін раз ад агню стрэлаў каланісты ўбачылі, што ён шалёна адбіваецца ад нападаўшых на яго з усіх бакоў лісоў.

Пасля двух гадзін няспыннага напружання каланісты, нарэшце, перамаглі. Пры першых водблісках зары лісы адступілі да мастка, які Наб паспяшыў падняць за імі. Калі зусім развіднела, каланісты налічылі каля пяцідзесяці трупаў лісоў на снягу.

— Дзе Юп?—крыкнуў Пенкроф.

Юп знік. Наб гукнуў яго, і ўпершыню Юп не адазваўся на заклік свайго сябра.

Усе рынуліся шукаць Юпа, апасаючыся знайсці яго мёртвым. Ачысціўшы пляцоўку ад трупаў, якія запляміілі яе сваёю крывёю, яны знайшлі аранга літаральна пахаваным пад кучай шакалавых лісоў.

Небарака Юп яшчэ трымаў у руках абломак дубіны. Калі яна зламалася, абяззброеная малпа была павалена на зямлю. Глыбокія раны ўкрылі яе грудзі.

— Юп жывы!—усклікнуў Наб, які нахіліўся да аранг-утана.

— Тады мы выратуем яго,—сказаў марак.—Мы будзем даглядаць яго, нібы брата.

Юп, здавалася, зразумеў словы марака. Ён схіліў яму галаву на плячо, нібы ў адзнаку ўдзячнасці. Раны каланістаў былі толькі драпінамі, бо агнястрэльная зброя стрымлівала лісоў на значнай адлегласці. Больш або менш сур'ёзна пацярпеў толькі аранг-утан.

Наб і Пенкроф перанеслі Юна да пад'ёмніка. Не зважаючы на боль ад пераноскі, адважны аранг-утан адзін толькі раз застагнаў. Конш пад'ёмніка паволі падпялі да дзвярэй Гранітнага палаца, і там Наб паклаў аранга на лепшую пасцель.

Гедэон Спілет прамыў яго раны. Ні адна не была цяжкою, ні адна не закранала якога-небудзь важнага для жыцця органа. Але Юп быў знясілены ад страты крыві, і неўзабаве ў яго пачалася вялікая гарачка.

Небараку аранга перавялі адразу на самую строгую дыету і прымусілі выпіць некалькі кубкаў настойкі з лекавых траў, якая змяншала жар. Гэтыя настойкі былі ў аптэцы калоніі.

Юп заснуў спярша вельмі неспакойным сном. Але патроху дыханне яго рабілася больш роўным. Каланісты паціху выйшлі з пакоя, каб не трывожыць яго спакой. Толькі Топ час ад часу «на цыпках» падыходзіў да пасцелі сябра і лізаў яго лапу, якая звісала з ложка.

Перш-на-перш каланісты адцягнулі далей у лес трупы забітых лісоў і там глыбока закапалі іх у зямлю.

Начны напад, які мог скончыцца вельмі сумна, добра навучыў іх. Цяпер яны не клаліся спаць, не праверыўшы, ці ўсе масты падняты.

Юп, здароўе якога ў першыя дні вельмі непакоіла, пачаў хутка папраўляцца. Яго магутны арганізм перамог хваробу, і Гедэон Спілет, які крышку разбіраўся ў медыцыне, неўзабаве абвясціў, што за Юпа няма чаго баяцца. 16 жніўня Юп пачаў есці. Наб гатаваў яму розныя ласыя стравы, і той прагна еў іх. Трэба сказаць праўду, што Юп быў абжорам і ласуном, а Наб нічога не рабіў, каб адвучыць яго ад гэтага недахопу.

Праз дзесяць дзён пасля ранения містэру Юпу было дазволена ўстаць з пасцелі. Усе яго раны загаіліся, і можна было не сумнявацца, што за некалькі дзён да малпы вернецца ўся яе былая моц і спрыт. Як і ўсе, што папраўляюцца, Юп зрабіўся неймаверным абжорам. Журналіст не перашка-

джаў яму абжырацца, упэўнены, што інстынкт жывёлы сам засцеражэ Юпа ад лішняга ўжывання яды.

25 жніўня Наб раптам паклікаў сваіх таварышоў, якія сядзелі ў вялікай зале.

— Містэр Сміт, містэр Спілет, Пенкроф і Герберт! Хадзіце сюды!

Каланісты паспяшылі на яго вокліч у пакой Юпа. Што-ж яны ўбачылі? Аранг-утан спакойна і сур'ёзна сядзеў на табурэтцы і курыў.

— Мая люлька!—усклікнуў Пенкроф.—Ён узяў маю люльку! Ах, нягоднік! Ну, куры на здароўе, браце, я табе яе дару!

І Юп пускаў клубы дыму адзін за адным, адчуваючы, як відаць, ад гэтага найвялікшую асалоду. Сайруса Сміта гэта зусім не здзівіла. Ён расказаў каланістам пра многія выпадкі, калі прыручаныя малпы навучаліся курыць. Ад гэтага дня містэр Юп займеў сабе люльку, якая вісела заўсёды над яго ложкам, і ўласны табак. Ён сам напіхаў сабе люльку, распальваў яе гарачым вугальком і, курачы, здавалася, быў самым шчаслівым з чацверарукіх. Не трэба і казаць, што агульнасць густаў яшчэ больш умацавала дружбу, якая была між мараком і аранг-утанам.

— Я думаю, што Юп сапраўдны чалавек!—казаў часамі марак Набу.—Скажы, ці здзівіўся-б ты, калі-б ён загаварыў калі-небудзь?

— Ніяк, чэснае слова! Мяне больш здзіўляе,—адказаў Наб,—што ён не гаворыць!

— А забаўна-б было,—прадаўжаў марак,—каб калі-небудзь Юп падышоў да мяне і сказаў: «Памяняемся люлькамі, Пенкроф!»

— Так,—сказаў Наб.—Як прыкра, што ён нямы ад нараджэння!

У верасні вясна канчаткова ўвабралася ў сілу, і работы на двары зноў аднавіліся.

Будаўніцтва судна шпарка пасоўвалася наперад. Абшыўка бартоў ужо была цалкам закончана, і цяпер заканчвалася ўмацаванне перамычак. Пенкроф прапанаваў інжынеру абшыць корпус дошкамі і знутры, што павінна было надаць судну яшчэ больш моцы.

Не ведаючы, якія нечаканасці рыхтуе калоніі будучыня, інжынер ухваліў думку марака аб умацаванні судна.

Унутраная абшыўка і палуба былі закончаны да 15 верасня. Усе швы абшыўкі і корпуса былі старанна пазатыканы пакляю і заліты гарачай смалою.

Замест баласту, шлюп нагрузілі абломкамі граніта, агуль-

най вагою прыкладна каля дванаццаці тысяч фунтаў. Поверх баласта вымасцілі намост. Унутры корпус быў падзелены перагародкай на дзве каюты, у якіх уздоўж сцен зрабілі доўгія лаўкі і якія служылі замест скрынак. Асновай сваёй мачта знаходзілася якраз паміж кают. З кожнай каюты на палубу выходзіў люк, які закрываўся шчытна прыгнанай накрыўкай.

Пенкроф лёгка знайшоў на востраве мачтавы лес. Ён выбраў маладую сасну з роўным ствалом без адгалінаванняў; ацерабіўшы яе ад кары і ссекшы верхавіну, ён атрымаў добрую мачту. Жалезныя часткі мачты, руля і корпуса былі зроблены ў кузні груба, але трывала, нарэшце, рэі, гік, флагшток і вёслы былі закончаны ў першых чыслах кастрычніка. Вырашана было выпрабаваць судно ў плаванні вакол вострава, каб вызначыць яго мараходныя якасці і ступень яго трываласці.

10 кастрычніка шлюп быў спушчаны на ваду. Пенкроф быў у захапленні. Спуск адбыўся добра. Поўнасцю снаряжанае судзенца на катках было падведзена да берагу ракі ў часе адліву і ад першых-жа прылiўных хваль загойдалася на паверхні вады пад гучныя воплескі каланістаў, у асаблівасці Пенкрофа, які не праявіў на гэты раз ні ценю скромнасці. Яго самалюбства павінна было, урэшце, знаходзіць спажыву і пасля спуску шлюпа, бо па агульнай згодзе ўсіх каланістаў, яму было даручана камандаванне суднам і нададзены чын капітана.

Капітан Пенкроф раней за ўсё патрабаваў, каб шлюпу была дана назва. Пасля доўгіх спрэчак большасцю галасоў было вырашана назваць шлюп «Шчаслівым».

Ужо з першай хвіліны, як толькі «Шчаслівы» загойдаўся на хвалях, можна было бачыць, што судзенца збудавана на славу і што яно будзе вельмі добра трымацца на моры ў любое надвор'е. Спробную паездку каланісты вырашылі, між іншым, зрабіць зараз-жа, не адкладаючы. Надвор'е было вельмі добрае, вецер дзьмуў з паўднёвага ўсходу, і хваляванне было невялікае.

— Рыхтуйся да пасадкі!—крыкнуў капітан Пенкроф.

Але каланісты яшчэ не снедалі ў гэтую раніцу, ды, апрача таго, было-б не лішняе захапіць з сабою на борт харчы, бо экскурсія магла працягнуцца да вечара.

Сайрус Сміт таксама, як і марак, вельмі хацеў зараз-жа выпрабаваць набудаваны па яго чарцяжах карабль. Аднак, ён не падзяляў сляпой веры марака ў вартасці свайго судна і шчаслівы быў, што той больш не пачынае гаворкі пра паездку на востраў Табор. Інжынер нават спадзяваўся, што

марак пакінуў гэты намер. Яму было страшна падумаць, што двое-трое з таварышоў адважацца рушыць у адкрыты акіян на гэтым мізэрным ненадзейным судзенцы, якое мае траха не пятнаццаць тон водазмяшчэння.

А палове адзінаццатай усё насельніцтва калоніі, у тым ліку Топ і Юп, было ўжо на барту шлюпа. Наб і Герберт па камандзе капітана паднялі якар.

Сайрус Сміт і журналіст паставілі парусы, і «Шчаслівы» пад кіраваннем уласнай рукі Пенкрофа, паплыў.

Вышаўшы з бухты Саюза, «Шчаслівы» давёў, што пры спадарожным ветры ён можа плысці досыць шпарка. Абышоўшы мыс Знаходкі, Пенкроф паставіў шлюп к ветру і накіраваў яго ўздоўж паўднёвага берагу вострава. Прайшоўшы некалькі кабельтавых, Пенкроф пераканаўся, што «Шчаслівы» таксама добра ідзе супроць ветру, як і за ветрам, не дрэйфуе. Паспрабаваўшы лавіроўку, марак пераканаўся, што і ў гэтых адносінах «Шчаслівы» зусім шчаслівы.

Пасажыры шлюпа былі ў захапленні. Яны мелі цяпер надзейнае судзенца, якое магло саслужыць ім службу, калі будзе патрэбна.

Пенкроф накіраваў судна на траверс порта Шара. Адсюль, на адлегласці трох-чатырох міль ад берагу, востраў устаў перад імі ў новым выглядзе. Ад мыса Кіпцюра да мыса Рэптыліі разгорталася цудоўная панарама з густым хваёвым лесам на першым плане і свежай зелянінай маладога лісця лесу Далёкага захада на другім. Гара Франкліна, як дэкарацыя, узвышалася на заднім плане з белай плямай снегавай шапкі на самым версе.

— Як прыгожа!—усклікнуў Герберт.

— Так, наш востраў на дзіва прыгожы,—сказаў Пенкроф.—Я люблю яго, як роднае стварэнне. Ён даў прытулак нам, жабракам і галодным. А цяпер мы не можам паракаць, што нам чаго-небудзь не стае.

— Правільна, капітан,—падхапіў Наб.—Мы цяпер ні ў чым не адчуваем патрэбы!

І абодва тройчы моцна гукнулі «ура» ў гонар гасціннага вострава.

Гедэон Спілет, прысланіўшыся да мачты, зарысаваў у сваёй запісной кніжцы панараму, якая разгорталася перад яго вачамі.

Сайрус Сміт моўчкі пазіраў на бераг.

— Ну, містэр Сміт,—звярнуўся да яго Пенкроф,—што вы можаце сказаць пра нашага «Шчаслівага»?

— Нібы нядрэннае судзенца, Пенкроф, — адказаў інжынер.

— Так. А як вы мяркуеце, ці зможа яно зрабіць невялікае падарожжа?

— Якое падарожжа?

— Ну, хоць-бы на востраў Табор.

— Дружа мой, я лічу, што калі сапраўды спатрэбіцца, можна-б было, не хістаючыся, даверыцца «Шчасліваму», нават каб трэба было зрабіць больш даўгі пераход. Але, не гледзячы на гэта, я буду вельмі засмучаны, калі даведаюся, што вы вырашылі паехаць на востраў Табор, бо гэта для нас зусім непатрэбнае.

— Трэба-ж нам пазнаёміцца з сваімі суседзямі,—запярэчыў Пенкроф, які дамагаўся свайго.—Востраў Табор наш сусед, ды яшчэ пры гэтым адзіны,—прыстойнасць вымагае, каб мы хоць адзін раз наведалі яго!

— Чорт цабяры,—засмяяўся Гедэон Спілет,—Пенкроф робіцца ахоўнікам прыстойнасці!

— Зусім не так,—запярэчыў марак.

Яму не хацелася засмучаць Сайруса Сміта, але яшчэ менш хацелася адмовіцца ад гэтай паездкі.

— Падумайце, Пенкроф,—дамагаўся інжынер.—Вы не можаце адзін накіравацца ў плаванне.

— Мне досыць будзе аднаго спадарожніка.

— Няхай сабе так,—згадзіўся інжынер.—Значыцца, вы рызыкуеце пазбавіць калонію вострава Лінкольна двух з пяці яе членаў!

— З шасці,—запярэчыў марак.—Вы забываецеся пра Юпа!

— З сямі,—паправіў яго Наб.—Топ варты чалавека.

— Ды і рызыкі ніякай няма, містэр Сміт!

— Магчыма,—сказаў інжынер.—Але ісці на небяспеку без усякай патрэбы—недарэчна.

Упарты марак нічога не адказаў і спыніў гутарку, думаючы пачаць яе зноў у першы-ж зручны момант. Ён яшчэ не ведаў, што непрадбачаная акалічнасць прыдзе яму ў дапамогу іператворыць у чалавекалюбівую справу тое, што да гэтага часу было толькі нічым неапраўданым капрызам.

«Шчаслівы», прайшоўшы некалькі міль уздоўж берагу, узяў курс да порта Шара. Каланісты хацелі праверыць, ці судаходны вузкі праход між скал і мялінаю, бо яны меркавалі зрабіць порт Шара месцам сталай стаянкі шлюпа.

Яны падышлі ўжо да самага берагу, калі раптам Герберт, які стаяў на насу карабля, крыкнуў:

— Трымай па ветру, Пенкроф!

— Што там такое?—запытаў марак.—Рыф?

— Не... чакай... Я неяк дрэнна бачу... Трымай яшчэ больш к ветру!.. Так трымаць!..

Кажучы гэта, Герберт шпарка перагнуўся цераз борт, усадзіў руку ў ваду і, выпрастаўшыся, сказаў:

— Бутэлька.

Сайрус Сміт узяў бутэльку з яго рук, выбіў з яе корак і выцягнуў лісток паперы, на якім было напісана:

„Пацярпеў крушэнне... Востраў Табор.
153°0′ даўг., 37° 11′ паўдн. шыр.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

*Ад'езд вырашаны.—Меркаванні.—Зборы.—Першая ноч.—Другая ноч.—Востраў Табор.—Пошукі на беразе.—Пошукі ў лесе.—Жывёла.—Расліны.—Дом.*

— Чалавек, які пацярпеў крушэнне! — усклікнуў Пенкроф.—І гэта за дзве сотні міль ад нас! Ах, містэр Сміт, цяпер спадзяюся, вы не будзеце пярэчыць супроць паездкі на востраў Табор?

— Не, Пенкроф,—адказаў інжынер.—Вы паедзеце туды!

— Заўтра-ж?

— Хоць заўтра!

Інжынер не выпускаў з рук кавалка паперы, які дастаў з бутэлькі.

Яшчэ раз разгледзеўшы яго, ён сказаў:

— Гэты дакумент, сябры мае, самы тэкст яго гаворыць перш за ўсё пра тое, што пацярпеўшы крушэнне—чалавек, які знаёмы з мараплаваннем: ён зусім дакладна паказвае каардынаты вострава Табор. Па-другое, ясна, што ён англічанін ці амерыканец, бо запіска напісана на англійскай мове.

— Гэта лагічна,—заўважыў Гедэон Спілет.—Цяпер мы атрымліваем ключ да разгадкі таямніцы скрыні, выкінутай на бераг. Відавочна, што карабль, які цярпеў крушэнне, дацягнуўся да вострава Табор і там загінуў. Што датычыць чалавека, які выратаваўся ад крушэння, дык ён павінен падзякаваць лёсу, што Пенкроф надумаўся іменна сёння наладзіць спробную паездку на шлюпцы. Калі-б мы вышлі на дзень пазней—і бутэлька магла-б разбіцца аб скалы!

— Сапраўды,—усклікнуў Герберт, — якая шчаслівая акалічнасць, што бутэльку прыгнала да берагу вострава Лінкольна якраз сёння!

— А вам гэтая акалічнасць не здаецца дзіўнай, Пенкроф?—запытаў Сайрус Сміт

— Не дзіўнай, а ўдалай,—адказаў марак.—Урэшце, хіба вы са мною не згодны, містэр Сміт? Павінна-ж была гэта бутэлька куды-небудзь трапіць! То чаму ёй не прыплысці сюды?

— Можа і ваша праўда, Пенкроф,—у задуменні пачаў інжынер,—але...

— Але,—перапыніў яго Герберт,—нішто не паказвае, што гэта бутэлька прабыла доўгі час у вадзе. Хіба не праўда?

— Праўда. Больш таго, мне здаецца, што запіска зусім нядаўна напісана. Якая ваша думка, Сайрус?

— На гэтае пытанне цяжка адказаць. Урэшце, мы пра гэта хутка будзем ведаць...

Пенкроф не бяздзейнічаў у часе гэтай гутаркі. Ён павярнуў на другі галс, і «Шчаслівы» пад усімі парусамі паімчаўся да мыса Кіпцюра. Дарогаю ўсе каланісты думалі пра пацярпеўшага крушэнне. Ці не спозняцца яны дапамагчы?

Абышоўшы мыс Кіпцюра, «Шчаслівы» каля чатырох гадзін дня стаў на якар ля вусця ракі Падзякі.

У той-жа вечар быў складзен план новай экспедыцыі. Было вырашана, што ў ёй, апрача Пенкрофа, прыме ўдзел толькі Герберт, ужо знаёмы з кіраваннем паруснага судна. Выехаўшы на заўтра, 11 кастрычніка, яны маглі дасягнуць вострава Табор 13 кастрычніка, бо пры спадарожным ветры шлюп павінен быў прайсці сто пяцьдзесят міль самае большае за сорак восем гадзін. Адзін дзень яны павінны былі правесці на востраве. Палічыўшы два-тры дні для звароту назад, «Шчаслівага» можна было чакаць 17—18 кастрычніка.

Надвор'е было добрае, барометр павольна, але няўхільна падымаўся, вецер дзьмуў увесь час у адным кірунку—здавалася, што ўсё спрыяла смелым людзям, якія спяшаліся на дапамогу няшчаснаму, што пацярпеў крушэнне.

Гедэон Спілет які не забыўся яшчэ на свой абавязак газетнага карэспандэнта, запратэставаў супраць таго, што яго вырашылі пакінуць на востраве. Ён заявіў, што лепш рушыць уплаў да вострава Табор, чым прапусціць такую цікавую падзею. Таму і яго залічылі ў склад экспедыцыі.

У той-жа вечар каланісты перанеслі на борт «Шчаслівага» пасцелі, зброю, порах і кулі, васьмідзённы запас яды і, нарэшце, компас. На другі дзень у пяць гадзін раніцы сябры развіталіся, і Пенкроф, падняўшы парусы, узяў курс проста на востраў Табор.

«Шчаслівы» адплыў ужо на чвэртку мілі ад берагу, калі каманда яго заўважыла на пласкагор'і Далёкага віду

дзве чалавечыя постаці, якія махалі рукамі. Гэта былі Сайрус Сміт і Наб.

Пенкроф, журналіст і Герберт развіталіся з сваімі сябрамі.

Усю раніцу «Шчаслівы» не губляў з віду востраў Лінкольна. На гэтай адлегласці востраў выглядаў зялёнай кашолкай, з выступаючай з яе белай верхавінай гары Франкліна. Каля трох гадзін папаўдні востраў знік за гарызонтам.

«Шчаслівы» трымаўся вельмі добра. Ён лёгка браў хвалю і развіваў дастатковую хуткасць.

Падняўшы ўсе парусы, Пенкроф вёў судна па компасу проста да вострава.

У вызначаны час Герберт змяняў марака каля руля. Юнак так упэўнена вёў судна, што Пенкроф, каб ён нават і хацеў, не мог прычапіцца ні да чаго.

Гедэон Спілет займаў размовамі сваіх спадарожнікаў і дапамагаў ставіць, або прыбіраць парусы. Капітан Пенкроф не мог нахваліцца сваім экіпажам; ён абяцаў выдаць ім як узнагароду «па чарцы гарэлкі».

Перад заходам сонца на небе не на доўгі час паказаўся серп месяца. Ноч настала цёмная, але зорная, абяцаючы добрае надвор'е.

Пенкроф дзеля асцярогі збавіў парусы: раптоўна мог наляцець шквал, і спаткаць яго пад усімі парусамі было небяспечна. Гэтая асцярожнасць была лішняя ў такую спакойную ноч, але Пенкроф быў прадбачлівым капітанам, і нельга было не ўхваліць яго загаду.

Журналіст спакойна праспаў усю ноч. Пенкроф-жа і Герберт змяняліся каля руля кожныя дзве гадзіны. Марак давяраў юнаку, як самому сабе, і Герберт сапраўды заслугоўваў гэтага давер'я.

Ноч прайшла спакойна, таксама як і наступны дзень, 12 кастрычніка.

«Шчаслівы» ні на лінію не адхіліўся ад курса, і калі яго не аднесла ўбок плынь, дык ён павінен быў знаходзіцца ўжо непадалёк ад вострава Табор.

Акіян быў зусім пустэльны. Рэдка-рэдка над ім праляталa якая-небудзь вялікая птушка, альбатрос або фрэгат. Як відаць, гэта былі адзіныя жывыя стварэнні, якія наведвалі частку Ціхага акіяна паміж востравам Табор і востравам Лінкольна.

— А цяпер-жа самы разгар кіталоўнай кампаніі,— заўважыў Герберт.—Мне здаецца, цяжка ўявіць сабе больш пустэльнае мора.

— Яно ўжо не такое пустэльнае, як гэта табе здаецца,— запярэчыў Пенкроф.

— Што ты хочаш сказаць?

— А нас хіба ты не лічыш за людзей?—засмяяўся марак.—Што-ж ты думаеш, мы марсіяне, ці што?

Да вечара па разліку марака, «Шчаслівы» прайшоў каля ста дваццаці міль, праходзячы ў сярэднім па тры з паловаю мілі за гадзіну. Вецер быў слабы і, відаць, меўся зусім сціхнуць. Аднак, капітан Пенкроф спадзяваўся, што на другую раніцу востраў Табор з'явіцца на гарызонце, калі толькі шлюпа не аднесла ад курса.

Каманда судна ні на хвіліну не заснула ў гэтую ноч з 12 на 13 кастрычніка. Вялікае хваляванне апанавала каланістаў. Колькі неспадзяванага чакала іх! Ці былі яны сапраўды блізка ад вострава Табор? Ці жывы яшчэ той, які пацярпеў крушэнне? Хто ён? Ці згодзіцца ён перамяніць адно месца зняволення на другое? Усе гэтыя пытанні, адказ на якія можна было атрымаць толькі заўтра, не давалі ім спакою.

Пры першых праблісках зары яны пачалі ўважліва ўглядацца ў гарызонт на захадзе.

— Зямля!—крыкнуў раптам Пенкроф каля шасці гадзін раніцы.

Ледзь бачны на гарызонце бераг вострава Табор знаходзіўся міль за пятнаццаць. Пенкроф накіраваў шлюп проста да зямлі. Узыходзячае сонца асвятліла цяпер некалькі горных вяршын на востраве.

— Як відаць, гэты астравок значна меншы за нашага Лінкольна,—заўважыў Герберт.

У адзінаццаць гадзін раніцы «Шчаслівы» быў ужо ўсяго за дзве мілі ад вострава. Пенкроф, выглядаючы зручнае для прычалу месца, спусціў амаль усе парусы і вёў шлюп наперад з вялікай асцярожнасцю.

Цяпер перад імі выступіў увесь астравок. Ён быў укрыты тою-ж раслліннасцю, што і востраў Лінкольна. Але, як гэта ні дзіўна, ні адзін дымок не паказваў, што тут ёсць чалавек, ні аднаго сігналу не было на ўзбярэжжы. А між тым запіска не пакідала ніякіх сумненняў пра тое, што на востраве знайшоў для сабе прытулак пацярпеўшы крушэнне. Ён, несумненна, павінен быў бачыць іх набліжэнне.

Не магло быць таксама сумненняў у тым, што гэта быў іменна востраў Табор—іншых астравоў у гэтай частцы Ціхага акіяна не было.

Між тым «Шчаслівы», пад умелым кіраваннем Пенкрофа, увайшоў у звілісты і вузкі праход паміж рыфамі.

Апоўдні кіль яго зашуршэў аб пясчаное дно.

Увесь час, пакуль цягнулася прычальванне Гедэон Спілет, не адстаўляючы падзорнай трубы ад вачэй, аглядаў бераг.

Судзенца было пастаўлена на якар, каб адліў не аднёс яго ў мора, і Пенкроф з двума таварышамі, зарадзіўшы на кожны выпадак стрэльбы, вышлі на бераг і накіраваліся да невысокага ўзгорка, які відаць быў непадалёк, каб з яго вяршыні агледзець мясцовасць.

Даследавальнікі ішлі па лужку, які цягнуўся да самага падножжа ўзгорка. Стайкі галубоў і морскіх ластавак вырываліся ў іх з-пад ног. З лесу, які краем блізка падыходзіў да берагу мора, чуўся шолах кустоў і шум ад уцякання нейкіх палахлівых звяркоў. Але нішто не паказвала на прысутнасць чалавека.

Пенкроф, Герберт і Гедэон Спілет узабраліся на ўзгорак і пачалі аглядаць астравок. Берагавая лінія яго з рэдкімі бухтамі і мысамі цягнулася прыкладна на шэсць міль і нагадвала падоўжаны авал.

Мора наўкола, як згледзець вокам, было пустэльнае. Ні зямлі, ні паруса...

У адрозненне ад вострава Лінкольна, бясплоднага і дзікага ў адной сваёй частцы, але багатага і пладаноснага ва ўсіх іншых частках, гэты астравок аднолькава густа ўвесь зарос зялянінай. Наўскасяк, пераразаючы авал астраўка, па нешырокаму стэпу струменіў шпаркі ручаёк, які ўпадаў у акіян.

— Так, астравок невялікі,—сказаў Герберт.

— Нам-бы было на ім цесна,—дадаў Пенкроф.

— У дадатак, здаецца, што на ім нікога няма...—сказаў журналіст.

— Сапраўды,—пацвердзіў Герберт,—не відаць ніякіх адзнак чалавека.

— Давайце пойдзем на пошукі!—прапанаваў Пенкроф.

Даследавальнікі вярнуліся на бераг да таго месца, дзе стаяў «Ш ч а с л і в ы». Яны вырашылі раней абыйсці пяшком усё ўзбярэжжа астраўка, перш чым адважыцца забрацца ў глыб яго.

Ісці берагам было лёгка; толькі ў некаторых месцах дарогу перагараджвалі скалы, але і іх няцяжка было абыйсці.

Каланісты спярша рушылі на поўдзень, узганяючы па дарозе шматлікія стаі вадзяных птушак і стады цюленяў, якія кідаліся ў ваду, як толькі яны набліжаліся.

— Гэтая жывёла не ўпершыню бачыць чалавека, —заўважыў журналіст.—Яна баіцца людзей, значыць, ведае іх.

Праз гадзіну разведчыкі дайшлі да крайняга паўднёвага пункту авала, які заканчваўся вострым мысам, і павярнулі на поўнач. Заходні бераг вострава, якім яны цяпер ішлі, нічым не адрозніваўся ад усходняга: гэта была такая-ж шырокая пясчаная паласа, якая зарасла з краёў лесам.

На ўсім узбярэжжы вострава—яны абышлі яго за чатыры гадзіны—не было ніякіх слядоў чалавека.

На востраве Таборы, відаць, не было нікога.

Бо запіска ў бутэльцы магла быць напісана шмат месяцаў і нават год таму назад, і пацярпеўшы крушэнне мог або вярнуцца на радзіму, або загінуць ад голаду.

Усяляк мяркуючы, Гедэон Спілет, Пенкроф і Герберт хутка паабедалі на «Шчаслівым», каб да ночы агледзець увесь востраў. Каля пяці гадзін вечара яны рушылі пад зялёную засень лесу.

Яны сустрэлі ў лесе жывёлу, якая разбеглася ад іх набліжэння, галоўным чынам коз і свіней, несумненна еўрапейскага паходжання. Відаць, нейкае кіталоўнае судна завезла сюды гэтую жывёлу, і яна шпарка расплядзілася тут. Герберт вырашыў, варочаючыся адсюль захапіць з сабою па пары коз і свіней на гадоўлю.

Такім чынам не было сумненняў у тым, што некалі людзі наведвалі гэты востраў. Гэта стала яшчэ больш відавочным, калі яны наткнуліся на прасекі, працярэбленыя у лесе, на дрэвы, відавочна ссечаныя тапаром. Але гэтыя дрэвы, якія амаль што згнілі, маглі быць ссечаны шмат год таму назад. Засечыны зараслі мохам, і густая трава вырасла на зробленых калісьці ў лесе сцежках.

— Ясна,—сказаў журналіст,—што людзі не толькі высаджваліся на гэты востраў, але і жылі на ім некалькі часу. Трэба толькі даведацца, хто тут быў? Колькі чалавек высадзілася? Колькі засталося жывымі?

— У запісцы гаворыцца толькі пра аднаго пацярпеўшага крушэнне,—заўважыў Герберт.

— Калі ён усё яшчэ знаходзіцца на востраве,—сказаў Пенкроф,—дык не можа быць, каб мы яго не знайшлі.

Даследавальнікі ішлі сцежкаю, якая перасякала востраў па дыяганалі. Сцежка нечакана вывела да ручая, які ўпадаў у акіян.

Не толькі сляды работы і свойская жывёла паказвалі, што на астраўку жыў чалавек,—пра гэта-ж сведчылі і некаторыя расліны: Герберт вельмі ўзрадаваўся, убачыўшы парасткі бульбы, морквы, капусты, бручкі, цыкорыі. Уся гэтая гародніна здзічэла—відаць было, што яе пасадзілі даволі даўно. Вядома, юны натураліст пасляшаўся сабраць на-

сенне, каб перасадзіць гэтую гародніну на востраў Лінкольна.

— Усё гэта добра,—сказаў марак.—То-та Наб будзе рады!.. Калі мы назат не знойдзем пацярпеўшага крушэнне, дык мы ўсё-ж не без карысці з'ездзілі сюды.

— Правільна,—згадзіўся Гедэон Спілет.—Аднак, мяркуючы па выгляду гэтых раслін, можна сказаць, што на востраве ўжо здаўна ніхто не жыве.

— Вядома,—пацвердзіў Герберт, — жыхар вострава, хто-б ён ні быў, не стаў-бы закідаць такія каштоўныя расліны.

— Напэўна, гэты пацярпеўшы крушэнне быў падабраны караблём і вярнуўся дадому,—заўважыў Пенкроф.

— Значыць, па-твойму запіска была напісана даўно?

— Зразумела.

— І бутэлька прыплыла да вострава Лінкольна пасля доўгага блукання па акіяну?

— А то чаму не? Але ўжо цямнеецца, і час спыніць пошукі.

— Вернемся на борт, а заўтра пачнем іх зноў,—прапанаваў журналіст.

Парада была добрая, і каланісты меліся ўжо выканаць яе, як раптам Герберт усклікнуў:

— Дом!

Каланісты рушылі да хаціны між дрэў. Не гледзячы на змрок, відаць было, што яна пабудавана з дошак і абцягнута прасмоленай парусінай.

Дзверы не былі замкнены і адчыніліся ад штуршка Пенкрофа.

Хаціна была пустая.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

*Вопіс маёмасці.—Ноч.—Некалькі літар.—Працяг пошукаў.—Расліны і жывёлы.—Герберт у небяспецы.—На барту „Шчаслівага".—Адплыццё.—Надвор'е пагаршаецца.—Інстынкт марака.—Згубленыя ў акіяне.—Своечасова распалены агонь.*

Гедэон Спілет, Пенкроф і Герберт моўчкі стаялі ў змроку хаціны. Пенкроф голасна крыкнуў. Адказу не было. Тады ён выкрасаў агонь і запаліў галінку. Агонь асвятліў не надоўга ўсю хаціну, якая выглядала нежылою. У глыбіні яе быў грубы ачаг, засыпаны даўно астылым попелам, поверх якога ляжала бярэма сухіх дроў. Пенкроф паднёс да іх галінку і неўзабаве хаціна была асветлена яркім водбліскам агню.

Каланісты убачылі тады непрыбраную пасцель з вільготнымі і пажоўклымі ад часу прасцінамі. Відаць, што пасцеляю даўно ўжо не карысталіся. У кутку ачага ляжалі два ўкрытыя іржою кацялкі і абернутая каструля. Каля сцяны стаяла шафа, у якой вісела заплясненелая вопратка марака. На стале стаяла заіржавелая валавяная пасуда. У куце валяўся інструмент і прылады, дзве паляўнічыя стрэльбы, з якіх адна—зламаная. На паліцы каланісты знайшлі амаль не пачаты бачонак з порахам, бачонак з кулямі і некалькі карабкоў пістонаў. Усё гэта было ўкрыта густым пластом пылу, які, відаць, сабраўся тут за шмат год.

— Нікога няма,—сказаў журналіст.

— Так,—пацвердзіў Пенкроф.

— У гэтым пакоі ўжо шмат год не жывуць,—дадаў Герберт.

— Ведаеце што, містэр Спілет,—прапанаваў марак,—чым варочацца на борт «Шчаслівага», пераначуем сёння тут!

— Ваша праўда, Пенкроф,—згадзіўся журналіст.—Спадзяюся, што гаспадар пакоя, калі ён вернецца, не пакрыўдзіцца, што мы не спытаўшыся размясціліся тут.

— На жаль, ён не вернецца,—сказаў марак, тужліва паківаўшы галавою.

— Вы думаеце, што ён паехаў з вострава?

— Каб ён паехаў, дык узяў-бы з сабою інструменты і зброю,—адказаў Пенкроф.—Вы ведаеце, як пацярпеўшыя крушэнне даражаць гэтымі рэчамі. Не, не,—паракананa дадаў марак,—ён не паехаў з вострава. Калі дапусціць, што ён сам змайстраваў лодку і на ёй рушыў у плаванне, тады ўжо ён напэўна не пакінуў-бы тут усе гэтыя рэчы. Не, ён і зараз на востраве.

— Жывы?—запытаў Герберт.

— Жывы або мёртвы... Але калі ён памёр і не пахаваў сам сябе, то дзе-небудзь павінны-ж ляжаць яго астанкі.

Запас дроў, якія ляжалі ў хаціне, дазволілі ўсю ноч падтрымліваць агонь у ачагу. Зачыніўшы дзверы, Гедэон Спілет, Пенкроф і Герберт селі на лаўцы. Яны мала гаварылі, але шмат думалі. У тым настроі, у якім яны былі цяпер, іх-бы не здзівіла нават, каб раптам адчыніліся дзверы і ў хаціну увайшоў чалавек. Але дзверы не адчыніліся і чалавек не ўвайшоў.

Так прайшла ўся ноч.

Раніцою даследвальнікі першым чынам яшчэ раз агледзелі хаціну. Яна была пабудавана ў вельмі ўтульным месцы, на пакатым схіле, пад пышнымі камеднымі дрэвамі. Перад вокнамі была зроблена шырокая прасека да са-

мага берагу мора. Маленькі лужок, абгароджаны плотам, які наваліўся ўжо, цягнуўся да берагу ракі, якая недалёка ад хаціны ўпадала ў акіян.

Сама хаціна была зроблена з дошак, прычым лёгка было заўважыць, што доскі гэтыя былі зняты з абшыўкі або палубы нейкага карабля. З гэтага можна было меркаваць, што нейкае судно пацярпела крушэнне на востраве і што з усёй яго каманды выратаваўся самае меншае адзін чалавек, які і пабудаваў з абломкаў карабля гэтую хаціну.

Гэтае меркаванне ператварылася ва ўпэўненасць, калі Гедэон Спілет убачыў на адной з дошак задняга фасада хаціны напалову сцёрты надпіс:

«Бр тан я».

«Б р ы т а н і я»!—прачытаў марак, калі Гедэон Спілет паказаў яму гэтыя літары.—Гэта назва шмат якіх суднаў. Цяжка вызначыць па ёй, быў гэты карабль амерыканскі ці англійскі.

— Ды гэта і не важна, Пенкроф.

— Праўда,—згадзіўся марак,—і калі хто-небудзь з яго экіпажа застаўся жывы, мы даведаемся, якой нацыянальнасці быў карабль. Аднак, раней чым прадаўжаць пошукі, не пашкодзіла-б зірнуць на «Ш ч а с л і в а г а».

Пенкроф чамусьці занепакоіўся пра свой шлюп

«Што калі на востраве ёсць людзі і яны аўладалі суднам?»—падумаў ён.

Але зараз-жа ён пацiснуў плячамі, гэтакім неправўдападобным здалося яму такое меркаванне.

Аднак, як-бы там ні было, але марак быў не супроць таго, каб пасnедаць на барту судна. Адлегласць да яго была невялікая—ледзь адна міля.

Каланісты шпарка пайшлі да свайго судна, па дарозе аглядаючы кусты. Козы і свінні сотнямі ўцякалі ад іх.

Праз дваццаць хвілін Пенкроф і яго спадарожнікі ўбачылі перад сабою «Ш ч а с л і в а г а»; шлюп стаяў на якары на старым месцы.

Пенкроф з палёгкаю ўздыхнуў. Гэты шлюп быў яго дзецішчам, а бацькі маюць права непакоіцца аб сваіх дзецях нават тады, калі гэтага не вымагаюць абставіны.

Каланісты ўзыйшлі на борт і згатавалі сабе добрае снеданне ў разлік на позні абед. Паснедаўшы, яны аднавілі пошукі.

Найбольш пэўным было меркаванне, што ў часе караблекрушэння выратаваўся толькі адзін чалавек і што ён памёр ужо. Нядзіўна таму, што Пенкроф і яго таварышы шукалі хутчэй астанкі мерцвяка, чым сляды живога чалавека. Але

ўсе іх пошукі не мелі вынікаў. Давялося зрабіць вывад, што калі жыхар вострава памёр, дык труп яго быў з'едзены якою-небудзь жывёлінай, якая не пакінула ад яго нават касцей.

— Мы рушым назад заўтра досвіткам,—сказаў Пенкроф сваім таварышам, калі яны гадзіны ў дзве папаўдні прыляглі на некалькі хвілін у засені дрэва, каб адпачыць.

— Мне здаецца, што мы з спакойным сумленнем можам павезці з сабою зброю і інструменты з хаціны,—заявіў Герберт.

— Я таксама так думаю,—сказаў Гедэон Спілет,—яны спатрэбяцца нам у Гранітным палацы, калі я не памыляюся ў хаціне ёсць не малы запас пораху і куль.

— Да рэчы, каб не забыцца ўзяць дзве-тры пары свіней,—дадаў Пенкроф.—Бо ў нас, на востраве Лінкольна хатніх свіней няма.

— Трэба ўзяць таксама і насенне гародніны,—заўважыў Герберт.—Тады ў нас будзе ўся гародніна Старога і Новага Свету. Можа, варта астацца лішні дзень на востраве Табор, каб забраць з сабою ўсё, што нам можа спатрэбіцца?

— Не,—адказаў марак,—я хочу зняцца з якара заўтра досвіткам. Вецер нібы збіраецца падзьмуць з захаду, тады мы і назад паплывем з спадарожным ветрам.

— У такім выпадку не будзем траціць часу марна,—сказаў Герберт, устаючы з зямлі.

— Правільна, Герберт,—адказаў Пенкроф,—ты займіся збіраннем насення, а гэтым часам містэр Спілет і я наловім свіней. Думаю, што нават без Топа мы зможам злавіць пару-другую.

Герберт зараз-жа накіраваўся да гароду, у той час, калі журналіст і марак рушылі ў гушчар лесу.

Паляўнічыя спаткалі шмат свіней, але жывёла ўцякала, як толькі заўважала іх і не падпускала блізка. Аднак, праз поўгадзіны пагоні яны злавілі пару свіней, якія зашыліся ў густыя кусты.

У гэты час яны пачулі страшэнны крык, які даходзіў аднекуль зблізку. Да гэтага крыку неўзабаве далучыўся нейкі рык, у якім не было нічога чалавечага.

Гедэон Спілет і Пенкроф кінулі вяроўкі, якімі збіраліся вязаць свіней, і прыслухаліся. Жывёла скарыстала гэта, каб уцячы.

— Здаецца, Гербертаў голас?—сказаў журналіст.

— Бяжымо!—адказаў Пенкроф.

І абодва на ўвесь дух рынуліся на галасы.

Яны добра зрабілі, што паспяшаліся: за паваротам сцежкі перад імі разгарнулася палянка, і яны ўбачылі, што Герберт ляжыць, паваленны на зямлю нейкай звярынаю, відаць, гіганцкай малпай, якая збіралася даканаць яго.

Кінуцца на страшыдла, у сваю чаргу паваліць яго на зямлю і вызваліць Герберта—на ўсё гэта Пенкрофу і Гедэону Спілету спатрэбіўся адзін момант. Марак быў сапраўдным геркулесам, журналіст быў таксама дужы мужчына.

Вызваліўшы Герберта, яны хутка звязалі яго праціўніка, так, што той не мог пашавяліць ні рукою, ні нагою.

— Ты не ранены, Герберт?—запытаў Пенкроф.

— Не, не!

— Каб толькі гэтая малпа параніла цябе...—пагрозна пачаў марак.

— Але гэта не малпа,—запярэчыў Герберт.

Пачуўшы гэтыя словы, марак і журналіст зірнулі на свайго палоннага, які ляжаў на зямлі. Гэта быў чалавек. Але які страшны! Дзікун у поўным сэнсе гэтага слова!

Ускалмачаныя валасы, вялізная барада, якая засланяла грудзі да паловы, амаль голае цела, абвязанае толькі ў поясе кавалкам тканіны, дзікія блукаючыя вочы, вялізныя ручышчы, зацвярдзелыя, нібы рагавыя, ступні босых ног— такі быў выгляд гэтага няшчаснага стварэння, які страціў права звацца чалавекам.

— Ці ўпэўнены ты, Герберт, што гэта чалавек?—запытаў марак.

— На жаль, у гэтым нельга сумнявацца!

— Значыць, гэта і ёсць пацярпеўшы крушэнне?—запытаў журналіст.

— Напэўна. Толькі няшчасны зусім адзічэў і страціў усялякае чалавечае аблічча,—адказаў Пенкроф.

Марак казаў праўду. Было відавочна, што калі гэты пацярпеўшы крушэнне, і быў калі-небудзь цывілізаваным чалавекам, дык адзінота ператварыла яго ў дзікуна, нават горш, у сапраўднага пячорнага чалавека. Памяць ён страціў, напэўна, вельмі даўно і таксама даўно развучыўся карыстацца прыладамі і зброяй. Ён забыўся нават, як абыходзіцца з агнём. Адразу было відаць, што ён дужы, спрытны, але ўсе гэтыя фізічныя якасці развіліся ў ім, на шкоду розуму.

Гедэон Спілет пачаў гаварыць з палонным, але той не толькі не зразумеў сказаных да яго слоў, але быццам нават не чуў іх. І тым не менш, прыгледзеўшыся, журналіст зрабіў вывад, што ён не канчаткова страціў розум.

Палонны ляжаў спакойна, не спрабуючы вызваліцца ад

вяровак, якімі быў звязаны. Магчыма, што дзесьці ў кутках яго мазга зашавяліліся няўяўныя ўспаміны, калі ён убачыў людзей. Ці збег-бы ён, каб яму далі волю, ці астаўся-б з імі? Гэта пытанне так і засталося нявырашаным, бо каланісты не адважыліся на такі эксперымент.

— Кім-бы ён не быў у мінулым,—сказаў журналіст,— наш абавязак даставіць яго на востраў Лінкольна.

— Так, так,—падхапіў Герберт,—можа, таварыскія клопаты і догляд звернуць яму розум.

Пенкроф недаверліва паківаў галавою.

— Усё-ж паспрабуем,—сказаў журналіст.—Гэта наш абавязак!

Усе трое гэта разумелі, і яны цвёрда былі ўпэўнены, што Сайрус Сміт ухваліў-бы іх рашэнне.

— Пакінуць яго звязанага?—запытаў марак.

— Паглядзім, можа, ён пойдзе з намі сам, калі мы развяжам яму ногі,—прапанаваў Герберт.

— Паспрабуем,—сказаў марак.

І ён развязаў вяроўкі на нагах у палоннага, пакінуўшы яго рукі моцна звязанымі. Дзікун сам устаў з зямлі і, не спрабуючы ўцячы, пайшоў разам з каланістамі. Яго позірк неадступна быў накіраваны на людзей, якія ішлі побач з ім. Але, відаць, ён не пазнаваў, што яны на яго падобны.

Гедэон Спілет параіў спярша завесці няшчаснага ў яго хаціну: можа, выгляд знаёмых рэчаў зробіць на яго якоенебудзь уражанне? Можа, давол і будзе адной іскры, каб распаліць у гэтага чалавека згаслае сазнанне.

Хаціна была вельмі блізка. Яны дайшлі да яе за некалькі хвілін. Але палонны абыякава зірнуў на абстаноўку, нібы нічога не пазнаючы.

Аставалася толькі зрабіць вывад, што няшчасны ўжо вельмі даўно жыве ў адзіноце на востраве і, паступова дзічэючы ўсё больш і больш, дайшоў да стану поўнага азвярэння.

Журналіст вырашыў, аднак, выпрабаваць, якое ўражанне зробіць на палоннага запалены агонь. Ён распаліў палена ў ачагу. Спярша аганёк нібы прыцягнуў увагу няшчаснага, але амаль зараз-жа следам за гэтым ён абыякава адвёў позірк убок. Рабіць не было чаго, і аставалася толькі перавесці яго на борт «Ш ч а с л і в а г а». Так і зрабілі.

Марак астаўся вартаваць няшчаснага, а Гедэон Спілет і Герберт зноў сышлі на бераг і праз некалькі гадзін вярнуліся на борт, несучы з сабою ўсё каштоўнае з хаціны пацярпеўшага крушэнне; насенне раслін, некалькі штук дзічыны і дзве пары жывых свіней. Усё гэта было пагружана

ез «Шчаслівага», і асталося толькі чакаць ранішняга прыліву, каб падняць якар і рушыць назад на востраў Лінкольна.

Палоннага змясцілі ў пярэдняй каюце. Ён трымаўся спакойна, але ўсё яшчэ аставаўся надзвычай абыякавым да ўсяго, што рабілася вакол яго.

Пенкроф прынёс яму есці, але ён з гідлівасцю адпіхнуў варанае мяса. Затое, калі марак прапанаваў яму адну з качак, якіх толькі што забіў Герберт, той прагна накінуўся на яе і зараз з'еў сырое мяса.

— Вы думаеце, што ён паправіцца?—запытаў Пенкроф у журналіста, з сумненнем паківаўшы галавою.

— У гэтым няма нічога немагчымага,—адказаў той.— Гэтае адзіноцтва давяло яго да такога стану, але-ж ён больш не будзе адзінокім!..

— Здаецца, гэты няшчасны вельмі даўно не бачыў людзей,—сказаў Герберт.

— Так, трэба думаць, што даўно!

— Колькі год яму можа быць?—запытаў юнак

— Цяжка сказаць,—адказаў журналіст.—Ён так зарос валасамі, што немагчыма разгледзець рысы яго твара. Але я думаю, што ён ужо не малады. Магчыма, што яму пад пяцьдзесят.

— Ці звярнулі вы ўвагу, містэр Спілет,—прадаўжаў Герберт,—на яго глыбока запалыя вочы.

— Так, Герберт. Толькі трэба адзначыць, што ў іх свеціцца больш розуму, як гэта можна было-б чакаць, мяркуючы па яго паводзінах.

— Будучыня пакажа,—сказаў Пенкроф.—Я хочу як найхутчэй ведаць думку містэра Сміта пра нашага дзікуна. Як дзіўна—мы прыехалі ратаваць цывілізаванага чалавека, а знайшлі дзікуна!

Ноч прайшла спакойна. Невядома, ці спаў палонны, але ў кожным разе ён зусім не спрабаваў уцячы, хоць яму развязалі рукі і ногі.

На другі дзень, 15 кастрычніка, досвіткам, змянілася, як прадракаў Пенкроф, надвор'е. Вецер пачаў дзьмуць з паўночнага захаду; ён узмацніўся і ўзняў вялікія хвалі. У пяць гадзін раніцы якар быў падняты. Пенкроф адразу-ж узяў рыфы на парусах і накіраваў шлюп на ўсход—паўночны ўсход—проста да вострава Лінкольна.

Першы дзень плавання прайшоў без здарэнняў. Палонны паранейшаму сядзеў у пярэдняй каюце і трымаўся вельмі добра. Ён нібы стаў больш свядома пазіраць на навакольнае, калі ў яго над нагамі загойдалася палуба: магчыма, у яго прамільгнулі ўспаміны пра былую прафесію. Так ці

іначаш, але ён увесь дзень быў спакойны, ствараючы хутчэй за ўсё ўражанне здзіўленага, чым звар'яцелага чалавека.

На другі дзень, 16 кастрычніка, вецер стаў яшчэ большы. Напрамак яго крыху змяніўся ў бок, і ён зносіў «Шчаслівага» на поўнач. Пенкрофу давялося ўвесь час ісці у бейдэвінд.

Мараку ўсё менш і менш падабаўся стан надвор'я: акіян кідаў вал за валам на нос судзенца. Пенкрофу было ясна, што, калі вецер не зменіцца, на зварот пойдзе шмат больш часу, чым на падарожжа да вострава Табор.

І якраз, 17-га раніцою скончылася сорак восем гадзін, як шлюп адплыў з вострава Табор, а Лінкольна яшчэ і ў паміне не было. Немагчыма нават было вызначыць, на якой адлегласці ад яго знаходзіцца судзенца, бо лага ў Пенкрофа не было, а шпаркасць ветру ўвесь час мянялася.

Мінула яшчэ дваццаць чатыры гадзіны, а зямля параней-шаму не паказвалася. Вецер перайшоў у шторм. Увесь час даводзілася мяняць галсы, браць рыфы, рабіць павароты. У гэты дзень быў момант, калі «Шчаслівага» ўсяго пакрыла хваляй—ад кіля да верхавіны мачты. На шчасце. Пенкроф прадбачыў гэта і загадаў усім прывязацца, бо інача́й хваля напэўна змыла-б каго-небудзь за борт.

У гэтую небяспечную хвіліну каманда «Шчаслівага» нечакана атрымала дапамогу ад палоннага. Інстынктам марака ўгадаўшы небяспеку, ён выскачыў з люка і моцным ударам шаста выбіў фальшборт, каб вада, якая заліла палубу, хутчэй сцякла. Калі шлюп выпрастаўся, ён, не сказаўшы ні слова, вярнуўся ў сваю каюту.

Пенкроф, Гедэон Спілет і Герберт, анямеўшы ад здзіўлення, пазіралі на яго.

Між тым становішча штогадзіну рабілася ўсё больш небяспечным. Марак разумеў, што заблудзіўся ў гэтым бязмежным моры, і не ведаў, як стаць на правільную дарогу.

Ноч з 19 на 20-га была цёмная. Аднак, каля адзінаццаці гадзін вечара вецер аслабеў і хваляванне крыху супакоілася. «Шчаслівы» зноў пачаў набіраць хуткасць. На славу яго будаўнікоў трэба адзначыць, што судзенца надзвычай добра трымалася ў часе непагоды.

Пенкроф, Гедэон Спілет і Герберт не заплюшчвалі вачэй у гэтую ноч. Яны напружана ўглядаліся ў цемру, ведаючы, што востраў Лінкольна павінен быць дзесьці недалёка. Або яны павінны былі ўбачыць яго не пазней, як досвіткам наступнага дня, або пагадзіцца з думкай, што «Шчаслівы». аднесены ад курса плынямі і ветрам, заблудзіўся ў акіяне. Пенкроф, бязмежна ўсхваляваны, не губляў, аднак, надзеі. Гэта быў мужны чалавек.

Не выпускаючы з рук руля, ён упарта ўглядаўся ў непранікальную цемру.

Каля двух гадзін ночы ён раптам ускочыў на ногі.

— Відаць агонь!—крыкнуў ён.

Сапраўды, за дваццаць міль на паўночны ўсход у цемры мільгаў агеньчык. Востраў Лінкольна знаходзіўся там, і гэта быў агонь, раскладзены Сайрусам Смітам!

Пенкроф, які кіраваў значна больш на поўнач, шпарка перамяніў курс і накіраваў судна на гэты агеньчык, што паблісквау, як зорка першай велічыні.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

*Зварот.—Спрэчкі.—Сайрус Сміт і невядомы.—Порт Шара.—Лячэнне.—Хвалюючае выпрабаванне.—Слёзы.*

На другі дзень, 20 кастрычніка, каля сямі гадзін раніцы, пасля чатырох дзён плавання, «Шчаслівы» кінуў якар у вусці ракі Падзякі.

Сайрус Сміт і Наб, надзвычай устрывожаныя непагодай і працяглай адсутнасцю сваіх таварышоў ад зары дзяжурылі на пласкагор'і Далёкага віду. Нарэшце, яны ўбачылі ў далечыні доўгачаканае судзенца.

— Нарэшце!—ускочыў інжынер.—Вось яны!.

Наб ад захаплення пачаў скакаць.

Пералічыўшы людзей, якія знаходзіліся на палубе шлюпа, інжынер спярша падумаў, што Пенкрофу або не ўдалося знайсці пацярпеўшага крушэнне на востраве Табор, або гэты няшчасны адмовіўся перамяніць адну турму на другую і астаўся на сваім востраве.

Сапраўды, на палубе «Шчаслівага» знаходзіліся толькі Пенкроф, Гедэон Спілет і Герберт.

Калі судзенца прычаліла, інжынер, які разам з Набам спаткалі іх на беразе, крыкнуў:

— Мы вельмі непакоіліся за вас, сябры мае! Ці не здарылася з вамі якога-небудзь няшчасця?

— Не,—адказаў Гедэон Спілет. Усё скончылася добра. Зараз мы раскажам вам больш падрабязна.

— Аднак, вам усё-ж не пашанцавала з пошукамі? Бо інакш на палубе было-б не тры чалавекі.

— Прабачайце, містэр Сміт,—адказаў марак,—нас чацвёра.

— Вы знайшлі гэтага пацярпеўшага крушэнне?

— Так.

— І прывезлі яго сюды?

— Так.

— Жывога?

— Так.

— Ды дзе-ж ён? Хто ён?

— Гэта чалавек, больш правільна, былы чалавек!—адказаў журналіст.—Вось і ўсё, што мы можам сказаць вам, Сайрус.

І ён каротка расказаў інжынеру пра ўсе падзеі за апошнія дні, пра тое, як рабіліся пошукі, як адзіны дом на востраве быў закінуты і пусты, як, нарэшце, яны знайшлі пацярпеўшага крушэнне, які зусім страціў чалавечае аблічча.

— Мы нават сумняваліся ці варта яго везці сюды,—дадаў да гэтага апавядання Пенкроф.

— Не, вы правільна зрабілі, Пенкроф!—жвава сказаў Сайрус Сміт.

— Але гэты няшчасны страціў розум...

— У гэты час, магчыма,—адказаў Сайрус Сміт.—Але яшчэ некалькі месяцаў таму назад гэты няшчасны быў такім-жа чалавекам, як вы і я. Хто ведае, у што ператворыцца пасля доўгіх дзён адзіноты той з нас, якому суджана перажыць усіх астатніх...

— Але, чаму вы, містэр Сміт, думаеце, што гэты чалавек адзічэў нядаўна?—запытаў Герберт.

— Таму што запіска была напісана нядаўна, і адзіны чалавек, які мог яе напісаць,—гэта сам пацярпеўшы крушэнне.

— У тым, аднак, выпадку, калі гэтая запіска не была напісана яго таварышам, які потым памёр.

— Гэта немагчыма, дарагі Спілет.

— Чаму?—запытаў журналіст.

— Таму, што тады-б у запісцы гаварылася пра двух пацярпеўшых крушэнне.

Герберт расказаў таксама інжынеру пра зварот на момант розуму ў гэтага чалавека—у хвіліну, калі хваля пагражала патапіць судна.

— Ты правільна робіш, Герберт, што надаеш вялікае значэнне гэтаму факту,—сказаў інжынер.—Гэтага няшчаснага можна вылечыць. Ён адзічэў ад роспачы і безнадзейнасці. Але тут, акружаны клапатлівым доглядам, ён выздаравее. Мы выратуем яго!

Калі жыхара вострава Табор вывелі на бераг, ён адразу хацеў уцякаць. Але Сайрус Сміт ласкава спыніў яго, паклаўшы яму руку на плячо. Няшчасны, дрыжучы, спыніўся, апусціў вочы, нахіліў галаву. Патроху, аднак, ён супакоіўся.

— Няшчасны, няшчасны!—прашаптаў інжынер, уважліва ўглядаючыся ў невядомага.

Мяркуючы па знешняму выгляду, у ім не засталося нічога чалавечага. Але, таксама як і журналісту, Сайрусу Сміту здалося, што ў вачах невядомага свеціцца нейкая затоеная думка.

Каланісты вырашылі, што невядомы—ад гэтага часу яны так празвалі яго—будзе жыць у адным з пакояў Гранітнага палаца, адкуль ён не мог уцячы. Ён без супраціўлення пайшоў у сваё новае жыллё. Каланісты зачынілі за ім дзверы і пакінулі яго аднаго, спадзяючыся, што раней ці пазней у ім абудзіцца розум і калонія вострава Лінкольна павялічыцца на аднаго чалавека.

У часе снедання, якое наспех згатаваў Наб, бо спадарожнікі ледзь што не паміралі ад голаду, Сайрус Сміт загадаў зноў надрабязна паўтарыць расказ пра паездку на востраў Табор. Ён згадзіўся з меркаваннем сваіх таварышоў, што невядомы павінен быў быць англічанінам або амерыканцам, па-першае, таму, што на гэтую думку наводзіў надпіс «Брытанія» на дошках хаціны, і, па-другое, таму, што не зважаючы на густыя пасмы валасоў і ўскалмачаную бараду, якая надавала яму дзікі выгляд, невядомы быў тыповым прадстаўніком англа-саксонскай расы.

— Дарэчы, Герберт, мы так і не паспелі распытаць у цябе, як здарылася, што невядомы напаў на цябе?—сказаў Гедэон Спілет.

— Чэснае слова, мне бадай што няма чаго расказваць,—адказаў юнак.—Памятаю, што я нагнуўся на нейкую расліну, як раптам пачуў шум нібы снежнага абвалу, які далятаў з высокага дрэва. Я не паспеў нават павярнуцца ў бок шуму, як гэты няшчасны зваліўся на мяне, і, каб не падаспеў містэр Спілет і Пенкроф...

— Хлопчык мой,—усхвалявана перапыніў інжынер яго,—ты быў трапіў у вялікую небяспеку! Але, каб не здарылася гэтага, няшчасны вар'ят, магчыма, нічым-бы не выдаў сваёй прысутнасці, і ў нас было-б адным таварышом менш!

— Вы спадзеяцеся зрабіць з яго чалавека, Сайрус?—запытаў журналіст.

— Так,—адказаў інжынер.

Паснедаўшы, каланісты спусціліся на бераг і занялісь разгрузкай «Шчаслівага». Агледзеўшы ўважліва зброю і інструменты, інжынер не знайшоў, аднак, нічога такога, што дазволіла-б вызначыць, хто такі незнаёмы.

Адзічэлых свіней змясцілі з ушанаю у караль, дзе яны хутка асвоіліся.

З такой-жа гасціннасцю прынялі і два бачонкі з порахам і кулямі і карабкі з пістонамі. Зараз-жа было вырашана зрабіць маленькі парахавы пограб на старым, або

нават дзе-небудзь на дварэ Гранітнага палаца, каб не баяцца выбуху.

Калі разгрузка шлюпа была закончана, Пенкроф сказаў:

— Містэр Сміт! Мне здаецца, што было-б варта паставіць «Шчаслівага» ў больш надзейнае месца.

— А хіба вы лічыце, што вусце ракі дрэнная стаянка?— запытаў інжынер.

— Так, містэр Сміт. У часе адліву судна будзе стаяць на пяску, а гэта «стамляе» карабль. Трэба сказаць, што «Шчаслівы» аказаўся цудоўным судзенцам. Ён вельмі добра трымаўся ў часе буры і заслугоўвае лепшых адносін да сябе.

— А ці не можна трымаць яго на прывязі пасярэдзіне ракі?

— Можна-то можна, але вусце не абаронена ад вятроў, і «Шчаслівы» можа ад гэтага вельмі пацярпець.

— Куды-ж вы хочаце паставіць яго, Пенкроф?—запытаў журналіст.

— У порт Шара,—адказаў марак.—Мне здаецца, што там сапраўды добрае месца для стаянкі.

— Ці не занадта гэта далёка?

— Падумаеш, якіх-небудзь тры мілі ад палаца па добрай дарозе!

— Што-ж, Пенкроф, пастаўце туды вашага «Шчаслівага», хоць, праўду кажучы, я палічыў-бы за лепшае мець яго перад вачамі. Калі ў нас будзе крыху часу, мы пабудуем для яго спецыяльны порт.

— Вось здорава!—гукнуў Пенкроф.—Порт з маяком, молам і сухім докам? Чэснае слова, містэр Сміт, з вамі не загінеш!

— З адной умоваю, дарагі Пенкроф: калі вы будзеце мне дапамагаць. Бо ў кожнай нашай сумеснай рабоце вы робіце тры чвэрці.

Герберт і марак узышлі зноў на борт «Шчаслівага», падымлі якар, паставілі парусы і пры спадарожным ветры шпарка прыплылі ў ціхую гавань парта Шара. Праз дзве гадзіны яны ўжо вярнуліся ў Гранітны палац.

Як трымаўся незнаёмец у першыя дні прабывання на востраве Лінкольна? Ці была надзея, што дзікасць яго змякчыцца ад судакранання з людзьмі? Несумненна і бясспрэчна! Ён так шпарка асвойваўся ў новай абстаноўцы, што Сайрус Сміт і Гедэон Спілет пачалі сумнявацца, ці сапраўды ў яго быў перыяд поўнай страты свядомасці.

У першыя дні, прызвычаіўшыся да вольнага паветра і бязмежнай свабоды вострава Табор, невядомы глуха абураўся абмежаваннямі, якія яму рабілі каланісты. Сайрус

Сміт асцерагаўся нават, што ён выкінецца з акна Гранітнага палаца. Але паволі дзікун супакоіўся, і яму далі больш волі. Значыць, каланісты мелі падставы спадзявацца, што ён паправіцца. Невядомы паступова адвыкаў ад набытай на востраве прывычкі есці сырое мяса і пачаў з ахвотаю есці яду, прыгатаваную Набам.

Сайрус Сміт скарыстаў час, калі незнаёмы спаў, каб падстрыгчы яму бараду і валасы, якія надавалі яму такі дзікі выгляд. Затым замест набедранай павязкі яго забяспечылі больш прыстойнай вопраткай. Дзякуючы ўсяму гэтаму, невядомы адразу набыў больш цывілізаваны выгляд, і здавалася нават, што яго позірк стаў менш пануры і дзікі.

Сайрус Сміт стараўся ўдзяляць яму штодня па некалькі гадзін. Ён садзіўся працаваць побач яго і прыдумляў тысячы спосабаў, каб як-небудзь прыцягнуць яго ўвагу. Яму здавалася, што дастаткова адной іскры, дастаткова якога-небудзь аднаго ўспаміну, каб у гэтага няшчаснага зноў пачала працаваць памяць. Бо на барту «Ш ч а с л і в а г а» ў часе буры ён дзейнічаў, як разумны чалавек.

Інжынер не прапускаў выпадку гучна гаварыць у прысутнасці невядомага, стараючыся зацікавіць яго гутаркаю. Заўсёды той або іншы з каланістаў, а часамі і ўсе разам заходзілі ў пакой невядомага. Яны гутарылі звычайна пра мора, караблі і маракоў, лічачы, што гэтыя тэмы павінны больш за ўсё цікавіць яго. Часам здавалася, што ён пачынае прыслухоўвацца да іх размоў, і каланісты былі пераканаты, што сёе-тое з таго, што яны гаварылі, даходзіла да яго свядомасці. Часамі яго твар выяўляў пакуту — несумненны доказ таго, што ён пра штосьці думае. Аднак, ён не гаварыў яшчэ, хоць некалькі разоў каланістам здавалася, што вось-вось ён загаворыць.

Увесь гэты час няшчасны быў сумны і спакойны. Але ці не быў гэты спакой напускным? Можа, яго прыгнятала няволя?

Нельга было нічога сказаць пэўна. Было зусім натуральна, што ён з выгляду змяніўся, знаходзячыся заўсёды паміж людзьмі, якія па-сяброўску абыходзіліся з ім, угадвалі самае малое яго жаданне, кармілі, паілі і адзявалі яго. Але ці асвоіўся ён з сваім новым жыццём ці толькі зрабіўся ручным, як жывёла?

Гэтае пытанне было вельмі важнае, але, як ні хацелася Сайрусу Сміту хутчэй атрымаць адказ на яго, ён асцерагаўся рабіць які-небудзь націск на свайго пацыента. Для інжынера незнаёмы быў толькі хворым. Ці пачне ён калі-небудзь папраўляцца?..

Інжынер не выпускаў незнаёмца з увагі ні на адну хвіліну. Ён сачыў за кожным яго рухам, як паляўнічы за самым рэдкім зверам.

Каланісты ў вялікім хваляванні назіралі за ўсімі фазамі гэтага лячэння, за якое ўзяўся інжынер. Яны ўсім, чым маглі, стараліся дапамагчы яму, і паступова ўсе, хіба за выключэннем скептыка Пенкрофа, пачалі верыць у магчымасць папраўкі жыхара вострава Табор.

З цягам часу незнаёмы пачаў выяўляць адзнакі прыязні да Сайруса Сміта. Інжынер вырашыў зрабіць маленькі вопыт; прывесці незнаёмага на бераг акіяна, а потым пайсці з ім у лес, які павінен быў прыгадаць яму лясы вострава Табор, дзе ён пражыў столькі год.

— Але хто можа паручыцца, што ён не ўцячэ, апынуўшыся на волі?—запытаў журналіст.

— Гэты вопыт трэба прарабіць,—адказаў інжынер.

— Пабачыце,—запярэчыў Пенкроф,—як толькі гэты хлапец апыніцца на вольным паветры, ён зараз-жа збяжыць ад нас!

— Не думаю,—сказаў Сайрус Сміт.

— Пабачым,—адказаў Гедэон Спілет.

У гэты дзень, 30 кастрычніка, гэта значыць на дзевяты дзень прабывання незнаёмага на востраве, гарачае сонца залівала асляпляючымі праменнямі ўзбярэжжа. Было зусім цёпла.

Сайрус Сміт і Пенкроф зайшлі ў пакой незнаёмага. Яны ўбачылі, што ён сядзеў каля акна і пазіраў у неба.

— Хадзем, мой дружа,—сказаў ласкава інжынер.

Незнаёмы зараз-жа падняўся. Ён рушыў за Сайрусам Смітам, не спускаючы з яго позірку. Марак, які не верыў у поспех вопыту, ішоў ззаду.

Яны ўтрох сталі ў кош пад'ёмнай машыны. Герберт, Наб і Гедэон Спілет ужо чакалі іх унізе. Кош слізгануўся ўніз, і праз поўхвіліны ўсе былі разам на беразе.

Каланісты адышлі на некалькі крокаў, каб пакінуць незнаёмага на волі. Позірк яго выяўляў вялікую ўзрушанасць, калі ён пазіраў на маленькія хвалі, што лізалі пясок. Але ён і не спрабаваў уцякаць.

— Магчыма, што мора не выклікае ў ім думак пра ўцёкі,—заўважыў Гедэон Спілет.—Трэба завесці яго да ўскраіны лесу. Толькі тады вопыт будзе пераканаўчым.

— Да рэчы, яму нават бегчы няма куды, бо масткі падняты,—сказаў Герберт.

— Хіба толькі!—засмяяўся Пенкроф.—Так яго і спыніць такая лужынка, як Гліцэрынавы ручай! Ды ён вельмі проста пераскочыць цераз яго!

— Пабачым,—сказаў Сайрус Сміт, не спускаючы вачэй з свайго «хворага».

Каланісты павялі незнаёмага да вусця ракі Падзякі і адтуль усе разам узабраліся на пласкагор'е Далёкага віду.

Падышоўшы да ўскрайку лесу, да велічных дрэў, лісце якіх гойдаў ветрык, невядомы спыніўся і на поўныя грудзі ўздыхнуў ап'яняючы пах почак.

Каланісты стаялі за ім наспагатове, каб дагнаць яго, калі ён паспрабуе схавацца ў лесе.

Сапраўды, адну секунду незнаёмы нібы збіраўся скочыць у ваду Гліцэрынавага ручая, каб пераплысці на той бераг, да лесу, але амаль у той-жа момант ён авалодаў сабою, адступіў на некалькі крокаў, апусціўся на зямлю, і, дзве буйныя слязіны выцеклі з яго вачэй.

— А!—усклікнуў інжынер.—Ты плачаш? Значыць, ты зноў стаў чалавекам!

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

*Нявыкрытая таямніца.—Першыя словы незнаёмага.—12 год на астраўку.—Прызнанне.—Знікненне. Сайрус Сміт поўны давер'я.—Пабудова млына.—Першы хлеб.—Гераічны ўчынак.—Сумленныя рукі.*

Няшчасны сапраўды плакаў. Нейкі ўспамін мільгануў у яго дрымотнай свядомасці, як сказаў Сайрус Сміт, слёзы адрадзілі ў ім чалавека.

Каланісты адышлі ўбок, каб невядомы не саромеўся. Але яму і ў галаву не прышло скарыстаць сваю свабоду, каб уцячы. Праз некаторы час Сайрус Сміт завёў яго зноў у Гранітны палац.

Дні праз два невядомы ўпершыню захацеў прыняць удзел у штодзённых клопатах калоніі. Было відавочна, што ён усё чуў, усё разумеў, але чамусьці ўпарта не хацеў размаўляць.

Аднойчы ноччу Пенкроф, прыклаўшы вуха да перагародкі яго пакоя, пачуў, як ён мармыча:

— Не, не тут! Нізавошта!

Марак расказаў сваім таварышам пра гэта.

— Тут захавана нейкая сумная таямніца,—сказаў Сайрус Сміт.

Незнаёмы ўзяў аднойчы рыдлёўку і пайшоў працаваць на гарод. Часам ён спыняў работу і, абапёршыся на рыдлёўку, доўга стаяў у вялікім задуменні. Інжынер параіў сваім спадарожнікам не трывожыць яго ў такія хвіліны і паважаць яго імкненні да адзіноты. Калі ненаўмысля хто-небудзь з каланістаў падыходзіў да яго ў гэты час, ён плачучы, уцякаў.

Відавочна, яго мучыла сумленне. Гедэон Спілет не стрымаўся і аднаго разу выказаў такую думку:

— Ён не гаворыць таму, што яму патрэбна пачаць з цяжкіх прызнанняў.

Так ці іначай, але каланістам давялося запасціся цярплівасцю і чакаць.

Праз некалькі дзён, 3 лістапада, невядомы як звычайна спыніў працу. Рыдлёўка вывалілася з яго рук, і Сайрус Сміт убачыў, што ён плача. Узрушаны непераможным пачуццём спагады, інжынер падышоў да яго і, паклаўшы яму руку на плячо, запытаў:

— Дружа мой, чаго вы?

Невядомы адвёў позірк убок, а калі Сайрус Сміт захацеў націснуць яго руку, жвава адступіў на некалькі крокаў.

— Зірніце мне ў вочы, дружа мой,—цвёрда сказаў інжынер,—я гэтага хачу.

Невядомы падняў на яго вочы, нібы загіпнатызаваны і, рвануўся, каб уцячы. Аднак, амаль у тую-ж секунду з яго тварам адбыліся нейкія змены. Вочы яго паблісквалі, як маланка. Словы прасіліся з яго вуснаў. Відаць было, што ён не меў сілы больш маўчаць. Урэшце, скрыжаваўшы рукі на грудзях, ён глухім голасам запытаў:

— Хто вы?

— Такія-ж пацярпеўшыя крушэнне, як і вы,—адказаў Сайрус Сміт, усхваляваны да глыбіні душы.—Такія-ж людзі, як вы!

— Такія-ж людзі, як я? Не!..

— Вы паміж сяброў,—намагаўся інжынер.

— Сярод сяброў?.. У мяне—сябры?—усклікнуў невядомы, закрываючы твар рукамі.—Не!.. Ніколі... Пакіньце мяне! Пакіньце мяне!

І ён пабег да мора і там доўгі час стаяў нерухома.

Сайрус Сміт вярнуўся да сваіх таварышоў і расказаў ім пра гэтую сцэну.

— Так, у жыцці гэтага чалавека ёсць нейкая змрочная тайна. Мне здаецца, што і свядомасць абудзілася ў яго ад пакут сумлення.

— Так, дзіўнага чалавека мы прывезлі!—сказаў марак.— У яго нейкія падазроныя тайны.

— Але якія мы ўсё-ж павінны паважаць!—жвава запярэчыў Сайрус Сміт.—Калі нават ён і зрабіў у мінулым якінебудзь нядобры ўчынак, дык ён досыць жорстка быў пакараны за яго, і мы павінны дараваць яму.

На працягу двух гадзін невядомы аставаўся адзін на пляжы, паглыбіўшыся ва ўспаміны пра мінулае... відаць вельмі сумнае мінулае. Каланісты не пакідалі сачыць за ім.

але і не парушалі яго адзіноты. Пасля гэтага ён нібы прыняў нейкае рашэнне і цвёрдым крокам падышоў да інжынера. Вочы яго былі чырвоныя ад праліты́х слёз, але ён больш не плакаў.

— Вы англічанін?—запытаў ён Сайруса Сміта.

— Не, амерыканец,—адказаў інжынер.

— Ага!—сказаў незнаёмы і напоўголаса дадаў:—Гэта лепш!

— А вы, мой дружа?—у сваю чаргу запытаў інжынер.

— Англічанін,—адказаў той.

І, нібы гэтыя некалькі слоў каштавалі яму вялікага напружання, незнаёмы спешна павярнуўся і пачаў хадзіць туды-сюды па беразе ракі Падзякі ў стане найвялікшага ўзрушання.

Праз некаторы час, праходзячы паўз Герберта, ён раптам спыніўся і здушаным ад хвалявання голасам запытаў:

— Які ў нас месяц?

— Лістапад,—адказаў юнак.

— А год?

— Тысяча восемсот шэсцьдзесят шосты.

— Дванаццаць год! Дванаццаць год!—крыкнуў незнаёмы і зноў пачаў хадзіць.

Герберт паспяшыў пераказаць каланістам гэтую размову.

— Няшчасны ўжо згубіў лік год!—усклікнуў Гедэон Спілет.

— Так,—адказаў Герберт.—Відавочна, ён пражыў дванаццаць год на сваім астраўку!

— Дванаццаць год!—сказаў Сайрус Сміт.—Дванаццаць год поўнай адзіноты... з нейкай плямай на сумленні!.. Ад гэтага памуціўся-б самы светлы розум!

— Мне чамусьці здаецца,—дадаў Пенкроф,—што гэты чалавек не пацярпеў крушэнне, а быў высаджаны на востраў Табор у пакаранне за нейкае злачынства.

— Я лічу, што вы праўду кажаце, Пенкроф,—заўважыў журналіст.—Але калі гэта так, дык няма нічога немагчымага ў тым, што тыя, хто яго высадзіў на востраў, калі-небудзь вернуцца па яго.

— Але, не знайшоўшы яго на месцы,—сказаў Герберт,—яны падумаюць, што ён памёр...

— У такім выпадку,—заявіў Пенкроф,—трэба вярнуцца і...

— Сябры мае!—перапыніў яго інжынер.—Не варта абгаварваць гэтае пытанне, пакуль што гэта толькі меркаванні. Няшчасны жорстка пакараны за свае памылкі, якія-б цяжкія яны ні былі. Ён сам пакутуе ад жадання пакаяцца ў іх перад намі. Дык не будзем спяшацца з высновамі! Не сёння,—

дык заўтра ён сам усё нам раскажа, і тады мы даведаемся, як нам трэба зрабіць. Толькі ён можа сказаць нам, ці была ў яго калі-небудзь надзея вярнуцца на радзіму. Між іншым, я асабіста ў гэтым сумняваюся.

— Чаму?—запытаў журналіст.

— Таму што, калі-б у яго была ўпэўненасць, што настане дзень, калі па яго прыедуць, ён чакаў-бы цярпліва гэтага дня і не кідаў-бы запісак у мора. Не, я схільны да думкі, што ён быў асуджаны памерці ў самоце на гэтым астраўку, не ўбачыўшы людзей.

— Усё-ж,—сказаў марак,—ёсць адна акалічнасць, якую я не магу зразумець...

— Якая іменна?

— Калі гэты чалавек ужо дванаццаць год знаходзіўся на востраве, трэба думаць, што ён ужо досыць даўно адзічэў, праўда?

— Магчыма,—згадзіўся з ім Сайрус Сміт.

— Значыць, ён напісаў запіску шмат год таму назад?

— Вядома... Хоць, з другога боку, запіска здаецца толькі што напісанай.

— Ды апрача таго незразумела, якім чынам бутэлька плыла некалькі год ад вострава Табор да вострава Лінкольна?

— Тут, як я думаю, няма нічога незразумелага,—запярэчыў журналіст.—Дарэчы, яна магла ўжо даўно плаваць блізка нашага вострава.

— Не,—сказаў Пенкроф.—Вы памыляецеся. Нельга падумаць, што яе выкідала на бераг, а потым зноў падбірала мора. Бераг, каля якога мы знайшлі бутэльку,—скалісты, і яна немінуча павінна была разбіцца...

— Так, вы праўду кажаце,—задуменна сказаў Сайрус Сміт.

— Апрача таго,—прадаўжаў марак,—калі-б запіска прабыла шмат год у вадзе, яе пашкодзіла-б вільгаць, а між тым мы знайшлі яе добра захаванай.

Заўвагі марака былі зусім правільнымі: было штосьці незразумелае ў тым, што запіска, знойдзеная ў бутэльцы, выглядала толькі што напісанай. Апрача таго, у запісцы так дакладна адзначалася шырата і даўгата вострава, што аўтар яе, несумненна, валодаў вялікім запасам геаграфічных ведаў, чым гэта звычайна бывае ў простых маракоў.

— Вы праўду кажаце, сябры мае,—паўтарыў інжынер,—тут ёсць штосьці, што нельга вытлумачыць. І тым не менш не трэба вымагаць прызнанняў у нашага новага таварыша. Ён сам раскажа нам пра ўсё, што ведае... Калі здолее...

На працягу наступных дзён невядомы не праказаў ніводнага слова і ні разу не вышаў за агарожу пласкагор'я. Ён працаваў на агародзе без адпачынку, ад цямна да цямна, але ўвесь час абыходзіў людзей. У часе снедання і абеду ён задавальняўся сырою гароднінаю, не гледзячы на тое, што яго заўсёды запрашалі да стала. З надыходам ночы ён не варочаўся ў свой пакой, а садзіўся дзе-небудзь на беразе або, калі надвор'е было дрэннае, пад якім-небудзь выступам скалы.

Ён жыў тут таксама, як і на востраве Табор, і дарэмна каланісты ўгаварвалі яго змяніць свае паводзіны. Але урэшце яны вырашылі не настойваць і цярпліва чакаць. Настаў, урэшце, дзень, калі невядомы загаварыў.

Гэта было 10 лістапада каля васьмі гадзін вечара. Змораныя ад дзённай працы, каланісты сабраліся на верандзе і як звычайна мірна гутарылі, калі раптам перад імі апынуўся невядомы. Вочы яго паблісквалі нейкім дзіўным бляскам. Ва ўсім яго абліччы было штосьці дзікае, як у першыя, горшыя дні пражывання на востраве.

Сайрус Сміт і яго таварышы проста спалохаліся, бачачы, што ён увесь дрыжыць ад страшэннага ўзрушэння. Што з ім робіцца? Няўжо яму было цяжка бачыць людзей? Няўжо ён не мог больш пераносіць працоўнага жыцця і яго зноў цягнула да жывёльнага стану? Можна было гэтае надумаць, слухаючы, як ён адрывіста крычаў:

— Чаму я тут?.. Хто даў вам права гвалтоўна звезці мяне з майго астраўка?.. Ці ведаеце вы, хто я?.. Што я зрабіў?.. Чаму я быў там адзін?.. Можа, мяне наўмысля пакінулі там, каб я памёр самотна?.. Што вы ведаеце пра маё мінулае?.. Можа, я быў злодзеем, забойцам, дзікім зверам, які не мае права жыць побач з людзьмі? Што вы ведаеце пра гэта, скажыце?

Каланісты слухалі, стрымліваючы дух, гэтыя поўпрызнанні, якія нібы мімаволі вырываліся з грудзей невядомага.

Сайрус Сміт, стараючыся супакоіць яго, ступіў яму насустрач, але невядомы паспешна адступіў.

— Не! Не!—гукнуў ён.—Не падыходзьце да мяне! Скажыце толькі, ці вольны я?

— Вы вольныя,—адказаў інжынер.

— Дык бывайце!

Сказаўшы гэта, ён пабег.

Наб, Пенкроф і Герберт пагналіся за ім, але неўзабаве вярнуліся адны.

— Трэба даць яму волю!—сказаў інжынер.

— Але ён ніколі не вернецца,—адказаў марак.

— Ён вернецца!—упэўнена сказаў Сайрус Сміт.

Пасля гэтага мінула шмат дзён, але ўпэўненасць інжынера не пахіснулася: ён увесь час сцвярджаў, што раней ці пазней, але няшчасны вернецца.

— Гэта апошняя ўспышка дзікасці,—казаў ён.—Пакуты сумнення абудзіліся ў ім, і ён не вытрывае новай адзіноты. Ён вернецца!

Тым часам звычайныя работы прадаўжаліся як на засеяных палях і гародах, так і ў каралі, дзе Сайрус Сміт хацеў пабудаваць сапраўдную ферму. Само па сабе зразумела, што насенне, якое прывёз Герберт з вострава Табор, было вельмі старанна пасеяна.

Усё пласкагор'е Далёкага віду ператварылася ў куточак апрацаванай зямлі, якая вымагала няспыннай работы каланістаў.

З тым, як павялічваліся колькасць гародніх раслін, даводзілася пашыраць плошчу, адведзеную пад іх, і хутка ўсё пласкагор'е ўкрылася прамавугольнікамі ўзаранай зямлі.

Каланісты вырашылі, што больш мэтазгодна апрацаваць пад гароды загароджанае з усіх бакоў пласкагор'е Далёкага віду, чым адводзіць частку яго плошчы пад пашу, якая не баіцца нападу чацвераногіх і чацверарукіх. Але анаграм не давялося цярпець ад знішчэння іх пашы, бо травы, такой самай сакавітай і смачнай, было ўволю ў іншых месцах вострава.

15 лістапада пачалося трэцяе жніво. Гэтым разам каланісты сабралі ўраджай на чатыры тысячы чацвярыкоў, гэта значыць больш пяці мільёнаў хлебных зернят! Цяпер калонія была вельмі багатай на хлеб, бо досыць было штогод сеяць па некалькі чацвярыкоў, каб на ўвесь год і людзі і жывёла былі поўнасцю забяспечаны хлебам.

Сабраўшы ўраджай, каланісты заняліся ў апошнія дні лістапада мукамольнай справай.

І сапраўды, у іх было збожжа, але не мука, таму без пабудовы млына яны не маглі абыйсціся. Пасля доўгіх спрэчак вырашана было будаваць не вадзяны млын, а звычайны вятрак на пласкагор'і Далёкага віду. З той прычыны, што гэтае пласкагор'е з'яўлялася ўзвышаным і адкрытым для ўсіх вятроў месцам, не даводзілася асцерагацца, што млыну няхопіць рухавай сілы.

Пенкроф, прыхільнік пабудовы ветранага млына, прывёў апошні аргумент у абарону свайго праекта.

— У дадатак усяго іншага,—сказаў ён,—ветраны млын ажывіць нам пейзаж!

Каланісты горача ўзяліся за работу. Раней быў выбраны будаўнічы лес. Вялікія камяні, якія валяліся на паўночным беразе возера, маглі быць жорнамі, а ў якасці матэрыялу

для крылляў можна было скарыстаць усё тую-ж невычэрпную абалонку паветранага шара.

Сайрус Сміт спраектаваў млын і выбраў для яго месца недалёка ад птушніка, на беразе возера. Клець млына была зроблена рухомай, каб можна было яе пакручваць у залежнасці ад напрамку ветру.

Работа ішла паспяхова. Наб і Пенкроф, якія зрабіліся выдатнымі цеслярамі, шпарка выцясалі па чарцяжах Сайруса Сміта ўсе часткі будучай пабудовы, і хутка ў абраным месцы ўжо ўзвышалася вежа з востраверхім дахам. Аснова крылляў была добра прымацавана да вала жалезнымі скрэпамі.

Скрыня, у якой змяшчаюцца абодва жорны, жолаб, шырокі ўверсе і вузкі ўнізе, які накіроўвае зерне, рухомы коўш і, нарэшце, сіта, якое аддзяляе муку ад шалухі, былі загадзя падрыхтаваны, і цяпер асталося толькі сабраць механізм. Работа па будаўніцтву млына была нескладанай, але маруднай, і толькі 1 снежня ўсё было закончана.

Як заўсёды, Пенкроф захапляўся работай сваіх рук. Ён не сумняваўся, што млын будзе выдатна працаваць.

— І цяпер абы падзьмуў добры вецер, і наш млын пойдзе поўным ходам!—сказаў ён Сайрусу Сміту.

— Нам «добрага» ветру не трэба, дарагі Пенкроф,—адказаў яму інжынер.—Быў-бы абы які.

— А я думаў, што ад моцнага ветру млын будзе больш шпарка малоць!

— Няма ніякай патрэбы ў тым, каб моцны вецер шпарка круціў крыллі млына,—сказаў інжынер.—Вопыт давёў, што млын лепш працуе пры сярэднім ветры, які мае хуткасць дваццаць чатыры футы ў секунду. Тады крыллі робяць шаснаццаць абаротаў за хвіліну, а больш і непатрэбна.

Не было ніякіх падстаў адкладваць урачыстасць пуску млына, тым больш, што каланісты нецярпліва хацелі пакаштаваць сапраўднага печанага хлеба. Таму зараз-жа кош засыпалі збожжам, і на другі дзень у часе снедання каланісты аплятаці ўжо цудоўны хлеб. Можна сабе ўявіць іх радасць!

Між тым невядомы ўсё яшчэ не варочаўся. Гедэон Спілет і Герберт абшукалі ўвесь лес Далёкага захада, але не знайшлі гэтага чалавека. Гэта ўсур'ёз устрывожыла іх. Вядома, дзікун з вострава Табор не мог галадаць у поўных дзічыны лясах вострава Лінкольна, але яны больш за ўсё баяліся іменна звароту яго дзікіх звычак.

Адзін Сайрус Сміт няспынна сцвярджаў, што невядомы абавязкова вернецца.

— Ён вернецца,—паўтараў інжынер з упэўненасцю, якой цяпер не падзяляў ніхто з яго таварышоў.—На востраве Табор ён ведаў, што ён адзінокі. Тут ён ведае, што яго чакаюць людзі. Ён прыўзняў ужо напалову заслону таямніцы над сваім мінулым жыццём. Я ўпэўнены, што ён хутка прыдзе і раскажа нам усё да канца. І ў гэты дзень ён канчаткова вернецца да нас!

Падзеі давялі, што інжынер гаварыў правільна.

3 снежня Герберт пайшоў лавіць рыбу на паўднёвы бераг возера. Ён быў без зброі, бо да гэтага часу небяспечныя драпежнікі ніколі не паказваліся ў гэтай частцы вострава. Наб і Пенкроф гэтым часам былі заняты на птушніку, а Гедеон Спілет і Сайрус Сміт у Каміне,—яны здабывалі соду, бо запас мыла канчаўся.

Раптам здалёку пачуўся крык Герберта.

— Дапамажыце! Дапамажыце!

Сайрус Сміт і Гедеон Спілет знаходзіліся занадта далёка і нічога не пачулі, але Пенкроф і Наб умомант выбеглі з птушніка і рынуліся на крык да возера. Але, выпярэджваючы іх, невядомы, аб прысутнасці якога ў гэтым месцы ніхто не падазраваў, пераскочыў цераз Гліцэрынавы ручай і рушыў да юнака на дапамогу.

Выявілася, што Герберту пагражаў вялізны ягуар. Захоплены знянацку юнак прысланіўся спіною да дрэва. На яго, прысеўшы на заднія лапы, збіраўся скочыць ягуар!

Невядомы, узброены толькі нажом, рынуўся на страшнага звера. Той павярнуўся да новага праціўніка.

Барацьба цягнулася нядоўга. Невядомы меў звышчалавечую сілу і спрытнасць. Ён схапіў ягуара за горла і сціснуў яго так моцна, нібы ў яго былі не пальцы, а жалезныя абцугі. У часе гэтага ён не звяртаў ніякай увагі на тое, што страшэнныя кіпцюры драпежніка рвалі яго цела. Другою, вольнаю рукою ён усадзіў нож у самае сэрца звярыны.

Ягуар упаў. Невядомы адпіхнуў яго нагою і хацеў зноў уцякаць, бо каланісты надбягалі ўжо, але Герберт схапіў яго за руку і пачаў прасіць:

— Не, не! Не ідзіце!

Сайрус Сміт падышоў да выратавальніка Герберта. Кроў струменямі цякла па яго плячы, але ён не звяртаў на гэта ўвагі.

— Дружа мой,—сказаў яму Сайрус Сміт.—Цяпер мы назаўсёды абавязаны вам! Вы рызыкавалі жыццём, каб выратаваць нашага хлопчыка.

— Чаго варта маё жыццё?—прашаптаў невядомы.—Каму яно патрэбна?

— Вы ранены?

— Гэта няважна.

— Дайце мне руку.

Але невядомы скрыжаваў рукі на грудзях. Позірк яго зноў затуманіўся. Ён адступіў на крок, нібы хочучы ўцякаць. Але, стрымаўшыся, рэзка запытаў:

— Хто вы? Што вам патрэбна ад мяне?

Інжынер зразумеў, што ён хоча ведаць гісторыю каланістаў. У некалькіх словах ён расказаў яму, што было з дня іх уцёкаў з Рычмонда. Невядомы слухаў яго расказ з найвялікшай увагай. Потым інжынер сказаў, якую радасць перажылі ўсе каланісты, даведаўшыся, што іх дружная сям'я папоўнілася яшчэ адным чалавекам.

Ад гэтых слоў невядомы пачырванеў і схіліў галаву на грудзі.

— А цяпер, калі вы даведаліся, хто мы,—скончыў Сайрус Сміт,—ці згодны вы падаць нам руку?

— Не,—адказаў невядомы.—Вы сумленныя людзі, а я...

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

*Заўсёды адзінокі.—Просьба невядомага.— Ферма ў каралі.—12 год таму назад.—Боцман „Брытаніі".—Пакінуты на востраве Табор.—Рука Сайруса Сміта.—Таямнічая запіска.*

Гэтыя словы сцвярджалі здагадкі каланістаў. Відавочна, мінулае жыццё невядомага мела нейкія злачынствы, як ён думаў, яшчэ не выкупленыя.

Аднак, пасля выратавання Герберта невядомы згадзіўся вярнуцца ў Гранітны палац і ад таго часу больш не пакідаў яго межаў.

Каланісты, вельмі зацікаўленыя таямніцай жыцця невядомага, усё ж умовіліся, ні ў якім разе не выпытваць у яго тайну і трымацца з ім так, нібы яны нічога не падазравалі.

На працягу наступных дзён жыццё зноў пайшло па звычайнаму. Сайрус Сміт і Гедэон Спілет працавалі ўвесь гэты час разам то як хімікі, то як інжынеры. Журналіст кідаў работу толькі для таго, каб ісці з Гербертам на паляванне, бо пасля падзеі з ягуарам, вырашана было не пускаць юнака аднаго ў лес.

Наб і Пенкроф былі заняты работаю на птушніку, у каралі і па гаспадарцы.

Што датычыцца невядомага, дык ён увесь час трымаўся ў баку ад людзей. Ён ніколі не садзіўся разам за стол і н

ўдзельнічаў у агульнай гутарцы. Нават спаў ён, карыстаючыся цёплым надвор'ем, на дварэ, у засені дрэў пласкагор'я Далёкага віду. Здавалася, што ён не можа перанесіць круга людзей, якія яго выратавалі.

— Незразумела,— казаў Пенкроф,—навошта ў такім выпадку ён патрабаваў дапамогі ад падобных да сябе? Навошта ён кінуў запіску ў мора?

— Ён сам нам скажа пра гэта,—заўсёды адказваў у такіх выпадках інжынер.

— Калі?

— Магчыма, што раней, чым вы думаеце, Пенкроф.

І сапраўды, дзень прызнанняў набліжаўся.

10 снежня, праз тыдзень пасля здарэння з ягуарам, невядомы падышоў да Сайруса Сміта і ціха сказаў яму:

— У мяне да вас вялікая просьба, містэр Сміт!

— Калі ласка, кажыце,—адказаў інжынер,—але раней дазвольце мне сказаць вам...

Ад гэтых слоў невядомы густа пачырванеў і збіраўся быў уцячы. Але Сайрус Сміт, які адразу зразумеў, што ён баіцца распытаў пра мінулае, стрымаў яго.

— Паверце, таварыш, мы не толькі вашы суседзі, але і сапраўдныя, адданыя сябры! Вось і ўсё, што я хацеў вам сказаць. А цяпер я слухаю вас!

Невядомы павёў рукою па вачах. Гэтая рука дрыжэла. Некалькі часу ад хвалявання ён не мог праказаць ніводнага слова.

— Я хачу прасіць пра міласць,—нарэшце, праказаў ён.

— Пра якую?

— У вас ёсць караль за чатыры-пяць міль адсюль. Жывёла, якая там знаходзіцца, патрабуе догляду. Я хачу прасіць вас, каб вы дазволілі мне жыць каля яе

Сайрус Сміт на працягу некалькі секунд не адрываў ад невядомага позірку, поўнага вялікай спагады.

— Дружа мой, у каралі ёсць толькі хлеў, ледзь прыгодны нават для жывёлы.

— Гэтага зусім дастаткова для мяне, містэр Сміт.

— Мы не будзем з вамі спрачацца, дружа мой,—сказаў інжынер.—Вы заўсёды будзеце жаданым госцем у Гранітным палацы. Хочаце жыць у каралі? Калі ласка! Але калі ваша рашэнне цвёрдае, мы прымем меры да таго, каб па-людску ўстроіць вас там.

— Для мяне гэта зусім не патрэбна. Я гатовы задаволіцца тым, што там ёсць.

— Дружа мой,—інжынер наўмысля даваў невядомаму гэ-

тае імя,—дазвольце нам зрабіць у гэтай справе так, як палічым за лепшае!

— Слухаю, містэр Сміт,—адказаў той і адышоў.

Інжынер расказаў таварышам аб прапанове невядомага. Каланісты зараз-жа вырашылі пабудаваць у каралі драўляны дом і абсталяваць яго як мага ўтульней. У той-жа дзень яны накіраваліся ў караль, узяўшы з сабою патрэбныя інструменты, і не мінула і тыдня, як у каралі ўжо быў пабудаваны жылы дом. Будынак быў пастаўлены футаў за дваццаць ад хлева, каб больш зручна было даглядаць стада муфлонаў, якое налічвала ўжо больш васьмідзесяці галоў. Дом быў забяспечаны сталом, табурэткамі, ложкам, шафай і дастатковым запасам зброі і баявых прыпасаў.

Невядомы не ўдзельнічаў, між іншым, ў пабудове дома. Увесь гэты час ён працаваў на гародзе і сам апрацаваў усю зямлю, адведзеную пад засеў, так што каланістам асталося толькі пасеяць насенне.

20 снежня ўсе работы ў каралі наблізіліся да заканчэння. Інжынер вечарам паведаміў невядомага, што дом гатовы. Той адказаў, што ў гэтую-ж ноч ён перабярэцца туды.

Пасля вячэры каланісты, як звычайна, сабраліся ў вялікай залі Гранітнага палаца. Было каля васьмі гадзін вечара і невядомы павінен быў неўзабаве пайсці ў сваё новае жыллё.

Раптоўна пачуўся лёгкі стук у дзверы. Не чакаючы адказу, у пакой увайшоў невядомы і адразу-ж загаварыў:

— Раней, чым развітацца з вамі, я павінен расказаць вам сваю гісторыю. Вось яна...

Гэты ўступ усхваляваў каланістаў.

Інжынер ускочыў на ногі і падышоў да невядомага.

— Мы ні пра што ў вас не распытваемся, дружа мой,—сказаў ён.—Вы маеце права нічога не расказваць.

— Не, я павінен усё расказаць вам!

— Дык садзіцеся.

— Не, я пастаю.

— Тады мы гатовы выслухаць вас.

Невядомы прыхіліўся да сцяны. Ён стаяў выпраміўшыся, скрыжаваўшы рукі на грудзях. Голас яго гучэў глуха, і відаць было, што яму цяжка было расказваць. Каланісты маўкліва слухалі яго.

20 снежня 1854 года,—пачаў невядомы,—яхта «Дункан», якая належала Эдуарду Гленарвану, кінула якар ля мыса Бернуілі, на заходнім беразе Аўстраліі пад трыццаць сёмым градусам шыраты. Пасажырамі яхты былі яе гаспадар, Эду-

ард Гленарван, яго жонка, маёр англійскай арміі, француз-географ, маладая дзяўчына і хлопчык. Абое апошніх былі дзеці капітана Гранта, карабль якога «Б р ы т а н і я» загінуў без весткі каля года таму назад. «Дунканам» камандаваў капітан Джон Манглье, і экіпаж яго складаўся з пятнаццаці чалавек.

Яхта гэтая кінула якар ля берагу Аўстраліі ў сувязі з такімі падзеямі.

За шэсць месяцаў да гэтага яхта «Д у н к а н» знайшла ў Ірландскім моры бутэльку, у якой былі запіскі, напісаныя на трох мовах: англійскай, нямецкай і французскай. У запісках гаварылася пра тое, што тры чалавекі асталіся жывыя пасля крушэння «Б р ы т а н і і»—капітан Грант і два матросы—і знайшлі прытулак на зямлі; запіска паказвала шырату гэтага месца, але прачытаць даўгату было немагчыма—чарніла на запісцы расплылося.

Паказаная ў запісцы паўднёвая шырата была 37°. Для таго, каб адшукаць пацярпеўшых крушэнне пры невядомай даўгаце, патрэбна было ісці ўздоўж трыццаць сёмай паралелі праз кантыненты і акіяны.

З той прычыны, што англійскае адміралцейства адмовілася паслаць экспедыцыю па капітана Гранта, Эдуард Гленарван вырашыў сам накіравацца на пошукі. Ён выклікаў дзяцей капітана Гранта—Мэры і Роберта—і загадаў падрыхтаваць у далёкае плаванне сваю яхту «Д у н к а н». Неўзабаве «Д у н к а н» вышаў з Глазго, прайшоў праз Магеланаў праліў у Ціхі акіян і падняўся да берагоў Патагоніі. Першапачатковае тлумачэнне, знойдзенае ў бутэльцы запіскі нібы паказвала, што тут, у палоне ў тубыльцаў, знаходзіцца капітан Грант і яго таварышы.

«Д у н к а н» высадзіў сваіх пасажыраў на заходнім беразе Патагоніі і зараз-жа адплыў, каб прыняць іх на борт на ўсходнім беразе Паўднёвай Амерыкі, каля мыса Карыентэс.

Экспедыцыя Эдуарда Гленарвана прайшла праз усю Патагонію, паўз трыццаць сёмую паралель, але нідзе не знайшла ніякіх слядоў капітана Гранта. Таму 13 лістапада экспедыцыя вярнулася на «Д у н к а н», і яхта прадаўжала плаванне ўздоўж той-жа трыццаць сёмай паралелі.

Наведаўшы дарогай астравы Трыстан д'Акун'я і Амстэрдам, якія знаходзіліся на той самай паралелі, як я ўжо сказаў, «Д у н к а н» 20 снежня 1854 года даплыў да мыса Бернуілі на аўстралійскім беразе.

Эдуард Гленарван меў намер прайсці Аўстралію, таксама як перасек Паўднёвую Амерыку. Таму экспедыцыя зноў высадзілася на бераг. За некалькі міль ад месца высадкі



22. Таямнічы востраў.

удзельнікі экспедыцыі напаткалі ферму, якая належала аднаму ірландцу. Гаспадар фермы запрасіў іх спыніцца і адпачыць у яго.

Гленарван расказаў гэтаму ірландцу, якія акалічнасці прывялі ў Аўстралію яго экспедыцыю, і запытаў, ці не чуў ірландзец што-небудзь пра трохмачтавы паруснік «Брытанія», які пацярпеў крушэнне каля двух год таму назад дзесьці каля заходняга ўзбярэжжа Аўстраліі.

Гаспадар фермы нічога не чуў пра гэтае крушэнне, але, на здзіўленне ўсіх адзін з яго слуг умяшаўся ў гутарку і сказаў:

— Калі капітан Грант яшчэ жывы, дык ён знаходзіцца ў Аўстраліі!

— Хто вы?—запытаў лорд Гленарван.

— Я шатландзец, як і вы, сэр!—адказаў гэты чалавек.— І я—адзін з пацярпеўшых крушэнне разам з капітанам Грантам!

Гэтага чалавека звалі Айртон. Паказаныя ім дакументы сведчылі, што ён служыў боцманам на «Брытаніі».

Калі карабль разбіўся аб скалы, ён выбраўся на бераг і быў да апошняй хвіліны перакананы, што ён адзін з усяго экіпажа «Брытаніі» выратаваўся ў часе крушэння.

— Толькі,—дадаў ён,—«Брытанія» разбілася не на заходнім, а на ўсходнім узбярэжжы Аўстраліі, і калі капітан Грант яшчэ жывы і знаходзіцца ў палоне ў тубыльцаў, дык яго трэба шукаць па той бок аўстралійскага мацерыка.

Чалавек гэты гаварыў упэўненым голасам. Позірк яго быў ясны і не хаваўся ад дапытлівых позіркаў удзельнікаў экспедыцыі Гленарвана. Не было падстаў не верыць яму, тым больш што гаспадар фермы, у якога ён служыў больш года, гаварыў пра яго добра.

Гленарван паверыў гэтаму чалавеку і вырашыў, слухаючыся яго парады, прайсці Аўстралію па трыццаць сёмай паралелі. Сам Гленарван, яго жонка, дзеці капітана Гранта, маёр, француз-географ, капітан Мангльс і некалькі чалавек з экіпажа «Дункана» ўвайшлі ў склад маленькага атрада, які павінен быў павесці Айртон. Тым часам «Дункан», пад камандай Тома Аусціна, памочніка капітана Манглься, павінен быў накіравацца ў Мельбурн і там чакаць загадаў Гленарвана.

Экспедыцыя рушыла ў дарогу 23 снежня 1854 года.

Трэба сказаць, што Айртон быў здраднікам. Ён сапраўды служыў раней боцманам на «Брытаніі», але, пасварыўшыся з капітанам Грантам, паспрабаваў узбунтаваць экіпаж

і захапіць карабль. Спроба скончылася няўдала, і капітан Грант высадзіў яго на бераг—на з а х о д н і бераг Аўстраліі—і 8 красавіка 1852 года паплыў далей.

Гэты нягоднік нічога не чуў пра крушэнне «Б р ы т а н і і». Ён упершыню даведаўся пра яго з расказу Гленарвана. Пасля таго як яго выгналі з каманды «Б р ы т а н і і», Айртон, пад назвай Бена Джойса, стаў атаманам банды збеглых катаржнікаў. Яго наглае сцверджанне, што «Б р ы т а н і я» пацярпела крушэнне каля ў с х о д н і х берагоў Аўстраліі, угаворы накіраваць пошукі ў гэтым напрамку мелі толькі адну мэту: заманіць Гленарвана на сухазем'е і захапіць яго яхту «Д у н к а н», каб ператварыць яе ў піранкае судна».

Невядомы змоўк на хвіліну. Голас яго дрыжэў, але ён прымусіў сябе гаварыць далей:

«Экспедыцыя адправілася ў дарогу ў глыб аўстралійскага мацерыка. З самага пачатку яе праследавалі ўсялякія няшчасці. У гэтым не было нічога дзіўнага, бо банда Айртона або Бена Джойса, увесь час ішла следам за экспедыцыяй, выконваючы намеры свайго злачыннага кіраўніка.

Між тым «Д у н к а н» рамантаваўся ў Мельбурне. Айртону патрэбна было пераканаць Гленарвана, каб ён загадаў камандзіру яхты Тому Аусціну прывесці яхту ў які-небудзь глухі куток узбярэжжа, дзе яе было-б лёгка захапіць.

Завёўшы экспедыцыю, якая цярпела неймаверныя нястачы, у нетры першабытнага лесу, Айртон угаварыў Гленарвана напісаць Тому Аусціну загад прывесці «Д у н к а н» у бухту Туфольда. У гэтай далёкай і пустэльнай бухце яхту павінна была пільнаваць банда Айртона.

У тую хвіліну, калі Гленарван меўся падаць Айртону пісьмовы загад, здраднік нечакана быў выкрыты, і яму давялося ўцякаць. Аднак, пасля ён здолеў заўладаць сілай гэтым загадам; праз два дні Айртон дабраўся да Мельбурна.

Да гэтага часу ўсе злачынныя замыслы Айртона ажыццяўляліся беспярашкодна. Ён не сумняваўся, што і ў далейшым яго план будзе таксама ўдала выкананы: Том Аусцін павядзе «Д у н к а н» у бухту Туфольда, там яхту спаткае банда, пераб'е экіпаж, заўладае суднам, і... Бен Джойс, ён-жа Айртон, зробіцца ўладаром марэй!

Але тут шчасце здрадзіла яму.

Прыбыўшы ў Мельбурн, Айртон перадаў загад Тому Аусціну. Азнаёміўшыся з яго зместам, той зараз-жа падняў якар. Але можна сабе ўявіць разгубленасць і гнеў Айртона, калі на другі дзень плавання ён даведаўся, што камандзір вядзе судна не да бухты Туфольда, у Аўстраліі, а да ўсход-

ніга берагу Новай Зеландыі! Ён запярэчыў. Тады Том Аусцін паказаў яму загад. У ім сапраўды, дзякуючы шчаслівай памылцы географа-француза, месцам спаткання быў прызначан усходні бераг Новай Зеландыі.

Усе надзеі Айртона рассыпаліся. Ён абурыўся, і паспрабаваў узбунтаваць каманду «Д у н к а н а». Яго пасадзілі пад замок. Ён не ведаў нават, што сталася з яго саўдзельнікамі і з Гленарванам.

«Д у н к а н» крэйсіраваў каля берагоў Новай Зеландыі да 3 сакавіка. У гэты дзень Айртон пачуў гарматную стралянніну. Стралялі гарматы «Д у н к а н а». Неўзабаве Гленарван і яго спадарожнікі ўзышлі на борт яхты.

Вось што адбылося.

Адолеўшы тысячы небяспек, Гленарван вывеў свой атрад да ўсходняга берагу Аўстраліі, да бухты Туфольда. «Д у н к а н а» там не было! Ён тэлеграфаваў у Мельбурн. У адказ прышла тэлеграма: «Д у н к а н» в ы ш а ў 18 л ю т а г а ў н е в я д о м ы м к і р у н к у». Гленарван падумаў, што яго яхта трапіла ў рукі банды Бена Джойса і зрабілася пірацкім караблём.

Тым не менш Гленарван вырашыў прадаўжаць пошукі. Гэта быў смелы і благародны чалавек. Ён наняў гандлёвае судна, дабраўся на ім да заходніх берагоў Новай Зеландыі і прайшоў не ўздоўж трыццаць сёмай паралелі, не знайшоўшы ніякіх слядоў капітана Гранта. Але на процілеглым беразе, надзвычай здзівіўшыся, ён убачыў сваю яхту, якая чакала яго тут на працягу пяці тыдняў.

Гэта адбылося 3 сакавіка 1855 года. Айртона, які ўвесь гэты час быў зняволены на яхце, прывялі да Гленарвана. Той паспрабаваў выпытаць у злачынцы ўсё, што ён ведаў пра лёс капітана Гранта. Айртон адмовіўся адказваць. Гленарван прыгразіў яму, што ў першым-жа парту перадасць яго англійскім уладам. Бандыт упарта маўчаў.

«Д у н к а н» прадаўжаў ісці ўздоўж трыццаць сёмай паралелі. Між тым жонка Гленарвана паставіла сабе за мэту зламаць упартасць Айртона. Пасля вялікіх намаганняў яна дабілася свайго, і Айртон прапанаваў Гленарвану расказаць усё, што яму вядома пра лёс капітана Гранта, калі той паабяцае высадзіць яго на які-небудзь пустэльны астравок Ціхага акіяна, а не здаваць англійскім уладам.

Гленарван згадзіўся на гэтую ўмову.

Тады Айртон расказаў усю сваю гісторыю. На вялікае расчараванне выявілася, што пасля таго, як капітан Грант спісаў яго на бераг, ніякіх вестак пра лёс яго ў Айртона не было. Тым не менш Гленарван вырашыў стрымаць данае ім

слова. «Д у н к а н» прадаўжаў свой шлях уздоўж трыццаць сёмай паралелі і дайшоў да вострава Табор. Там было вырашана высадзіць Айртона. Там-жа па шчаслівай выпадковасці быў знойдзены капітан Грант і два яго таварышы.

Айртон такім чынам павінен быў замяніць іх на гэтым пустэльным востраве. У тую хвіліну, калі ён пакідаў борт яхты, Гленарван звярнуўся да яго з наступнымі словамі:

— Айртон, тут вы будзеце жыць далёка ад заселенай зямлі, без зносін з людзьмі. Уцячы адсюль вы не зможаце. Вы будзеце ў адзіноце, але, у адрозненне ад капітана Гранта пра вашу адзіноту людзі будуць ведаць. Хоць вы таго і не заслугоўваеце, але людзі будуць памятаць пра вас. Я ведаю, дзе вас знайсці, Айртон, і ніколі не забудуся на гэта!

Пасля гэтага «Д у н к а н» падняў якар і пайшоў. Гэта адбылося 18 сакавіка 1855 года[1].

Айртон астаўся ў самоце на востраве. Але ён у збытку быў забяспечаны зброяй, рознымі прыладамі і харчамі. Ён мог пасяліцца ў доміку, які пабудаваў капітан Грант. Жыццё яго было забяспечаным, і яму аставалася толькі ўспамінаць у вольны час пра свае злачынствы і раскайвацца ў іх.

І, адважуся вас запэўніць, ён раскаяўся... Ён быў вельмі няшчасны... Ён сказаў сам сабе, што, калі людзі прыедуць, каб забраць яго з вострава, ён павінен быць варты гэтай літасці.

Так мінула два ці тры гады. Айртон, змучаны адзінотаю, прагледзеўшы ўсе вочы ў пошуках паруса або дымка на гарызонце, страшэнна пакутваў. Ён адчуваў, што дзічэе ад адзіноты, што вар'яцее ад гора і сораму...

Урэшце ён ператварыўся ў тую звярыну, якую вы знайшлі і падабралі...

Думаю, што нават без слоў ясна, што Айртон, Бен Джойс і я—адна асоба...»

Сайрус Сміт і яго таварышы паўставалі ў канцы яго расказу. Цяжка пераказаць словамі, як яны былі ўсхваляваны. Карціна вялікага гора і нясцерпных пакут, якая разгарнулася перад імі, кранула іх да глыбіні душы.

— Айртон,—сказаў Сайрус Сміт,—вы былі вялікім злачынцам, але пакутамі і раскаяннем выкупілі свае злачынствы. Вы атрымалі дараванне, Айртон! Хочаце цяпер быць нашым таварышом?

Айртон адступіўся.

— Вось мая рука!—сказаў інжынер.

---

[1] Падзеі, пра якія тут расказана, з'яўляюцца тэмай другой аповесці Жуль Верна—„Дзеці капітана Гранта". *Заўвага рэд.*

Айртон падбег і пацiснуў працягнутую яму руку. Буйныя слёзы збеглі па яго шчаках.

— Хочаце жыць з намі?—запытаў інжынер.

— Містэр Сміт, дазвольце мне хоць некалькі часу пажыць аднаму ў каралі!—папрасіў ён.

— Як хочаце, Айртон,—адказаў інжынер.—Але скажыце, дружа мой, калі вы так імкнецеся да адзіноты, дык навошта вы кінулі ў мора запіску, якая дапамагла нам знайсці вас.

— Я не кідаў ніякай запіскі,—адказаў Айртон

І, сказаўшы гэта, ён вышаў з пакоя.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЕМНАЦЦАТЫ

*Гутарка.—Сайрус Сміт і Гедэон Спілет.—Ідэя інжынера.—Тэлеграф.—Правады.—Батарэя.—Алфавіт.—Лета. — Шчаслівае жыццё калоніі.— Два гады на востраве Лінкольна.*

— Небарака!—усклікнуў Герберт.

Юнак падышоў да выходных дзвярэй і бачыў, як Айртон саслізнуўшы ўніз у кашы пад'ёмнай машыны, знік у цемры.

— Ён вернецца!—сказаў Сайрус Сміт.

— Містэр Сміт!—усклікнуў Пенкроф.—Што-б гэта магло азначаць? Айртон не кідаў запіскі ў мора! Хто-ж у такім выпадку кінуў яе?

Пытанне Пенкрофа было вельмі 'дарэчы.

— Ён сам кінуў запіску,—адказаў Наб,—толькі няшчасны ўжо тады быў поўвар'ятам і таму не запомніў...

— Правільна, Наб,—пацвердзіў Герберт,—ён зрабіў гэта бессвядома.

— Іншага тлумачэння быць не можа,—праз меру ахвотна згадзіўся інжынер.—Зразумела таксама, якім чынам Айртон мог дакладна паказаць месцазнаходжанне вострава: папярэднія падзеі поўнасцю тлумачаць гэта.

— Аднак,—запярэчыў Пенкроф,—калі ён кінуў запіску ў мора да таго, як адзічэў, гэта значыць сем—восем год таму назад, то як здарылася, што запіска зусім не папсавалася ад вады?

— Гэта толькі сцвярджае, што Айртон страціў розум значна пазней, чым ён сам думае.

— Так, гэта адзінае, аб чым яшчэ можна меркаваць,—сказаў Пенкроф.—Бо інакш гэтую гісторыю зусім нельга было-б вытлумачыць.

— Так,—няўважліва пацвердзіў інжынер, для якога, відаць, цяжкай была гэтая размова.

— Але ці сказаў нам Айртон усю праўду?—запытаў Пенкроф.

— Так,—адказаў журналіст,—усё, што ён нам расказаў,—чыстая праўда. Я добра памятаю, што ў газетах было якраз такое апісанне пра экспедыцыю Гленарвана.

— Не сумнявайцеся, Пенкроф,—сказаў Сайрус Сміт,—Айртон казаў праўду, бо ён не шкадаваў сябе. Калі людзі такія бязлітасныя да саміх сябе, яны заўсёды гавораць праўду.

На другі дзень, 21 снежня, узабраўшыся на пласкагор'е Далёкага віду, каланісты не знайшлі там Айртона: відаць, што ён яшчэ напярэдадні ноччу пайшоў у караль. Яны вырашылі не надакучваць яму сваёй прысутнасцю, даючы часу залячыць раны, якія не залечваліся сяброўскімі клопатамі.

Герберт, Пенкроф і Наб зноў узяліся за сваю звычайную работу. Інжынер і Гедэон Спілет аднавілі перапыненую апошнімі падзеямі работу па здабыванню соды.

— Ці ведаеце вы, дарагі Сайрус,—сказаў журналіст,—што тлумачэнне, якое вы далі ўчора здарэнню з бутэлькай, зусім нездавальняючае? На мой погляд нельга нават думаць, што гэты няшчасны напісаў запіску, кінуў бутэльку ў мора, не захаваўшы пра гэта ніякіх ўспамінаў.

— Ды я і не думаю, што гэта ён кінуў запіску,—адказаў той.

— Як, вы лічыце?..

— Я нічога не лічу... Я нічога не ведаю!—перапыніў яго інжынер.—Я і гэтае здарэнне залічаю ў спіс таямнічых падзей, якія мне не па сіле вытлумачыць...

— Таксама, як ваша выратаванне, скрынку, выкінутую на пясок, прыгоды з Топам і гэтак далей? Вы пра гэта кажаце? Так, гэта сапраўды загадкава! Ці знойдзем мы калі-небудзь ключ да разгадкі гэтага раду таямніц?

— Знойдзем!—рашуча сказаў інжынер.—Знойдзем, каб нават дзеля гэтага давялося перапароць увесь востраў да самых глыбокіх нетраў!

— Можа, выпадак раскрые гэтую таямніцу?

— Выпадак, Спілет? Я таксама мала веру ў выпадак, як і ў цуд. Ёсць нейкая прычына ўсіх гэтых незразумелых падзей, і я выкрыю яе! А пакуль што—будзем працаваць і назіраць, назіраць і працаваць!

Настаў студзень 1867 года. Летнія работы былі ў разгары. Герберт і Гедэон Спілет, якія наведалі караль, пераканаліся, што Айртон вельмі добра ўстроіўся. Ён жыў у пабудаваным для яго доме і ўдала спраўляўся даглядаць вялікае стада. Хоць гэта і не выклікалася неабходнасцю, але каланісты вырашылі на

ведваць караль праз кожныя два—тры дні, каб не пакідаць Айртона на доўгі час у адзіноце.

Прабыванне Айртона ў гэтай аддаленай частцы вострава было карысна і таму, што Айртон вядома не прамінуў-бы паведаміць жыхароў Гранітнага палаца пра ўсе цікавыя надзеі ў ваколіцах караля.

Магло здарыцца, што пра падзею, якая-б адбылася непадалёк ад караля, патрэбна будзе неадкладна паведаміць у Гранітны палац. Не кажучы ўжо аб тым, што было ў сувязі з «таямніцай вострава Лінкольна», на гарызонце мог з'явіцца карабль, магло здарыцца крушэнне на заходнім узбярэжжы, маглі, нарэшце, высадзіцца піраты.

Таму Сайрус Сміт палічыў неабходным наладзіць сродкі хуткай сувязі паміж каралем і Гранітным палацам. 10 студзеня ён падзяліўся з каланістамі сваімі думкамі з гэтага поваду.

— Усё гэта правільна, містэр Сміт,—сказаў Пенкроф.— Але як ажыццявіць гэта? Не думаеце-ж вы правесці тэлеграф?

— Памыляецеся, Пенкроф, думаю!

— Электрычны?

— А які-ж іншы? У нас ёсць усе неабходныя матэрыялы для вырабу батарэй. Толькі цяжка будзе зрабіць дрот, але і з гэтым як-небудзь справімся!

— Ну,—заявіў марак,—цяпер ужо недалёка той дзень, калі я на чыгунцы праедуся па вострaву!

Каланісты зараз-жа ўзяліся за работу, пачаўшы з самага цяжкага—вырабу дроту, бо калі-б гэтая справа не ўдалася, дык усё іншае—батарэі і т. д.—было-б непатрэбным.

Як вядома, жалеза на востраве Лінкольна было вельмі добрай якасці, а значыць, павінна было добра выцягвацца. Сайрус Сміт пачаў з таго, што зрабіў валачыльню—стальную дошку з дзіркамі розных дыяметраў, праходзячы праз якія, жалезны прут усё больш танчэе, пакуль не дасягне патрэбнага дыяметру.

Валачыльню інжынер загартаваў «як было сілы», так сказаў ён сам, і прымацаваў нерухома на слупах, глыбока ўкапаных у зямлю, непадалёк ад вадападу, сілу якога ён зноў хацеў скарыстаць: ён дадумаўся прымусіць вал сукнавальні, які круціўся ад вадападу, працягваць дрот праз валачыльню, наматваючы яго на сябе.

Гэты працэс быў досыць складаным і вымагаў няспыннай увагі. Тонкія палосы мяккага жалеза, завостраныя з аднаго канца, устаўляліся ў самыя большыя дзіркі валачальні і працягваліся праз іх валам сукнавальні, які круціўся. На-

матаная на вал лента даўжынёю на 25—30 футаў, разматвалася і зноў працягвалася, гэтым разам ужо праз дзірку меншага калібра. У выніку інжынер атрымаў рад кавалкаў дроту даўжынёю па пяцьдзесят футаў кожны. З гэтых кавалкаў, змацаваных адзін з адным, і была складзена лінія правадоў, працягласцю на пяць міль, якая злучала Гранітны палац з каралем.

Гэта работа не павінна была заняць шмат часу. Пераканаўшыся, што машына працуе добра, Сайрус Сміт пакінуў яе на догляд сваіх таварышоў, а сам заняўся вырабам батарэй.

Яму патрэбна была батарэя сталага току. Інжынер вырашыў зрабіць самую простую батарэю, падобную на тую, якую вынайшоў у 1820 годзе Бекерэль[1]. Для яе патрэбен быў цынк (чытачы памятаюць, што скрынка, выкінутая на пясок, была запаяна ў цынкавую абалонку; каланісты захавалі яе), азотная кіслата і паташ. Усё гэта ў інжынера было.

Вось як была пабудавана гэтая батарэя. Сайрус Сміт зрабіў некалькі шкляных слоікаў і напоўніў іх азотнай кіслатой. Потым ён накрыў слоікі коркамі з прарэзанымі пасярод дзіркамі. У гэтыя дзіркі былі ўстаўлены шкляныя трубкі, заткнутыя ўнізе гліняньмі коркамі. Праз верхнюю, адкрытую, частку трубак у іх была наліта рашчына паташу. Такім чынам азотная кіслата і паташ уступалі ва ўзаемадзеянне праз гліняны корак. Пасля гэтага інжынер узяў дзве палоскі цынку і ўставіў адну, праз корак, у азотную кіслату, а другую—у рашчыну паташа. Калі абедзве пласцінкі былі злучаны дротам, узнік электрычны ток, які цёк з адмоўнага полюса, апушчанага ў азотную кіслату, да станоўчага, апушчанага ў рашчыну паташу. Трэба было толькі паслядоўна злучыць адзін з адным асобныя элементы, каб атрымаць батарэю, дастатковую для забеспячэння работы электрычнага тэлеграфа.

6 лютага каланісты пачалі ставіць забяспечаныя шклянымі ізалятарамі слупы для правадоў. Праз некалькі дзён праводка была гатовай да перадачы электрычных сігналаў з хуткасцю трохсот тысяч кілометраў у секунду.

Інжынер зрабіў дзве батарэі—адну для Гранітнага палаца, другую для караля, бо хацеў наладзіць двухбаковую сувязь.

Прыёмны і перадавальны апараты былі вельмі простыя. На абодвух канцах лініі ізаляваны дрот натматваўся на брус мяккага жалеза. Атрымліваўся электрамагніт. Калі ў ланцуг ўключаўся электрычны ток, ён ішоў ад дадатнага полюса

[1] *Бекерэль*—вядомы французскі фізік (1788—1878). ***Заўвага рэд.***

батарэі да электрамагніта, намагнічваў яго і праз зямлю вярочаўся да адмоўнага полюса. Як толькі падача току спынялася, электрамагніт размагнічваўся. Пласцінка з мяккага жалеза, прымацаваная каля электрамагніта, прыцягвалася да яго, калі ён быў намагнічан, і станавілася на сваё месца, як толькі ток спыняўся. Да гэтай пласцінкі быў прымацаван завостраны графіт, які чарціў на істужцы паперы лініі і кропкі, у залежнасці ад таго, які сігнал падаваўся—доўгі ці кароткі. Камбінацыі з рысак і кропак, вядомыя пад назвай азбукі Морзе, рабілі магчымым перадачу літар, слоў і цэлых сказаў гэтым спосабам.

У перадавальным апараце быў ключ, ад націску на які ў ланцуг уключаўся ток, які дзейнічаў на электрамагніт, пакуль ключ не станавіўся на сваё ранейшае месца.

Уся ўстаноўка была зусім гатовай 12 лютага. У гэты дзень Сайрус Сміт паслаў першую тэлеграму Айртону і зараз-жа атрымаў ад яго адказ.

Пенкроф радаваўся ад тэлеграфа, як дзіця ад новай цацкі, і з таго часу штодня раніцою і вечарам тэлеграфаваў Айртону, які ніколі не пакідаў яго без адказу.

Пасля таго, як быў зроблены тэлеграф каланісты заўсёды ведалі, ці знаходзіцца Айртон у каралі. Апрача таго, ён цяпер не павінен быў адчуваць сябе такім адзінокім, як раней.

Сайрус Сміт не радзей аднаго разу на тыдзень наведваў яго ў каралі, а часамі і сам Айртон прыходзіў у Гранітны палац, дзе яго заўсёды ветліва сустракалі.

Лета неўзаметку заканчвалася. Харчовыя запасы калоніі няўхільна павялічваліся, асабліва пасля таго, як даспелі вывезеныя з вострава Табор расліны. Пласкагор'е Далёкага віду зрабілася цяпер сапраўднай жытніцай калоніі. Чацвёрты ўраджай пшаніцы быў надзвычай добры. Зразумела, што нікому з каланістаў не прыйшло ў галаву пералічыць чатырыста мільярдаў зерняў, сабраных з поля. Марак, які жартам выказаў згоду заняцца гэтым, у жаху замахаў рукамі, калі інжынер сказаў яму, што работы хапіла-б на дзве з паловаю тысячы год, нават калі-б ён лічыў па трыста зерняў у хвіліну на працягу ўсіх дваццаці чатырох гадзін у суткі.

Надвор'е трымалася добрае. Дні былі спякотныя, але на вечарах свежыя брызы ахалоджвалі паветра, і ночы былі прахладныя. Некалькі разоў праходзілі навальніцы, кароткія, але надзвычай вялікія,—неба было ўвесь час асветлена маланкаю, а гром грукацеў, не сціхаючы ні на секунду.

Калонія квітнела. Птушнік так пашырыўся, што давялося штучным спосабам скарачаць лік яго жыхароў. Свінні ана-

расіліся, і небаракам Пенкрофу і Набу давялося траціць безліч часу на догляд іх. Анагры таксама далі прыплод. Цяпер на іх часта ездзілі верхам Гедэон Спілет і Герберт, якія зрабіўся пад кіраўніцтвам журналіста выдатным наезнікам. Часамі анаграў запрагалі ў калёсы, каб прывезці ў Гранітны палац каменны вугаль або мяса з караля.

За гэты час каланісты некалькі разоў пабывалі ў гушчары лясоў Далёкага захада. Гэтыя экскурсіі рабіліся і ўлетку, бо неправільная засень з галля абараняла даследавальнікаў ад спякотных праменняў сонца і ў лесе было нават прахладна. Так, яны агледзелі ўвесь левы бераг ракі Падзякі аж да самых вытокаў ракі Вадапада.

Ягуарам, якіх ненавідзеў Гедэон Спілет, была абвешчана бязлітасная вайна. Герберт зрабіўся добрым памочнікам журналіста ў гэтай справе. Вельмі добрае ўзбраенне дазваляла паляўнічым цяпер не толькі не баяцца, але нават шукаць сустрэчы з гэтымі драпежнікамі. У выніку каля дваццаці надзвычай добрых скур упрыгожвалі вялікую залу Гранітнага палаца. Каб лета цягнулася і далей, дык усе ягуары вострава былі-б знішчаны—да гэтага ўласна і імкнуўся журналіст.

Некалькі разоў у паляўнічых экскурсіях удзельнічаў і Сайрус Сміт. Ён шукаў у гушчары лясоў не сляды жывёлы... Але нічога падазронага ён не заўважыў.

Топ і Юп, якія суправаджалі яго ў часе гэтых экскурсій, трымаліся зусім спакойна, але затое ў Гранітным палацы, як і раней, сабака часта шалёна гырчэў, круцячыся каля калодзежа.

У гэтае-ж лета ўпяршыню быў выпрабаваны фатаграфічны апарат, знойдзены ў скрынцы. Гедэон Спілет і Герберт зрабілі шмат здымкаў у самых маляўнічых кутках вострава. Не забыліся таксама і на фотапартрэты членаў калоніі. Асабліва быў здаволены сваім фотапартрэтам Пенкроф; гэты фотаздымак быў прымацаваны да сцяны вялікай залы. Ён часта і надоўга спыняўся перад ім і прыглядаўся нібы ён быў выстаўлены ў вітрыне лепшага фатографа Брадвея[1]. Але трэба сказаць, што найбольш удала атрымаўся здымак Юпа. Містэр Юп пазіраваў перад апаратам з невыказнай сур'ёзнасцю, і здымак яго бадай што не гаварыў!

— Так і здаецца, што ён зараз пачне крыўляць морду!— казаў марак.

Юпу цяжка было-б дагадзіць, калі-б ён не быў задаволен гэтым здымкам. Але на гонар слаўнага аранг-утана трэба

[1] *Брадвей*—адна з лепшых вуліц Н'ю-Йорка.

сказаць, што яму здымак вельмі спадабаўся, і ён падоўгу не без самаздаволення разглядаў яго.

Летняя спёка скончылася ў сакавіку. Настаў дажджлівы час, але паветра было яшчэ цёплае. Мяркуючы па сакавіцкаму надвор'ю, можна было прадбачыць суровую зіму. 21 сакавіка каланістам здалося нават, што ўжо выпаў першы снег. Герберт, глянуўшы праз акно, крыкнуў:

— Увесь астравок Выратавання ўкрыты снегам!

— Як, ужо выпаў снег?—усклікнуў журналіст.

Усе каланісты падышлі да акон. Яны ўбачылі, што не толькі астравок, але і ўвесь бераг ля падножжа Гранітнага палаца ўкрыты густою белай пялёнкай.

— Здаецца, гэта сапраўдны снег!—сказаў Пенкроф.

— Падобнае на тое!—адказаў Наб.

— Але-ж тэрмометр паказвае чатырнаццаць градусаў вышэй нуля!—заўважыў Гедэон Спілет.

Сайрус Сміт моўчкі пазіраў на белую пялёнку. Ён не мог вытлумачыць сам сабе гэты фенамен—снег у гэтую пару года або пры такой тэмпературы.

— Тысячы чарцей!—усклікнуў Пенкроф.—Усё памерзне на нашых гародах!

Марак ужо хацеў спусціцца на бераг, але спрытны Юп апярэдзіў яго і першым саслізнуў уніз. Не паспеў аранг-утан ступіць на зямлю, як пялёнка снегу раптам падпялася з зямлі і рассыпалася ў паветры сотнямі тысяч пушыстых ахлоп'яў, якое на некалькі хвілін засланіла нават сонца.

— Гэта птушкі!—усклікнуў Герберт.

Сапраўды, гэта былі хмары морскіх птушак з асляпляльна белым пер'ем. Сотні тысяч іх апусціліся на востраў і пасля надоўгага адпачынку зноў ускруціліся ў паветра. Усё гэта адбылося так шпарка, што каланісты не паспелі застрэліць ніводнай з птушак. Такім чынам не ўдалося нават даведацца, да якога віду яны належаць.

Праз некалькі дзён, 26 сакавіка, споўнілася другая гадавіна з дня, калі каланісты былі закінуты паветраным шарам на востраў Лінкольна.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

*Віды на будучыню.—Планы даследавання ўзбярэжжа.—Выгляд Змяінага паўвострава з мора.—Базальтавыя скалы на заходнім беразе.—Непагода.—Надыход ночы.—Новае здарэнне.*

На працягу гэтых двух год ні адно судна не з'явілася блізка вострава. Было зусім відавочна, што востраў Лінкольна знаходзіўся ў баку ад звычайных марскіх шляхоў.

Магчыма, што яго нават ніхто не ведаў. Гэтая здагадка пацвярджалася картамі: востраў не быў нанесены на іх. Такім чынам, каланістам не было чаго чакаць выратавання з-за мора: яны маглі разлічваць толькі на саміх сябе, каб вярнуцца на радзіму. Была толькі адна магчымасць выратавання. Якраз пра яе і гаварылі ў адзін красавіцкі вечар каланісты, якія сабраліся ў вялікай зале Гранітнага палаца.

— На маю думку,—казаў Гедэон Спілет,—ёсць толькі адзін спосаб пакінуць востраў Лінкольна—гэта пабудаваць вялікі карабль, які можа вытрымаць доўгі морскі пераход. Мне здаецца, што калі мы змаглі пабудаваць шлюп, дык можам пабудаваць і сапраўдны карабль.

— І калі мы змаглі дабрацца да вострава Табор, дык дабярэмся і да архіпелага Паумоту!—дадаў Герберт.

— Не скажу «не»,—сказаў Пенкроф, самы відны аўтарытэт калоніі па ўсіх морскіх пытаннях,—не скажу «не», хоць гэта далёка не адно і тое-ж—праплысці паўтары сотні ці паўтары тысячы міль. Наш шлюп, калі яго трапаў вецер у часе паездкі на востраў Табор, быў увесь час непадалёк ад берагу. Але прайсці тысячу дзвесце міль—гэта зусім іншая справа, а да бліжэйшай заселенай зямлі самае меншае такая адлегласць!

— Ці азначае гэта, Пенкроф, што вы збаяліся-б у выпадку патрэбы зрабіць такое падарожжа?—запытаў журналіст.

— Я не збаяўся-б нічога ў свеце,—адказаў марак.—Вы-ж ведаеце, містэр Спілет, што я не баязлівы.

— Вядома, Пенкроф,—адказаў журналіст.

— Дарэчы, Пенкроф, цяпер-жа ў нас ёсць яшчэ адзін марак,—заўважыў Наб.

— Хто?

— Айртон.

— Праўда,—сказаў Герберт.

— Калі толькі ён згодзіцца паехаць адсюль,—сказаў Пенкроф.

— Ну, вось яшчэ што!—усклікнуў журналіст.—Няўжо вы думаеце, што Айртон адмовіўся-б ехаць, калі-б яхта Гленарвана прышла па яго на востраў Табор.

— Вы забываецеся, сябры, мае,—умяшаўся ў спрэчкі інжынер, што ў апошнія гады прабывання на востраве Табор Айртон страціў розум. Але справа не ў гэтым. Трэба абмеркаваць, ці маем мы права лічыць прыход яхты Гленарвана за Айртонам шансам на наша выратаванне? Вы не забыліся, спадзяюся, што Гленарван абяцаў Айртону забраць яго з вострава Табор, калі, на яго думку, той будзе дастаткова па-

караны за свае злачынствы. Я пераконаны, што ён выканае сваё абяцанне.

— А я дадам,—сказаў журналіст,—што ён хутка прыедзе, бо мінула ўжо дванаццаць год з таго часу, як ён высадзіў Айртона на востраў Табор.

— Я згодзен з вамі, што Гленарван вернецца і, магчыма, нават хутка, але нам ад гэтага не лягчэй. Бо ён пойдзе да вострава Табор, а не да вострава Лінкольна!

— Гэта бясспрэчна,—адказаў Герберт.—Да рэчы востраў Лінкольна нават не нанесены на карту.

— Таму, сябры мае,—сказаў інжынер,—нам патрэбна прыняць меры для таго, каб кожны, хто наведае востраў Табор, даведаўся-б пра тое, што мы і Айртон знаходзімся на востраве Лінкольна.

— Няма нічога больш простага,—адказаў журналіст.— Трэба толькі пакінуць у хаціне Айртона пісьмо з дакладнымі каардынатамі вострава Лінкольна. Гленарван або яго пасланец абавязкова знойдуць гэтае пісьмо.

— Прыкра, што мы не зрабілі гэтага ў часе першай паездкі на востраў Табор,—сказаў марак.

— А дзеля чаго-б мы сталі рабіць гэта?—запярэчыў Герберт.—У той час мы не ведалі гісторыі Айртона, не ведалі і таго, што па яго абяцалі вярнуцца. А калі мы даведаліся пра ўсё гэта, настала восень і позна ўжо было варочацца туды.

— Правільна,—сказаў Сайрус Сміт.—І зараз гэтае падарожжа давядзецца адкласці да вясны.

— А што калі яхта Гленарвана прыдзе якраз зімою? запытаў Пенкроф.

— Гэта малаверагодна,—адказаў інжынер.—Гленарван не адважыцца пускацца ў плаванне па Ціхаму акіяну ў зімовы час. Або ён пабываў ужо на востраве Табор за гэтыя пяць месяцаў, або ён прыедзе туды не раней наступнага кастрычніка. У такім разе мы не спознімся, калі ў першыя-ж веснавыя дні завязем пісьмо на востраў.

— Было-б вялікім няшчасцем,—заўважыў Наб,—калі-б выявілася, што «Д у н к а н» пабыў ужо на востраве і вярнуўся ў Еўропу.

— Будзем спадзявацца, што гэтага не здарылася,—сказаў інжынер.

— Мы даведаемся пра гэта, пабыўшы на востраве Табор,—сказаў журналіст.—Калі яхта Гленарвана наведала востраў, там абавязкова астануцца хоць якія-небудзь сляды гэтага наведвання.

— Бясспрэчна,—згадзіўся інжынер.—Значыць, сябры мае, пакуль у нас ёсць надзея на выратаванне гэтым шляхам, мы цярпліва будзем чакаць. Калі-ж выявіцца, што спадзявацца нам няма на што, мы тады абмяркуем, што рабіць.

— Але як-бы там ні было, мы павінны заявіць на ўвесь голас, што мы пакідаем востраў Лінкольна зусім не таму, што нам тут дрэнна жывецца!—сказаў марак.

— Не, не, Пенкроф,—адказаў Сайрус Сміт.—Толькі таму, што мы адарваны тут ад сваіх блізкіх...

На гэтым і скончылі, і пытанне пра пабудову вялікага карабля часова адпала. Каланісты заняліся цяпер падрыхтоўкай да трэцяй зімоўкі на востраве Лінкольна.

Аднак, яны вырашылі яшчэ да падыходу зімы аб'ехаць берагі вострава Лінкольна на шлюпе. Гэтае рашэнне было прынята ў сувязі з тым, што яны да гэтага часу не мелі поўнага ўяўлення пра паўночнае і заходняе ўзбярэжжы вострава. План гэтай морскай экспедыцыі быў распрацаван і прапанаваны Пенкрофам і ўхвалены Сайрусам Смітам.

Надвор'е было няўстойлівае, але барометр падаў або падымаўся паступова, так што рэзкай перамены надвор'я асцерагацца не даводзілася. У палове красавіка, пасля некалькіх дзён дрэннага надвор'я, стрэлка барометра павольна пачала паўзці ўгору і замерла на ўзроўні семісот пяцьдзесяці міліметраў.

Пенкроф вырашыў, не адкладваючы, рушыць у экскурсію.

Адплыццё было прызначана на 16 красавіка. «Шчаслівы», які стаяў у парту Шара, быў падрыхтаваны для падарожжа, якое магло працягнуцца некалькі дзён.

Сайрус Сміт прапанаваў Айртону прыняць удзел у гэтай экскурсіі, але той палічыў за лепшае астацца на беразе. Тады было вырашана, што ён пераселіцца на гэты час у Гранітны палац. Юп павінен быў скласці яму кампанію.

16 красавіка каланісты, з якімі быў і Топ, узышлі на борт «Шчаслівага». Вецер дзьмуў з паўднёвага захаду, і шлюпу давялося лавіраваць, каб дабрацца да заліва Акулы. Амаль увесь дзень пайшоў на гэты пераход у 20 міль, і «Шчаслівы» ўжо ў змроку апынуўся перад залівам Акулы. Уваходзіць ноччу ў недаследаваны вузкі праліў было-б вар'яцтвам, і Пенкроф прапанаваў Сайрусу Сміту перабыць ноч у адкрытым моры, узяўшы два рыфы ад паруса. Але інжынер палічыў за лепшае стаць на якар за некалькі кабельтавых ад берагу, каб як толькі ўзыйдзе сонца распачаць агляд гэтай часткі вострава.

Каланісты вырашылі цяпер плысці толькі ўдзень, а ноччу станавіцца на якар у тым месцы, дзе іх заспее змрок.

Ноч прайшла спакойна. Вецер сціх. Каланісты, апрача капітана Пенкрофа, спалі на барту «Шчаслівага» таксама моцна, як і ў Гранітным палацы.

Досвіткам наступнага дня Пенкроф падняў якар і, паставіўшы ўсе парусы, пачаў абыходзіць вакол заходняга берагу вострава. Каланісты ўжо былі на гэтым беразе, які ўкрыты надзвычай добрым лесам, і, аднак, ён зноў выклікаў агульнае захапленне. Яны ішлі так блізка ад берагу, як гэта толькі было магчыма, стараючыся зменшыць хуткасць да мінімума, каб усё бачыць. Некалькі разоў яны станавіліся на якар, і Гедэон Спілет фатаграфаваў гэтыя чароўныя месцы.

Пад поўдзень «Шчаслівы» надышоў да вусця ракі Вадапада. На правым беразе ракі раслінасць была менш густая, і дрэвы стаялі асобнымі купамі. Яшчэ далей пачыналася бясплодная зона.

Які рэзкі кантраст між паўднёвай і паўночнай часткамі гэтага берагу! Наколькі першая была лясістай, зялёнай і вясёлай, на гэтулькі-ж другая была дзікай, панурай і бясплоднай. Можна сабе ўявіць, у якой роспачы былі-б каланісты, калі-б яны пацярпелі крушэнне якраз на гэтым беразе вострава! З вяршыні гары Франкліна яны маглі скласці хоць прыблізнае ўяўленне пра характар гэтай часткі вострава і цяпер, разглядаючы яе зблізку, былі проста ашаломлены яе дзіўным выглядам.

«Шчаслівы» ішоў за поўмілі ад берагу. На гэтай адлегласці былі выразна відаць скалы, з якіх ён складаўся, усіх відаў, форм і памераў, пачынаючы ад дваццаці і канчаючы трымастамі футаў у вышыню. Цыліндрычныя, як вежы, прызматычныя, як царкоўныя шпілі, пірамідальныя, як абеліскі, канічныя, як фабрычныя трубы, скалы гэтыя былі навалены адна на адну. Большы хаос не быў-бы нават ад стычкі двух вялізных леднікоў. У адным месцы ад скалы да скалы цягнуўся нібы масток, у другім—вяршыні скал выгіналіся, нібы аркады гатычнага сабора, у адным месцы раскрывалася змрочная пашча бяздоннай прорвы, побач відаць былі фантастычна награмоджаныя шпілі, стрэлы, якіх не стварыла-б самая багатая фантазія сярэдневяковага будаўніка.

Каланісты, стаіўшы дух, пазіралі на гэтае дзіва прыроды. Але Топ, на якога дзікае хараство мясцовасці не рабіла ніякага ўражання, моцна брахаў, абуджаючы ў скалах тысячагалосае рэха.

— Прычалім тут!—прапанаваў Сайрус Сміт.

«Шчаслівы» надышоў да самай зямлі. Аднак, не зважаючы на самы ўважлівы агляд усяго берагу, каланісты не

знайшлі тут слядоў прабывання чалавека. Усё было голас, пустэльнае і панурае.

Давялося вярнуцца на борт і прадаўжаць плаванне. Далей на паўночны захад бераг зрабіўся нізкім і пясчаным. Паасобныя чэзлыя дрэўцы ўзвышаліся над забалочанай глебай, якую ўжо агледзелі каланісты. Але па кантрасту з дзікай пустэльнасцю толькі што агледжанага месца тысячы вадзяных птушак, якія вяліся тут, надавалі гэтай частцы берагу надзвычай ажыўлены выгляд.

Увечары «Шчаслівы» кінуў якар у маленькім заліве. Ён прычаліў да самага берагу—так тут было глыбока. Ноч зноў прайшла спакойна, бо вецер сціх як толькі зайшло сонца і зноў усхадзіўся толькі на досвітку. З той прычыны, што шлюп стаяў каля самага берагу, сталыя паляўнічыя калоніі—Гедэон Спілет і Герберт—яшчэ да відна пайшлі ў лес на паляванне. Як толькі ўзышло сонца, яны вярнуліся на борт, перагружаныя рознай дзічынаю. Зараз-жа «Шчаслівы» падняў якар і шпарка паімчаўся пры спадарожным ветры да мыса Паўночнай Сківіцы. Вецер прыкметна мацнеў.

— Мяне не здзівіць,—сказаў Пенкроф,—калі раптоўна ўзнімецца моцны заходні вецер. Учора ў час захаду сонца неба было барвяна-чырвоным, ды і «барашкі» на грабянях хваль не прадракаюць нічога добрага, ужо не кажучы пра «каціныя хвасты».

«Кацінымі хвастамі» марак празываў выцягнутыя ў даўжыню воблачкі, падобныя да ахлоп'яў ваты. Яны плаваюць у небе не ніжэй, як за пяць міль над узроўнем мора, і звычайна прадракаюць буру.

— У такім разе,—сказаў Сайрус Сміт,—паставім усе парусы і пашукаем прытулку ў заліве Акулы. Там, я думаю «Шчаслівы» будзе ў бяспецы.

— Зусім у бяспецы,—пацвердзіў Пенкроф.—Да рэчы, увесь паўночны бераг укрыты аднастайнымі дзюнамі, так што там і глядзець няма на што.

— У заліве Акулы патрэбна будзе не толькі пераначаваць, але і правесці ўвесь заўтрашні дзень. Гэты заліў заслугоўвае ўважлівага вывучэння,—заўважыў інжынер.

— Нам, напэўна усёроўна давядзецца так зрабіць,—сказаў Пенкроф.—Зірніце на захад: які пагрозны выгляд неба! Як хутка яно ўкрылася хмарамі!

— У кожным разе пры гэтым ветры мы паспеем дасягнуць мыса Паўночнай Сківіцы,—заўважыў журналіст.

— Вецер то зручны,—адказаў марак,—але, каб увайсці ў праліў, давядзецца лавіраваць, а гэта лепш было-б рабіць пакуль відна, а не ў змроку...

— Мяркуючы па тым, што мы бачылі ў паўднёвай частцы заліва Акулы, там дно павінна быць усеяна рыфамі,—заўважыў Герберт.

— Рабіце так, як лічыце патрэбным, Пенкроф,—сказаў Сайрус Сміт.—Мы цалкам давяраем вам.

— Будзьце спакойны, містэр Сміт, без патрэбы я не буду рызыкаваць. Я палічыў-бы за лепшае атрымаць удар нажа ў бок, чым прабоіну ў барту «Шчаслівага». Якая гадзіна?—запытаў Пенкроф.

— Дзесяць гадзін,—адказаў інжынер.

— А якая адлегласць да мыса Паўночнай Сківіцы?

— Прыблізна пятнаццаць міль.

— Значыць, праз дзве з паловаю—тры гадзіны мы выйдзем на траверс мыса. Будзе дванаццаць—дванаццаць з паловай гадзін. Бяда, што ў гэты час самы большы адліў і нам цяжка будзе ўвайсці ў праліў супроць плыні і ветру.

— Тым больш,—сказаў Герберт,—што сёння якраз поўны месяц, гэта значыць перыяд самых высокіх прыліваў. Да таго-ж красавіцкія прылівы і адлівы наогул самыя моцныя.

— Скажыце, Пенкроф,—запытаў Сайрус Сміт,—а ці нельга нам пачакаць скачэння адліву на якары каля аканечнасці мыса?

— Што вы, містэр Сміт!—усклікнуў марак.—Стаць на якар каля самага берагу, калі насоўваецца бура! Ды гэта тое самае, што замах на самагубства!

— Што-ж тады рабіць?

— Пастараюся пратрымацца ў адкрытым моры да пачатку прыліву, гэта значыць прыкладна да сямі гадзін вечара. Калі не будзе вельмі цёмна, паспрабую ўвайсці ў праліў. У іншым выпадку ляжам у дрэйф на ноч і паспрабуем прайсці досвіткам.

— Рабіце, як ведаеце, Пенкроф,—паўтарыў інжынер,—мы зусім давяраем вам.

— Вось,—сказаў Пенкроф,—калі-б на беразе стаяў хоць адзін маяк, тады маракам было-б шмат лягчэй!

— На жаль,—адказаў Герберт,—гэтым разам на беразе не будзе здагадлівага інжынера, каб зноў распаліць агонь для паказу дарогі...

— Да рэчы, Сайрус,—сказаў Гедэон Спілет,—мы забыліся нават падзякаваць вам. Калі-б не прышла вам у галаву шчаслівая думка раскласці агонь на беразе, мы ніколі не трапілі-б на востраў!

— Агонь?—перапытаў Сайрус Сміт, здзіўлена пазіраючы на журналіста.

— Містэр Спілет кажа пра той агонь, які вы запалілі на пласкагор'і Далёкага віду ў ноч з дзевятнаццатага на дваццатага кастрычніка. Калі-б не было гэтага агню, мы прайшлі-б ноччу паўз востраў, не заўважыўшы яго,—растлумачыў Пенкроф.

— Так, так...—прамармытаў інжынер.—Гэта сапраўды была шчаслівая думка...

— А цяпер, калі толькі Айртон не дадумаецца да гэтага, не будзе каму зрабіць нам паслугу.

— Сапраўды, не будзе каму,—пацвердзіў інжынер.

Праз некалькі хвілін, знайшоўшы на часу шлюпа журналіста, Сайрус Сміт шапнуў яму на вуха:

— Калі на гэтым свеце ёсць што-небудзь абсалютна праўдзівае, дарагі Спілет, дык гэта тое, што ў ноч з дзевятнаццатага на дваццатага кастрычніка я не раскладаў ніякага агню ні на пласкагор'і Далёкага віду, ні ў якой іншай частцы вострава!.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

*Ноч на моры.—Заліў Акулы.—Прызнанні.—Падрыхтоўка да зімы. Раннія халады.—Маразы.—Работы ўнутры дома.—Праз шэсць месяцаў.—Нечаканае здарэнне.*

Акалічнасці склаліся іменна так, як прадсказаў Пенкроф,—інстынкт марака не падвёў яго. Вецер усё мацнеў, пакуль не ператварыўся ў сапраўдны шторм, які дзьмуў з хуткасцю ста—ста пяцідзесяці кіламетраў за гадзіну. Такі вецер параснікі нават у адкрытым моры сустракаюць чатырма рыфамі на парусах. Увайсці ў праліў супроць ветру і адліву не ўдалася. Паспрабаваць увайсці ў другі раз у час прыліву марак не адважыўся, бо пры ўкрытым нізка навіслымі хмарамі небе змерклася раней, чым пачаўся прыліў. Таму Пенкроф вырашыў правесці ноч у адкрытым моры.

На шчасце, не зважаючы на моцны вецер хваляванне на моры было ўмеранае, і Пенкрофу не даводзілася баяцца вялізных валоў, небяспечных для маленькіх судзенцаў. «Шчаслівы» не перакуліўся-б нават пры вялікім хваляванні—ён быў правільна нагружан баластам, але, калі-б хвалі пераліваліся цераз палубу, магла-б узнікнуць небяспека, што абшыўка борта не вытрымае ўдараў вады. Пенкроф усю ноч прабыў ля руля. Ён быў зусім упэўнены ў вартасцях свайго карабля, але тым не менш з заміраннем сэрца чакаў раніцы.

Праз усю гэтую ноч Гедэон Спілет і Сайрус Сміт ні разу не маглі падабраць хвіліну, каб абмяняцца думкамі па пытанню пра гэтае новае з'яўленне таямнічай сілы, якая дзей-

нічала на востраве Лінкольна. Гедэон Спілет няспынна думаў пра таямніцу агню, які ён бачыў сваімі вачамі, таксама як яго бачылі Герберт і марак. Яны ўсе ўтрох не сумняваліся, што гэты агонь, які паказваў ім шлях уначы, быў раскладзен інжынерам, а цяпер выяўляецца, што той зусім не распальваў агню!

Журналіст вырашыў высветліць гэтае пытанне, як толькі «Шчаслівы» прыстане да берагу. Ён яшчэ хацеў, каб Сайрус Сміт расказаў астатнім каланістам пра гэтую дзіўную падзею. Можа, калі яны разам возьмуцца даследаваць таямніцу, яе ўдасца выявіць.

Як-бы там ні было, але ў тэту ноч агонь не запальваўся на ўзбярэжжы каля ўваходу ў недаследаваны праліў, і да відна маленькае судзенца змагалася з ветрам у адкрытым моры.

З першымі праблескамі зары вецер крыху сціх і перамяніў кірунак на два румбы. Гэта дазволіла Пенкрофу ўзяць курс проста на ўваход у вузкі праліў. Каля сямі гадзін раніцы, абышоўшы мыс Паўночнай сківіцы, «Шчаслівы» ўвайшоў у воды заліва, абкружанага застыглай лавай.

— Вось заліў, які мог-бы паслужыць вельмі добрай гаванню для цэлага флота!—сказаў журналіст.

— Цікавей за ўсё тое,—адказаў Сайрус Сміт,—што заліў, гэты ўтвораны двума сустрэчнымі патокамі лавы, выкінутай вулканам. Ён атулены з усіх бакоў, і я думаю, што ў самую вялікую буру мора ў ім павінна быць такім-жа спакойным, як возера.

— Ясна,—адказаў марак,—ветру для таго, каб прабрацца сюды, патрэбна праслізнуць праз вузенькі і звілісты праліў. Я ўпэўнены, што «Шчаслівы» мог-бы прастаяць тут увесь год нават не гайдануўшыся ні разу.

— Мы нібы ў пашчы акулы,—заўважыў Наб, намякаючы на дзіўную форму заліва.

— Правільна, Наб, але спадзяюся, ты не баішся, што яна закрыецца над намі?—засмяяўся Герберт.

— Не баюся,—адказаў Наб сур'ёзна,—але ўсё-ж заліў мне не падабаецца. У яго залішне пануры і няветлы выгляд.

— Цікава, які глыбокі заліў,—сказаў Пенкроф.

— Наш капітан асцерагаецца, што ён вельмі мелкі для яго вялізнага карабля,—пажартаваў Гедэон Спілет.

Але марак, не звяртаючы ўвагі на жарты, разматаў вяроўку даўжынёю футаў на пяцьдзесят з жалезнай падвескай на канцы і апусціў яе за борт. Падвеска не дастала да дна..

— Заліў—сапраўдная прорва!—сказаў інжынер.—Але гэта і не дзіва: бо востраў вулканічнага паходжання.

— Берагі заліва ствараюць уражанне нібы адвесных сцен,—сказаў Герберт.—Я думаю, што калі-б у Пенкрофа была вяроўка ў пяць разоў даўжэйшая за гэтую, дык і тады ён не дастаў-бы да дна.

— Усё гэта вельмі добра,—заўважыў журналіст,—але для гэтага порта не стае адной рэчы...

— Якой, містэр Спілет?—запытаў марак.

— Якой-небудзь выемкі, траншэі, хода, па якім можна было-б выбрацца на бераг. Я не бачу нічога, што было-б падобна на гэта...

Сапраўды на адвесных скалах з лавы нідзе не было відаць ніводнага ўступу. Гэта былі недаступныя сцены, якія нагадвалі нарвежскія фіорды, але яшчэ больш панурыя. «Шчаслівы» абышоў кругам увесь заліў каля самага берагу, але не знайшоў месца для высадкі.

Пенкроф суцешыў сябе тым, што ў выпадку патрэбы можна будзе ўзарваць сцяну дынамітам. Пераканаўшыся, што ў заліве няма чаго больш рабіць, ён накіраваў шлюп да выхаду з яго і каля двух гадзін папаўдні вышаў у адкрытае мора.

— Ух!—уздыхнуў Наб з палёгкаю. Слаўны хлопец адчуваў сябе не вельмі добра ўвесь час, пакуль шлюп быў у заліве Акулы.

Ад мыса Сківіцы да вусця ракі Падзякі было не больш васьмі міль. Паставіўшы ўсе парусы «Шчаслівы» накіраваўся да Гранітнага палаца; ён ішоў на адлегласці адной мілі ад берагу. Вялізныя камяні з лавы неўзабаве змяніліся пясчанымі дзюнамі. Толькі вадзяныя птушкі наведвалі гэтыя дзюны.

Каля чатырох гадзін папаўдні «Шчаслівы» абышоў астравок Выратавання і ўвайшоў у праліў, які аддзяляў яго ад вострава. У пяць гадзін якар шлюпа ўрэзаўся ў пясчанае дно вусця ракі Падзякі.

Мінула тры дні з таго часу, як каланісты пакінулі Гранітны палац. Айртон спаткаў іх на беразе разам з Юпам, які вітаў сваіх гаспадароў вясёлай буркатнёю.

Каланісты закончылі поўнае абследаванне берагоў вострава, не знайшоўшы нідзе нічога падазронага. Такім чынам, калі на востраве жыло нейкае таямнічае стварэнне, дык яно магло хавацца толькі ў нетрах непраніклых лясоў, якія ўкрывалі Змяіны поўвостраў, куды каланісты яшчэ не заглядалі.

Гедэон Спілет угаварыў Сайруса Сміта звярнуць увагу іншых каланістаў на дзіўныя з'явы, якія здараліся на востраве, і ў прыватнасці на апошнюю падзею, самую незразумелую і самую нечаканую. Але інжынер, раней чым расказаць пра свой неспакой таварышам, у дваццаты раз запытаў у Гедэона Спілета:

— Ці ўпэўнены вы, дарагі Спілет, што гэта быў іменна агонь? Можа гэта быў метэор або зарава ад вулкана.

— Не, не, Сайрус! Гэта несумненна быў агонь, раскладзены чалавечымі рукамі. Можаце запытацца пра гэта ў Герберта і Пенкрофа. Яны бачылі яго таксама выразна, як і я, і яны пацвердзяць вам, што кажу я.

Праз некалькі дзён пасля гэтай гутаркі, вечарам дваццаць пятага красавіка, калі ўсе каланісты сабраліся на пласкагор'і Далёкага віду, Сайрус Сміт звярнуўся да іх з наступнымі словамі:

— Сябры мае! Я хацеў-бы звярнуць вашу ўвагу на рад фактаў, якія мелі месца на нашым востраве. Я хочу даведацца пра вашу думку з прычыны гэтага. Асабіста мне гэтыя факты здаюцца, так сказаць незвычайнымі...

— Незвычайнымі?—спакойна перапытаў марак, пускаючы воблака дыму з люлькі.—Значыць, наш востраў можна назваць незвычайным?..

— Не, Пенкроф, але т а я м н і ч ы м—безумоўна. Урэшце, можа, вам пашанцуе вытлумачыць тое, што здаецца нерастлумачальным Спілету і мне.

— Гаварыце, містэр Сміт,—папрасіў марак.

— Пачну вось з чаго,—сказаў інжынер.—Ці можаце вы растлумачыць, якім чынам пасля падзення ў мора я апынуўся на адлегласці чвэрткі мілі ад берагу, без адзінай драпіны, па-першае, і не захаваўшы ніякага ўспаміну пра тое, як я туды дабраўся, па-другое?..

— Можа, вы былі аглушаны...

— Не, гэта адпадае,—адказаў шпарка інжынер.—Далей. Ці можаце вы растлумачыць, якім чынам Топ знайшоў ваш прытулак, які знаходзіўся за пяць міль ад грота, дзе я ляжаў?

— Інстынкт...—пачаў быў Герберт.

— Які там інстынкт!—запярэчыў журналіст.—Не забывайцеся, што, не гледзячы на праліўны дождж, які ішоў усю ноч, Топ дабраўся да нас сухім, нават без адзінай плямінкі гразі.

— Палічым, што і гэта няважна,—прадаўжаў інжынер.—Але будзем гаварыць далей. Ці можаце вы растлумачыць,

якая сіла выкінула Топа з вады ў часе барацьбы з ламантынам?

— Не, не можам,—прызнаўся Пенкроф,—таксама як не можам вытлумачыць, хто і якой зброяй зрабіў ламантыну такую дзіўную рану...

— Вельмі добра. Прадаўжаю,—сказаў Сайрус Сміт.—Ці можаце вы, сябры мае, вытлумачыць, якім чынам грапіла шраціна ў цела трохмесячнага пекары? Як—без якога-б то ні было следу крушэння—на бераг выкінула скрыню, у якой знаходзіліся так неабходныя для нас рэчы? Якім чынам наша пірога сарвалася з прывязі і падплыла да нас у той самы момант, калі яна была нам патрэбна? Чым былі напалоханы малпы, якія захапілі Гранітны палац? Як здарылася, што лесніца «сама» ўпала на зямлю? Чаму ў часе першай-жа морскай прагулкі мы напаткалі бутэльку з запіскай? Нарэшце, кім была напісана гэтая запіска, калі Айртон сцвярджаў, што ён ніколі не пісаў яе?

Герберт, Пенкроф і Наб пераглядваліся, не ведаючы, што адказаць інжынеру. Яны ўпершыню сунаставілі ўсе гэтыя загадкавыя факты і цяпер былі надзвычай здзіўлены.

— Слова гонару,—прамармытаў Пенкроф,—здаецца, што ваша праўда, містэр Сміт!.. Цяжка вытлумачыць усе гэтыя справы...

— Але гэта яшчэ не ўсё, сябры мае,—прадаўжаў інжынер.—Да ўсіх пералічаных фактаў далучыўся яшчэ адзін, не менш дзіўны і нерастлумачальны, чым усе папярэднія.

— Які, містэр Сміт?—жвава запытаў Герберт.

— Вы казалі, што вярочаючыся з вострава Табор, убачылі раскладзены на востраве Лінкольна агонь?

— Вядома,—адказаў марак.

— І вы зусім упэўнены, што гэта быў агонь, а не метэор або полымя газаў?

— Зусім упэўнены.

— І ты таксама, Герберт?

— Што вы, містэр Сміт!—усклікнуў юнак.—Гэты агонь пабліскваў, як зорка першай велічыні!

— А можа гэта і была зорка?—насцярожыўся інжынер.

— Не, не,—запярэчыў Пенкроф.—Неба было ўкрыта хмарамі, ды і ніякая зорка не магла быць так нізка над гарызонтам. Містэр Спілет быў з намі, і ён можа пацвердзіць тое, што мы кажам.

— Яшчэ дадам,—сказаў журналіст,—што агонь быў вельмі яркі, нібы гэта ззяла электрычнае святло...

— Нам здалося, што ён свяціў з плоскагор'я Далёкага віду над Гранітным палацам,—дадаў Герберт.

— Дык вось, сябры мае,—сказаў інжынер,—ноччу з дзевятнаццатага на дваццатага кастрычніка ні Наб, ні я не раскладалі ніякага агню!

— Гэта як,—крыкнуў Пенкроф,—вы не...

Ён літаральна задыхаўся ад здзіўлення, і не мог нават закончыць сказу.

— Мы не выходзілі з Гранітнага палаца,—адказаў інжынер.—І калі на ўзбярэжжы гарэў у тую ноч агонь, дык ён быў раскладзены не нашымі рукамі!

Пенкроф і Герберт былі ашаломлены. Яны ні на момант не сумняваліся ў тым, што сапраўды бачылі ноччу з 19 на 20 кастрычніка агонь на ўзбярэжжы вострава Лінкольна. Каланісты павінны былі прызнаць, што нейкая таямніца ёсць навакол іх. Нейкая невядомая сіла, якая безумоўна прыязна ставілася да іх, была на востраве. Відавочна, што нейкае стварэнне хавалася ў таемных кутках або ў самых нетрах вострава. Але што гэта за стварэнне? Вось пытанне, якое патрэбна было вырашыць чаго-б гэта ні каштавала!

Сайрус Сміт напомніў таксама каланістам, як дзіўна часамі трымаліся Топ і Юп каля адтуліны калодзежа ў Гранітным палацы. Ён прызнаўся ім, што агледзеў гэты калодзеж, але не знайшоў нічога падазронага.

На заканчэнне інжынер прапанаваў сваім таварышам, як толькі настане вясна, перавярнуць востраў ад верху да нізу і чаго-б гэта не каштавала знайсці таемнага заступніка калоніі. Прапанова яго была аднагалосна ўхвалена ўсімі.

Ад гэтага вечара Пенкроф зрабіўся задуменным і заклапочаным. Востраў, які ён да гэтага часу лічыў нечым падобным на сваю ўласнасць, цяпер здаваўся для яго чужым: на ім жыло нейкае стварэнне, ад якога марак адчуваў сябе ў пэўнай залежнасці. Ён часта гутарыў з Набам пра «цуды» вострава Лінкольна, і неўзабаве абодва сябры былі блізкімі да таго, каб паверыць у існаванне нейкай незвычайнай сілы.

Між тым у маі, які адпавядае лістападу паўночнага паўшар'я пачалося дрэннае надвор'е. Зіма абяцала быць суровай. Таму каланісты, не адкладаючы на доўга, пачалі запасаць апал і харчы. Між іншым, цяпер для іх была нястрашнай нават самая халодная зіма. Стада муфлонаў дало ім столькі воўны, што можна было нарабіць з яе любую колькасць валенай цёплай вопраткі.

Не даводзіцца і казаць, што і Айртон быў забяспечан зімняй вопраткай. Сайрус Сміт прапанаваў яму перабрацца на зіму ў Гранітны палац, і Айртон абяцаў зрабіць гэта, як толькі закончыць апошнія работы ў карале. Ён пераехаў у

Гранітны палац у палове мая і з таго часу стаў жыць аднолькава з усімі каланістамі.

Айртон заўсёды імкнуўся быць чым-небудзь карысным для сваіх таварышоў, але ніколі не ўдзельнічаў у іх гульнях, астаючыся ўвесь час смутным і маўклівым.

Большую частку гэтай трэцяй зімы на востраве Лінкольна каланісты правялі безвыходна ў Гранітным палацы. Частыя буры і ўраганы, здавалася, імкнуліся скалануць востраў да самай асновы гранітных масіваў. Вялізныя валы прыліву пагражалі заліць увесь востраў, і несумненна, што карабль, які кінуў-бы якар каля яго берагоў, быў-бы раструшчаны ўшчэнт. Два разы ў час такіх бур рака Падзякі ўздувалася і выходзіла з берагоў, пагражаючы скрышыць масты, пабудаваныя каланістамі. Не зважаючы на жахлівае надвор'е, каланістам давялося тэрмінова ўмацоўваць іх.

Натуральна, што страшэнныя вятры нарабілі нямала шкоды пабудовам і пасевам пласкагор'я Далёкага віду, асабліва былі пашкоджаны ветраны млын і птушнік. Каланістам некалькі разоў давялося заладжваць праломы, зробленыя ўраганам, каб выратаваць гэтыя будынкі ад поўнага зруйнавання.

У дні вялікіх халадоў на пласкагор'е некалькі разоў забіраліся ягуары і зграі чацверарукіх. Асцярагаючыся, што асмялелыя ад голаду драпежнікі нарobяць вялікай шкоды плантацыям і птушніку, каланісты прызначылі сталае дзяжурства на пласкагор'і і часта грукатам стрэлаў адганялі занадта дасціпную звярыну.

Каланістам такім чынам не было калі сумаваць, тым больш, што зімою не спыняліся работы па вырабу неабходнай мэблі для Гранітнага палаца.

Некалькі разоў за зіму каланісты хадзілі на паляванне. Асабліва ўдалым было вялікае паляванне на балоце Казаркі, на якое хадзілі Гедэон Спілет і Герберт і ў якім удзельнічалі Топ і Юп.

Так прайшлі чатыры самыя халодныя месяцы—чэрвень, ліпень, жнівень і верасень. Патрэбна адзначыць, што жыхары Гранітнага палаца ўвогуле зусім не цярпелі ад жорсткай зімы і непагоды. Ды і караль, ахаваны ад вятроў адгор'ямі гары Франкліна амаль не быў пашкоджаны, так што Айртону, які вярнуўся ў яго на некалькі дзён у другой палове кастрычніка, удалося аднаму паправіць усе пашкоджанні, без дапамогі астатніх каланістаў.

За зіму ў частцы «таямнічых падзей» не адбылося нічога новага, хоць цяпер Пенкроф і Наб схільны былі бачыць

уплыў таямнічай сілы ў самых нязначных здарэннях. Нават Топ і Юп перасталі сланяцца каля шчылічы калодзежа і не выяўлялі ніякіх прымет неспакою. Здавалася, што таямнічае стварэнне пакінула востраў. Каланісты, аднак, часта гутарылі пра ланцуг «незвычайных» падзей і паўтаралі абяцанне распачаць пошукі, як толькі пацяплее. Але тут здарылася падзея, такая важная, што выкананне ўсіх праектаў каланістаў было на доўгі час адкладзена.

Справа была ў кастрычніку. Ужо запанавала вясна. Пад цёплымі праменнямі сонца на дрэвах заблішчэла свежае, кволае зялёнае лісце.

17 кастрычніка, узахвочаны ясным сонечным днём, Герберт вырашыў сфатаграфаваць з акна Гранітнага палаца бухту Саюза, ад мыса Кіпцюра да мыса Паўднёвай сківіцы.

Гарызонт вырысоўваўся надзвычай рэзка. Акіян, які ледзь гойдаўся ад лёгкага ветру, пабліскваў люстраной паверхняй ізумруднай вады.

Зрабіўшы здымак, Герберт як звычайна пайшоў праяўляць яго ў цёмную каморку Гранітнага палаца. Вярнуўшыся ў пакой, юнак зірнуў супроць святла на замацаваную пласцінку. Прыгледзеўшыся, ён знайшоў на шкле нейкую кропку, якая пляміла мора на гарызонце.

«Напэўна, трапілася сапсаваная пласцінка»,—падумаў юнак і, узяўшы моцную лупу, якую выкруціў з бінокля, нахіліўся да шкла.

Але, не паспеўшы прыгледзецца да пласцінкі, ён моцна крыкнуў і ледзь не кінуў шкелца.

Юнак, рынуўшыся з пакоя, знайшоў Сайруса Сміта і моўчкі падаў яму пласцінку, паказваючы пальцам на плямінку.

Сайрус Сміт прыгледзеўся да яе, потым скочыў на ногі, схапіў падзорную трубу і падбег да акна.

Шпарка агледзеўшы гарызонт, ён знайшоў тое, што шукаў.

Апусціўшы тады падзорную трубу, інжынер прамовіў толькі адно слова:

— Карабль!

Сапраўды, з вострава Лінкольна відаць быў карабль.

КАНЕЦ ДРУГОЙ ЧАСТКІ.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## ТАЯМНІЦА ВОСТРАВА

### РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

*Пагібель ці выратаванне.—Выклік Айртона.—Важная нарада.—Гэта не „Дункан“.—Падазроны караб ль.—Гарматны стрэл.—Брыг становіцца на якар.—Надыход ночы.*

За два з паловай гады, якія прайшлі з часу крушэння аэрастата гэты быў першы карабль, які ўбачылі з вострава на вечна пустэльным моры. Але прыстане ён да берагу ці пройдзе каля яго далей? Толькі праз некалькі гадзін можна было атрымаць адказ на гэтае пытанне... Сайрус Сміт і Герберт паклікалі Гедэона Спілета, Наба і Пенкрофа і расказалі ім пра назіну. Пенкроф схапіў падзорную трубу і пачаў пільна ўглядацца ў ледзь прыметную ў далечыні кропку.

— Тысяча чарцей! — усклікнуў ён. — Ды гэта-ж сапраўдны карабль!

Як гэта не дзіўна, але голас яго не выяўляў радасці.

— Ці набліжаецца ён да вострава?—запытаў Гедэон Спілет.

— Пакуль што нічога нельга сказаць,—адказаў марак.— Над гарызонтам відаць толькі яго мачты, але не корпус.

— Што нам рабіць?—запытаў Герберт.

— Чакаць!—проста адказаў Сайрус Сміт.

На працягу досыць доўгага часу каланісты, паглыбленыя ў свае думкі, стаялі моўчкі. Можна сабе ўявіць, якое хваляванне, колькі трывогі і надзей абудзіла ў іх гэта неспадзяваная падзея—самая сур'ёзная з усіх, якія калінебудзь здараліся на востраве Лінкольна.

Становішча каланістаў зусім нельга было параўнаць са становішчам тых няшчасных, пацярпеўшых крушэнне на бясплодным востраве, якія праз неймаверныя цяжкасці вырываюць у мачыхі-прыроды мізэрныя крошкі для падтры-

мання свайго жыцця. Натуральна, што гэтыя небаракі ўсёю душою імкнуцца зноў на заселеную зямлю. Наадварот, Пенкроф і Наб, якія адчувалі сябе багатымі і шчаслівымі на востраве Лінкольна, не без шкадавання пакінулі-б яго. Яны прызвычаіліся да гэтага вострава, на якім яны патрацілі столькі працы, і ўрэшце палюбілі яго.

Але і для іх з'яўленне карабля было жаданай падзеяй— гэта быў нібы плывучы кусок радзімы, які вёз ім навіну, вёз новых людзей. Сэрцы каланістаў біліся штораз мацней. Пенкроф браў падзорную трубу і ўглядаўся ў гарызонт. Карабль знаходзіўся зараз прыблізна за дваццаць міль на ўсход ад вострава. Каланісты, значыць ніяк не маглі падаць яму сігнал: сцяг не быў-бы заўважаны, стрэл не быў-бы чутны, агонь не быў-бы бачны.

Безумсўна, востраў, з высокім конусам гары Франкліна, быў заўважаны з карабля. Але ці адважыцца карабль прычаліць да вострава? Можа, ён выпадкова апынуўся ў гэтай частцы Ціхага акіяна, дзе на карты нанесен толькі астравок Табор? Тым больш, што і гэты астравок знаходзіцца далёка ў баку ад звычайных шляхоў караблёў, якія падтрымліваюць зносіны паміж Палінезійскімі архіпелагамі, Новай Зеландыяй і Паўднёвай Амерыкай. Адказ на гэтае пытанне, якое ставіў перад самім сабою кожны, нечакана даў Герберт.

— Можа, гэта «Д у н к а н»?—сказаў юнак.

«Д у н к а н а м», як вядома, звалася яхта Гленарвана, які высадзіў Айртона на востраў Табор і абяцаў калі-небудзь вярнуцца на яго. Астравок Табор знаходзіцца блізка ад вострава Лінкольна, карабль, які накіроўваўся да яго, вядома мог прайсці паўз востраў Лінкольна.

— Трэба неадкладна выклікаць Айртона,—сказаў Сайрус Сміт.—Толькі ён можа сказаць нам, ці «Д у н к а н» гэты карабль.

Усе згадзіліся з думкай інжынера, і Гедэон Спілет, падышоўшы да тэлеграфнага апарата, шпарка адстукаў:

«А й р т о н, п р ы х о д з ь ц е н е а д к л а д н а».

Праз некалькі секунд прышоў адказ:

«Ё с ц ь. І д у».

Чакаючы прыходу Айртона, каланісты прадаўжалі глядзець у падзорную трубу на карабль.

— Калі гэта «Д у н к а н»,—сказаў Герберт,—Айртон лёгка пазнае яго: ён-жа доўгі час плаваў на гэтай яхце.

— Уяўляю, як ён будзе ўсхваляваны, калі пазнае «Д у н к а н а»,—заўважыў Пенкроф.

— Так, але цяпер Айртон можа з высока ўзнятай галавою ступіць на борт «Д у н к а н а»,—сказаў інжынер.—

Было-б добра, калі-б карабль аказаўся якраз яхтай лорда Гленарвана. Усялякае іншае судно будзе для мяне падазроным—у гэтых водах заўсёды хвалілся піраты.

— Тады мы будзем абараняцца!—усклікнуў Герберт.

— Вядома, дзіця маё,—усміхнуўся інжынер,—але было-б лепш, калі-б нам не даводзілася абараняцца.

— Можа, справа і не такая ўжо дрэнная, Сайрус,—сказаў журналіст.—Бо востраў Лінкольна не нанесены на карты Ужо адно гэта можа прымусіць карабль, які праходзіць паўз яго, звярнуць з дарогі, каб агледзець невядомую зямлю.

— Вядома,—згадзіўся з ім Пенкроф.

— І я так думаю,—адказаў інжынер.—Як мне вядома, гэта нават уваходзіць у абавязкі капітанаў суднаў—аглядаць заўважаныя імі невядомыя землі.

— Дык як мы зробім у такім разе, калі гэты карабль стане на якар за некалькі кабельтовых ад вострава?—запытаў Пенкроф.

Пытанне марака спярша асталося без адказу. Але, падумаўшы, Сайрус Сміт адказаў сваім звычайным спакойным тонам.

— Вось што мы зробім у тым выпадку, сябры мае: мы пачнем перагаворы з капітанам карабля і папросім яго прыняць нас на борт, папярэдне абвясціўшы востраў Лінкольна ўласнасцю Паўночнаамерыканскіх злучаных Штатаў. Потым, вярнуўшыся на радзіму, мы прапануем усім, хто захоча, перасяліцца на гэты востраў і ператворым яго ў сапраўдную калонію.

— Ура!—усклікнуў Пенкроф.—Мы зробім багаты падарунак Штатам! Бо мы ўжо цывілізавалі гэты дзікі востраў: далі назву ўсім яго часткам, знайшлі натуральны порт, пабудавалі дарогі, правялі тэлеграф, набудавалі верф, фабрыкі, млын, масты! Ураду астанецца толькі нанесці яго на карту!

— А што, калі ў час нашай адсутнасці востраў хто-небудзь зойме?—запытаў Гедэон Спілет.

— Тысяча чарцей!—крыкнуў марак.—У такім разе я палічу за лепшае нікуды не выязджаць з вострава і застацца ахоўваць яго! Ручаюся, што яго не ўкрадуць у мяне, як гадзіннік з кішэні зявакі!

На працягу наступнай гадзіны нельга было вырашыць, ці ідзе карабль у кірунку да вострава ці праходзіць паўз яго, хоць ён прыкметна наблізіўся. Мора было спакойнае, і карабль мог падысці да вострава, не баючыся разбіцца аб скалы ля невядомых берагоў.

Каля чатырох гадзін папаўдні прышоў Айртон.

Сайрус Сміт пацiснуў яму руку і, падводзячы яго да акна, сказаў:

— Мы запрасілі вас па важнай справе, Айртон! З вострава відаць карабль.

Айртон пабляднеў і ўздрыгануўся.

Выглянуўшы ў акно, ён утаропіў позірк у гарызонт, але нічога не ўбачыў.

— Вазьміце падзорную трубу,—сказаў Гедэон Спілет,— паглядзіце на карабль: магчыма, што гэта «Д у н к а н», які з'явіўся, каб адвезці вас на радзіму.

— «Д у н к а н»?—прашаптаў Айртон.—Так хутка?

Гэтыя словы нібы мімаволі вырваліся з яго грудзей. Ён апусціў галаву.

Няўжо дванаццаць год адзіноты на незаселеным востраве не здаваліся для яго дастатковым выкупленнем віны? Няўжо ён не дараваў сабе за свае злачынствы і лічыў, што яны не дараваны яму другімі?

— Не,—сказаў ён, не падымаючы галавы,—гэта не можа быць «Д у н к а н»...

— Паглядзіце, Айртон,—сказаў інжынер,—нам патрэбна ведаць загадзя, ці «Дункан» гэта, каб прыняць адпаведныя меры.

Айртон узяў падзорную трубу і паглядзеў у паказаным кірунку. На працягу некалькіх хвілін ён моўчкі ўглядаўся ў гарызонт.

— Не,—сказаў ён, памаўчаўшы некалькі хвілін,—мне здаецца, што гэта не «Д у н к а н».

— Чаму вы так думаеце?—запытаў Гедэон Спілет

— «Д у н к а н»—паравая яхта, а тут я не бачу ніякай адзнакі дыму над караблём, ні за ім.

— А можа, ён ідзе цяпер пад аднымі парусамі?—запярэчыў Пенкроф.—Вецер, як быццам-бы спадарожны, і вельмі магчыма, што ён беражэ вугаль, знаходзячыся на такой далёкай адлегласці ад заселенай зямлі.

— Магчыма, што ваша праўда, Пенкроф,—адказаў Айртон,—і што яхта ідзе з патушанымі агнямі ў топках. Пачакаем, пакуль карабль не наблізіцца да берагу, тады мы канчаткова высветлім гэтае пытанне.

Айртон сказаў гэта і адышоўся ў глыб пакоя і сеў на табурэт, скрыжаваўшы рукі на грудзях.

Каланісты прадаўжалі размаўляць пра карабль, але Айртон больш не ўдзельнічаў у гутарцы. Усе былі так усхваляваны, што, вядома, ніхто і не думаў пра бягучую работу. Асабліва былі ўзрушаны Гедэон Спілет і Пенкроф.

Яны нервова пахаджвалі па пакою. Герберт быў больш стрыманы, але і яго грызла цікаўнасць. Наб адзін трымаўся вельмі спакойна—ён быў упэўнены, што гаспадар уладзіць усё як найлепш. Што датычыць інжынера, дык той сядзеў, паглыблены ў свае думкі. У глыбіні душы ён хутчэй асцерагаўся, чым хацеў набліжэння судна.

А карабль між тым патроху набліжаўся да вострава. У падзорную трубу ўжо можна было разгледзець, што гэта брыг, набудаваны еўрапейцамі або амерыканцамі, а не малайскі «прао», на якіх звычайна ездзяць малайскія піраты. Такім чынам, можна было спадзявацца, што асцярога інжынера акажацца беспадстаўнай і з'яўленне карабля блізка вострава Лінкольна нічым не пагражае каланістам. Айртон, па просьбе інжынера, яшчэ раз паглядзеў у падзорную трубу і пацвердзіў, што гэта сапраўды брыг.

Цяпер добра было відаць, што брыг ішоў на паўднёвы захад. Ён павінен быў неўзабаве схавацца за мысам Кінцюра, і, каб сачыць за ім, давялося-б узбірацца на скалы ў бухце Вашынгтона, недалёка ад порта Шара. Гэта было тым больш прыкра, што было ўжо каля пяці гадзін папаўдні і неўзабаве сцямнее, а ў цемры назіраць будзе немагчыма.

— Што мы зробім, калі настане ноч?—запытаў Гедэон Спілет.—Хіба раскладзем агонь, каб падаць сігнал пра сябе?

Журналіст рубам паставіў самае важнае пытанне, ад вырашэння якога залежаў далейшы лёс каланістаў. Не гледзячы на свае цяжкія прадчуванні, нават Сайрус Сміт выказаўся за агонь. Ноччу карабль мог прайсці паўз востраў, а ці прыдзе калі-небудзь другі карабль, гэтага ніхто не мог сказаць...

— Так,—сказаў журналіст,—давядзецца падаць знак экіпажу карабля, што на востраве жывуць людзі. Не скарыстаць гэтую магчымасць вярнуцца на радзіму—значыць потым праз усё жыццё каяцца.

Вырашана было, што Наб і Пенкроф пойдуць у порт Шара і там, як толькі настане ноч, раскладуць вялікі агонь, каб звярнуць увагу экіпажа брыга.

Але ў той момант, калі Наб і марак меліся пакінуць Гранітны палац, карабль нечакана змяніў курс і накіраваўся проста да бухты Саюза. Брыг, відавочна, быў добрым хадаком, мяркуючы па той хуткасці, з якой ён набліжаўся да берагу.

Паездка ў порт Шара была адменена, і Айртона папрасілі зноў узяць падзорную трубу, каб канчаткова ўстанавіць, «Д у н к а н» гэта ці не. Справа ў тым, што яхта лорда Гле-

нарвана была аснашчана таксама, як брыг. Айртон стараўся разгледзець, ці ёсць труба паміж двух мачтаў карабля, які цяпер знаходзіўся на адлегласці дзесяці міль. Праменні заходзячага сонца яшчэ асвятлялі гарызонт, і судна было відаць выразна.

Айртон апусціў падзорную трубу і ўпэўнена сказаў:

— Гэта не «Д у н к а н».

І пасціху дадаў:

— Гэта і не мог быць «Д у н к а н»!

Пенкроф зноў накіраваў падзорную трубу на карабль. Цяпер выразна было відаць, што гэта брыг на трыста-чатырыста тон водазмяшчэннем з смелымі і прыгожымі лініямі, вельмі добра аснашчаны і, напэўна, надзвычай быстраходны. Але вызначыць, якой нацыянальнасці належыць судна, марак не мог.

— Сцяг лунае на карме, але я не магу яшчэ разгледзець колеры,—сказаў.

— Менш як праз поўгадзіны мы будзем гэта ведаць зусім дакладна,—адказаў журналіст.—Урэшце, і цяпер ясна, што капітан судна мае намер прыстаць да нашага вострава. Значыць, калі не сёння, дык сама пазней заўтра мы пазнаёмімся з ім.

— А ўсё-такі,—запярэчыў Пенкроф,—лепш загадзя ведаць, з кім маеш справу! Я быў-бы не супроць, каб ужо цяпер разгледзець колеры сцягу гэтага малойчыка!—І марак зноў узяўся за падзорную трубу.

Дзень канчаўся. З надыходам цемры вецер сціх.

Сцяг брыга бязвольна звіснуў складкамі, і цяпер было зусім цяжка разабраць яго колеры.

— Гэта не амерыканскі сцяг,—разважаў у голас Пенкроф,—і не англійскі—чырвоныя палоскі на ім выдзяляліся-б... І не французскі... Можа, іспанскі? Не... Здаецца, ён аднакаляровы... Якія сцягі хутчэй за ўсё можна спаткаць у гэтых морах? Чылійскі? Але-ж ён трохкаляровы... Бразільскі? Ён зялёны... Японскі? Ён чорна-чырвоны, а гэты...

Марак паклаў падзорную трубу, Айртон у сваю чаргу прыставіў яе да вачэй. У гэты час подых ветру развінуў сцяг на карме невядомага карабля.

— Сцяг чорны,—глухім голасам сказаў Айртон.

Сапраўды невядомае судно ішло пад чорным сцягам. Прадчуванне не падвяло Сайруса Сміта...

Ці быў гэта пірацкі карабль, які канкурыруе з малайскім «прао»? Чаго шукалі піраты ля берагоў вострава Лінкольна? Ці не думалі яны скарыстаць гэтую нікому невядомую зямлю для хавання награбленага?

Гэтыя думкі, як маланка, мільганулі ў галовах каланістаў. Між іншым, яны не сумняваліся ў тым, што на караблі лунаў сцяг морскіх разбойнікаў. Той самы чорны сцяг, які падняў-бы «Дункан», калі-б збеглым катаржнікам пашанцавала захапіць яхту.

Каланісты не сталі траціць часу на развагі.

— Сябры мае,—сказаў Сайрус Сміт,—магчыма, што гэты карабль хоча толькі агледзець берагі вострава і не мае намеру высаджваць экіпаж. Мы маем права спадзявацца на гэта. Таму патрэбна зрабіць усё, што ад нас залежыць, каб захаваць нашу прысутнасць тут. Наб і Айртон! Ідзіце на млын, зніміце з яго крыллі—яны залішняе прыкметныя. А мы пакуль што замаскіруем беццем вокны Гранітнага палаца. Агні запальваць не будзем. Піраты не павінны ведаць, што на востраве ёсць людзі.

— А што зрабіць з нашым «Шчаслівым»?—запытаў Герберт.

— О, за яго няма чаго непакоіцца!—адказаў Пенкроф.— Ён добра схаваны ў парту Шара, і піраты не вельмі лёгка знойдуць яго.

Загады інжынера былі неадкладна выкананы. Айртон і Наб узабраліся на пласкагор'е Далёкага віду і разабралі крыллі ветрака. Тым часам астатнія каланісты збегалі на край лесу якамары і набралі там па бярэму веццяі ліян. Зводдаля гэтая зеляніна павінна была ствараць уражанне натуральнай расліннасці ў выямне скалы і зусім засланяць вокны Гранітнага палаца. Адначасова каланісты агледзелі зброю і паклалі агнястрэльныя прыпасы так, каб можна было не трацячы часу перазараджаць стрэльбы.

Калі ўсе гэтыя падрыхтаванні былі скончаны, Сайрус Сміт праказаў голасам, які паказваў, што ён хвалюецца:

— Сябры мае! Гэта-ж праўда, што вы гатовы абараняць востраў Лінкольна, калі піраты паспрабуюць захапіць яго?

— Так, Сайрус,—адказаў журналіст за ўсіх.—Мы гатовы змагацца да апошняй кроплі крыві!

Інжынер працягнуў абедзве рукі сваім сябрам, якія ўсхвалявана паціснулі іх. Адзін Айртон заставаўся ў баку. Можа, ён, як былы пірат, лічыў, што ён не варты таго, каб далучыцца да каланістаў?

Сайрус Сміт зразумеў, што адбываецца ў душы Айртона, і, падышоўшы да яго, сказаў:

— А вы, Айртон, як думаеце рабіць?

— Я выканаю свой абавязак,—адказаў той.

Ён падышоў да акна і зірнуў у прасветы паміж лісцяў. Было каля палови восьмай гадзіны вечара. Сонца зайшло

за гарызонт ужо каля дваццаці хвілін таму назад. Змяркалася. Аднак, брыг, прадаўжаў набліжацца да бухты Саюза. Ён быў цяпер не больш як за восем міль ад берагу.

Ці збіраецца брыг увайсці ў бухту Саюза? Такое было першае пытанне. Калі ён увойдзе ў бухту, дык ці стане ён на якар? Гэта было другое пытанне. Можа, ён мае намер толькі агледзець бераг і рушыць далей, не высаджваючы экіпаж? На ўсе гэтыя пытанні адказ павінен быць не пазней, як праз гадзіну. Трэба было толькі запасціся цярплівасцю.

Сайрус Сміт разумеў, што з'яўленне піратаў было вельмі сур'ёзнай пагрозай існаванню калоніі. Таму яго больш за ўсё цікавіла цяпер пытанне пра колькасць піратаў і якасць іх узбраення, бо ён амаль не сумняваўся, што каланістам давядзецца са зброяй у руках абараняць свой востраў.

Ноч настала. Серп маладзіка схаваўся разам з апошнімі праменнямі вячэрняй зары. Непранікальная цемра ўкрыла мора і востраў. Густыя хмары, якія нізка навіслі над гарызонтам, не прапускалі ніводнага промню святла. Вецер зусім сціх. Ні адзін лісцік не варушыўся на дрэвах. Карабля цяпер не было відаць—ён ішоў з патушанымі агнямі.

— Хто ведае,—сказаў Пенкроф,—можа, заўтра раніцой ад гэтага праклятага карабля не застанецца і следу?..

Нібы ў адказ на словы марака, у моры ўспыхнуў яркі аганёк, і зараз-жа да Гранітнага палаца даляцеў грукат гарматнага стрэлу. Значыць карабль набліжаецца і ён узброены гарматамі!

Паміж успышкай святла і грукатам стрэлу прайшло шэсць секунд. Значыць, карабль знаходзіўся на адлегласці адной з чвэрткай мілі ад берагу.

Хутка пачуўся лязгат разматваемага ланцуга і буханне ад падзення ў ваду цяжкай рэчы.

Брыг стаў на якар супроць Гранітнага палаца!

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

*Ваенная нарада.—Прапанова.—Прапанова Айртона.—Айртон і Пенкроф на востраве Выратавання.—Нарфолькскія катаржнікі.—Іх планы.—Геройства Айртона.—6 супроць 50!*

Намеры піратаў былі зусім ясныя. Карабль кінуў якар на такой блізкай адлегласці ад берагу, што не было ніякіх сумненняў у тым, што раніцою яго экіпаж высадзіцца на бераг.

Каланісты былі гатовыя да барацьбы, але не забываліся і на асцярогу. Яны маглі разлічваць, што піраты не выкрыюць іх, калі абмяжуюцца даследаваннем берагоў і не будуць забірацца ў глыб вострава. Сапраўды, можна было падумаць,

што піраты спыніліся каля вострава, каб папоўніць запасы прэснай вады, і, знайшоўшы яе ў вусці ракі Падзякі, не падымуцца ўверх па яе плыні і не заўважаць маста, захаванага за паваротам ракі.

Але для чаго яны ўзнялі чорны сцяг? Для чаго стралялі з гарматы? Было гэта толькі свавольствам або часткай цэраманіялу, які азначаў заўладанне вострава?

Каланісты ведалі цяпер, што ў піратаў на барту ёсць гарматы. А што яны маглі выставіць супроць гармат брыга? Толькі стрэльбы...

— Як-бы там ні было,—сказаў Сайрус Сміт,—у Гранітным палацы нас піраты не дастануць. Яны не могуць ведаць пра шчыліну старога калодзежу, а не ведаючы пра існаванне гэтай шчыліны, нельга знайсці яго пад густым зараснікам

— Добра, Гранітны палац у бяспецы,—усклікнуў Пенкроф,—але наш засеў, птушнік, караль?! Ды яны могуць усё разбурыць за некалькі гадзін!

— Усё,—пацвердзіў спакойна інжынер,—і мы ніяк не можам перашкодзіць ім...

— Уся справа ў тым, колькі на караблі піратаў?—заўважыў Гедэон Спілет.—Калі не больш дзюжыны, дык мы яшчэ справімся з імі, але калі сорак—пяцьдзесят чалавек ці яшчэ больш...

— Містэр Сміт,—сказаў у гэты час Айртон, падыходзячы да інжынера,—у мяне да вас просьба.

— Якая, мой дружа?

— Дазвольце мне падплысці да брыга і даведацца пра колькасць яго каманды.

— Але-ж гэта азначае рызыкаваць жыццём, Айртон,—нерашуча адказаў інжынер.

— Ну і што-ж, містэр Сміт?

— Гэта ў шмат разоў больш, чым выканаць абавязак.

— Я і хачу зрабіць больш, чым абавязаны!..

— Вы хочаце падплысці да брыга ў пірозе?—запытаў Гедэон Спілет...

— Не, містэр Спілет, я дабяруся ўплаў. Пірога не пройдзе так непрыкметна і нячутна, як плывец.

— Ці ведаеце вы, што брыг стаіць на якары за мілю з чвэрткай ад берагу?—запытаў Герберт.

— Я добра плаваю,—адказаў Айртон.

— Я паўтараю вам, што гэта азначае рызыкаваць жыццём!—усклікнуў інжынер.

— Гэта няважна,—адказаў Айртон.—Містэр Сміт, я прашу вашага дазволу, як літасці! Пасля гэтага я, можа, зноў пачну паважаць самога сябе!

— Я згодзен, Айртон,—адказаў інжынер, адчуваючы, што адмова зноў-бы надала роспачы быламу катаржніку, які ўжо стаў сумленным чалавекам.

— Я правяду вас,—сказаў Пенкроф.

— Вы не даверыце мне?—жвава запытаў Айртон. І больш ціхім голасам дадаў:—На жаль, я заслужыў гэта!..

— Не, не, Айртон!—крыкнуў Сайрус Сміт.—Вы не так зразумелі словы Пенкрофа! Ён давярае вам, таксама як і ўсе мы!

— Я хацеў правесці вас толькі да астраўка Выратавання, Айртон. Бо можа здарыцца што хто-небудзь з гэтых нягоднікаў высадзіўся там, а ў такім выпадку чатыры рукі лепш за дзве. Затым я пачакаю вас на астраўку, пакуль вы паплывеце да брыга.

Айртон паспакайнеў пасля такога тлумачэння, і пачаў рыхтавацца да экспедыцыі. Яго план быў смелы, але яго можна было ажыццявіць, бо ноч была вельмі цёмная. Даплыўшы да карабля, ён павінен быў пацішу ўзабрацца на борт, а там ужо няцяжка будзе праведаць пра склад і лік экіпажа, а, можа, і даведацца пра намеры бандытаў.

Усе каланісты праводзілі Айртона і Пенкрофа да берагу. Там Айртон распрануўся і абмазаў сябе тлушчам, каб не так было халодна—тэмпература вады ўсё яшчэ была нізкая, а ён прадбачыў, што давядзецца прабыць у моры шмат гадзін.

Пенкроф і Наб тым часам пайшлі па пірогу, якая стаяла на прывязі за некалькі сот крокаў уверх па плыні ракі Падзякі. Калі яны вярнуліся, Айртон быў ужо гатовы.

Герберт накінуў яму на плечы скуру ягуара, і ён сеў у пірогу разам з Пенкрофам.

Неўзабаве мізэрнае судзенца знікла ў цемры. Было часу дзесяць з паловай гадзін вечара.

Каланісты вырашылі пачакаць звароту Айртона ў Каміне.

Махнуўшы некалькі разоў вёсламі, Пенкроф пераправіў пірогу цераз вузкі праліў і прычаліў да берагу астраўка. Высадзіліся надзвычай асцярожна, бо на астраўку маглі быць піраты. Але неўзабаве разведчыкі пераканаліся, што іх асцярога была беспадстаўнай.

Тады Айртон, у суправаджэнні Пенкрофа, шпарка рушыў да процілеглага берагу астраўка, узганяючы нахаду сонных марскіх птушак. Дайшоўшы да берагу, ён, не вагаючыся, кінуўся ў мора і паплыў да брыга, які быў цяпер асветлены некалькімі ліхтарамі.

Пенкроф, сеўшы на абломак скалы, стаў чакаць таварыша.

Айртон плыў зусім нячутна, ледзь выстаўляючы нос з вады. Позірк яго быў накіраваны на цёмную грамадзіну

брыга, слаба асветленую некалькімі ліхтарамі, якія кідалі жоўтыя водсветы на гладкую паверхню вады. Айртон не думаў пра небяспекі, якія пагражалі яму не толькі на брыгу, але і ў акіяне, дзе вяліся акулы; усе яго думкі былі накіраваны на тое, каб выканаць узяты на сябе абавязак. Адліў дапамагаў яму плысці, і ён шпарка аддаляўся ад берагу.

Праз паўгадзіны Айртон, нікім не заўважаны, прыплыў да брыга і ўчапіўся за ланцуг якара. Крыху адпачыўшы, ён узабраўся па гэтым-жа ланцугу на самы верх валарэза. Там сушыліся некалькі пар матроскіх штаноў. Ён нацягнуў на сябе адны і, сеўшы больш выгодна, стаў прыслухоўвацца да размоў.

На брыгу яшчэ не спалі. Наадварот, экіпаж балбатаў, смяяўся, спяваў. Да Айртона далятала асобныя сказы:

— Вельмі ўдала, што мы набылі гэты брыг!

— Ён добры хадок, наш «Шпаркі». Нездарма яго так назвалі!

— Увесь нарфолькскі флот мог-бы гнацца за ім! Дагоніш яго!.. Так і чакай!

— Ура нашаму капітану!

— Бобу Гарвею, ура!

Можна уявіць, што перажыў Айртон, пачуўшы гэтае імя: Боб Гарвей быў яго старым сябрам па аўстралійскай бандзе, смелым і вопытным маракам, здольным на ўсякае злачынства!

З далейшай гаворкі Айртон зразумеў, што Боб Гарвей захапіў гэты брыг недалёка ад Нарфолька. Брыг быў нагружан зброяй, баявымі прыпасамі і інструментамі, якія прызначаліся для аднаго з Сандвічавых астравоў. Сабраўшы на барту брыга усю сваю банду, Боб Гарвей пачаў пірацтваць у водах Ціхага акіяна, ганяючыся за караблямі; былы катаржнік быў больш бязлітасны, чым самыя лютыя з малайскіх піратаў.

Піраты выхваляліся сваімі ўчынкамі, стараючыся перакрычаць адзін аднаго. Усе былі выпіўшы, а некаторыя зусім п'яныя. Вось што даведаўся Айртон з іх размовы.

Цяперашняя каманда «Шпаркага» складалася выключна з англічан, якія ўцяклі з нарфолькскай катаргі.

Што такое Нарфольк?

На 29° 2' паўднёвай шыраты і 165° 42' усходняй даўгаты, на ўсходзе ад Аўстраліі, знаходзіцца невялічкі астравок, які мае ледзь шэсць міль па акружнасці. Астравок гэты ўвенчаны гарою Піта, якая ўзнімаецца на тысячу сто футаў над узроўнем мора. Гэта востраў Нарфольк, які належыць Англіі і які ператвораны ў катаргу для самых заядлых злачынцаў. Тут

іх пяцьсот чалавек, падпарадкаваных літаральна жалезнай дысцыпліне, самае малое парушэнне якой надзвычай сурова караецца. Сто пяцьдзесят салдат ахоўваюць катаргу. Узначальвае востраў губернатар.

Цяжка сабе ўявіць зборышча больш небяспечных нягоднікаў, чым нарфолькскія катаржнікі. Часам—хоць такія выпадкі вельмі рэдкія,—не гледзячы на пільны нагляд, некаторым катаржнікам шанцуе ўцячы з астраўка і захапіць які-небудзь карабель. Гэтыя збеглыя катаржнікі робяцца піратамі Палінезійскіх астравоў.

Так зрабілі Боб Гарвей і яго спадарожнікі. Так у свой час хацеў зрабіць сам Айртон. Боб Гарвей захапіў «Ш п а р к а г а», які стаяў на якары каля вострава Нарфолька, перабіў увесь яго экіпаж, і вось ужо цэлы год, як брыг, ператварыўшыся ў пірацкі карабль, плаваў у Ціхім акіяне пад камандай пажыццёвага катаржніка Боба Гарвея, даўняга знаёмага Айртона.

Большасць піратаў сядзела на юце, на карме карабля, але некаторыя ляжалі на палубе, на насу і гучна размаўлялі.

Айртон даведаўся, што «Ш п а р к і» зусім выпадкова наткнуўся на востраў Лінкольна. Боб Гарвей нічога не ведаў пра яго існаванне, але, спаткаўшы па дарозе не нанесеную на карту зямлю, вырашыў, як пра гэта здагадаўся Сайрус Сміт, агледзець яе і, калі яна будзе зручнай, зрабіць з яе галоўную аперацыйную базу для свайго брыга.

Што датычыць чорнага сцягу і гарматнага стрэлу, дык гэта было адным самахвальствам з боку піратаў, якія пераймалі звычай ваенных караблёў вітаць спуск і ўздым сцягу гарматнымі стрэламі.

Такім чынам, калоніі пагражала страшэнная небяспека. Натуральна, што востраў з выгодным портам, прэснай вадою, мноствам дзічыны і ўсялякіх раслін, з непрыступнымі ўмацаваннямі Гранітнага палаца павінен быў здацца для піратаў багатай знаходкай. Тая акалічнасць, што ён нават не быў нанесены на карту, з'яўлялася вялікай перавагай: ні для каго невядомы востраў быў асабліва надзейным прытулкам.

Вядома, пры гэтых умовах нельга было спадзявацца, што Боб Гарвей і яго аднамыснікі пашкадуюць каланістаў. Наадварот, піраты першым чынам пастараюцца знішчыць усіх нязручных для іх суседзяў. У каланістаў не аставалася нават магчымасці саступіць і пакінуць піратам Гранітны палац і схавацца дзе-небудзь: востраў быў малы, і дзе-б яны не пасяліліся на ім—усёроўна, раней або пазней, піраты выкрылі-б іх прытулак.

Значыць, трэба было прыняць бой і змагацца да таго

часу, пакуль апошні пірат не пакіне вострава або пакуль не будзе забіты апошні каланіст.

Так думаў Айртон. І ён не сумняваўся, што так думае і Сайрус Сміт.

Але ці была ў каланістаў хоць якая надзея на паспяховы вынік барацьбы? Гэта залежыла ад узбраення брыга і колькасці яго экіпажу.

Айртон вырашыў даведацца пра ўсё гэта. Прыкладна праз гадзіну галасы пачалі змаўкаць, і большасць піратаў, ап'янеўшы, паснула. Айртон вырашыў спусціцца з вадарэза на палубу «Шпаркага», на якой было амаль зусім цёмна.

Прабіраючыся нячутна паміж распасцертых на палубе целаў заснуўшых, Айртон абышоў увесь брыг і ўбачыў, што ён узброены чатырма гарматамі, якія страляюць васьмі—дзесяціфунтовымі ядрамі. На палубе валялася чалавек дзесяць, але трэба было меркаваць, што ўнутры карабля знаходзілася яшчэ немала людзей. Да рэчы, Айртон, з размоў піратаў нібы ўчуў, што на брыгу іх было пяцьдзесят чалавек. Пяцьдзесят піратаў супроць шасці каланістаў вострава Лінкольна! Але Айртон мог радавацца ад таго, што цяпер каланісты хоць не будуць захоплены знянацку: ведаючы пра вялізную колькасную перавагу сваіх ворагаў, яны здолеюць адпаведным чынам падрыхтавацца да барацьбы.

Айртону не было чаго больш рабіць на брыгу, і ён вырашыў варочацца, каб як найхутчэй паведаміць Сайруса Сміта пра вынікі разведкі. Але ў гэтую хвіліну быламу пірату, які хацеў, як ён сам казаў, зрабіць больш, чым ад яго вымагаў абавязак, прыйшла ў галаву герайчная думка. Ажыццявіць яе—азначала афяраваць сваім жыццём, але выратаваць востраў і каланістаў. Каланісты, вядома, не змогуць адолець пяцідзесяці ворагаў, узброеных артылерыяй. Піраты або возьмуць Гранітны палац штурмам, або надоўга абложаць яго і голадам прымусяць яго абаронцаў да здачы. І Айртон уявіў сабе, як людзі, што вызвалілі яго з бяды, будуць бязлітасна забіты, вынікі іх працы знішчаны, і востраў, дзе ён зноў адчуў сябе сумленным членам грамадства, ператворыцца ў злавеснае гняздо разбою...

Ён сказаў сам сабе, што на самай справе гэта ён, Айртон, будзе прычынай усіх гэтых няшчасцяў, бо Боб Гарвей толькі ажыццявіў яго план. Вялікі жах апанаваў яго, а разам з гэтым непераможнае жаданне ўзарваць і брыг і ўсіх, хто быў на ім. Айртон сам загіне ад гэтага, але затое ён выканае свой абавязак!

Ён не вагаўся. Круйт-камера [1] знаходзіцца на ўсіх караб-

[1] *Круйт-камера*—парахавы пограб.

лях у кармавой частцы, і прабрацца да яе няцяжка. На судне, якое займаецца такім промыслам, пораху павінна было быць уволю, і хопіць адной іскры, каб ён узарваўся.

Айртон націху прабраўся на ніжнюю палубу, лавіруючы паміж заснуўшых. Ліхтар, прымацаваны да нізу грот-мачты, цьмяна асвятляў памяшканне. Пад ліхтаром былі паскіданыя ў груды стрэльбы, пісталеты і іншая зброя.

Айртон узяў адзін рэвальвер і ўбачыў, што ён зараджаны. Гэтага было досыць, каб выклікаць выбух. Ён асцярожна рушыў далей, на карму, адшукваючы парахавы пограб.

Ісці сярод распасцёртых цел у амаль поўнай цемры было не вельмі лёгка. Некалькі разоў Айртон натыкаўся на заснуўшых і, стаіўшы дух, слухаў, як п'яныя праз сон клянуць яго. Але ўрэшце ён шчасліва дабраўся да самых дзвярэй круйт-камеры.

Дзверы былі замкнёны моцным вісячым замком. Айртону давялося ламаць яго. Гэта было яшчэ больш цяжка, бо рабіць трэба было нячутна. Але замок нядоўга не падаваўся дужым рукам Айртона, і дзверы ў парахавы пограб адчыніліся.

У гэты момант на плячо Айртона лягла цяжкая рука.

— Ты што тут робіш?—уладна запытаў высокі чалавек, які раптоўна вынырнуў з цемры. І ён паднёс да твара Айртона патаемны ліхтарык.

Айртон адскочыў. Ён пазнаў у тым, хто пытаўся свайго старога знаёмага Боба Гарвея. Але той не мог пазнаць Айртона, які зарос барадою. Да таго-ж ён лічыў, што Айртон даўно памёр.

— Што ты тут робіш?—зноў запытаў ён, хватаючы Айртона за руку.

Айртон, нічога не адказваючы, адштурхнуў правадыра піратаў і хацеў рынуцца ў парахавы пограб: рэвальверны стрэл у бачонак—і ўсё было-б скончана!

— Хлопцы, сюды!—крыкнуў Боб Гарвей.

Два—тры піраты, абуджаныя яго воклічам, зараз-жа ўскочылі на ногі і рынуліся на Айртона, стараючыся паваліць яго на падлогу. Той атрос з сябе нападаючых і два разы стрэліў з пісталета. Два піраты ўпалі, але трэці ў гэты час параніў нажом Айртона ў плячо.

Айртон зразумеў, што план яго праваліўся: Боб Гарвей прысланіўся спіною да дзвярэй парахавога пограба, а па ўсім брыгу чуліся галасы піратаў, якія прачнуліся ад стрэлаў. Айртону трэба было зберагчы сябе, каб дапамагчы каланістам змагацца з піратамі. Ён вырашыў уцячы.

Але ці можна было яшчэ ўцячы?

У рэвальверы Айртона заставалася яшчэ чатыры зарады. Ён зноў стрэліў два разы паўрад. Першы стрэл, накіраваны ў Боба Гарвея, не папаў у цэль або раніў правадыра катаржнікаў не сур'ёзна, другі ўраз паваліў аднаго пірата. Скарыстаўшы хвіліну замяшання сваіх ворагаў, Айртон кінуўся да лесніцы люка, якая выходзіла на верхнюю палубу. Прабягаючы каля ліхтара, ён разбіў яго, і ў памяшканні зрабілася зусім цёмна. Але два чалавекі з экіпажа спускаліся гэтым часам па вузкай лесніцы. Пятым стрэлам Айртон забіў першага, а другі, спалохаўшыся, сам пастараўся адскочыць назад, даючы дарогу.

Скочыўшы два разы, Айртон апынуўся на палубе і праз тры секунды, стрэліўшы зблізку ў пірата, які спрабаваў затрымаць яго, пераступіў пярылы і нырнуў у ваду.

Не паспеў ён і пяці разоў грабянуць рукамі, як вакол яго нібы град зашлёпалі па вадзе кулі.

Як павінны былі хвалявацца Пенкроф, які чакаў Айртона на астраўку, і астатнія каланісты, што знаходзіліся ў Каміне, калі пачулі шум ад гэтай пачной страляніны па барту брыга! Яны рынуліся на бераг і, зарадзіўшы стрэльбы, былі гатовы адбіць хоць які напад.

Яны не сумняваліся, што піраты выкрылі Айртона і даканалі яго, а цяпер, скарыстаўшы цемру, паспрабуюць высадзіцца на бераг.

Мінула поўгадзіны напружанага чакання. Стрэлы сціхлі, але ні Пенкроф, ні Айртон не вярочаліся. Няўжо астравок Выратавання быў захоплены піратамі? Ці не патрэбна было ім рушыць туды на дапамогу Пенкрофу, калі ўжо Айртон загінуў? Але як перабрацца на астравок? Пераправіцца ўброд у час прыліву было немагчыма, а пірогі не было... Можна ўявіць, якія жахлівыя хвіліны перажывалі Сайрус Сміт і яго таварышы!

Нарэшце, пад поўнач да берагу прыстала пірога з двума людзьмі. Каланісты бязмежна ўзрадавана спаткалі лёгка раненага ў плячо Айртона і зусім здаровага Пенкрофа.

Яны рушылі да Каміна, і там Айртон расказаў усё, што адбылося на брыгу, не змаўчаўшы таксама і пра сваю няўдалую спробу ўзарваць карабль.

Айртон не ўтаіў ад каланістаў як вяліка небяспека: Піраты цяпер былі папярэджаны. Яны ведалі, што на востраве Лінкольна ёсць людзі; таму яны высадзяць на бераг толькі добра ўзброеныя і вялікія атрады. Калі каланісты трапяцца ім у рукі, то нельга чакаць літасці!

Усе адзін перад адным дзякавалі Айртону і паціскалі яму рукі.

— Трэба вярнуцца ў Гранітны палац,—сказаў інжынер.
— Як вы думаеце, містэр Сміт,—запытаў Пенкроф,—ёсць нас надзея выкруціцца?
— Так, Пенкроф.
— Шэсць супроць пяцідзесяці!..
— Нічога! На нашым баку перавагі розуму!

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

*Туман падымаецца.—Намеры інжынера.—Тры заставы.—Айртон і Пенкроф.—Першая лодка.—Дзве другія.—На астраўку Выратавання.—Шэсць катаржнікаў высадзіліся на бераг.—Брыг падымае якар.—Ядры „Шпаркага".—Безнадзейнае становішча.—Нечаканая развязка.*

Ноч прайшла спакойна. Каланісты ўвесь час вартавалі, але піраты, відаць, і не думалі ў гэтую ноч высаджвацца на бераг у цемры. Пасля таго як сціх грукат стрэлаў, накіраваных у Айртона, ні адзін гук не выдаваў больш прысутнасці брыга ў водах бухты Саюза. Можна было нават падумаць, што піраты, спалохаўшыся невядомага праціўніка, без бою пакінулі востраў і зняліся з якара.

Але на досвітку каланісты згледзелі нейкую шчытную пляму ў тумане.

Гэта быў «Шпаркі».

— Сябры мае,—сказаў інжынер,—мы шмат чаго павінны паспець зрабіць, раней чым разыйдзецца ранішні туман. Ён хавае нас ад вачэй піратаў і дазваляе нам дзейнічаць, не прыцягваючы іх увагі. Нам вельмі патрэбна зрабіць так, каб піраты ўпэўніліся, што абаронцаў вострава шмат, і, значыць, яны здольны сур'ёзна супраціўляцца. Таму я прапаную, падзяліцца на тры групы. Першая зойме Камін, другая размесціцца каля вусця ракі Падзякі, а што датычыць трэцяй, дык, на маю думку, ёй варта размясціцца на астраўку Выратавання, каб перашкодзіць або ў крайнім выпадку затрымаць высадку дэсанта. У нас ёсць чатыры вінтоўкі і два карабіны. Такім чынам кожны атрымае зброю. Пораху і куль у нас хопіць, таму можна не шкадаваць зарадаў. Для нас не страшныя ні кулі, ні нават ядры брыга—яны не могуць прабіць гэтых скал, а з той прычыны, што мы не будзем страляць з акон Гранітнага палаца, дык піраты не здагадаюцца, што гарматнае ядро, пушчанае ў прабоіну ў граніце, можа нарабіць нам вялікай бяды. Небяспечная для нас толькі сутычка ўрукапашную, таму што піратаў у дзесяць разоў больш, чым нас. Таму наша тактыка—усяляк перашкаджаць высадцы, але не выходзіць з-пад прыкрыцця. І вось я канчаю: не берагчы снарадаў! Страляць часта і

трапна! На кожнага з нас прыпадае па восем-дзесяць ворагаў, і кожны з нас павінен забіць такую колькасць піратаў! І тады перамога будзе наша!

Сайрус Сміт правільна гаварыў пра становішча. Ён гутарыў зусім спакойна, нібы размова была не пра бітву з невядомым канцом, а пра самую звычайную работу.

Каланісты адразу-ж ухвалілі план інжынера.

Цяпер патрэбна было пастарацца заняць свае пасты, раней чым разыйдзецца туман.

Наб і Пенкроф прынеслі з Гранітнага палаца запасы баявых прыпасаў. Гедэон Спілет і Айртон, лепшыя стральцы калоніі, атрымалі па карабіну, які страляў на цэлую мілю. астатнія каланісты ўзялі кожны па вінтоўцы. ,

Вось як былі размеркаваны пасты.

Сайрус Сміт і Герберт павінны былі засесці ў Каміне, адкуль можна было абстрэльваць бераг ля падножжа Гранітнага палаца.

Гедэону Спілету і Набу патрэбна было схавацца між скалаў каля вусця ракі Падзякі, усе масткі праз якую былі падняты, каб затрымаць высадку на левы бераг ракі.

Айртон і Пенкроф спусцілі на ваду пірогу і падрыхтаваліся заняць пасты на астраўку Выратавання.

Стрэлы з чатырох розных месцаў узбярэжжа павінны былі прымусіць піратаў падумаць, што востраў населены вялікай колькасцю людзей і надзейна абаронены.

Калі піраты высадзяцца на бераг астраўка, не зважаючы на абстрэл, Айртон і Пенкроф павінны неадкладна сесці ў пірогу і далучыцца да астатніх каланістаў; тое-ж самае яны павінны былі зрабіць, калі лодка з брыга накіруецца ў праліў, які аддзяляе астравок Выратавання ад берагу вострава Лінкольна, каб не быць адрэзанымі ад астатніх каланістаў.

Перш чым пайсці кожнаму на сваё месца, каланісты ў астатні раз паціснулі адзін аднаму рукі. Пенкроф павінен быў намагчы ўсе свае сілы, каб схаваць хваляванне, развітваючыся з Гербертам, якога ён любіў, як роднага сына. Затым усе разышліся.

Сайрус Сміт і Герберт першымі занялі свае месца. Праз дзве—тры хвіліны Гедэон Спілет і Наб таксама зніклі паміж скал, а яшчэ хвілін праз пяць Пенкроф і Айртон, шчасліва перабраўшыся цераз канал, высадзіліся на астраўку Выратавання і занялі вызначаныя для іх месцы за выступамі скал на ўсходнім яго беразе.

Туман быў яшчэ такі густы, што іх ніхто не заўважыў, ды і самі яны ледзь знайшлі дарогу.

Было часу шэсць з паловай гадзін раніцы.

Неўзабаве верхнія пласты туману пачалі знікаць. На працягу некалькіх хвілін яшчэ вялікія клоччы яго плылі над паверхняй вады. Потым усхадзіўся ветрык і зусім разагнаў туман.

«Шпаркі» паказаўся ва ўсёй сваёй прыгожасці, ён стаяў на двух якарах, носам на поўнач, павярнуўшыся да вострава сваім правым бортам. Як і казаў напярэдадні Сайрус Сміт, брыг знаходзіўся не больш за мілю з чвэрткай ад вострава.

Злавесны чорны сцяг лунаў на яго карме.

Інжынер праз бінокль убачыў, што гарматы правага борта брыга былі накіраваны на востраў. Відавочна, пушкары былі на спагатове, каб распачаць агонь па першаму загаду.

На палубе «Шпаркага» было чалавек трыццаць піратаў. Некаторыя з іх бяздзейна бадзяліся з месца на месца. Другія сядзелі на ба́ку. Двое, узабраўшыся на марс, пільна глядзелі на востраў у падзорныя трубы.

Як відаць, Боб Гарвей і яго спадарожнікі не ведалі што і думаць пра здарэнне ў мінулую ноч. Ці выратаваўся гэты поўголы чалавек, які спрабаваў узарваць парахавы пограб, які біўся, як тыгр, выстраліў у іх шэсць разоў з свайго рэвальвера, забіўшы аднаго і цяжка параніўшы двух іх таварышоў? Адкуль ён з'явіўся? Для чаго забраўся на борт брыга? Ці сапраўды ён думаў узарваць брыг, як пра гэта меркаваў Боб Гарвей? Усе гэтыя пытанні аставаліся без адказу. Але за тое ў піратаў цяпер не было сумненняў у тым, што невядомы востраў, ля берагоў якога яны кінулі якар быў заселены і што, відаць жыхары яго рыхтаваліся да абароны. Але, з другога боку, колькі піраты не ўглядаліся, яны не бачылі ні жывой душы. Узбярэжжа выглядала зусім пустэльным. Можа, жыхары вострава пасяліліся ў глыбіні яго?

Трэба думаць, што правадыр піратаў ставіў перад самім сабою гэтыя пытанні і, не атрымліваючы адказу на іх, вырашыў дзейнічаць вельмі асцярожна.

На працягу паўтара гадзін на брыгу нельга было заўважыць ніякіх падрыхтаванняў да высадкі. Ясна было, што Боб Гарвей не адважваецца. Праз лепшы бінокль нельга было згледзець каланістаў, якія стаіліся паміж скал. Вядома, пірату не прышло ў галаву западозрыць, што за кустамі зеляніны, на вышыні васьмідзесяці футаў над берагам, у тоўшчы вялізнай гладкай гранітнай сцяны знаходзіцца жылое памяшканне. Уся бачная з брыга частка вострава—ад мыса Кіпцюра да мыса Паўночнай Сківіцы—нічым не выяўляла прысутнасці чалавека на востраве.

Аднак, у восем гадзін раніцы на барту «Шпаркага» пачаўся нейкі рух. Заскрыпелі блокі, і на ваду спусцілася шлюпка. У яе селі сем чалавек, узброеных вінтоўкамі. Адзін з іх узяўся за руль, чацвёра за вёслы, а двое апошніх уселіся на насу, трымаючы вінтоўкі на спагатове. Як відаць, гэта былі толькі разведчыкі, а не дэсантны атрад.

Пенкроф і Айртон, стаіўшыся сярод скал, чакалі набліжэння лодкі на вінтовачны стрэл.

Шлюпка пасоўвалася да берагу надзвычай асцярожна. Вёслы апускаліся ў ваду з вялікімі інтэрваламі. Відаць было, як адзін з піратаў на насу ўвесь час вымярае глыбіню лотам, шукаючы фарватэр у вусці ракі Падзякі. Было зразумела што Боб Гарвей вырашыў падвесці брыг як мага бліжэй да берагу. Чалавек трыццаць піратаў, узабраўшыся на ванты, праводзілі позіркамі сваіх таварышоў.

За два кабельтавы ад берагу шлюпка спынілася. Рулявы яе ўстаў і агледзеў узбярэжжа, шукаючы бяспечнае месца для прычалу.

У гэтую хвіліну грымнулі два стрэлы, і лёгкі дымок узняўся над узбярэжнымі скаламі. Рулявы і пірат, які вымяраў глыбіню фарватэра, аднačасова павaліліся на дно шлюпкі. Кулі Айртона і Пенкрофа забілі іх на смерць.

Страшэнныя праклёны пачуліся на шлюпцы, якая заpаз-жа зноў рушыла ў дарогу. На месца забітага рулявога сеў адзін з грабцоў.

Амаль што ў той-жа момант у адказ грымнуў больш моцны стрэл, клуб дыму вырваўся з борта брыга, і ў скалу, пад якой хаваўся Айртон, ударыла ядро. Але стралок астаўся непашкоджаным.

Але, замест таго, каб вярнуцца на брыг, як гэтага можна было чакаць, шлюпка шпарка паплыла ўздоўж берагу астраўка, імкнучыся абыйсці яго з поўдня. Піраты граблі на ўсю сілу, каб хутчэй адплысці за мяжу дасягальнасці стрэлаў.

Іх намер быў зразумелы—яны хацелі ўвайсці ў праліў, каб стралкі на востраве, колькі-б іх там ні было, апынуліся між двух агнёў—з лодкі і з брыга.

На працягу наступнай чвэрткі гадзіны шлюпка беспера-шкодна пасоўвалася ўздоўж берагу астраўка ў поўнай цішыні.

Пенкроф і Айртон, якія добра зразумелі манеўр піратаў, што імкнуліся адрэзаць іх ад вострава, тым не менш не пакідалі сваіх месц, ці то не хочучы выявіць сябе і трапіць пад абстрэл суднавой артылерыі, ці то спадзяючыся, што журналіст і Наб, з аднаго боку, і інжынер з Гербертам, з другога, дапамогуць ім, распачаўшы абстрэл пірацкай шлюпкі.

Яшчэ праз пяць хвілін піраты былі ўжо на траверсе вусця ракі Падзякі, менш як за два кабельтавы ад яго. Праліў пачынаўся, і моцная плынь праліва гнала шлюпку з вялікай хуткасцю да вусця. Піратам даводзілася вельмі намагацца, каб трымацца на сярэдзіне праліва. У той момант, калі яны праходзілі паўз вусце, грымнулі яшчэ два стрэлы, і зноў два чалавекі ўпалі на дно лодкі. Наб і журналіст у сваю чаргу не далі промаху.

Зноў брыг стрэліў з гарматы ў кірунку дымкоў, але ядро зноў ударылася ў скалы, нікога не пашкодзіўшы.

У шлюпцы аставалася такім чынам жывымі толькі тры чалавекі. Падхопленая плынню, яна шпарка, як страла праімчалася паўз Сайруса Сміта і Герберта; баючыся, што на такой адлегласці цяжка будзе пацэліць, гэтыя апошнія прапусцілі піратаў, не страляючы. Абышоўшы наўночны бераг вострава, піраты налеглі на вёслы, як было сілы, і паімчаліся зноў да брыга.

Да гэтага часу каланістам шанцавала. Барацьба пачалася няўдала для праціўнікаў, якія налічвалі ў сваіх шэрагах ужо чатырох цяжка параненых, а можа, і забітых, у той час калі каланісты, не патраціўшы дарэмна ніводнага набою, былі цэлыя і здаровыя. Калі піраты не зменяць тактыку і будуць і надалей пасылаць на бераг па адной шлюпцы, дык каланісты могуць іх перабіць аднаго за адным.

Цяпер відавочнай была правільнасць стратэгічнага плана інжынера. Піраты павінны былі пераканацца, што яны маюць справу з шматлікім і добра ўзброеным праціўнікам.

Мінула не менш поўгадзіны, раней чым шлюпка адолела сустрэчную плынь і падышла да барта «Шпаркага». Разлютаваныя крыкі дайшліся з брыгу, калі на палубу былі падняты раненыя піраты. Брыг адказаў каланістам чатырма гарматнымі стрэламі, але ніводны з іх не папаў у цэль. Тады некалькі піратаў, ап'янелых ад злосці, рынуліся ў шлюпку і пачалі грабсці ў напрамку да астраўка, каб расправіцца з яго абаронцамі. У другой шлюпцы, спушчанай на ваду следам за першай, змясцілася восем чалавек, і яна накіравалася проста да вусця ракі Падзякі.

Становішча Пенкрофа і Айртона рабілася пагрозным: ім трэба было хутчэй вярнуцца на востраў. Аднак, яны чакалі, пакуль першая шлюпка не наблізілася на вінтовачны стрэл, і зноў трапна накіраванымі кулямі ўнеслі замяшанне ў рады ворагаў. Потым яны вышлі з-пад прыкрыцця і пад бязлітасным абстрэлам піратаў шчасліва перабеглі астравок, селі ў пірогу і праз пяць хвілін далучыліся да Сайруса Сміта і Герберта ў Каміне. Якраз у гэты момант першая шлюпка прычаліла да паўднёвага берагу астраўка.

Адначасова пачуліся стрэлы каля вусця ракі, да якога шпарка набліжалася другая шлюпка. Двое з тых, што сядзелі ў ёй, былі забіты на смерць трапнымі стрэламі Наба і Гедэона Спілета, а астатнія піраты, разгубіўшыся ад нечаканасці, кінулі кіраваць шлюпкай, і яна з усёй сілы наляцела на рыф. Тады шасцёра, што асталіся жывымі, піратаў, падняўшы зброю над галавою, каб яна не сапсавалася ў вадзе, выбраліся на правы бераг ракі і на ўвесь дух рынуліся наўцёкі ў напрамку мыса Знаходкі.

Становішча цяпер было такое: астравок быў заняты дванаццацю піратамі, паміж якіх, магчыма, былі і раненыя. У іх карыстанні была шлюпка.

На самім астраўку было шэсць піратаў, але яны пазбаўлены былі магчымасці перабрацца на левы бераг ракі Падзякі, бо іх шлюпка разбілася, а масткі цераз раку былі падняты.

— Справы нашы папраўляюцца, містэр Сміт!—усклікнуў Пенкроф, убягаючы ў Каміні.—Справы папраўляюцца! Хіба-ж няпраўда? Што вы пра гэта думаеце?

— Я думаю,—адказаў інжынер,—што піраты зараз зменяць тактыку. Яны не такія дурныя, каб дазволіць перастраляць сябе па адным і пры такіх нязручных для іх умовах.

— І ўсё-ж ім не ўдасца перабрацца цераз канал,—запярэчыў марак.—Карабіны містэра Спілета і Айртона б'юць на цэлую мілю,—яны заўсёды змогуць перашкодзіць пераправе.

— Гэта правільна,—сказаў Герберт,—але што можна зрабіць двума карабінамі, маючы супроць сябе ўсю суднавую артылерыю?

— Так, але брыг пакуль што яшчэ не ў праліве,—запярэчыў марак.

— А хто можа перашкодзіць яму ўвайсці ў яго?—запытаў інжынер.

— Боб Гарвей ніколі не адважыцца на гэта,—адказаў марак.—Занадта вялікая рызыка сесці на мель у часе адліву.

— Не, гэта зусім магчыма,—сказаў Айртон.—Яны могуць увайсці ў праліў у часе высокай вады, з тым, каб, калі будзе патрэбна, пакінуць яго, як толькі пачнецца адліў. А за гэты час піраты разгромяць з гармат наша прыкрыццё.

— Сто тысяч чарцей!—крыкнуў Пенкроф.—Мне здаецца, што нягоднікі сапраўды здымаюцца з якара!

— Ці не варта нам загадзя схавацца ў Гранітным палацы?—запытаў Герберт.

— Не, пачакаем яшчэ,—адказаў інжынер.

— А як-жа будзе з Набам і містэрам Спілетам?—запытаў Пенкроф.

— Яны здолеюць самі дабрацца сюды, калі прыдзе час. Айртон, падрыхтуйцеся! Цяпер настаў час пусціць у работу ваш карабін і карабін містэра Спілета!

Інжынер не памыляўся. «Шпаркі» падняў якар і збіраўся наблізіцца да вострава.

Прыліў павінен быў прадаўжацца яшчэ паўтары гадзіны, і за гэты час шмат што можна было зрабіць. Але, наперакор думцы Айртона, Пенкроф усё яшчэ не верыў, што брыг адважыцца ўвайсці ў праліў.

Тым часам піраты, якія захапілі астравок, усе сабраліся на беразе праліва. Узброеныя звычайнымі вінтоўкамі, яны зусім не маглі нарабіць шкоды каланістам, якія хаваліся ў Каміне і каля вусця ракі Падзякі. Яны не думалі, што каланісты маюць дальнебойныя карабіны, і таму лічылі сябе ў небяспецы і спакойна пахаджалі па беразе.

Але іх заблуджэнне павінна было хутка развеяцца. Карабіны Гедэона Спілета і Айртона загаварылі амаль адначасова і, як відаць, сказалі штосьці вельмі непрыемнае двум з піратаў, бо яны паваліліся, як падкошаныя.

Гэта было сігналам да панікі. Піраты, якія асталіся жывымі, не патурбаваўшыся нават падабраць сваіх раненых ці забітых таварышоў, кінуліся да лодкі і на ўсю сілу пачалі грабсці ў напрамку да брыга.

— На восем менш!—усклікнуў Пенкроф.—Слова гонару, можна падумаць, што містэр Спілет і Айртон згаварыліся між сабою!

— Глядзіце,—перапыніў Айртон,—брыг зняўся з якара!

Вецер дзьмуў з мора. Падняўшы фок і марсель, брыг павольна набліжаўся да зямлі.

У Каміне і каля вусця ракі за манеўрамі карабля сачылі, стрымліваючы дыханне. Становішча каланістаў павінна было страшэнна пагоршыцца, калі брыг падыйдзе да самага берагу. Што маглі яны выставіць супроць яго артылерыі? Як маглі яны перашкодзіць піратам высадзіцца на бераг?

Сайрус Сміт добра разумеў сваю бездапаможнасць і ламаў сабе галаву, не ведаючы, якое прыняць рашэнне. Схавацца ў Гранітным палацы і вытрымліваць аблогу на працягу тыдняў, а можа, нават і месяцаў, карыстаючыся тым, што запасы яды там вельмі вялікія? Вельмі добра. Але чым гэта скончыцца? Піраты зробяцца гаспадарамі вострава і раней ці пазней адолеюць зняволеных Гранітнага палаца.

Аднак, аставалася яшчэ адна надзея, што Боб Гарвей не адважыцца ўвайсці ў праліў і спыніцца за астраўком, за

поўмілі ад берагу. На гэтай адлегласці бамбардыроўка не была такой небяспечнай.

— Ніколі,—паўтараў Пенкроф,—ніколі Боб Гарвей, калі ён добры марак, не адважыцца ўвайсці ў праліў! Ён разумее, што варта наляцець шквалу—і брыг загіне! А без карабля яму канец!

Тым часам брыг наближаўся да астраўка Выратавання, трымаючы курс да яго паўднёвага берагу. Намеры Боба Гарвея былі зусім ясныя: па разведанаму шлюпкай фарватэру ён хацеў наблізіцца да Каміна і ядрамі адказаць на кулі, якія нарабілі такой згубы сярод яго каманды.

Вось ужо «Шпаркі» дасягнуў края астраўка; яшчэ некалькі хвілін—і ён лёгка абышоў яго і вышаў на траверс ракі Падзякі.

— Вось бандыт!—усклікнуў Пенкроф.—Няўжо ён адважыцца?

У гэтую хвіліну Гедэон Спілет і Наб далучыліся да іншых каланістаў. Яны вырашылі пакінуць сваё баявое месца каля вусця ракі.

Гэта быў разумны намер: у такую небяспечную хвіліну лепш было трымацца ўсім разам. Дождж куль спаткаў з'яўленне двух каланістаў на адкрытым месцы.

— Спілет, Наб!—крыкнуў інжынер, калі яны схаваліся ў Каміне.—Вы, спадзяюся, не ранены?

— Не, не,—адказаў журналіст, толькі крыху абдрапаны асколкамі гранаты.—Але глядзіце, гэты пракляты брыг уваходзіць у праліў!

— Так,—адказаў Пенкроф,—і не пазней як праз дзесяць хвілін ён зможа стаць на якар перад Гранітным палацам!

— Ці прыдумалі вы які-небудзь план, Сайрус?—запытаў Гедэон Спілет.

— Я думаю, трэба прабрацца ў Гранітны палац, пакуль не позна і пакуль піраты не паспелі нас заўважыць.

— І я так думаю,—сказаў журналіст,—але, апынуўшыся там замкнутым...

— Мы паспеем абмеркаваць становішча і прыняць рашэнне,—перапыніў яго інжынер.—Значыць у Гранітны палац, сябры мае!

— І хутчэй!—дадаў журналіст.

— Ці не дазволіце вы мне і Айртону астацца тут, містэр Сміт?—запытаў марак.

— Навошта гэта, Пенкроф?—адказаў інжынер.—Не варта нам драбіць сілы!

Нельга было траціць ні секунды. Каланісты вышлі з Каміна і, карыстаючыся натуральным прыкрыццем скал, па-

дышлі да самага падножжа Гранітнага палаца. Але грукат гарматнага стрэлу абвясціў ім, што «Шпаркі» падышоў ужо зусім блізка.

Кінуцца ў кош пад'ёмнай машыны, падняцца да дзвярэй жылля, кінуцца ў вялікую залу, дзе Топ і Юп былі замкнены ад учарашняга дня,—усё гэта было справай літаральна адной хвіліны.

Каланісты ў час вярнуліся дадому: праз прасветы ў лісці, якое ўкрывала вокны Гранітнага палаца, яны ўбачылі, што «Шпаркі» ахутаны дымам ад стрэлаў, ужо ішоў праліваў. Сайрус Сміт прапанаваў нават адыйсці ад акон, бо брыг няспынна біў усляпную з усіх гармат пад несціханыя крыкі «ура» сваёй каманды.

Каланісты, аднак, спадзяваліся, што зялёная заслона, схавае ад вачэй піратаў Гранітны палац. Але раптам ядро прабіла знадворныя дзверы і ўляцела ў калідор.

— Пракляцце!—крыкнуў Пенкроф.—Яны выкрылі наш прытулак.

На брыгу, мусіць, не падазравалі, што захавана пад зялёнай заслонай, але на кожны выпадак Боб Гарвей вырашыў паслаць туды ядро. Калі ў сцяне праламалася вялізная дзірка, ён загадаў абстраляць яе з усіх гармат. Становішча каланістаў было страшэннае. Іх прытулак быў выкрыты, яны нічым не маглі абараніцца ад дажджу ядраў, якія трушчылі граніт на шчэбень.

Каланістам аставалася толькі пакінуць сваё жыллё, асуджанае на зруйнаванне, і схавацца ў верхняй пячоры.

Яны збіраліся ўжо зрабіць гэта, як раптам да іх дайшоўся гул выбуху і следам за гэтым роспачлівыя крыкі. Сайрус Сміт і яго таварышы рынуліся да акон. Яны ўбачылі як брыг, узняты з вялізнай сілай у паветра нейкім вадзяным смерчам, за дзесяць секунд затануў без следу разам з сваім злачынным экіпажам.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЕРТЫ

*Каланісты спускаюцца на бераг.—Айртон і Пенкроф займаюцца выратавальнымі работамі.—Гутарка ў часе снедання.—Разважанні Пенкрофа.—Агляд корпуса брыга.—Парахавы пограб не пашкоджан.—Новыя багацці.—Апошнія абломкі.—Асколак цыліндра.*

— Брыг узарваўся!—крыкнуў Герберт.

— Так, брыг узляцеў у паветра,—адказаў марак, кідаючыся разам з Гербертам і Набам да каша пад'ёмнай машыны.

— Але што здарылася?—запытаў Гедэон Спілет, ашаломлены неспадзяванай развязкай.

— О, гэтым разам мы пра ўсё даведаемся!—жвава адказаў інжынер.

— Пра што даведамся?..

— Пасля, пасля! Цяпер няма часу! Хадзем, Спілет! Хадзем, Айртон! Важна тое, што піраты больш не існуюць!

І, цягнучы за сабою Спілета і Айртона, інжынер далучыўся ўнізе Гранітнага палаца да Герберта, Наба і Пенкрофа.

Ад брыга не засталося і следу. Падкінуты ўгору дзіўным смерчам, ён перакуліўся на бок і ў такім становішчы патануў. Напэўна, у яго барту была вялізная прабоіна. Але, з той прычыны, што глыбіня праліва ў гэтым месцы не перавышала дваццаці футаў, можна было не сумнявацца, што ў час адліву корпус затануўшага судна выйдзе з-пад вады. На паверхні вады плавалі запасныя мачты, рэі, бочкі, скрынкі, клеткі з яшчэ жывымі птушкамі—усё, што было на палубе ў час выбуху. Але ні адна частка корпуса брыга яшчэ не ўсплыла на паверхню вады, так што прычына яго раптоўнай пагібелі паранейшаму была невядомай.

Аднак, праз некалькі часу абедзве мачты карабля, якія пераламаліся ад штуршка крыху вышэй асновы, усплылі з усімі сваімі парусамі, частка якіх была згорнута, а частка—разгорнута.

Каб перашкодзіць плыні аднесці ў мора гэта багацце, Айртон і Пенкроф хацелі скочыць у пірогу і адбуксіраваць абломкі крушэння да астраўка Выратавання або да Гранітнага палаца, але словы Гедэона Спілета спынілі іх.

— Вы забыліся пра шэсць піратаў, якія хаваюцца на правым беразе,—сказаў журналіст.

Усе зірнулі на мыс Знаходкі, куды ўцяклі бандыты, якія выратаваліся з разбітай аб скалы шлюпкі. Але іх не было відаць. Як відаць, пасля пагібелі брыга яны схаваліся ў глыбіні вострава.

— Мы зоймемся імі пасля,—сказаў інжынер.—Яны ў некаторай ступені небяспечныя, бо ўзброены, але ўсё-ж іх толькі шэсць чалавек супроць нас шасцёх. Шансы такім чынам роўныя. Таму зоймемся цяпер больш тэрміновымі справамі.

Айртон і Пенкроф селі ў пірогу і паплылі па абломкі крушэння.

Поўня настала толькі два дні таму назад, і прыліў з гэтай прычыны быў асабліва высокі. Трэба было чакаць не менш як гадзіну, пакуль корпус судна пакажацца з вады.

Айртон і Пенкроф паспелі перайняць мачты і, звязаўшы іх вяроўкамі, падаць канцы тым каланістам, якія стаялі на

беразе. Агульнымі намаганнямі тым удалося падцягнуць каштоўныя абломкі да берагу. Тым часам пірога падабрала ўсе, якія плавалі поверх вады, скрынкі, бачонкі, клеткі з птушкамі і інш. і даставіла ўсё гэта ў Камін.

Хутка адзін за адным пачалі ўсплываць трупы піратаў. Айртон пазнаў у адным з іх Боба Гарвея і, паказваючы на яго свайму спадарожніку, усхвалявана сказаў:

— Такім і я быў, Пенкроф.

— Але цяпер вы ўжо не такі, мой слаўны Айртон!— адказаў яму марак.

Дзіўна было, што наверх усплывала так мала трупаў. Каланісты налічылі ўсяго шэсць тапельцаў. Як відаць, захопленыя знянацку выбухам, піраты не паспелі адбегчыся і судна, якое нахілілася на бок, пахавала іх усіх. Адліў аднёс трупы ў адкрытае мора і гэтым вызваліў каланістаў ад непрыемнай неабходнасці капаць магілы на сваім востраве.

На працягу наступных двух гадзін Сайрус Сміт і яго таварышы былі заняты толькі перацягваннем у надзейнае месца мачт і парусаў, якія добра захаваліся. Каланісты так заняліся работай, што амаль не размаўлялі. Затое колькі кожны з іх паспеў перадумаць на працягу гэтых гадзін! У брыгу былі вялізныя багацці. Бо карабль—гэта цэлы плывучы маленькі свет, у якім ёсць усё неабходнае. Маёмасць калоніі павінна была цяпер папоўніцца тысяччу карысных рэчаў.

Чаму-б нам не падняць з дна і не адрамантаваць гэты брыг?—думаў Пенкроф.—Калі ў ім толькі адна прабоіна, яе няцяжка будзе зашыць. А карабль на трыста—чатыраста тон водазмяшчэння—сапраўдны велікан у параўнанні з нашым «Шчаслівым». На такім караблі можна паплысці куды хочаш! Трэба, каб містэр Сміт і Айртон агледзелі са мною корпус брыга. Справа вартая!

Сапраўды, калі брыг мог яшчэ трымацца на вадзе, дык магчымасць вярнуцца на радзіму значна павялічвалася. Але, для таго, каб атрымаць адказ на гэтае пытанне, патрэбна было запасціся цярплівасцю і пачакаць адліву; тады можна будзе аглядзець затануўшае судна.

Склаўшы ў недаступнае для вады месца свае набыткі, каланісты дазволілі сабе маленькі перапынак. Яны вельмі прагаладаліся. На шчасце, кухня была недалёка, і Наб шпарка згатаваў сытнае снеданне. Каб не траціць часу на хаду, каланісты паснедалі ў Каміне.

Натуральна, што ўвесь час размаўлялі пра нечаканую падзею, якая выратавала калонію.

— Сапраўды цудоўнае збавенне!—сказаў марак.—Трэба сказаць праўду, што гэтыя піраты ўзляцелі ў паветра вельмі своечасова. Каб яшчэ некалькі хвілін—і Гранітны палац быў-бы зруйнаваны дашчэнту!

— Як вы думаеце, Пенкроф,—запытаў журналіст,—што здарылася? Што выклікала гэты выбух?

— Няма нічога больш простага, містэр Спілет,—адказаў марак.—Пірацкі карабль—не ваеннае судна, дысцыпліна і парадак там слабыя. Ясна, што парахавы пограб у часе такой частай страляніны быў адкрыты. Ну, вось, досыць было, каб хто-небудзь спатыкнуўся і ўпаў, і ўся махіна ўзляцела ў паветра.

— Ведаеце, містэр Спілет,—сказаў Герберт,—мяне здзіўляе, што выбух нарабіў так мала разбурэнняў. Глядзіце, на вадзе амаль няма абломкаў, ды і грукат выбуху быў нямоцны... Я схільны думаць, што брыг не ўзарваўся, а проста затануў.

— І цябе гэта здзіўляе, дзіця маё?—запытаў інжынер.

— Вельмі.

— Мяне таксама, Герберт,—прызнаўся інжынер.—Але калі мы агледзім корпус брыга, мы, напэўна, знойдзем тлумачэнне гэтага дзіўнага здарэння.

— Што вы, містэр Сміт!—усклікнуў Пенкроф.—Няўжо вы думаеце, што брыг звычайна затануў, наткнуўшыся на рыф?

— А чаму і не?—запытаў Наб.—Бо ў праліве ёсць рыфы.

— Ну, Наб, ты, мусіць, нічога не бачыў. За секунду да таго, як затануць, брыг падняўся на грэбень вялізнай хвалі і, нахіліўшыся бокам, апусціўся на дно. Калі-б ён звычайна наткнуўся на рыф, ён-бы ціха затануў, як кожнае іншае сумленнае судна.

— Дык-жа гэта якраз і несумленнае судна!—засмяяўся Наб.

— Пацярпі, Пенкроф, пацярпі!—сказаў інжынер.—Хутка мы пра ўсё даведаемся.

— Даведацца то мы даведаемся, але я і зараз гатовы пайсці некалькі разоў у заклад галавою, што ніякіх рыфаў у заліве няма,—адказаў марак.—Скажыце, містэр Сміт, як вы лічыце, ці няма тут праявы ўсё той-жа звышнатуральнай сілы?..

Інжынер не адказаў.

— Чым-бы ні было выклікана крушэнне,—сказаў журналіст,—выбухам або рыфам, але яно здарылася вельмі да часу. Ці згодны вы з гэтым, Пенкроф?

— Так, так...—адказаў марак.—Але не ў гэтым справа. Я пытаўся ў містэра Сміта, ці не бачыць ён і тут праявы той-жа сілы?

— Я пакуль што пачакаю з адказам,—сказаў інжынер.— Вось усё, што я магу вам зараз сказаць.

Словы інжынера зусім не задаволілі Пенкрофа. Ён цвёрда верыў у «выбух» і ні завошта не згаджаўся дапусціць, што ў праліве, дно якога выслана такім-жа дробным пяском, як і пляж у праліве, які ён не адзін раз пераходзіў у брод, ёсць невядомы для яго падводны рыф. «Урэшце,— разважаў ён,—у момант крушэння быў самы прыліў, гэта значыць узровень вады быў досыць высокі, каб даць магчымасць трохсоттоннаму брыгу прайсці, не закранаючы, над кожным каменем, які не выступае з вады ў часе адліва. З гэтага вынікае,—рабіў ён вывад,—што брыгу не было на што наткнуцца і ён звычайна ўзарваўся».

Трэба сказаць, што развагі марака былі вельмі лагічныя.

У пачатку другой гадзіны каланісты селі ў пірогу і рушылі да месца крушэння. Было вельмі прыкра, што не захаваліся шлюпкі з брыга. Адна з іх, як вядома, разбілася аб скалы ля вусця ракі Падзякі, другая затанула разам з брыгам і не ўсплыла наверх, як відаць, раздушаная яго корпусам.

У гэты час «Ш п а р к і» стаў патроху выступаць з вады. Брыг не ляжаў бокам, як гэта меркаваў Пенкроф. Страціўшы мачты ад удару, ён, апускаючыся ў ваду, перавярнуўся кілем угару.

Каланісты аб'ехалі судна наўкола і выявілі калі не прычыну жахлівай катастрофы, дык хоць характар атрыманых брыгам пашкоджанняў. На насу, з абодвух бакоў кіля, у сямі або васьмі футах пад ватэрлініяй абшыўка корпуса была разварочана, і на яе месцы чарнела вялізная прабоіна па дваццаць футаў у дыяметры. Гэтую прабоіну ніякім спосабам нельга было заладзіць. Сіла ўдару была такая вялікая, што ўсе скрэпы па ўсяму корпусу аслаблі і не трымаліся на месцы. Кіль быў літаральна вырваны з днішча судна і зламаўся ў некалькіх месцах.

— Тысяча чарцей!—усклікнуў Пенкроф.—Я думаю, што гэты карабль цяжка будзе адрамантаваць!

— Не толькі цяжка, але нават немагчыма,—заўважыў Айртон.

— Калі тут адбыўся ўзрыў,—сказаў Гедэон Спілет,—дык трэба сказаць, што ён меў дзіўныя вынікі: замест таго, каб узарвалася надводная частка судна, пацяр-

пела чамусьці толькі падводная частка... Не, гэтыя прабоіны хутчэй сведчаць, што карабль ударыўся аб рыф.

— У праліве няма ніякіх рыфаў,—упарта праказаў марак.—Я згодзен дапусціць усё, але толькі не сутычку з рыфам!

— Трэба прабрацца ўнутро брыга,—сказаў інжынер.— Можа, там мы знойдзем тлумачэнне прычын катастрофы.

Гэта было самае разумнае, не кажучы ўжо пра тое, што неабходна было агледзець маёмасць, якая знаходзілася на барту, і ратаваць яе.

Прабрацца ўнутр брыга было няцяжка. Вада прадаўжала адступаць, і ніжняя палуба, якая ператварылася ў верхнюю пасля таго, калі брыг перавярнуўся, была зусім даступнай для агляду. Баласт, які складаўся з цяжкіх чыгунных чушак, прабіў яе ў некалькіх месцах. Было чутна цурчанне вады, якая выцякала праз трэшчыны абшыўкі. Сайрус Сміт і яго таварышы, узяўшы тапары, узышлі на поўразбураную палубу. Яна была закідана скрынкамі з рознымі таварамі. Скрынкі прабылі ў вадзе вельмі нядоўга, і магчыма, што ўсё што было ў іх, не вельмі папсавалася.

Спярша каланісты заняліся перавозкай на бераг гэтых скрынак. Да пачатку прыліву аставалася яшчэ некалькі гадзін, і каланісты вырашылі скарыстаць гэты час. Айртон і Пенкроф устанавілі над прабоінай у барту талі і пры іх дапамозе перагрузілі ў пірогу скрынкі і бочкі. Пірога зараз-жа адвозіла груз на бераг і варочалася браць новы. Каланісты забіралі ўсё, што траплялася пад руку, бо не было часу на сартыроўку і адбор патрэбнага—гэтым яны меркавалі заняцца пасля.

Аднак, у часе работы яны з задавальненнем адзначылі, што груз брыга складаўся з самых рознастайных тавараў: прылад, зброі, тканіны, харчоў, хатніх рэчаў і т. д. Тут быў поўны асартымент усяго неабходнага для дальняга плавання па Палінезійскіх архіпелагах. Гэта было якраз тое, пра што маглі марыць каланісты!

Сайрус Сміт з найвялікшым здзіўленнем убачыў, што брыг унутры быў разбураны не менш, чым барты,—усё тут было ў такім хаатычным непарадку, нібы ў труме ўзарваўся снарад страшэннай сілы: перагародкі і падпоры былі разбітыя, груз параскіданы, абшыўка корпуса пакарэжана. Асабліва была пашкоджана насавая частка.

Каланісты лёгка прабраліся на карму, зрабіўшы праход паміж скрынак з грузам. Дарэчы, гэта было няцяжка, бо скрынкі былі невялікія, не большыя за паштовыя пасылкі.

Прабраўшыся на карму, каланісты перш-на-перш пачалі шукаць парахавы пограб. Сайрус Сміт не думаў, што ён быў

узарваны, і спадзяваўся знайсці ў ім некалькі бачонкаў пораху; порах звычайна прадаецца ў металічнай пасудзе, таму інжынер спадзяваўся, што ён не паспеў адсырэць ад знаходжання пад вадою.

Так яно і было. Знайшоўшы парахавы пограб, каланісты ўбачылі ў ім бачонкаў дваццаць пораху, абшытых унутры меддзю. З найвялікшай асцярожнасцю порах быў вынесены з круйт-камеры і перавезены на бераг. Пенкроф у часе гэтага на свае вочы пераканаўся, што не выбух парахавога пограба быў прычынай катастрофы з брыгам: якраз кармавая частка брыга, у якой змяшчалася круйт-камера, менш за ўсё была пашкоджана ў часе крушэння.

— Магчыма,—сказаў упарты марак,—але я ўсё-ж паўтараю, што брыг не мог наткнуцца на рыф у праліве, таму што там няма ніякіх рыфаў!

— Што-ж здарылася ў такім выпадку?—запытаў юнак.

— Не ведаю,—адказаў марак.—І містэр Сміт не ведае, і ніхто не ведае і ніколі не даведаецца!

Работы ўнутры патануўшага карабля цягнуліся некалькі гадзін, і неўзаметку зноў пачаўся прыліў. Давялося прыпыніць выратавальныя аперацыі. Між іншым, спяшаць не было чаго, бо корпус брыга глыбока асеў у пясок і трымаўся ў ім так моцна, што плынь не магла-б скрануць яго з месца.

З гэтай прычыны можна было спакойна адкласці работу да наступнага адліву. Аднак, самае судно было асуджана на знішчэнне: сыпучыя пяскі на дне праліва немінуча павінны былі засасаць яго, і патрэбна было як мага хутчэй зняць з яго ўсё, што было каштоўным для калоніі.

Было ўжо каля пяці гадзін вечара. Гэты дзень быў вельмі цяжкім для каланістаў. Яны паабедалі з вялікім апетытам і пасля абеда, не зважаючы на зморанасць, не маглі стрымаць цікаўнасці і пачалі аглядаць скрынкі, перавезеныя з «Ш п а р к а г а».

У большай частцы скрынак было гатовае адзенне і абутак у такой колькасці, якой-бы хапіла, каб адзець як след цэлую калонію.

— Вось мы і зрабіліся багацеямі!—усклікнуў Пенкроф.— Але што мы будзем рабіць з такімі вялізнымі запасамі?

Такімі-ж вясёлымі воклічамі і крыкамі «ура» марак сустракаў кожную бочку рома, кожную скрынку з табаком, агнястрэльнай або халоднай зброяй, землеробчымі прыладамі, слясарнымі, кавальскімі, цяслярскімі інструментамі, мяшкі са збожжам, якія не былі пашкоджаны ад нядоўгага знаходжання ў вадзе. Як усё гэта было патрэбна два гады таму назад! Але і цяпер, калі вынаходлівыя каланісты самі

забяспечылі сябе ўсім неабходным, гэтыя багацці не былі лішнімі.

Вялікія кладовыя Гранітнага палаца маглі змясціць усе гэтыя запасы. Але ў гэты дзень каланісты так змарыліся, што вырашылі адкласці пераноску новай маёмасці на наступны вечар. Дарэчы, нельга было забывацца на тое, што шасцёрка катаржнікаў з экіпажа «Шпаркага» знаходзілася на востраве. Гэта, бясспрэчна, былі вялікія нягоднікі, і трэба было прыняць нейкія меры перасцярогі. Хоць мост цераз раку і ўсе масткі былі падняты, але ніхто не сумняваўся, што вузенькая палоска вады не спыніць піратаў, калі яны захочуць перабрацца на гэты бераг. А даведзеныя да роспачы піраты былі больш небяспечныя, чым дзікія звяры.

Каланісты ўмовіліся пасля абмеркаваць пытанне пра ўзаемаадносіны з гэтымі людзьмі; але покуль што патрэбна было сцерагчы ад іх маёмасць, складзеную каля Каміна, і ўсю ноч па чарзе адзін з каланістаў стаяў на варце.

Аднак, у гэтую ноч катаржнікі не спрабавалі напасці на каланістаў. Юп і Топ, якіх паставілі пільнаваць каля Гранітнага палаца, вядома, зараз-жа папярэдзілі-б каланістаў пра іх з'яўленне паблізу.

Тры наступныя дні—19, 20 і 21 кастрычніка—былі скарыстаны на пераноску з затанулага карабля ўсяго, што хоць крыху мела каштоўнасць для калоніі.

У часе адліву каланісты разгружалі судна, якое ўсё больш асядала ў пясок, у часе прыліву перацягвалі здабытае дабро ў кладовыя Гранітнага палаца. Яны абадралі з корпуса судна значную частку яго меднай абшыўкі.

Раней чым пясок зусім усмактаў брыг, Айртон і Пенкроф, паспелі, ныраючы на дно праліва, дастаць якары, якарныя ланцугі, свінцовыя чушкі баласта і нават чатыры гарматы, якія яны паднялі з вады пры дапамозе герметычна закрытых пустых бочак. Усё гэта было ўдала дастаўлена на бераг і перавезена ў Гранітны палац.

Як бачым, арсенал Гранітнага палаца выгадаў ад крушэння брыга не менш, чым яго склады і кладовыя. Лятуценнік Пенкроф ужо будаваў у думках батарэю, якая ахоўвае ўваход у вусце ракі і праліў. З гэтымі чатырма гарматамі ён браў на сябе абавязак перагарадзіць доступ да вострава Лінкольна нават «самаму магутнаму ў свеце флоту»!

Калі ад брыга астаўся толькі ні навошта непрыгодны каркас, пачалася непагода, якая дакончыла справу зруй-

навання. Сайрус Сміт хацеў узарваць каркас, каб прыгнаць абломкі да берагу, але люты норд-ост узняў на моры вялікае хваляванне, і ў ноч з 23 на 24 кастрычніка хвалі канчаткова разбілі каркас брыга і самі выкінулі частку абломкаў на бераг.

Не гледзячы на самыя ўважлівыя пошукі, Сайрус Сміт не знайшоў ні ў капітанскай каюце, ні ў іншых памяшканнях ніякіх суднавых дакументаў. Піраты, мусіць, свядома знішчылі ўсе паперы, на якіх можна было даведацца пра нацыянальнасць і порт, да якога прыпісан «Ш п а р к і», а таксама і імя яго гаспадара або капітана. Аднак, па некаторых канструктыўных асаблівасцях брыга Айртон і Пенкроф пазналі, што гэтае судна пабудавана на англійскіх верфях.

Праз восем дзён пасля катастрофы—праўдзівей, пасля цудоўнага выратавання каланістаў—не асталося ніякіх слядоў брыга нават у часе адліву. Абломкі або аднесла ў мора, або іх узялі каланісты. А кладовыя Гранітнага палаца папоўніліся ўсім каштоўным, што было на брыгу.

Таямніца, якая ахутвала гісторыю пагібелі пірацкага карабля, мусіць, ніколі-б і не высветлілася, калі-б 30 лістапада Наб не наткнуўся на беразе на асколак цыліндра з тоўстага жалеза, на якім захаваліся сляды выбуху: абалонка цыліндра была пагнутая і скрамсана, як відаць, нейкім моцным выбуховым вешчаством.

Наб прынёс гэты кавалак жалеза свайму гаспадару, які працаваў у майстэрнях Каміна.

Інжынер уважліва агледзеў цыліндр і, павярнуўшыся да Пенкрофа, запытаў:

— Вы і цяпер пераконаны, што «Ш п а р к і» не наткнуўся на рыф, а загінуў ад іншай прычыны?

— Так, містэр Сміт,—адказаў марак.—Вы не горш за мяне ведаеце, што ў праліве няма ніякіх рыфаў.

— Ну, а калі ён наткнуўся на гэты кавалак жалеза?— запытаў інжынер, паказваючы мараку цыліндр.

— Што? На гэту дурацкую трубу?—недаверліва крыкнуў Пенкроф.

— Сябры мае,—сказаў інжынер,—ці памятаеце вы, што перад тым, як патануць, брыг узляцеў, нібы падняты вадзяным смерчам?

— Так, містэр Сміт,—адказаў за ўсіх Герберт.

— Вы хочаце ведаць, што выклікала гэты смерч? Вось гэта штуковіна!

І інжынер паказаў усім жалезны цыліндр.

— Вось гэта?—перапытаў Пенкроф, думаючы, што інжынер жартуе.

— Гэтая самая. Гэты цыліндр—усё, што асталося ад тарпеды!

— Тарпеды?!—крыкнулі ў адзін голас каланісты.

— А хто выпусціў гэтую тарпеду?—запытаў Пенкроф, які яшчэ не хацеў прызнаць сябе пераможаным.

— Не я! Гэта ўсё, што я магу вам адказаць,—сказаў Сайрус Сміт.—Але факт той, што тарпеда была выпушчана, і мы былі сведкамі яе вялікай разбуральнай сілы.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

*Сцвярджэнне Сайруса Сміта.—Грандыёзныя планы Пенкрофа.—Паветраная батарэя.—Піраты.—Хістанні Айртона.—Велікадушша інжынера.—Пенкроф неахвотна ўступае.*

Значыць, гібель брыга тлумачылася выбухам тарпеды пад вадою... Сайрус Сміт, якому ў часе вайны не адзін раз даводзілася выпрабоўваць гэтыя страшэнныя прылады руйнавання, не мог памыліцца ў сваім заключэнні. Вось чаму былі такія значныя разбурэнні ў корпусе судна, якія рабілі немагчымым яго рамонт. І нядзіўна: ці мог маленькі брыг «Шпаркі» вытрымаць дзеянне тарпеды, якая пускае на дно браняносны фрэгат таксама лёгка, як звычайную рыбацкую барку?

Так, тарпеда давала разгадку пагібелі брыга. Але нерастлумачальным было з'яўленне самой тарпеды.

— Сябры мае,—сказаў Сайрус Сміт,—мы не маем больш права сумнявацца ў тым, што на нашым востраве жыве нейкае таемнае стварэнне. Хто такі гэты дабрадзей, умяшанне якога столькі разоў ужо выратоўвала нас з бяды? Я не магу дагадацца... Але ад гэтага яго клопаты пра нас не робяцца менш каштоўнымі. Калі ўспомніць ўсё, што ён зрабіў для нас, не астанецца сумненняў у тым, што гэта чалавек, і да таго-ж чалавек незвычайна магутны. Гэты невядомы выратаваў мне жыццё, выцягнуўшы мяне з вады. Айртон павінен быць удзячны яму за запіску ў бутэльцы, якая папярэдзіла нас пра яго цяжкое становішча. Дадам, што скрыня, у якой былі ўсе неабходныя для нас рэчы, безумоўна была падкінута на бераг каля мыса Знаходкі ім самім; што агонь, які быў раскладзены на пласкагор'і Далёкага віду і які дапамог «Шчасліваму» вярнуцца на востраў, таксама яго работа; што шраціна, знойдзеная намі ў целе маладога пекары, вылецела з яго стрэльбы; што тарпеда, якая патапіла брыг, была выпушчана таксама ім! Адным словам, увесь той ланцуг загадкавых падзей, над растлумачэннем якіх мы гэтульки думалі, увесь ён—справа яго рук. Кім-бы ні быў гэты таямнічы чалавек—такім са-

мым пацярпеўшым крушэнне, як мы, ці выгнаннікам,—мы былі-б самыя няўдзячныя з людзей, каб не адчулі, што мы бязмежна абавязаны яму. Мы ва ўсім абавязаны яму, і я спадзяюся, што калі-небудзь мы здолеем адплаціць яму за ўсе яго добрыя справы!

— Вы кажаце праўду, дарагі Сайрус,—адказаў Гедэон Спілет.—Нельга больш сумнявацца, што на востраве хаваецца нейкі таямнічы чалавек, заступнік нашай калоніі. Я сказаў-бы, што магутнасць гэтага чалавека звышнатуральная, калі-б я верыў у звышнатуральнае... Можа, ён праз калодзеж пранікае ў Гранітны палац і такім чынам даведваецца пра нашы замыслы і планы?.. Але якім чынам? Бо калодзеж злучан толькі з морам?.. Дарэчы, успомнім, што ніхто, апрача яго, не мог выкінуць Топа з возера Гранта, калі на сабаку зрабіў напад ламантын; што ніхто іншы не мог забіць пад вадою гэтага ламантына; што Сайруса Сміта, які тануў за некалькі сот футаў ад берагу, мог выратаваць толькі ён, бо кожны іншы ў гэтых умовах быў-бы зусім бездапаможны! Як відаць, гэты чалавек дужэйшы нават за стыхіі!

— Так,—згадзіўся Сайрус Сміт,—ваша заўвага зусім правільная. У гэтага чалавека вялізныя магчымасці, якія могуць здацца звышнатуральнымі для тых, хто не ведае яго таямніцы. Калі-б мы знайшлі гэтага чалавека, я ўпэўнены, што таямніца сама па сабе высветлілася-б. Але вось у тым і заключаецца справа: ці павінны мы імкнуцца раскрыць таямніцу нашага велікадушнага заступніка ці нам варта цярпліва чакаць, пакуль ён сам не захоча зрабіць гэта? Як ваша думка?

— Мая думка,—адказаў Пенкроф,—што кім-бы ні быў гэты чалавек, ён добры хлопец і малайчына, і я яго вельмі паважаю!

— Я згодзен з вамі,—сказаў інжынер,—але гэта не адказ на маё пытанне.

— Мая думка, містэр Сміт,—сказаў Наб,—што мы можам шукаць гэтага чалавека бясконца доўга, але знойдзем яго толькі тады, калі ён сам таго захоча.

— Ты, здаецца, кажаш праўду, Наб!—сказаў Пенкроф.

— І я лічу, што Наб кажа праўду,—заўважыў Гедэон Спілет,—але гэта яшчэ не повад для таго, каб адмовіцца ад спробы знайсці нашага заступніка. Знойдзем мы яго, ці не—гэта не важна. Галоўнае тое, што мы зробім усё залежнае ад нас, каб аддзякаваць яму!

— А якая твая думка, мой хлопчык?—запытаў інжынер, паварачваючыся да Герберта.

— О,—усклікнуў юнак,—я не ведаю, чаго-б толькі я не

заддаў, каб мець магчымасць асабіста падзякаваць нашага заступніка!

— Ты праўду кажаш, Герберт,—сказаў Пенкроф,—чэснае слова, я, здаецца, згадзіўся-б афяраваць адно вока пры ўмове, каб другім убачыў гэтага чалавека!

— А вы, Айртон?—запытаў інжынер.

— Я, містэр Сміт, лічу, што не маю права выказваць сваю думку па гэтым пытанні. Вашае рашэнне будзе правільным рашэннем, і, калі вы захочаце, каб я прыняў удзел у пошуках, я гатовы за вамі пайсці куды хочаце!

— Дзякую вам, Айртон,—адказаў інжынер,—але мне хацелася-б атрымаць ад вас больш просты адказ.—Вы наш таварыш і роўнапраўны член калоніі. З той прычыны, што гутарка ідзе пра важную справу, вы павінны, таксама як і ўсе астатнія, прыняць удзел у яе абмеркаванні.

— Мне здаецца,—сказаў Айртон,—што мы павінны зрабіць усё, каб знайсці нашага невядомага заступніка. Можа, ён адзінокі і пакутуе. Можа, яму патрэбна маральная падтрымка, як яна была патрэбна мне.

— Вырашана!—сказаў Сайрус Сміт.—Мы адновім пошукі, як толькі гэта будзе магчыма. Мы пераверием увесь востраў ад верху да нізу, пранікнем у самыя патаемныя куткі яго, і няхай даруе нам невядомы заступнік нашу няскромнасць, выклікапую гарачым пачуццём удзячнасці!

На працягу наступных дзён каланісты займаліся толькі ўборкай збожжа. Перад тым як рушыць у экспедыцыю ў недаследаваныя часткі вострава, яны хацелі закончыць усю неадкладную работу. Пасля ўборкі збожжа яны заняліся гародамі. Увесь ураджай змясціўся ў вялізных кладовых Гранітнага палаца побач з запасамі сушанага мяса, тканінамі, прыладамі, інструментамі, зброяй, баявымі прыпасамі і т. д.

Што датычыць гармат, знятых з брыга, дык Пенкроф упрасіў каланістаў падняць іх у Гранітны палац і прабіць для іх спецыяльныя амбразуры між акон. З гэтай вышыні жэралы гармат трымалі пад сваім прыкрыццём усю бухту Саюза, ператвараючы яе ў своеасаблівы маленькі Гібралтар. Ніводзін карабль не мог цяпер наблізіцца з гэтага боку да вострава супроць волі каланістаў.

— Цяпер, калі наша батарэя ўстаноўлена,—сказаў Пенкроф інжынеру,—неабходна выпрабаваць, як яна дзейнічае!

— Вы ўпэўнены, што гэта карысна?—запытаў інжынер.

— Гэта не толькі карысна, але зусім неабходна! Без гэтага выпрабавання мы не будзем ведаць, на якую адлегласць б'юць нашы гарматы!

— Што-ж, паспрабуем...—згадзіўся інжынер.



27. Таямнічы востраў.

Выпрабаванне адбылося ў той-жа дзень у прысутнасці ўсёй калоніі, уключаючы Юпа і Топа. Радыус абстрэлу гарматамі перавышаў пяць міль.

— Ну, містэр Сміт,—усклікнуў Пенкроф па сканчэнні выпрабавання,—згадзіцеся, што наша батарэя працуе надзвычай добра! Ніводны ціхаакіянскі пірат не зможа цяпер высадзіцца на востраў без нашага дазволу!

— Паверце мне, Пенкроф,—адказаў інжынер,—самае лепшае, каб нам не давялося пускаць гэтую батарэю ў работу.

— Дарэчы,—успомніў раптам марак,—як мы зробім з тымі шасцю піратамі, якія знаходзяцца на нашым востраве? Няўжо мы дазволім ім сланяцца па нашых палях, лясах і далінах? Бо гэтыя піраты—сапраўдныя ягуары, і я лічу, што з імі трэба зрабіць, як з ягуарамі! Што вы пра гэта скажаце, Айртон?—запытаў марак, паварачваючыся да таварыша.

Айртон доўгі час не адказваў. Сайрус пашкадаваў, што Пенкроф, не падумаўшы, звярнуўся да яго з гэтым нетактоўным пытаннем. Таму ён вельмі ўсхваляваўся, пачуўшы, як Айртон адказаў дрыжачым голасам:

— Я занадта доўгі час быў такім самым ягуарам, Пенкроф... Я не маю права ў гэтым выпадку выказваць сваю думку!

І з гэтымі словамі ён павольна вышаў з пакоя.

— Які я асёл!—усклікнуў Пенкроф, зразумеўшы сваю памылку.—Небарака Айртон! Між тым ён таксама, як і ўсе мы, мае права вырашаць гэтае пытанне!

— Гэта правільна, Пенкроф, але тым не менш яго адмова ад удзелу ў абмеркаванні такога пытання выстаўляе яго з лепшага боку,—сказаў журналіст.—Мы не павінны ўспамінаць Айртону пра яго цёмнае мінулае!

— Слухаю, містэр Спілет!—адказаў марак.—Цяпер буду разумнейшы! Я лепш праглыну свой язык, чым яшчэ раз пакрыўджу Айртона! Але вернемся да пытання пра піратаў. Мне здаецца, што гэтыя нягоднікі не заслугоўваюць таго, каб іх шкадаваць. Трэба як мага хутчэй ачысціць ад іх востраў!

— Гэта ваша цвёрдае перакананне, Пенкроф?—запытаў інжынер.

— Так, я гэтак думаю.

— І вы лічыце патрэбным пачаць знішчэнне іх нават раней, чым яны самі пачнуць варожыя ўчынкі?

— А хіба таго, з чаго яны пачалі на востраве, мала?—здзіўлена запытаў Пенкроф.

— Але-ж магло здарыцца, што яны раскаяліся,—запярэчыў інжынер.

— Яны?.. Раскаяліся?..—Марак паціснуў плячамі..

— Пенкроф, успомні пра Айртона!—сказаў Герберт, паціскаючы руку марака.—Ён-жа зноў зрабіўся сумленным чалавекам!

Пенкроф зірнуў па чарзе на ўсіх сваіх таварышоў. Яму і ў галаву не прыходзіла, што яго прапанова будзе так спаткана. Сумленная, але прымітыўная натура марака не магла пагадзіцца з тым, што можна так цацкацца з піратамі, аднамыснікамі Боба Гарвея, катаржнікамі і забойцамі. Для Пенкрофа яны былі горшыя за дзікіх звяроў, і ён, не думаючы, знішчыў-бы іх усіх да аднаго.

— Дзіўна!—сказаў ён.—Усе супроць мяне! Хочаце вялікадушнічаць з гэтымі драпежнікамі? Калі ласка! Толькі, умова, каб пасля не каяцца!

— Ды нам-жа не пагражае ніякая небяспека, Пенкроф, калі мы будзем пільнымі,—сказаў Герберт.

— Хм!—заўважыў журналіст, які да гэтага часу не прымаў удзелу ў спрэчках.—Іх шасцёра, і яны добра ўзброены. Уяві сабе, Герберт, што кожны з іх заб'е з засады толькі аднаго з нас... Гэтага будзе досыць, каб яны зрабіліся гаспадарамі калоніі.

— Але-ж да гэтага часу яны не рабілі ніякіх замахаў на нас!—запярэчыў Герберт.—Магчыма, што яны і не думаюць нават пра гэта? Апрача таго, нас таксама шасцёра!

— Добра, добра!—сказаў Пенкроф, не пераконаны гэтымі словамі.—Няхай сабе гэтыя раскаяўшыя забойцы робяць сваю работку! Не будзем ім перашкаджаць!

— Кінь, Пенкроф, не прыкідвайся лютым!—сказаў Наб.—Нябось, калі-б адзін з гэтых піратаў быў на адлегласці ружэйнага стрэлу, ты і не падумаў-бы...

— Я застрэліў-бы яго, як шалёнага сабаку!—холадна праказаў марак.

— Пенкроф,—сказаў інжынер,—вы неаднойчы гаварылі, што ставіцеся з павагай да маіх парадаў. Ці згодны вы і гэтым разам даверыцца мне?

— Я зраблю так, як вы захочаце, містэр Сміт,—сказаў марак, непахісны ў сваім перакананні.

— У такім выпадку будзем чакаць, пакуль яны першымі нападуць на нас!

Так і вырашылі, хоць Пенкроф прадаўжаў запэўняць, што нічога добрага з гэтага не выйдзе. Каланісты ўмовіліся ўвесь час быць на варце, але не чапаць першымі піратаў. Бо востраў быў досыць вялікі і пладародны. Калі хоць цень прыстойнасці застаўся ў іх, гэтыя піраты добра маглі выправіцца. Самыя ўмовы іх новага жыцця павінны былі штурхнуць іх на гэты новы шлях. У кожным разе, хоць-бы

з меркаванняў гуманнасці, варта было пачакаць. Праўда, каланісты не адчувалі цяпер такой бяспекі ў вандраваннях. Раней, выходзячы за межы свайго жылля, яны павінны былі асцерагацца толькі сустрэч з дзікімі звярамі. А цяпер за кожным дрэвам іх мог падпільноўваць пірат, бадай, больш небяспечны, чым які драпежны звер. Гэта было непрыемна для каланістаў, але яны з гэтым пагаджаліся, насуперакор намаганням Пенкрофа.

Хто казаў праўду—Пенкроф ці астатнія каланісты,—на гэтае пытанне дасць адказ будучыня.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

*План экспедыцыі.—Айртон вярочаецца ў караль.—Наседванне порта Шара.—Думка Пенкрофа.—Тэлеграма.—Айртон не адказвае.—Ад'езд.—Чаму не працаваў тэлеграф.—Стрэл.*

Цяпер галоўным клопатам каланістаў была падрыхтоўка экспедыцыі для даследавання ўсяго вострава. Гэтая экспедыцыя мела за мэту, па-першае, знайсці таямнічага заступніка калоніі і, па-другое, высветліць, што сталася з піратамі, дзе яны пасяліліся, як жывуць і наколькі яны небяспечны для калоніі.

Сайрусу Сміту хацелася неадкладна рушыць у дарогу, але экспедыцыя павінна была працягнуцца некалькі дзён, і не шкодзіла ўзяць з сабою, апрача дастатковага запасу яды, яшчэ і прылады для пабудовы шалаша або палаткі ў час прыпынкаў. Для гэтага патрэбна было ўзяць з сабою калёсы. На няшчасце, адзін з анаграў пабіў нагу і часова выбыў з строю. Каланісты вырашылі таму пачакаць пакуль ён паправіцца і адклалі ад'езд на 20 лістапада. Лістапад у паўднёвых шыротах адпаведны маю паўночнага паўшар'я. Вясна была ў самым разгары. Сонца падыходзіла да тропіка Казерога, і дні рабіліся ўсё большымі. Інакш кажучы, час для экспедыцыі быў выбраны вельмі ўдала.

Дзевяць дзён, якія аставаліся да ад'езду, вырашана было скарыстаць для земляробчых работ на пласкагор'і Далёкага віду.

Айртону давялося вярнуцца ў караль, жывёлы якога патрабавалі догляду і клопатаў. Вырашана было, што ён прабудзе там два-тры дні і вернецца ў Гранітны палац толькі пасля таго, калі забяспечыць жывёлу кармамі на ўвесь час сваёй адсутнасці.

Перад тым як адпусціць Айртона, Сайрус Сміт запытаў, ці не хоча ён, каб хто-небудзь з каланістаў пайшоў з ім

у караль, бо востраў стаў менш бяспечным з таго часу, калі на яго высадзіліся піраты.

Айртон адхіліў гэтую прапанову, сказаўшы, што ён не баіцца нікога і, калі будзе патрэбна, здолее абараніцца. Калі-ж у ваколіцах караля здарыцца якая-небудзь падзея, ён зараз-жа паведаміць пра гэта па тэлеграфу.

Ён паехаў досвіткам 9 лістапада на калёсах, у якія быў запрэжаны толькі адзін анагр. Праз дзве гадзіны пасля яго ад'езду каланісты атрымалі тэлеграму, у якой ён паведамляў, што ў каралі ўсё ў парадку.

Гэтыя два дні Сайрус Сміт скарыстаў для ажыццяўлення плана, які павінен быў засцерагчы Гранітны палац ад небяспекі раптоўнага нападу. Інжынер хацеў падняць узровень вады ў возеры Гранта на два-тры футы, каб зусім схаваць ад тых, хто яшчэ не ведаў, адтуліну былога вадасцёку. Для гэтага патрэбна было зрабіць плаціну каля вытокаў ракі Вадапада і Гліцэрынавага ручая.

Усе каланісты, апрача Айртона, занятага ў каралі, прынялі ўдзел у гэтай рабоце, і абодва вадасцёкі былі шпарка запруджаны сцэментаванымі абломкамі скал.

Узровень вады ў возеры Гранта падняўся на тры з лішкам футы, і цяпер ніхто-б не мог западозрыць, што пад вадою знаходзіцца адтуліна ранейшага вадасцёку.

Скончыўшы гэтую работу, Пенкроф, Гедэон Спілет і Герберт вырашылі схадзіць у порт Шара. Мараку вельмі хацелася даведацца, ці выкрылі катаржнікі маленькую бухту, у якой стаяў на якары «Шчаслівы».

— Я не даў-бы меднага граша за наш шлюп,—сказаў ён,—калі-б гэтыя джэнтльмены знайшлі яго!

10 лістапада, пасля абеда, марак і яго спадарожнікі вышлі з Гранітнага палаца. Усе яны ўзброіліся стрэльбамі, а Пенкроф зарадзіў сваю двума кулямі; гэта не абяцала нічога добрага людзям або жывёле, якія трапяцца яму па дарозе. Наб правёў сваіх таварышоў да берагу ракі і падняў за імі мост.

Маленькі атрад пайшоў проста па дарозе ў порт Шара. Не гледзячы на тое, што адлегласць гэтая не перавышала трох міль, каланісты патрацілі на хаду больш двух гадзін. Затое яны разам з гэтым агледзелі ўвесь прыдарожны лес. Піратаў тут не было; не ведаючы, якімі сродкамі абароны ўладае калонія яны, відаць, палічылі за лепшае пасяліцца ў больш далёкай і менш даступнай частцы вострава.

Прышоўшы ў порт Шара, Пенкроф на вялікае сваё задавалене ўбачыў, што «Шчаслівы» вельмі спакойна стаіць на прывязі ў вузкай бухтачцы. Урэшце, гэта было і не

дзіўна: порт Шара быў так схаваны з усіх бакоў скаламі, што ні з мора, ні з сухазем'я яго нельга было заўважыць.

— Выдатна!—усклікнуў Пенкроф.—Гэтыя нягоднікі яшчэ не прыходзілі сюды! Змеі заўсёды шукаюць дзе трава гусцейшая. Як відаць, мы знойдзем іх у лясах Далёкага захада!

— Я шчаслівы, што яны не знайшлі «Шчаслівага»,—заўважыў Герберт.—Яны, безумоўна, уцяклі-б на ім, і мы пазбавіліся-б магчымасці паехаць на востраў Табор...

— І лорд Гленарван ніколі не даведаўся-б, куды дзеўся Айртон,—дадаў журналіст.

— Але «Шчаслівы» на месцы, містэр Спілет, і заўсёды гатовы па першаму загаду рушыць у дарогу, таксама як і яго экіпаж!

—Я думаю, Пенкроф, што гэту паездку давядзецца адкласці, пакуль мы скончым даследаванне. Магчыма, што, калі нам удасца знайсці нашага заступніка, не будзе і патрэбы ехаць: не забывайцеся, што гэта ён напісаў запіску пра Айртона. Можа, ён ведае таксама, калі трэба чакаць звароту яхты лорда Гленарвана?

— Але хто-б гэта мог быць?—усклікнуў Пенкроф.— Крыўдна тое, што ён ведае ўсіх нас, а мы нават не можам здагадацца, хто ён! Калі ён такі самы пацярпеўшы крушэнне, як мы, дык чаму ён хаваецца ад нас? Здаецца, мы сумленныя людзі, і знаёмства з намі не павінна ні для кога здавацца благім! Ці добраахвотна ён пасяліўся тут? Ці можа ён пакінуць востраў, калі яму захочацца зрабіць гэта? Тут яшчэ ён ці паехаў ужо?..

Прадаўжаючы гаворку на гэтую тэму, Пенкроф, Гедэон Спілет і Герберт узышлі на борт «Шчаслівага» і сталі хадзіць па палубе. Раптам марак спыніўся і, нахіліўшыся над бітсам, на які быў накручан прычальны канат, усклікнуў:

— Вось гэта здорава!

— Што здарылася, Пенкроф?—запытаў журналіст.

— Гэты вузел завязаў не я!..

І Пенкроф паказаў на вузел, якім была завязана вяроўка на самым бітсе.

— Як гэта не вы?—запытаў журналіст.

— Не, магу даць клятву, што не я! Гэта плоская пятля, а я прывык рабіць двайную морскую!

— Вы памыляецеся, Пенкроф. Напэўна, вы забыліся, што завязалі адным вузлом.

— Не, гэтага не можа быць! Гэтыя вузлы вяжаш механічна, не думаючы! А ў такіх выпадках рукі не памыляюцца!

— Значыць, піраты ўсё-ж знайшлі «Шчаслівага»?— запытаў Герберт.

— Не ведаю,—адказаў марак,—але я магу паручыцца, што нехта надымаў якар «Шчаслівага» і потым зноў спусціў яго.

— Але каб гэта зрабілі піраты, дык яны ўцяклі-б на ім або ў крайнім выпадку аграбілі яго.

— Куды ім уцякаць? На востраў Табор?—запярэчыў Пенкроф.—Наўрад ці адважыліся-б яны зрабіць гэтае падарожжа на караблі з такім малым водазмяшчэннем...

— Апрача таго, для гэтага яны павінны былі-б ведаць дакладныя каардынаты вострава Табор, а я ў гэтым сумняваюся,—заўважыў журналіст.

— Як-бы там ні было,—сказаў марак,—але наш «Шчаслівы» некуды плаваў! Гэта таксама пэўна, як тое, што мяне завуць Пенкрофам!

Марак гаварыў так упэўнена, што Гедэон Спілет і Герберт адчулі сябе пераконанымі. Было зусім відавочна, што «Шчаслівы» стаіць не зусім на тым месцы, куды яго паставіў Пенкроф; потым не было сумненняў у тым, што якар выцягвалі. Навошта-б людзі сталі рабіць гэтыя два манеўры, калі-б судзенца не адчалівала ад берагу?

— Але як здарылася, што мы не заўважылі карабля паблізу вострава?—запытаў журналіст, які хацеў развеяць усе сумненні.

— Што-ж тут дзіўнага, містэр Спілет?—адказаў марак.— Падыміце якар ноччу, і, калі будзе дзьмуць добры вецер, дык за дзве гадзіны вы адыйдзеце так далёка, што не будзеце бачыць востраў!

— У такім разе апошняе пытанне,—сказаў Гедэон Спілет:—для якой мэты піраты карысталіся «Шчаслівым» і чаму яны паставілі яго зноў у порт?

— Палічым гэта за невытлумачальную падзею, містэр Спілет. Для нас важна тое, што «Шчаслівы» стаіць на месцы. На няшчасце, у нас няма ўпэўненасці, што ён і надалей будзе стаяць тут, калі піраты ўжо знайшлі яго...

— Слухай, Пенкроф,—сказаў Герберт,—а мы можам адвесці «Шчаслівага» ў вусце ракі, пад самыя вокны Гранітнага палаца. Там ён будзе ў бяспецы.

— І так і нятак,—адказаў марак.—Вусце ракі—нязручнае месца для стаянкі. Там вельмі неспакойнае мора.

— Тады выцягнем яго на пясок каля Каміна.

— Вось гэта, здаецца, правільная думка. Але з той прычыны, што мы ўсёроўна збіраемся надоўга пакінуць Гранітны

палац, я лічу лепшым пакінуць «Шчаслівага» тут на той час, які мы прабудзем у экспедыцыі.

— Ваша праўда, Пенкроф. Па крайняй меры за яго можна быць спакойным у час непагоды,—сказаў Гедэон Спілет.

— Але што калі піраты зноў з'явяцца сюды?—пачаў Герберт.

— Што-ж,—перапыніў яго Пенкроф,—не знайшоўшы «Шчаслівага» тут, яны пашукаюць яго ў раёне Гранітнага палаца і ў часе нашай адсутнасці заўладаюць ім. Я згодзен з містэрам Спілетам—пакінем шлюп на месцы.

— У такім разе ў дарогу!—сказаў журналіст.

Вярнуўшыся ў Гранітны палац, Пенкроф расказаў пра ўсё бачанае інжынеру. Той поўнасцю ўхваліў рашэнне пакінуць шлюп у парту Шара. Ён абяцаў мараку агледзець берагі ракі, каб высветліць, ці можна стварыць штучную гавань для «Шпаркага» непадалёк ад Гранітнага палаца.

Вечарам Сайрус паслаў Айртону тэлеграму з просьбай прывезці з караля пару авечак, патрэбных Набу. Аднак, Айртон, не пацвердзіў як звычайна атрымання тэлеграмы. Гэта здзівіла інжынера. Урэшце, Айртон мог пайсці ўжо з караля—мінула два дні ад часу яго ад'езду, і магчыма, што ён ужо варочаўся ў Гранітны палац.

Каланісты чакалі Айртона больш двух гадзін. Наб дзяжурыў каля маста, каб апусціць яго, як толькі пакажуцца калёсы, з запрэжаным анаграм. Але і ў дзесяць гадзін вечара Айртона яшчэ не было. Інжынер падышоў да апарата і паслаў другую тэлеграму з просьбай неадкладна адказаць.

Прыёмны апарат маўчаў.

Каланісты пачалі непакоіцца. Як відаць, з Айртонам нешта здарылася. Або яго больш не было ў каралі, або ён знаходзіўся там, але не меў волі нічога рабіць. Ці патрэбна было зараз-жа, цёмнай ноччу, рушыць у караль?

Пачаліся спрэчкі. Адны дамагаліся таго, каб пайсці зараз-жа, другія пярэчылі.

— Але,—сказаў Герберт,—магла як звычайна здарыцца аварыя на тэлеграфнай лініі.

— Магчыма, што ты кажаш праўду,—сказаў інжынер.— Пачакаем да заўтрага. Можа, сапраўды Айртон не атрымаў нашу тэлеграму.

Ноч прайшла ў напружаным чаканні.

На світанні Сайрус Сміт зноў паспрабаваў пратэлеграфаваць, але адказу не атрымаў.

— У караль!—сказаў ён тады.

— І ўзброімся як след,—дадаў Пенкроф.

Было вырашана, што Наб астанецца ў Гранітным палацы. Ён правёў сваіх таварышоў да масткоў цераз Гліцэрынавы ручай; потым, падняўшы масткі, ён схаваўся паміж дрэў чакаць звароту каланістаў ці Айртона. Калі з'явяцца піраты і паспрабуюць перабрацца на гэты бераг ручая, Наб павінен быў пастарацца адагнаць іх стралянінай, а калі гэта не дапаможа—шукаць ратунку ў Гранітным палацы. Такая інструкцыя была пакінута Набу.

У шэсць гадзін раніцы каланісты рушылі па дарозе ў караль. Топ бег наперадзе, не выказваючы ніякіх адзнак неспакою. Адначасова каланісты правяралі, ці спраўная тэлеграфная лінія. На працягу першых двух міль слупы былі цэлыя, ізалятары на месцы, і ніякага абрыву правадоў не заўважалася. Але, падышоўшы да слупа № 74, Герберт, які ішоў наперадзе, раптам спыніўся і крыкнуў:

— Провад абарваны!

Каланісты падбеглі да яго. Сапраўды, дарогу перагараджаў навалены тэлеграфны слуп. Цяпер зразумела было, чаму Айртон не адказваў на тэлеграмы з Гранітнага палаца.

— Думаю, што не вецер абярнуў слуп,—сказаў Пенкроф.

— Не,—адказаў Гедэон Спілет,—унізе яго выкапана яма. Слуп абярнулі наўмысля.

— І провад перакручаны. Глядзіце, вось дзе яго разламалі!

— У караль! У караль!—усклікнуў марак.

Каланісты былі цяпер за дзве з палавай мілі ад караля. Яны не ішлі, а беглі, упэўненыя ў тым, што ў каралі здарылася нейкае няшчасце. Цяпер палохала іх не тое, што Айртон не падаў весткі пра сябе,—прычына гэтага была ясная, а тое, што ён, паабяцаўшы вярнуцца напярэдадні ўвечары, не прыйшоў. Апрача таго, зразумела было, што піраты не сталі-б без патрэбы перарываць сувязь паміж каралем і Гранітным палацам. Каланісты шчыра прывязаліся да свайго новага таварыша, і іх надзвычай усхвалявала небяспека, якая яму пагражала.

Нарэшце, здалёку паказалася агарожа караля. Тут усё мела звычайны выгляд: агарожа была на месцы, вароты зачынены. Але, падышоўшы бліжэй, каланісты заўважылі, што з караля нічога не чутна—ні мэкання муфлонаў, ні голаса Айртона. Наўкола панавала цішыня.

— Увойдзем у двор,—сказаў Сайрус Сміт.

І інжынер смела накіраваўся да варот. Астатнія каланісты, прыставіўшы стрэльбы да пляча, падрыхтаваліся страляць ад самай малой трывогі.

Сайрус Сміт падняў засаўку варот і хацеў ужо штурхануць адну іх палавіну, як Топ раптам страшэнна забрахаў. З-за агарожы грымнуў стрэл і, Герберт, крыкнуўшы, паваліўся на зямлю.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

*Журналіст і Пенкроф у каралі.—Герберта пераносяць.—Роспач марака.—Лячэнне.—Піраты з'яўляюцца зноў.—Як папярэдзіць Наба?—Надзейны сабака.—Адказ Наба.*

Пачуўшы крык Герберта, Пенкроф кінуў стрэльбу і кінуўся да яго.

— Яны забілі яго!—закрычаў ён.—Мой небарака хлопчык! Яны забілі яго!..

Сайрус Сміт і Гедэон Спілет таксама падбеглі да Герберта. Журналіст, нахіліўшыся да юнака, упэўніўся, што яго сэрца яшчэ б'ецца.

— Герберт жывы!—сказаў Гедэон Спілет.—Яго трэба перанесці на пасцель...

— У Гранітны палац? Гэта немагчыма!—запярэчыў інжынер.

— Дык тады ў караль!—крыкнуў Пенкроф.

— Хвілінку пачакайце,—сказаў Сайрус Сміт.

І ён пабег улева, уздоўж агарожы караля. Раптам ён убачыў перад сабою аднаго з піратаў. Той цэліўся ў яго з стрэльбы. Інжынер шпарка нагнуўся, і куля сарвала ў яго капялюш з галавы. Не паспеў пірат нанава зарадзіць стрэльбу, як нож Сайруса Сміта, больш трапны, чым куля, ударыў яго ў сэрца.

Тым часам Гедэон Спілет і Пенкроф пералезлі цераз агарожу караля, адкінулі калодку, якая падпірала знутры вароты, і пераканаўшыся, што домік Айртона пусты, перанеслі туды небараку Герберта і паклалі яго на пасцель Айртона.

Праз некалькі хвілін Сайрус Сміт таксама вярнуўся да раненага.

Гора марака, калі ён убачыў нерухомага Герберта, нельга апісаць. Ён плакаў, ён праклінаў лёс, ён парываўся разбіць сабе галаву аб сцяну. Ні інжынеру, ні Гедэону Спілету не ўдавалася супакоіць яго. Урэшце, і самі яны былі ў поўнай роспачы.

Тым не менш усё неабходнае было зроблена для таго, каб вырваць з кіпцюроў смерці небараку хлопчыка. Гедэон Спілет за час свайго поўнага прыгод жыцця набыў пека

торыя веды па медыцыне. Яму і ў мінулым неаднойчы даводзілася аказваць дапамогу пры агнястрэльных і нажавых раненнях. Саўладаўшы з першым парывам гора, ён заняўся ранай Герберта.

З самага пачатку журналіста непрыемна здзівіла вяласць параненага. Ён вытлумачыў яе стратай крыві. Герберт быў незвычайна бледны. Сэрца яго білася ледзь чутна, так што шмат разоў журналісту здавалася, што біццё зусім спынілася. Ранены зусім знепрытомнеў. Гэта ўсё былі вельмі не прыемныя сімптомы.

Агаліўшы грудзі юнака, журналіст абмыў іх халоднай вадою. Паказалася адтуліна раны паміж трэцім і чацвёртым рабром. Павярнуўшы Герберта на спіну—ранены ад гэтага застагнаў, але так ціха, што, здавалася, гэта быў яго апошні ўздых,—Гедэон Спілет убачыў куды вышла куля.

— Якое шчасце!—усклікнуў ён.—Куля прайшла навылет, і нам не давядзецца даставаць яе!

— Але сэрца?—запытаў Сайрус Сміт.

— Сэрца не закранута, бо тады Герберт быў-бы ўжо не жывы.

— Не жывы!—закрычаў Пенкроф, роспачліва зарыдаўшы. Марак пачуў толькі апошняе слова.

— Не, Пенкроф, не!—адказаў інжынер.—Ён не памёр. Сэрца ў яго б'ецца! Ён нават толькі што застагнаў. Але дзеля самога Герберта супакойцеся! Нам патрэбна ўся наша мужнасць. Не прымушайце нас губляць яе, мої дружа!

Пенкроф змоўк. Толькі буйныя слёзы пацяклі па яго шчаках.

Тым часам Гедэон Спілет стараўся ўспомніць, як трэба рабіць у такіх выпадках. Ён не сумняваўся ў тым, што куля, увайшоўшы ў грудзі, вышла праз спіну. Але якія разбурэнні яна магла зрабіць на сваім шляху?—Якія важныя для жыцця органы закрануты? На гэтае пытанне ледзь мог-бы адказаць і прафесіянал-хірург, тым больш цяжка было іх вырашыць журналісту.

Але ён цвёрда ведаў адно: патрэбна папярэдзіць успаляльны працэс у пашкоджаных частках і няўхільны яго вынік—ліхаманку. Але як гэта зрабіць? Якія антысептычныя і змяншаючыя жар сродкі ўжыць?

Раней за ўсё патрэбна было прамыць абедзве адтуліны ранення. Гедэон Спілет баяўся прамыць рану цёплай вадою, каб не выклікаць новага кровецячэння, бо Герберт і без гэтага страціў ужо шмат крыві. Таму ён абмежаваўся тым, што прамыў рану халоднай крынічнай вадою.

Юнака паклалі на левы бок і пакінулі яго ляжаць так.

— Трэба глядзець, каб ён не варочаўся,—сказаў Гедэон Спілет.—Ён цяпер ляжыць найбольш выгодна для гаення ран на грудзях і спіне. Герберту патрэбен поўны спакой.

— І мы не зможам перавезці яго ў Гранітны палац?—запытаў Пенкроф.

— Не, Пенкроф,—адказаў журналіст.

— Пракляцце!—крыкнуў марак.

— Пенкроф!—з дакорам сказаў інжынер.

Гедэон Спілет пачаў уважліва аглядаць раны Герберта. Хлопчык быў такі бледны, што журналіста апанаваў страх.

— Сайрус,—сказаў ён,—я-ж не доктар... Я ў страшэннай нерашучасці... Вы павінны дапамагчы мне сваімі парадамі... сваім вопытам...

— Не хвалюйцеся, дарагі Спілет,—адказаў інжынер, націскаючы яму руку.—Абмяркуйце ўсё зусім спакойна. Няхай вамі ўладае толькі адна думка: як выратаваць Герберта!

Словы інжынера вярнулі Гедэону Спілету самаўладанне, якое ён страціў на момант ад усведамлення вялікай адказнасці. Ён сеў каля пасцелі раненага. Сайрус Сміт стаў побач. Пенкроф разарваў на сабе рубашку і пачаў шчыпаць корпію.

Гедэон Спілет расказаў пра свой план лячэння: перш за ўсё ён лічыў патрэбным спыніць кровецячэнне. Але перавязаць раны ён не адважыўся, каб не закрыць выхаду гною, які мог утварыцца ўнутры цела ад успалення закранутых куляй органаў.

Сайрус Сміт ухваліў гэты план; вырашана было не тампаніраваць ран, а даць ім самім гаіцца, не дапускаючы, каб яны забруджваліся. Цяпер трэба было толькі вырашыць, які сродак трэба ўжыць, каб папярэдзіць успаленне.

Такім сродкам, як думаў журналіст, магла быць толькі халодная вада. Вада змяншае жар і з'яўляецца вельмі добрым лякарствам, якое дактары ўжываюць пры такіх раненнях вельмі ахвотна, нават калі ёсць выбар іншых сродкаў. Такім чынам Гедэон Спілет, выбраўшы як лякарства халодную ваду, зрабіў тое самае, што зрабіў-бы на яго месцы лепшы хірург. Да абодвух ран небаракі Герберта зараз-жа былі прыкладзены халодныя кампрэсы, якія змянялі праз некалькі хвілін.

Марак расклаў агонь у ачагу. На шчасце, жыллё Айртона было забяспечана дастатковай колькасцю розных прыпасаў. Апрача таго, тут-жа хаваліся сабраныя самім юнаком лека-

выя травы. Журналіст зварыў з іх настой і ўліў яго ў рот раненаму. Той усё яшчэ быў у непрытомнасці.

Яго ўсяго пачало трэсці, быў моцны жар. На працягу канца дня і ўсёй ночы жыццё Герберта вісела на валаску, і кожную секунду гэты валасок пагражаў абарвацца.

На другі дзень, 12 лістапада, у Гедэона Спілета і яго таварышоў з'явілася надзея на шчаслівы канец хваробы. Герберт прачнуўся ад доўгага забыцця. Ён расплюшчыў вочы, пазнаў Сайруса Сміта, журналіста, Пенкрофа, нават сказаў ім два-тры слова. Ён не ведаў, што з ім здарылася. Яму расказалі ўсё, і Гедэон Спілет папрасіў яго зусім не варушыцца—жыццю яго нішто ўжо не пагражае, і раны хутка загояцца. Між іншым, Герберт амаль не пакутваў, бо халодная вада, якою няспынна змачвалі яго раны, перашкаджала ім успаліцца.

Пенкроф адчуў сябе так, нібы камень зваліўся з яго сэрца. Ён даглядаў Герберта так, як маці сваё хворае дзіця.

Герберт зноў заснуў, але гэтым разам больш спакойным сном.

— Скажыце мне, што вы не траціце надзеі, містэр Спілет!—пачаў упрашаць марак.—Скажыце, што вы выратуеце яго!

— Мы выратуем яго!—адказаў журналіст.—Герберт цяжка паранены. Магчыма, што куля нават прабіла лёгкае. Але ўсё-ж рана яго не смяротэльная.

Зусім натуральна, што за гэтыя дваццаць чатыры гадзіны, праведзеныя ў каралі, каланісты ні пра што, апрача хваробы Герберта, не думалі. Яны не падумалі нават пра асцярожнасць, не гледзячы на тое, што піраты маглі вярнуцца кожную хвіліну. Але цяпер, калі Герберту стала лепш, Сайрус Сміт і журналіст пачалі раіцца, што трэба зрабіць.

Перш за ўсё яны вырашылі агледзець караль. Патрэбна было высветліць, ці быў Айртон узяты ў палон сваімі былымі аднамыснікамі, ці засталі яны яго знянацку, або ён змагаўся з імі і быў забіты. Апошняе меркаванне, на жаль, было найбольш падобна на праўду.

Аднак, у каралі не аставалася ніякіх слядоў барацьбы. Вароты яго былі акуратна замкнуты, уся жывёла знаходзілася на месцы, нават уся маёмасць у доме была не кранутай. Зніклі толькі сам Айртон ды порах і кулі, якія ён узяў з сабою ў караль.

— Як відаць, няшчаснага заспелі знянацку, і з-за таго, што ён не захацеў здацца без супраціўлення, дык яны яго забілі...—сказаў Сайрус Сміт.

— Мусіць, вы праўду кажаце,—адказаў журналіст.—

Як відаць, піраты былі пасяліліся ў карралі, дзе ўсяго ёсць у збытку, і ўцяклі адсюль, як толькі ўбачылі нас. Бо зразумела, што ў гэты час Айртона—жывога ці мёртвага—тут не было.

— Давядзецца арганізаваць аблаву ў лесе і ачысціць востраў ад гэтых нягоднікаў!—сказаў інжынер.—Прадчуванні не падвялі Пенкрофа. Памятаеце, як ён дамагаўся, каб мы знішчылі піратаў? Каб мы паслухаліся яго тады, мы не ведалі-б цяпер гэтых няшчасцяў.

— Так,—адказаў журналіст.—Але затое цяпер мы маем права быць бязлітаснымі.

— Нам давядзецца пабыць некаторы час у каралі, пакуль можна будзе перавезці Герберта ў Гранітны палац.

— А як-жа Наб?—запытаў журналіст.

— Набу нішто не пагражае.

— А што калі ён, устрывожаны нашай доўгай адсутнасцю, адважыцца прыйсці сюды?

— Гэтага ніяк нельга дапусціць!—жвава сказаў інжынер.—Яго могуць забіць па дарозе.

— І ўсё-ж я думаю, што ён няйначай так і зробіць.

— Ах, калі-б працаваў тэлеграф! Мы папярэдзілі-б яго! На жаль, зараз гэта немагчыма... Але нельга-ж пакінуць тут Герберта пад апекай аднаго Пенкрофа!.. Давядзецца відаць, мне аднаму пайсці ў Гранітны палац.

— Не, не, Сайрус! Вы не маеце права рызыкаваць жыццём! Тут мала аднае адвагі! Нягоднікі, вядома, сочаць за каралем. Яны прытаіліся дзе-небудзь у гушчары лесу, і, калі вы пойдзеце адзін, мы будзем аплакваць дзве смерці замест аднае.

— Але-ж Наб ужо дваццаць чатыры гадзіны не мае ад нас вестак! Ён безумоўна захоча прыйсці!

— І з-за таго што ён не падазрае пра небяспеку, яго напэўна заб'юць,—дадаў журналіст.—Няўжо няма спосабу, каб папярэдзіць яго?

У гэты час, калі інжынер і журналіст думалі пра гэту задачу, Топ круціўся вакол іх, нібы спрабуючы сказаць: «А я навошта тут?»

— Топ!—усклікнуў інжынер.

Сабака кінулася да яго.

— Топ пойдзе!—сказаў Гедэон Спілет, які ўраз здагадаўся пра каштоўную ідэю інжынера.—Сабака шчасліва пройдзе там, дзе нам не ўдалося-б ступіць і кроку! Ён перадасць у Гранітны палац навіны з караля і прынясе нам у адказ другія весткі!

Гедэон Спілет вырваў з запісной кніжкі лісток і шпарка напісаў на ім такія радкі:

*„Герберт ранены. Айртон знік. Мы у каралі Будзь на варце. Ні ў якім разе не выходзь з Гранітнага палаца. Ці не заўважыў ты піратаў у яго ваколіцах? Пашлі адказ з Топам“.*

Запіска была ўкладзена ў нашыйнік Топа так, каб яна адразу трапіла на вочы Набу.

— Топ, мой любы Топ,—сказаў інжынер, гладзячы сабаку.—Бяжы да Наба, Топ! Да Наба! Хутчэй, Топ!

Топ радасна забрахаў у адзнаку таго, што зразумеў, чаго ад яго чакаюць.

Дарогу ў Гранітны палац ён добра ведаў.

Інжынер падышоў да варот караля, і расчыніўшы іх, некалькі разоў паўтарыў:

— Бяжы да Наба, да Наба, да Наба, Топ!—і выцягнуў руку ў напрамку Гранітнага палаца.

Топ выбег за вароты і зараз-жа знік.

— Ён дабяжыць!—сказаў журналіст.

— І прынясе нам адказ,—дадаў інжынер.

— Якая гадзіна?—запытаў Гедэон Спілет.

— Дзесяць гадзін.

— Праз гадзіну Топ можа вярнуцца. Трэба будзе пільнаваць яго.

Зачыніўшы вароты караля, інжынер і журналіст вярнуліся ў дом. Герберт моцна спаў. Пенкроф сядзеў каля яго, няспынна змяняючы кампрэсы. Бачачы, што хвораму ў гэты момант нічога не патрэбна Гедэон Спілет пачаў гатаваць яду, не перастаючы пазіраць адначасова за часткай агарожы, якая была блізка каля адгор'я гары, адкуль можна было чакаць нападу.

Каланісты з трывогай чакалі звароту Топа. Каля адзінаццаці гадзін, зарадзіўшы карабіны, Сайрус Сміт і Гедэон Спілет вышлі да варот караля, каб упусціць сабаку, як толькі ён забрэша. Яны не сумняваліся, што Наб адашле надзейнага пасланца з адказам як толькі атрымае запіску.

Праз дзесяць хвілін чакання раптам грымнуў стрэл і нібы ў адказ яму моцна забрахаў сабака. Інжынер расчыніў вароты і, заўважыўшы за сотню крокаў наперадзе яшчэ не рассеяны дымок, стрэліў у гэтым кірунку.

Амаль у тую-ж секунду ў вароты караля ўбег Топ. Гедэон Спілет шпарка захлопнуў за ім вароты.

— Топ, любы мой Топ!—усклікнуў інжынер, абнімаючы шыю разумнай жывёлы.

Да нашыйніка Топа была прывязана запіска, у якой буйным почыркам Наба было напісана:

*„Піратаў у ваколіцах Гранітнага палаца не было. Я не крануся з месца. Небарака Герберт! Небарака Айртон!"*

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

*Піраты сланяюцца вакол караля.—Часовы прытулак.—Прадаўжэнне лячэння Герберта.—Першая радасць Пенкрофа.—Успаміны.—Што абяцае будучыня.—Думкі Сайруса Сміта пра гэта.*

Значыць піраты ўвесь час бадзяліся вакол караля падпільноўваючы каланістаў, каб забіць іх па адным! Сапраўды, іншага выйсця, як абвясціць ім бязлітасную вайну, не было. Але перш за ўсё трэба было вельмі сцерагчыся, бо гэтыя нягоднікі мелі перад каланістамі тую перавагу, што яны бачылі сваіх ворагаў, астаючыся самі нябачнымі, і маглі напасці раптоўна ў кожную хвіліну, не баючыся неспадзяванага нападу каланістаў.

Таму Сайрус Сміт вырашыў пакуль што жыць у каралі, забяспечаным дастатковай колькасцю харчоў. Домік Айртона не быў разграблены піратамі, якіх напалохаў раптоўны прыход каланістаў.

Гедэон Спілет уяўляў сабе, што справа адбывалася так: шасцера піратаў, якія выратаваліся з разбітай шлюпкі, кінуліся бегчы ўздоўж паўднёвага берагу вострава. Абагнуўшы Змяіны паўвостраў і не адважваючыся паглыбіцца ў густы лес Далёкага захада, яны дайшлі да вусця ракі Вадапада. Ідучы далей, уздоўж правага берагу ракі, яны дабраліся да адгор'яў гары Франкліна. Тут шукаючы якога-небудзь натуральнага прытулку, яны, напэўна, наткнуліся на караль, якога ў той час ніхто не сцярог. Зварот Айртона павінен быў быць для іх непрыемнай нечаканасцю, але карыстаючыся тым, што іх было больш, яны напалі на яго і... далейшае было зусім зразумелым...

Цяпер пяць піратаў, якія асталіся жывымі, сланяліся па лесе. Яны былі добра ўзброены, і нельга было выйсці з караля, не рызыкуючы атрымаць кулю ў спіну з якой-небудзь засады.

— Трэба чакаць,—казаў Сайрус Сміт.—Нічога іншага нам не астаецца! Калі Герберт паправіцца, мы арганізуем аблаву па ўсіх правілах, і ні адзін з гэтых нягоднікаў не ўцячэ ад нас. Пакаранне піратаў будзе нашай мэтай разам з...

— Пошукамі таямнічага заступніка,—падхапіў журналіст.—Трэба сказаць праўду, дарагі Сайрус, што цяпер

самы ўдалы момант для ўмяшання гэтай таямнічай сілы, і мне вельмі шкада, што яна стаіць у баку ад усяго гэтага...

— Хто яго ведае...—адказаў інжынер.

— Што вы хочаце сказаць?—здзівіўся журналіст.

— Можа, мы не паспрабавалі яшчэ ўсіх пакут, і ў таямнічага заступніка яшчэ будзе выпадак умяшацца... Аднак-жа не варта пра гэта гаварыць. Самае важнае для нас—захаваць жыццё Герберту!

Гэта сапраўды было самым важным клопатам каланістаў. Мінула некалькі дзён, і стан здароўя юнака не пагоршыўся. Але пры такой хваробе кожны выгаданы дзень—лішні шанс на выратаванне. Кампрэсы з халоднай вады, якія змянялі няспынна, не далі ранам успаліцца. Журналіст нават думаў, што вада з крыніцы, у якой быў некаторы прымешак серы, садзейнічала рубцаванню раны. Жар у хворага пастунова змяншаўся. Трэба адзначыць, што яго трымалі на самай суровай дыеце, што не магло, вядома, садзейнічаць хуткаму аднаўленню сілы. Але затое поўны спакой быў для яго вельмі карысны.

Сайрус Сміт, Пенкроф і Гедэон Спілет ператварыліся ў найлепшых сядзелак. Уся бялізна, якая мелася ў доміку Айртона, была ператворана ў анучкі для кампрэсаў і корпію. Журналіст аддаваў вельмі шмат увагі ранам свайго пацыента, заўсёды напамінаючы таварышам, што вопытныя дактары надаюць правільнаму догляду за хворым не меншае значэнне, чым удала зробленай аперацыі.

Праз дзесяць дзён, 22 лістапада, Герберту стала на многа лепш. Ён еў з апетытам. Шчокі яго паружавелі, і ён пачаў усміхацца сваім сядзелкам. Ён нават пачаў крыху размаўляць, не зважаючы на пратэсты Пенкрофа. Сумленны марак тады сам пачаў балбатаць несціхана, каб перашкодзіць гаварыць хвораму.

Герберт запытаў Пенкрофа, чаму Айртона няма ў каралі. Не хочучы засмучаць юнака, марак коратка адказаў, што Айртон пайшоў у Гранітны палац, каб ахоўваць яго разам з Набам.

— Бачыш, Герберт,—казаў ён,—мая была праўда, калі я раіў знішчыць гэтых піратаў, як дзікую звярыну! А містэр Сміт хацеў абыходзіцца з імі па-добраму!.. А я ім па-добраму ўсадзіў-бы кожнаму кулю, ды яшчэ самага большага калібра.

— Піраты не з'яўляліся больш?—запытаў хворы.

— Не, мой хлопчык. Але мы знойдзем іх, калі ты паправішся. Тады пабачым, ці адважацца гэтыя баязліўцы, якія страляюць з-за вугла, змагацца з намі тварам у твар!

— Але-ж я яшчэ вельмі слабы, Пенкроф...

— Сілы вернуцца да цябе патроху. Што такое рана ў грудзях навылёт? Глупства і толькі. Я не аднойчы быў ранены больш сур'ёзна, але зараз, бачыш здаровы як бык!

Не гледзячы на тое, што стан здароўя Герберта палепшаўся і жыццю яго не пагражала больш небяспека, Сайрус Сміт пакутваў ад нейкіх нядобрых прадчуванняў. Яму здавалася, што калонія, якой да гэтага часу ва ўсім шанцавала, уступіла ў паласу няўдач.

На працягу двух з паловай год каланісты жылі без бяды. Востраў быў багаты на мінеральную сыравіну, расліны, жывёлу. Майстэрства і веды людзей прымушалі гэтыя дары прыроды служыць патрэбам калоніі. І калонія квітнела. Апрача таго, у цяжкія хвіліны да каланістаў на дапамогу заўсёды з'яўлялася нейкая таямнічая сіла... Але ўсё гэта не магло цягнуцца вечна! Карацей кажучы, Сайрус Сміт прышоў да вываду, што фартуна навярнулася спіною да каланістаў.

Няўдачы пачаліся з таго часу, як пірацкі карабль з'явіўся ў водах вострава Лінкольна; хоць умяшанне заступніка калоніі і знішчыла яго, але пяць піратаў выраталіся ад катастрофы. Па гэты дзень яны былі жывыя і вольныя, няўлоўныя і небяспечныя. Айртон, як відаць, загінуў ад рукі гэтых нягоднікаў. Герберт быў амаль смяртэльна ранены імі...

Ці былі падзеі апошніх дзён выпадковасцю або толькі пачаткам доўгіх няўдач? Сайруса Сміта мучыла гэтае пытанне. У шчырай гутарцы з журналістам ён выказаў жаль, што таямнічы заступнік вострава іменна ў гэтыя цяжкія хвіліны маўчыць. Няўжо ён пакінуў востраў? Або, можа, і ён памёр?

На гэтыя пытанні нельга было знайсці адказу. Але не трэба думаць, што Сайрус Сміт і Гедэон Спілет засмучкавалі. Гэта не так! Яны не баяліся назіраць праўдзе ў вочы, узважваючы і ацэньваючы свае шансы выйсці пераможцамі з суровай барацьбы з жыццём, смела назіралі ў будучыню і гатовыя былі адбіваць усе ўдары, якія рыхтаваў ім лёс.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

*Ад Наба няма вестак.— Прапановы марака і журналіста адхіляюцца.— Вылазка Гедэона Спілета...— Шматок тканіны. Гэрміновы ад'езд.— Прыбыццё на пласкагор'е Далёкага віду.*

Герберт хоць і павольна, але папраўляўся. Цяпер ужо можна было падумаць і пра зварот у Гранітны палац. Як ні

добра было абсталявана і забяспечана ўсім набходным жыллё Айртона, яно вядома, не магло зраўняцца з выгодамі памяшкання ў Гранітным палацы. Апрача таго, і ў сэнсе бяспекі Гранітны палац быў выключна надзейным месцам, у той час, калі тут няспынна даводзілася асцерагацца раптоўнага нападу піратаў. Таму каланісты нецярпліва чакалі дня, калі стан здароўя Герберта дазволіць яму вытрымаць пераезд.

Ад Наба не было ніякіх вестак, але гэта не трывожыла каланістаў. Храбры хлопец быў у поўнай бяспецы ў Гранітным палацы і ён не дазволіў-бы каб піраты засталі яго знянацку... Топ астаўся у карралі, бо інжынер не хацеў яшчэ раз рызыкнуць выпусціць адданую жывёліну пад кулі піратаў.

Не гледзячы на імкненне каланістаў як найхутчэй вярнуцца ў Гранітны палац, даводзілася пачакаць. Інжынера засмучала, што сілы каланістаў былі раздроблены: ён баяўся, каб гэта не скарысталі піраты. З таго часу, калі знік Айртон і захварэў Герберт, каланістаў было толькі чацвёра супроць пяці піратаў.

Аднойчы, калі Герберт заснуў, Пенкроф, журналіст і інжынер пачалі абмяркоўваць, якія меры патрэбна ўжыць супроць піратаў і як аднавіць сувязь з Набам.

— Сябры мае,—сказаў журналіст,—я цалкам згодзен з вамі, што ехаць зноў у Гранітны палац—гэта значыць падстаўляць сябе пад кулі, не маючы магчымасці адказаць гэтым-жа. Але ці не лічыце вы, што настаў час узяцца за сапраўднае паляванне на гэтых нягоднікаў?

— І я пра гэта думаў,—сказаў Пенкроф.—Не станем-жа мы баяцца куль! Калі містэр Сміт дазволіць, я гатовы хоць зараз рушыць у лес. Ці варта тут думаць! Чалавек варты чалавека!

— Але не пяці чалавек!—запярэчыў інжынер.

— Нас будзе двое супроць пяці,—сказаў журналіст.— Я пайду з Пенкрофам, і мы возьмем з сабою яшчэ Топа.

— Сябры мае!—сказаў Сайрус Сміт.—Давайце абмяркуем гэта спакойна. Калі-б катаржнікі жылі ў якім-небудзь пэўным месцы, калі-б гэтае месца мы загадзя ведалі, дык досыць было-б толькі рушыць туды, каб выгнаць іх з логава, тады такая экспедыцыя была-б апраўданай. Але, скажыце самі, чаму вы ведаеце, што не яны першыя ўбачаць вас і абстраляюць?

— Што-ж, містэр Сміт,—запярэчыў Пенкроф,—не кожная куля пападае ў цэль!

— Тая, што папала ў Герберта, не заблудзілася, Пен-

кроф!—адказаў інжынер. –Майце, дарэчы, на ўвазе, што калі вы ўдвух пойдзеце з караля, я астануся тут адзін. Ці можаце вы быць упэўнены, што піраты, прасачыўшы куды вы пайшлі, не скарыстаюць выпадак напасці на караль, ведаючы, што яго абараняе толькі адзін чалавек, а другі ляжыць ранены?

— Вы праўду кажаце, містэр Сміт,—сказаў Пенкроф. Гнеў камяком падступіў да яго горла.—Ваша праўда! Яны абавязкова паспрабуюць заўладаць каралем, забяспечаным усялякімі запасамі,—гэта мне добра вядома. А вы адзін не здолееце абараніць яго. Ах, калі-б мы былі ў Гранітным палацы!

— Калі-б мы былі ў Гранітным палацы,—сказаў інжынер,—становішча было-б зусім іншым: я не пабаяўся-б пакінуць Герберта пад наглядам аднаго з нас, а астатнія трое пайшлі-б шукаць у лесе. Але пакуль што мы яшчэ знаходзімся ў каралі і астанемся тут да таго часу, пакуль не зможам усе разам выйсці з яго!

Развагі Сайруса Сміта былі такімі пераканаўчымі, што таварышы не сталі пярэчыць.

— Калі-б Айртон быў з намі!—тужліва праказаў Гедэон Спілет.—Небарака! Нядоўга яму ўдалося пажыць па-людску!

— Калі толькі ён памёр...—нейкім дзіўным тонам сказаў Пенкроф.

— Хіба вы спадзяецеся, што гэтыя нягоднікі пашкадавалі яго?—запытаў Гедэон Спілет.

— Для іх выгадна было зрабіць гэта!

— Як, няўжо вы падазраеце, што Айртон забыўся, чым ён абавязан нам, і, спаткаўшыся са сваімі былымі супольнікамі...

— Я нічога не сцвярджаю,—панура пачаў марак,—але...

— Пенкроф,—сказаў Сайрус Сміт, кладучы руку на плячо марака,—гэта благая думка! Вы вельмі засмуціце мяне, калі будзеце падазраваць Айртона ў здрадзе! Я ручаюся, што ён да астатняга ўздыху быў адданы нам!

— І я!—жвава сказаў журналіст.

— Так... так... містэр Сміт,—збянтэжана адказаў Пенкроф.—Я прызнаюся, што гэта недастойнае падазрэнне і ў дадатак зусім не мае падставы. Але што зробіш. У мяне галава ідзе кругам. Гэта зняволенне ў каралі страшэнна ўплывае на мяне. Ніколі яшчэ я не адчуваў сябе такім усхваляваным, як зараз!

— Пацярпі, Пенкроф,—сказаў інжынер.—Скажыце, Спілет, праз які час на вашу думку, можна будзе перавезці Герберта ў Гранітны палац?

— Цяжка сказаць, Сайрус. Самая малая неасцярожнасць пры такім стане можа мець вельмі цяжкія вынікі. Але калі яго папраўка будзе праходзіць такім самым тэмпам, як цяпер, дык дзён праз восем можна будзе падумаць пра гэта.

Восем дзён! Такім чынам зварот у Гранітны палац адкладваўся да пачатку снежня.

Вясна была ўжо ў разгары. Надвор'е стаяла добрае. Дрэвы ўсе зазелянелі лісцем. Набліжаўся час сельскагаспадарчых работ. Выходзіць, што зараз-жа вярнуўшыся з вялікай экспедыцыі, патрэбна будзе пачаць веснавую сяўбу. Можна сабе ўявіць, як прыгнятала каланістаў вымушанае бяздзеянне ў каралі.

Раз ці два журналіст адважыўся выйсці за агарожу караля. Ён трымаў на спагатове зараджаны карабін. Топ быў з ім. Гэтыя рэкагнасцыроўкі скончыліся шчасліва— піратаў паблізу не было; як відаць, у гэты час яны знаходзіліся ў якой-небудзь іншай частцы вострава.

27 лістапада, у часе другой вылазкі, журналіст зайшоў у глыб лесу, прыкладна за чвэртку мілі ад караля. Топ раптоўна пачаў непакоіцца. Сабака бегаў то туды, то сюды, абнюхваў зямлю ў кустах і над дрэвамі, нібы нешта ўчуў.

Гедэон Спілет насцярогся. Прыставіўшы карабін да пляча, ён пільна аглядаўся па баках, адначасова ўсяляк заахвочваючы Топа прадаўжаць пошукі. Сабака, як відаць, не адчуваў прысутнасці чалавека, бо тады-б ён забрахаў, папярэджваючы пра небяспеку.

Так цягнулася каля пяці хвілін. Топ шнырыў па нябачнаму следу, журналіст асцярожна ішоў за ім. Раптам сабака кінуўся ў густы хмызняк і выбег адтуль, трымаючы ў зубах нейкі шматок. Гедэон Спілет паспяшыў вярнуцца ў караль і паказаць сваім таварышам гэтую парваную ў шматкі памятую і брудную анучку.

Каланісты ўбачылі, што гэта было кавалак валенай воўны зроблены імі самімі. Як відаць, гэта быў кавалак курткі Айртона.

— Бачыце, Пенкроф,—заўважыў Сайрус Сміт.—Няшчасны Айртон біўся з піратамі, якія цягнулі яго за сабою супроць волі. Ці ўжо вы і цяпер яшчэ сумняваецеся ў яго сумленнасці?

— Не, містэр Сміт,—адказаў марак,—я даўно ўжо раскаяўся, што адзін момант падазраваў яго. Але з гэтай знаходкі, на маю думку патрэбна зрабіць адзін вывад...

— Які?—запытаў журналіст.

— Што Айртон не быў забіты ў каралі. Яго жывога выцягнулі адсюль. Значыць, можа быць, што ён і цяпер жывы!

— Гэта праўда...—у задуменні сказаў інжынер.

І сапраўды, знаходка давала каланістам слабую надзею на тое, што іх таварыш не забіты. Яны меркавалі, што Айртон быў падстрэлен з-за вугла, як Герберт. Але калі піраты не забілі яго адразу і дзеля нечага пацягнулі ў другую частку вострава, дык былі ўсе падставы дапусціць, што ён жывы і цяпер знаходзіцца толькі ў палоне ў катаржнікаў. Чаму піраты не забілі яго? Магчыма, што яны пазналі ў ім былога супольніка і не гублялі надзеі ўгаварыць яго далучыцца да іх. Ён быў-бы вельмі карысны для іх, калі-б згадзіўся здрадзіць сваім сябрам.

Так ці інакш, але каланісты павесялелі і пачалі спадзявацца, што Айртон знойдзецца. Калі ён быў у палоне, можна было не сумнявацца, што ён прыкладзе ўсе сілы, каб вырвацца на волю і вярнуцца да сваіх сяброў.

— Але калі Айртону ўдасца ўцячы з палону,—сказаў журналіст,—ён рушыць проста ў Гранітны палац, бо ён не ведае пра замах на Герберта і таму не падазрае, што мы абложаны ў карралі.

— О, я быў-бы шчаслівы, калі-б ведаў, што ён знаходзіцца ў палацы!—усклікнуў Пенкроф.—Як-бы мне хацелася, каб і мы, урэшце, апынуліся там! Гэтыя нягоднікі бяссільныя зрабіць што-небудзь супроць Гранітнага палаца, але затое яны могуць разграбіць нашы засевы, птушнікі, гароды...

Пенкроф, у якім жыла душа земляроба, турбаваўся пра свае засевы. Але Герберт з яшчэ большай нецярплівасцю імкнуўся ў Гранітны палац. Ён разумеў, як гэта неабходна для каланістаў. З-за яго яны трацілі каштоўны час! Герберт пераконваў Гедэона Спілета, што вельмі добра вытрывае перавозку і што ў сваім светлым, сухім пакоі з відам на мора паправіцца хутчэй, чым тут.

Але журналіст, асцерагаючыся, каб раны Герберта, якія толькі што зарубцаваліся, не адкрыліся ў дарозе, чакаў і ўсё адкладваў ад'езд.

Аднак, здарылася падзея, якая прымусіла паслухацца просьбы юнака.

Гэта адбылося 29 лістапада. Было часу каля сямі гадзін раніцы.

Трое каланістаў спакойна размаўлялі ў пакоі Герберта, як раптам забрахаў Топ. Схапіўшы стрэльбы, якія заўсёды стаялі зараджанымі, каланісты выбеглі з доміка.

Топ усё яшчэ брахаў, але брэх яго выяўляў не трывогу ці злосць, а наадварот, у ім гучэлі радасныя ноткі.

— Хтосьці ідзе!

— Відавочна.

— Гэта не можа быць вораг!
— Можа, гэта Наб?
— Або Айртон?
Не паспелі каланісты выказаць гэтыя меркаванні, як нейкае цела перавалілася цераз агарожу і цяжка шлёпнулася аб зямлю.
Гэта быў Юп, сам містэр Юп. Топ спаткаў яго пасяброўску.
— Юп!—крыкнуў Пенкроф.
— Яго паслаў Наб!—сказаў інжынер.
Пенкроф падбег да аранг-утана. Сайрут Сміт не памыляўся: да шыі Юпа быў прывязаны мяшочак, у якім была наступная запіска, напісаная рукою Наба:

*„Пятніца, 6 г. раніцы*
*Піраты гаспадараць на пласкагор'і Далёкага віду. Наб“.*

Можна сабе ўявіць, як былі засмучаны каланісты гэтай весткай! Яны пераглянуліся і, не сказаўшы ні слова, вярнуліся ў домік. Нешта патрэбна было зрабіць. Гаспадаранне піратаў у іх жытніцы—гэта была катастрофа, гэта было няшчасце, гэта было разбурэнне!
Герберт ад першага позірку зразумеў па выгляду Сайруса Сміта, Гедэона Спілета і Пенкрофа, што здарылася штосьці благое. Заўважыўшы на дварэ Юпа, ён адразу зразумеў, што нейкае няшчасце навалілася на Гранітны палац.
— Містэр Сміт!—усклікнуў ён.—Я хочу паехаць адсюль! Я вельмі добра вытрываю дарогу! Я хочу паехаць!
Гедэон Спілет пільна паглядзеў на юнака і сказаў:
— У такім разе паедзем!
Каланісты абгаварылі, перавозіць Герберта на калёсах, на якіх Айртон прыехаў у караль, ці на насілках. Насілкі былі-б больш зручнымі, бо хворага менш-бы трэсла, але затое для іх патрэбна два насільшчыкі,—іначай кажучы, у выпадку раптоўнага нападу толькі адзін з каланістаў мог неадкладна даць адпор піратам. Гэта было небяспечна. Наадварот, калі перавозіць на калёсах, усе трое канвоіраў у кожны момант будуць гатовы да адпору. Можна было да таго-ж зрабіць Герберту выгодную пасцель на калёсах і ехаць павольна і асцярожна, каб унікнуць штуршкоў.
Так і вырашылі. Пенкроф запрог анагра ў калёсы, Сайрус Сміт і Гедэон Спілет вымасцілі на іх мяккую пасцель і паклалі на яе Герберта.
Надвор'е было надзвычай добрае. Яркія промені сонца пранікалі праз лісцё дрэў.

— Праверце зарады ў стрэльбах!—сказаў інжынер.

Усё было ў парадку. Інжынер і Пенкроф былі ўзброены кожны дубальтоўкай, Гедэон Спілет—карабінам.

— Ці зручна табе, Герберт?—запытаўся Сайрус Сміт.

— Не бойцеся, містэр Сміт,—адказаў Герберт,—я не памру дарогай.

Было відаць, што юнак вельмі пакутуе і напружвае ўсе свае сілы, каб не страціць прытомнасці.

У інжынера балюча сціснулася сэрца. Ён не адважваўся падаць сігнал да адпраўлення. Але застацца ў каралі—азначала давесці Герберта да роспачы, магчыма гібельнай для яго.

— У дарогу!—скамандаваў, нарэшце, інжынер.

Вароты караля расчыніліся. Топ і Юп, як'я ўмелі, калі гэта было патрэбна, трымацца ціха, рынуліся наперад. Пенкроф узяў за аброць анагра і вывеў з варот калёсы. Сайрус Сміт зноў захлопнуў вароты, і маленькі атрад павольна рушыў наперад.

Каланістам, уласна кажучы, не варта было варочацца у Гранітны палац прамою дарогаю, бо яе ведалі піраты, але па іншых дарогах на калёсах цяжка было-б прабірацца, таму давялося ехаць па гэтай.

Сайрус Сміт і Гедэон Спілет ішлі па абодва бакі калёс, гатовыя страляць ад першага падазронага шолаху. Аднак, цяжка было меркаваць, што піраты так хутка пойдуць з пласкагор'я Далёкага віду. Наб, мусіць, наслаў сваё паведамленне, як толькі яны з'явіліся на пласкагор'і, а запіска яго была намечана шасцю гадзінамі раніцы. Спрытны аранг-утан, які неаднойчы бываў у каралі, прабег адлеглласць на пяць міль за сорак пяць хвілін. Таму першыя тры-чатыры мілі не былі небяспечнымі, і нападу трэба было чакаць толькі каля самага Гранітнага палаца.

Гэтыя меркаванні тым не менш не ўсыпілі пільнасці каланістаў. Топ і Юп увесь час шнырылі па баках, забягалі наперад і варочаліся назад, але нічога падазронага не знайшлі.

Калёсы пасоўваліся наперад вельмі павольна. Ад'езд з караля адбыўся а палове восьмай раніцы. За гадзіну воз праехаў чатыры мілі з пяці без якіх колечы здарэнняў.

Дарога была такая-ж пустэльная, як і ўся гэтая частка лесу Якамары, ад ракі Падзякі да возера Гранта. Не было відаць ніякіх слядоў прысутнасці людзей.

Калёсы набліжаліся да пласкагор'я. Масток цераз Гліцэрынавы ручай павінен быў вось-вось паказацца з-за павароту дарогі. Сайрус Сміт не сумняваўся, што ён быў

спушчаны: або адзін з піратаў апусціў яго, каб лягчэй было перайсці астатнім, або, калі яны перабраліся цераз раку ў другім месцы, яны павінны былі спусціць яго, каб забяспечыць сабе адступленне. Нарэшце, праз прасвет у дрэвах паказалася мора. У гэтую хвіліну Пенкроф спыніў анагра і грымотным голасам крыкнуў:

— Ах, нягоднікі!

І ён паказаў рукою на воблака густога дыму, якое клубілася над пласкагор'ем Далёкага віду ў тым месцы, дзе былі млын, канюшня і птушнік каланістаў.

У дыме мітусіўся нейкі чалавек. Гэта быў Наб.

Каланісты гукнулі яго. Наб кінуўся ім насустрач.

— Піраты разбурылі ўсё, што маглі, і ўжо з поўгадзіны як пайшлі з пласкагор'я,—паведаміў ён.—Што з Гербертам?

Гедэон Спілет пасляшыў зноў да калёс.

Герберт быў непрытомны...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

*Герберт у Гранітным палацы.—Наб расказвае пра падзеі.—Сайрус Сміт аглядае пласкагор'е. Зруйнаванне і спустошэнне.—Каланісты не могуць змагацца з хваробай.—Лазовая кара.—Смяротэльныя ліхаманка.—Топ зноў брэша.*

Піраты, небяспека, якая пагражала Гранітнаму палацу, разбурэнні на пласкагор'і—усё ўмомант было забыта. Клопаты пра Герберта адсунулі на другі план усе астатнія справы. Ці не здарылася ў яго з-за перавозкі ўнутранага кровезліяння? Журналіст не мог адказаць на гэтае пытанне, але і ён сам і ўсе яго таварышы былі ў роспачы.

Герберта на руках перанеслі да падножжа Гранітнага палаца. Ён усё яшчэ быў непрытомны. Даручыўшы Набу адвезці калёсы на пласкагор'е Далёкага віду, Сайрус Сміт, Пенкроф і журналіст падняліся з Гербертам на пад'ёмнай машыне ў сваё жыллё і паклалі раненага ў пасцель.

Журналіст пачаў старацца, каб ён ачуняў. Нарэшце, Герберт расплюшчыў вочы. Убачыўшы сябе зноў у сваім пакоі, ён усміхнуўся. Але слабасць яго была такая вялікая, што ён здолеў толькі штосьці нячутна прашаптаць.

Гедэон Спілет агледзеў яго раны. Ён баяўся, ці не адкрыліся яны. Але выявілася, што з гэтым было ўсё добра. Дык чаму такая слабасць у хворага? Чаму Герберт раптоўна адчуў, што яму горш?

Юнак зноў непрытомнее. Яго трэсла. Пенкроф і журналіст не адыходзілі ад яго ложка.

Тым часам Сайрус Сміт расказаў Набу пра ўсе падзеі за апошнія дні, а той у сваю чаргу—пра здарэнні ў гэтую раніцу.

Толькі напярэдадні ноччу піраты ўпершыню паказаліся ў ваколіцы Гранітнага палаца, у лесе, на беразе Гліцарынавага ручая. Наб, які вартаваў каля птушніка, зараз-жа стрэліў у пірата, які збіраўся пераплыць цераз ручай. Але ў цемры ён не мог добра прыцэліцца і, відаць, не папаў. Так ці інакш, але гэты стрэл не прымусіў банду адступіць, і Набу давялося адыйсці ў Гранітны палац.

Тут ён падумаў пра тое, як перашкодзіць разграбленню пласкагор'я. Ён вырашыў спярша папярэдзіць інжынера. Але як? Ды і невядома было, у якім стане знаходзяцца абложаныя ў каралі. Бо мінула ўжо дзевятнаццаць дзён з таго часу, як Топ прынёс сумную вестку пра знікненне Айртона і раненні Герберта. Ці мала што магло здарыцца за гэтыя дні!

— Што рабіць, што рабіць?—пытаўся ў самога сябе небарака Наб. Асабіста яму нішто не пагражала. У Гранітным палацы ён быў у поўнай бяспецы. Але не было каму абараніць ад піратаў будынкі, засевы, птушнік.

Наб вырашыў тады папярэдзіць свайго гаспадара пра гэтыя справы і няхай ён сам вырашыць, як рабіць. Ён падумаў, што разумны аранг-утан здолее перадаць запіску не горш, чым Топ. Юп ведаў слова «караль», бо часта хадзіў туды з каланістамі.

Дзень яшчэ не пачаўся. Спрытны аранг-утан здолее прайсці незаўважаным, а калі піраты ўбачаць яго, дык палічаць за аднаго з насельнікаў лесу і прапусцяць.

Наб паспешна напісаў запіску і, прывязаўшы яе да шыі Юпа, падвёў малпу да дзвярэй Гранітнага палаца, спусціў на зямлю доўгую вяроўку і, паказваючы на паўночны захад, некалькі разоў паўтарыў:

— У караль, Юп! У караль, Юп! У караль!

Разумны аранг адразу зразумеў, чаго ад яго патрабавалі. Ён саслізнуў па вяроўцы ўніз і знік у цемры, не заўважаны піратамі.

— Ты зрабіў правільна, Наб,—сказаў Сайрус Сміт.—Але лепш-бы было, калі-б ты не папярэджваў нас...

Кажучы гэта, інжынер думаў пра Герберта, стан здароўя якога ад пераноскі рэзка пагоршыўся.

Наб прадаўжаў расказваць. Катаржнікі не адважваліся паказацца на беразе, пад вокнамі Гранітнага палаца,—яны, відаць, і па сёння не ведалі, якія сілы ёсць у каланістаў. Але затое пласкагор'е Далёкага віду ні чым не было аба-

ронена, і тут яны маглі даць волю свайму інстынкту разбурэння, робячы зло дзеля зла. Яны пайшлі з пласкагор'я ўсяго за поўгадзіны да звароту каланістаў. Наб паспяшаўся падняцца на пласкагор'е і, не зважаючы ўвагі на небяспеку, пачаў тушыць пажар на птушніку. Тут і засталі яго каланісты, якія вярнуліся ў караль.

Такія былі справы. Прысутнасць піратаў на востраве была бясконцай пагрозай для жыцця і дабрабыту каланістаў, якія яшчэ так нядаўна жылі тут шчасліва і бескляпотна.

Сайрус Сміт вырашыў пайсці з Набам на пласкагор'е, каб асабіста агледзець разбурэнні. Гедэон Спілет і Пенкроф асталіся даглядаць хворага.

Па дарозе да птушніка каланісты не знайшлі нідзе слядоў піратаў. Узніклі два меркаванні: або піраты пакінулі пласкагор'е, заўважыўшы набліжэнне калёс, або, скончыўшы сваю руйнуючую работу, яны паглыбіліся ў лес Якамары і нічога не ведаюць пра зварот каланістаў у Гранітны палац.

У першым выпадку піраты, хутчэй за ўсё, падаліся ў караль, якога ніхто не абараняў і які быў у збытку забяспечаны ўсімі неабходнымі прыпасамі.

У другім—яны вярнуліся ў свой прытулак, і там чакаюць зручнага моманту, каб зноў зрабіць напад.

Патрэбна было папярэдзіць іх і першымі нанесці ўдар Але стан здароўя Герберта не дазваляў і думаць зараз пра гэта.

Інжынер і Наб выйшлі на пласкагор'е. Выгляд яго быў сапраўды жахлівы: засевы былі вытаптаны, зерне з амаль што спелых каласоў асыпаліся на зямлю, гарод быў знішчаны. На шчасце, у Гранітным палацы былі захаваны запасы насення, якія дадуць магчымасць выправіць гэтую бяду.

Млын, птушнік, канюшня анаграў—усё было знішчана агнём. Некалькі напалоханых жывёлін бадзялася па пласкагор'і. Птушкі, якія схаваліся ад агню на берагах возера, цяпер патроху вярочаліся на звыклыя месцы... Тут усё патрэбна было будаваць нанава.

Толькі пабляднелы твар Сайруса Сміта выдаваў гнеў, які кіпеў у ім. Але ён не праказаў ні слова. Зірнуўшы ў астатні раз на зруйнаванае, яшчэ ўкрытае дымам пласкагор'е, ён вярнуўся ў Гранітны палац.

Наступныя дні былі самыя сумныя з усіх, якія пражылі каланісты на востраве.

Герберт штодзень усё слабеў. У яго пачыналася нейкая новая хвароба, і Гедэон Спілет адчуваў, што ён бяссільны змагацца з ёю.

Герберт увесь час знаходзіўся ў забыцці. Часамі ён брэдзіў. Адзінае лякарства, якое мелі каланісты, —гэта прахаладжальныя настойкі. Але яны не дапамагалі.

Тэмпература спярша была невялікая, але неўзабаве ў хворага пачаліся прыступы ліхаманкі, у час якіх жар быў вельмі моцны.

6 снежня ў Герберта быў асабліва моцны прыступ, які цягнуўся амаль пяць гадзін. Па яго целе прабягалі частыя сударгі, пульс стаў слабым, ледзь прыкметным. Хворы бясконца пакутваў ад смагі. Затым рэзка павысілася тэмпература. Твар пачырванеў, пульс стаў часцейшы. Пасля выступіў халодны пот, і жар пачаў спадаць.

Гедэон Спілет не сумняваўся цяпер, што ў Герберта пачалася перамежваючая ліхаманка; наступны прыступ ужо быў грозным небяспекай для жыцця юнака.

— Для таго каб папярэдзіць гэты прыступ, патрэбен які-небудзь сродак, які змяншае жару,—сказаў журналіст Сайрусу Сміту.

— Але які?—запытаў інжынер.—У нас-жа няма тут хініну.

— Але затое на беразе возера расце вярба. Кара гэтага дрэва часамі можа замяніць хінін.

— Паспрабуем зараз-жа даць яму вярбовай кары,— адказаў інжынер.

Сапраўды, кара з вярбы мае рад уласцівасцей, якія дазваляюць карыстацца ёю замест хініну. Праўда, дзеянне яе значна слабейшае, асабліва калі ёю карыстаюцца ў натуральным выглядзе, а не шляхам здабытага з яе алкалоіда—саліцылавай кіслаты.

Сайрус Сміт сам пайшоў да возера і абадраў кару з вярбы. Вярнуўшыся ў Гранітны палац, ён расцёр кару на парашок, і ў той-жа вечар гэтыя парашкі былі даны Герберту.

Ноч прайшла параўнаўча спакойна. Герберт, праўда, крыху брэдзіў, але некалькі гадзін праспаў спакойна. Прыступ не аднавіўся і на працягу наступнага дня.

Пенкроф пачаў ужо спадзявацца, што хвароба мінецца. Але Гедэон Спілет маўчаў. Ён ведаў, што прыступы могуць быць не штодзень, а пачынацца праз дзень. Таму ён у вялікай трывозе чакаў наступнага дня.

Апрача таго, ён заўважыў, што ў перамежках паміж прыступаў Герберт адчувае сябе аслаблым, галава ў яго

цяжкая і ён часта траціць прытомнасць. Нарэшце, яшчэ адзін сімптом, які выявіўся пад канец дня, надзвычай устрывожыў журналіста: у Герберта пачала балець печань.

Увечары ён стаў брэдзіць і тэмпература зноў павялічылася.

У Гедэона Спілета апусціліся рукі. Ён адвёў інжынера ў куток і сказаў яму:

— У Герберта балотная ліхаманка.

— Не можа быць, Спілет! Вы памыляецеся!—усклікнуў інжынер.—Балотная ліхаманка не пачынаецца так раптоўна! Ёю трэба заразіцца...

— Не, я не памыляюся,—адказаў журналіст.—Герберт, мусіць, заразіўся ёю на балоце Казаркі, і хвароба толькі цяпер праявілася. Першы прыступ ён вытрываў. Калі будзе другі прыступ і мы не здолеем папярэдзіць трэцяга, дык... ён загіне!

— Але-ж кара з вярбы?

— Гэта не дастаткова моцнае лякарства. Патрэбен хінін. Калі не папярэдзіць трэці прыступ злоякаснай балотнай ліхаманкі, смерць будзе немінучай!

Добра, што Пенкроф не чуў гэтай размовы. Ён звар'яцеў-бы!

Няцяжка ўявіць, як хваляваліся інжынер і журналіст увесь гэты дзень, 7 лістапада, і ў наступную ноч.

Прыблізна ў паўдні ў Герберта пачаўся другі прыступ. Стан здароўя хворага быў вельмі цяжкі. Юнак адчуваў, што ён канчаецца. Ён з мальбой працягваў рукі да Сайруса Сміта, да Гедэона Спілета, да Пенкрофа... Ён не хацеў паміраць...

Сцэна была такая цяжкая, што Пенкрофа давялося вывесці сілаю.

Прыступ цягнуўся пяць гадзін. Ясна было, што наступнага прыступу Герберт не вытрывае.

Ноч была жахлівая. Герберт брэдзіў так, што ў каланістаў сэрца абліваліся крывёю. Ён змагаўся ў брэдзе з піратамі, клікаў Айртона, клікаў таямнічага заступніка вострава, вобраз якога праследаваў яго. Потым ён зусім заціхаў, і жыццё, здавалася, вось-вось пакіне яго. Некалькі разоў Гедэон Спілет думаў, што небарака хлопчык ужо канае.

На другі дзень, 8 лістапада, Герберт быў страшэнна слабы. Яго пахаладзелыя рукі бязвольна ляжалі поверх коўдры. Каланісты прымусілі яго прыняць некалькі парашкоў з кары вярбы, але самі яны мала былі ўпэўнены, што яна дапаможа.

— Калі да заўтрашняй раніцы мы не знойдзем якога-небудзь паніжаючага жару моцнага сродку замест хініну,— сказаў журналіст,—Герберту канец!

Настала ноч, мусіць апошняя для гэтага слаўнага, разумнага і добрага хлопчыка, якога так любілі ўсе каланісты. А адзінага лякарства супроць страшэннай хваробы, якое магло змагацца з балотнай ліхаманкай і перамагчы яе, у каланістаў не было.

З надыходам ночы Герберт зноў пачаў брэдзіць. Ён ужо нікога не пазнаваў. Лоб яго палаў ад жару.

Ці пражыве ён да заўтрашняга дня, да трэцяга прыступу, які абавязкова павінен быў дакапаць яго? У яго не было больш сілы. Арганізм яго больш не праціўіўся хваробе. У прамежках паміж прыступамі брэду юнак ляжаў нерухома, і сэрца яго білася слаба-слаба.

Каля трох гадзін раніцы Герберт раптам дзіка крыкнуў. Здавалася, што ў яго пачалася ўжо агонія. Наб, які быў каля яго пасцелі, спалохана кінуўся ў суседні пакой, дзе праводзілі бяссонную ноч яго таварышы. Каланісты ўбеглі ў пакой. Пенкроф схапіў у абдымкі паміраючага хлопчыка і не даў яму саскочыць з пасцелі на падлогу. Гедэон Спілет узяў Герберта за руку і ледзьве намацаў надзвычай слабы пульс.

У пяць гадзін раніцы пачало світаць. Першыя прамені зары пранiклі ў пакой хворага. Дзень абяцаў быць ясным, гэты апошні дзень жыцця Герберта... Прамень сонца каўзануўся па сцяне і ўпаў на столік побач ложку паміраючага.

Раптам Пенкроф крыкнуў і паказаў рукою на нейкую рэч, якая ляжала на століку.

Гэта быў маленькі прадаўгаваты карабочак, на этыкетцы якога былі напісаны два словы:

„Сернакіслы хінін".

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

*Зноў нерастлумачальная загадка.—Герберт папраўляецца.—Недаследаваныя часткі вострава.—Падрыхтоўка да ад'езду.—Першы дзень.—Ноч.—Другі дзень.—Каўры.—Пара казуараў.—Чалавечыя сляды ў лесе Прыбыццё на мыс Рэптылій.*

Гедэон Спілет схапіў карабочак і паспешна адкрыў яго. У ім было каля двухсот нейкіх белых крупінак. Ён паспрабаваў на смак адну з іх. Моцная гаркота развеяла ўсе сумненні: гэта быў каштоўны прэпарат хініна, лепшы сродак супроць ліхаманкі!

Можна было, не думаючы доўга, даць гэтае лякарства

Герберту. Як яно тут апынулася, пра гэта можна будзе пагутарыць пасля!

— Кавы!—загадаў Гедэон Спілет.

Праз некалькі секунд Наб прынёс кубак цёплай кавы. Гедэон Спілет распусціў у ёй дзесяць грамаў хініна і прымусіў Герберта выпіць мікстуру.

Лякарства не спазнілася, бо трэці прыступ ліхаманкі яшчэ не пачаўся ў хворага. А цяпер ён і не мог пачацца!

Усе каланісты літаральна аджылі. Таямнічая сіла зноў дапамагла ім, і ў такую хвіліну, калі яны страцілі ўсялякую надзею на яе ўмяшанне!

Праз некалькі гадзін Герберт ужо спакойна спаў. Толькі тады каланісты ўспомнілі пра гэтае здарэнне. Клопаты невядомага заступніка былі відаць у гэтым выпадку больш адчувальна і відавочна, чым у ва ўсіх папярэдніх. Але якім чынам яму ўдалося ноччу пранікнуць у Гранітны палац.

Гэтага зусім нельга было растлумачыць.

На працягу ўсяго дня Герберту давалі праз кожныя тры гадзіны па парашку хініна.

Ужо на другі дзень у стане яго здароўя вызначыўся пералом да лепшага. Ён яшчэ, зразумела, не быў зусім здаровы—балотныя ліхаманкі даюць часта небяспечныя рэцыдывы, але цяпер каланісты не баяліся іх: яны мелі надзейнае лякарства, ды яшчэ дзесьці недалёка быў і той, хто даў ім гэтае лякарства. Гарачая хваля надзеі выцесніла з іх сэрцаў роспач.

І надзея гэтая не была падманута. Дзесяць дзён пагадзя, 20 лістапада, Герберт пачаў папраўляцца. Ён яшчэ быў слабы, яго трэба было трымаць на суровай дыеце, але ліхаманка больш не варочалася. Юнак без пярэчанняў падпарадкаваўся вызначанаму для яго Гедэонам Спілетам рэжыму. Ён так хацеў выздаравець!

Пенкроф адчуваў сябе як чалавек, якога выцягнулі з прорвы. Яго апаноўвалі прыступы буйнай весялосці, падобныя на прыпадкі вар'ята. Калі шчасліва мінуў час трэцяга прыступу, ён так сціснуў у абдымках Гедэона Спілета, што той ледзь не задыхнуўся. З гэтага часу ён называў журналіста няйначай, як «доктарам».

Але сапраўдны доктар усё яшчэ не быў знойдзены.

— Мы знойдзем яго!—паўтараў марак.

Хто-б ні быў гэты чалавек, але яму належала выпрабаваць сілу абдымкаў Пенкрофа.

Канчаўся снежань, а разам з ім і гэты жорсткі для каланістаў 1867 год. 1868 год пачаўся надзвычай добрым надвор'ем. Трапічная спёка аслаблялася свежымі брызамі Герберт ачуньваў.

Ложак яго быў пастаўлены каля акна, і ён на працягу гадзін удыхаў на поўныя грудзі аджыўнае салёнае і вільготнае марское паветра. У яго зноў з'явіўся апетыт, і Наб праяўляў вялікае майстэрства, гатуючы для яго лёгкую і спажыўную яду.

— Так і мне захочацца быць паміраючым!—жартаваў Пенкроф.

На працягу ўсяго гэтага часу піраты ні разу не з'яўляліся ў ваколіцах Гранітнага палаца. Пра Айртона не было ніякіх вестак, і калі Герберт і інжынер не трацілі яшчэ надзеі, што ён знойдзецца, дык астатнія каланісты былі цвёрда ўпэўнены, што ён пазаўсёды загінуў. Хутка павінна было высветліцца, чыя праўда, бо каланісты чакалі пакуль Герберт зусім паправіцца, каб наладзіць экспедыцыю ў недаследаваныя часткі вострава.

Аднак, да ад'езду заставалася не менш месяца, бо было вырашана, што ў экспедыцыі будуць удзельнічаць усе каланісты.

Герберту штодзень рабілася ўсё лепш. Успаленне печані зусім прайшло, і рана добра зарубцавалася.

На працягу студзеня каланісты шмат папрацавалі, каб навесці парадак на пласкагор'і Далёкага віду—яны збіралі рэшткі ўраджаю пшаніцы і гароднiны. Сайрус Сміт адклаў на некаторы час аднаўленне спаленых піратамі будынкаў—млына, птушніка, канюшні: у той час, калі каланісты будуць шукаць піратаў у лесе, тыя здолеюць зноў забрацца на пласкагор'е і зноў зруйнаваць будынкі. Лепш было адкласці гэтыя работы да таго часу, пакуль востраў не будзе ачышчаны ад нягоднікаў.

У другой палове студзеня Герберту было дазволена ўставаць з ложка спярша на час, а потым і на дзве-тры гадзіны ў дзень. Сілы шпарка варочаліся да яго. Яму споўнілася ўжо васемнаццаць год.

Неўзабаве Герберт пачаў папраўляцца вельмі хутка. Доктар Спілет усё яшчэ стрымліваў яго і прызначаў умеранасць ва ўсім, але ўвогуле юнак быў ужо зусім здаровы.

У канцы месяца Герберт пачаў выходзіць з дому. Некалькі купанняў у моры, прызначаных «доктарам» Спілетам, далі яму вялікую карысць. Нарэшце, Сайрус Сміт палічыў магчымым вызначыць дзень выступлення экспедыцыі: 15 лютага. Відныя месяцовыя ночы ў гэты час павінны былі значна аблягчыць начныя пошукі.

Пачалася падрыхтоўка да гэтай экспедыцыі, якая павінна была зацягнуцца на доўгі час, бо каланісты далі клятву, што не вернуцца дадому, пакуль не знішчаць піратаў і не выратуюць Айртона—калі ён яшчэ жывы!—на-першае, і

пакуль не знойдуць чалавека, якому яны былі так абавязаны, па-другое.

Каланісты схадзілі ўжо ўздоўж і ўпоперак усю ўсходнюю частку вострава—ад мыса Кіпцюра да мыса Сківіцы, берагі балота Казаркі, ваколіцы возера Гранта, частку лесу Якамары, якая знаходзілася паміж дарогай у караль і ракой Падзякі, усю гэтую раку і чырвоны ручай і, нарэшце, усходнія адгор'і гары Франкліна, на якіх быў пабудаваны караль.

Яны павярхоўна азнаёміліся таксама з берагамі бухты Вашынгтона—ад мыса Кіпцюра да мыса Рэптыліі, з балоцістым узлессем на заходнім узбярэжжы і з безліччу дзюн, якімі заканчвалася поўадкрытая пашча заліва Акулы.

Затое зусім недаследаванымі аставаліся вялікія прасторы лясоў, якія ўкрывалі Змяіны поўвостраў, увесь правы бераг ракі Падзякі, левы бераг ракі Вадапада і ўсе заходнія адгор'і гары Франкліна, дзе безумоўна было нямала пячор. Інакш кажучы, каланісты зусім не ведалі, што знаходзіцца на плошчы ў шмат тысяч гектараў.

Пасля доўгіх спрэчак каланісты вырашылі рушыць спярша праз лясы Далёкага захаду да мыса Рэптыліі. Працярэбліваючы сабе дарогу тапарамі, яны гэтым самым павінны былі вызначыць напрамак будучай дарогі, якая злучыць Гранітны палац з аканечнасцю Змяінага поўвострава, дарогі даўжынёю ў шаснаццаць-сямнаццаць міль.

У калёсах усё папраўлі. Анагры, якія добра адпачылі, былі ў добрым стане. На воз пагрузілі запасы харчоў, паходную палатку, пераносную пліту, розныя прылады, баявыя прыпасы і зброю, старанна і абдумана выбраную ў вельмі багатых арсеналах Гранітнага палаца.

Памятаючы, што давядзецца прабірацца праз лес, дзе за кожным дрэвам магла сядзець засада, інжынер вырашыў не драбіць сіл маленькага атрада і ўсім разам выступіць у паход. Ніхто не заставаўся ў Гранітным палацы. Нават Топ і Юп удзельнічалі ў экспедыцыі. Непрыступнае жыллё магло само сябе ахоўваць.

15 лютага досвіткам Сайрус Сміт ужыў усе неабходныя захады, каб засцерагчы Гранітны палац ад налёту піратаў у час адсутнасці каланістаў.

Вераўчаныя лесніцы, па якіх раней падымаліся ў палац, каланісты занеслі ў Камін і там закапалі глыбока ў пясок, а пад'ёмную машыну разабралі на часткі.

Пенкроф застаўся апошнім у Гранітным палацы, каб скласці ў кладовыя разабраны пад'ёмнік, і спусціўся пасля ўніз па вяроўцы, перакінутай цераз выступ скалы. Як толькі

іх дасягнуў зямлі, вяроўку сцягнулі ўніз, і апошні сролак зносін палаца з берагам быў знішчан.

Надвор'е было надзвычай добрае.

— Дзянёк будзе спякотны!—весела сказаў журналіст.

Воз чакаў каланістаў на ўзбярэжжы, каля Каміна. Журналіст патрабаваў, каб Герберт не злазіў з яго самае меншае ў першыя гадзіны падарожжа. Юнак мімаволі падпарадкаваўся прадпісанню суровага «доктара».

Наб узяў за абрэць анаграў. Саўрус Сміт, журналіст і марак пайшлі наперад, у суправаджэнні гарэзнага Топа. Юн прыняў запрашэнне Герберта і важна сеў побач яго ў калёсах.

Па сігналу Сайруса Сміта маленькі атрад рушыў у дарогу. Воз раней аб'ехаў луку ракі Падзякі, пераехаў цераз мост, які вёў на дарогу ў порт Шара, і каланісты паглыбіліся ў недаследаваны гушчар лясоў Далёкага захада.

На працягу першых двух міль дрэвы, якія раслі параўнаўча далёка адно ад аднаго, не перашкаджалі возу пасоўвацца наперад. Толькі зрэдку каланістам даводзілася перасякаць моцныя ліяны, якія перагараджалі сцежкі.

Густое лісце дрэў не прапускала прамых сонечных праменняў. У лесе было прахладна і свежа. Як зглёдзець вокам, ва ўсе бакі цягнуліся рады дэадраў, казуарынаў, банксій, драцэн, камедных дрэў і іншых ужо вядомых каланістам дрэў.

— Мне здаецца,—сказаў Сайрус Сміт,—што птушкі і звяры сталі больш палахлівымі, чым раней. Мусіць, у гэтым лесе нядаўна пабывалі піраты, якія напалохалі дзічыну. Магчыма, што мы напаткаем дзе-небудзь іх сляды.

Сапраўды, неўзабаве ў некаторых месцах каланісты заўважылі сляды нядаўняга прабывання цэлай групы людзей: у адным месцы—галінкі, абламаныя на дрэвах, як відаць для таго, каб адзначыць дарогу; там—попел ад агню; тут—адбіткі ног на глiністай вільготнай глебе.

Аднак, усе гэтыя сляды былі, як відаць, пакінуты мімаходам. Адзнак сталага лагеру каланісты пакуль што не знайшлі.

Інжынер забараніў сваім спадарожнікам паляўнічыць. Грукат стрэлаў мог папярэдзіць пра іх набліжэнне піратаў, якія бадзяліся дзесьці ў лесе. Апрача таго, паляўнічым давялося-б адыходзіць у бок ад калёс, а драбіць сілы маленькага атрада было-б сапраўдным вар'яцтвам.

У другой палове дня, прайшоўшы каля шасці міль, атрад апынуўся ў цяжка праходным гушчары. У некаторых месцах каланісты вымушаны былі валіць дрэвы, каб працерабіць

сабе дарогу. Надыходзячы да такіх зараснікаў, інжынер заўсёды засылаў наперад на разведку Топа і Юпа і ўваходзіў у гушчар толькі тады, калі разумныя разведчыкі варочаліся і па свойму паведамлялі, што каланісты могуць не баяцца ні чацвераногіх, ні двухногіх драпежнікаў.

У канцы гэтага першага дня каланісты прыпыніліся за дзевяць міль ад Гранітнага палаца, на беразе маленькага прытока ракі Падзякі, пра існаванне якога яны да гэтага часу і не падазравалі.

Добра павячэраўшы—дзень хадзьбы выклікаў у ва ўсіх незвычайны апетыт,—каланісты прынялі захады да таго, каб засцерагчы сябе ад раптоўнага начнога нападу.

Калі-б небяспека пагражала ім толькі з боку чацвераногіх драпежнікаў, напрыклад ягуараў, інжынер абмяжаваўся-б тым, што расклаў-бы вакол усяго лагера агні—гэтага было-б досыць. Але піратаў агні не спалохаюць, а толькі прывабяць. Таму Сайрус Сміт прапанаваў пераначаваць упоцемку.

Каланісты вырашылі спаць па чарзе, вартуючы па двое і змяняючыся праз кожныя дзве гадзіны. Герберта, не зважаючы на яго пратэсты, ад варты вызвалілі.

Ноч прайшла без здарэнняў. Толькі часам здалёку чулася рыканне ягуараў і крыклівая лаянка малпаў, якая вельмі злавала містэра Юпа. Раніцою 16 лютага маленькі атрад зноў рушыў у сваю цяжкую дарогу.

У гэты дзень калёсы прайшлі ледзь шэсць міль, бо амаль на кожным кроку дарогу даводзілася працярэбліваць або расчышчаць. Каланісты пакідалі магутныя шматгадовыя дрэвы, ссяканне якіх, дарэчы, заняло-б вельмі шмат часу і сілы, і ссякалі маладыя дрэўцы. З гэтай прычыны дарога ўвесь час пакручвалася зігзагамі.

Сям-там каланісты сустракалі сляды піратаў. Каля агню, які, здавалася толькі нядаўна патух, уся зямля была ў слядах. Старанна памераўшы гэтыя сляды, Гедэон Спілет убачыў, што іх пакінула пяць чалавек. Значыць, пяць піратаў спыняліся тут нядаўна. Але адпячатка следу шостага чалавека, які больш за ўсё цікавіў журналіста, знайсці не ўдалося.

— Айртон не быў з імі!—сказаў Герберт.

— Не,—пацвердзіў Пенкроф.—І гэта сцвярджае, што яны забілі няшчаснага!.. Але няўжо ў гэтых нягоднікаў няма сваёй нары, дзе можна было-б зацкаваць іх, як тыграў

— Думаю, што няма,—адказаў журналіст.—Ім зручна хавацца на востраве без сталага прыпынку да таго часу, пакуль яны не зробяцца яго адзінымі гаспадарамі.

— Гаспадарамі вострава!..—крыкнуў марак.—Гаспадарамі вострава!—паўтарыў ён, сударгава сціскаючы кулак.— Ці ведаеце вы, містэр Сміт і містэр Спілет, якою куляю я зарадзіў сваю стрэльбу?

— Не, Пенкроф.

— Куляю, якая прабіла грудзі Герберта. Даю вам клятву, што яна не міне цэлі!

Але гэта справядлівая адплата не магла вярнуць да жыцця Айртона...

У гэты вечар каланісты прыпыніліся на-ноч за чатырнаццаць міль ад Гранітнага палаца. Сайрус Сміт лічыў, што ад гэтага месца да мыса Рэптыліі адлегласць не павінна перавышаць пяць міль.

Сапраўды, на другі дзень, вышаўшы на ўзлессе, інжынер убачыў непадалёк высунуты ў мора характэрным завітком мыс Рэптыліі.

Лес быў даследаваны ўвесь, але каланістам так і не ўдалася знайсці ні месца сталага прыпынку піратаў, ні таямнічага прытулку іх заступніка.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

*Даследаванне Змяінага паўвострава.—Лагер каля вусця ракі Вадапада.—За 600 крокаў ад карабля.—Разведка.—Зварот разведчыкаў.—Усе наперад!—Адчыненыя дзверы.—Святло ў акне.—Пры месячным святле.*

Дзень 18 лютага цалкам быў скарыстаны для даследавання лясістай часткі вострава, ад мыса Рэптыліі і да ракі Вадапада. Каланісты абшарылі ўсе закуткі гэтага лесу. Вялізныя дрэвы з пышным лісцём сведчылі пра надзвычайнае пладародзе глебы ў гэтых месцах. Можна было падумаць, што знаходзішся ў першабытным лесе Цэнтральнай Амерыкі або Азіі, перанесеным за ўмераны пояс. Збытак і багацце расліннасці наводзілі на думку, што вільготная глеба саграецца знутры падземным агнём, які дае для раслін дадатковую цеплыню, не ўласцівую для клімата ўмеранага пояса. Галоўнымі пародамі дрэў тут былі ўжо вядомыя каланістам каўры і эўкаліпты, прычым і адны і другія былі гіганцкіх памераў.

Але каланістаў мала цікавіла хараство лесу: востраў належаў цяпер не толькі ім адным. На ім свабодна бадзялася банда злачынцаў, згўсёды гатовая забіваць і руйнаваць.

Не гледзячы на старанныя пошукі, каланістам не ўдалося знайсці ніякіх слядоў піратаў на заходнім беразе. Тут не было ні надламаных галінак, ні адбіткаў ног, ні попелу ад патушанага агню.

— Гэта не здзіўляе мяне,—сказаў Сайрус Сміт.— Я ўяўляю сабе, што, высадзіўшыся каля мыса Знаходкі, пасля таго калі разбілася іх лодка, піраты пайшлі на поўдзень прыблізна па той дарозе, што і мы. Вось чаму мы ўвесь час натыкаліся на іх сляды. Але, пераканаўшыся, што ў гэтых месцах ім не знайсці зручнага прытулку, яны звярнулі ўбок і пайшлі на поўнач, пакуль не наткнуліся на караль...

— Магчыма, што і зараз яны вярнуліся туды,—заўважыў Пенкроф.

— Не думаю,—адказаў інжынер.—Яны разумеюць, што раней ці пазней, але мы прыдзем у караль. Для іх караль з'яўляецца толькі складам харчу, але зусім не месцам сталага жыхарства.

— Я цалкам згодзен з Сайрусам,—сказаў журналіст.—На маю думку, піраты знайшлі сабе прытулак дзе-небудзь на схіле гары Франкліна.

— У такім разе прапаную ісці проста ў караль,—адказаў марак.

— Трэба што найхутчэй пакончыць з імі, бо мы і так патрацілі чорт ведама колькі часу!

— Не, дружа мой,—адказаў інжынер.—Вы забываецеся, што мы паставілі перад сабою двайную задачу: з аднаго боку, пакараць злачынцаў і, з другога, аддаць даніну ўдзячнасці нашаму таямнічаму заступніку. А для гэтага нам трэба пераканацца, што ў лясах Далёкага захада няма ніякіх будынкаў.

— Вы разважаеце правільна, містэр Сміт,—прызнаўся марак,—але мне чамусьці здаецца, што мы не знойдзем гэтага джэнтльмена да таго часу, пакуль ён сам таго не захоча.

У гэты вечар калёсы спыніліся каля вусця ракі Ваданада. Размясціліся, як звычайна, і вырашылі вартаваць пазменна на працягу ўсёй ночы. Герберт, якому жыццё на свежым паветры што гадзіну вярочала ранейшае здароўе, зноў стаў дужым, загарэлым юнаком. Нават асцярожны «доктар» Спілет не пярэчыў супроць таго, каб ён злез з калёс і ішоў усю дарогу пешкам разам з усім атрадам.

На другі дзень, 19 лютага, каланісты развіталіся з берагам мора і накіраваліся ўверх па рацэ Ваданада, уздоўж яе левага берагу. Дарога тут ужо была крыху працярэблена ў час іх першага падарожжа. Яны знаходзіліся цяпер не больш як за шэсць міль ад гары Франкліна.

План інжынера быў такі: агледзець вельмі ўважліва усю даліну ракі, а потым рушыць у караль, і калі ён не захва-

чаны піратамі, дык спыніцца там на час стараннага даследавання абодвух схілаў гары Франкліна.

Гэты план быў аднагалосна прыняты ўсімі каланістамі. Атрад увайшоў у вузкую лагчыну, якая знаходзілася паміж двух самых большых адгор'яў гары Франкліна. Дрэвы, якія густа раслі на берагах ракі, радзелі разам з тым, як дарога ўзнімалася ў гару.

Топ і Юп беглі наперадзе экспедыцыі, выконваючы абавязкі разведчыкаў і спаборнічаючы ў чуцці і кемлівасці. Але нішто вакол не паказвала, што тут нядаўна прайшлі людзі.

Каля пяці гадзін вечара воз спыніўся за дрэвамі прыблізна за шэсцьсот крокаў ад агарожы караля.

Трэба было даведацца, ці заняты карал піратамі. Але для гэтага лепш было пачакаць ночы. Ісці адкрыта сярод белага дня да каралю—азначала рызыкаваць трапіць пад кулі, як гэта ўжо здарылася з Гербертам.

Але Гедэону Спілету хацелася як мага хутчэй даведацца, што робіцца ў каралі, і Пенкроф, таксама не менш цікаўны, прапанаваў яму пайсці разам на разведку.

— Не, сябры мае,—сказаў ім інжынер,—пачакайце ночы! Я не дазволю нікому з вас рызыкаваць дарэмна жыццём.

— Але-ж, містэр Сайрус...—пачаў марак, які гэтым разам не хацеў паслухацца.

— Пенкроф, прашу вас!—настойліва сказаў інжынер.

— Добра, так і быць,—адказаў Пенкроф і даў другое выйсце сваёй злосці, надзяліўшы піратаў усіх разам і кожнага ў паасобку самымі нелахвальнымі эпітэтамі з свайго арсенала «морскіх слоўцаў».

Так мінула каля трох гадзін. Каланісты стаўпіліся вакол калёс, прыслухоўваючыся да кожнага падазронага гуку ў каралі.

Вецер сціх, поўная цішыня запанавала ў лесе. Самы лёгкі хруст галінкі, шум крокаў па дыване з сухога лісця, нават шолах паўзучага цела зараз-жа былі-б заўважаны каланістамі. Але ўсё было ціха, і Топ, які лёг на зямлю, не падаваў ніякіх трывожных сігналаў.

У восем гадзін вечара было ўжо так цёмна, што Сайрус Сміт дазволіў Гедэону Спілету і Пенкрофу пайсці на разведку. Ён сам, Герберт і Наб павінны былі астацца з Топам і Юпам каля калёс: брэх сабакі або крык малпы маглі-б выдаць піратам набліжэнне разведчыкаў.

— Глядзіце, асцерагайцеся!—папярэдзіў інжынер Пенкрофа і Гедэона Спілета.—Не рызыкуйце сабою! Памятайце,

што наша задача не ўзяць карань прыступам, а толькі высветліць, ці захоплены ён піратамі.

— Ёсць!—адказаў па-морскаму Пенкроф.

І, у суправаджэнні журналіста, ён нячутна рушыў да караля.

Пад дрэвамі змрок згусцеў так, што за трыццаць—сорак крокаў ужо нічога не было відаць. Журналіст і Пенкроф пасоўваліся наперад надзвычай асцярожна, заміраючы на месцы ад кожнага падазронага шолаху. Яны ішлі не побач, а на адлегласці двух дзесяткаў крокаў адзін ад аднаго, каб не быць кампактнай мішэняй для стрэлаў. Праўду кажучы, абодва кожную секунду чакалі, што вось-вось грымне стрэл.

Праз пяць хвілін хады разведчыкі надышлі да апошніх дрэў краю лесу. Перад імі на палянцы вырысоўваўся на фоне змрочнага неба сілуэт агарожы караля.

Не больш трыццаці крокаў аддзяляла разведчыкаў ад варот караля, шчытна зачыненых і нібы замкненых. Гэтыя трыццаць крокаў на мове артылерыстаў можна было-б назваць «зонай абстрэлу». Гэта было небяспечнае месца. Стрэл ва ўпор з-за агарожы караля награжаў кожнаму неасцярожнаму, які адважыцца паказацца з-пад прыкрыцця

Гедэон Спілет і Пенкроф не былі баязліўцамі, але яны ведалі, што за самую малую неасцярогу пасля давядзецца расплачвацца астатнім каланістам. Што было-б з Гербертам, Сайрусам Смітам і Набам, калі-б яны загінулі?

Аднак, для нецярплівага па характару Пенкрофа гэтае чаканне паблізу ад мэты было-б пакутным выпрабаваннем; марак быў упэўнены, што злачынцы знаходзяцца ў каралі. Ён рашуча рушыў наперад, але журналіст стрымаў яго.

— Праз некалькі хвілін зусім сцямнеецца,—шапнуў яму Гедэон Спілет на вуха.—Тады мы здолеем рушыць наперад. Пацярпіце!

Пенкроф, сударгава сціснуўшы рулю стрэльбы, спыніўся, але ўзгарэўся яшчэ большай нянавісцю да піратаў.

Нарэшце, зусім сцямнела. Настаў доўгачаканы момант. Пенкроф і журналіст ні на момант не спускалі вачэй з агарожы караля.

Разведчыкі пацінулі адзін аднаму рукі і ціха папаўзлі на карачках, трымаючы вінтоўкі на спагатове. Але нішто і ніхто не перашкодзіў ім данаўзці да самай агарожы.

Пенкроф паспрабаваў піхнуць дзверы. Яны не падаліся, не гледзячы на тое, што засаўка, прыстроеная знадвору, не была засунута. Вароты былі замкнёны знутры, значыць, у каралі нехта ўжыў захады для таго, каб засцерагчы сябе

ад нечаканага нападу. Гедэон Спілет і Пенкроф напружана прыслухоўваліся.

Унутры агарожы было ціха. Муфлоны і авечкі, відаць, спалі. Журналіст і марак параіліся, ці трэба ім пералезці цераз агарожу і пранікнуць унутр караля.

Гэтае ўварванне магло скончыцца ўдала, але ў аднолькавай ступені можна было чакаць і няўдачы. Апрача таго, піраты не падазравалі пра блізкасць карнай экспедыцыі, і лепш было паспрабаваць заспець іх зняпацку ўсім атрадам каланістаў.

Такая, па крайняй меры, была думка журналіста. Было ясна, што да агарожы можна дабрацца незаўважанымі, што яе ніхто не вартуе. Вынік разведкі такім чынам быў зусім здавальняючы, і цяпер трэба было толькі паведаміць пра яго Сайруса Сміта.

Пенкрофа, відавочна, развагі журналіста пераканалі, бо ён без пярэчанняў згадзіўся вярнуцца да калёс.

Праз некалькі хвілін Сайрус Сміт ведаў пра ўсё.

— Я думаю,—сказаў ён,—што піратаў зараз няма ў каралі.

— Мы пра гэта даведаемся,—адказаў Пенкроф,—як толькі пералезем цераз агарожу.

— Дык у караль, сябры мае!—сказаў інжынер

— Калёсы пакінем у лесе?—запытаў Наб.

— Не, возьмем іх з сабою. Калі будзе патрэбна, мы схаваемся за іх.

— Наперад, наперад!—гукнуў Гедэон Спілет.

Воз нячутна рушыў. Ноч была непранікла цёмнай. Цішыня навакол нічым не парушалася. Густая трава заглушала асцярожную хаду людзей.

Каланісты гатовы былі ў кожны момант распачаць агонь. Па загаду Пенкрофа Юп ішоў ззаду атрада. Наб вёў Топа на прывязі, каб ён не забег наперад.

Атрад дайшоў да ўзлесся. Палянка была зусім пустэльная. Не вагаючыся, каланісты прайшлі яе. На працягу адной-двух хвілін яны беспераշкодна прамінулі небяспечную зону і падышлі да самай агарожы караля. Наб астаўся з анаграмі, а чацвёра каланістаў, на чале з Сайрусам Смітам, ціха падышлі да варот, каб паглядзець, чым яны забарыкадыраваны знутры.

Адна палавіна варот аказалася адчыненай.

— Дазвольце,—сказаў інжынер, звяртаючыся да журналіста і Пенкрофа,—але-ж вы казалі, што вароты замкнёныя?

Тыя здзіўлена зірнулі адзін на аднаго.

— Клянуся гонарам,—сказаў Пенкроф,—што вароты толькі што былі замкнёны!

Каланісты спыніліся ў нерашучасці. Няўжо піраты знаходзіліся ўнутры караля ў тую хвіліну, калі Пенкроф і журналіст падпаўзлі да яго варот? Гэта здавалася бясспрэчным, бо хто другі мог расчыніць вароты, калі не яны?

Але ці былі яны яшчэ тут ці пайшлі?

Гэтае пытанне турбавала ўсіх каланістаў, але адказу на яго не было.

У гэтую хвіліну Герберт, які зірнуў у расчыненыя вароты, раптам падаўся назад і схапіў за руку Сайруса Сміта.

— Што там?—жвава запытаў інжынер.

— Аганёк!

— У доме?

— Так!

Усе пяцёра ўвайшлі ў двор і сапраўды ўбачылі трапяткі аганёк свечкі за акенцай шыбінаю.

Сайрус Сміт умомант прыняў рашэнне.

— Гэта незвычайна ўдала! Мы заспеем піратаў зняпацку!

Пакінуўшы калёсы за агарожай пад ахонай Топа і Юпа, каланісты націху пачалі падыходзіць да доміка. За некалькі секунд яны дайшлі да яго. Дзверы былі замкнёны.

Сайрус Сміт падаў знак сваім таварышам не кратацца з месца і асцярожна падкраўся да асветленага знутры акенца. Наблізіўшы свой твар да шыбіны, ён зазірнуў у пакой.

На стале гарэла свечка. У кутку стаяў ложак Айртона. На ложку ляжаў нейкі чалавек.

Раптам Сайрус Сміт адскочыў ад акна і глуха прашаптаў:

— Гэта Айртон!

І той-жа момант дзверы хацінi былі хутчэй за ўсё выламаны, чым адамкнуты, і каланісты ўскочылі ў пакой.

Айртон, здавалася, спаў. Твар яго схудзеў і паблядпеў і выяўляў перажытыя ім цяжкія пакуты. На нагах і на руках у яго былі відаць сінякі.

Сайрус Сміт нахіліўся да яго.

— Айртон!—усклікнуў ён і радасна пацiснуў руку таварышу, якога знайшлі ў такіх нечаканых умовах.

Ад гэтага воклічу Айртон расплюшчыў вочы і павольна абвёў позіркам усіх, хто стаяў каля яго ложка.

— Гэта вы!—крыкнуў ён.—Вы?

— Айртон, Айртон!—паўтараў Сайрус Сміт.

— Дзе я?

— У нашым доміку, у каралі!

— Адзін?

— Так.

— Але яны зараз прыдуць!—крыкнуў ён.— Абараняйцеся, бо інакш загінеце.

І ён упаў на ложак непрытомны.

— Спілет,—сказаў інжынер,—на нас могуць у кожную хвіліну зрабіць напад. Увядзіце воз у караль, забарыкадыруйце вароты і варочайцеся зараз-жа назад.

Пенкроф, Наб і журналіст паспяшылі выканаць загад інжынера. Нельга было траціць ні секунды. Можа, воз ужо трапіў у рукі піратаў. Усе трое бягом кінуліся да варот, за якімі чулася глухое бурчэнне Топа.

Інжынер, пакінуўшы на хвіліну Айртона, выбег на парог доміка, гатовы дапамагчы сваім таварышам. Герберт стаў побач яго. Абодва ўглядаліся ў цемру, ці не блісне агонь стрэлу з боку ўзгорку, які ўзвышаўся над каралем. Калі піраты зрабілі там засаду, яны маглі перастраляць каланістаў аднаго за адным.

У гэтую хвіліну поўны месяц выплыў з-за густых хмар і заліў сваім бялёсым святлом двор караля.

Неўзабаве каля агарожы з'явілася нейкая цёмная маса. Гэта быў воз, і Сайрус Сміт пачуў стук варот, якія зачынялі.

У гэты момант Топ, абарваўшы прывязь, страшэнна забрахаў і кінуўся ў глыб караля, управа ад доміка.

— Сцеражыцеся, сябры,—крыкнуў Сайрус Сміт.

Каланісты ўзнялі стрэльбы і падрыхтаваліся страляць. Топ заядла брахаў, а Юп, які далучыўся да яго, узрушана свістаў.

Каланісты асцярожна падышлі да іх. Сабака стаяў над берагам ручайка, які цёк у двары. Пры яркім святле месяца каланісты ўбачылі пяць трупаў, якія валяліся каля самай вады.

Гэта былі трупы піратаў, якія чатыры месяцы таму назад высадзіліся на востраў Лінкольна.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

*Расказ Айртона.—Планы піратаў.—Захват караля.—Суддзя вострава Лінкольна.—„Шчаслівы".—Пошукі на гары Франкліна.—Падземны гул.—Адказ Пенкрофа.—У глыбіні кратэра.—Зварот.*

Што здарылася? Хто забіў піратаў? Няўжо гэта зрабіў Айртон? Не, не можа быць! На хвіліну раней Айртон баяўся звароту піратаў...

Але Айртон моцна заснуў, і разбудзіць яго было немагчыма. Пасля таго, калі ён праказаў некалькі слоў, нейкі дурман зноў зваліў яго на пасцель.

Каланісты, апанаваныя тысячу думак, з нервамі, надзвычай напружанымі ад усіх гэтых падзей, усю ноч прасядзелі без сну каля пасцелі Айртона, не варочаючыся да таго месца, дзе ляжалі трупы забітых піратаў.

На другі дзень раніцою Айртон абудзіўся ад цяжкога сну, і каланісты адзін перад адным спяшалі выказаць яму радасць, якую яны перажывалі, бачучы яго жывым і здаровым пасля ста чатырох дзён разлукі.

Айртон коратка расказаў пра ўсё, што здарылася, больш правільна, усё што ён ведаў пра падзеі.

Праз дзень пасля яго звароту ў караль, 10 лістапада, як толькі настала ноч, на яго раптоўна напалі піраты. Яны звязалі яму рукі і ногі і заткнулі яму анучай рот. У такім выглядзе яго нерацягнулі ў цёмную пячору каля падножжа гары Франкліна, дзе піраты зрабілі свой прытулак.

Яны прыгаварылі Айртона да смерці і на заўтра ён быў-бы забіты, калі-б адзін з піратаў раптам не пазнаў у ім свайго аўстралійскага супольніка. Піраты хацелі даканаць Айртона, але Бену Джойсу яны падаравалі жыццё.

Ад гэтай хвіліны піраты ўсяляк чапіліся да яго, спакушаючы яго далучыцца да іх банды: яны марылі з яго дапамогай авалодаць непрыступнай крэпасцю Гранітнага палаца і, забіўшы каланістаў зрабіцца гаспадарамі вострава.

Айртон працівіўся. Былы пірат, які раскаяўся і атрымаў дараванне, палічыў за лепшае памерці, чым здрадзіць.

Звязаны, з заткнутым ротам, Айртон амаль чатыры месяцы праляжаў у гэтай пячоры.

Піраты знайшлі караль неўзабаве пасля таго, як высадзіліся на востраў. Яны ўвесь час карысталіся яго харчовымі запасамі, але жыць там не адважваліся.

11 лістапада двое бандытаў раптоўна для саміх сябе ўбачылі каланістаў, якія набліжаліся. Адзін з іх вярнуўся, выхваляючыся, што забіў «хлапчанё». Яго гаварыш, як вядома, быў пакладзены на месцы Сайрусам Смітам.

Можна ўявіць, як пакутваў Айртон, калі даведаўся пра смерць Герберта. Каланістаў аставалася толькі чатыры чалавекі, і яны знаходзіліся, можна сказаць, у руках піратаў.

На працягу ўсяго часу пражывання каланістаў у каралі з прычыны хваробы Герберта піраты амаль не выходзілі з пячоры. Нават пасля бясчынстваў на пласкагор'і Далёкага віду яны з-за асцярогі прадаўжалі аставацца ў ёй.

Абыходжанне іх з Айртонам штодзень усё нагаршалася. У яго на нагах і на руках асталіся сляды ад вяровак, якія піраты не знімалі з яго нават на ноч. Кожны дзень Айртон чакаў смерці: здавалася, што нішто не магло адхіліць яе.

Так цягнуліся дні да дваццатых чыслаў лютага. Піраты, чакаючы зручнага моманту, рэдка выходзілі з сваёй пячоры.

Айртон не атрымліваў больш ніякіх вестак пра сваіх сяброў. Страціў ужо надзею калі-небудзь пабачыцца з імі.

З прычыны дрэннага абыходжання і голаду ён паступова ўпаў у поўнепрытомнасць і перастаў бачыць і чуць тых, хто каля яго быў. Гэты стан асабліва абвастрыўся ў яго за апошнія дні.

— Скажыце мне, містэр Сміт,—закончыў свой расказ Айртон,—хто вызваліў мяне з гэтай пячоры і даставіў у караль?

— Вы раней адкажыце мне, як здарылася, што ўсе піраты ляжаць забітымі ўнутры агарожы караля?—запытаў інжынер.

— Піраты забіты?—усклікнуў Айртон, прыўзнімаючыся з ложка, не гледзячы на слабасць.

Таварышы дапамаглі яму ўстаць і, падтрымліваючы яго пад руку, завялі на бераг ручайка.

Ужо зусім развіднела. На беразе ляжалі трупы піратаў у такім стане, у якім іх заспела смерць, як відаць раптоўная нібы маланка.

Айртон быў усхваляваны. Сайрус Сміт і астатнія каланісты моўчкі пазіралі на яго.

Інжынер падаў знак і тады Наб і Пенкроф агледзелі ўжо адубелыя целы.

На іх не было ніякіх слядоў ран.

Толькі пасля вельмі ўважлівага агляду Пенкроф знайшоў на лобе ў аднаго, на плячы ў другога, на спіне ў трэцяга і т. д. па маленькай чырвонай плямцы, паходжанне якой нельга было выявіць.

— Гэта сляды смяртэльнага ўдару!—сказаў Сайрус Сміт.

— Але якою зброяй яны зроблены?—запытаў журналіст.

— Нейкай стрэльбай, якая страляе маланкай.

— Хто-ж забіў іх?—крыкнуў Пенкроф.

— Суддзя вострава Лінкольна!—адказаў інжынер.—Той, хто перанёс Айртона ў караль. Той, які столькі разоў дапамагаў нам, і кожны раз ухіляўся ад падзякі!

— Яго патрэбна знайсці што-б там ні было!—усклікнуў Пенкроф.

— Так, шукаць яго патрэбна, але цяпер і я думаю, што знойдзем мы яго толькі тады, калі ён сам гэтага захоча.

Гэта нябачанае заступніцтва адначасова і расчульвала і злавала інжынера. Усведамленне ўласнай слабасці перад тварам магутнасці гэтай таямнічай сілы было зняважлівым для гэтага гордага чалавека, тым больш, што ў вялікa-

душыны іх заступніка, які не даваў ім якую-колечы магчымасць выказаць сваю падзяку, было штосьці пагардлівае. Гэтае адценне грэблівасці нават зменшыла у вачах інжынера каштоўнасць добрых учынкаў.

— Дык будзем шукаць,—сказаў ён,—і пастараемся давесці нашаму ганарыстаму заступніку, што ён мае справу з людзьмі, якія не пазбаўлены здольнасці адчуваць удзячнасць! Я аддаў-бы поўжыцця, абы толькі мець магчымасць у сваю чаргу зрабіць яму якую-небудзь нязначную паслугу.

З гэтага дня пошукі таямнічага стварэння зрабіліся адзіным клопатам каланістаў вострава Лінкольна.

Яны імкнуліся што-б там ні было знайсці ключ да разгадкі гэтага ланцуга таямніц.

Наб і Пенкроф перанеслі трупы піратаў у лес і там глыбока закапалі іх у зямлю. Затым усе каланісты вярнуліся ў караль. Там яны расказалі Айртону пра ўсё, што здарылася за час, калі ён быў у палоне.

— Цяпер,—закончыў свой расказ Сайрус Сміт,—мы павінны выканаць абавязак удзячнасці. Не наша заслуга, што першая задача экспедыцыі выканана і мы зноў зрабіліся гаспадарамі вострава.

— Давайце абшукаем увесь гэты лабірынт адгор'яў гары Франкліна!—сказаў Гедэон Спілет.—Агледзім кожную трэшчыну зямлі, кожную пячору! На свеце не было яшчэ выпадку, каб журналіст стыкнуўся з такой захапляючай таямніцай, як гэтая...

— І мы вернемся ў Гранітны палац толькі пасля таго, калі адшукаем нашага заступніка?—запытаў Герберт.

— Так,—адказаў інжынер.—Мы зробім для гэтага усё, што чалавеку па сіле...

— Дзе мы будзем жыць у гэты час?—запытаў Пенкроф.

— У каралі. Ён знаходзіцца блізка да раёна, які мы будзем даследаваць, і ў збытку забяспечаны харчамі. Урэшце, у кожную хвіліну адсюль можна на калёсах з'ездзіць у Гранітны палац.

— Добра,—адказаў марак.—Але дазвольце напомніць вам...

— Што іменна?

— Што мы адклалі да лета нашу морскую паездку, а лета ўжо настала.

— Якую морскую паездку?—запытаў Гедэон Спілет.

— На востраў Табор! Няўжо вы забыліся, што мы павінны пакінуць там указанне, што Айртон і мы знаходзімся на востраве Лінкольна, на выпадак, калі прыдзе шатландская яхта?.. Калі толькі мы ўжо не спазніліся...

— Але на чым вы хочаце зрабіць гэтае падарожжа?— запытаў Айртон у марака.

— Як на чым? Ды на «Шчаслівым», вядома.

— На «Шчаслівым»?—усклікнуў Айртон.—Хіба вы не ведаеце, што яго больш няма?..

— Майго «Шчаслівага» няма?—зароў Пенкроф.

— На жаль,—адказаў Айртон,—піраты выявілі яго дзён восем таму назад у парту Шара. Яны ўзышлі на борт і паднялі якар...

— І?..—з заміраючым ад хвалявання сэрцам запытаў Пенкроф

— І, не ўмеючы кіраваць судном—таму што Боба Гарвея паміж іх не было,—пасадзілі яго на камень, дзе шлюп і затануў...

— О нягоднікі! О мярзотнікі! О падлюгі!—крычаў марак.

— Супакойцеся, Пенкроф,—сказаў яму Герберт.—Мы пабудуем другі «Шчаслівы», толькі большы. Бо цяпер у нас ёсць усе жалезныя часткі і аснастка для пабудовы саракафутавага брыга, на якім можна будзе даехаць да мацерыка.

— Але ці ведаеш ты,—хныкаў марак,—што патрэбна будзе не менш пяці-шасці месяцаў, каб пабудаваць судзенца на сорак—пяцьдзесят тон!

— Часу ў нас хапае,—сказаў журналіст.—Толькі нам у гэтым годзе не давядзецца з'ездзіць на востраў Табор.

— Не бядуйце, Пенкроф,—дадаў інжынер.—Нічога не зробіш, трэба пагадзіцца са стратай. Будзем спадзявацца, што мы нічога не страцім ад гэтай затрымкі.

— Мой небарака «Шчаслівы»!—стагнаў Пенкроф, вельмі засмучаны нагібеллю судна, якім ён так ганарыўся.

Сапраўды, знішчэнне «Шчаслівага» было адчувальным ударам для калоніі. Таму каланісты дамовіліся, што пачнуць будаваць новае судно, як толькі вернуцца ў Гранітны палац.

Затым яны распачалі пошукі невядомага заступніка. З 19 па 26 лютага яны нічым другім не займаліся. Ля падножжа гары Франкліна цягнуўся цэлы лабірынт цясніп, трэшчын, гротаў і пячор. Тут, можа, нават унутры самой гары Франкліна, патрэбна было шукаць жыллё таямнічага незнаёмца.

Адгор'і гары былі параскіданы ў такім хаатычным непарадку, што Сайрус Сміт, раней як пачаць пошукі, метадычна падзяліў усю плошчу на ўчасткі. У першую чаргу каланісты даследавалі паўднёвы схіл вулкана, на якім сцякалі воды ракі Вадапада. Айртон паказаў ім пячору, у якой піраты трымалі яго ў палоне. У пячоры зусім нічога не змянілася ад

таго часу, як Айртон пакінуў яе. У адным з яе кутkoў каланісты выявілі запасы яды і баявых прыпасаў, якія піраты ўкралі ў каралі.

Уся гэтая частка гары, якая зарасла выдатнымі хвойнымі дрэвамі, была вельмі старанна агледжана каланістамі. Дайшоўшы да паўднёва-заходняй часткі схілу, яны выявілі тут вузкую лагчыну, якая цягнулася да хаатычнага награмаджэння базальтавых скал на самым беразе акіяна. Дрэвы тут раслі радзей. Камень замяніў тут траву. Дзікія козы і муфлоны скакалі па скалах. Гэта была мяжа бясплоднай часткі вострава Лінкольна.

Каланісты пераканаліся, што з шматлікіх далін, якія чаходзілі да адгор'яў гары Франкліна, усяго толькі тры ўкрыты лесам і густою травою. Гэта былі даліны, па якіх цяклі рака Вадапада і Чырвоны ручай. Усе астатнія даліны былі камяністыя і бясплодныя. Далей па поўдзень у гэтыя рэкі ўпадалі шматлікія прытокі, якія сцякалі са схілаў гары; гэтыя прытокі неслі пладароддзе ўсёй паўднёвай часцы вострава Лінкольна. Што датычыць ракі Падзякі, дык яе жывілі не горныя ручаі, а шматлікія крыніцы, схаваныя ў нетрах лесу Якамары.

З трох пладародных далін ля падножжа гары Франкліна толькі адна мела ўсе неабходныя ўмовы для жыцця чалавека. Але, не гледзячы на асабліва старанныя пошукі, і тут каланісты не знайшлі ніякіх слядоў свайго таямнічага заступніка.

Няўжо ён абраў сабе прытулак у глыбіні бясплодных цясніп паўночнаї часткі вострава, сярод награможджаных панурых скал, сярод патокаў застыглай лавы?

Паўночны схіл гары Франкліна змяняўся каля свайго падножжа двума шырокімі далінамі, зусім пазбаўленымі расліннасці, закіданымі глыбамі вулканічных камянёў і абломкамі застыглай лавы. Шукаць у гэтай частцы вострава было надзвычай цяжка. Тут былі тысячы пячор, у большасці непрыгодных для жылля, але добра замаскаваных складкамі глебы і не вельмі даступных.

Каланісты пранікалі ў змрочныя тунелі, якія цягнуліся далёка ў глыб горнага масіву, і з запаленымі смалістымі галінамі ў руках аглядалі кожны закутак, кожнае адгалінаванне і шчыліну. Але ўсё было дарэмна. Усюды панаваў змрок. Цяжка было падумаць, што калі-небудзь чалавечая нага ступала пад гэтым цёмным скляпеннем, што тупат чалавечых крокаў абуджаў калі-небудзь гулкае рэха звілістых калідораў. Пячоры былі такія-ж змрочныя і пустэльныя, як і

ў той дзень, калі падземны агонь падняў іх з дна акіяна на паверхню.

Аднак, не гледзячы на поўную адсутнасць жыцця ў гэтых месцах, нельга сказаць, што ў іх панавала непарушная цішыня.

У адной з гэтых цёмных пячор, якія цягнуліся на сотні футаў у глыб гары, інжынер са здзіўленнем пачуў нейкі глухі рокат, які абуджаў ціхае рэха ў скляпенні пячоры.

Гедэон Спілет, што ішоў следам за інжынерам таксама пачуў гэтыя аддаленыя гукі, якія нібы сведчылі пра аднаўленне вулканічнай дзейнасці ў нетрах вострава.

— Няўжо вулкан належыць да тых, што дзейнічаюць?— запытаў журналіст.—Памятаеце, калі мы аглядалі кратэр, ён здаваўся даўно патухшым...

— Няма нічога немагчымага ў тым, што за гэты час у глыбіні нетраў адбыўся нейкі пераварот, у выніку якога наш вулкан зноў аджыў.

— Як вы думаеце, Сайрус,—прадаўжаў Гедэон Спілет,— ці пагражае востраву вывяржэнне гары Франкліна?

— Наўрад,—адказаў інжынер.—Шырокі кратэр вулкана— вельмі добры засцерагальны клапан. Колькі-б не сабралася газаў у нетрах, яны будуць мець вольны выхад на двор.

— Калі-б толькі лава не прабіла сабе выхаду да пладародных частак вострава!—заўважыў журналіст.

— Гэта малаверагодна,—запярэчыў інжынер.—Бо ў яе ёсць ужо гатовыя шляхі.

— Э! Вулканы такія капрызныя.

— Не, нахіл гары Франкліна такі, што лава амаль напэўна пойдзе па-ранейшаму шляху. Для таго каб лава пацякла па іншаму шляху, павінна адбыцца землетрасенне і змяніцца цэнтр цяжару гары.

— Я думаю, што калі вулкан дзейнічае, землетрасенне заўсёды можа здарыцца,—сказаў журналіст.

— Правільна,—адказаў інжынер,—асабліва калі падземныя сілы абуджаюцца пасля доўгага сну і выйсце кратэра закідана. Не спрачаюся з вамі, дарагі Спілет, што вывяржэнне вулкана, а тым больш землетрасенне—досыць непрыемныя для нас падзеі. Было-б значна лепш, каб вулкан прадаўжаў спаць. Але-ж мы нічым не можам перашкодзіць яго абуджэнню, хіба не праўда? Урэшце, я зусім упэўнены, што пры ўсялякіх умовах наша «памесце» на пласкагор'і Далёкага віду не пацерпіць. Паміж ім і вулканам натуральны нахіл глебы такі, што лава пацячэ ў бок дзюн, да заліва Акулы.

— Дарэчы, я не заўважыў над кратэрам ніякага дыму, ніякіх адзнак блізкага вывяржэння,—сказаў журналіст.

— Ды і я ўчора доўга пазіраў на вяршыню гары, але не заўважыў нічога такога, што сведчыла-б пра аднаўленне дзейнасці вулкана. Аднак, гэта можа быць і дрэннай прыметай: магчыма, што з цягам часу ў глыбіні кратэра сабралася занадта вялікая колькасць розных адкладанняў—лавы, попелу, абломкаў скал,—якія перагружаюць накрыўку засцерагальнага клапана. Урэшце, ад першага-ж сур'ёзнага націску падземных газаў гэтае награмаджэнне ўзляціць у неба нібы пушынка. Не трывожцеся, дарагі Спілет, пакуль што няма ніякай небяспекі, што наш востраў узарвецца, як кацёл, у якім праз меру павысіўся ціск. Вядома, лепш ўсё-ж, каб ніякага вывяржэння не было.

— Але-ж мы выразна чуем рокат у нетрах вулкана,—запярэчыў журналіст.—Тут ніякай памылкі не можа быць.

— Сапраўды,—сказаў інжынер, прыслухоўваючыся да далёкага шуму.—Там адбываюцца нейкія працэсы, ні сілу, ні вынікаў якіх мы вызначыць не можам.

Вярнуўшыся на адкрытае паветра, Сайрус Сміт і Гедэон Спілет расказалі астатнім каланістам пра тое, што выявілі.

— Вось як!—усклікнуў Пенкроф.—Цяпер вулкан рыхтуе нам пакасць! Што-ж няхай толькі паспрабуе! Мы знойдзем і на яго ўправу!

— У каго?—запытаў Наб.

— У нашага заступніка! Ён запхне горла кратэру, калі той адважыцца толькі пікнуць!

Вера марака ў заступніка вострава Лінкольна была бязмежная. Неаднаразовыя праявы яго ўлады ўразілі ўяўленне Пенкрофа і ўнушылі яму перакананне ў тым, што магчымасці ў гэтага загадкавага стварэння неабмежаваныя.

Але таямнічага заступніка, не гледзячы на вялікае стараннне, так і не ўдалося выявіць. З 19 па 25 лютага каланісты агледзелі ўсе самыя патаемныя куткі вострава Лінкольна. Яны дайшлі да таго, што выстуквалі кожную скалу, як гэта робяць сышчыкі са сценамі падазроных дамоў. Інжынер склаў дакладную карту гары і яе ваколіц і кожны дзень крыжыкам адзначаў агледжаныя ўчасткі. Метадычна і паслядоўна ўся гара Франкліна была даследавана, ад нізу да самай вяршыні.

Больш таго, каланісты забіраліся ў самы кратэр, які бяздзейнічаў пакуль што, але пад якім выразна чулася клякатанне падземнага агню. Урэшце, і пры бліжэйшым разглядзе ні адзін клубок дыму, ні адзін струменьчык пары не паказвалі, што хутка будзе вывяржэнне. Але ў кратэры,

таксама як і ў іншых месцах гары, не было ніякіх слядоў таго, каго яны шукалі. Тады пачалося даследаванне дзюн.

Таксама ўважліва каланісты агледзелі базальтавыя сцены заліва Акулы ад верху да нізу. І тут нікога і нічога не знайшлі.

Нічога і нівошта! Гэтыя два словы, адзіны вынік такой працы, такой упартасці і настойлівасці, поўнасцю тлумачаць гой стан злосці, якая апанавала каланістаў у канцы экспедыцыі.

Яны вырашылі, нарэшце, вярнуцца ў Гранітны палац, бо немагчыма было бясконца прадаўжаць пошукі.

Каланісты мелі цяпер падставы сцвярджаць, што таямнічае стварэнне не жыве на паверхні вострава Лінкольна. Самыя страшэнныя меркаванні ўзнікалі з гэтай прычыны ў іх узрушаным уяўленні.

Асабліва Пенкроф і Наб, не знайшоўшы разгадкі гэтай таямніцы ў свеце рэальнага, пачалі шукаць яе ў свеце звышнатуральнага.

25 лютага каланісты, нарэшце, вярнуліся ў Гранітны палац. Закінуўшы з дапамогай стралы вяроўку за выступ каля дзвярэй свайго жылля, яны ўзабраліся наверх.

Роўна праз месяц, 25 сакавіка, яны скромна адсвяткавалі трэцюю гадавіну свайго жыцця на востраве Лінкольна.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

*Мінула тры гады.—Пытанне пра пабудову новага карабля.—Прынята рашэнне.—Калонія квітнее.—Халады ў паўднёвым паўшар'і.—Пенкроф слухаецца.—Мыццё бялізны.—Гара Франкліна.*

Мінула тры гады з таго часу, калі рычмондскія ваеннапалонныя ўцяклі з абложанага горада. Колькі разоў за гэты час яны гаварылі пра сваю радзіму!

Яны не сумняваліся ў тым, што грамадзянская вайна даўно закончылася і што перамагла праўда Поўначы. Але чаго каштавала гэтая вайна, колькі крыві яна праглынула, хто з іх сяброў загінуў у барацьбе—усе гэтыя пытанні часта прыходзілі ім у галаву і прымушалі вельмі сумаваць па далёкай радзіме.

Яны марылі пра зварот у Штаты хоць на некалькі дзён; аднавіўшы сувязь з цывілізаваным светам, яны вярнуліся-б на ўсё жыццё ў гэту створаную іх працай калонію.

Гэтая мара магла ажыццявіцца толькі ў двух выпадках: або ў воды вострава Лінкольна нечакана забрыдзе які-небудзь карабль, або каланісты самі збудуюць судна, якое здолее вытрымаць доўгі морскі пераход.

— Калі толькі наш заступнік не знойдзе якога-колечы трэцяга спосабу дапамогчы нам вярнуцца на радзіму,— сказаў аднойчы Пенкроф.

І сапраўды, ні Наб, ні Пенкроф зусім не здзівіліся-б, калі-б ім у які-небудзь дзень сказалі, што ў парту Шара або ў заліве Акулы іх чакае трох-чатырохсоттонны карабль. У тым становішчы, у якім яны зараз знаходзіліся, гэтая вестка зусім не здзівіла-б іх.

Але Сайрус Сміт, не здольны так хутка захапляцца і не такі лёгкаверны, параіў ім менш фантазіраваць і падумаць пра пабудову карабля; гэта была вельмі неадкладная справа, бо патрэбна было як мага хутчэй даставіць на востраў Табор запіску з паказаннем месцазнаходжання Айртона і астатніх каланістаў.

Пабудова судна ўсялякай велічыні вымагала самае меншае шасці месяцаў. За гэты час павінна была настаць зіма, і паездку ўсёроўна было-б немагчыма ажыццявіць зараз-жа.

— У нас такім чынам шмат часу,—казаў інжынер Пенкрофу.—Мне здаецца, патрэбна скарыстаць гэта, каб пабудаваць судна больш буйнае, як наш «Шчаслівы». Я мала веру ў тое, што Гленарван прыедзе па Айртона. Урэшце, можа здарыцца, што яхта ўжо была на востраве і, не знайшоўшы слядоў Айртона, вярнулася ў Глазго. Маючы гэта на ўвазе, лепш, на маю думку, пабудаваць судна такога водазмяшчэння, на якім можна было-б у выпадку патрэбы дасхаць да Новай Зеландыі ці да Палінезійскага архіпелага.

— Я думаю, містэр Сміт,—адказаў Пенкроф,—што мы з такім-жа поспехам можам пабудаваць вялікі карабль, як і маленькі. Дрэва, цвікоў і інструментаў у нас хопіць. Уся справа ў часе.

— А колькі патрэбна часу, каб пабудаваць карабль на дзвесце пяцьдзесят—трыста тон?—запытаў Сайрус Сміт.

— Самае меншае сем-восем месяцаў,—адказаў Пенкроф.—Не трэба толькі забывацца, што надыходзіць зіма, а вялікім холадам цяжка рабіць цяслярскую работу: дрэва робіцца цвёрдае, як жалеза. Улічыўшы некалькі тыдняў вымушанага прастою, трэба будзе радавацца, калі ўдасца спусціць судна на ваду ў лістападзе.

— Што-ж,—заўважыў Сайрус Сміт,—гэта самы зручны час для марскага падарожжа на востраў Табор або на іншую больш аддаленую зямлю.

— Давайце чарцяжы, містэр Сміт! Рабочыя наспагатове. Не сумняваюся, што Айртон вельмі дапаможа нам у гэтай справе.

Каланісты аднагалосна ўхвалілі план, пра які ім расказаў інжынер. Праўда, пабудова вялікага карабля на дзвесце пяцьдзесят—трыста тон водазмяшчэннем была нялёгкай справай, але каланісты былі ўпэўнены ў сваіх сілах і мелі падставы быць упэўненымі—пра гэта сведчылі ўжо дасягнутыя імі поспехі.

Сайрус Сміт зараз-жа распачаў складанне разлікаў і чарцяжоў судна. Тым часам яго таварышы ўзяліся секчы будаўнічы лес. У лесе Далёкага захада яны знайшлі дубы і вязы патрэбнай якасці.

Дарога, намечаная ў час вялікай экспедыцыі да мыса Рэптыліі, была пашырана, і зрэзаныя дрэвы перавозіліся да Каміна, дзе зноў была збудавана невялікая верф.

Ссечаныя дрэвы зараз-жа пілавалі на дошкі, бо для пабудовы карабля нельга было ўжываць сыры матэрыял і патрэбен быў час, каб дошкі падсохлі. Цесляры старанна працавалі на працягу ўсяго красавіка.

Юп быў вельмі каштоўным і старанным памочнікам дрывасекаў і возчыкаў; ён узбіраўся на самыя вяршаліны прызначаных для зразання дрэў і прывязваў да іх кроны вяроўку; ён таксама, калі было патрэбна, падымаў на свае магутныя плечы ссечанае дрэва і адцягваў яго на паказанае каланістамі патрэбнае месца.

Распілаваны матэрыял быў складзены ў штабелі ў сарай, пабудаваны спецыяльна для гэтай мэты каля Каміна.

Красавік выдаўся цёплы.

Адначасова з падрыхтоўкай да будаўніцтва карабля, каланісты навялі парадак на пласкагор'і Далёкага віду пасля налёту піратаў. Яны абдувалі нанава млын, канюшню і птушнік. Апошні давялося будаваць большы, бо насельніцтва яго значна павялічылася.

У стойлах канюшні стаяла цяпер пяць анаграў, з гэтага ліку чатыры дужыя, рослыя, добра выдрасіраваныя жывёліны і адзін маленькі, нованароджаны. Інвентар калоніі папоўніўся плугам і анагры апрацоўвалі цяпер зямлю, як звычайныя іоркшырскія быкі.

Для кожнага каланіста знаходзілася работа па яго ахвоце, і ніхто не сядзеў склаўшы рукі. Таму ўсе былі на зайздрасць здаровымі, і на гэтых людзей прыемна былоназіраць, калі, седзячы ўвечары ў вялікай зале Гранітнага палаца, яны складалі тысячы праектаў на будучыню.

Не даводзіцца і казаць, што Айртон жыў цяпер разам з астатнімі каланістамі і нават не думаў пра зварот у караль. Аднак, ён як і раней быў сумны, мала гаварыў і больш ахвотна працаваў, чым весяліўся разам з каланістамі. Як выявілася, ён быў надзвычайным работнікам—дужым,

нястомным, спрытным і вынаходлівым. Яго паважалі і любілі ўсе каланісты. І ён гэта ведаў.

Зразумела, каланісты не забываліся і пра караль. Праз дзень або два хто-небудзь з каланістаў ехаў туды на калёсах ці верхам, напаўняў кармушкі для муфлонаў і авечак і варочаўся, прывозячы з сабою малако для кухні. Гэтыя паездкі звычайна скарыстоўваліся і для паляванкя. Таму часцей за ўсё гэтую работу браліся рабіць Гедэон Спілет ці Герберт. Часам яны ехалі ўдвух і бралі з сабою яшчэ і Топа. Дзякуючы гэтаму кладовыя Гранітнага палаца заўсёды мелі ў збытку настраляную дзічыну: водасвінак, агуці, кенгуру, кабаноў, вяпрукоў, качак, глушцоў, якамар і інш. Харчы каланістаў былі яшчэ больш рознастайнымі ад рыбнай лоўлі устрыц з устрычнай мелі, гароднiны з гародаў пласкагор'я Далёкага віду і, нарэшце, фруктаў, нарваных у лесе. Галоўнаму повару Набу трэба было толькі выбіраць лепшае з гэтага багацця прадуктаў.

Само па сабе зразумела, што тэлеграфны провад з Гранітнага палаца ў караль быў даўно папраўлены, і тэлеграф працаваў заўсёды, калі той або іншы каланіст, які ехаў у караль, лічыў патрэбным астацца там начаваць. Урэшце, востраў цяпер стаў бяспечным, і можна было не баяцца нападу хоць-бы людзей.

Аднак, каланісты ўлічвалі магчымасць паўторнай высадкі піратаў на востраў. Зусім магчыма, што хто-небудзь з таварышоў Боба Гарвея па нарфолькскай катарзе ведаў пра яго планы і, вызвалены, тым або іншым спосабам, настараецца ажыццявіць іх.

Таму каланісты вырашылі кожны дзень аглядаць у падзорную трубу гарызонт як з боку бухты Саюза, так і з боку бухты Вашынгтона. Накіроўваючыся ў караль, дзяжурны каланіст абавязкова з такою-ж стараннасцю аглядаў морскі гарызонт у заходняй частцы вострава. Ні разу, праўда, каланісты не заўважылі нічога падазронага, але, навучаныя горкім вопытам, яны цвёрда трымаліся гэтага правіла.

Аднойчы ўвечары інжынер расказаў сваім таварышам аб прыдуманым ім плане ўмацавання караля. Ён меркаваў зрабіць больш высокую агарожу і прыбудаваць да яе нешта падобнае на блакгауз, у якім каланісты маглі-б адбівацца ад нападу цэлага раду ворагаў.

Наколькі Гранітны палац быў непрыступным, настолькі-ж лёгкай і спакушальнай здабычай для піратаў з'яўляўся караль, з яго вялізнымі статамі жывёлы, будынкамі і запасамі рознага дабра. Патрэбна было неяк забяспечыць захаванне ўсяго гэтага ў выпадку магчымай высадкі на востраў піратаў.

Праект інжынера быў увогуле ўхвалены каланістамі і прызначаны для ажыццяўлення ў наступную вясну.

Да 15 мая на стапелях верфі ўжо выразна вырысоўваўся контур кіля новага судна. Яшчэ праз некалькі дзён пазн... па канцах кіля выраслі моцна пасаджаныя ў пазы форштэвень і ахтэрштэвень. Моцны дубовы кіль меў сто дзесяць футаў у даўжыню. Такім чынам шырыню сярэдняй часткі судна можна было павялічыць да дваццаці пяці футаў. Але гэта было ўсё, што цесляры паспелі зрабіць да надыходу халадоў. Скарыстаўшы нечаканае павышэнне тэмпературы ў пачатку чэрвеня, яны паставілі першыя кармавыя перагародкі і затым канчаткова прыпынілі работы.

У першых чыслах чэрвеня надвор'е зрабілася страшэнным. Вецер дзьмуў з усходу, дасягаючы часамі сілы сапраўднага ўрагана. Інжынер нават пачаў непакоіцца, каб вецер не абярнуў саралў верфі. Але перанесці іх у другое месца было-б яшчэ горш, бо астравок Выратавання ўсё-ж абараняў Камін ад ветру, у той час калі ў дні вялікіх бур акіянскія хвалі дакочваліся да самага падножжа Гранітнага палаца.

На шчасце, трывога Сайруса Сміта была дарэмнай: сараі вытрымалі. Пенкроф і Айртон, самыя заядлыя з будаўнікоў, прадаўжалі работу на верфі так доўга, як гэта было магчыма. Іх не палохалі ні вецер, ні дождж. Яны лічылі, што ўдар молата, незалежна ад таго, у якое надвор'е ён нанесены, астаецца ўдарам молата. Толькі пасля таго, калі першыя маразы надалі дрэвавым валокнам цвёрдасць жалеза, яны палічылі сябе пераможанымі стыхіяй і пакінулі будаўніцтва. Гэта здарылася 10 чэрвеня.

Сайруса Сміта і яго таварышоў здзіўлялі моцныя маразы, якія былі зімою на востраве Лінкольна. Сярэдняя зімняя тэмпература тут была падобная да тэмпературы Новай Англіі, размешчанай прыблізна на такой-жа адлегласці ад экватара. Але там, у паўночным паўшар'і, гэта з'явішча тлумачылася раўнінным характарам прыпалярных земляў, якія давалі поўнае раздолле паўночным вятрам. Тут, на востраве Лінкольна, гэтае тлумачэнне не падыходзіла.

-- Ужо даўно выяўлена,—аднойчы сказаў Сайрус Сміт сваім таварышам,—што пад аднолькавымі шыротамі астравы і ўзбярэжныя землі менш церпяць ад холаду, чым кантынентальныя тэрыторыі. Я, напрыклад, часта чуў, што ў Ламбардыі зімы больш жорсткія, як у Шатландыі. Гэта тлумачыцца тым, што зімою мора аддае тую цеплыню, якую яно назбірала за лета. Астравы ў гэтых адносінах знаходзяцца ў асабліва выгодных умовах.

— Але чаму-ж у такім разе востраў Лінкольна складае выключэнне з агульнага правіла?—запытаў Герберт.

— Гэта цяжка вытлумачыць,—адказаў інжынер.—Хутчэй за ўсё гэта мае сувязь з тым, што наш востраў знаходзіцца ў паўднёвым паўшар'і, якое, як вядома, значна халаднейшае за паўночнае.

— Сапраўды,—заўважыў Герберт,—я чытаў дзесьці, што плывучыя крыгі ў паўднёвым паўшар'і сустракаюцца пад больш нізкімі шыротамі, чым у паўночным.

— Я гэта бачыў сваімі вачамі!—сказаў Пенкроф.— Аднойчы, калі я служыў на кітабойным судне, мы спаткалі плывучыя крыгі на самым траверсе мыса Горн!

— Можа, іменна блізкасцю лёду і тлумачацца жорсткія зімы на востраве Лінкольна?—падумаў уголас журналіст.

— Вельмі магчыма, што ваша меркаванне блізкае да праўды, Спілет,—адказаў Сайрус Сміт.—Я сам думаю, што толькі гэтым і можна вытлумачыць тутэйшыя маразы. Але ёсць іншае зусім навуковае тлумачэнне прычын, чаму паўднёвае паўшар'е халаднейшае за паўночнае: з той прычыны што сонца ўлетку знаходзіцца бліжэй да паўднёвага паўшар'я, натуральна, што зімою яно больш ад яго аддаляецца. Гэта дае тлумачэнне і таму, што лета на востраве Лінкольна на многа цяплейшае, як у адпаведных яму шыротах паўночнага паўшар'я.

— Але скажыце мне, містэр Сміт,—хмурачы бровы, сказаў Пенкроф,—чаму гэта наш зямны шар так дрэнна падзелены? Гэта несправядліва!

— Дружа Пенкроф,—смеючыся, адказаў інжынер,— справядліва гэта ці не, але свет так пабудаваны! І вось чаму: зямля абыходзіць вакол сонца не па кругу, а эліпсісу—гэтага вымагаюць законы нябеснай механікі. Сонца знаходзіцца ў адным з фокусаў гэтага эліпсіса, і, выходзіць, што зямля ў сваім бегу на працягу года то аддаляецца ад сонца на самую далёкую адлегласць—знаходзіцца ў сваім апагеі,—то набліжаецца да яго на самую блізкую адлегласць—уступае ў свой перыгей. Але якраз у пачатку паўднёвай зімы зямля знаходзіцца ў апагеі, на самай далёкай ад сонца адлегласці. Таму не дзіва, што тут бываюць такія халодныя зімы. Тут, мой дружа Пенкроф, людзі нічога не могуць змяніць, якімі-б вучонымі і магутнымі яны не былі!

Як-бы там ні было, але ў чэрвені пачаліся звычайныя вялікія маразы, і каланістам часцей за ўсё даводзілася сядзець у Гранітным палацы.

Гэтае вымушанае бяздзеянне мучыла ўсіх, а асабліва Гедэона Спілета.

— Наб,—сказаў ён аднойчы,—я гатовы абы якім натарыяльным актам перадаць табе ўсю сваю маёмасць, калі ты падпішашся для мяне на якую-небудзь газету. Для поўнага майго шчасця не стае толькі таго, каб ведаць кожнай раніцы, што здарылася ў свеце напярэдадні!

Наб зарагатаў.

— А для мяне,—сказаў ён,—кажучы праўду, больш цікавейшая сёнешняя работа, як учарашнія навіны!

І сапраўды, работы як на двары, так і ўнутры Гранітнага палаца было больш як трэба.

Калонія вострава Лінкольна была насля трох год упартай работы на вяршыні свайго росквіту. Прыход пірацкага карабля толькі памножыў багацці калоніі. Не кажучы пра поўную аснастку карабля, якую меркавалі выкарыстаць для пабудовы новага судна, кладовыя былі перапоўнены запасамі інструментаў, прылад, прыбораў, зброі, пораху, куль, адзення, харчовых прыпасаў і т. д. Каланістам больш не патрэбна было самім вырабляць валеную вопратку. Яны былі апрануты цяпер так цёпла, што іх не палохаў больш самы страшны мароз. Бялізны ў іх было ў збытку, і яны вельмі старанна бераглі яе. Мылі яны сваю бялізну чатыры разы ў год, як гэта рабілася ў даўнейшыя часы ў сем'ях багацеяў; Пенкроф і Гедэон Спілет асабліва вызначаліся ў майстэрстве мыць і прасаваць.

Зімнія месяцы—чэрвень, ліпень і жнівень—мінуліся неўзаметку, запоўненыя рознай дробнай работай унутры Гранітнага палаца. Зіма ў гэтым годзе была нават больш жорсткая, як ва ўсе папярэднія. Сярэдняя зімняя тэмпература была прыкладна 13° ніжэй нуля. У камінах Гранітнага палаца няспынна палалі цэлыя кастры, і каланісты не шкадавалі апалу, які рос блізка каля іх жылля.

Людзі і жывёла былі зусім здаровыя. Містэр Юп, праўда, аказаўся мерзляком, і яму давялося пашыць ватовы халат. Але гэта быў адзін недахоп сумленнага арангa. З яго атрымаўся ўзорны слуга—спрытны, паслужлівы, нястомны і... небалбатлівы.

— Што тут дзіўнага,—сказаў аднойчы Пенкроф,—што Юп—прыкладны слуга: бо ў яго не дзве, а чатыры рукі!

На працягу сямі месяцаў, якія прайшлі ад часу апошняй экспедыцыі, таямнічы заступнік вострава нічым не выяўляў сваёй прысутнасці. Урэшце, калоніі ні разу за гэты час не была патрэбна яго дапамога.

Сайрус Сміт звярнуў увагу на тое, што ні Топ, ні Юп больш не падыходзілі да калодзежа і не выяўлялі невытлумачальнага неспакою.

Але гэта не суцяшала інжынера. Не атрымаўшы ключа да разгадкі таямніцы, ён не мог супакоіцца.

Нарэшце, зіма скончылася. Першыя веснавыя дні адзначыліся падзеяй, якая магла мець важныя вынікі. 7 чэрвеня Сайрус Сміт, зірнуўшы на вяршыню гары Франкліна, заўважыў, што над ёй віецца лёгкі дымок...

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

*Абуджэнне вулкана.—Вясна.—Аднаўленне работ.—Вечар 15 кастрычніка.—Тэлеграма.—Пытанне.—Адказ.—Ад'езд у караль.—Запіска — Дадатковы провад.—Базальтавы бераг.—Прыліў.—Адліў.—Грот.— Асляпляючае святло.*

Каланісты, якім інжынер сказаў пра гэтую навіну, кінулі работу і пайшлі глядзець на вяршыню гары Франкліна.

Вулкан прачнуўся, і першыя струмені дыму прабіліся праз адклады на дне яго кратэра. Але ці выкліча падземны агонь вывяржэнне? На гэтае пытанне ніхто не мог адказаць.

Вывяржэнне вулкана не пагражала небяспекай усяму востраву. Патокі лавы ўжо аднойчы залілі яго—пра гэта сведчылі схілы гары Франкліна, але гэта не перашкодзіла бурнаму росквіту флоры ў паўднёвых частках вострава. Самая форма кратэра з выемкай на паўночным схіле, здавалася, ахоўвала ад вывяржэння паўднёвыя, пладародныя часткі вострава.

Але, зразумела, не было цвёрдай упэўненасці, што ад новага вывяржэння лава пацячэ тымі-ж шляхамі. Часта бывае, што пры аднаўленні дзейнасці вулканаў старыя кратэры астаюцца мёртвымі і адкрываюцца новыя. Такія выпадкі былі і ў Старым і ў Новым Свеце ў часе вывяржэнняў вулканаў Этны, Попакатэпетль, Арызаба. Досыць было здарыцца землетрасенню—з'яве, якая часта бывае следам за вулканічным вывяржэннем,—каб уся канфігурацыя гары змянілася і лава пацякла новымі шляхамі.

Сайрус Сміт выказаў свае думкі таварышам, нічога ад іх не захоўваючы.

Урэшце, было немагчыма папярэдзіць падзею. Гранітнаму палацу, калі толькі землетрасенне не разбурыць яго, здавалася, не пагражала небяспека. Але затое каралю пагражала гібель, калі новы кратэр адкрыецца ў паўднёвым схіле гары Франкліна.

Ад гэтага дня вяршыня гары ўсё больш ахутвалася дымам. Слупы дыму павялічваліся ў вышыню і шырыню, але пакуль што яны не афарбоўваліся водбліскамі полымя. Падземны агонь яшчэ канцэнтраваўся ўнутры гары і не выходзіў на паверхню.

Настала вясна і работа, закіпела. Каланісты спяшаліся закончыць будаўніцтва карабля. Каб паскорыць распілоўку, Сайрус Сміт паставіў гідраўлічную пілу, якая вызваліла каланістаў ад маруднай і стомнай работы. Пабудова гэтага прыстасавання была скапіравана з саматужных гідраўлічных лесапільных установак Нарвегіі: з дапамогай кола, двух цыліндраў і блокаў, якія прыводзіліся ў рух сілай падаючай вады, бярвенню надаваўся рух па гарызанталі, а піле—па вертыкалі. Не гледзячы на прастату прыстасавання, машына працавала вельмі добра.

У канцы верасня на стапелях верфі ўзвышалася ўжо ўся аснова судна, якому думалі надаць аснастку шхуны. Вузкая ў сваёй пярэдняй частцы і шырокая ў кармавой, шхуна абяцала быць устойлівым суднам, якое здолее, калі будзе патрэбна вытрымаць доўгі морскі пераход.

Абшыўка бартоў, насцілка палубы і ўся іншая работа па абсталяванню павінны былі заняць яшчэ шмат часу. На шчасце, каланістам удалося выратаваць амаль усе жалезныя часткі з загінуўшага піратскага брыга, і кавалям не давялося вырабляць цвікі і балты. Затое цеслярам работы было шмат, аж лішняе.

У часе жніва давялося на тыдзень прыпыніць будаўніцтва. Убраўшы збожжа і гародніну і склаўшы новыя запасы ў кладовыя Гранітнага палаца, каланісты вярнуліся на верф і ўвесь свой час аддалі для пабудовы шхуны.

Пад вечар каланісты літаральна знемагалі. Каб не траціць марна часу, яны змянілі час яды: абедалі ў поўдзень, а вячэраць садзіліся толькі тады, калі цямнела. Пасля вячэры яны спяшаліся легчы спаць.

Толькі часамі, калі размова, якая пачалася ў часе вячэры, датычыла якое-небудзь асабліва цікаўнай тэмы, каланісты клаліся спаць крыху пазней як звычайна. Улюбёнай тэмай такіх размоў была фантазія пра той час, калі шхуна будзе гатовая і на ёй можна будзе зрабіць паездку ў цывілізаваныя краіны. Аднак, нікому не хацелася пакідаць назаўсёды гэтую калонію, якая расквітнела цаною ўпартай працы. Усе лічылі, што сувязь з Амерыкай узмацніць далейшае развіццё калоніі.

Пенкроф і Наб, асабліва, марылі жыць і памерці на востраве Лінкольна.

— Герберт,—пытаўся марак,—ты не здрадзіш нашаму востраву?

— Ніколі, Пенкроф, калі ты астанешся на ім!

— У ва мне ты можаш не сумнявацца! Ты астанешся на радзіме, жэнішся там, а потым прыедзеш на востраў з жон-

каў і маленькімі дзецьмі. Я буду чакаць цябе і абяцаю табе вырасціць з тваіх дзетак храбрых маракоў!

— Згодзен,—засмяяўся, пачырванеўшы, Герберт.

— А вы, містэр Сміт,—прадаўжаў узрушаны марак,—вы зробіцеся губернатарам вострава! Колькі жыхароў ён можа пракарміць? Тысяч дзесяць, не менш?

Пенкроф заражаў усіх каланістаў сваімі марамі, і нарэшце нават журналіст пачаў гаварыць, якою цудоўнай газетай будзе яго «Лінкольнскі веснік».

Маўклівы Айртон таксама захоўваў мару пра сустрэчу з Гленарванам: было злачынца хацеў давесці, што ён перарадзіўся.

Хто ведае, магчыма, што Топ і Юп таксама складалі цішком планы на будучыню?

15 кастрычніка ўвечары прыяцельская гутарка зацягнулася пазней, як звычайна. Была ўжо дзевятая гадзіна вечара. Пазяханні, якія цяжка было стрымаць, сведчылі пра тое, што час спаць ужо настаў. Пенкроф першым устаў з-за стала і накіраваўся ў спальню, як раптам электрычны званок, які вісеў у вялікай залі, рэзка зазвінеў.

Усе каланісты былі на месцы: Сайрус Сміт, Гедэон Спілет, Герберт, Айртон, Наб, Пенкроф. Значыць у каралі нікога не магло быць. Сайрус Сміт усхапіўся на ногі. Тое-ж зрабілі і ўсе астатнія. Ніхто не верыў сваім вушам.

— Што гэта азначае?—усклікнуў Наб.—Няйначай сам чорт пазваніў нам!..

Ніхто не адказаў яму.

— Неба было ўвечары, як перад навальніцай,—сказаў Герберт.—Атмасфера насычана электрычнасцю. Можа, гэта...

Герберт не скончыў гаварыць, бо інжынер адмоўна паківаў галавою.

— Пачакаем,—сказаў Гедэон Спілет.—Калі гэта быў сігнал, дык той, хто яго падаваў, паўторыць яго.

— Але-ж хто гэта можа быць?—усклікнуў Наб.

— Вядома, хто,—адказаў Пенкроф.—Той, хто...

Словы марака былі перарваны новым рэзкім званком.

Сайрус Сміт падышоў да апарата і паслаў у караль наступную тэлеграму:

«Што вы хочаце?»

Праз некалькі секунд прыёмнік адстукаў адказ:

«Неадкладна прыходзьце ў караль».

— Нарэшце?—усклікнуў Сайрус Сміт.

Так, нарэшце таямніца павінна была выкрыцца! Ад гэтай весткі цікаўнасць так узвінціла нервы каланістаў, што ад зморанасці не засталося і следу. Санлівасці як і не было. Без слоў яны ўмомант сабраліся ў дарогу і праз некалькі

секунд ужо апынуліся ўнізе Гранітнага палаца. Толькі Топ і Юп асталіся дома. Яны не былі цяпер патрэбны для каланістаў.

Ноч была непранікла цёмная. Маладзік закаціўся разам з сонцам. Як правільна адзначыў Герберт, неба выглядала перадпавальнічным—густыя хмары нізка навіслі над зямлёю, не пакідаючы ніводнага прасвету. Час-ад-часу на гарызонце мільгалі бліскавіцы. Як відаць, на востраў насоўвалася навальніца.

Але ніякая цемра, ніякая навальніца не маглі спыніць каланістаў. Яны добра ведалі дарогу ў караль. Перайшоўшы па мастках на правы бераг ракі Падзякі, яны паглыбіліся ў лес.

Вельмі ўсхваляваныя, яны шпаркімі крокамі пасоўваліся наперад. Яны былі зусім упэўнены, што, нарэшце, цяпер даведаюцца пра разгадку таямніцы, якая так доўга непакоіла іх, убачаць свайго дабрадзея і заступніка, які столькі разоў дапамагаў ім, такога велікадушнага і такога магутнага! Даведаюцца, нарэшце, якім чынам ён заўсёды быў у курсе ўсіх іх планаў і рашэнняў, якім чынам ён заўсёды своечасова аказваўся ў патрэбным месцы!..

Паглыбіўшысь кожны ў свае думкі, каланісты, самі таго не заўважаючы, усё паскаралі хаду. У густой засені дрэў цемра была такая, што нават дарогі не было відаць. Ніводзін гук не парушаў мёртвай цішыні. Чацвераногія і пярнатыя насельнікі лесу, адчуваючы набліжэнне навальніцы, прытаіліся ў сваіх логавах і гнёздах. Ні адзін лісток не шавяліўся на дрэвах у бязветранай духаце. Толькі шум крокаў каланістаў глуха чуўся ў лесе.

За першую чвэртку гадзіны хады маўчанне было парушана толькі заўвагай Пенкрофа

— Трэба было ўзяць ліхтар.

І адказам інжынера:

— Возьмем ліхтар у каралі.

Сайрус Сміт і яго таварышы вышлі з Гранітнага палаца ў дванаццаць хвілін дзесятай гадзіны. У сорак пяць хвілін дзесятай яны прайшлі тры з пяці міль, якія аддзялялі Гранітны палац ад караля.

Бліскавіцы мільгалі на цёмным небе ўсё часцей і часцей. Дзесьці ў далечыні глуха заракатаў гром. Навальніца, як відаць, набліжалася і хутка павінна была разбушавацца. Атмасфера зрабілася душнай.

Каланісты, нібы падганяемыя непераможнай сілай, хутчэй за ўсё беглі, чым ішлі.

У 10 гадзін 15 хвілін ад яркай успышкі маланкі зусім блізка зачарнела агарожа караля. Не паспелі каланісты

ўвайсці ў вароты, як над самай іх галавою грымнуў страшэнны гром.

Каланісты прабеглі двор і спыніліся каля дзвярэй доміка. Зусім магчыма было, што невядомы чакаў іх там, бо ён тэлеграфаваў з караля. Аднак, у вокнах доміка не было святла.

Інжынер пастукаў у дзверы.

Адказу не было.

Сайрус Сміт адчыніў дзверы, і каланісты ўвайшлі ў пакой.

Там панаваў густы змрок.

Пенкроф выкрасаў агонь, і праз секунду ліхтар асвятліў усе куткі пакоя.

У ім нікога не было. Усе рэчы стаялі так, як іх пакінулі ў часе апошняга прыезду каланісты.

— Няўжо мы зрабіліся ахвярай галюцынацыі?—прамармытаў Сайрус Сміт.

Не, гэта было немагчыма!

Тэлеграф ясна перадаў:

«Неадкладна прыходзьце ў караль».

Інжынер падышоў да століка, на якім стаялі прыёмны і перадавальны апараты. Тут таксама ўсё было ў поўным парадку.

— Хто апошнім прыязджаў у караль?—запытаў інжынер.

— Я, містэр Сміт!—адказаў Айртон.

— Калі вы тут былі?

— Чатыры дні таму назад.

— Глядзіце, на стале запіска!—усклікнуў Герберт.

У запісцы было напісана на англійскай мове:

«Ідзіце ўздоўж новай лініі».

— У дарогу!—усклікнуў Сайрус Сміт, зразумеўшы, што тэлеграма была адпраўлена не з караля, а з канечнага пункта новай лініі, якая была далучана да старой і звязвала таямнічы прытулак непасрэдна з Гранітным палацам.

Наб узяў запалены ліхтар, і ўсе вышлі з доміка.

Навальніца бушавала з жахлівай сілай. Інтэрвалы паміж успышкай маланкі і грукатам грому рабілася ўсё карацейшыя.

Неўзабаве гром загрымеў несціхана. Пры ўспышках маланкі відаць была вяршыня гары Франкліна, ахутаная густым воблакам дыму.

У двары караля каланісты не знайшлі новай праводкі, але, вышаўшы за вароты, інжынер убачыў пры святле маланкі, што ад ізалятара першага-ж тэлеграфнага слупа да зямлі спускаецца дрот.

— Тут!—сказаў ён.

Провад цягнуўся па зямлі, але дзякуючы ізаляцыйнай абалонцы ток перадаваўся бесперашкодна.

Лінія, пакручваючыся паміж дрэў, вяла на захад

— Наперад!—сказаў Сайрус Сміт.

То асвятляючы дарогу ліхтаром, то прыглядаючыся да яе пры бляску маланкі, каланісты шпарка ішлі ўздоўж провада.

Гром грукацеў цяпер так моцна і так часта, што было немагчыма размаўляць. Урэшце, каланістам было не да размоў. Усе іх думкі былі накіраваны на тое, што іх чакала ў канцы дарогі.

Каланісты ўзабраліся на ўзгорак, які аддзяляў даліну караля ад даліны ракі Вадапада. Спусціліся па яго схілу і перайшлі ўброд гэтую раку ў самай вузкай яе частцы. Дрот цягнуўся то па зямлі, то па ніжніх галінах дрэў і ўвесь час быў ім надзейным праваднікам.

Інжынеру чамусьці здавалася, што таямнічы прытулак знаходзіцца ў глыбіні даліны ракі Вадапада, але яго меркаванне было памылковым.

Давялося зноў узбірацца на схіл паўднёва-заходняга адгор'я гары Франкліна і спусціцца ў бясплодную раўніну, якая заканчвалася базальтавымі скаламі.

Час ад часу то адзін, то другі каланіст нахіляўся і рукою намацваў провад. Але сумненняў не было—тэлеграфная лінія вяла проста да мора. Відавочна, там, унутры якой-небудзь скалы, было затоена гэтае таямнічае жыллё, якое да гэтага часу так няўдала шукалі каланісты.

Неба было ўсё ў агні. Маланка паблісквала адна за адною. Некалькі разоў яна ўдарала ў вяршыню кратэра і знікала ў густым воблаку дыму. У такія хвіліны здавалася, што гара шугае полымем.

Каля дзесяці гадзін каланісты падышлі да абрывістага берагу акіяна. Усхадзіўся моцны вецер. На пяцьсот футаў ніжэй роў акіян, з грукатам налятаючы на вострыя скалы.

Сайрус Сміт сказаў сваім спадарожнікам, што яны знаходзяцца прыблізна за паўтары мілі ад караля. У тым месцы, дзе яны спыніліся, провад збягаў уніз па стромкаму спаду скалы.

Каланісты пачалі спускацца, рызыкуючы кожную хвіліну быць раздушанымі або сцягнутымі ў мора абвалам камення. Гэты спуск, асабліва ў цемры, быў надзвычай небяспечны. Але яны не думалі пра небяспеку. Яны не валодалі больш сабою. Таямніца цягнула іх да сябе з такою-ж сілаю, з якою магніт прыцягвае жалеза.

Не заўважаючы небяспекі, яны спускаліся па схілу, які і ў дзень быў галаваломным. Камяні асыпаліся пад іх па-

гамі, ляцелі ім у след. Сайрус Сміт ішоў наперадзе. Айртон ішоў з самага заду. У адным месцы яны ішлі адзін за адным, у другім—паўзлі на карачках. Яшчэ далей—давялося спаўзаць то на жываце, то на спіне, сударгава чапляючыся за самую малую гарбіну спаду. Потым яны зноў уставалі на ногі і рушылі ўздоўж провада.

Нарэшце, лінія крута павярнула і знікла ў скалах, якія ўрэзаліся ў акіян і, відаць, заліваліся вадою ў час вялікіх прыліваў. Каланісты дайшлі да самага падножжа базальтавай сцяны.

Провад цягнуўся тут уздоўж вузкага выступу, які ледзь узвышаўся над морам. Каланісты ступілі на гэты выступ, але не прайшлі яны і сотні крокаў па яго нястромаму схілу, як провад знік пад вадою.

Каланісты, дзівячыся, спыніліся, як аслупянелыя.

Крык расчаравання, амаль роспачы вырваўся з іх грудзей. Няўжо трэба будзе нырнуць у ваду і шукаць там падводную пячору? У тым стане найвялікшага хвалявання, у якім яны былі зараз, яны здольны былі зрабіць і гэта.

Але інжынер спыніў іх.

Павярнуўшы назад, ён павёў іх да больш шырокага ўступа і там сеў на абломак скалы.

— Пачакаем тут,—сказаў ён.—Калі пачнецца адліў, шлях будзе зноў адкрыты.

— Чаму вы так думаеце?—запытаў Пенкроф.

— Ён не стаў-бы клікаць нас, калі-б да яго жылля нельга было дабрацца.

У голасе Сайруса Сміта гучэла такая ўпэўненасць, што ніхто не адважыўся пярэчыць. Урэшце, развагі інжынера былі зусім лагічнымі. Як відаць, сапраўды ў скале была адтуліна, якая выходзіла на паверхню вады ў часе адліву і залівалася хвалямі ў часе прыліву.

Чакаць трэба было некалькі гадзін. Каланісты ўвесь час былі маўклівымі. Дождж, які пачаўся, прымусіў іх шукаць прытулку пад навіслай скалою. Дождж усё мацнеў, пакуль не ператварыўся ў суцэльны паток. Рэха паўтарала грукат грому.

Хваляванне каланістаў дасягнула вышэйшага пункту. Тысячамі дзіўных меркаванняў, фантастычных надзей, былі поўны ў іх галовы ад думкі пра хуткае спатканне з загадкавым геніем—заступнікам вострава.

А поўначы Сайрус Сміт узяў ліхтар і спусціўся па ўступу да месца, дзе провад знікаў у хвалях. Адліў пачаўся ўжо гадзіны паўтары таму назад.

Інжынер не памыліўся ў сваіх разліках. Вада, зменшыўшыся, ужо агаліла верх шырокай адтуліны ў скале. Провад пад прамым кутам уваходзіў у яе.

Сайрус Сміт вярнуўся да сваіх спадарожнікаў і проста сказаў ім:

— Праз гадзіну можна будзе ўвайсці ў адтуліну.

— Значыць, яна ёсць?—запытаў Пенкроф.

— А вы сумняваліся ў гэтым?—з дакорам адказаў інжынер.

— Але дно пячоры, напэўна, усё-ж астанецца пакрытым вадою,—сказаў Герберт.

— Або пячора зусім вызваліцца ад вады,—адказаў інжынер,—і мы здолеем прайсці па сухому, або нам будзе дадзены які-небудзь спосаб рушыць па вадзе.

Мінула яшчэ гадзіна. Каланісты выйшлі з-пад скалы і пад праліўным дажджом спусціліся да мора. За тры гадзіны, якія прайшлі ад пачатку адліву, узровень вады знізіўся футаў на пятнаццаць. Верх пячоры ўзвышаўся над вадою самае малае на восем з паловаю футаў. Ён нагадваў цяпер арку маста, пад якою з шумам, пенячыся, працякае шпаркая рака.

Зірнуўшы ўнутр адтуліны, інжынер заўважыў нейкую цёмную рэч, якая плавала поверх вады.

Ён прыцягнуў яе да сябе.

Гэта была лодка, прывязаная вяроўкай да нейкага прычала ўнутры пячоры.

Лодка была зроблена з тонкага ліставога жалеза. Пад лаўкамі ў ёй ляжалі два вяслы.

— Садзіцеся!—сказаў інжынер.

Праз секунду каланісты расселіся ў лодцы. Наб і Айртон узяліся за вёслы, Пенкроф—за руль. Сайрус Сміт стаў на насу з ліхтаром у руцэ і асвятляў дарогу.

Нізка навіслае пры ўваходзе скляпенне раптам узнялося ўгару. У пячоры панаваў густы змрок. Слабога святла ад ліхтара было недастаткова нават для таго, каб вызначыць яе велічыню. Тут панавала мёртвая, унушаючая нячцівасць цішыня. Ні рэў хваль, ні грукат грому не маглі пранікнуць праз тоўшчу сцен пячоры.

У некаторых месцах зямнога шара ёсць вялізныя пячоры, натуральныя склепы, збудаваныя прыродай на здзіўленне людзям. Некаторыя з іх апушчаны пад ваду. Другія ўзвышаюцца над вадою, але ўнутры іх ёсць сапраўдныя азёры. Такі грот Фінгала на адным з Гебрыдскіх астравоў, такі грот Морга ў Брэтані, грот Баніфацыя на Корсіцы, грот Маманта ў Кентукі вышынёю на пяцьсот футаў і ў даўжыню амаль на дваццаць міль.

Што датычыць пячоры, у якой зараз знаходзіліся каланісты, дык велічыню яе пакуль што немагчыма было вызначыць.

На працягу чвэрткі гадзіны лодка плыла па ёй, ідучы следам за провадам, які цягнуўся ўздоўж пячоры.

Час ад часу інжынер камандаваў:

— Стой!

Лодка ўмомант спынялася.

Пераканаўшыся, што провад нікуды не знік, інжынер зноў падаваў каманду.

— Наперад!

І вёслы зноў апускаліся ў ваду, штурхаючы лодку наперад.

Так мінула чвэртка гадзіны. Лодка ад'ехала ад уваходу ў пячору прыблізна з поўмілю, калі раптам пачулася каманда інжынера:

— Стой!

Лодка замерла. Каланісты ўбачылі ў далечыні нейкае яркае святло, якое асвятляла гэтую вялізную пячору, выкапаную прыродай глыбока ў нетрах вострава.

Пры гэтым святле можна было, нарэшце, скласці ўяўленне пра памеры пячоры.

На сотню футаў над вадою ўздымалася скляпенне, якое падтрымлівалася мноствам базальтавых калон, нібы вылітых у адной форме; гэтыя слупы прырода стварыла ў перыяд, калі зямны шар толькі пачаў астываць. Не гледзячы на тое, што знадворку бушавала бура, паверхня вады ў пячоры была гладкая, як люстра.

Яркае святло, якое заўважылі каланісты, дзівосна адлюстроўваючыся ў кожным зубцы, кожным выступе базальта, праходзячы праз прызматычныя вяршыні сталактытаў і сталагмітаў, фантастычна афарбоўвала унутранасць гэтай часткі пячоры. Гладкая паверхня вады адлюстроўвала дзівосныя водбліскі, і лодка, здавалася, плыла між двух светаносных сцен.

Нельга было сумнявацца, адкуль бярэцца гэтае святло. Яго простыя праменні адкідвалі рэзкія цені, падкрэсліваючы капрызныя зломы сцен і скляпення пячоры. Белыя і яркія праменні сведчылі пра тое, што гэта была электрычнасць.

Сайрус Сміт падаў знак і вёслы зноў апусціліся ў ваду, узнімаючы тысячы пырскаў, якія пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі.

Адышоўшы цяпер ад сцяны—пуцяводны дрот быў ужо непатрэбны,—лодка паплыла проста да крыніцы святла, якая знаходзілася за поўкабельтава на паверхні вады.

У гэтым месцы пячора была ў шырыню прыблізна каля трохсот пяцідзесяці футаў. Працілеглая сцяна ўзнімалася ўгору, у густую цемру, праз якую не магло пранікнуць нават электрычнае святло.

У цэнтры пячоры на паверхні вады быў відаць нейкі доўгі падобны на верацяно снарад, нерухомы і маўклівы. Святло выходзіла з яго двума прамымі пукамі, накіраванымі ў процілеглыя бакі. З выгляду гэты снарад быў падобны да гіганцкага кіта. У даўжыню ён быў не менш двухсот пяцідзесяці футаў. Ён выступаў у сярэдняй частцы на дзесяць—дванаццаць футаў над вадою.

Лодка павольна набліжалася да дзіўнага снарада. Сайрус Сміт стаў на насу яе. Ён углядаўся наперад з вялікім хваляваннем. Раптам ён павярнуўся і, моцна сціснуўшы руку журналіста, усклікнуў:

— Гэта ён! Гэта ён! Ён!..

Кажучы гэта, ён апусціўся на лаўку, мармычучы нейкае імя, якое ўчуў толькі, адзін журналіст.

Відаць, пра гэтае імя ведаў і Гедэон Спілет, бо і ён адразу захваляваўся.

— Не можа быць!..—сказаў ён глухім голасам.—Чалавек, які абвешчаны па-за законам?!

— Так, гэта ён!—сцвярджаў Сайрус Сміт.

Лодка падышла ўсутыч да дзіўнага плывучага снарада і прычаліла да яго левага барта каля тоўстага шкла, праз якое праходзіў прамень святла.

Сайрус Сміт першым узышоў на ўзняты з-пад вады масток. Яго спадарожнікі рушылі за ім. Перад імі чарнела адтуліна люка. Усе падаліся ў яе.

Унізе лесьнічкі быў відаць вузкі ўнутраны праход, ярка асветлены электрычнасцю. У канцы яго былі дзверы. Сайрус Сміт адчыніў іх.

Пышна абсталяваная сталовая, праз якую паспешна прайшлі каланісты, межавалася з бібліятэкай, залітай святлом. Дзверы з двух палавінак у глыбіні бібліятэкі вялі ў наступны пакой. Інжынер адчыніў іх, і каланісты апынуліся ў прасторным салоне, які нагадваў музей дзякуючы вялікай колькасці прадметаў раскошы і твораў мастацтва, якія былі тут.

Узрушаным каланістам на хвіліну здалося, што яны трапілі ў краіну мар.

Не адразу яны заўважылі чалавека, які ляжаў на мяккай канапе. Гэты чалавек у сваю чаргу, здавалася, не заўважыў іх прыходу.

Сайрус Сміт падышоў да канапы і, на вялікае здзіўленне каланістаў, сказаў:

— Капітан Немо, вы загадалі нам з'явіцца? Мы прыйшлі.

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

*Капітан Немо.—Яго першыя словы.—Гісторыя барацьбіта за незалежнасць.—Нянавісць да прыгнятальнікаў.—Яго таварышы.—Жыццё пад вадою.—Адзінота.—Апошні прытулак „Наўцілуса".—Заступнік вострава.*

Пачуўшы гэтыя словы, чалавек прыўзняўся, і каланісты ўбачылі яго дзівосную галаву, высокі лоб, горды позірк, белую бараду і густыя зачасаныя назад валасы.

Аблакаціўшыся на валік канапы, ён спакойна пазіраў на каланістаў. Відаць было, што цяжкая хвароба падтачыла яго здароўе. Але голас яго быў цвёрды, калі ён тонам найвялікшага здзіўлення сказаў па-англійску:

— У мяне няма імя, судар!

— Я вас ведаю,—адказаў інжынер.

Капітан Немо накіраваў на інжынера вогненны позірк, нібы жадаючы спапяліць дзёрзкага.

Але зараз-жа ўпаў зноў на падушкі канапы і прамармытаў:

— Цяпер гэта немагчыма; я ўсёроўна паміраю!..

Сайрус Сміт і Гедэон Спілет наблізіліся да канапы. Журналіст узяўся за руку капітана Немо. Яна палала. Айртон, Наб, Пенкроф і Герберт скромна асталіся стаяць у кутку багатага салона.

Капітан Немо зараз-жа вырваў руку і знакам запрасіў інжынера і журналіста сесці.

Каланісты пазіралі на старога з глыбокім хваляваннем. Нарэшце яны ўбачылі перад сабою таго, хто столькі разоў выручаў іх з бяды, свайго таямнічага і магутнага заступніка...

Той, хто, як думалі Пенкроф і Наб, павінен быў быць поўбогам, аказаўся звычайным старым, і стары гэты збіраўся памерці...

Але як здарылася, што Сайрус Сміт ведаў капітана Немо? Чаму той так жвава прыўзняўся з сваёй пасцелі, пачуўшы, што інжынер заве яго гэтым імем?

Капітан Немо накіраваў доўгі і пранікліві позірк на інжынера.

— Вы ведаеце імя, якое я меў?—запытаў ён.

— Так, я ведаю яго, як ведаю назву гэтай дзівоснай падводнай лодкі...

— «Н а ў ц і л у с»,—усміхнуўся капітан.

— «Н а ў ц і л у с»,—адказаў інжынер.

— Ці ведаеце вы...ці ведаеце вы, хто я такі?

— Ведаю.

— Але ўжо каля трыццаці год я не звязан з грамад-

ствам, трыццаць год, як я жыву пад вадою, у адзіным месцы, дзе ніхто не можа пасягнуць на маю незалежнасць! Хто-ж выдаў маю таямніцу?

— Чалавек, які не даваў ніякіх абяцанняў захоўваць вашу таямніцу і таму вольны ад таго, каб яго папракнулі за здраду!

— Няўжо той француз, якога лёс закінуў да мяне на борт шаснаццаць год таму назад?

— Ён самы.

— Значыць, ні ён, ні двое яго таварышоў не загінулі ў мальстрэме?

— Не, яны не загінулі. Гэты француз надрукаваў кнігу пад назвай «80 000 кілометраў пад вадою», у якой расказаў вашу гісторыю...»

— Гісторыю толькі некалькіх месяцаў майго жыцця!— жвава перапыніў капітан Сайруса Сміта.

— Так. Але і апісанне некалькіх месяцаў гэтага здзіўляючага жыцця дастаткова, каб пазнаць вас...—адказаў Сайрус Сміт.

— І каб палічыць мяне вялікім злачынцам?—насмешліва скрывіўшы губы, запытаў капітан Немо.—Адшчапенцам, які павінен быць, як пракажоны, выгнан з грамадства? Так?

Інжынер змаўчаў.

— Чаму-ж вы не адказваеце, судар?

— Мне не да твару судзіць капітана Немо,—адказаў інжынер,—асабліва яго мінулае жыццё. Як і ўсе людзі, я не ведаю прычын, якія прымусілі вас абраць гэты дзіўны спосаб жыцця. Я не бяруся таму меркаваць пра вынікі, не ведаючы прычын. Але затое я добра ведаю, што дружацкая рука заступалася за нас з першага дня нашага з'яўлення на востраве Лінкольна, што ўсе мы абавязаны жыццём вялікадушнаму, магутнаму і добраму стварэнню—вам, капітан Немо! Гэта я ведаю цвёрда.

— Так, мне,—проста сказаў капітан.

Інжынер і журналіст усталі з крэслаў. Астатнія каланісты пацішу падышлі да старога, і ўдзячнасць, якая поўніла іх сэрцы, гатова была быць выказана словамі і жэстамі.

Капітан Немо спыніў іх рухам рукі і голасам, які выяўляў вялікае хваляванне, сказаў:

— Раней выслухайце мяне.

І капітан Немо коратка расказаў ім гісторыю свайго жыцця.

Аповесць яго была кароткая, але ўсё-ж яму давялося намагчы ўсю сілу, каб дагаварыць яе да канца. Было відавочна, што ён змагаецца са страшэннай слабасцю. Некалькі разоў Сайрус Сміт прапаноўваў яму перапыніць расказ і

адпачыць, але ён кожны раз адмоўна ківаў галавою, як чалавек, які не разлічвае на свой заўтрашні дзень.

Калі журналіст прапанаваў аказаць медыцынскую дапамогу, ён коратка адказаў:

— Мне нішто не можа дапамагчы. Маё жыццё канчаецца.

Капітан Немо быў індусам па паходжанню. Яго звалі прынцам Дакарам, і ён быў сынам раджы, уладара незалежнай дзяржавы Бундэлькунда, і пляменнікам вядомага індыйскага героя Тыпо-Саіба. Калі яму мінула дзесяць год, бацька накіраваў хлопчыка ў Еўропу, каб ён атрымаў там закончаную еўрапейскую адукацыю, з надзеяй, што гэта дапаможа сыну аднолькавай зброяй змагацца з тымі, каго раджы лічыў прыгнятальнікамі і захопнікамі сваёй радзімы.

Ад дзесяці да трыццаці год прынц Дакар, маючы надзвычайны розум і моцную волю, вучыўся ў лепшых выкладчыкаў і вучоных Еўропы.

За гэты-ж час ён аб'ездзіў усю Еўропу. Яго знатнасць і багацце расчынілі перад ім усе дзверы, але свецкія спакусы не цягнулі яго.

Усё жыццё яго, усе яго прагныя пошукі ведаў служылі адной мэце: помсце.

Ён ненавідзеў адну еўрапейскую краіну, у якую ён ні разу не ступіў нагою, не гледзячы на неаднаразовыя запрашэнні. Ён ненавідзеў Англію таксама страсна, як у шмат якіх адносінах схіляўся перад ёю.

У гэтым індусе, здавалася, была сканцэнтравана ўся нянавісць падняволенай нацыі да захопнікаў. Прыгнятальнікі не павінны былі чакаць літасці ад прыгнечаных. Сын уладара краіны, якая толькі намінальна падпарадкавалася злучанаму каралеўству, блізкі родзіч Тыпо-Саіба, які ўвабраў прагу да помсты разам з малаком маці, які бязмежна любіў сваю няшчасную, скаваную англійскімі ланцугамі радзіму, прынц Дакар ніколі не ступаў нагою на тройчы праклятую ім зямлю Англіі, якая закабаліла і прынізіла яго бацькаўшчыну.

Закончыўшы сваю адукацыю, прынц Дакар зрабіўся адмысловым знаўцам мастацтваў, з думкай якога лічыліся лепшыя мастакі, паэты, артысты. Ён зрабіўся вучоным, перад аб'ёмам ведаў якога схіляліся акадэмікі. Ён зрабіўся дзяржаўным дзеячам, які ўнушаў глыбокую павагу міністрам і дыпламатам.

Павярхоўнаму назіральніку ён здаўся-б адным з сумуючых касманалітаў, які вандруе па белым свеце дзеля цікаўнасці, але які не здольны ні на якія-колечы рашучыя учын-

кі,—грамадзянінам усяго свету, які не мае або не хоча ведаць сваёй радзімы.

Але гэта было толькі для выгляду. Гэты мастак, гэты вучоны аставаўся індусам па розуму, індусам па сэрцу, індусам па празе да помсты, індусам па надзеі, якая падтрымлівала яго сілы—у які-колечы дзень прагнаць англічан з сваёй радзімы і звярнуць ёй яе былую незалежнасць.

Закончыўшы асвету, прынц Дакар вярнуўся ў Бундэлькунд. Ён жаніўся на індусцы, якая таксама, як і ён сам, бедавала пра няшчасці Індыі.

У іх нарадзілася двое дзяцей, да які́х прынц быў бясконца прывязаны. Але сямейнае шчасце не засланяла ад яго няшчасцяў радзімы. Ён чакаў толькі выпадку, каб пачаць дзейнічаць. Нарэшце, гэты выпадак настаў.

Прыгнёт англійскага панавання стаў нястрымным для індыйскага народу. Прынц Дакар зрабіўся рупарам незадаволеных. Ён запаліў у іх душах той самы агонь нянавісці да прыгнятальнікаў, які палаў у яго грудзях. Ён аб'ехаў усю Індыю, пабываў і ў незалежных акругах і ў тых, якія вымушаны былі прызнаць уладу гвалтаўнікоў. Усюды, ён абуджаў успаміны пра гераічныя дні паўстання, узнятага Тыпо-Саібам супроць прыгнятальнікаў, пра трагічную яго смерць ад рукі англічан у Сэрнігапатаме.

У 1857 годзе ўспыхнула вядомае паўстанне сіпаеў. Прынц Дакар быў арганізатарам і натхніцелем гэтага паўстання. Ён аддаў усё сваё багацце, увесь свой талент, усяго сябе без астатку гэтаму паўстанню. Ён не шкадаваў сябе. Ён змагаўся ў першых радах барацьбітоў, шмат разоў рызыкуючы сваім жыццём, як тысячы іншых безыменных герояў, якія ўзняліся на абарону сваёй бацькаўшчыны.

Ён быў дзесяць разоў ранены, але не знайшоў смерці ў баях нават тады, калі апошнія барацьбіты за незалежнасць загінулі ад англійскіх куль.

Ніколі раней брытанскаму панаванню ў Індыі не пагражала такая сур'ёзная небяспека. Калі-б сіпаі сустрэлі падтрыманне з боку іншых народаў, як яны спадзяваліся, магчыма Англіі давялося-б развітацца з сваімі азіяцкімі уладаннямі.

Імя прынца Дакара ўраз зрабілася вядомым для ўсяго свету. Ён не скрываў свайго ўдзелу ў паўстанні і змагаўся зусім адкрыта супроць Брытаніі. За яго галаву была прызначана буйная ўзнагарода, але не знайшлося ва ўсёй Індыі чалавека, які адважыўся-б прадаць яго. Затое яго бацька, маці, жонка і дзеці заплацілі за яго сваімі галовамі, раней чым ён даведаўся пра небяспеку, якая ім пагражала.

Права і гэтым разам павінна было ўступіць сіле.

Паўстанне сіпаеў было падаўлена, і Індыя трапіла ў яшчэ большае рабства, чым да яго.

Прынц Дакар, які не змог памерці ў баі, вярнуўся ў горы Бундэлькунда. Апанаваны бязмежнай агідай да ўсяго чалавецтва, асабліва ненавідзячы і пагарджаючы так званае «цывілізаванае» грамадства, ён вырашыў назаўсёды пайсці ад людзей. З гэтай мэтай ён сабраў чалавек дваццаць бязмежна адданых, якія засталіся жывымі, саратнікаў і разам з імі ў адзін дзень знік.

Дзе-ж прынц Дакар знайшоў тую незалежнасць, якой ён не мог дамагчыся на заселенай зямлі? Пад вадою, у глыбіні акіяна, куды ніхто не мог за ім пайсці!

Вучоны ўзяў верх над воінам. На адным з пустэльных астравоў Ціхага акіяна ён пабудаваў сваю верф і пачаў будаўніцтва падводнай лодкі ўласнай канструкцыі. Вялізная механічная сіла электрычнай энергіі, якая бралася з невычарпальнай крыніцы спосабам, пра які ён нічога не захацеў паведаміць, абслугоўвала ўсё на гэтым падводным караблі— і рух, і ацяпленне, і асвятленне. Мора з яго безліччу багаццяў цалкам здавальняла ўсе патрэбы індыйскага прынца і яго экіпажа. Яны змаглі такім чынам ажыццявіць сваё заветнае жаданне—парваць усякую сувязь з зямлёю!

Прынц Дакар назваў свой падводны карабль «Наўцілусам», сябе—капітанам Немо і назаўсёды схаваўся пад вадою.

На працягу многіх год падводнага плавання ён наведаў усе акіяны, ад полюса да полюса. Выгнаннік заселенага свету, ён быў уладаром незаселенага. Ён сабраў тут вялікія багацці. Мільёны залатых манет, якія загінулі ў 1702 годзе разам з іспанскімі галіётамі ў бухце Віго, былі для яго фондам для аказання безіменнай дапамогі народам, якія змагаліся за сваю свабоду.

Шмат год плаваў ён пад вадою, не сустракаючыся з людзьмі, якія жылі на паверхні зямлі, калі нечакана ў ноч на 6 лістапада 1856 года[1] тры чалавекі трапілі да яго на борт. Гэта былі француз-прафесар, яго слуга і канадскі рыбак. Гэтыя трое ўпалі ў ваду ў час сутычкі «Наўцілуса» з амерыканскім фрэгатам «Аўраамам Лінкольнам».

Француз-прафесар паведаміў капітану Немо, што «Наўцілус», які адны лічылі за гіганцкага кіта, а другія за падводны карабль з пірацкім экіпажам, шукаюць ва ўсіх морах флоты ўсіх краін.

---

[1] Чытач заўважыў, напэўна, супярэчнасць у датах. Аўтар сам адзначае яе, ва ўвазе да французскага выдання.

Капітан Немо мог выкінуць зноў у акіян гэтых трох людзей, якія выпадкова праніклі ў таямніцу яго жыцця. Але ён не зрабіў гэтага. І на працягу сямі месяцаў гэтыя трое людзей маглі захапляцца дзівотамі падводнага плавання, у часе якога было пройдзена 80 000 кілометраў.

Аднойчы—гэта здарылася 22 чэрвеня наступнага, 1857 года—гэтыя трое людзей, якія нічога не ведалі пра мінулае капітана Немо, ухітрыліся заўладаць карабельнай шлюпкай і ўцячы з «Н а у ц і л у с а». З той прычыны, што ў гэты час вадаварот мальстрэма цягнуў падводную лодку да берагоў Нарвегіі, капітан Немо быў упэўнены, што людзі загінулі, не адолеўшы страшэннай плыні. Ён не падазраваў, што яны шчасліва былі выкінуты на бераг, падабраны лафонтэнскімі рыбакамі і шчасліва вярнуліся на радзіму, дзе прафесар неўзабаве надрукаваў праўдзівы расказ пра сем месяцаў свайго плавання пад вадою на «Н а у ц і л у с е»[1].

Яшчэ шмат год капітан Немо прадаўжаў свае падводныя вандраванні. Але паступова, адзін за адным, яго спадарожнікі і таварышы знаходзілі апошняе заспакаенне на каралавых могілках на дне Ціхага акіяна. «Н а у ц і л у с» пусцеў. Нарэшце, настаў дзень, калі капітан Немо астаўся на ім адзін. Яму было тады шэсцьдзесят год. Астаўшыся адзін, ён накіраваў свой карабль у адзін з тых падводных партоў, у якіх раней «Н а у ц і л у с» спыняўся для рознага дробнага рамонту.

Якраз адным з такіх партоў і з'яўляўся падводны грот на востраве Лінкольна. На працягу шасці год капітан Немо не выязджаў адсюль, чакаючы смерці.

Выпадкова ён прысутнічаў пры крушэнні паветранага шара. Апрануты ў вадалазны касцюм, ён прахаджваўся пад вадою за некалькі кабельтовых ад берагу, калі інжынер упаў у ваду. Велікадушны парыў прымусіў капітана выратаваць Сайруса Сміта.

Аднак, як толькі на востраве з'явіліся людзі, ён вырашыў паехаць. Але выявілася, што за шэсць год стаяння ў гроце базальтавая скала каля мора паднялася і загарадзіла выйсце. Вады ставала толькі для праходу лёгкай лодкі, але вялізны «Н а у ц і л у с» апынуўся ў палоне.

Капітану Немо давялося астацца на востраве. З цікаўнасці ён пачаў прыглядацца да жыцця пяці каланістаў, але стараўся, каб яны яго не ўбачылі. Патроху ён бліжэй уведаў гэтых людзей—убачыў, што яны энергічныя, сумленныя, пабрацку любяць адзін аднаго. Ён не мог не прывязацца

---

[1] Гл. раман Жуль Верна „80 000 кілометраў пад вадою".

да іх. Амаль супроць волі ён быў у курсе ўсіх падзей іх жыцця.

Апрануўшы скафандр[1], ён забіраўся ўнутр калодзежа і там, падняўшыся па ступеньках у яго сценах да верхняй адтуліны, нябачна прысутнічаў у часе іх гутаркі, успамінаў пра мінулае, абмеркаванні планаў будучыні. Так, гэтыя людзі прымірылі капітана Немо з чалавецтвам—так дастойна яны прадстаўлялі яго на востраве.

Капітан Немо выратаваў Сайруса Сміта. Ён-жа адвёў Топа ў Камін, забіў ламантына і выкінуў нядзейнага сабаку з вады, падкінуў скрыню на пясок каля мыса Знаходкі, спусціў човен па плыні ракі Падзякі, скінуў лесніцу з дзвярэй Гранітнага палаца пасля нападу малпаў, падкінуў бутэльку з паведамленнем пра Айртона, узарваў піраццкі брыг тарпедай, выратаваў Герберта, прынёсшы карабочак з хінінам, і, нарэшце, забіў катаржнікаў электрычнымі кулямі—уласным вынаходствам, якое ён скарыстоўваў у час падводнага палявання. Так растлумачвалася мноства здарэнняў, якія, здавалася, былі ў выніку ўмяшання нейкіх звышнатуральных сіл, але якія ўсе сведчылі толькі пра вялікадушша і магутнасць капітана Немо.

Гэты вялікі чалавеканенавіснік прагнуў тварыць дабро. Яму захацелася перад смерцю даць каланістам некалькі важных парадаў. Адчуваючы, што яго сэрца нядоўга будзе біцца, ён злучыў тэлеграфную лінію Гранітны палац—караль з «Н а у ц і л у с а м» і, калі яму зрабілася зусім дрэнна, выклікаў да сябе каланістаў... Магчыма, ён не зрабіў-бы гэта, калі-б думаў, што Сайрус Сміт ведае частку яго гісторыі...

Капітан Немо закончыў свой расказ.

Сайрус Сміт узяў тады слова.

Пералічыўшы ўсе падзеі, калі ўмяшанне капітана выручала калонію з цяжкага становішча, ён горача падзякаваў вялікадушнаму заступніку ад імя ўсіх сваіх таварышоў і самога сябе. Але капітану Немо непатрэбна была падзяка за зробленыя для калоніі паслугі. Яго непакоіла адна думка. І, раней чым паціснуць працягнутую яму інжынерам руку, ён сказаў:

— Цяпер вы ведаеце гісторыю майго жыцця. Судзіце яго!

Як відаць, капітан намякаў на падзею, сведкамі якой былі трое чужаземцаў, закінутых да яго на борт. Пра гэтую падзею не мог змаўчаць у сваёй кнізе француз прафесар, і яна павінна была выклікаць цэлую буру гневу ва ўсім свеце.

---

[1] *Скафандр* — вадалазны касцюм.

Сапраўды, за некалькі дзён да ўцёкаў француза і яго спадарожнікаў «Н а у ц і л у с», за якім гнаўся ў Атлантычным акіяне нейкі фрэгат, апусціся ў ваду і, пратараніўшы свайго праследавальніка, пусціў яго на дно.

Сайрус Сміт зразумеў, пра што пытаецца капітан, і нічога не адказаў.

— Гэта быў англійскі фрэгат, судар!—усклікнуў капітан Немо, ператварыўшыся на момант зноў у прынца Дакара. Англійскі фрэгат, чуеце? Ён напаў на мяне? Я знаходзіўся ў вузкай і неглыбокай падводнай даліне... Я павінен быў прайсці, і я прайшоў!..

І больш спакойным голасам ён дадаў:

— Праўда была мая. Усюды, дзе толькі можна было, я рабіў дабро і караў зло. Не заўсёды справядлівасць заключаецца ў даравання!

Маўчанне было адказам на гэтыя словы.

— Што-ж вы думаеце пра мяне, панове?—паўтарыў сваё запытанне капітан Немо.

Сайрус Сміт працягнуў руку капітану і ціха адказаў:

— Ваша праўда ці не, але вам няма чаго баяцца суда гісторыі. Сумленныя людзі, якія стаяць перад вамі, не будуць вас судзіць, але будуць заўсёды аплакваць вас.

Герберт наблізіўся да канапы, апусціўся на калені і, паднёсшы да губ руку капітана, пацалаваў яе.

Сляза скацілася з вачэй паміраючага.

— Будзь шчаслівы, мой хлопчык!—прашаптаў ён.

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

*Апошнія гадзіны капітана Немо.—Апошняя воля паміраючага.—Труна капітана Немо.—Некалькі парад каланістам.—Урачыстая хвіліна.—У глыбіні грота.*

Настала раніца. Ні адзін прамень дзённага святла не пранікаў у глыбокі грот. Але электрычнае святло з «Н а у ц і л у с а» таксама ярка асвятляла ўсё, што было вакол плывучага карабля.

Вялікая стома аўладала капітанам Немо. Ён адкінуўся на падушкі канапы. Каланісты хацелі перанесці яго ў Гранітны палац, але ён не жадаў пакінуць «Н а у ц і л у с а».

Капітан Немо доўгі час ляжаў нерухома, можа, нават непрытомны.

Гедэон Спілет і Сайрус Сміт за гэты час уважліва аглядзелі яго. Было зусім відавочна, што жыццё капітана Немо згасала. Сілы зусім пакінулі гэтае некалі дужае цела, і ўсё жыццё згрупавалася ў захаваўшым поўную яснасць думак мазгу і сэрцы, якое слаба білася.

Інжынер і журналіст ціха раіліся. Ці можна было чым-небудзь аблягчыць стан паміраючага? Ці можна было калі не выратаваць яму жыццё, дык хоць прадоўжыць яго на некалькі дзён?

Сам капітан Немо сцвярджаў, што ніякага лякарства супроць яго хваробы няма нідзе, і без страху чакаў смерці.

— Мы нічым не можам дапамагчы яму,—сказаў Гедэон Спілет.

— Але ад чаго ён памірае?—запытаў Пенкроф.

— Ад нястачы жыццёвых сіл,—адказаў журналіст.

— Але, можа, яны з'явяцца, калі перанесці яго на свежае паветра, на сонца?—настойваў марак.

— Не, Пенкроф,—адказаў інжынер.—Гэтым не дапаможаш. Урэшце, і сам капітан Немо ні завошта не згадзіцца расстацца са сваім суднам. Ён трыццаць год жыве на «**Н а у ц і л у с е**» і на «**Н а у ц і л у с е**» хоча і памерці.

Як відаць, капітан Немо пачуў адказ інжынера, бо ён ледзь прыўзняўся на канапе і слабым, але выразным голасам сказаў:

— Ваша праўда. Я павінен і хачу памерці тут. І ў мяне ёсць просьба да вас...

Сайрус Сміт і астатнія каланісты зноў наблізіліся да канапы. Яны паправілі падушкі, каб паміраючаму было ямчэй ляжаць.

Яго позірк спыніўся на дзівах, сабраных у гэтым салоне, асветленым захаванымі ў столі электрычнымі лямпамі. Ён па чарзе паглядзеў на ўсе карціны, якія віселі на цудоўнай тканіне, якою былі абабіты сцены салона, на гэтыя скарбы мастацтва, якія стварылі вялікія майстры—італьянцы, фламандцы, французы і іспанцы, на мрамарныя і бронзавыя статуі, якія ўзвышаліся на цудоўных п'едэсталах, на вялізны арган, што займаў цэлую сцяну, на вітрыны, у якіх былі ўзоры самых каштоўных дароў мора—марскіх раслін, зоафітаў, ніткі жэмчугоў нябачнай прыгажосці,—і, нарэшце, позірк яго спыніўся на дэвізе «Н а у ц і л у с а», напісаным золатам на мрамарнай дошцы над дзвярмі гэтага своеасаблівага музея:

„РУХАВЫ Ў РУХАВЫМ"

Здавалася, капітан Немо хацеў у астатні раз праласкаць позіркам усе гэтыя скарбы мастацтва і прыроды, у акружэнні якіх ён быў на працягу трыццаці год

Сайрус Сміт пачціва чакаў, пакуль паміраючы загаворыць зноў.

Мінула некалькі хвілін, на працягу якіх перад капітанам

Немо, напэўна, прамільгнула ўсё яго доўгае жыццё. Нарэшце, ён павярнуўся тварам да каланістаў і сказаў:

— Вы, здаецца, лічыце, што абавязаны мне?

— Капітан,—адказалі каланісты,—мы з радасцю аддалі-б сваё жыццё, каб прадоўжыць ваша.

— Добра,—сказаў капітан Немо,—добра!.. Абяцайце мне выканаць маю апошнюю волю, і вы разлічыцеся са мною за ўсё, што я для вас зрабіў.

— Даем клятву!—адказаў за ўсіх Сайрус Сміт.

— Заўтра я памру...—пачаў капітан.

Герберт хацеў запярэчыць, але капітан Немо знакам спыніў яго.

— Заўтра я памру,—прадаўжаў ён,—і я не хачу іншай труны, як «Наўцілус». Усе мае сябры спачываюць на дне морскім, і я хачу падзяліць іх лёс.

Словы капітана Немо былі спатканы глыбокай маўклівасцю.

— Слухайце мяне ўважліва,—прадаўжаў паміраючы.— «Наўцілус» заперты ў гэтай пячоры базальтавай скалою, якая паднялася з морскага дна. Але калі ён не можа пераскочыць цераз бар'ер, дык затое ён можа апусціцца на дно прорвы, прыкрытай скляпеннем гэтай пячоры, і захоўваць там мае смертныя астанкі.

Каланісты пачціва слухалі паміраючага.

— Заўтра, містэр Сміт, вы і вашы таварышы пакінеце «Наўцілус». Усе багацці, сабраныя ў ім, павінны знікнуць навекі разам са мною. На ўспамін аб прынцу Дакару, гісторыю якога вы цяпер ведаеце, вам астанецца толькі адна рэч—вось гэты куфэрак... У ім захаваны алмазы, сабраныя мною і маімі таварышамі на дне мора. Я ўпэўнены, што ў вашых руках гэтыя скарбы будуць служыць справе дабра, а не зла!

Пасля некалькіх хвілін маўчання капітан Немо зноў сабраў сілу і прадаўжаў:

— Заўтра вы забярэце гэты куфэрак і, вышаўшы з салона, зачыніце за сабою дзверы. Падняўшыся на мосцік «Наўцілуса», вы зачыніце накрыўку люка і наглуха закруціце яе шрубамі.

— Мы гэта зробім, капітан!—адказаў Сайрус Сміт.

— Добра. Потым вы сядзеце ў тую-ж лодку, на якой вы сюды прыехалі. Толькі, раней чым адчаліць ад «Наўцілуса», падплывіце да кармы і адкруціце краны, якія знаходзяцца пад ватэр-лініяй. Вада пранікне ў рэзервуары, і «Наўцілус» паступова апусціцца ў ваду, каб знайсці вечны спачын на самым дне мора.

На пярэчлівы жэст Сайруса Сміта капітан Немо адказаў:

— Не бойцеся! Вы пахаваеце мерцвяка!

Ніхто з каланістаў не пярэчыў капітану Немо. Гэта была апошняя воля паміраючага, і трэба было ёй падпарадкавацца.

— Ці абяцаеце вы мне выканаць усё дакладна?—запытаў капітан Немо.

— Абяцаем!—адказаў за ўсіх інжынер.

Паміраючы ў падзяку кіўнуў галавою і папрасіў пакінуць яго аднаго на некалькі гадзін. Гедэон Спілет прапанаваў астацца з ім, на выпадак, калі яму раптам стане дрэнна, але капітан наадрэз адмовіўся.

— Я пражыву да заўтрага,—сказаў ён.

Каланісты вышлі з салона, прайшлі праз бібліятэку і сталовую і трапілі ў машынную залу ў насавой частцы лодкі. «Н а у ц і л у с» быў сапраўдным тэхнічным дзівам, і інжынер, разглядаючы яго, не пераставаў захапляцца.

Каланісты вышлі затым на палубу, якая ўзвышалася на дзесяць-дванаццаць футаў над вадою, і расселіся на пярылах каля электрычнага пражэктара, устаноўленага ў рулявой рубцы.

Спярша каланісты, пад свежым уражаннем ад толькі што перажытых хваляванняў, былі маўклівыя. Сэрцы іх сціскаліся ад болю, калі яны ўспомнілі, што чалавек, які столькі разоў працягваў ім руку дапамогі, павінен памерці... А яны пазнаёміліся з ім толькі некалькі гадзін таму назад!

— Вось гэта чалавек!—ціха сказаў Пенкроф.—Ці можна паверыць, што большую частку свайго жыцця ён пражыў у глыбінях акіяна! Проста прыкра робіцца, калі падумаеш, што і там ён не знайшоў спакою.

— «Н а у ц і л у с»,—сказаў Айртон,—мог-бы даставіць нас да якой-небудзь заселенай зямлі...

— Ну, ужо ў кожным разе не я вазьмуся кіраваць гэтым суднам! Плаваць па вадзе—колькі хочаце! Але пад вадою—прабачайце!—запярэчыў Пенкроф.

— А я думаю,—заўважыў журналіст,—што кіраванне такою падводнай лодкай, як «Н а у ц і л у с», павінна быць надзвычай простым, Пенкроф, і вы хутка асвоіліся-б з ім. На «Н а у ц і л у с е» можна не баяцца ніякіх бур: апусціцеся на некалькі футаў пад ваду—і там гэтак спакойна, як у ванне!

— Магчыма,—адказаў марак.—Але я лічу за лепшае спаткаць свежы вецер на барту добра аснашчанага судна. Караблі створаны для таго, каб плаваць п а вадзе, а не п а д вадою!

— Сябры мае,—умяшаўся інжынер,—не варта спрачацца пра перавагі над- і падводных караблёў, па крайняй меры ў сувязі з «Н а у ц і л у с а м». «Н а у ц і л у с» не належыць нам, і мы не маем права карыстацца ім. Не кажучы ўжо пра тое, што карабль не можа выбрацца з гэтай пячоры,— капітан Немо хоча, каб яго астанкі спачывалі тут, а воля капітана Немо для нас закон!

Каланісты спусціліся ў сталовую, спехам падсілкаваліся і затым вярнуліся ў салон.

Капітан Немо абудзіўся ад забыцця, і вочы яго зноў набылі ранейшы бляск. Ён нават нібы ўсміхаўся.

Каланісты наблізіліся да яго.

— Сябры мае,—сказаў паміраючы,—усе вы мужныя, сумленныя і добрыя людзі. Вы ўсе беззаветна аддаены агульнай справе. Я часта назіраў за вамі і паспеў палюбіць вас. І зараз я люблю вас! Вашу руку, містэр Сміт!

Сайрус Сміт працягнуў руку капітану, і той па-дружацку паціснуў яе.

— Як хораша!—прашаптаў капітан Немо.

Затым ён прадаўжаў:

— Але не варта гаварыць пра мяне! Я хочу пагутарыць з вамі пра вас саміх і пра востраў Лінкольна, які прытуліў вас... Ці думаеце вы пакінуць яго?

— Толькі з тым, каб зноў вярнуцца!—адказаў Пенкроф.

— Каб вярнуцца сюды?.. Так, я і забыўся, Пенкроф,— усміхнуўся капітан,—што вы ўлюбіліся ў гэты востраў... Вы змянілі яго выгляд, і ён сапраўды належыць вам!

— Мы мяркуем,—сказаў Сайрус Сміт,—арганізаваць тут сапраўдную калонію Злучаных штатаў.

— Вы не забываецеся пра сваю радзіму,—з гаркотаю сказаў паміраючы,—а ў мяне няма радзімы, і я паміраю далёка ад усяго, што я любіў...

— Можа, вам патрэбна перадаць каму-небудзь ваша апошняе жаданне?—запытаў інжынер.—Або прывітанне сябрам, якія жывуць у гарах Індыі?

— Не, містэр Сміт, у мяне не асталося сяброў! Я апошні з свайго роду. І я даўно памёр для ўсіх тых, хто мяне ведаў... Але вернемся да пытання пра вас. Адзіноцтва, адарванасць ад свету—гэта сумны стан. Не кожнаму па сіле вытрымаць яго... Вы павінны ўсё зрабіць для таго, каб вырвацца з вострава Лінкольна і вярнуцца ў чалавечае грамадства! Я ведаю, што гэтыя нягоднікі знішчылі збудаванае вамі судна...

— Мы будуем новае, большае,—сказаў Гедэон Спілет,— на якім можна будзе дабрацца да заселеных земляў. Але

раней ці пазней мы вернемся сюды. Занадта шмат мы тут перажылі, каб забыць востраў Лінкольна!

— Тут мы ўведалі вас,—сказаў Сайрус Сміт.

— Тут мы будзем заўсёды ўспамінаць усё дабро, зробленае вамі,—дадаў Герберт.

— І тут я буду спачываць вечным сном...—адказаў капітан.

Ён не дакончыў сказу, змоўк і пасля некаторага вагання дадаў:

— Містэр Сміт, я хацеў-бы пагаварыць з вамі... адзін на адзін.

Каланісты паспяшылі выканаць жаданне паміраючага і вышлі з пакоя.

На працягу некалькіх хвілін Сайрус Сміт размаўляў адзін на адзін з капітанам Немо. Потым ён зноў зайшоў у салон сваіх таварышоў, але ні слова не сказаў пра таямніцу, пра якую яму паведаміў паміраючы.

Гедэон Сміт агледзеў хворага. Было зусім відавочна, што жыццё ў ім трымаецца толькі напружаннем волі, але і яе неўзабаве павінна было перамагчы фізічнае знясіленне.

Дзень прайшоў без перамен. Каланісты не пакідалі «Н а у ц і л у с а». Неўзаметку настала ноч. Капітан Немо не пакутваў ад болю, але жыццё яўна пакідала яго. Яго благародны твар, які пабляднеў ад набліжэння смерці, быў зусім спакойны. Канечнасці яго пачалі ўжо халаднець.

Незадоўга да поўначы капітан Немо праз сілу скрыжаваў рукі на грудзях, нібы хацеў памерці ў гэтай позе.

Да гадзіны ночы ўсе праявы жыцця ў яго згрупаваліся толькі ў вачах.

Але неўзабаве і яны заплюшчыліся.

Капітан Немо памёр.

Герберт і Пенкроф плакалі. Айртон выцер набеглую слязу. Наб апусціўся на калені побач нерухомага, як статуя, журналіста.

Сайрус Сміт, падняўшы руку ў гору, сказаў:

— Мы навекі захаваем пра цябе ўдзячную памяць!..

Праз некалькі гадзін каланісты выканалі абяцанне, якое яны далі капітану Немо.

Сайрус Сміт і яго таварышы пакінулі «Н а у ц і л у с», узяўшы з сабою апошні падарунак свайго заступніка—куфэрак з каштоўнасцямі.

Яны прычынілі за сабою дзверы дзівоснага салона, залітага яркім святлом, і наглуха зашрубавалі накрыўкі люка, каб ні адна кропля вады не магла прасачыцца ў «Н а у ц і л у с».

Затым яны селі ў лодку, прывязаную да борта падвод-

нага карабля, і пад'ехалі да кармы. Там яны знайшлі два краны, якія злучаліся з рэзервуарамі, ад запаўнення якіх вадою лодка апускалася пад ваду.

Сайрус Сміт адкрыў краны.

Вада ірванулася ўнутр рэзервуараў, і «Н а у ц і л у с» павольна пачаў тануць.

Каланісты доўгі час яшчэ праводзілі яго позіркамі пад тоўстым пластом вады: яркія праменні яго пражэктароў асвятлялі празрыстую тоўшчу воднага скляпення.

Потым пастунова святло іх пачало цямнець, пакуль не знікла зусім.

«Н а у ц і л у с», плывучая труна капітана Немо, апусцілася на дно морскага бяздоння.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЕМНАЦЦАТЫ

*Думкі каланістаў.—Аднаўленне работ па будаўніцтву карабля.— 1 студзеня 1869 года.—Дым над вяршыняй вулкана.—Прадвеснікі вывяржэння.—Айртон і Сайрус Сміт у каралі.—Даследаванне пячоры Дакара.—Што сказаў капітан Немо інжынеру.*

На досвітку, захоўваючы поўную маўклівасць, каланісты пад'ехалі да выхаду з пячоры, якую яны назвалі «пячорай Дакара»—на ўспамін пра капітана Немо. Быў час адліву, і яны змаглі бесперашкодна прычаліць да выступа базальтавай скалы.

Жалезную лодку яны пакінулі на старым месцы, дзе не даставалі хвалі.

Навальніца прайшла разам з ноччу. Апошні грукат грому заміраў на захадзе. Дождж спыніўся, але неба ўсё яшчэ было зацягнута хмарамі.

Кастрычнік—першы веснавы месяц у паўднёвым паўшар'і—пачынаўся дрэнна: вецер бясконца змяняў напрамак, і на сталае надвор'е нельга было разлічваць.

Развітаўшыся з пячорай Дакара, каланісты рушылі ў караль. Адначасова Наб і Герберт зматвалі ў клубок тэлеграфны дрот, які злучаў пячору з каралем, у разліку на тое, што ён спатрэбіцца ў далейшым.

Каланісты амаль не размаўлялі дарогай. Падзеі гэтай ночы, з 15 на 16 кастрычніка, пакінулі ва ўсіх глыбокае ўражанне. Таямнічага заступніка, які так часта ратаваў іх, чалавека, які быў надзелены ў іх уяўленні амаль звышнатуральнай магутнасцю,—капітана Немо—больш не было жывога... Кожны адчуваў сябе асірацелым. Каланісты прывыклі ў таямнічых кутках душы спадзявацца і разлічваць на яго падтрымку, і цяпер ім неставала ранейшай упэўненасці

Каля дзевяці гадзін раніцы каланісты вярнуліся ў Гранітны палац.

У той-жа дзень на нарадзе яны вырашылі ўсялчк паскорыць пабудову шхуны. Сайрус Сміт абяцаў аддаць гэтай справе ўвесь свой час. Нельга было прадугадаць, што рыхтуе будучыня, і таму неабходна было як мага хутчэй мець у сваім карыстанні карабль, які здольны вытрымаць доўгі морскі пераход. Нават у тым выпадку, калі каланісты не адважацца рушыць на гэтай шхуне да берагоў Новай Зеландыі або да Палінезійскіх архіпелагаў, усё-ж будзе патрэбна спяшацца закончыць пабудову, каб даставіць запіску на востраў Табор, раней чым вятры асенняга роўнадзенства не перашкодзяць і гэтай паездцы.

Таму цесляры працавалі ўпарта. На шчасце, ім не давялося нанава вырабляць абшыўку бартоў, бо на гэта былі скарыстаны матэрыялы, выратаваныя з «Шпаркага».

Увесь канец 1868 года быў скарыстаны выключна для гэтай работы. Контуры шхуны так азначыліся, што можна ўжо было меркаваць пра якасць будучага судна. Маракі—Пенкроф і Айртон—былі ад яго ў захапленні.

Пенкроф працаваў неадрыўна і заўсёды бурчэў, калі другія каланісты змянялі молат на вінтоўку, каб пайсці ў лес на паляванне. Аднак, было зусім неабходна запасціся харчамі на будучую зіму. Марак гэта вельмі добра ведаў і тым не менш рабіўся панурым у такія хвіліны і... пачынаў працаваць за шасцярых.

Надвор'е ўвесь час было дрэннае. На працягу некалькіх дзён трымалася душная спёка. Паветра было праз меру насычана электрычнасцю. Рэдкі быў той дзень, каб над востравам не грымеў гром.

Дзень 1 студзеня 1869 года адзначыўся асабліва моцнай навальніцай. Маланка некалькі разоў біла ў востраў. Шмат дрэў было павалена бурай.

Ці была якая-небудзь сувязь між гэтымі атмасфернымі з'явамі і працэсамі, якія адбываліся пад зямлёю?

Сайрус Сміт схільны быў лічыць, што такая сувязь была і навальніцы абумоўліваліся іменна аднаўленнем вулканічных працэсаў.

3 студзеня раніцою Герберт, які падняўся на світанні на пласкагор'е Далёкага віду, каб асядлаць анагра, убачыў паблізу слуп дыму над верхавінай гары Франкліна.

Герберт зараз-жа сказаў пра гэта каланістам. Усе вышлі паглядзець на дым.

— Э!—усклікнуў Пенкроф.—Гэта ўжо не пара, а сапраўдны дым. Вулкан перастаў дыхаць—цяпер ён курыць!

Вобразнае параўнанне марака дакладна перадавала характар змен, якія адбыліся ў вулкане за ноч. На працягу трох месяцаў над кратэрам вулкана заўсёды былі воблакі пары: матэрыялы толькі што пачыналі плавіцца ў падземным катле. Але цяпер у неба падымаўся густы слуп шэрага дыму шырынёю на трыста футаў каля асновы і вышынёю на семсот—восемсот футаў.

— Печ разгарэлася,—заўважыў Гедэон Спілет.

— І нічым яе не патушыш,—адказаў Герберт.

Сайрус Сміт насцярожыўся, нібы чакаючы пачуць аддалены грукат. Ён не адрываў позірку ад слупа дыму. Павярнуўшыся затым тварам да таварышоў, ён сказаў:

— Не трэба таіцца, сябры мае, што за сёнешнюю ноч у становішчы вулкана адбыліся значныя змены. Нетры зямлі, якія ўчора яшчэ толькі плавіліся і закіпалі, сёння ўжо загарэліся. Несумненна, нам пагражае вывяржэнне...

— Што-ж, містэр Сміт,—усклікнуў Пенкроф,—вывяржэнне дык вывяржэнне! Мы будзем апладзіраваць яму, калі відовішча будзе эфектным! Бо трывожыцца нам няма чаго?

— Вядома, Пенкроф,—адказаў Сайрус Сміт,—стары сцёк лавы па-ранейшаму адкрыты, і можна спадзявацца, што, як і ў часе мінулых вывяржэнняў, лава пацячэ на поўнач. Аднак...

— Але, ад таго, што мы не можам ніяк скарыстаць вывяржэнне, дык лепш, каб яго зусім не было,—сказаў журналіст.

— Хто яго ведае?—запярэчыў марак.—А можа, вулкан выкіне які-небудзь каштоўны метал, які нам астанецца толькі падабраць?

Сайрус Сміт у сумненні паківаў галавою. Як відаць, ён не чакаў ніякага дабра ад гэтага прыроднага з'явішча. Нават у тым выпадку, калі лава пацячэ па старым сцёку, на поўнач, у бясплодныя часткі вострава, і не закране апрацаваных земляў і лясоў, можна было чакаць нячасцяў іншага характару.

Сапраўды, нярэдкія выпадкі, калі следам за вывяржэннем вулкана бываюць землетрасенні. А востраў Лінкольна пры моцным землетрасенні мог вельмі проста рассыпацца на кавалкі, бо мінералы, з якіх ён складаецца—граніты, базальты, лавы—былі не моцна звязаны між сабою.

— Мне здаецца,—сказаў Айртон, які апусціўся на калені і прыклаў вуха да зямлі,—што я чую нейкі глухі рокат, нібы шум ад нагружаных жалезам калёс, якія коцяцца па бруку.

Усе каланісты паспяшаліся прыкласці вушы да зямлі і пераканаліся, што Айртон не памыліўся. Часамі да аддаленага рокату далучаўся нарастаючы гук нейкага выцця, нібы завыванне падземнага ветру. Дасягнуўшы высокай ноты, гэты гук цішэў і заміраў. Аднак, падземных удараў не было чуваць; як відаць, матэрыялы гарэння нетраў— газы, дым, пара—знаходзілі вольны выхад праз цэнтральную трубу—кратэр вулкана,—і, пакуль гэты выхад быў досыць шырокі, нельга было і асцерагацца выбуху.

— Сябры мае!—сказаў раптам Пенкроф.—Чаму-ж гэта мы не працуем сёння? Няхай сабе гара Франкліна плюецца, курыць, бурчыць, вые—гэта не падстава для таго, каб бяздзейнічаць! Айртон, Наб, Герберт, містэр Сміт, містэр Спілет! Час брацца за работу! Нам сёння патрэбна ставіць перагародкі, тут кожная рука на ўліку! Я хочу, каб праз два месяцы наш новы «Ш ч а с л і в ы»—бо мы захаваем для карабля гэтую назву?—быў спушчан на ваду! Тут нельга траціць ні хвіліны!

Каланісты паслухаліся просьбы Пенкрофа і пайшлі на верф. Усе старанна працавалі ўвесь гэты дзень, 3 студзеня, не турбуючыся больш пра вулкан. Але густы цень, які некалькі разоў засланяў сонца, што рабіла свой дзённы абход бязвоблачнага неба, напамінаў пра слуп дыму, які стаяў над вяршыняй вулкана. Вецер, што дзьмуў з усходу, адносіў гэты дым на захад, і ён праходзіў, як воблачка, між сонечным дыскам і паверхняю вострава. Сайрус Сміт і Гедэон Спілет заўважылі гэтыя нядоўгія моманты зацямнення сонца і ціхкам абмяняліся думкамі пра тое, як шпарка праходзіць вулканічны працэс.

Цяпер справа пра хутчэйшае сканчэнне пабудовы карабля набывала асаблівае значэнне. Пабудова шхуны была тым, адзіным сродкам, які страхаваў каланістаў ад розных выпадковасцей. Хто ведае, можа, настане дзень, калі яна будзе апошнім для іх прытулкам!

Увечары, пасля вячэры, Сайрус Сміт, Гедэон Спілет і Герберт зноў падняліся на пласкагор'е Далёкага віду.

— Кратэр увесь у агні!—усклікнуў Герберт, які першы ўзабраўся на пласкагор'е.

Гара Франкліна, якая знаходзілася міль за шэсць ад пласкагор'я, мела выгляд гіганцкага палаючага факела, які раскідваў ва ўсе бакі безліч іскраў. Аднак, густыя воблакі дыму, што акружалі агонь, зацямнялі яго бляск, і востраў быў асветлены нейкім чырванаватым поўсветам, пры якім ледзь можна было згледзець нават бліжэйшыя да пласка-

гор'я лясы. Аграмадныя клубы дыму ўкрывалі неба. Праз іх толькі зрэдку відаць былі мільгатлівыя зоры.

— Аднак, вулкан добра папрацаваў!—сказаў інжынер.

— Няма нічога дзіўнага,—адказаў журналіст.—Успомніце, Сайрус, што вулкан абудзіўся ўжо даўно. Яшчэ калі мы шукалі прытулак капітана Немо, у палове кастрычніка, над яго вяршыняй закурыліся першыя струмені пары.

— Так, гэта было месяцы два з паловай таму назад!—пацвердзіў Герберт.

— Падземны агонь разгараўся больш дзесяці тыдняў,—прадаўжаў Гедэон Спілет.—Што-ж тут дзіўнага ў тым, што ён праяўляецца цяпер з такою сілай?

— Адчуваеце, як дрыжыць зямля?—перапыніў яго інжынер.

— Сапраўды... Але ад дрыжэння да землетрасення яшчэ далёка...

— Я і не кажу, што нам пагражае землетрасенне,—шпарка адказаў інжынер.—Гэтае дрыжэнне абумоўлена кіпеннем расплаўленых мас металаў і мінералаў унутры цэнтральнага ачага. Зямная кара падобна ў гэтым выпадку на сценкі катла. А вы павінны ведаць, што калі ў паравым катле вада кіпіць пад ціскам, дык сценкі яго вібрыруюць, як камертон. Вось якраз гэтую з'яву мы зараз і наглядаем.

— Якія прыгожыя гэтыя ўспышкі агню!—ускліknуў Герберт.

У гэтую хвіліну з кратэра вырваўся паток раскалёных газаў і высока ўзляцеў, нібы феерверк, рассыпаўшыся мільёнамі агнёвых пырскаў. Гэтае з'явішча суправаджалася моцным трэскам, які нагадваў частую ружэйную стральбіну.

Прабыўшы амаль гадзіну на пласкагор'і, Сайрус Сміт, Гедэон Спілет і Герберт спусціліся зноў у Гранітны палац. Было добра відаць, што інжынер нечым заклапочаны. Выгляд яго быў такі сумны, што Гедэон Спілет вырашыў запытаць у яго, ці прадбачыць ён якую-колечы небяспеку, якая проста ці ўкосна мае сувязь з чакаемым вывяржэннем вулкана.

— І так і не,—адказаў Сайрус Сміт.

— Мне здаецца, што, апрача землетрасення, нам няма чаго баяцца,—сказаў журналіст.—А землетрасенне, відаць, не пагражае нам, бо газы, лава і каменне знаходзяць вольны выхад праз адтуліну кратэра.

— Але я і не баюся звычайнага землетрасення, выкліканага тым, што газы і лава не знаходзяць для сябе выйсця на паверхню зямлі,—адказаў інжынер.—Другія прычыны могуць выклікаць страшэнную катастрофу...

— Якія, Сайрус?

— Цяжка сказаць... Трэба паглядзець... Я павінен пабываць у пячоры Дакара... праз некалькі дзён я здолею адказаць вам на гэтае пытанне.

Гедэон Спілет не настойваў, бачачы, што інжынер не хоча гаварыць на гэту тэму. Хутка, не зважаючы на тое, што вулкан грукатаў усё мацней, жыхары Гранітнага палаца заснулі глыбокім сном.

Мінулі яшчэ тры дні—4, 5 і 6 студзеня. Каланісты няспынна працавалі на верфі. Не растлумачваючы чаму, інжынер прымушаў усіх працаваць узмоцненым тэмпам. Гара Франкліна была цяпер ахутана цёмным, злавесным воблакам. Разам з полымем з кратэра выляталі цэлыя раскаленыя скалы. Некаторыя з іх падалі зараз-жа зноў у кратэр. Пенкрофу, які любіў ва ўсім знаходзіць смешнае, гэта здавалася толькі забаўным.

— Бачыце,—крычаў ён,—вулкан з самім сабою гуляе ў більбокс! Вулкан у ролі цыркавога жанглёра!

Сапраўды вяшчэствы, якія выкідаў вулкан, часцей за ўсё зноў падалі ў жэрала яго кратэра. З гэтага можна было заключыць, што лава, якая выпіралася падземным ціскам, яшчэ не дасягнула верхняй адтуліны кратэра. Другім сцвярджэннем гэтага меркавання было тое, што лава яшчэ не пацякла па старым, усходнім сцёку.

Аднак, як ні спяшалі каланісты скончыць пабудову шхуны, іншыя галіны гаспадаркі калоніі яны не маглі закінуць. Перш за ўсё патрэбна было з'ездзіць у караль, каб аднавіць запасы фуража для муфлонаў і авечак, якія там былі. Было вырашана, што на другі дзень, 7 студзеня, Айртон раніцою паедзе туды.

З-за таго, што звычайна з усёй работай у каралі спраўляўся адзін чалавек, Пенкроф і іншыя каланісты нямала здзівіліся, пачуўшы, што інжынер сказаў Айртону:

— Я паеду заўтра з вамі ў караль, Айртон.

— Што вы, містэр Сміт!—усклікнуў Пенкроф.—Калі і вы паедзеце, дык заўтра мы пазбавімся чатырох рабочых рук замест двух!

— Мы вернемся паслязаўтра раніцою,—адказаў інжынер.—Мне патрэбна паехаць у караль. Я хачу паглядзець зблізку, як там з вывяржэннем.

— Вывяржэнне! Вывяржэнне...—прабурчэў Пенкроф.— Падумаеш, такая важнасць—вывяржэнне!

Але інжынер, не звяртаючы ўвагі на буркатню марака, усё-ж вырашыў паехаць на заўтра. Герберт з ахвотаю

паехаў-бы з інжынерам, але, баючыся засмуціць Пенкрофа, не сказаў і слова пра сваё жаданне.

7 студзеня, досвіткам, Сайрус Сміт і Айртон селі на калёсы, у якія была ўпрэжана пара анаграў, і на ўвесь дух паімчаліся да караля.

Над лесам няспынна цягнуліся воблакі дыму, якія вырываліся з вулкана. Гэтыя нізка навіслыя над зямлёю воблакі складаліся не толькі з аднаго дыму, але таксама і з драбнюткага вулканічнага пылу і попелу. Вулканічны попел такі лёгкі, што часам ён трымаецца ў паветры цэлыя месяцы, не асядаючы на зямлю. Так, у Ісландыі пасля вывяржэння вулкана ў 1783 годзе амаль на працягу цэлага года ў паветры трымаўся вулканічны пыл, праз які ледзь пранікалі сонечныя прамені.

Аднак, часцей за ўсё гэтыя воблакі з попелу хутка асядаюць на зямлю. Так яно было і цяпер. Не паспелі Сайрус Сміт і Айртон пад'ехаць да караля, як зямлю раптам услала шэрая плёнка. Дрэвы, трава—усё ўкрылася тоўстым роўным пластом шэрай парфумы. На шчасце паўночна-ўсходні вецер, які прыспеў да гэтага часу, аднёс воблакі ў мора.

— Якое дзіўнае з'явішча, містэр Сміт!—сказаў Айртон.

— Благая прымета,—адказаў інжынер.—Гэты мінеральны пыл сведчыць, што вулканічны працэс у гары Франкліна мае не павярхоўны характар і што ачаг агню знаходзіцца глыбока пад зямлёю.

— Але-ж тут нічога не зробіш, хіба не праўда?

— Так. Нам астаецца толькі сачыць за ходам падзей. Айртон, займіцеся работай у каралі, а я падымуся да вытокаў Чырвонага ручая, зірну, што робіцца на паўднёвым схіле гары. Потым...

— Што потым, містэр Сміт?

— Потым... мы разам рушым у пячору Дакара... Мне патрэбна зірнуць... Я прыду па вас праз дзве гадзіны. Пастарайцеся вызваліцца да гэтага часу.

Айртон вярнуўся ў двор караля і заняўся кармленнем муфлонаў і авечак, якія выяўлялі нейкую няясную трывогу.

Тым часам Сайрус Сміт шпарка ўзбіраўся па схілу гары. Неўзабаве ён дабраўся да таго месца, дзе ў час першай экспедыцыі каланісты выявілі серную крыніцу.

Як усё змянілася з таго часу наўкола! Замест аднаго струменьчыка дыму, які выходзіў з-пад зямлі, ён налічыў трынаццаць, якія вырываліся з такой сілай, нібы іх нагняталі магутным насосам. Не было сумнення, што ў гэтым месцы зямная кара адчувала вялізны ціск знутры. Паветра было насычана параю серы і вуглекіслатою.

Сайрус Сміт адчуваў, як дрыжыць пад яго нагамі глеба.

Зірнуўшы на паўднёвы схіл гары Франкліна, ён пераканаўся ў тым, што новага вывяржэння яшчэ не было. Клубы дыму і языкі агню вырываліся з кратэра. Дождж раскаленых каменняў падаў на зямлю. Але на сцёку не было відаць ніякіх слядоў свежай лавы. Гэта сцвярджала, што ўзровень лавы ў кратэры яшчэ не дасягнуў верхняй, выходнай адтуліны.

«Я палічыў-бы за лепшае, каб вывяржэнне пачалося ўжо,—падумаў інжынер.—Тады-б я быў пэўны, што лава задавальняецца ранейшай дарогай... А так, хто ведае, можа, вывяржэнне пачнецца ў зусім нечаканым месцы?.. Урэшце, не ў гэтым галоўная небяспека... Капітан Немо правільна вызначыў гэта! Не, не тут галоўная небяспека!»

З гэтымі словамі Сайрус Сміт павярнуўся назад. Дарогаю ён прыслухоўваўся да падземнага рокату, які не сціхаў ні на адну хвіліну. Час-ад-часу пад зямлёю чуўся моцны гул, нібы ад выбуху.

У дзевяць гадзін раніцы інжынер вярнуўся ў караль.

Айртон ужо чакаў яго.

— Я накарміў жывёлу, містэр Сміт,—сказаў ён.

— Вельмі добра, Айртон.

— Яны нечага ўстрывожаны.

— Так, у іх загаварыў інстынкт. А інстынкт не падводзіць... Цяпер вазьміце ліхтар, Айртон, і пойдзем!

— Ёсць!

Выпражаныя анагры скублі траву ў двары караля. Старанна зачыніўшы знадворку вароты, Сайрус Сміт і Айртон рушылі на захад па вузкай сцежцы, якая вяла да берагу мора. Уся глеба была ўслана покрывам з попелу, які ўпаў з неба. У лесе каланісты не спаткалі ніводнай жывёлы. Птушак таксама не было відаць.

Часам вецер узнімаў у паветра воблакі попелу і тады людзі не бачылі не толькі дарогі, але і адзін аднаго. Яны вымушаны былі закрываць вочы і дыхаць праз хустку, каб не аслепнуць і не задыхнуцца.

У гэтых умовах цяжка было ісці шпарка. У дадатак паветра было такое цяжкое, нібы ўвесь яго кісларод згарэў і астаўся толькі непрыгодны для дыхання азот. Праз кожныя сто крокаў каланісты вымушаны былі прыпыняцца, каб адпачыць. Таму толькі каля дзесяці гадзін раніцы яны дайшлі да базальтавых скал, якія ўтваралі паўночна-заходняе ўзбярэжжа вострава.

Айртон і Сайрус Сміт пачалі спускацца па адхонным схілу скалы, ідучы тою-ж дарогаю, якая нядаўна ў наваль-

нічную ноч прывяла іх у пячору Дакара. Праўда, удзень гэты спуск быў менш небяспечны, як ноччу.

Спусціўшыся да вады—у гэты час быў адліў,—яны без цяжкасці знайшлі ўваход у грот.

— Тут павінна быць жалезная лодка,—сказаў інжынер.

— Вось яна,—адказаў Айртон, падцягваючы да сябе судзенца, якое стаяла на прывязі за аркай каля ўваходу ў пячору.

— Сядайце, Айртон!

Айртон сеў каля вёслаў, прымацаваўшы раней ліхтар на насу лодкі, Сайрус Сміт узяў у рукі руль, і лёгкая лодка паплыла па цёмнай пячоры.

«Н а у ц і л у с а», які асвятляў сваімі магутнымі пражэктарамі пячору, на жаль, больш не было. Магчыма, што ў глыбіні вод магутныя машыны яго яшчэ жывілі энергіяй пражэктары, але ні адзін прамень святла не прабіваўся праз тоўшчу вады.

Якое ні слабое было святло ад ліхтара, але ўсё-ж яно давала магчымасць інжынеру накіроўваць лодку ўздоўж сцяны пячоры. Непарушная цішыня панавала ў першай яе частцы. Але з тым як лодка пасоўвалася ў глыб усё больш выразна пачаў даходзіць глухі рокат агню, які бурліў унутры вулкана.

— Чуеце, як шуміць вулкан?—запытаў Айртон у інжынера.

Неўзабаве, апрача шуму, дзейнасць вулкана падала аб сабе знак густымі сернымі выпарэннямі, якія перашкаджалі інжынеру і яго спадарожніку дыхаць.

— Вось гэтага і асцерагаўся капітан Немо!—прамармытаў, збялеўшы, інжынер. І голасна дадаў, звяртаючыся да Айртона:—Давядзецца ўсё-ж дайсці да канца!

— Ёсць!—адказаў Айртон і націснуў на вёслы.

Праз дваццаць хвілін лодка ўперлася ў сцяну пячоры і спынілася.

Сайрус Сміт, стаўшы на лаўку, з ліхтаром у руцэ агледзеў гэтую сцяну, якая аддзяляла падземнае возера ад цэнтральнага ачага вулкана. Якая яна тоўстая? Інжынер не мог вызначыць, было ў ёй сто футаў ці толькі дзесяць, але, мяркуючы па выразнасці шумаў, якія даходзілі праз сцяну, бадай ці была яна вельмі тоўстай.

Агледзеўшы сцяну на ўзроўні сваіх вачэй, інжынер прывязаў ліхтар да весла і пачаў аглядаць верхнюю частку. Адтуль, праз ледзь прыкметныя расколіны, прасоўвалася серная пара, якая атручвала паветра ў пячоры. Можна было

прасачыць, як гэтыя расколіны зрэзалі сцены, некаторыя з іх спускаліся амаль да самай паверхні вады.

Сайрус Сміт апусціў ліхтар і глыбока задумаўся.

Потым ён прашаптаў:

— Так, капітан Немо казаў праўду! Галоўная небяспека тут... Страшэнная небяспека...

Айртон маўчаў.

Па знаку інжынера ён зноў узяўся за вёслы, і праз паўгадзіны лодка пад'ехала да выхаду з пячоры Дакара.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

*Справаздача Сайруса Сміта.—Каланісты спяшаюцца закончыць пабудову шхуны.—Апошняе наведванне караля.—Барацьба вады і агню. Што асталося на востраве.—Каланісты вырашаюць спусціць карабль на ваду.—Ноч з 8 на 9 сакавіка.*

На другі дзень, 8 студзеня, пераначаваўшы ў каралі і зрабіўшы там усю неадкладную работу, Сайрус Сміт і Айртон вярнуліся ў Гранітны палац

Зараз-жа пасля звароту інжынер сабраў каланістаў і паведаміў іх, што востраву Лінкольну пагражае вялікая небяспека, папярэдзіць якую чалавечыя сілы не могуць.

— Сябры мае!—сказаў ён, і голас яго выяўляў глыбокае хваляванне.—Востраў Лінкольна не належыць да ліку тых куткоў зямлі, якія будуць існаваць столькі-ж, колькі ўся наша планета. Ён асуджаны на зруйнаванне, і прычына гэтага зруйнавання знаходзіцца ў ім самім... Ніхто не можа адхіліць яе....

Каланісты пераглянуліся і потым зірнулі на інжынера. Яны нічога не зразумелі з таго, што ён сказаў.

— Растлумачце працей, Сайрус!—папрасіў журналіст.

— Добра, я растлумачу вам... Больш правільна, я дакладна перакажу вам тлумачэнне, якое даў мне капітан Немо за тыя некалькі хвілін, якія я правёў з ім адзін на адзін...

— Капітан Немо?!—усклікнулі здзіўленыя каланісты.

— Так. Перад смерцю ён захацеў зрабіць для нас яшчэ адну паслугу.

— Не апошнюю!—крыкнуў Пенкроф.—Вы ўбачыце, хоць ён і памёр, але ён яшчэ неаднойчы нам дапаможа!

— Што-ж вам сказаў капітан Немо?—запытаў журналіст.

— Цяпер я магу расказаць пра гэта вам,—адказаў інжынер.—Востраў Лінкольна знаходзіцца ў такіх умовах, якія адрозніваюцца ад умоў іншых ціхаакіянскіх астравоў... З прычыны адной яго прыроднай асаблівасці, на якую

мне паказаў капітан Немо, раней ці пазней яго падводная частка павінна разваліцца...

— Востраў Лінкольна разваліцца?!—Не гледзячы на сваю вялікую павагу да інжынера, Пенкроф пацiснуў плячамі.—Што за глупства!

— Выслухайце мяне, Пенкроф,—прадаўжаў інжынер.—Вось што заўважыў капітан Немо і ў чым я ўчора ўпэўніўся сваімі вачамі ў часе наведвання пячоры Дакара. Гэтая пячора цягнецца пад зямлёй да самага цэнтра вулкана і аддзелена ад яго толькі сцяной. Выяўляецца, што ўся гэтая сцяна пабіта на шматлікія расколіны, праз якія ў пячору пранікаюць серныя газы...

— Ну і што-ж?—запытаў Пенкроф, нахмурыўшы лоб.

— Я выявіў,—прадаўжаў інжынер, не звяртаючы ўвагі на нездаваленне марака,—што гэтыя расколіны павялічваюцца пад уплывам моцнага ціску, што базальтавая сцяна паволі падаецца і што ў блізкім часе яна абваліцца, адкрыўшы дарогу ў вулкан вадзе падземнага возера.

— Вось і добра,—не паддаваўся Пенкроф.—Мора патушыць вулкан, і будзе канец неспакою!

— Так, гэта будзе канец!—адказаў сур'ёзна інжынер.—Дзень, калі мора зруйнуе базальтавую сцяну і рынецца ў цэнтральны ачаг вулкана, дзе кіпіць расплаўленая маса,—гэты дзень, Пенкроф, будзе апошнім днём вострава Лінкольна! Ён узнімецца ў паветра, як узнялася-б Сіцылія, калі-б Міжземнае мора затапіла раптоўна Этну!

Каланісты маўчалі. Яны зразумелі цяпер, якая страшэнная небяспека пагражала востраву Лінкольна.

Трэба сказаць, што Сайрус Сміт зусім не пераўвялічаў памераў гэтай небяспекі. Шмат хто і па гэты дзень думаюць, што можна патушыць вулканы, якія амаль усе знаходзяцца на берагах мараў або азёр, калі даць доступ іх водам у нетры вулкана. Але гэтыя людзі не ведаюць, што пры гэтым частка зямнога шара ўзарвалася-б і ўзнялася ў паветра, як узрываецца раскалены паравы кацёл, у які адразу упускаюць шмат халоднай вады.

Вада, якая рынецца ў нагрэтае да некалькі тысяч градусаў закрытае месца, умомантператворыцца ў пару. А з той прычыны, што пара займае большы аб'ём, як вада, дык ніякія сценкі не вытрымаюць яе ціску.

Нельга было сумнявацца, што востраву Лінкольна пагражала страшэнная катастрофа і што ён праіснуе якраз столькі, колькі будзе супраціўляцца націску мора сцяна пячоры Дакара. Магчыма, што гэта было пытанне не месяцаў і тыдняў, а дзён і нават гадзін!

Пачуццё вялікай гаркоты ахапіла каланістаў. Яны надумалі не пра небяспеку, якая ім пагражала, а пра тое, што гэты востраў, які даў ім прытулак, які стаў іх другой радзімай, асуджаны на гібель... Колькі клопатаў, колькі працы патрачана марна!

Буйная сляза сцякла па шчацэ Пенкрофа, і ён нават не стараўся схаваць яе.

Але каланісты не належалі да ліку людзей, якія толькі здольны дарэмна ўздыхаць. Шпарка закончыўшы абмеркаванне пытання, яны прышлі да вываду, што іх адзіным шансам на выратаванне з'яўляецца хутчэйшае скančэнне пабудовы карабля.

Усе горача ўзяліся за работу. Навошта цяпер было апрацоўваць зямлю, збіраць ураджай, хадзіць на паляванне, павялічваць запасы Гранітнага палаца? Таго, што было ў яго кладовых, вядома хапіла-б на снаражэнне судна ў самае далёкае падарожжа. Важна толькі, каб гэтае судна было гатовае да пачатку катастрофы.

Каланісты працавалі ліхаманкава шпарка. 20 студзеня абшыўка корпуса была ўжо напалову закончана. Да гэтага дня знадворны выгляд вулкана не мяняўся. Паранейшаму над вяршыняй гары Франкліна стаяў слуп густога дыму, паранейшаму з кратэра вырываліся раскаленыя камені і падымаліся доўгія языкі агню. Але ў ноч з 23 на 24 студзеня пад націскам лавы, якая павольна напаўняла жэрала кратэра, верхняя частка конуса раскалолася. Пачуўся страшэнны грукат. Каланісты надумалі спярша, што востраў узарваўся. Яны выбеглі з Гранітнага палаца.

Было каля двух гадзін па поўначы.

Неба было ў агні. Верхняя частка конуса, аграмадная глыба вышынёю ў тысячу футаў, якая важыла мільёны тон, абвалілася на востраў, скалануўшы яго ад нізу да верху. На шчасце, конус быў нахілены на поўнач і ўпаў на пясчаную даліну, якая цягнулася ад нізу гары да берагу мора. Кратэр, які шырока раскрыўся, праменіўся такім яркім святлом, што ўсё неба здавалася ахоплена пажарам. У той-жа час паток лавы, пераліваючыся цераз барты новага кратэра, як вада цераз краї перапоўненага кубка, тысячамі вогненных змеяў папоўз уніз па схілу гары.

— Караль, караль!—крыкнуў Айртон.

Сапраўды патокі лавы цяклі з новага кратэра ў кірунку да караля, пагражаючы такім чынам самым пладародным часткам вострава; вытокам Чырвонага ручая і лесу Якамары небяспека пагражала ў першую чаргу.

Пачуўшы крык Айртона, каланісты пабеглі да канюшні анаграў. Калёсы былі запрэжаны ўмомант. Усе думалі толькі пра адно—у час паспець у караль, каб выпусціць на волю жывёлу, якая там знаходзілася.

Каля трох гадзін раніцы яны прыехалі ў караль. Страшэннае мычэнне, якое чутна было ўжо за мілю, паказвала на тое, як жывёла перапалохалася. Мірыяды іскраў сыпаліся на поле, запальваючы сухую траву. Агонь падбіраўся ўжо да агарожы.

Айртон разам расчыніў абедзве палавіны варот, і ашалелая ад жаху жывёла кулём рынулася з караля і разбеглася ва ўсе бакі.

Праз гадзіну бурлівая лава заліла караль, выпарыла да дна ручаёк, які цёк на яго двара, запаліла домік Айртона, які ўспыхнуў нібы сухая салома, і знішчыла агарожу да апошняга бярвенца.

Караль больш не існаваў!

Каланісты і не спрабавалі змагацца з гэтай навалай — чалавек бяззбройны і бяссільны перад тварам такіх катастроф.

Настаў дзень 24 студзеня. Раней чым вярнуцца ў Гранітны палац, Сайрус Сміт і яго таварышы захацелі дакладна высветліць, у якім кірунку цячэ лава. На ўсход ад гары Франкліна глеба мела невялікі нахіл, і можна было асцерагацца, што, не зважаючы на перашкоду—лес Якамары,—паток лавы дабярэцца да пласкагор'я Далёкага віду.

— Возера абароніць нас,—сказаў Гедэон Спілет.

— Спадзяюся,—каротка адказаў інжынер.

Каланістам хацелася агледзець даліну, на якую ўпаў конус вулкана, але лава перагараджала ім дарогу. Лава цякла двума патокамі: першы—па рэчышчу Чырвонага ручая, другі—па рэчышчу ракі Вадапада. Вядома, вада ў абодвух рэках умомант выпарылася ад дотыку лавы.

Вулкан, страціўшы конус, які яго ўвенчваў, зрабіўся непазнавальным. З двух ямін у новай верхавіне кратэра няспынна выцякала лава, утвараючы два асобныя патокі. Над кратэрам стаяў вялізны слуп полымя і дыму, які ўпіраўся ў густыя воблакі, што ўкрылі ўсё неба.

Грукат грому пераклікаўся з падземным грукатам, і паветра нязмоўчна гудзела. З жэрала кратэра вылятаді цэлыя глыбы, распаленыя на бела, і, узляцеўшы на тысячу футаў, узрываліся з страшэнным трэскам і рассыпаліся мільярдамі іскраў. Неба няспынна паласавалі маланкі.

Каля сямі гадзін раніцы каланісты, якія стаялі ўскрай лесу Якамары, вымушаны былі паспешна адступіць: вакол

іх пачалі сыпацца з неба распаленыя камяні, ды і паток лавы, які разліўся з берагоў Чырвонага ручая, пагражаў адрэзаць ім дарогу да адступлення.

Ускрай лесу Якамары загарэліся першыя дрэвы. Дрэвавы сок, умомант ператвараючыся ў пару, узрываў ствалы дрэў, як дынаміт. Старыя, высахлыя дрэвы ўспыхвалі, як запалкі.

Каланісты пацягнуліся ў Гранітны палац, часта азіраючыся назад. З прычыны нахілу глебы лава цякла тут больш шпарка, амаль следам за імі, прымушаючы паскараць хаду.

Між тым галоўны паток, які цёк па даліне Чырвонага ручая, з кожнай гадзінай рабіўся ўсё больш грозным. Уся прымежная з Чырвоным ручаём частка лесу была ахоплена агнём. Вялізныя клубы дыму пасцілаліся ў паветры, нізка навісаючы над верхавінамі дрэў.

Каланісты спыніліся за поўмілі ад вусця Чырвонага ручая каля берагу возера. Зараз павінна было вырашыцца для іх пытанне жыцця і смерці.

Сайрус Сміт, які прызвычаіўся пазіраць у вочы небяспекі, ведаючы, што і яго таварышы не з труслівага дзесятку, так вызначыў становішча:

— Або возера спыніць паток лавы і частка вострава будзе выратавана ад поўнага зруйнавання, або лава пацячэ да лесу Далёкага захада і на паверхні вострава не застанецца ні дрэўца, ні травінкі. У гэтым выпадку нам астанецца, толькі чакаць смерці на голай скале... Урэшце, трэба думаць, што ўзрыў вострава зробіць гэтае чаканне не занадта доўгім...

— Значыць,—усклікнуў Пенкроф, скрыжаваўшы рукі на грудзях,— не варта нават прадаўжаць работу па будаўніцтву карабля?

— Не, Пенкроф,—адказаў інжынер,—мы будзем змагацца да канца!

У гэты момант паток лавы дасягнуў амаль краю лесу Далёкага захада. Але тут глеба трохі ўзвышалася, і, калі-б гэты пад'ём быў хоць крыху большы, ён мог-бы затрымаць лаву або хоць-бы прымусіць яе змяніць кірунак.

— За работу!—крыкнуў Сайрус Сміт.

Каланісты ўраз зразумелі думку інжынера: патрэбна было пабудаваць плаціну, каб скіраваць паток лавы ў возера.

Каланісты збегалі на верф па рыдлёўкі, кіркі і тапары. Ссекшы некалькі дрэў, яны пабудавалі нешта падобнае на плаціну вышынёю на тры футы і на некалькі сот крокаў у даўжыню. Работа заняла больш трох гадзін, але, калі яны

скончылі яе, ім здалося, што яны не працавалі і чвэрткі гадзіны.

Пабудова плаціны была закончана якраз у час: вогненныя патокі падбіраліся ўжо да пачатку пад'ёму. Лава ўспучылася, як рака ў часе паводкі, і пагражала змесці адзіную перашкоду на шляху да лясоў Далёкага захада. Але плаціна добра вытрымала выпрабаванне, і паток раптам павярнуў да возера, куды і пачаў спадаць з вышыні ў дваццаць футаў.

Каланісты, стаіўшы дух, пазіралі на барацьбу двух стыхій.

Якім дзівосным відовішчам была гэтая барацьба вады з агнём! Вада шыпела, выпараючыся ад дотыку гарачай лавы. Слупы пары ўзляталі ў неба на вялізную вышыню, нібы вырываючыся з раптоўна адкрытых клапанаў паравога катла. Але якім вялікім ні быў запас вады ў возеры, адразу стала відаць, што яно будзе пераможана ў гэтай барацьбе, таму што прыток вады да яго спыніўся, у той час калі лава няспынна вывяргалася з кратэра вулкана.

Першы паток лавы, трапіўшы ў возера, умомант застыў, ператварыўшыся ў каменны пласт. Але па гэтым пласту цяклі другія патокі, якія забіраліся далей у возера і там застывалі. Возера паступова запаўнялася лавай, але не выходзіла з берагоў, бо аграмадная маса вады выпаралася ў паветры. Там, дзе раней ціха гойдалася гладкая паверхня вады, цяпер тырчэў хаас дымлівых скал... Вада была пераможана агнём...

Аднак тое, што каланістам удалося адвесці паток лавы ў возера Гранта, давала ім перадышку на некалькі дзён: пласкагор'е Далёкага віду, Гранітны палац і верф на некаторы час былі агароджаны ад наступу лавы. Гэтыя дні трэба было скарыстаць для таго, каб закончыць абшыўку бартоў шхуны і заканапаціць іх. Пасля гэтага можна было спусціць карабль на ваду і ўжо тут заканчваць усю работу. Гэта было ў шмат разоў больш бяспечна, чым прабыванне на цвёрдай зямлі, якая пагражала кожную хвіліну ўзарвацца.

На працягу шасці наступных дзён—з 25 па 30 студзеня—каланісты працавалі на верфі, кожны за чатырых. Яны спалі па дзве—тры гадзіны ў суткі і ўвесь астатні час працавалі, карыстаючыся тым, што палаючае ад зарыва неба рабіла ночы такімі-ж віднымі, як і дні. Вывяржэнне вулкана прадаўжалася, але ўжо аслабелае. Гэта было шчасцем для каланістаў, бо возера Гранта ўжо амаль усё было запоўнена лавай, і новыя яе патокі безумоўна дасягнулі-б верфі, дзе будаваўся карабль, і пласкагор'я Далёкага віду.

Але калі гэтая частка вострава яшчэ заставалася цэлай, дык на заходнім узбярэжжы справа была зусім дрэнная.

Сапраўды, другі паток лавы, які спускаўся па даліне ракі Вадапада, не сустракаючы перашкод на раўнінпай глебе, шырока разліўся і дасягнуў заходняга краю лясоў Далёкага захада. Высушаныя спякотным летам дрэвы ўмомант усныхнулі, і пажар ахапіў вялізны ўчастак лесу.

Насмерць перапалоханае жывёльнае насельніцтва лясоў—кабаны, ягуары, агуці, пярнатыя, чацвераногая дзічына—рынулася да ракі Падзякі і да балота Казаркі, на той бок дарогі, у порт Шара. Але каланісты занадта былі заняты сваёй справай, каб звяртаць увагу нават на самых небяспечных драпежнікаў. Яны пакінулі цяпер Гранітны палац і не заходзілі нават у Камін: каб не траціць часу на хаду, яны спалі і елі тут-жа, каля верфі, у палатцы.

Кожны дзень Гедэон Спілет і Сайрус Сміт падымаліся на пласкагор'е Далёкага віду. Часам іх суправаджаў Герберт, але не Пенкроф, які не мог раўнадушна пазіраць на гібель свайго любімага вострава.

А відовішча, якое бачылі вочы назіральнікаў з вышыні пласкагор'я было сапраўды невясёлае... З усіх лясоў вострава ўцалеў толькі невялікі гай на аканечнасці Змяінага поўвострава. Усюды тырчэлі чорныя абгарэлыя пні. Участкі, якія яшчэ нядаўна красавалі свежай зялянінай, былі цяпер больш бясплодныя, чым пясчаныя раўніны паўночнага берагу. Лава ўкрывала тры чвэрткі ўсёй плошчы вострава. Рэкі Вадапада і Падзякі высахлі. Каланісты памерлі-б ад смагі, калі-б у возеры Гранта не асталося яшчэ крыху вады. На шчасце, паўднёвая частка возера не была закідана лавай; ператварыўшыся цяпер у невялікую сажалку, яна захоўвала ўвесь запас прэснай вады вострава Лінкольна.

Цяжка пераказаць, якім сумным відовішчам з'яўляўся гэты яшчэ нядаўна пладаносны востраў, які быў багата абводнены рэкамі, зарослы лясамі, зелянеў апрацаванымі палямі. Цяпер гэта была голая бязводная скала, і, каб не запасы Гранітнага палаца, каланісты хутка памерлі-б ад голаду.

— Сэрца разрываецца ад болю, калі пазіраеш на гэта,— сказаў аднойчы Гедэон Спілет.

— Так, Спілет,—адказаў інжынер.—Толькі-б мы паспелі закончыць пабудову карабля! Гэта наша адзіная надзея на выратаванне!

— Ці не здаецца вам, Сайрус, што вулкан нібы заціхае? Лава ўсё яшчэ выцякае з яго кратэра, але значна слабей, чым раней.

— Гэта не так важна,—адказаў інжынер.—Падземны агонь не згас, і мора кожную хвіліну можа заліць яго... Мы на становішчы пасажыраў ахопленага агнём судна, якія ведаюць, што калі не сёння дык заўтра, але пажар дабярэцца да парахавога пограба! Хадземце, Спілет, на верф. Нельга траціць ніводнай гадзіны.

На працягу наступных васьмі дзён, гэта значыць да 7 лютага, лава прадаўжала выцякаць з кратэра, але не распаўсюджвалася за межы ўжо занятай ёю плошчы. Сайрус Сміт больш за ўсё асцерагаўся, каб вогненныя патокі не залілі берагу, дзе знаходзілася верф, бо тады была-б знішчана апошняя надзея на выратаванне. У той-жа час каланістаў пачалі непакоіць частыя падземныя штуршкі.

Настала 20 лютага. Патрэбен быў сама менш яшчэ месяц работы, каб спусціць судна на ваду. Але ці пратрымаецца востраў столькі часу?

Пенкроф і Сайрус Сміт хацелі спусціць шхуну на ваду, як толькі яе корпус будзе ў асноўным закончаны. Палубу, аснастку і ўсё іншае можна будзе зрабіць ужо на вадзе. Таму каланісты вельмі стараліся закончыць абшыўку бартоў.

Гэтая работа заняла час да 3 сакавіка. Цяпер Пенкроф лічыў, што не пазней, як праз дзесяць дзён, можна будзе спусціць шхуну.

Надзея па-троху ажывала ў сэрцах каланістаў, на долю якіх у гэты чацвёрты год жыцця на востраве прыпала столькі няшчасцяў. Нават Пенкроф, які ўвесь час хадзіў панурым бачачы пагібель свайго любімага вострава, нават Пенкроф нібы павесялеў. Праўда, гэта тлумачылася тым, што ён думаў цяпер выключна пра шхуну.

— Мы паспеем скончыць пабудову,—казаў ён інжынеру.—Паспеем, вы ўбачыце! І гэта будзе якраз да часу! Бо ўжо надыходзіць восень—праз некалькі дзён настане асенняе роўнадзёнства. Калі будзе патрэбна, мы зможам перазімаваць на востраве Табор. На Таборы пасля Лінкольна!.. Ах, я няшчасны! Хто-б мог падумаць, што здарыцца такое гора!

— Трэба спяшацца!—нязменна адказваў у такіх выпадках інжынер.

І каланісты працавалі, працавалі, не трацячы ні секунды часу.

— Містэр Сміт,—звярнуўся аднойчы Наб да інжынера,— як вы думаеце, ці здарылася-б усё гэта, калі-б капітан Немо быў жывы?

— Так, Наб,—адказаў інжынер.

— Не веру,—шапнуў Пенкроф на вуха Набу.

— І я таксама,—адказаў той таксама шэптам.

На працягу першага тыдня сакавіка знадворны выгляд гары Франкліна стаў пагрозным. Тысячы тонкіх струменьчыкаў лавы, падобных на шкляныя ніткі, як дождж, цяклі па яе спаду. Кратэр няспынна вывяргаў усё новыя і новыя патокі лавы, якія, расцякаючыся па ўжо зацвярдзелых старых пластах, дакончвалі разбурэнне вострава. Адзін з патокаў лавы, сцякаючы ўздоўж паўднёва-заходняга берагу возера Гранта, заліў пласкагор'е Далёкага віду.

Гэты апошні ўдар стыхіі быў самым цяжкім для каланістаў: ад млына, канюшні, птушніка не асталося і следу. Перапалоханыя насельнікі апошняга разляцеліся хто куды. Топ і Юп выяўлялі адзнакі вялікага неспакою. Інстынкт папярэджваў іх пра катастрофу, якая насоўвалася.

Большасць жывёлы вострава загінула ад першага вывяржэння: тая, што асталася жывою, часткова знайшла прыстанішча ў балотах Казаркі, часткова на пласкагор'і Далёкага віду. Але хутка вогненная рака пералілася цераз гранітны бар'ер і запоўніла і гэтае пласкагор'е. Змрочную прыгажосць гэтага відовішча нельга апісаць. Ноччу здавалася, што на пласкагор'е рынулася вогненная Ніягара.

Апошняму прытулку каланістаў пагражала бяда. Хоць верхнія швы корпуса шхуны не былі праканапачаны, інжынер вырашыў спусціць яе на ваду.

Пенкроф і Айртон пачалі рыхтаваць каткі для спуску, прызначанага наступнай раніцой, 9 сакавіка.

Але ў ноч з 8 на 9 сакавіка вялізны слуп дыму вырваўся з кратэра і з страшэнным грукатам шугануў на вышыню трох тысяч футаў.

Як відаць, сцяна пячоры Дакара падалася пад націскам газаў, і марская вада, якая рынулася ў жэрала вулкана, адразу ператварылася ў пару...

Выбух, які павінен быў быць чутны за сотню міль ад вострава, скалануў паветра.

Абломкі гары ўзляцелі ў неба, і на працягу некалькіх хвілін акіян заліў месца, дзе раней знаходзіўся востраў Лінкольна.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

*Самотная скала ў Ціхім акіяне.—Апошняе прыстанішча каланістаў вострава Лінкольна.—Немінучая смерць у перспектыве.—Апошняя добрадзейнасць.—Востраў на кантыненце.—Помнік капітану Немо.*

Самотная скала даўжынёю на трыццаць футаў, шырынёю на пятнаццаць, якая ўзнімалася над вадою ледзь на дзесяць футаў,—вось усё, што асталося ад вострава Лінкольна... На

гэтай скале знайшлі апошнія прыстанішча шэсць каланістаў і іх надзейны Топ.

Усе птушкі вострава, уся жывёла, якая была на ім, а таксама і небарака Юп, загінулі, раздушаныя абвалам гары, пахаваныя ў расколіне зямлі або паглынутыя акіянскімі хвалямі, якія рынуліся на востраў.

Сайрус Сміт, Гедэон Спілет, Герберт, Пенкроф, Наб і Айртон асталіся цэлыя толькі дзякуючы таму, што ў часе катастрофы яны былі на беразе і іх падхапіла хваля, у той час, калі з неба дажджом падалі асколкі ўзарванага вострава.

Яны вынырнулі на паверхню акіяна за поўкабельтова ад гэтай скалы і, падплыўшы да яе праз сілу, вылезлі з вады.

На гэтай голай скале яны жылі ўжо дзесяць дзён! Мізэрныя запасы яды, якія выпадкова былі ў іх кішэнях у час катастрофы, некалькі кропель прэснай вады, ад дажджу, у яміне скалы,—вось усё, што мелі няшчасныя.

Іх апошняя надзея—карабль—загінула. У іх не было ніякай магчымасці пакінуць гэтую скалу. Не было ні агню, ні дроў, каб раскласці яго...

У гэты дзень, 18 сакавіка, запасаў яды ў іх асталося толькі на сорак восем гадзін, не гледзячы на тое, што яны падзялілі яе на мікраскапічныя порцыі. Ні веды, ні вынаходлівасць, ні энергія, ні старанне не маглі дапамагчы ім у іх становішчы.

Сайрус Сміт быў спакойны. Гедэон Спілет нерваваўся, а Пенкроф, увесь апанаваны захаваным гневам, крочыў па скале туды-сюды. Герберт не адыходзіў ад інжынера і пазіраў на яго так, нібы чакаў ад яго дапамогі, якой той не мог аказаць. Наб і Айртон ціха скарыліся перад лёсам.

— Вось бяда!—часта паўтараў Пенкроф.—Калі-б у нас была хоць якая шкарлупіна, мы дабраліся-б да вострава Табор! Але ў нас няма нічога! Нічога!

— Капітан Немо ў час памёр,—заўважыў неяк Наб.

На працягу наступных пяці дзён няшчасныя жывіліся мізэрнымі рэшткамі яды, з'ядаючы столькі, колькі патрэбна было, каб не памерці з голаду. Герберт і Наб некалькі разоў пачыналі брэдзіць. Усе страшэнна зняслілелі. Ці мог быць у гэтых людзей хоць цень надзеі? Не! На што яны маглі разлічваць? Што міма скалы пройдзе карабль. Але яны з вопыту ведалі, што караблі не наведваюць гэты глухі куток акіяна. Ці маглі яны спадзявацца, што па самаму шчасліваму з шчаслівых збегу акалічнасцей яхта Гленарвана іменна зараз прыдзе па Айртона на востраў Табор? Гэта было малаверагодна. Але нават калі-б гэта і здарылася, дык, не ве-

даючы пра тое, што сталася з Айртонам, капітан яхты, абшукаўшы востраў, паверне назад і павядзе судна да больш нізкіх шыротаў... Не, гэтыя людзі не мелі ніякай надзеі ўнікнуць жахлівай смерці ад голаду і смагі на голай скале!

Яны ляжалі ўжо нерухома, не ўсведамляючы таго, што робіцца навакол. Адзін Айртон яшчэ час ад часу намагаў усю сілу, каб падняць галаву і агледзець пустэльнае мора.

Але вось 24 сакавіка раніцою рука Айртона выцягнулася ў кірунку нейкай кропкі на гарызонце. Ён прыўзняўся, стаў спярша на калені, потым устаў. Ён быццам нават замахаў рукою.

Карабль быў бачны... Ён трымаў курс проста на адзінотную скалу ў акіяне, ідучы з максімальнай хуткасцю. Няшчасныя маглі-б ужо даўно заўважыць яго, калі-б у іх ставала сілы глядзець на гарызонт.

«Д у н к а н»!—прашаптаў Айртон і ўпаў непрытомны.

Калі Сайрус Сміт і яго таварышы ачнулі, яны ўбачылі сябе ў каюце карабля, не разумеючы, якім чынам яны выраваліся ад смерці.

Але адно слова Айртона адразу растлумачыла ім усё.

— Гэта «Д у н к а н»,—прашаптаў ён.

— «Д у н к а н»!—паўтарыў Сайрус Сміт

Гэта быў сапраўды «Д у н к а н», яхта Гленарвана, якая пад камандай капітана Роберта Гранта накіравалася на востраў Табор, каб забраць Айртона, пакаранага дванаццацю гадамі выгнання за свае мінулыя злачынствы. Каланісты былі выратаваны і варочаліся цяпер на радзіму.

— Капітан Роберт,—сказаў Сайрус Сміт,—што вас навяло на думку шукаць Айртона за сотню міль на паўночным захадзе, калі вы не знайшлі яго на востраве Табор?

— Але-ж я прыехаў сюды не толькі па Айртона, але і па ўсіх вас,—адказаў малады капітан.

— Як па ўсіх нас?

— Вядома! На востраў Лінкольна!

— На востраў Лінкольна?..—у адзін голас ускліннулі бязмежна здзіўленыя каланісты.

— Але адкуль вы ведалі пра існаванне вострава Лінкольна, які не адзначаны ні на воднай карце і назву якога мы самі прыдумалі?—запытаў інжынер.

— Я даведаўся пра гэта з запіскі, якую вы пакінулі ў хаціне Айртона на востраве Табор,—адказаў капітан Роберт.

— З нашай запіскі?!—закрычаў Сайрус Сміт.

— Вядома. Вось яна,—адказаў Роберт Грант, падаючы інжынеру запіску, у якой былі паказаны каардынаты

«в о с т р а в а Л і н к о л ь н а, я к і д а ў п р ы т у л а к А й р т о н у і п я ц і п а ц я р п е ў ш ы м к р у ш э н н е а м е р ы к а н ц а м».

— Капітан Немо!—сказаў Сайрус Сміт, які пазнаў у почырку, якім была напісана запіска, руку заступніка калоніі.

— Ах,—усклікнуў Пенкроф.—Значыць гэта ён браў нашага «Ш ч а с л і в а г а» і адзін накіраваўся на ім да вострава Табор!..

— Каб пакінуць гэтую запіску!—падхапіў Герберт.

— Значыць, мая была праўда, калі я казаў вам, што і пасля смерці капітан Немо будзе рабіць для нас паслугі!—крыкнуў марак.

Каланісты знялі шапкі. Гэтая апошняя добрачыннасць іх памершага заступніка ўсхвалявала іх да глыбіні душы. Нават у спакойнага Сайруса Сміта паказаліся слёзы на вачах.

У гэтую хвіліну Айртон, падышоўшы да інжынера, проста запытаў:

— Куды паставіць гэты куфэрак?

І ён падаў Сайрусу Сміту куфэрак з каштоўнасцямі, падарунак капітана Немо, які ён выратаваў, рызыкуючы жыццём.

— Айртон!—адно, што мог, праказаў расчулены Сайрус Сміт. І, звяртаючыся да капітана Гранта, ён сказаў:

— Капітан, вы пакінулі на востраве злачынцу, а, вярнуўшыся, знаходзіце чалавека, паціснуць руку якога я лічу сабе за гонар.

Роберту Гранту расказалі дзіўную гісторыю капітана Немо і каланістаў вострава Лінкольна.

Адзначыўшы на карце месцазнаходжанне ўцалелай пасля гібелі вострава скалы, малады капітан даў загад рушыць у зваротны шлях.

Праз пятнаццаць дзён каланісты высадзіліся ў Амерыцы, у якой даўно ўжо ўсе забыліся пра вайну, у якой перамаглі праціўнікі рабства.

Багацці, якія знаходзіліся ў падораным каланістам куфэрку, былі скарыстаны на куплю вялізнага ўчастка зямлі ў штаце Айова.

Там, на гэтым участку, каланісты пасялілі ўсіх тых, каго яны збіраліся запрасіць на востраў Лінкольна: сабраўшы абяздоленых і няшчасных, яны арганізавалі вялікую сельскагаспадарчую калонію, якой было дана імя Лінкольна.

Рака, якая цякла па ўчастку, была названа ракою Падзякі, гара—гарою Франкліна, маленькае возера—возерам Гранта, лясок—лесам Далёкага захада. Кажучы коратка, гэта быў

той-жа востраў Лінкольна, але не сярод акіяна, а сярод амерыканскага мацерыка.

Пад умелым кіраўніцтвам інжынера і яго таварышоў калонія квітнела. Каланісты вострава Лінкольна не разлучаліся—яны далі адзін аднаму клятву заўсёды жыць разам. Наб і Айртон паранейшаму гатовы былі афяраваць сябе дзеля сяброў. Пенкроф зрабіўся такім-жа заядлым земляробам, якім быў раней мараком. Герберт закончыў сваю адукацыю пад кіраўніцтвам Сайруса Сміта. Гедэон Спілет пачаў выдаваць газету «Лінкольнскі веснік»—самую асвядомленую на ўсім свеце.

Былых каланістаў не аднойчы наведвалі Эдуард і Елена Гленарван, капітан Джон Мангльс і яго жонка—сястра Роберта Гранта, сам Роберт Грант, маёр Мак-Набс і іншыя людзі, якіх лёс злучыў з двума капітанамі—Грантам і Немо.

Каланісты жылі цяпер у дастатку і спакоі, таксама дружна, як і на востраве Лінкольна. Але яны ніколі не забываліся пра гэты востраў, які, карміў і паіў іх на працягу чатырох год, востраў, ад якога цяпер асталася толькі адна гранітная скала, якая ўзвышаецца над акіянам як помнік таму, хто называў сябе капітанам Немо.

---

## Памылкі друку

| Стар. | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 3 | 1 зн ізу | паўночна-заходні | паўночна-усходні |
| 7 | 6 „ | прапановы | прапанова |
| 7 | 7 „ | Нвгр | Негр |
| 32 | 16 „ | сакавік | сакавіка |
| 80 | 1 зверху | Смі | Сміт |
| 130 | 8 „ | а аднаго | з аднаго |
| 165 | 14 „ | востраыа | вострава |
| 229 | 16 „ | Граніты | Гранітны |
| 262 | 3 знізу | 34° 57° | 34° 57′ |
| 262 | 4 „ | 150° 30° | 150° 30′ |
| 345 | 1 „ | руціўся | круціўся |
| 361 | 4 „ | з заміранне | з заміраннем |
| 391 | 3 зверху | нас | у нас |
| 446 | 11 „ | Сайрут | Сайрус |
| 457 | 8 знізу | Знойдзеын | Знойдзены |
| 487 | 18 „ | абдувалі | адбудавалі |
| 498 | 10 „ | рабілася | рабіліся |
| 548 | 5 „ | Апошкяя | Апошняя |

Зак. 1880.